


Беларускі інстытут навукі й мастацтва




Бібліятэка Бацькаўшчыны

Міжнароднае грамадскае аб'яднанне
«Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына»

Кніга 23

НАТАЛЛЯ ГАРДЗІЕНКА, ЛЯВОН ЮРЭВІЧ

# РАДА БНР 1970–1982

## ПАДЗЕІ І ДАКУМЕНТЫ

Мінск
«Кнігазбор»
2014

УДК 329(476)“1970/1982”(093.2)
ББК 66.68(4Беи)
Г20

*Серыя «Бібліятэка Бацькаўшчыны» заснавана МГА «ЗБС “Бацькаўшчына”»
ў 2004 годзе*

Рэцэнзент
Юры Грыбоўскі,
*доктар гістарычных навук*

Кніга выдаецца сумесна з Беларускім інстытутам навукі і мастацтва
(Нью-Ёрк, ЗША).

**Гардзіенка, Н.**

Г20 Рада БНР (1970–1982) : Падзеі і дакументы / Наталля Гардзіенка, Лявон Юрэвіч. — Мінск : Кнігазбор, 2014. — 300 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны ; кн. 23).

ISBN 978-985-7119-10-3.

Кніга «Рада БНР (1970–1982): Падзеі і дакументы» (23-я ў серыі «Бібліятэка Бацькаўшчыны») прысвечана беларускаму дзяржаўнаму прадстаўніцтву ў выгнанні часоў кіравання Вінцэнта Жук-Грышкевіча (1903–1988). Гэта храналагічны і зместавы працяг папярэдняга выдання «Рада БНР (1947–1970): Падзеі. Дакументы. Асобы» (Мінск, 2013). У кнізе пададзены пратаколы і дакументы з дзейнасці Рады БНР 1970 — пачатку 1980-х гг., ліставанне найбольш значных дзеячаў, бібліяграфія, хроніка. Гістарычны нарыс адлюстроўвае асноўныя кірункі і праблемы дзейнасці беларускага дзяржаўнага прадстаўніцтва на эміграцыі.

**УДК 329(476)“1970/1982”(093.2)**
**ББК 66.68(4Беи)**

**ISBN 978-985-7119-10-3**

# ПРАДМОВА

Для пераважнай большасці архівы — гэта паўзмрочныя скляпенні, дзе пад пылам і павуціннем захоўваюцца маўклівыя сведкі мінуўшчыны ў чаканні гісторыка, які выцягне адтуль дакументы і надасць ім сэнс.

Але роля архіваў значна большая, чым проста пасіўнага захавальніка.

У архіва ёсць тры асноўныя функцыі: адбор, захаванне дакументаў і забеспячэнне доступу карыстальнікам.

Праблемы паўстаюць ужо з першай, здавалася б, найпрасцейшай функцыяй. Як вызначыць, што вартае захавання, а што — пры абмежаванай плошчы любога архіва ў свеце — можна адкінуць? Тым больш што відавочна: для дзеячаў Рады БНР у 1950-я гг. і для ўкладальнікаў архіва сёння прыярытэты ў гэтым розныя. Тут жа ёсць і такая небяспека: адкінуты дакумент нібы знікае не толькі фізічна, як папера, але і як частка, вялікая ці малая, гісторыі. З адыходам сведак існавання дакумента ці здрадаю памяці гісторык новага часу будзе будаваць сваю канцэпцыю без уліку гэтага сведчання, а значыць міжвольна маляваць скажоную карціну.

Другая функцыя — захаванне дакументаў — не выклікала б патрэбы асобнай гаворкі, калі б — а мы гаворым пра Раду БНР — архівы захоўваліся ці захаваліся б. Паколькі з розных прычынаў такога не адбылося, аднаўленне архіва адбываецца на старонках гэтай кнігі і яе папярэдніцы[1].

Трэцяя функцыя — забеспячэнне доступу карыстальнікам. Не сакрэт, што ў БССР, дый сёння ў Беларусі, доступ да некаторых дакументальных сведчанняў спецыялістам, не кажучы ўжо пра звычайных аматараў, зачынены. Спадзяемся, што беззваротна мінулі часы, калі дакументы нішчыліся. Але і цяпер маніпуляваць з памяццю, калектыўнай ці асабістай, даволі проста: дастаткова не даць доступу да архіўных збораў. Нездарма Дэрыда неяк сказаў: *«There is no political power without control over the archive, if not of memory» («Немагчымая палітычная ўлада без кантролю над архівам, калі не над памяццю»)*[2].

---

[1] Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР (1947–1970): Падзеі. Дакументы. Асобы. Мінск, 2013. 648 с.

[2] Derrida, Jacques. Archive Fever. A Freudian Impression // Diacritics. 1995. № 25–2. P. 11.

Усведамляючы ўсё сказанае, аўтары «Рады БНР» бачаць сваю задачу, па-першае, у зборы па магчымасці ўсіх дакументаў, датычных яе гісторыі, а па-другое, у тым, каб даць доступ як чытачам, так і наступным даследчыкам да максімальнай колькасці матэрыялаў, якімі б контраверсійнымі яны ні маглі падацца.

Кніга «Рада БНР 1947–1970: Падзеі. Дакументы. Асобы» стала першай спробай рэалізацыі адзначанай задачы. Атрымалася не ўсё задуманае. Былі дапушчаныя некаторыя фактычныя памылкі ці недакладнасці ў біяграмах Янкі Філістовіча, Міколы Шкялёнка, Наталлі Арсенневай. Прыкрая недарэчнасць адбылася з фотаздымкам Кастуся Мерляка, калі імя гэтага дзеяча было пазначанае пад выявай іншага беларуса з Аргенціны. Мы прымаем гэтыя заўвагі і дзякуем Сяргею Яршу, Юрыю Грыбоўскаму, Тамашу Блашчаку — аўтарам рэцэнзій.

Разам з тым ёсць патрэба адказаць і на некаторыя неправамоцныя закіды. Так, сябра Рады БНР Мікола Пачкаеў у водгуку на кнігу адзначыў, што *«сучасная Рада БНР, як і Рада пры М. Абрамчыку, ніколі ня ставіла сабе задачаў самамэмарыялізацыі, таксама бо не разглядаючы сябе ў якасьці, найперш, “гісторыі”»*[3]. Аднак гэтае сцверджанне не адпавядае рэчаіснасці: яшчэ ў 1967 г. Прэзідыумам Рады было прынятае рашэнне выдаць кнігу, прысвечаную 50-м угодкам БНР. Тады Вінцэнт Жук-Грышкевіч пісаў: «*Сталася недапушчальная справа: яшчэ ў сакавіку надрукавалі рэкляму пра кнігу аб БНР, а як прыйшлося да справы, дык аказалася, што няма каму нават напісаць кароткай інфармацыйнай брашуры. Гэта выглядае на звычайнае ашуканства грамадзтва й можа мець неаблічальныя кансэквэнцыі для ўсіх, як “палітыкаў”, так “непалітыкаў” і навукоўцаў. Бо й сапраўды, што варта наша ўся дзейнасьць і пісаніна, калі мы не выконваем сваіх забавязаньняў, калі мы няздольныя сказаць сьвету праўду пра БНР нават на 50-гадовы юбілей яе?*»[4]. Кніга так і не з’явілася, убачыла свет толькі невялікая брашура самога Вінцэнта Жук-Грышкевіча «БНР ці БССР». Аднак думка пра неабходнасць напісання і выдання гісторыі Рады агучвалася яе сябрамі з настойлівай рэгулярнасцю. Змешчаныя ўжо у новай кнізе пратаколы пасяджэнняў Прэзідыума і Сакратарыята, а таксама сесій Рады БНР гэта пацвярджаюць. Так

[3] Пачкаеў, Мікола. Рэцэнзія на кнігу Л. Юрэвіча і Н. Гардзіенкі «Рада БНР (1947–1970): Падзеі. Дакументы. Асобы». Змешчана на сайце Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына»: http://zbsb.org/node/8667.

[4] Ліст В. Жук-Грышкевіча да В. Тумаша, С. Станкевіча і Я. Запрудніка ад 30.11.1967, апублікаваны ў: Да 110-годзьдзя Вінцэнта Жук-Грышкевіча (з архіўных тэчак БІНіМу) // Запісы БІНіМ. № 36. Нью-Ёрк; Менск, 2013. С. 463–464.

што Мікола Пачкаеў не мае рацыі: задачу «самамэмарыялізацыі» Рада БНР сабе ставіла, але яна так і не была вырашаная з розных прычын.

Можна цалкам пагадзіцца з тым самым Міколам Пачкаевым, што *«гісторыю беларускай дзяржаўнай установы на выгнаньні павінны пісаць найлепш незалежныя прафэсійныя гісторыкі, чые публікацыі будуць успрымацца грамадзкасьцю і навуковай супольнасьці з большым даверам, чым якія-колечы афіцыйныя выданьні з боку самога прадмету такога гістарычнага разгляду»*[5]. Аднак дысанансам гэтаму гучыць водгук на выхад папярэдняй кнігі сябры Прэзідыума Рады БНР і кіраўніцы яе архіва Ганны Сурмач: *«Сам па сабе факт ізаляцыі ад сучаснай Рады БНР гаворыць пра тое, што якраз аўтары выдаюць сваю наўпроставую заангажаванасьць у палітычныя падзеі на эміграцыі, яны выбралі па сваёй арыентацыі, з кім кантактаваць пры падрыхтоўцы кнігі, адсутнасьць кантактаў пры напісаньні кнігі з "галоўнай гераіняй — Радай БНР" гаворыць ужо сама па сабе пра недастатковую аб'ектыўнасьць падыходаў аўтараў да тэмы выданьня»*[6]. Выглядае, унутры сучаснай Рады БНР няма адзінага разумення магчымасцяў напісання яе гісторыі. З увагі на статус установы, якая функцыянуе ў дэмакратычным грамадстве, тым больш незразумелая думка, нібыта без узгаднення з Радай БНР немагчыма пісаць пра яе аб'ектыўна.

Тым не менш аўтары ўжо гэтай кнігі ўлічылі выказаныя заўвагі і адмыслова паведамілі кіраўніцтву Рады БНР пра збіранне матэрыялаў для выдання працягу гісторыі ды запрасілі да супрацоўніцтва. Аднак ніякай ініцыятывы па дапамозе дакументамі ці сведчаннямі выяўлена не было. Таму новы том, гэтаксама як і папярэдні, складаецца з дакументаў, сабраных аўтарамі самастойна.

Што праўда, дзейнасць Рады БНР пры Вінцэнце Жук-Грышкевічу значна лепш задакументаваная. Раіса Жук-Грышкевіч паклапацілася адносна захавання памяці пра мужа, не толькі выдаўшы вялікую кнігу, дзе сярод іншага публікаваліся і дакументы Рады часоў ягонага старшынёўства, але і разаслаўшы копіі розных пратаколаў і дакументаў у некалькі найважнейшых архіўных сховішчаў, у тым ліку ў БІНіМ і Скарынаўку. Да таго ж пратаколы сваіх сесій у 1970–1982 гг. адмыслова публікавала і сама Рада, што зрабіла справу іх збірання прасцейшай як для папярэдняй кнігі.

---

[5] Пачкаеў, Мікола. Рэцэнзія на кнігу Л. Юрэвіча і Н. Гардзіенкі «Рада БНР (1947–1970): Падзеі. Дакументы. Асобы».

[6] Водгук быў змешчаны ў выглядзе каментара да паведамлення пра выданне кнігі на сайце Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына»: http://zbsb.org/node/8640.

Другі том гісторыі Рады БНР збольшага паўтарае структуру першага, хоць і мае свае адметнасці.

У якасці дадатковых матэрыялаў для каментавання і напісання гістарычнага нарыса выкарыстоўваліся апублікаваныя матэрыялы «Камунікатаў Прэзідыюму й Сакратарыяту Рады Беларускай Народнай Рэспублікі», кніга Раісы Жук-Грышкевіч «Жыцьцё Вінцэнта Жук-Грышкевіча» (Таронта, 1993), некаторыя мемуарныя сведчанні, а таксама ліставанне з архіваў БІНіМа, Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва, куды перададзеная частка дакументаў БІНІМа, Беларускай бібліятэкі імя Ф. Скарыны ў Лондане, фонду Раісы Жук-Грышкевіч у Бібліятэцы і архіве Канады (*Library and Archives of Canada*) у Атаве, а таксама прыватных архіваў Тамары Стагановіч і Янкі Запрудніка, які быў адным з найбольш дзейных радных у 1970–1982 гг. і адказным за дакументацыю.

Аўтары выказваюць падзяку за дапамогу ў падрыхтоўцы кнігі Вітаўту Кіпелю і Янку Запрудніку, а таксама Згуртаванню беларусаў свету «Бацькаўшчына» за ажыццяўленне выдання.

## *Раздзел I*
# РАДА БНР ВІНЦЭНТА ЖУК-ГРЫШКЕВІЧА
*Гістарычны нарыс*

## НОВЫ СТАРШЫНЯ

Як і ў папярэдні перыяд дзейнасці Рады БНР на эміграцыі, вялікую ці нават вызначальную ролю ў характары яе актыўнасці адыграла асоба кіраўніка. Улічваючы наяўнасць кнігі Раісы Жук-Грышкевіч, прысвечанай жыццю мужа, тут мы спынімся толькі на найбольш важных, на наш погляд, момантах біяграфіі дзеяча, якія ў той ці іншай ступені паўплывалі на яго старшынёўства ў Радзе.

Вінцэнт Жук-Грышкевіч нарадзіўся 10 лютага 1903 г. у мястэчку Будслаў (сёння Мядзельскі раён Мінскай вобласці) і вучыўся ў мясцовай гімназіі, пакуль у 1920 г. не паступіў у Віленскую беларускую гімназію. Сярод тагачасных гімназістаў былі і будучыя паваенныя эмігранты-бээнэраўцы, як той жа Эдвард Будзька (які быў яшчэ і земляком Жук-Грышкевіча). У віленскі перыяд маладзён заангажаваўся ў палітычнай дзейнасці, працуючы выбарчым інструктарам у Беларускім выбарчым камітэце[7].

У 1922 г. малады чалавек з БНРаўскім пашпартам паступіў на факультэт гісторыі і славянскай філалогіі Карлавага ўніверсітэта. Годам раней у чэшскую сталіцу з Вільні прыехалі вучыцца Янка Станкевіч, Ігнат Дварчанін, Адольф Клімовіч, разам з Вінцэнтам Жук-Грышкевічам прыбыў Янка Геніюш, годам пазней — Мікола Гарошка, Аляксандр і Пётра Орсы, Наталля Сазановіч (у замустве Орса), Лявон Рыдлеўскі, Мікола Ілляшэвіч, Уладзімір Жылка, Людміла Краскоўская і іншыя, а галоўнае — Мікола Абрамчык. Як бачым, знаёмства двух будучых кіраўнікоў Рады пачалося яшчэ з віленска-пражскіх часоў. Цікава, што абодва нейкі час былі ў Чэхаславаччыне ў адным туберкулёзным санаторыі[8].

Ад пражскіх часоў паходзіць і бліжэйшае знаёмства з дзеячамі БНР, якія (Прэзідыум і Урад) у 1923 г. пераехалі з Коўна ў Прагу. Вінцэнт Жук-Грышкевіч згадваў пра гутаркі з беларускімі студэнтамі, што вёў Пётра Крэчэўскі[9].

---

[7] Гл.: Жук-Грышкевіч, Раіса. Жыцьцё Вінцэнта Жук-Грышкевіча. Торонто, 1993. С. 13–31.

[8] Гл.: Жук-Грышкевіч, Раіса. Жыцьцё Вінцэнта Жук-Грышкевіча. С. 46.

[9] Гл.: Жук-Грышкевіч, Раіса. Жыцьцё Вінцэнта Жук-Грышкевіча. С. 45.

Па атрыманні дыплома настаўніка малады чалавек вярнуўся ў Вільню, дзе ад 1927 г. працаваў у той самай Віленскай беларускай гімназіі выкладчыкам гісторыі, беларускай мовы і літаратуры. Акрамя таго, ён актыўна ўключыўся ў грамадскае жыццё, сваім настаўнікам у якім называў Антона Луцкевіча. Вінцэнт Жук-Грышкевіч быў сябрам Беларускага навуковага таварыства ў Вільні, Беларускага вучыцельскага саюза, Таварыства беларускай школы, супрацоўнічаў з рознымі беларускімі часопісамі. Тут дзеяч першы раз ажаніўся. Жонкай была Ксенія Лапіцкая (сястра будучага вядомага эміграцыйнага святара Мікалая Лапіцкага). У маладых нарадзілася дачка Рагнеда, яе хроснымі бацькамі былі Эдвард Будзька ды Радаслаў Астроўскі[10].

Прага і Вільня далучылі Вінцэнта Жук-Грышкевіча да беларускага грамадскага жыцця, далі неабходную прафесійную і грамадскую асвету ды досвед, а галоўнае, пазнаёмілі як з заслужанымі беларускімі дзеячамі, гэтак і з шмат якімі будучымі калегамі па пасляваеннай Радзе БНР.

Новы жыццёвы этап пачаўся ў 1939 г. Неўзабаве пасля прыходу Саветаў у Вільню, ужо 30 верасня таго году, Вінцэнт Жук-Грышкевіч быў арыштаваны НКУС, асуджаны і ў 1940 г. адпраўлены ў зняволенне ў напрамку Варкуты. Пасля цяжкай працы ў лагерах дзеяч у 1942 г. трапіў у Армію Андэрса, дзе служыў да 1949 г. Быў у Іраку, Егіпце, Італіі[11]. У Модэне ў 1945 г. ён пачаў працаваць настаўнікам у польскай гімназіі і гуртаваць жаўнераў-беларусаў. Менавіта тут дзеяч пазнаёміўся з маладымі суродзічамі, што потым склалі актыў Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі[12]. У гэты ж час Вінцэнт Жук-Грышкевіч наладзіў ліставанне з Міколам Абрамчыкам, якое бадай не перапынялася да самай смерці апошняга[13].

У 1946 г. разам з іншымі жаўнерамі Арміі Андэрса Вінцэнт Жук-Грышкевіч апынуўся на Брытанскіх выспах, дзе стаў адным з заснавальнікаў і першым старшынёй Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі (ЗБВБ). Пры ім быў набыты Беларускі дом у Лондане, а сама арганізацыя была афіцыйна зарэгістраваная брытанскімі ўладамі[14]. У гэты ж час фарміруецца новае вялікае кола кантактаў дзеяча, звязанае з брытанскімі, а таксама з іншымі еўрапейскімі (і не толькі) беларускімі асяродкамі, куды з часам выязджалі беларусы з польскага войска. Спрацавалі і пражскія сувязі: Вінцэнт Жук-Грышкевіч шчыра падтрымаў Міколу Абрамчыка ў аднаўленні дзейнасці Рады БНР і стаў адным з найбольш надзейных паплечнікаў прэзідэнта.

---

[10] Гл.: Жук-Грышкевіч, Раіса. Жыцьцё Вінцэнта Жук-Грышкевіча. С. 52–53.

[11] Гл.: Жук-Грышкевіч, Раіса. Жыцьцё Вінцэнта Жук-Грышкевіча. С. 69–74.

[12] У фондзе Раісы Жук-Грышкевіч у атаўскім архіве захаваўся польскамоўны дзённік Вінцэнта Жук-Грышкевіча з часоў службы ў польскім войску. Гэты дакумент яшчэ чакае свайго даследчыка.

[13] Лісты Міколы Абрамчыка да Вінцэнта Жук-Грышкевіча гэтаксама можна знайсці ў фондзе Раісы Жук-Грышкевіч у атаўскім архіве.

[14] Гл.: Гардзіенка, Наталля. Беларусы ў Вялікабрытаніі. Мінск, 2010. С. 76–114.

У 1950 г. Вінцэнт Жук-Грышкевіч перабраўся у Канаду, дзе адразу далучыўся да грамадскага жыцця. Тут ён стаў удзельнікам Згуртавання беларусаў Канады, ініцыяваў заснаванне новай палітычнай прабээнэраўскай структуры «Авангард Беларусі», Касы ўзаемадапамогі пры ЗБК, а таксама беларусаведных лекцый ва ўніверсітэце Таронта, перад тым абараніў дысертацыю, прысвечаную Янку Купалу. У Канадзе ж ён знайшоў новую спадарожніцу жыцця — Раісу Жукоўскую (першая жонка засталася на савецкім баку), і гэтая жанчына на доўгія гады стала адданай спадарожніцай, памочніцай, сакратаркай[15].

Цесныя сяброўскія сувязі з Міколам Абрамчыкам адыгралі сваю ролю ў жыцці Вінцэнта Жук-Грышкевіча ў сярэдзіне 1950-х гг., калі намаганнямі прэзідэнта БНР ён стаў першым кіраўніком Беларускай рэдакцыі Радыё «Вызваленне» ў Мюнхене. Гэта быў перыяд станаўлення інстытуцыі і ўмацавання беларускай прысутнасці ў ёй, што даў Вінцэнту Жук-Грышкевічу і чарговы новы досвед, і больш шчыльныя знаёмствы з беларусамі ў кантынентальнай Еўропе, а таксама з рознымі іншанацыянальнымі эміграцыйнымі дзеячамі. Праўда, праца на пасадзе кіраўніка рэдакцыі не была вельмі працяглая — 1954–1956 гг. Пасля ён зноў, разам з жонкай і шмат у чым менавіта дзеля яе (Раісе патрэбная была сталая практыка, бо яна толькі нядаўна атрымала дыплом дантыста ў Таронта), вярнуўся ў Канаду, дзе і пражыў да канца жыцця.

Ад 1956 г. Вінцэнт Жук-Грышкевіч зноў далучыўся да беларускай дзейнасці ў Канадзе. Хоць нельга сказаць, што ён вызначаўся вялікай актыўнасцю. Па-першае, дзеяч меў праблемы са здароўем, што былі вынікам, сярод іншых прычынаў, і цяжкай працы ў лагерах. Па-другое, ён пэўны час спадзяваўся заняцца акадэмічнай працай, навукай[16]. Аднак да сур'ёзнай навуковай дзейнасці так і не дайшло, хоць кантакты ў асяроддзі навукоўцаў ён меў.

У 1966 г. Вінцэнт Жук-Грышкевіч стаў заснавальнікам і першым кіраўніком Каардынацыйнага камітэта беларусаў Канады і зноў заняўся больш актыўнай грамадскай працай[17]. У 1968 г. ініцыяваў своеасаблівае абнаўленне ў Радзе БНР у выглядзе стварэння Лігі БНР і гэтым, магчыма, звярнуў на сябе яшчэ большую ўвагу калег-радных, а таксама даў падставы хвораму Міколу Абрамчыку разглядаць сябе ў якасці пераемніка. Прэзідэнт БНР у апошні свой візіт у ЗША ў 1968 г. раіўся з некаторымі раднымі наконт Вінцэнта Жук-Грышкевіча (тады ён быў віцэ-прэзідэнтам) як магчымага новага старшыні Рады і, відаць, меў адабрэнне, бо атрыманы канадыйскім беларусам мандат на выкананне абавязкаў старшыні на час хваробы прэзідэнта не выклікаў ні ў каго з радных ніякіх пярэчанняў.

---

15 Гл.: Гардзіенка, Н. Прэзідэнт і яго жонка // Наша Ніва [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: http://nn.by/?c=ar&i=76147. — Дата доступу: 01.08.2012.

16 Пра гэта згадваецца ў лістах Юліяны Вітан-Дубейкаўскай. Гл.: Гардзіенка, Н. Юльяна Дубейкаўская ў лістах (1958–1969) // Ісці на святло лабірынтамі даўніх падзей: зборнік памяці Віталя Скалабана. Мінск: Лімарыус, 2013. С. 374–399.

17 Гл.: Жук-Грышкевіч, Раіса. Жыцьцё Вінцэнта Жук-Грышкевіча. С. 303.

Выконваючы абавязкі старшыні Рады БНР Вінцэнт Жук-Грышкевіч ад 1969 г. прыкладаў намаганні для ўпарадкавання дзейнасці гэтай інстытуцыі. Прынамсі больш рэгулярнымі адбываліся пасяджэнні Прэзідыума і Сакратарыята. Ужо ў ліпені 1970 г. убачыў свет першы нумар «Камунікатаў Прэзідыюму й Сакратарыяту Рады Беларускай Народнай Рэспублікі», што аднавілі практыку выданняў Рады, перапыненую цягам васьмі гадоў.

Яшчэ канчаткова не зацверджаны на пасадзе Вінцэнт Жук-Грышкевіч дзейнічаў да траўня 1971 г., калі на 11-й сесіі ён афіцыйна быў абраны на Старшыню Рады БНР. Пры гэтым іншых кандыдатур фактычна не было. Сам Жук-Грышкевіч паспрабаваў прасіць абраць каго больш маладога, але тое не было ўспрынятае прысутнымі дастаткова сур'ёзна[18], і ад 1971 г. Рада БНР ужо афіцыйна мела новага старшыню. Праўда, гэта быў не «тастаментавы» кіраўнік (хоць Статут 1947 г. прадугледжваў менавіта такі шлях перадачы ўлады), і таму для некаторых радных паўстала пытанне легітымнасці Рады. Прыкладам, Станіслаў Станкевіч убачыў у адсутнасці тастамента Міколы Абрамчыка для Вінцэнта Жук-Грышкевіча спыненне пераемнасці традыцыі дзяржаўнасці ад даваеннай Рады БНР да сучаснай. Для яго Рада з увядзеннем выбарнасці старшыні ператваралася ў звычайную эміграцыйную структуру, якая магла рэпрэзентаваць толькі эміграцыйных беларусаў, а не ўсіх разам з метрапольнымі[19]. Умацаванне статусу БНР на эміграцыі мелася стаць адной з задач новага кіраўніка.

Заняўшы пасаду старшыні Рады БНР Вінцэнт Жук-Грышкевіч апынуўся ў асяроддзі радных з таксама даволі салідным стажам грамадскай дзейнасці. Праўда, новы кіраўнік быў адным з найстарэйшых з дзейных радных, асабліва тых, што ўваходзілі ў найвышэйшыя структуры. Маладзейшымі былі і Антон Адамовіч, і Васіль ды Уладзімір Русакі, і Барыс Рагуля, і Віталь Кажан, і Язэп Сажыч, і Вітаўт Тумаш, і Мікола Кунцэвіч, і Антон Шукелойць. На год старэйшы быў хіба Мікола Гарошка. Найбольш дзейным у кіраўніцтве быў, напэўна, саракапяцігадовы Янка Запруднік, праўда, заняты сваёй навуковай працай ды заангажаваны ў розных іншых арганізацыях.

Улічваючы, што актыў Рады БНР традыцыйна складалі найперш амерыканскія, і нават вузей — нью-ёркскія ды нью-джэрсійскія беларусы, з большасцю якіх у новага старшыні раней супольных спраў не было, «канадыец» Вінцэнт Жук-Грышкевіч апынуўся на пазіцыі чалавека «звонку». Здавалася, што часта яму прасцей было кантактаваць з раднымі ў сектарах, чым з калегамі з Прэзідыума.

---

[18] Гл.: Пратакол 11-й Сэсіі Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, што адбылася 29 траўня 1971 г. Тут і далей спасылкі на пратаколы сесій і пасяджэнняў Прэзідыума і Сакратарыята Рады БНР пачынаючы ад верасня 1970 г. зроблены на тэксты, змешчаныя ў адпаведным раздзеле гэтай кнігі.

[19] Ліст С. Станкевіча да А. Стагановіча ад 24.09.1972, змешчаны ў адпаведным раздзеле гэтай кнігі.

Вінцэнта Жук-Грышкевіча ад самага пачатку параўноўвалі з Міколам Абрамчыкам, што цалкам зразумела. Дзеячы былі аднагодкамі, мелі за плячыма ўніверсітэцкую адукацыю і вялікі досвед грамадскай дзейнасці. Пры гэтым паводле стылю працы і характару яны былі мала падобныя адзін да аднаго. Мікола Абрамчык быў спрактыкаваным дыпламатам, з уменнем і жаданнем дзейнічаць самастойна, браць на сябе значную частку працы. Пры гэтым часам ён быў даволі жорсткім у дачыненні да сваіх апанентаў унутры беларускай эміграцыйнай грамады. Палітычная дзейнасць уважалася ім больш важнай за сям'ю, вынікам чаго стала нявырашанасць сямейных маёмасных спраў да канца яго жыцця, а таксама крыўда жонкі Ніны на беларускую грамаду, што належна не ўладкавала жыццёвы побыт свайго прэзідэнта.

Вінцэнт Жук-Грышкевіч адрозніваўся метадычнасцю ў працы, грунтоўным, нават фармалісцкім падыходам. Ён быў прыдатнай фігурай, калі трэба было нешта заснаваць, распачаць, арганізаваць. Так, ён быў пачынальнікам ЗБВБ, Беларускай рэдакцыі Радыё «Вызваленне», Кангрэсавага камітэта беларусаў Канады ды шмат якіх яшчэ больш дробных ініцыятыў. Аднак ён быў больш арыентаваны на калектыўную працу, не жадаў браць усё на сябе; у значна большай ступені, чым папярэднік, ён патрабаваў супрацоўнікаў, памочнікаў, дарадцаў. Вінцэнт Жук-Грышкевіч не быў гатовы ахвяраваць дзеля грамадскай дзейнасці сям'ёй ці здароўем, нягледзячы на тое што таксама нямала працаваў і рабіў. Ён быў прывязаны да жонкі, а ў матэрыяльным плане і залежны ад яе, бо сам не працаваў (атрымоўваў пенсію). Гэта дало нагоду зласліўцам казаць, што Вінцэнт Жук-Грышкевіч і ў грамадскім плане найперш выконвае жаданні жонкі.

Новы старшыня Рады БНР сапраўды быў прынцыпова іншай асобай на гэтай пасадзе. Аднак на перыяд пачатку 1970-х гг. ён выглядаў хіба найбольш прыдатным для такой дзейнасці. Маючы каласальны досвед грамадскай працы, значныя асабістыя сувязі з беларусамі ў розных асяродках на Захадзе, паслядоўны, арганізаваны, з развітым лагічным мысленнем, пры гэтым без неабходнасці працаваць для заробку, Вінцэнт Жук-Грышкевіч стаўся тым чалавекам, які быў патрэбны для наладжвання сістэматычнай працы Рады. Ён не быў харызматычным лідарам, як Мікола Абрамчык, але меў немалыя задаткі менеджара, што для парадкавання даволі хаатычнай у 1960-я гг. дзейнасці Рады БНР было вельмі важным.

Вінцэнт Жук-Грышкевіч атрымаў ад свайго пераемніка складаную спадчыну. Разрыў паміж дзейнасцю кіраўніцтва Рады і раднымі на месцах быў заўважны. Адсутнасць сталых сувязяў, інфармацыйных выданняў, механізмаў планавання і кантролю, фінансавыя праблемы, нерэгулярнасць сесій, бяздзейнасць большасці органаў — тое, на што была звернутая ўвага яшчэ ў апошнія гады жыцця Міколы Абрамчыка і што змяніць той быў ужо няздольны. Новаму старшыні трэба было выбудоўваць амаль што новую структуру, пры гэтым зусім у іншых абставінах, чым рабіў гэта папярэднік. Ад канца 1940-х, калі была аднаўленая Рада БНР, да пачатку 1970-х гг. змянілася і сусветная палітыка, і жыццё саміх эмігрантаў.

# НОВЫЯ ВЫКЛІКІ І МАГЧЫМАСЦІ

## Міжнародная палітыка

Станаўленне пасляваеннай Рады БНР адбывалася ў часы фарміравання новай міжнароднай сітуацыі, стварэння двухпалярнай сістэмы, калі сусветныя лідары — ЗША і СССР — яшчэ толькі фармулявалі свае пазіцыі ў дачыненні адно да другога. На пачатку халоднай вайны былі меркаванні, што яна можа перацячы ў «гарачую», што ў выпадку збройнага змагання Захаду з Савецкім Саюзам першаму спатрэбіцца дапамога «паняволеных» апошнім народаў. Такія ідэі змог выкарыстаць Мікола Абрамчык для наладжвання сталых кантактаў з амерыканскімі палітыкамі, асабліва з Амерыканскім камітэтам вызвалення ад бальшавізму, на гэтай хвалі з'явіліся Радыё «Вызваленне» / «Свабода» і Інстытут вывучэння СССР у Мюнхене, быў створаны Парыжскі блок.

На пачатку 1970-х гг. міжнародная сітуацыя істотна змянілася. У гэты час у кіруючых колах СССР і ЗША з'явілася разуменне неабходнасці стрымаць вастрыню супрацьстаяння, бо пры наяўнасці ядзернай зброі магчымая вайна можа мець непрадказальныя вынікі для ўсіх. Першыя сур'ёзныя крокі па змяншэнні напружання ў дачыненнях Захаду і Усходу былі зробленыя ў Еўропе, калі французскі лідар Шарль дэ Голь не толькі абвясціў пра выхад сваёй краіны з НАТА, але і ў тым самым 1966 г. зрабіў першы афіцыйны візіт у СССР, які паклаў пачатак наладжванню двухбаковага супрацоўніцтва. Да перагляду дачыненняў з «камуністычным монстрам» хутка далучылася і ФРГ, дзе да ўлады прыйшоў Вілі Брант са сваёй славутай «усходняй палітыкай». Вынікам стала падпісанне ў 1971 г. дамовы паміж СССР і ФРГ, якая вызнавала пасляваенныя межы і стварала ўмовы для далейшага супрацоўніцтва[20].

У ЗША новае разуменне міжнароднай сітуацыі сфармуляваў у 1970 г. прэзідэнт Рычард Ніксан, які сцвердзіў пра неабходнасць пры наяўным аб'ёме ядзернай зброі рабіць стаўку не на канфрантацыю, а на перамовы і супрацоўніцтва. Вынікам сталі амерыкана-савецкія дамовы па змяншэнні небяспекі ядзернай вайны, а таксама афіцыйны візіт амерыканскага кіраўніка ў СССР з падпісаннем «Дамовы аб абмежаванні сістэм супрацьракетнай абароны» ды «Часовага пагаднення аб некаторых мерах ў галіне абмежавання стратэгічнай наступальнай зброі (г. зв. «ОСВ-1»)»[21]. Так замацавалася «разрадка» (фр. *detente*) у міжнародных дачыненнях.

Для эміграцыйных арганізацый падсавецкіх народаў новая палітыка вымагала іншых падыходаў да вырашэння ўласных задач. Спадзяванні на магчымы ваенны канфлікт Захаду і СССР адыходзілі ў мінулае, а існаванне

---

[20] Гл.: Наринский, М. М. История международных отношений. 1945–1975. Москва: Российская политическая энциклопедия (РОССПЭН), 2004. С. 194–200.

[21] Гл.: Наринский, М. М. История международных отношений...

на чужыне атрымоўвала значна больш працяглую перспектыву. Трэба было шукаць новыя шляхі, каб зацікавіць сабой заходніх палітыкаў.

Адным са станоўчых для эмігрантаў момантаў было сяброўства БССР у ААН. Паколькі ў 1970-я гг. гэтая міжнародная арганізацыя стала асноўнай арэнай высвятлення адносінаў паміж сусветнымі лідарамі, сяброўства ў ёй беларусаў выклікала адмысловую цікавасць да іх. З боку амерыканскіх палітыкаў гэтая цікавасць прымала розныя формы. Прыкладам, у 1972 г. у Кангрэс ЗША былі пададзеныя для прыняцця дзве практычна супрацьлеглыя рэзалюцыі. Дэпутат Герберт Берк прапаноўваў выключыць БССР (і УССР таксама) з ААН, бо яны відавочна не з'яўляюцца самастойнымі дзяржавамі. Дэпутат Клемент Заблоцкі, наадварот, прапаноўваў ЗША, выкарыстоўваючы афіцыйнае прадстаўніцтва тых самых рэспублік у згаданай міжнароднай арганізацыі, усталяваць з імі наўпроставыя дыпламатычныя адносіны[22]. Ніводная з гэтых рэзалюцый так і не была прынятая, аднак само іх абмеркаванне сведчыць пра наяўнасць увагі да беларускіх спраў у амерыканскіх (і не толькі) палітыкаў. Для Рады БНР гэта стварала магчымасці патрабаваць права ўласнага ўдзелу ў ААН як беларускага прадстаўніка замест марыянеткавага прадстаўніцтва ад БССР.

Яшчэ адным важным момантам палітыкі разрадкі міжнароднага напружання стала актыўная рыторыка абароны правоў чалавека, звязаная з падрыхтоўкай і прыняццем Хельсінкскага пагаднення. У згаданым Заключным акце Нарады па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе, падпісаным 35 краінамі ўлетку 1975 г., асобным раздзелам утрымлівалася і ўзгадненне абавязкаў па пытаннях правоў чалавека ды асноўных свабод, у тым ліку свабоды перасоўванняў, кантактаў, інфармацыі, адукацыі, культуры і г. д. Нягледзячы на тое што СССР быў адным з ініцыятараў тых нарад і заключэння пагаднення, у самой гэтай краіне «Хельсінкскі працэс» справакаваў новую хвалю барацьбы з іншадумствам[23]. Прыцягванне ўвагі сусветнай грамадскасці да гэтага, то бок да парушэння правоў чалавека ў савецкай дзяржаве, стала яшчэ адным магчымым кірункам дзейнасці для эміграцыйных інстытуцый паняволеных народаў.

Складанасць міжнароднай сітуацыі новы старшыня Рады БНР выдатна разумеў. Нездарма ў першым жа нумары «Камунікатаў Прэзыдыюму й Сакратарыяту Рады БНР» ён пісаў, што пераход *«у сыстэму суіснавання заходніх дэмакратычных дзяржаваў з камуністычнымі»* неспрыяльна адбіўся *«на ўсіх вызвольных рухах падсавецкіх народаў і іхніх кіраўніцтваў, у тым ліку і на Радзе БНР. Была страчаная надзея на зварот на бацькаўшчыну. Эміграцыя распакавала свае куфры, асела настала ў краёх свайго расьсяленьня ды пачала больш дбаць пра ўладжаньне свайго асабістага жыцьця й менш пра беларускія нацыянальна-грамадзкія справы. Сыстэма*

---

[22] Гл.: Пытанне БССР у Кангрэсе ЗША // Беларус. № 178. Люты 1972. С. 1.

[23] Гл.: Джонсон, Пол. Современность: Мир с двадцатых по девяностые годы. Ч. 2. Москва, 1995. С. 290.

*суйснавання зьменшыла магчымасьці Рады БНР у вонкавай палітыцы ды паслабіла яе нутраную патэнцыю»*[24].

З слоў новага старшыні Рады БНР вынікала, што міжнародная сітуацыя стварыла неспрыяльныя ўмовы для дзейнасці і ўнутры эміграцыйнай грамады.

## «Залатыя сямідзясятыя» беларускай эміграцыі

Насуперак цверджанням пра негатыўныя вынікі «распакоўвання» эмігрантаў 1970-я гады прадэманстравалі бадай найвялікшую актыўнасць і разнастайнасць формаў рэпрэзентацыі беларусаў у заходнім грамадстве. Марыя Ганько з Канады пісала ва ўспамінах: *«Гэта быў найлепшы час — амаль дарослыя дзеці й мы яшчэ маладыя, у якіх было даволі сілаў, каб і працаваць, і весьці грамадзкую справу»*[25].

Паспрыяла пашырэнню эміграцыйнай грамадска-культурнай працы і палітыка, скіраваная на падтрымку нацыянальных меншасцяў, што праводзілася ў шмат якіх заходніх краінах, асабліва ў Канадзе, Аўстраліі і ЗША. Перавагі наяўнасці розных культур у грамадстве, падтрымка этнічнай разнастайнасці — складовыя часткі шматкультуралізму, які выявіўся ў правядзенні разнастайных фестываляў, выстаў, канцэртаў, у тым ліку і з удзелам беларусаў.

У Канадзе на 1970-я гг. прыпала арганізацыя шматэтнічных фестываляў «Караван», дзе беларусы ладзілі ўласны павільён «Менск», правядзенне навуковых канферэнцый славістаў з удзелам мясцовага БІНіМа[26]. У Аўстраліі ў сярэдзіне 1970-х гг. пачалі адбывацца вялікія Сустрэчы беларусаў Аўстраліі, што збіралі сотні суродзічаў, працаваць беларускія радыёпраграмы ў Мельбурне і Сіднэі[27]. У Вялікабрытаніі гэта быў час паспяховай і прыбытковай дзейнасці Беларускіх клубаў у Манчэстэры і Брадфардзе, ладжання курсаў беларусаведы, канферэнцый, выдання англамоўнага часопіса[28]. Нават у Францыі, дзе колькасць беларусаў была значна меншая, чым у іншых згаданых краінах, на пачатку 1970-х гг. была адноўленая дзейнасць яшчэ даваеннага беларускага «Хаўрусу»[29].

---

[24] Камунікаты Прызыдыюму і Сакратарыяту Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. № 2. Сьнежань 1970. С. 2–3.

[25] Ганько, Марыя. Каб сьведчылі пра Беларусь: Жыцьцё й дзейнасьць Міколы Ганька. Мінск: Беларускі кнігазбор, 2005. С. 85.

[26] Гл.: Жук-Грышкевіч, Раіса. Дзейнасць канадскай дыяспары // Культура беларускага замежжа. Кн. 3. Мінск, 1998. С. 163–180.

[27] Гл.: Гардзіенка, Натальля. Беларусы ў Аўстраліі: Да гісторыі дыяспары. Менск, 2004. С. 87–115.

[28] Гл.: Гардзіенка, Натальля. Беларусы ў Вялікабрытаніі. С. 473–482.

[29] Гл.: Аднаўленне дзейнасці «Хаўрусу» ў Францыі // Беларус. № 162. Кастрычнік 1970. С. 4.

У ЗША ў 1970-я гг. праводзіліся маштабныя беларускія фестывалі ў Нью-Джэрсі, выставы, канферэнцыі, імпрэзы. У гэты час адбываліся ці не самыя значныя паводле колькасці ўдзельнікаў і змесце Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі.

У той жа час палітычныя сілы на Захадзе ўсвядомілі паваенных эмігрантаў у якасці сваіх рэальных выбаршчыкаў, з якімі таксама трэба працаваць. Так, у розных рэгіёнах ЗША з'явіліся беларускія рэспубліканскія клубы, а таксама беларускія структуры пры дэмакратычнай партыі. Яшчэ ад пачатку 1960-х гг. па выніках прыняцця Закону аб паняволеных народах у Кангрэсе ЗША штогод адбываюцца малебны за Беларусь на 25 Сакавіка. У 1970-я гг. у гэты дзень з адмысловымі прамовамі, прысвечанымі беларускай незалежнасці, выступалі дэпутаты Палаты прадстаўнікоў і сенатары, і іх змест публікавалі перыядычныя «Кангрэсавыя запісы»[30]. Беларускія сцягі ўздымаюцца перад будынкамі гарадской адміністрацыі ў Дзень незалежнасці БНР у канадыйскім Таронта, брытанскім Брадфардзе, у розных мястэчках ЗША.

У 1970-я гг. актывізаваліся моладзевыя і ветэранскія беларускія арганізацыі ў розных краінах. Аднавіліся і аб'яднаўчыя памкненні ў эміграцыйных колах, з'явіліся розныя «надпалітычныя» арганізацыі для рэпрэзентацыі ўсіх беларусаў (прыхільнікаў і Рады БНР, і БЦР), як, прыкладам, Федэральная рада беларускіх арганізацый у Аўстраліі. Наогул, можна сцвярджаць пра выразны ўздым нацыянальнай актыўнасці ў краінах найбольшай беларускай прысутнасці на Захадзе.

Аднак для Рады БНР гэта ўсё стварала пэўныя складанасці. Грамадска-культурная актыўнасць у беларускіх асяродках выразна дамінавала над палітычнай. Праца ў агульнаграмадскіх, навуковых, царкоўных, культурніцкіх арганізацыях адсоўвала ўдзел у дзейнасці ўласна БНР на другі план. Рада імкліва страчвала функцыі кіроўчага цэнтра эміграцыйнага жыцця, на якія прэтэндавала ад самага свайго аднаўлення ў 1947 г. З'явілася ідэя захаваць Раду як сімвал, а не як дзейную жывую структуру. З гэтай тэндэцыяй і пастанавіў змагацца новы старшыня ад пачатку сваёй працы, падкрэсліваючы, што без палітычнай складовай уся эміграцыйная дзейнасць пакіне беларусаў выключна на ўзроўні бездзяржаўнай «этнічнай групы»[31].

---

[30] Гл.: Кіпель, Вітаўт. Беларусы ў ЗША. Мінск, 1993. С. 242–248.

[31] Ліст В. Жук-Грышкевіча да М. Ганько ад 11.05.1977. Захоўваецца ў фондзе Раісы Жук-Грышкевіч у Бібліятэцы і архіве Канады (Атава) (*Library and Archives of Canada*).

# НОВЫ СТАТУТ РАДЫ БНР

Першай і адной з найважнейшых спраў Вінцэнт Жук-Грышкевіч уважаў ўнясенне зменаў у Статут Рады БНР. Дакладней, на 11-й сесіі Рады БНР 29 траўня 1971 г. быў прыняты бадай што новы Статут[32].

На пачатку разгляду зместу наваствoранага дакумента варта звярнуцца да гісторыі папярэдняга Статута і ягоных зменаў. Адразу пасля аднаўлення Рады БНР у снежні 1947 г. быў прыняты яе Статут, пра які асобна мы пісалі ў адпаведным раздзеле папярэдняй кнігі[33]. Цягам прэзідэнцтва Міколы Абрамчыка ў гэты дакумент былі ўнесеныя некаторыя выпраўленні. Першая спроба перагляду Статута планавалася яшчэ на 7-й сесіі, што адбывалася ў 1953–1954 гг. Аднак праз вялікую колькасць іншых дыскусій тады пункт пра *«перагляд Статуту Рады»* так і застаўся ў ліку неразгледжаных[34].

Больш паспяховай была 8-я сесія Рады БНР, якая ў кастрычніку 1956 г. усё ж рэалізавала раней задуманае. У выніку ў Статуце Рады замацавалася паняцце сесій (раней былі толькі «пасяджэнні» і згадваўся «Пленум», але без агаворвання паўнамоцтваў). Звычайныя сесіі меліся праводзіцца кожныя тры гады. Да таго ж у новай рэдакцыі, *«новых кандыдатаў у сябры Рады БНР могуць прапанаваць сэктары Рады БНР, палітычныя арганізацыі, якія вызнаюць Акт 25 Сакавіка, грамадзкія арганізацыі, якія вызнаюць Акт 25 Сакавіка й маюць ня менш за 50 сяброў. Прынятыя Прэзыдыюмам Рады новыя сябры павінны быць зацьверджаныя на найбліжэйшай сэсіі Рады БНР»*[35]. Такім чынам прэзідэнт ад 1956 г. ужо не меў выключнага права паклікання радных, як гэта было прадугледжана ў Статуце 1947 г.

З іншых зменаў, што былі ўнесеныя ў Статут, варта згадаць рэгламентаванне сітуацыі пераходу раднага «на варожы бок», а таксама пастанову *«Злучыць Прэзыдыюм і Урад Рады БНР у вадзін орган, ператвараючы іх у Прэзыдыюм і Сакратарыят Рады БНР»*[36].

Змены і дапаўненні, унесеныя ў Статут, былі абумоўленыя рэальнымі абставінамі дзейнасці Рады, калі было, напрыклад, складана знайсці дастаткова актыўных радных, каб сфарміраваць паўнавартасны Прэзідыум і Урад, як гэта было акрэслена ў першапачатковым Статуце.

---

[32] Дакладней, была прынятая асноўная частка Статута Рады БНР, бо некаторыя раздзелы і параграфы асобна прымаліся на наступных сесіях.

[33] Гл.: Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР 1947–1970: Падзеі. Дакументы. Асобы. С. 24–26.

[34] Гл. Пратакол VIII паседжаньня VII Сэсіі Рады Беларускай Народнай Рэспублікі дня 24-га студзеня 1954 году // Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР 1947–1970: Падзеі. Дакументы. Асобы. С. 285.

[35] 8-ая Сэсія Рады БНР // Гардзіенка, Наталля, Юрэвіч, Лявон. Рада БНР 1947–1970: Падзеі. Дакументы. Асобы. С. 321.

[36] 8-ая Сэсія Рады БНР.

Наступныя змены ў Статут былі ініцыяваныя ўжо менавіта Вінцэнтам Жук-Грышкевічам на 10-й сесіі Рады ў 1968 г. Тады ўпершыню размова пайшла пра неабходнасць менавіта «рэарганізацыі» Рады, і прапанаваныя змены былі насцярожана, а часам і адмоўна ўспрынятыя раднымі.

Найбольш прынцыповае пытанне для Вінцэнта Жук-Грышкевіча, які задумаў тады фарміраванне шырокай грамадскай падтрымкі Рады праз стварэнне Лігі БНР, было ўвядзенне выбарнасці радных і самога Прэзідэнта. Выклікала гэта гарачую дыскусію сярод удзельнікаў сесіі:

*«Сп. Б. Рагуля — […] У Раду выбараў быць ня можа, паасобныя асяродкі, у тым ліку й зарубежніцкія, могуць дэлегаваць у яе сваіх прадстаўнікоў.*

*Сп. М. Гарошка — прызнае патрэбу пэўных зьменаў у арганізацыі Рады, каб зрабіць Раду больш дзейнай. Кожная арганізацыя час ад часу вымагае аднаўленьня й перагляду структуры. Выбарчы мамэнт, сказаў ён, мусіць замяніць сабой мамэнт тэстамэнту, патрэбная дэмакратызацыя Рады.*

*Архіяпіскап Васіль — уважае, што самое слова «рэарганізацыя» паўстала ў выніку застою, які вытварыўся апошнімі гадамі. Але слова «рэарганізацыя» наагул ня трэба было-б ужываць. Ход тут пра тое, як зрабіць дзейнасьць Рады больш актыўнай. Ніякіх выбараў Прэзыдэнта эміграцыя, маленькая частачка народу, рабіць ня можа. Выбарнасьць Прэзыдэнта парве юрыдычную цягласьць. Сэсія можа адно падцьвярджаць Прэзыдэнта як тэстамэнтальнага пераемніка.*

*Сп. г. Паланевіч — Рада павінна выбіраць не Прэзыдэнта, а заступніка, бо калі-б з Прэзыдэнтам сталася што-небудзь, дык хто тады мае весьці справу далей? Трэба было-б мець двух заступнікаў Прэзыдэнта: аднаго ў Эўропе (першага), а другога ў ЗША.*

*Сп. В. Семянчук — Мы ня можам выбіраць Прэзыдэнта, мы можам адно зацьвярджаць ягонага заступніка.*

*[…]*

*Сп. Я. Запруднік — перасьцерагае перад небясьпекай хвальшывае аналёгіі паміж функцыянаваньнем палітычных арганізацыяў у нармальным дэмакратычным грамадзтве й дзейнасьці гэткіх-жа арганізацыяў ува ўмовах эміграцыі, у якіх пра нармальныя выбары нельга й думаць. Выказвае патрэбу сфармуляваньня ідэалягічных пастулятаў Рады БНР, што патрэбнае для прыцягненьня ў Раду маладых людзей, не зьвязаных эмацыянальна зь Беларусяй і беларускай справай.*

*Сп. В. Семянчук — Ніякіх выбараў ня трэба ўводзіць. Трэба напісаць у сэктары, каб шукалі й прыцягвалі да дзейнасьці ў Радзе новых людзей, але мы ня можам расставацца з традыцыямі, вынесенымі з Бацькаўшчыны.*

*[…]*

*Сп. В. Русак — Тэстамэнт — гэта лучнасьць з Бацькаўшчынай, якую нельга рваць. Калі ў Раду ўваходзіць праз пасярэдніцтва Лігі БНР, дык гэта паменшыць мамэнт рэпрэзэнтацыйнасьці. Прэзыдэнта мы ня можам выбіраць, бо парвецца гістарычная цягласьць.*

*Сп. Б. Даніловіч — сказаў, што цяперашнія радныя выбралі сябе сваёй працай, і надалей у Радзе месца тым, хто вызначыцца працай. Гэта агародзіць доступ да Рады бязьдзейным і абыякавым асобам»*[37].

У выніку галасавання прапанова выбарнасці Прэзідэнта і радных не была прынятая. Хоць да параграфа пра прызначэнне пераемніка, які ў першым варыянце гучаў як *«Свайго наступніка Прэзыдэнт БНР вызначае палітычным тэстамэнтам»*, было дадазена *«па ўзгадненьні з Радай БНР, маючы на гэта бальшыню галасоў Рады»*[38].

Аднак у пратаколе сесіі зафіксавана, што *«Сэсія прыняла засьцярогу сп. Жук-Грышкевіча, што пастанова пра спосаб выбараў Прэзыдэнта будзе сфармуляваная канчальна пасьля высьвятленьня становішча ў гэтым пытаньні сэктараў Рады ў Вялікабрытаніі, Заходняй Нямеччыне і Аўстраліі»*[39]. Такім чынам, віцэ-прэзідэнт не адмаўляўся ад ідэі змянення прынцыпу фармавання Рады і прызначэння Прэзідэнта.

У той жа час былі ўнесеныя ў Статут важныя пункты адносна колькаснага складу Рады — не болей за 120 чалавек, а таксама норма, што *«2/3 сяброў Рады БНР дэлегуецца беларускімі палітычнымі й грамадзкімі арганізацыямі, а 1/3 вызначаецца Прэзыдэнтам зь ліку заслужаных беларускіх дзеячоў»*[40]. Такім чынам, магчымасці паклікання Прэзідэнтам радных былі яшчэ больш дакладна акрэсленыя і абмежаваныя.

Як бачым, частка прапанаваных Вінцэнтам Жук-Грышкевічам зменаў у Статут Рады былі ўнесеныя ўжо ў 1968 г. Аднак распачаты працэс «рэарганізацыі» патрабаваў большага. Ужо на пасяджэнні Прэзідыума і Сакратарыята Рады БНР 19 красавіка 1969 г. Вінцэнт Жук-Грышкевіч заўважыў, што *«Статут Рады БНР не акрэсьлівае дакладна функцыяў сяброў Прэзыдыюму і Сакратарыяту за выняткам становішча Прэзыдэнта. Дзейнасьць Рады аслабляецца між сэсіямі. У гэтай справе паступілі закіды ад некаторых радных. Уважае, што дакладнейшае акрэсьленьне абавязкаў сяброў Прэзыдыюму і Сакратарыяту ўзмоцніць дзейнасьць Рады»*[41].

І надалей, на першым жа пасяджэнні пасля смерці Міколы Абрамчыка, выконваючы абавязкі старшыні Рады БНР, *«др. В. Жук-Грышкевіч заявіў, што пры злажыўшыхся абставінах ёсьць вялікая патрэба скліканьня Сэсіі Рады БНР. Сэсія ёсьць патрэбная для выбару новых кіруючых органаў Рады, пераапрацаваньня й удакладненьня Статуту Рады»*, і далей па-

---

[37] Пратакол 10-ае Сэсіі Рады Беларускае Народнае Рэспублікі, праведзенае 13-га красавіка 1968 г. // Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР 1947–1970: Падзеі. Дакументы. Асобы. С. 367–369.

[38] Пратакол 10-ае Сэсіі Рады Беларускае Народнае Рэспублікі… С. 369.

[39] Пратакол 10-ае Сэсіі Рады Беларускае Народнае Рэспублікі… С. 369.

[40] Пратакол 10-ае Сэсіі Рады Беларускае Народнае Рэспублікі... С. 369.

[41] Пратакол № 1 злучанага паседжаньня Прэзыдыюму і Сакратарыяту Рады БНР з дня 19-га красавіка 1969 году // Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР 1947–1970: Падзеі. Дакументы. Асобы. С. 372.

тлумачыў: *«павінен быць лепш апрацаваны праўны бок статуту, да гэтай працы павінны быць прыцягнуты амерыканскія праўнікі»*[42]. Тады ж было прапанавана стварыць Статутовую камісію, у якую потым увайшлі Антон Адамовіч, Мікола Кунцэвіч і Віктар Войтанка-Васілеўскі.

На этапе абмеркавання праекта Статута следам за Вінцэнтам Жук-Грышкевічам некаторыя радныя сталі высоўваць свае прапановы наконт спосабаў актывізацыі жыцця Рады і яе цэнтральных органаў. Аўтарам, напэўна, самых арыгінальных прапаноў быў сябра Статутовай камісіі Віктар Войтанка-Васілеўскі. У «Камунікатах», № 3 (травень 1971 г.), быў апублікаваны невялікі ўрывак з ягоных прапаноў, аднак у архіве БІНіМа захаваўся цэлы ліст, які адлюстроўвае погляды аўтара на механізмы фарміравання і дзейнасці Рады. Найперш радны заўважаў пра слушнасць закідаў бяздзейнасці:

*«Закід бязьдзейнасьці астаецца праведным, як яго ня выясьніць. Таму што ўсё, што было зробленаё, — зробленаё адзінкамі: в. п.: М. Абрамчыкам, Др. В. Грышкевічам, ды яшчэ пару асобамі. Веліч-жа Рады нават развa-жаньняў ніякіх талковых не праводзіў. На тых колькі паседжаньнях лацінска Вамі называных Сэсыямі, што абгаворвалася? Што новага прынята? Які закон, ход дзейнасьці? Ня ведаю, можа таму што на тых паседжаньнях ня быў, але ж пытаўся ў тых што былі — яны нічога глуздага не казалі.*

*А калі ня было пастановы, дык якая-ж магла быць дзейнасьць? Прыкра, але аддзейваньне на нечую дзейнасьць, нельга назваць дзейнасьцяй.*

*Але як памагчы? Адно, гэта зьмяніць Раду БНР з клюбу, згуртаваньня сяброў, на законадавальную, павадырскую, палітычную ўстанову нашага народу, хаця б гэтай часткі на чужыне. Само слова ''Рада'' значыць тое, што веча, сойм, парлямант. Дык парлямантам мусіць быць нашая Рада БНР»*[43].

Далей аўтар разважаў пра выбарнасць ці пакліканне радных: *«Выбіральнасьць важная рэч. Але Рада ня значыць, што ня можа быць пакліканай Рады, выбранай адзінкаю, правадыром, ці пагатоў правадырствам, дзеячамі нашага народу на чужыне.*

*Калі ж паклікаць, ці выбіраць, ці як назначаць радных, яны мусяць прадстаўляць усех нас. І тых, што вераць у Беларусь і беларускую дзяржаву, як чыста народную-нацыянальную, толькі з уроджаных і пераконаных беларусаў. А іншае насельніцтва ці выхадцаў зь яго разумець як мякіну, без якой цяжка мець збожжа.*

*І тых, што прызнаюць Беларусь за дзяржаву ў гаспадарча-важнай краіне, з доступам да мора, з займом земляў, дзе калісь рагаціна Альгерда стукнула ў вароты, з улучэньнем у Беларусь усех, хто разумее нашу мову, ды каго й мы можам зразумець. Тых, каторыя патрабуюць, каб беларусам*

---

[42] Пратакол № 3 паседжаньня Рады БНР з дня 20-га чэрвеня 1970 г. // Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР 1947–1970: Падзеі. Дакументы. Асобы. С. 386.

[43] Ліст В. Войтанкі-Васілеўскага да В. Жук-Грышкевіча і «Правадыства Рады БНР» ад 22.02.1971. Захоўваецца ў фондзе БІНіМа ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва.

*называўся й той, хто сябе такім ня называе, таму што пераконаны ворагам і панявольнікам нашага народу ў чужой народнасьці.*

*І тых, хто наехаў сам, ці пагатоў яго прадзеды ў наш край, ды якому Беларусь сталася родная, як яна родная кожнаму там вырасшаму ад малога. Тых, што гавораць па-жыдоўску, але рысуюць, як Шагаль сваю Смаленшчыну, ці пішуць вершы, як той Зьмітрок.*

*Памятайце, што Грамыка ёсьць камісарам бальшавіцкім і маскалём на ўрадзе. Але-ж ён тойсамы беларус, што й Якуб Колас, яго сусед зь Мікалаеўшчыны, яго адкідаць нельга, хаця плакаць, што выслужваецца ворагу.*

*Гэта значыць, што ў Раду БНР мусяць быць запрошаныя выдатныя людзі, можа не зусім дзеячы ў агульным разуменьні, але вучоныя й думаючыя людзі зь Беларусі. Ня пытайцеся іх, ці яны хочаць належаць. Гэта іхная вольная воля супрацоўнічаць зь сьведамымі беларусамі, ці не»*[44].

Гэткая ўтапічная не толькі для эміграцыйнай сітуацыі думка суправаджалася даволі важнай прапановай стварэння ў Радзе палітычных партый.

*«Хай Рада мае розныя "партыі". Толькі з палітычнымі партыямі кожная палітычная ўстанова можа працаваць і будзе дзеяць выдатна. Гэта-ж даказанае гісторыяю тысячагодзьдзяў шматлікіх народаў і краінаў. Ці мы можам выдумаць нешта выдатнейшае? Спроба аднабочнага дзеяньня Рады, самі прызналіся, значыць бязьдзейнасьць. Тое Вам мог бы сказаць і А. Гітлер: Рэйхстаг нічога не рабіў. Ён рабіў, ды яго прыбочныя. Бязумоўна, я не раўняю й ня зводжу нашага паважанага суродзіча да тога самадурніка, але ж выхад будзе тойсамы — 0.*

*[...]*

*Вось ячшэ прашу Вас задумацца й яшчэ перад уладжаньнем Паседжаньня Рады, апрацаваць канечныя нам да дзейнасьці партыі, гурткі аднолькава, падобна думаючых радных, ды каб бальшыня надавала напрамак дзейнасьці. Каб сп. Прэзыдэнт меў пры сабе аднадумнікаў, якія будуць са шкуры вылазіць, каб іхняя думка была выкананая, асягнутая.*

*Як пачатак нам патрэбная народная, нацыяналістычная партыя, думка, як дагэтуль думалася: Беларусь для беларусаў, а іншых у Сібір. Хай будзе думка зарубежнікаў зь іх думкаю матушкі Расеі, як сказаў-бы, вельмі правых, жадальнікаў нязьменнасьці, як было за цара-бацюшкі.*

*Асабіста падымаю думку Хрысьціянскага Аб'яднаньня да Незалежнасьці, як сярэдзіны, патрабуючай прызнаньня жыцьця і дзейнасьці для ўсех у беларускай вызвалянай і цяперашняй дзяржаве-краіне, але зь незалежнасьцяю ад суседзяў, як самастойнай, незалежнай-сувэрэннай да нават гаспадарчай незалежнасьці ад каго колячы»*[45].

---

[44] Ліст В. Войтанкі-Васілеўскага да В. Жук-Грышкевіча і «Правадыства Рады БНР» ад 22.02.1971.

[45] Ліст В. Войтанкі-Васілеўскага да В. Жук-Грышкевіча і «Правадыства Рады БНР» ад 22.02.1971.

Пра прапановы Віктара Войтанкі-Васілеўскага старшыня Рады ў прыватным лісце да Янкі Запрудніка заўважыў, што яны *«нешта хаатычнае, што цяжка нат зарыентавацца, што гэты чалавек хоча»*[46]. Праўда, афіцыйна ў «Камунікатах» Вінцэнт Жук-Грышкевіч адказаў аўтару, што *«Рада БНР базуецца на Акце 25 Сакавіка, дык ня можа ўцягваць у свае шэрагі ворагаў гэтага акту»*[47].

Яшчэ адной прапановай сябры Статутовай камісіі было пашырэнне колькасці радных праз пакліканне ў яе Старшынём жанчын і моладзі: *«Мая думка: выкарыстаць Ваш прывілей назначэньня-пакліканьня трэці радных БНР, паклікаць жанчын, паклікаць маладых студэнтаў унівэрсытэтаў, а пагатоў скончыўшых нядаўна навукі. Можаце паклікаць паводле старога, цяпер дзеючага статуту — 40 асоб.*

*Мая думка была, каб было 200 радных, але сп. М. Кунцэвіч*[48] *супраць гэтага, таму што нельга так веле назьбіраць беларусаў? Як бы ня было, але гэтымі 40 вы можаце адмаладзіць Раду БНР, а перадусім зрабіць яе дзейнаю, калі будзе больш жанчын. Вам-жа ведама, жанчыны больш грамадзкія й больш дзейныя ад мужчынаў. Трэба, каб усе маладыя з калежскаю асветаю былі раднымі»*[49].

Ідэя больш актыўнага далучэння жанчын была ацэненая больш пазітыўна. Сам старшыня Рады пісаў у лісце да Янкі Запрудніка: *«Нам трэба было-б папоўніць Раду нашымі актыўнымі жанчынамі. Паколькі мне ведама, дык дагэтуль у Радзе ёсьць толькі дзьве жанчыны: Арсеньнева й Раіса. Першыя кандыдаткі, якія я ўжо магу запрапанаваць, гэта сп-ня Каханоўская і Ала Орса-Рамано. Яны заслужылі, каб запрасіць іх у Раду (спадзяюся, яны не адмовяцца). Напэўна, ёсьць яшчэ іншыя вартасныя кандыдаткі, аб дзейнасьці якіх я ня знаю, але Вы і іншыя сябры Прэзыдыюму Рады знаюць. Трэба, каб вы парадзіліся між сабой і запрасілі ў Раду тых вартасных жанчын»*[50]. У выніку сярод прынятых у лік радных на першай жа сесіі за часам Вінцэнта Жук-Грышкевіча было чатыры жанчыны.

Больш асцярожныя ідэі адносна складу Рады БНР выказваў радны з Чыкага Вацлаў Пануцэвіч. У адказ на прапановы Віктара Войтанкі ён пісаў: *«На мой погляд, думка пашырэньня Рады "іншадумнікамі" — неблагая. Якраз ёсьць нагода, калі Вам выпаў абавязак быць на чале. Трэба, па-мойму, спрабаваць, даволі асьцярожна, правесьці рэарганізацыю, але ня ў стылю збору агульнанароднага, бо будзе саматіквідацыя наагул БНР, ані таксама*

[46] Ліст В. Жук-Грышкевіча да Я. Запрудніка ад 03.03.1971, змешчаны ў адпаведным раздзеле гэтай кнігі.

[47] Камунікаты Прэзыдыюму і Сакратарыяту Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. № 3. Травень 1971. С. 6.

[48] Мікола Кунцэвіч быў таксама сябрам Статутовай камісіі.

[49] Ліст В. Войтанкі да В. Жук-Грышкевіча ад 22 сакавіка 1971 г.

[50] Ліст В. Жук-Грышкевіча да Я. Запрудніка ад 23.10.1970, змешчаны ў адпаведным раздзеле гэтай кнігі.

*пад “нейкім” Хрысьціянскім Аб’еднаньнем да Незалежнасьці, што рэкамэндуе Войтэнка і іншыя. [...] ...трэба зрабіць заклік да ўсіх арганізацыяў (беларускіх) на эміграцыі незалежніцкага тыпу, каб яны абмеркавалі праблему нашага беларускага дзяржаўнага прадстаўніцтва, пакінуўшы ўсякія мясцовыя сваркі, ды каб выбралі ад кожнай дзейнай арганізацыі адпаведных дэлегатаў у Раду БНР паводля адпаведніка: 3 дэлегаты ад 100 сяброў, якія-б маглі ўвайсьці ў пашыраны круг Прэзыдыі БНР. Такія дэлегаты з аддаленых краінаў маглі-б мець сваіх юрыдычных прадстаўнікоў, адпаведна ўпоўнамоцненых, скажам, у раёне Нью Ёрку. Гэткія юрысконсулі самі не ўваходзілі-б у склад Рады (як парляманту БНР), але мелі-б права рэпрэзэнтаваць сваіх моцадаўцаў ды выказваць погляды запраўдных сяброў-радных ды іхніх арганізацый»*[51].

Як бачым, ідэя пашырэння кола радных была ў эміграцыйным асяроддзі даволі папулярная, як і разуменне неабходнасці ажыўлення дзейнасці Рады, садзейнічаць якому меўся новы Статут. Статутовая камісія і ініцыятар праекта мусілі ўлічваць настроі грамады, хоць паводле дакументаў нельга сказаць, што абмеркаванне перспектыў Рады вызначалася нейкай асаблівай актыўнасцю.

Вынікам дзейнасці камісіі, найбольш самога новага старшыні Рады і стаў прыняты на 11-й сесіі новы Статут Рады. З увагі на спецыфіку пратаколаў часоў Вінцэнта Жук-Грышкевіча немагчыма аднавіць падрабязнасці працэсу прыняцця асноўнага дакумента дзейнасці Рады. У пратаколе 11-й сесіі толькі пазначана: *«Нягледзячы на папярэднюю працу статутовай камісіі, дыскусія над Статутам заняла шмат часу. Давялося абмяркоўваць параграф за параграфам і прыймаць бальшынёй галасоў у агульным галасаваньні»*[52].

Трэба заўважыць, што параўноўваць гэты новапрыняты дакумент са старым даволі складана, бо афіцыйна апублікаваны быў толькі той варыянт, які быў прыняты яшчэ 28 снежня 1947 г. Статут са зменамі і дапаўненнямі 1956 і 1968 гг. не быў апублікаваны, а таму пры аналізе мы будзем абапірацца на тэкст першага дакумента, але з улікам зафіксаваных у пратаколах Рады БНР выпраўленняў. Таксама будзем цяпер абапірацца менавіта на рэдакцыю Статута 1971 г., што быў апублікаваны пасля сесіі, хоць цягам наступных гадоў яшчэ адбывалася рэдагаванне і канчатковы варыянт склаўся ў 1978 г.[53]. Пра прынцыповыя змены будзем адмыслова згадваць, аднак найперш нам цікавы менавіта варыянт 1971 г. як адлюстраванне тых ідэй, з якімі Вінцэнт Жук-Грышкевіч прыйшоў на пасаду Старшыні Рады БНР.

---

[51] Ліст В. Пануцэвіча да В. Жук-Грышкевіча ад 01.03.1971, змешчаны ў адпаведным раздзеле гэтай кнігі.

[52] Пратакол 11-й Сэсіі Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, што адбылася 29 траўня 1971 г.

[53] Статут у варыянце 1978 г. быў таксама адмыслова апублікаваны. Сёння яго тэкст можна знайсці і ў згаданай ужо кнізе Раісы Жук-Грышкевіч «Жыцьцё Вінцэнта Жук-Грышкевіча» (с. 571–178).

Прыняты ў 1971 г. Статут у параўнанні з тым, што дзейнічаў ад 1947 г., меў удвая больш раздзелаў (15 замест 7) і амаль ўдвая больш параграфаў (61 замест 39). Даволі лагічная структура новага Статута значна паўней рэгламентавала ўсе аспекты дзейнасці Рады БНР і ўраўнаважвала паўнамоцтвы яе структур.

Прынцыповыя змены былі ўнесеныя ўжо ў першы раздзел «Паўнамоцтвы, мэты й заданьні». Асноўны змест і сэнс пунктаў тут захаваўся з папярэдняга варыянта, аднак было пашырана абгрунтаванне правапераемнасці паваеннай Рады ад даваеннай. Згадцы пра тастамент Васіля Захаркі на карысць Міколы Абрамчыка стаў папярэднічаць пункт, што *«аднаўленьне Рады БНР адбылося з волі адзінай незалежнай часткі беларускага народу, вольнай ад расейскага бальшавіцкага паняволеньня й вернай Акту 25 Сакавіка»* (1971. Пар. 2). Гэта была першая спроба вызначэння права паваеннай Рады БНР на прадстаўніцтва інтарэсаў ўсёй Беларусі па-за тастаментам Васіля Захаркі. І гэтую ідэю Вінцэнт Жук-Грышкевіч паслядоўна развіваў цягам свайго кіравання Радаю, хоць у канчатковай рэдакцыі Статута, прынятай у 1978 г., гэтай агаворкі ўжо не было.

Таксама ў першым раздзеле больш дакладна было сфармулявана, што Рада БНР прэтэндуе на кіраванне ўсім беларускім рухам[54].

Можна канстатаваць, што праз тры гады пасля першай няўдалай спробы ў Вінцэнта Жук-Грышкевіча ўсё ж атрымалася прынцыпова змяніць размеркаванне паўнамоцтваў і статус найвышэйшых органаў дзяржаўнай улады БНР. Калі ў 1947 г. было зафіксавана, што *«Прэзыдэнт БНР зьяўляецца праўным і адзіным найвышэйшым прадстаўніком Беларускага Народу»* (1947. Пар. 7), то ў 1971 г.: *«Рада БНР зьяўляецца найвышэйшай установай БНР, яна ёсьць адзіным праўным прадстаўніцтвам сувэрэнных правоў беларускага народу»* (1971. Пар. 6). Больш за тое, новы Статут ліквідоўваў пасаду Прэзідэнта БНР у яе ранейшым разуменні як самастойнага органа, вынесенага па-над Радаю і сумяшчаючага функцыі з Старшынёй Рады (1947. Пар. 7). Паводле паваеннага дакумента, менавіта Прэзідэнт БНР выступаў як *«спадкаемца паўнамоцтваў Першага Усебеларускага Кангрэсу»* (1947. Пар. 6). У новай сітуацыі заставаўся толькі Старшыня Рады БНР, якога ў выключных выпадках, *«для прэстыжу»*, *«асабліва ў вонкавых дачыненьнях»*, можна было называць *«Прэзыдэнтам Рады БНР»* (1971. Пар. 20)[55]. Такім чынам, ранейшы орган дзяржаўнай улады — Прэзідэнт — ператварыўся проста ў лінгвістычную катэгорыю, што выкарыстоўвалася навонкі, а сама БНР з своеасаблівай прэзідэнцкай рэспублікі ў 1971 г. ператварылася ў парламенцкую.

---

[54] Параўн., у Статуце 1947 г.: *«Рада БНР арганізоўвае і скіроўвае ўсе сілы Беларускага Народу да мэтазгоднага жыцьця»* (пар. 4), і ў Статуце 1971 г.: *«арганізуе беларускі вызвольны рух і ім кіруе»* (пар. 5).

[55] У пазнейшай рэдакцыі Статута гэты параграф быў зрэдагаваны і сфармуляваны ў выглядзе заўвагі: «Увага. Пры перакладах у іншыя мовы слова “Народная Рэспубліка” перакладаецца як “Дэмакратычная Рэспубліка”, а слова “Старшыня” як “Прэзідэнт”».

Прычыны такой істотнай змены структуры кіруючых органаў БНР можна шукаць у перыядзе Міколы Абрамчыка, калі ўся дзейнасць Рады наўпрост залежыла ад Прэзідэнта, абставінаў яго жыцця і магчымасцяў для працы. Ліквідацыя пасады Прэзідэнта павінна была ператварыць Раду ў рэальны калегіяльны орган, у якім адказнасць за ўсю дзейнасць дзялілася паміж рознымі асобамі і структурамі. Гэта, паводле ідэі, мусіла зрабіць дзяржаўнае прадстаўніцтва менш залежным ад асобы кіраўніка, што, аднак, у жыцці не ўдалося цалкам рэалізаваць. Праўда, застаецца пытаннем, наколькі радныя ў часе 11-й сесіі ўсведамлялі прынцыповасць прынятых імі зменаў у арганізацыі ўлады ў БНР.

Паводле новага Статута змяніўся статус і паўнамоцтвы Старшыні Рады. Дакладней, у Статуце 1947 г. паўнамоцтвы Старшыні Рады адмыслова не агаворваліся, і мы тут параўноўваем іх з вызначанымі для Прэзідэнта БНР, які сумяшчаў дзве пасады. Цяпер ён афіцыйна абіраўся на тэрмін шэсць гадоў, і галоўнымі ягонымі задачамі былі *«рэпрэзэнтаваньне БНР перад урадамі й нацыянальнымі прадстаўніцтвамі іншых народаў»*, *«паклiканьне 1/3 сяброў Рады БНР»* ды *«прызначэньне прадстаўнікоў БНР пры ўрадах і прадстаўніцтвах іншых народаў»* (1971. Пар. 22). Зразумела, было пазначана, што Старшыня мае *«іншыя правы, вынікаючыя з займанага становішча, а ня вызначаныя іншым ворганам»* (1971. Пар. 22)[56].

Статут (следам за ўнесенымі раней праўкамі) вызначаў колькасны склад Рады — да 120 радных, а таксама замацоўваў ужо агучаны механізм іх абрання: 2/3 сябраў Рады павінны былі выбіраць беларускія палітычныя і грамадскія арганізацыі, а 1/3 — меўся паклікаць Старшыня на прапанову арганізацый або сектараў. Пры гэтым упершыню вызначаўся і тэрмін паўнамоцтваў раднага — 12 гадоў, а таксама ўводзіўся інстытут *«заслужаных сябраў Рады БНР»*, што жадалі дзеяць у Радзе пасля 12-гадовага тэрміну. Лагічным крокам пасля прыняцця новага Статута было б правядзенне выбараў у Раду, аднак гэтым ніхто не займаўся, як і адсочваннем тэрміну паўнамоцтваў радных. Гэтая норма засталася, хутчэй, на паперы, і тое нядоўга, бо з рэдагаваннем Статута ў наступныя гады і вызначэнне тэрміну паўнамоцтваў

---

[56] Для параўнання, паўнамоцтвы Прэзідэнта БНР паводле Статута 1947 г. вызначаліся як:

*«а. Рэпрэзэнтаваньне БНР перад урадамі і нацыянальнымі прадстаўніцтвамі іншых народаў.*

*б. Пакліканьне сяброў Рады БНР.*

*в. Прызначэньне прадстаўнікоў БНР пры ўрадах і нацыянальных прадстаўніцтвах іншых народаў.*

*г. Прызначэньне і адкліканьне прэм'ер-міністра БНР.*

*д. Зацьверджаньне складу Рады Міністраў БНР.*

*ж. Іншыя правы, вынікаючыя з займанага становішча, а не засьцярожаныя іншым органам»* (1947. Пар. 8). Пры гэтым правы Прэзідэнта не абмяжоўваліся толькі гэтым.

радных, і колькасны склад ды суадносіны выбраных — пакліканых зніклі з тэксту дакумента. Хоць, выкарыстоўваючы пункты Статута пра актыўную ролю сектараў і грамадскіх арганізацый у вылучэнні кандыдатаў, у Раду на пачатку 1970-х гг. сталі сапраўды даволі актыўна прымаць новых сябраў, асабліва з рэгіёнаў.

У новым Статуце было дакладна распрацаванае і замацаванае паняцце сесіі як *«найвышэйшай інстанцыі ў працы Рады БНР»*. Таксама фіксавалася, што звычайныя сесіі Рады мелі праводзіцца раз на тры гады. Акрамя таго, агаворваўся статус і механізмы склікання надзвычайных сесій.

Прыняты ў 1971 г. Статут значна больш дэталёва, чым папярэдні (нават з улікам дапаўненняў), вызначаў статус, структуру і паўнамоцтвы Прэзідыума і Сакратарыята (аналаг ранейшага Урада) Рады БНР. Прэзідыум меў складацца з Старшыні Рады, двух яго заступнікаў (для Амерыкі і для Еўропы), сакратара, скарбніка і пяці сяброў. З Прэзідыума вылучаўся Сакратарыят як выканаўчы орган, у які ўваходзілі акрамя адмысловага старшыні пяць сакратароў: арганізацыйны і інфармацыі, вонкавых дачыненняў і рэпрэзентацыі, асветы, фінансаў, ветэранаў. Сакратары з'яўляліся адначасова кіраўнікамі адпаведных аддзелаў. Аднак трэба адразу заўважыць, што гэтая цалкам лагічная структура, дзе сакратары павінны былі наўпрост супрацоўнічаць з сектарамі ў адпаведнай галіне, засталася пераважна на паперы, бо, акрамя фінансавага аддзела, цягам 1970-х гг. у Радзе ўдалося знайсці сталых асобаў толькі на сакратароў спраў ветэранаў і дакументацыі. Усе астатнія пасады заставаліся вольнымі.

Таксама ўпершыню ў новым Статуце дэталёва распрацоўваўся статус і механізм стварэння і дзейнасці сектараў Рады БНР, вызначаўся абавязак радных плаціць сяброўскія складкі, агаворваліся функцыі Скарбу Рады, Кантрольнай камісіі, Архіва, абумоўлівалася магчымасць праўнай абароны Рады БНР з удзелам юрысконсульта[57].

Варта сказаць, што Статут 1971 г. цягам наступных сямі гадоў дапаўняўся і рэдагаваўся. 13-я і 15-я сесіі Рады БНР унеслі істотныя змены, у выніку якіх колькасць раздзелаў Статута зменшылася да 12, а колькасць параграфаў — да 44. Гэта адбылося дзякуючы аб'яднанню ранейшых раздзелаў «Рада Беларускай Народнай Рэспублікі» і «Сябры Рады БНР» у адзін «Сяброўства ў Радзе Беларускай Народнай Рэспублікі», а таксама праз ліквідацыю раздзела «Сакратарыят» праз фактычную немагчымасць яго фарміравання, пра што яшчэ будзе гаворка ніжэй.

Канчатковы варыянт Статута, прыняты ўжо ў 1978 г., быў значна больш абагульнены, чым у 1971 г., аднак усё роўна даволі поўна рэгламентаваў найважнейшыя аспекты дзейнасці Рады БНР, прадугледжваў механізмы прыняцця рашэнняў на розных узроўнях, узаемадзеяння кіраўнічых структур між сабою і з рэгіянальнымі, спосаб перадачы ўлады праз выбарнасць Старшыні Рады БНР. Вінцэнт Жук-Грышкевіч зрабіў своеасаблівую працу

---

[57] Гл. тэкст Статута, змешчаны ў раздзеле «Дакументы» гэтай кнігі.

над памылкамі ў дачыненні да папярэдняга перыяду існавання Рады, каб стварыць новыя фармальныя падставы для арганізацыйнай дзейнасці.

## НУТРАНЫЯ СПРАВЫ РАДЫ БНР

Новы старшыня добра ўсведамляў спецыфічнасць эміграцыйнага статусу Рады БНР і той сітуацыі, у якой даводзілася працаваць. Ужо ў красавіку 1971 г. у праграмным дакуменце «Праўныя і ідэалагічныя асновы Рады БНР» ён адзначаў, што *«Рада БНР ня можа абмежыцца да канцэпцыі парлямэнту і ўраду, як гэта было ў Беларусі, а мусіць займацца й справамі беларускае эміграцыі, на якой апіраецца. Рада БНР мусіць браць пад увагу спэцыфічныя абставіны й ня толькі выконваць свае абавязкі адносна Беларусі, але й дбаць пра ўтрыманьне беларускага нацыянальнага жыцьця ў беларускай эміграцыі.*

*Наша грамадзтва параскідана па вялікіх прасторах розных краінаў і толькі часткова зарганізавана. Нам цяжка сабрацца разам у паасобных краінах і яшчэ цяжэй сабрацца хоць бы толькі прадстаўнікам нашых асяродкаў з усіх краінаў, каб хоць раз параіцца пра нашы найважнейшыя справы. На нашы асяродкі націскаюць мясцовыя асыміляцыйныя дзейнікі, а актыўнасьць нашых людзей у нацыянальна-грамадзкай працы зьмяншаецца. Усё гэта трэба браць пад увагу ў дзейнасьці Рады БНР і асабліва старацца захаваць працаздольным і зьвязаным з Радай БНР наш нацыянальны актыў»*[58].

Поспех арганізацыйнай працы ў дачыненні да ўсёй эміграцыі шмат у чым залежыў ад эфектыўнасці дзейнасці структур самой Рады БНР у цэнтры і на месцах. Дзеля забеспячэння гэтага і быў прыняты новы Статут, а таксама рабіліся практычныя намаганні ў наладжванні нутранага жыцця Рады.

### Дзейнасць сектараў

Вынікі рэарганізацыйных намаганняў Вінцэнта Жук-Грышкевіча можна было заўважыць найбольш праз ажыўленне дзейнасці сектараў Рады. Аднак новаму старшыні давялося прыкласці багата працы, каб аднавіць актыўнасць рэгіянальных радных, што даволі рэгулярна заўважалі наяўнасць *«недастатковай лучнасьці Цэнтру з сэктарамі»*[59].

Адным са сродкаў сталі спробы наладжвання грамадскіх дыскусій, у тым ліку і над новым варыянтам Статута яшчэ да яго прыняцця. Прыкладам, у «Камунікатах», № 2, выдадзеных у снежні 1970 г., была апублікаваная «Просьба да сэктараў і радных БНР», дзе было напісана: *«Просім прыслаць у Сакратарыят Рады БНР свае праекты й думкі ў гэткіх пытаньнях: якой*

[58] Праўныя і ідэалагічныя асновы Рады БНР. Тэкст змешчаны ў раздзеле «Дакументы» гэтай кнігі.

[59] Як прыклад, гл. заўвагі ад Падсектара Рады БНР у Мельбурне ў: Камунікаты Прэзыдыюму й Сакратарыяту Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. № 3. Травень 1971. С. 6.

*мае быць Рады БНР паводля кампэтэнцыі і арганізацыі? Як павялічыць сродкі на дзейнасьць Рады (вялічыня складак радных, іншыя крыніцы)? Якія справы хацелі-б паставіць на парадак дня сэсіі (у межах аднаго дня працы)? Могуць быць паданыя й іншыя справы. Вельмі важна, каб праекты й думкі былі прысланыя загадзя»*[60].

У адказ на заклік старшыня атрымаў лісты ад сектараў і асобных радных, змест якіх падаваўся ў наступным нумары «Камунікатаў». Пры гэтым асаблівую актыўнасць выявілі аўстралійскія радныя, які выказвалі часам супрацьлеглыя меркаванні: ад немагчымасці ніякімі рэарганізацыямі Рады павялічыць беларускі рух у Аўстраліі Анатоля Бразоўскага да прапаноў павялічыць памер сяброўскіх складак радных і засяродзіць дзейнасць Рады на выключна палітычным вонкавым прадстаўніцтве ды *«надаваньні ідэйнага характару й зашчэпліваньні энтузіязму»* дзейнасці грамадскіх арганізацый Аўгінні Каранеўскай[61]. З'яўленне гэткіх лістоў у пэўным сэнсе ажыўляла атмасферу ў Радзе, стварала падставы казаць пра аднаўленне сувязяў паміж кіраўніцтвам і паасобнымі раднымі ды сектарамі.

Надалей на старонках «Камунікатаў» публікаваліся рэгулярныя паведамленні пра дзейнасць сектараў, іх справаздачы абавязкова імкнуліся заслухаць на сесіях Рады. Што праўда, стаўленне да самога існавання сектараў у Радзе былі неадназначныя. Часам былі чуваць заявы, што яны непатрэбныя і штучныя[62]. У выніку Вінцэнт Жук-Грышкевіч мусіў час ад часу нагадваць пра значнасць працы сектараў. Прыкладам, у 1973 г. ён у чарговым нумары «Камунікатаў» тлумачыў:

*«Сэктары Рады БНР ёсьць складовымі часткамі й асновай Рады БНР — у нашых эміграцыйных умовах. Бяз сэктараў ня было-б арганізацыйнай структуры рады БНР, якая лучыць у адно й рэпрэзэнтуе беларускі вызвольны рух і БНР.*

*Сэктары Рады БНР ёсьць часткамі й рэпрэзэнтантамі Рады БНР і беларускага вызвольнага руху на мясцох, у беларускіх асяродках і на вонак ад іх. Сэктары ёсць палітычнымі й дзяржаўнымі прадстаўнікамі Рады БНР на мясцох. Яны ня толькі не пярэчаць беларускім нацыянальна-грамадзкім арганізацыям, але дапаўняюць іх. Роля сэктараў вельмі важная, бо яны рэпрэзэнтуюць беларускія незалежніцкія дзяржаўныя асьпірацыі, без чаго ўвесь наш дух і жыцьцё прадстаўлялася-б толькі як этнічная зьява, а не незалежніцка-дзяржаўная, тое, што англасаксы называюць "Дзэ нэйшынал".*

*І не павінна быць ніякай кантравэрсыі ў існаваньні й працы нацыянальна-грамадзкіх арганізацыяў і сэктараў Рады БНР, бо яны служаць тэй жа*

---

60 Просьба да сэктараў і радных БНР // Камунікаты Прэзыдыюму і Сакратарыяту Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. № 2. Снежань 1970. С. 6.

61 Камунікаты Прэзыдыюму і Сакратарыяту Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. № 3. Травень 1971. С. 6.

62 Можна згадаць дыскусію на пасяджэнні Прэзідыума і Сакратарыята Рады БНР 15.05.1972, пратакол якога змешчаны ў адпаведным раздзеле гэтай кнігі.

*самай беларускай вызвольнай справе, толькі прадстаўляюць розныя аспэкты гэтай справы: арганізацыі нацыянальна-грамадзкія прадстаўляюць нацыянальна-грамадзкі аспэкт, а сэктары Рады БНР дзяржаўна-палітычны аспэкт, чым дапаўняюцца ўзяемна.*

*Сэктары складаюцца з радных, г. зн. з прадстаўнікоў беларускіх грамадзкіх арганізацыяў, ці беларускага грамадзтва данага асяродзьдзя ў Радзе БНР»*[63].

Упарадкаванню дзейнасці сектараў спрыяла і наяўнасць у новым Статуце адпаведнага раздзела. Так, вызначалася, што сектар ствараўся там, дзе можна было сабраць як мінімум трох радных. Колькасць вызначалася, відавочна, патрабаваннем, каб у кожным сектары былі мінімум тры пасадовыя асобы: старшыня, сакратар і скарбнік. Функцыі сектара мелі складацца з наступных:

*«а. сачыць за разьвіцьцём палітычных падзеяў у сваім асяродку і ў данай краіне, сачыць за прэсай у справах Беларусі і ў выпадках важных неадкладна інфармаваць Прэзыдыюм Рады БНР або рэагаваць адпаведна сытуацыі самім на месцы;*

*б. прымаць пастановы ў справах рэфэрэндуму Рады БНР;*

*в. дбаць пра разьвіцьцё грамадзкага й палітычнага жыцьця ў сваім асяродку беларускай эміграцыі й краіне»* (1971. Пар. 30).

Цягам 1970–1982 гг. у дакументах адзначана існаванне 10 сектараў Рады БНР. З іх найбольшая колькасць — 4 — у ЗША, па 1 — у Канадзе, Аўстраліі, Вялікабрытаніі, Францыі, Бельгіі і Заходняй Нямеччыне.

Аднак з амерыканскіх сектараў рэальна больш-менш дзейнымі былі толькі два: Дэтройцка-кліўлендскі (у 1974 г. складаўся з 9 асобаў) і Нью-джэрсійскі (тады ж з 15 асобаў)[64], дзе радныя адносна рэгулярна збіраліся на сходы і пераважнай большасцю плацілі сяброўскія складкі. Сектары ў Чыкага і Нью-Ёрку цягам амаль усіх 1970-х існавалі выключна на паперы. Выпадак Нью-Ёрка, дзе традыцыйна адбываліся пасяджэнні Прэзідыума і Сакратарыята ды сесіі Рады БНР і дзе адзначалася даволі вялікая грамадска-культурная беларуская актыўнасць, можна лічыць унікальным. Пры немалой колькасці радных (паводле спіса ў 1976 г. гэта былі 24 асобы)[65] цягам дзесяцігоддзяў тут не знаходзілася жадаючых узяць на сябе арганізацыю працы сектара. Найбольшае, што ўдалося зрабіць, гэта знайсці скарбніка (Уладзімір Русак), які ўзяўся адказваць за збіранне сяброўскіх складак.

У Чыкагскім сектары адыграў ролю выразны чалавечы фактар: яго старшыня Вацлаў Пануцэвіч не лічыў неабходным правядзенне сходаў ды

---

[63] Слова Старшыні Рады БНР // Камунікаты Прэзыдыюму і Сакратарыяту Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. № 4. Люты 1973. С. 5.

[64] Звесткі паводле пратакола 13-й сесіі Рады БНР, змешчанага ў адпаведным раздзеле гэтай кнігі.

[65] Гл.: Пратакол 14-ай Нечароднай Сэсіі Рады БНР, што адбылася 27 лістапада 1976 г.

збіранне складак[66], а таму сувязь з сектарам была страчаная, хоць асабістыя кантакты з яго кіраўніком захоўваліся. Адмысловае адведванне Чыкага Старшынёй Рады БНР у 1970 г. дапамагло зразумець праблемы і паспрабаваць наладзіць працу далей. Аднак прынцыпова сітуацыя не змянілася, і на 17-й сесіі Рады БНР у 1982 г, як і на ўсіх папярэдніх, справаздачы з чыкагскага сектара не было.

Найбольш актыўнымі ў Радзе выглядалі Канадскі і Аўстралійскі сектары. У першым сектары на 1974 г. было 10 радных, а другі складаўся з 9 радных у 1973 г., 11 — у 1979 г. і 7 — у 1982 г. ды меў падсектары ў Мельбурне і Сіднэі. Справаздачы пра дзейнасць гэтых сектараў на сесіях і ў «Камунікатах» былі найбольш разнастайныя і рэгулярныя. Цягам 1970-х гг. фактычна аднавілі дзейнасць Брытанскі і Французскі сектары. У Вялікабрытаніі пры канцы 1960-х гг. засталіся толькі два радныя (Аляксандр Лашук і Янка Міхалюк), але да 1973 г. іх колькасць павялічылася да 6 і дзейнасць стала больш актыўнай. У Францыі наогул быў толькі адзін радны Міхась Наўмовіч, да якога дадаліся Аўген Трусаў і Лявон Шыманец, што дазволіла аднавіць сектар. Працягваў існаванне Бельгійскі сектар, што складаўся з 5 чалавек. Дзейнічала і структура Рады БНР у Нямеччыне. Тут усе радныя — 4 асобы — былі супрацоўнікамі Радыё «Свабода», і да іх дадаўся «іспанец» Віктар Сянкевіч.

Важнасць наладжвання працы сектараў і сувязяў паміж імі Вінцэнт Жук-Грышкевіч падкрэсліваў не толькі ў пісьмовых зваротах, але і ўласнай актыўнасцю як Старшыні Рады. Ён, гледзячы па інфармацыі ў «Камунікатах», даволі рэгулярна адведваў беларускія асяродкі, у тым ліку і еўрапейскія. Больш за тое, у 1972 і 1979 гг. з ягоным удзелам адбыліся адмысловыя нарады еўрапейскіх сектараў Рады БНР у Лондане. І калі першая аказалася даволі сціплай, з удзелам толькі некалькіх брытанскіх і аднаго французскага раднага, то ў другой ужо бралі ўдзел прадстаўнікі ад сектараў у Вялікабрытаніі (Лондан, Манчэстэр і Брадфард), Бельгіі, Францыі і Нямеччыны, а таксама прадстаўнік Рады БНР у Іспаніі. Гэтыя «кансультацыйна-інфармацыйныя канферэнцыі» засведчылі і важнасць працы па наладжванні сувязяў паміж цэнтрам і рэгіёнамі, і складанасці гэтага працэсу. Па выніках другой нарады Вінцэнт Жук-Грышкевіч адзначыў: *«Што спрычынілася да склікаьня канфэрэнцыі эўрапэйскіх сэктараў Рады БНР? З рэдкімі выняткамі сябры іх ня бралі ўдзелу ў сэсіях Рады БНР у Нью Ёрку, бо адлегласьць эўрапэйскіх краінаў ад Нью Ёрку, дзе звычайна адбываюцца сэсіі РБНР, даволі вялікая, і падарожжы з Эўропы ў Нью Ёрк вымагаюць шмат часу й вялікіх коштаў, на што радныя з Эўропы ня могуць сабе пазволіць. А абмен думак зь імі ў справах Рады БНР проста неабходны як для іх, так і для Рады БНР. І тут на дапамогу прыходзяць канфэрэнцыі эўрапэйскіх сэктараў рады БНР»*[67]. На еўрапейскай нарадзе выказвалася прапанова не толькі часцейшага

---

[66] Гл. ліст В. Жук-Грышкевіча да Я. Запрудніка ад 03.12.1970, змешчаны ў адпаведным раздзеле гэтай кнігі.

[67] Жук-Грышкевіч, Раіса. Жыццё Вінцэнта Жук-Грышкевіча. С. 681.

правядзення гэткіх канферэнцый, але і склікання на ўзор амерыканскіх і аўстралійскіх Сустрэчы беларусаў Заходняй Еўропы. На жаль, гэтая ідэя так і засталася нерэалізаванай.

Цягам 1970–1982 гг. у кожным сектары ўзнікалі свае праблемы, у тым ліку і кадравыя. Яны былі сугучныя праблемам у Радзе наогул. Аднак можна сцвердзіць, што пастаўленую мэту ажыўлення працы сектараў усё ж удалося больш-менш выканаць. Прынамсі, у 1960-я гг. у дакументах Рады амаль не фігуравалі справаздачы з іх дзейнасці, а ў часы Вінцэнта Жук-Грышкевіча інфармацыя пра актыўнасць рэгіянальных радных прысутнічала ў пратаколах і «Камунікатах» пастаянна. Больш складаная была справа з аздараўленнем цэнтральных органаў Рады БНР.

## Рада БНР і яе цэнтральныя органы

Згодна з новым Статутам на 11-й сесіі Рады БНР акрамя ўласна Старшыні меліся быць абраныя і іншыя органы БНР. Заступнікаў кіраўніка абралі без значных складанасцяў, асабліва калі ўлічыць, што акрамя Барыса Рагулі два іншыя — а. Аўген Смаршчок з Бельгіі і Мікола Нікан з Аўстраліі — не прысутнічалі на сесіі. Праўда, апошні без энтузіязму прыняў прызначэнне і прасіў пазней звольніць яго з пасады. Аўген Смаршчок заставаўся на пасадзе заступніка Старшыні на Еўропу да 1974 г., калі на ўласнае жаданне быў заменены на Янку Жучку. Таксама ў склад Прэзідыума абралі Антона Адамовіча, Антона Шукелойця, Васіля Русака ды шматгадовага скарбніка Віталя Кажана[68]. Усе згаданыя асобы былі ў Прэзідыуме і ў папярэдні час. А вось з абраннем Сакратарыята паўсталі сур'ёзныя праблемы. Афіцыйна адмовіўся ад удзелу ў кіраўніцтве яшчэ да выбараў найбольш дзейны сябра Рады Янка Запруднік, патлумачыўшы гэта занятасцю працай над дысертацыяй. У выніку добраахвотнікам у Сакратарыят стаў толькі сакратар спраў ветэранаў Язэп Сажыч. Размовы ж пра абранне на іншыя пасады ператварыліся ў пакуты. Антон Адамовіч заўважыў, што *«Прэзыдэнты Крэчэўскі й Захарка ня мелі Сакратарыяту, а яны-ж былі ў лепшай сытуацыі. Вось чаму, відаць, давядзецца задаволіцца Прэзыдыюмам, які зь сябе вылучыць Сакратарыят»*[69]. І хоць Вінцэнт Жук-Грышкевіч быў супраць гэткага выйсця, выбары ажыццявіць не ўдалося. Сакратарыят створаны не быў.

Праблемы з фарміраваннем Сакратарыята як выканаўчага органа Рады БНР аказаліся амаль што невырашальнымі. Праз год пасля 11-й сесіі Старшыня Рады на пасяджэнні Прэзідыума і неіснуючага Сакратарыята паведаміў, што *«ў Нью Ёрку не ўдалося яму знайсьці кандыдата на сакратара інфармацыі. У Канадзе быць ім згадзіўся сп. Янка Сурвіла. Прэзыдыюм згадзіўся*

---

[68] Гл.: Пратакол 11-й Сэсіі Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, што адбылася 29 траўня 1971 г.

[69] Пратакол 11-й Сэсіі Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, што адбылася 29 траўня 1971 г.

*зацьвердзіць кандыдатуру сп. Я. Сурвілы на сакратара інфармацыі»*[70]. Янка Сурвіла займаў пасаду сакратара інфармацыі, відаць, да 1975 г., пазней ягонае імя ў дакументах Сакратарыята не згадваецца. Да 1974 г. Старшыні Рады БНР удалося «вярнуць» да дзейнасці ў якасці сакратара дакументацыі ўжо абараніўшага дысертацыю Янку Запрудніка. Такім чынам, на сярэдзіну першага тэрміну старшынёўства Вінцэнта Жук-Грышкевіча ў Сакратарыяце акрамя скарбніка, ён жа сакратар фінансаў, былі задзейнічаныя толькі сакратары інфармацыі, дакументацыі і ветэранаў. Усе астатнія дзялянкі заставаліся вакантнымі.

Гэтая сітуацыя не задавальняла Старшыню Рады БНР, і ён ужо на 14-й сесіі, у лістападзе 1974 г., упершыню абвесціў пра намер сысці з пасады: *«Я як Старшыня Рады БНР не магу пагадзіцца з такой сытуацыяй, пры якой зьнікаюць магчымасьці нармальнай працы. Адказнасьць за Раду БНР і яе дзейнасьць ляжыць на ўсіх радных. Я не магу пакрываць сваім імем абыякавасьць радных да выконваньня сваіх абавязкаў, бязьдзейнасьць шмат якіх радных, ухіляньне ад займаньня выканаўчых функцыяў, адступаньне ад прысягі радных. Вось чаму я ўступаю са становішча Старшыні Рады БНР»*[71].

Пагроза сыходу старшыні, магчыма, падзейнічала на радных, і на сесіі вельмі аптымістычна сталі высоўвацца кандыдатуры на пасады ў Сакратарыяце, праўда, пераважна непрысутных на пасяджэнні радных. *«На сакратара вонкавых дачыненьняў прапанавалі першага заступніка Старшыні Рады БНР др. Б. Рагулю (няпрысутны). На іншыя становішчы падаваліся кандыдатуры: др. Ул. Набагеза, інж. М. Гарошкі, др. Р. Гарошкі, др. В. Рамука, др. Алы Орса-Романо, сп-ні Івонкі Сурвіллы, сп. М. Тулейкі, сп. М. Кунцэвіча і іншых. Сэсія заклікала радных не адмаўляцца ад прапанаваных ім функцыяў»*[72].

Аптымізм прысутных, разам з меркаваннямі інтарэсаў Рады, на якія зрабіў акцэнт старшыня сесіі Антон Адамовіч, а можа не толькі гэта, адыгралі сваю ролю, і Вінцэнт Жук-Грышкевіч застаўся на пасадзе. Аднак спадзяванні на прапанаваную вялікую колькасць кандыдатур, вылучаных на сесіі, аказаліся марныя. У студзені 1976 г. ён канстатаваў: *«Сакратарыят да сяньня ня ёсьць поўнасьцю сфармаваны. З кандыдатаў у Сакратарыят, якіх ён запрасіў на спатканьне дня 30 сьнежаня, прыбылі толькі сп. Ф. Бартуль і сп. М. Тулейка. Рабіліся спробы паклікаць на становішча сакратара вонкавых дачыненьняў др. Ст. Станкевіча, др. Я. Запрудніка, якія не далі посьпеху. Цяпер ідуць гутаркі ў гэтай справе з др. Р. Гарошкам. Сяньня ў Сакратарыяце ёсьць: др. Я. Сажыч — вайсковыя справы, др. Я. Запруднік — сакратар дакумэнтацыі й сп. В. Кажан — сакратар фінансаў»*[73]. У выніку на наступнай

---

[70] Пратакол паседжаньня Прэзыдыюму й Сакратарыяту Рады БНР у Беларускім Рэлігійна-Грамадзкім Цэнтры ў Таронта, 15 травеня 1972 г.

[71] Пратакол 14-ай Нечароднай Сэсіі Рады БНР, што адбылася 27 лістапада 1976 г.

[72] Пратакол 14-ай Нечароднай Сэсіі Рады БНР, што адбылася 27 лістапада 1976 г.

[73] Пратакол паседжаньня Прэзыдыюму Рады БНР з дня 3 студзеня 1976 году.

14-й сесіі Вінцэнт Жук-Грышкевіч зноў заявіў аб сваім сыходзе, гэтым разам яшчэ і ў сувязі з заканчэннем тэрміну сваіх паўнамоцтваў.

Плануючы пакінуць пасаду старшыні, у 1976 г. Вінцэнт Жук-Грышкевіч склаў свае пісьмовыя пажаданні для наступнай дзейнасці Рады і найбольш, у тым ліку і ў часе выступаў на самой сесіі, казаў менавіта пра поўнае камплектаванне Сакратарыята, а таксама стварэнне Канцылярыі. Ён наракаў: *«Старшыні Рады БНР і надалей, як і празь усе гады ягонай кадэнцыі, трэба было самому ўтрымліваць сувязь з усімі 10-ма сэктарамі, дбаць пра нутраныя дачыненьні ў беларускім жыцьці, дбаць, каб чуцён быў голас Рады БНР навонкі, каб, хоць пакольки магчыма, існавала навонкі інфармацыя й прапаганда Рады БНР»*[74].

І далей:

*«Мяне дзівіць,* — ён казаў, — *чаму стварэньне Сакратарыяту сустракаецца з такім супраціvам. Урад, ці Сакратарыят, у Радзе БНР — зь некаторымі выняткамі — заўсёды існаваў. Першы раз Урад БНР перастаў быў поўным пасьля Бэрлінскай канфэрэнцыі ў 1925 г., калі др. Цьвікевіч, Заяц і Пракулевіч паехалі ў БССР. Пасьля 1925 г. Прэзыдэнт Крэчэўскі й Захарка не маглі стварыць поўнага Ўраду, а па сьмерці др-а Грыба і выезьдзе сп. Мамонькі — ня было ўжо ў іх больш радных.*

*Калі ў 1947 г. аднавілася Рада БНР, быў створаны і Ўрад БНР, ці Сакратарыят, які ў тым ці іншым складзе існаваў да гэтага часу. Дзіўна, што такая відавочна патрэбная справа, як утварэньне Сакратарыяту ці Ўраду, не знаходзіць зразуменьня ў шмат якіх радных.*

*Цяпер мы маем толькі двух сакратароў: дакумэнтацыі й вэтэранаў. Кожны згодзіцца, што гэтага мала. Нам штонайменш патрэбны яшчэ 4 сакратары: вонкавых справаў, нутраных, асьветных і інфармацыі й прэсы.*

*Канцылярыя Рады БНР таксама патрэбная. Немагчыма, каб усю канцылярыю і перапіску вёў Старшыня Рады»*[75].

Прысутныя ж на сесіі не лічылі сітуацыю ў Радзе асабліва цяжкай. Паміркоўны Мікола Гарошка адзначыў, што *«Рада БНР на нашыя абставіны вывязалася із сваіх заданьняў вельмі добра. І на вонкі выявіла сябе добра. Што да недахопу Сакратарыяту й Канцылярыі Рады БНР, дык пэўна, было-б добра гэтыя ўстановы мець, але ў нас не хапае людзей. Мы наагул не дынамічныя, а болей пасыўныя. Ды паміма ўсяго ў нас ёсьць і дасягненьні. У нас ёсьць і здольныя адзінкі, якія трэба падтрымоўваць»*[76].

У выніку аптымістычнага ціску грамады, якая высока ацаніла першы тэрмін старшынёўства Вінцэнта Жук-Грышкевіча, старшыня згадзіўся застацца на пасадзе і на другі. Прычым, калі звярнуцца да пратакола, то выглядала гэта вельмі патэтычна: *«Сп. Уладзімер Русак, зьвяртаючыся да др-а Вінцэнта Жук-Грышкевіча, сказаў: “Дай Божа Вам да канца Вашага*

[74] Пратакол 14-ай Нечароднай Сэсіі Рады БНР, што адбылася 27 лістапада 1976 г.

[75] Пратакол 14-ай Нечароднай Сэсіі Рады БНР, што адбылася 27 лістапада 1976 г.

[76] Пратакол 14-ай Нечароднай Сэсіі Рады БНР, што адбылася 27 лістапада 1976 г.

*жыцьця быць Старшынёй Рады БНР". Агульная аклямацыя не давала др-у В. Жук-Грышкевічу прыйсьці да слова. Нарэшце ён мог сказаць, што пры супрацоўніцтве й дапамозе ўсіх радных ён згаджаецца застацца Старшынём Рады БНР на наступную кадэнцыю»*[77].

З пераабраннем Старшыні праблема з Сакратарыятам не вырашылася, і праз тры гады на чарговай сесіі было прынятае прынцыповае рашэнне: *«Дзеля таго, што трудна знайсьці ахвотнікаў прыняць функцыі Сакратарыяту, Старшыня Рады БНР др. В. Жук-Грышкевіч прапанаваў, каб функцыі Сакратарыяту пераняў Прэзыдыюм Рады БНР. Старшыня Рады БНР прапанаваў таксама, каб былыя сябры Прэзыдыюму Рады БНР былі пераабраныя ды дагэтулішнія сакратары былі ўключаныя ў Прэзыдыюм Рады БНР, а каб Сэсія яшчэ давыбрала сакратара вонкавых дачыненьняў, які быў-бы з ЗША»*[78]. Такім чынам, два кіруючыя органы, якія ўмоўна меліся быць часткамі заканадаўчай і выканаўчай улады, праз брак ахвотных у іх працаваць, аб'ядналіся. Напрыканцы другой кадэнцыі Старшыні Рады нарэшце з'явіліся асобы, што падзялілі між сабою адказнасць за вонкавыя сувязі: былі абраныя сакратар вонкавых сувязяў на Амерыку Расціслаў Гарошка ды сакратар вонкавых сувязяў на Еўропу Уладзімір Бортнік. У гэткім складзе, з нязменным Язэпам Сажычам, адказным за ветэранскія справы, ды Янкам Запруднікам за сакратара дакументацыі і інфармацыі, аб'яднаны з Прэзідыумам Сакратарыят стаў вынікам рэарганізацыйных намаганняў Вінцэнта Жук-Грышкевіча.

Праблемы з пошукам жадаючых працаваць у Радзе адлюстроўвалі агульную тэндэнцыю няўхільнага скарачэння цікаўных да яе ў найважнейшых рэгіёнах — Нью-Ёрку ды Нью-Джэрсі. Менавіта адсюль звычайна прыязджала асноўная частка ўдзельнікаў сесій. Саміх жа тых форумаў за часы Вінцэнта Жук-Грышкевіча адбылося сем, г. зн. яны праходзілі з сярэдняй перыядычнасцю больш як раз на два гады. У параўнанні з дзвюма сесіямі, што былі скліканыя цягам 1960–1970 гг., гэта было сапраўды адзнакай значнага ажыўлення дзейнасці.

Акрамя звычайных сесій, якія, здаралася, праводзіліся часцей як раз на тры гады[79], Вінцэнт Жук-Грышкевіч склікаў яшчэ дзве надзвычайныя (12-ю і 14-ю). Пры гэтым 12-я сесія ўпершыню за больш як 20 гадоў адбывалася не ў Нью-Ёрку, а ў Таронта. Не зусім зразумела, чаму 14-я сесія ў 1976 г., якая мелася скончыць шасцігадовую кадэнцыю Старшыні, была скліканая як нечарговая, а наступная, 15-я ў 1978 г., — была абвешчаная проста «юбілейнай».

---

[77] Пратакол 14-ай Нечароднай Сэсіі Рады БНР, што адбылася 27 лістапада 1976 г.

[78] Пратакол 16-й Звычайнай Чароднай Сэсіі Рады БНР, што адбылася 24 лістапада 1979 г.

[79] Прыкладам, 15-я (юбілейная) сесія адбылася 25 лістапада 1978 г., а 16-я — 24 лістапада 1979 г.

Адсачыць, як змянялася рэальная колькасць радных цягам 1970–1982 гг., не ўяўляецца магчымым. Вядома, што ў 1974 г. у спісах было 103 асобы[80] (для параўнання, у 1960 г. было 112 радных)[81]. Аднак колькасць тых, хто дасылаў ўпаўнаважанні ці прысутнічаў на сесіях сам, з часам змяншалася. Прычым калі колькасць намінальных удзельнікаў змянялася павольна ад 65 у 1971 г. да 58 у 1982 г., дык лік тых, хто прысутнічаў на сесіях асабіста, адрозніваўся больш істотна: ад рэкордных 40 радных у 1971 г. да 23 — у 1982 г. Адметным было тое, што перыядычна на сесіі сталі прыязджаць еўрапейскія прадстаўнікі, што адлюстроўвала паляпшэнне ўмоў мабільнасці беларускіх дзеячаў у параўнанні з 1950–1960 гг. Так, у 1971 г. на сесію прыехаў Віктар Сянкевіч з Іспаніі, у 1976 г. — мастак з Францыі Міхась Наўмовіч, чые працы экспанаваліся на ладжанай БІНіМам якраз у той час у Нью-Ёрку выставе, у 1978 і 1982 гг. — Уладзімір Бортнік з Нямеччыны, у 1982 г. таксама і Янка Міхалюк з Вялікабрытаніі. Акрамя таго, у 1974 г. на сесіі ў Нью-Ёрку прысутнічаў а. Аляксандр Надсан з Лондана, які радным не з'яўляўся, але быў запрошаны на пасяджэнне.

Цягам 1970-х гг. ішоў натуральны працэс сыходу старой эміграцыі, і на кожнай сесіі сябры ўшаноўвалі памяць памерлых. Так, у часы кіравання Вінцэнта Жук-Грышкевіча адышлі: Франц Кушаль, уладыка Васіль (Тамашчык), Сымон Кабыш-Кандыбовіч, Алесь Вініцкі, Віктар Войтанка-Васілеўскі, Язэп Гладкі, Лявон Савёнак, Аляксандр Стагановіч-малодшы, Алесь Грыцук, Янка Станкевіч, Станіслаў Станкевіч, Мікола Гарошка, Аўген Трусаў, Язэп Малецкі, Пётра Мікуліч і інш. Да таго ж у 1982 г. было паведамлена, што з Рады выйшаў сябра Аўстралійскага сектара Аляксандр Калодка. Праўда, прычыны гэтага дакладна невядомыя.

Разам з тым у Раду няспынна прымалі новых сябраў, асабліва з-за межаў Амерыкі. Праўда, у 1971 г. раднымі сталі беларусы з ЗША: Наталля Орса і Ала Орса-Рамана, Галіна Русак, Мікола і Марыя Войтанкі, Расціслаў Гарошка, Аляксандр Міцкевіч, Тамаш Супрун, Мікола Кучура, Генрык Макоўскі. Прычым калі першыя сем чалавек былі сваякамі былых ці дзейных радных, то апошнія тры — асобы ў беларускім руху практычна невядомыя і ў наступнай дзейнасці Рады сябе асабліва не выявілі. У 1972 г. у Раду былі прынятыя Хведар Лемяшонак з Брадфарда ды Хведар Кажаневіч з Манчэстэра, у 1973 г. — лонданцы Павел Навара і Павел Асіповіч, а таксама французскія беларусы Аўген Трусаў ды Лявон Шыманец і Івонка Сурвіла з Канады. У 1974 г. прымалі ў Раду аўстралійскіх беларусаў Міхася Лужынскага і Аркадзя Качана, у 1978 г. — французскіх Міколу Булыгу і Браніслава Нагорнага, а ў 1982 г. — Ларысу Урбан з Нямеччыны і Лёлю Міхалюк з Вялікабрытаніі. Такім чынам, Рада павялічылася на 23 асобы: спачатку ў значнай ступені

[80] Гл.: Пратакол 13-й Чароднай Сэсіі Рады БНР, што адбылася 30 лістапада 1974 г.

[81] Гл.: Пратакол 9-ай сесіі Рады БНР ад 12 траўня 1960 г. // Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР 1947–1970: Падзеі. Дакументы. Асобы. С. 330.

за кошт сваяцкіх сувязяў, а пазней — пераважна з ліку «неамерыканцаў». Пры гэтым выказаная Віктарам Войтанкам ідэя адмысловага прыцягнення ў Раду жанчын у пэўнай ступені рэалізавалася. Прынамсі 7 з 23 новых сябраў належылі да жаночага полу.

Абнаўленне складу радных за кошт рэгіёнаў, як было засведчана вышэй, не дазволіла цалкам вырашыць праблемы фарміравання цэнтральных органаў Рады, хоць і паспрыяла пэўнаму ажыўленню дзейнасці сектараў. Паводле задумы Вінцэнта Жук-Грышкевіча, яшчэ адным сродкам аздараўлення Рады павінна была стаць Ліга БНР. Яна, як грамадска-палітычная аснова для рэкрутавання будучых радных і забеспячэння падтрымкі БНР, была задуманная Вінцэнтам Жук-Грышкевічам яшчэ ў 1968 г. Аднак распачатая праца была афіцыйна спыненая ў 1973 г., бо пачалося ажыўленне дзейнасці Рады. Старшыня пісаў:

*«Сярод нашых сяброў радных ёсьць два погляды на склад Рады БНР. Адны думаюць, што Рада БНР ня мусіць быць вялікай па ліку сяброў, але затое павінна гуртаваць людзей добра выробленых грамадзка й палітычна, дзякуючы чаму Рада сталася-б больш рухавай і працаздольнай. Другія думаюць наадварот: чым больш сяброў радных — тым большая й мацнейшая маральна й матар'яльна Рада БНР, тым большыя магчымасьці працы. Гэтыя два погляды былі ўдавочнымі перад 10-ай сэсіяй, калі Рада БНР была ў заняпадзе. Тады здавалася, што ня ўдасца згуртаваць большага ліку радных і, каб мець лучнасьць і супрацоўніцтва ў бээнэраўцамі, што ня былі раднымі, паўстала думка стварэньня шырэйшай арганізацыі бээнэраўцаў — Лігі БНР.*

*На працягу апошніх 5 год — перамагла другая думка. Адрадзілася Рада БНР, ажывіліся ўсе ейныя сэктары. У 10-х сэктарах на трох кантынэнтах Рада БНР налічвае цяпер больш як 100 сяброў. У такой сытуацыі Ліга БНР страціла рацыю быту»*[82].

Аднак ужо ў 1977 г. ідэя зноў была пастаўленая на парадак дня. Так, у «Камунікатах», № 8, было абвешчана:

*«Жыцьцё й наша палітычная сытуацыя паказалі, што мы ня можам абыйсьціся без такой арганізацыі, як ЛІГА БНР. Гэта погляд шмат якіх радных, на прапанову якіх і пастаноўлена ўзнавіць арганізаваньне Лігі БНР. У Цэнтральны Арганізацыйны Камітэт Лігі БНР увайшлі: Старшыня — др. В. Жук-Грышкевіч, Старшыня Рады БНР, заступнік старшыні — сп. В. Кажан, Галоўны Скарбнік Рады БНР, сакратар — сп. В. Стома, старшыня сэктару Рады БНР у Нью Джэрзі, і сп. Янка Сурвіла, скарбнік Галоўнай Управы ЗБК.*

*У сакавіку 1969 г. былі разасланы ўсім радным Ідэёвыя Вытычныя Лігі БНР, Арганізацыйныя Інструкцыі Лігі БНР нр. 1, ды бляңкі сяброўскіх заяваў. Просьба да сяброў радных, каб прачыталі гэтыя друкі, выпаўнілі заявы і выслалі іх на адрас, паданы на першай бачыне "Камунікатаў". Калі хто ня*

---

82 У справе Лігі БНР // Камунікаты Прэзыдыюму і Сакратарыяту Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. № 4. Люты 1973. С. 2.

*мае ўспомненых друкаў, атрымае іх, як толькі паведаміць на той жа адрас. Радных, якія маюць Арганізацыйную Інструкцыю нр. 1, просім, каб зараз жа прыступілі да арганізаваньня Лігі БНР згодна з гэтай інструкцыяй.*

*Цэнтральны Арганізацыйны Камітэт Лігі БНР»*[83].

Аднак, відавочна, час для стварэння арганізацыі такога кшталту быў упушчаны. Ініцыятыва 1977 г. не атрымала належнага водгуку. Прынамсі, нам вядомая толькі заява на прыняцце ў Лігу, складзеная беларусам з Францыі Аўгенам Трусавым[84]. Магчыма, што былі і іншыя, аднак сама ідэя адраджэння Лігі БНР на наступных пасля апублікавання звароту трох сесіях, што адбыліся пры Вінцэнце Жук-Грышкевічу, таксама як і на пасяджэннях Прэзідыума, не абмяркоўвалася. Гэта можа быць сведчаннем таго, што праект так і застаўся нерэалізаваным.

Такім чынам, нягледзячы на відавочнае ажыўленне ў параўнанні з папярэднім дзесяцігоддзем нутранага жыцця Рады БНР, што выявілася ў наладжванні больш цеснай сувязі з рэгіёнамі ды інтэнсіўнай рэгулярнасці сесій, асноўная праблема — праблема неактыўнасці радных — цягам 1970–1982 гг. так і не была вырашаная. Гэта паўплывала і на складанасці з фарміраваннем цэнтральных органаў улады, і, адпаведна, на ўсе вынікі дзейнасці Рады.

## Фінансавыя справы

Дзякуючы лепшай захаванасці дакументаў Рады БНР з часоў Вінцэнта Жук-Грышкевіча мы можам больш дакладна прасачыць фінансавыя справы беларускага дзяржаўнага прадстаўніцтва. Калі ў папярэдні перыяд на сесіях і пасяджэннях за палітычнымі спрэчкамі да грашовых спраў часта чарга не даходзіла, дык цяпер фінансавыя справаздачы рабіліся рэгулярна і іх змест уключаўся найчасцей у тэкст пратаколаў. Праўда, праз тую самую слабую захаванасць фінансавых дакументаў папярэдніх часоў складана параўноўваць два перыяды. Затое ёсць магчымасць ацаніць дынаміку на працягу 1970–1982 гг.

Грашовая спадчына з часоў Міколы Абрамчыка, як і арганізацыйная, дасталася новаму старшыні з сур’ёзнымі нявырашанымі праблемамі. Наяўнасць у ранейшы перыяд прэзідэнта, які не меў сталых крыніц прыбытку, вымушала Раду скіроўваць большую частку сваіх сродкаў на пакрыццё выдаткаў (асабліва падарожных) свайго кіраўніка. З сыходам Міколы Абрамчыка скарбнік Віталь Кажан паставіў пытанне: *«Да гэтага часу сродкі Рады БНР у аснаўным былі выкарыстоўваныя для падтрымкі палітычнай дзейнасьці Прэзыдэнта й яго ўтрыманьне. Як будуць выкарыстоўвацца сродкі Рады сяньня?»*[85].

[83] Камунікаты Прэзыдыюму і Сакратарыяту Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. № 8. Сакавік, 1977. С. 4.

[84] Гл.: Жук-Грышкевіч, Раіса. Жыцьцё Вінцэнта Жук-Гршыкевіча. С. 640.

[85] Пратакол № 3 паседжаньня Рады БНР з дня 20-га чэрвеня 1970 г. // Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР 1947–1970: Падзеі. Дакументы. Асобы. С. 388.

На сярэдзіну 1970 г. найбольш актуальнымі выдаткамі стала пакрыццё коштаў пахавання Міколы Абрамчыка, што цалкам склала больш за 13 тысяч даляраў. Частку гэтай сумы (амаль палову) забяспечыла Згуртаванне беларусаў у Вялікабрытаніі, больш як 5 тысяч склалі прыватныя ахвяраванні некаторых суродзічаў з ЗША. Сама Рада на канец лета 1970 г. сабрала 1202 даляры на пакрыццё пахавальных выдаткаў[86]. Праўда, збіранне сродкаў на адмысловы «Фонд памяці Прэзідэнта» працягвалася і надалей. Аднак паступленні з часам сталі змяншацца, у тым ліку і ў сувязі з непаразуменнямі з пераайманнем архіва ад Ніны Абрамчык.

Для першых гадоў старшынёўства Вінцэнта Жук-Грышкевіча больш актуальным было пытанне не «куды выдаткоўваць грошы?», а «дзе грошы ўзяць?». Праблемы са збіраннем сяброўскіх складак сярод радных, што былі актуальнымі ўжо ў 1950-я, да пачатку 1970-х набылі асаблівую вастрыню.

Цікава, што пры абмеркаванні стану і перспектыў рэарганізацыі Рады БНР адна з прапаноў ужо згаданага вышэй арыгінальнага аўтара Віктара Войтанкі-Васілеўскага складалася з неабходнасці адмовіцца ад збірання сяброўскіх складак, і нават болей: *«Сяброўскіх складак радныя ня павінны плаціць, але, наадварот, Рада мае ім плаціць. Таму я падаваў думку ўладжаньня Народнай Грашоўкі, якая будзе плаціць радным умоўнымі грашыма, мянянымі на бягучыя грошы ў вызваленай БНР. Такжа грошы на дзейнасьць Рады БНР могуць быць у падобны спосаб: нутраная пазыка на 5 ці больш адсоткаў, зварочваная ўлажыўшаму часткова цяпер, а ў бальшчыні ў вольнай БНР. Кожны маючы грошы можа злажыць з даходам і з запэўненьнем спадчыны сваім спадкаемнікам…»*[87].

Прапанова раднага не была сур'ёзна ўспрынятая новым старшынёй, і Рада пайшла па ранейшым шляху збірання сяброўскіх складак, ці «нацыянальнага падатку». На 29 траўня 1971 г. у касе Рады БНР было 2419 даляраў[88]. Праз складанасці сувязі з сектарамі некаторыя не дасылалі ні справаздачы, ні сабраныя сродкі ў Скарб. Сітуацыя вымагала сур'ёзных захадаў. Ужо ў снежні таго ж года на пасяджэнні Прэзідыума і Сакратарыята Рады БНР была прынятая пастанова:

*«a. затрымаць ранейшую вышыню $2.00 у месяц сяброўскіх складак радных;*

*b. прадаўжаць збор "Дар Сакавіка";*

*c. пераказаць 50 процантаў даходаў сэктароў у Галоўны скарб; у выпадку патрэбы вышыня гэтых пераказваньняў можа быць зьменена»*[89].

---

86 Гл.: Прыбыткі й выдаткі на пахаваньне Старшыні Рады БНР Міколы Абрамчыка ў Парыжы (стан на 22.8.70) // Камунікаты Прэзідыюму і Сакратарыяту Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. № 2. Сьнежань 1970. С. 7.

87 Ліст В. Войтанкі да В. Жук-Грышкевіча і Правадыства Рады БНР ад 22.02.1971.

88 Гл.: Пратакол 11-й Сэсіі Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, што адбылася 29 траўня 1971 г.

89 Пратакол паседжаньня Прэзідыюму й Сакратарыяту Рады БНР з дня 18 сьнежня 1971 г.

У лютым 1973 г. у чарговым нумары «Камунікатаў» Вінцэнт Жук-Грышкевіч адмыслова звярнуўся да фінансавага стану Рады БНР. У зацемцы «Каб Каса не была пустая…» ён падаваў прыклад раднага Антона Адамовіча, які даў тысячу даляраў на паховіны Абрамчыка і папрасіў не вяртаць гэтыя грошы з Скарбу, а залічыць як сяброўскія складкі.

*«Другія — некаторыя сябры Прэзыдыюму й Сакратарыяту — ашчаджаюць касу Рады БНР тым, што расходы ў часе дзейнасьці й падарожжах па справах Рады БНР пакрываюць з сваёй кішэні»*[90], — пісаў Старшыня Рады, які і сам часта падарожнічаў за ўласны кошт. Гэтыя станоўчыя прыклады, тым не менш, не вырашалі агульнай сітуацыі: *«Наогул трэба прызнацца, што аплата складак раднымі й зьбіраньне іх у сэктарах — у шмат якіх выпадках запушчаныя. Відаць гэта з апошняй справаздачы Сакратара Фінансаў.*

*Сябры забываюцца, што сяброўскія складкі — гэта наш нацыянальны падатак, які мы задавязаліся плаціць згодна з вымогамі статуту. Гэта-ж адзіная сталая крыніца даходу Рады БНР, якая, калі занікне, спараліжуе ўсю дзейнасьць Рад БНР нават пры найлепшай палітычнай кан'юнктуры. І вінаваты ў гэтым будуць ня нашы ворагі, а мы самі! Занядбоўваньне аплаты такіх важных і вельмі-ж малых — складак у касу Рады БНР зусім ня ліцуе з нашымі ідэйнымі перакананьнямі й патрыятызмам»*[91].

Сапраўды, рашэнне пра абавязковасць збірання сяброўскіх складак было замацаванае пастановамі яшчэ на 8-й сесіі Рады БНР 1956 г. Не меней за 2 амерыканскія даляры штомесяц меўся выдаткоўваць кожны радны за выключэннем святароў, студэнтаў, пенсіянераў, а таксама тых радных, што не мелі працы[92].

Акрамя таго, у сектарах на розных беларускіх мерапрыемствах збіраліся ахвяраванні ў выглядзе «Дара Сакавіка», якія меліся цалкам перадавацца ў Скарб Рады БНР. Аднак адносна апошняга ўжо на 11-й сесіі Рады БНР адзін з радных, Янка Азарка, *«выказаў думку, што лісты ахвяраў на "Дар Сакавіка" ўжо сталіся неэфэктыўнымі, што ў часе збору кожнаму даводзіцца тлумачыць асабіста, на якую мэту робіцца збор. Трэба было-б вытлумачыць зараз усім, на якую мэту гэтыя грошы йдуць»*[93]. Тым не менш адмаўляцца ад закладзенай у першыя паваенныя гады традыцыі Рада не збіралася.

Першыя захады па наладжванні сталай сувязі і супрацы цэнтра з сектарамі далі свае вынікі ўжо ў 1974 г., калі, паводле справаздачы галоўнага

---

[90] Камунікаты Прэзідыюму і Сакратарыяту Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. № 4. Люты 1973. С. 6.

[91] Камунікаты Прэзідыюму і Сакратарыяту Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. № 4. Люты 1973. С. 6.

[92] Гл.: 8-ая Сэсіі Рады БНР // Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР 1947–1970: Падзеі. Дакументы. Асобы. С. 322.

[93] Пратакол 11-й Сэсіі Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, што адбылася 29 траўня 1971 г.

скарбніка, у касе Рады было ўжо 4896 даляраў[94]. Пры гэтым Кантрольная камісія, што зрабіла рэвізію фінансаў ад 1951 г., канстатавала, што на той пачатковы момант у касе было 26 даляраў, таму прагрэс у грашовых справах быў відавочны[95]. Тым не менш прыбытак ад сяброўскіх складак па-ранейшаму заставаўся невялікім. Найбольш акуратна яны збіраліся ў сектарах у Нью-Джэрсі і Аўстраліі.

У выніку разгляду фінансавых спраў і праблем з сяброўскімі складкамі 13-я сесія прыняла пастановы:

*1. Складка нацыянальнага падатку радных ад новага 1975 г. падвышаецца да мінімуму $3.00 на месяц, зь якіх трацiна ($1.00) пакiдаецца ў сэктары, а рэшту $2.00 сэктар высылае Галоўнаму скарбнiку Рады БНР.*

*2. Усе залегласьцi складак радныя павiнны аплацiць да 25 сакавiка 1975 г.*

*3. 13-ая Сэсiя абрала дзьве асобы — сп. Ул. Русака, скарбнiка сэктару ў Нью Ёрку, i сп. Я. Азарку, скарбнiка сэктару ў Нью Джэрзi, якiя па Новым (1975) Годзе разам з Галоўным скарбнiкам Рады БНР сп. В. Кажаном разгледзяць справу залеглых складак кажнага сябры, зробяць высновы й прапазыкi ды пададуць iх на разгляд Прэзыдыюму Рады.*

*4. Сэсiя даручыла аднаму зь ейных сакратароў, д-ру Раiсе Жук-Грышкевiч, паведамiць скарбнiкаў усiх сэктараў Рады БНР пра новыя пастановы што да сяброўства ў Радзе ды прасiць сэктары прыслаць у найблiжэйшым часе на рукi Галоўнага скарбнiка Рады БНР сп. В. Кажана наступныя дадзеныя: сьпiсак радных ды стан аплаты складак нацыянальнага падатку кажнага раднага данага сэктару»*[96].

Зробленыя захады прынеслі вынікі. Напрыканцы 1976 г. Старшыня Рады БНР канстатаваў, што *«Камiсiя па спаганяньню залегласьцяў радных у Касу БНР вельмi добра вывязалася са свайго абавязку»*, а стан кассы Рады БНР павялічыўся да 7090 даляраў[97]. Пры гэтым прыбыткі ад сяброўскіх складак павялічыліся больш як утрая. Пасля прызначэння скарбніка ў Нью-ёркскі сектар, ён выйшаў у лік лідараў па колькасці грошай, што пералічваліся ў Скарб.

Цягам наступных 1976–1979 гг. каса Рады БНР штогод папаўнялася ў сярэднім на 2–2,5 тысячы даляраў, а яе стан на канец 1979 г. складаў ужо 9230 даляраў[98]. Прыкладна гэткая ж дынаміка і стан захаваліся да канца кіравання Вінцэнта Жук-Грышкевіча. Такім чынам, намінальна цягам 1971–1982 гг. адбылося больш як патройнае павелічэнне Скарбу Рады БНР. Гэтая сітуацыя стала вынікам наладжвання працы сектараў і сувязі паміж сектарамі і цэнтрам, якую паставіў адным з гадоўных кірункаў сваёй

[94] Гл.: Пратакол 13-й Чароднай Сэсіі Рады БНР, што адбылася 30 лістапада 1974 г.

[95] Гл.: Пратакол 13-й Чароднай Сэсіі Рады БНР, што адбылася 30 лістапада 1974 г.

[96] Пратакол 13-й Чароднай Сэсіі Рады БНР, што адбылся 30 лістапада 1974 г.

[97] Гл.: Пратакол пасяджэння Прэзыдыюму Рады БНР з дня 3 студзеня 1976 году.

[98] Гл.: Пратакол 16-й Звычайнай Чароднай Сэсіі Рады БНР, што адбылася 24 лістапада 1979 г.

дзейнасці Старшыня Рады БНР. Праўда, цягам 1970-х гг. адбылася дэвальвацыя самой амерыканскай валюты, рэальны яе кошт зменшыўся. Тым не менш унутры Рады фінансавая сітуацыя істотна палепшылася ў параўнанні з ранейшымі часамі. Спрычынілася да гэтага і тое, што цяпер не трэба было цалкам пакрываць выдаткі старшыні. Маючы стабільны ўласны прыбытак (як пенсіянер і дзякуючы працы жонкі), Вінцэнт Жук-Грышкевіч значна менш каштаваў Радзе БНР, чым раней Мікола Абрамчык. Можна казаць пра тое, што агульныя выдаткі Рады ў 1970-я гг. зменшыліся.

У 1973 г. у тым самым нумары «Камунікатаў», дзе зважалася на абавязкі радных плаціць сяброўскія складкі, Вінцэнт Жук-Грышкевіч тлумачыў і тое, навошта Радзе патрэбныя грошы:

*«Нашто нам патрэбны грошы*

*Пэўная сума мусіць заўсёды быць у нашай касе на ўсякі надзвычайны выпадак ці патрэбу. Рада БНР — найпаважнейшая беларуская палітычная арганізацыя. Яна вядзе нашу палітыку, дбае пра рэпрэзэнтацыю беларускага народу й беларускай вызвольнай справы. А кожнаму ведама, што палітыка й рэпрэзэнтацыя вымагаюць шмат грошаў.*

*Рада БНР ёсьць адначасна й галавой беларускага вызвольнага руху і таксама ведама, што кажны вызвольны рух вымагае вялікіх выдаткаў.*

*Каб нармальна выконваць свае задтаньні, Рада БНР мусіла-б мець паважныя сумы грошаў згодна з апрацаваным бюджэтам, так, як гэта ёсьць у украінцаў, летувісаў і іншых.*

*Зразумелая рэч, што пры цяперашнім стане нашай арганізацыі ня можа быць мовы пра ўплянаваны бюджэт і патрэбныя сумы грошаў. Мы думаем хоць бы пра самае неабходнае для нашага нацыянальнага прэсьціжу, як арганізаваньне палітычных кантактаў і спатканьняў, дбаньне пра нашу прысутнасьць у розных міжнацыянальных і палітычных арганізацыях і зьездах. Нам патрэбна наша палітычная прапаганда й супрацьдзеяньне варожай прапагандзе. Нам патрэбны й паважнейшыя выданьні дзеля прапагандаваньня нашай справы й супрацьдзеяньня "навуковым" выданьням нашых суседзяў і ворагаў. У нас нават так важнае выданьне, як "Фактс он Белёруссія", выдаецца чуць не на ратараты, а не друкам… Нам патрэбная пэўная дзейнасьць дзеля ўзмацненьня нашай нутраной арганізацыі.*

*Гэтыя неабходныя патрэбы мы маглі-б заспакоіць у значнай меры, калі-б кожны з нас дбаў, "каб каса ня была пустая…"»*[99].

Хоць большую частку з таго, пра што згадваў старшыня, Радзе ўрэшце не ўдалося ажыццявіць, аднак пры змяншэнні выдаткаў на кіраўніцтва з'явілася больш магчымасцяў для падтрымоўвання тых ці іншых грамадскіх праектаў. Так, у 1974 г. тысячу даляраў Скарб пералічыў на выданне падручніка беларускай мовы для іншаземцаў, складзенага Валянцінай Пашкевіч. У той самы год яшчэ 520 даляраў дзеля гэтай мэты асобна выдаткаваў сектар у

[99] Камунікаты Прэзідыюму і Сакратарыяту Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. № 4. Люты 1973. С. 6–7.

Нью-Джэрсі[100]. У 1979 г. былі дадзеныя грошы на выданне кнігі Наталлі Арсенневай, а таксама на падтрымку Беларускай бібліятэкі імя Ф. Скарыны ў Лондане[101]. Знакавай ініцыятывай была невялікая грашовая дапамога, дадзеная ўкраінскаму мастаку Міколу Бытынскаму, аўтару надмагільнага помніка Пётры Крэчэўскаму ў Празе, які на пачатку 1970-х гг. жыў у Таронта і меў сур'ёзныя фінансавыя цяжкасці[102].

Былі і некаторыя нутраныя выдаткі. Акрамя канцылярскіх патрэбаў ды кампенсавання некаторых, не асабліва значных на агульным фоне, сумаў старшыні, цягам 1972–1973 гг. Рада выдаткоўвала грошы на друк ветэранскіх дыпломаў для сваіх сябраў[103]. Наогул жа, цягам 1970-х гг. выдаткі Скарбу былі істотна меншыя за прыбыткі, што дазваляла назапашваць сродкі і ўмацоўваць фінансавы стан усяе Рады. Гэтую тэндэнцыю можна лічыць яшчэ адным вынікам рэарганізацыйнай дзейнасці Вінцэнта Жук-Грышкевіча.

## Нутраныя канфлікты. Праблема дачыненняў з БЦР

У часы Міколы Абрамчыка ў Радзе БНР перыядычна паўставалі гучныя нутраныя канфлікты, вынікам якіх быў сыход тых ці іншых радных. Можна згадаць справу Леаніда Галяка, Аўгена Каханоўскага, Янкі Станкевіча, Кастуся Мерляка і іншых, пра што мы распавядалі ў папярэдняй кнізе. Перыяд Вінцэнта Жук-Грышкевіча ў гэтым сэнсе быў больш спакойны. Створаны паводле новага Статута Суд Рады практычна не меў працы. Афіцыйна была разгледжаная толькі адна справа, звязаная са звальненнем з працы у Фундацыі Крэчэўскага раднага Пётры Манькоўскага. Апошні ў 1974 г. звярнуўся ў Суд Рады, каб той разгледзеў правамоцнасць пазбаўлення яго працы і высялення з будынка.

Паводле тлумачэнняў кіраўніка Фундацыі Міколы Гарошкі, *«дырэкцыя была змушана звольніць яго з выконваных ім абавязкаў і адмовіць яму памешканьне як форму аплаты за выконваньне абавязкаў, паколькі паміж сп. Манькоўскім і кватарантамі стварыліся гэткія няпрыязныя дачыненьні, што пагражалі стратай кватэрантаў, а значыцца, і паважнымі фінансавымі стратамі»*[104].

У выніку ў Радзе, якая выступала фактычна заснавальніцай Фундацыі і мела з ёй адмысловае пагадненне, была створаная камісія ў складзе Наталлі Орсы, Уладзіміра Русака і Аляксандра Міцкевіча. Высновы камісіі былі агучаныя толькі праз тры гады ў 1977 г.: *«Камісія знайшла, што Фундацыя*

---

[100] Гл.: Пратакол 13-й Чароднай Сэсіі Рады БНР, што адбылася 30 лістапада 1974 г.

[101] Гл.: Пратакол 16-й Звычайнай Чароднай Сэсіі Рады БНР, што адбылася 24 лістапада 1979 г.

[102] Гл.: Пратакол Прэзыдыюму й Сакратарыяту Рады БНР у Нью Ёрку з дня 8 сьнежня 1972 году.

[103] Гл.: Пратакол 13-й Чароднай Сэсіі Рады БНР, што адбылася 30 лістапада 1974 г.

[104] Пратакол 13-й Чароднай Сэсіі Рады БНР, што адбылся 30 лістапада 1974 г.

*Крэчэўскага запраўды вымушана была звольніць сп. Пётру Манькоўскага з займанага ім становішча толькі дзеля стану ягонага здароўя»*[105].

Гэтае рашэнне не стала падставаю для сыходу Пётры Манькоўскага з Рады, а магчыма, што з улікам тэрміну, які прайшоў пасля звальнення, і не было ўжо для яго актуальным.

Іншы, больш сур'ёзны, але мала адлюстраваны ў пратаколах канфлікт быў звязаны з імем Станіслава Станкевіча, які адразу пасля афіцыйнага абрання Вінцэнта Жук-Грышкевіча на пасаду Старшыні напісаў заяву аб выхадзе з Рады наступнага зместу:

*«Ад часу, як толькі дасягнуў паўнагодзьдзя, я быў заўсёды наважаным, пасьлядоўным і актыўным бэзнэраўцам, бескампрамісным да грамадзкіх бязьдзейнікаў, а таксама да падыходу да людзей, прыцягваных на грамадзкія і палітычныя становішчы з асабістых ці вузка групавых, а не грамадзкіх меркаваньняў, — і гэткім жадаю застацца да канца.*

*У сувязі з гэтым зь сяньняшнім днём я перастаю быць сябрам Рады БНР.*

*Нью-Ёрк, 30 травеня 1971 г.*

*Д-р Станіслаў Станкевіч»*[106].

Больш канкрэтна прычыны свайго сыходу рэдактар газеты «Беларус» патлумачыў у лісце да Аляксандра Стагановіча, дзе згадваў, што яшчэ пры жыцці Міколы Абрамчыка ён падтрымоўваў кандыдатуру Вінцэнта Жук-Грышкевіча як пераемніка ў кіраўніцтве Рады.

*«Думалася тады, што д-р В. Грышкевіч, будучы чалавекам бясспрэчна ідэйным ды маючы аб'ектыўныя ўмовы для дзейнасьці, хоць і не дараўняе Абрамчыка, але прынамся будзе больш-менш на месцы. Тым часам па сьмерці Прэз. Абрамчыка, калі ён да апошняй Сэсіі Рады быў спачатку ягоным пасіўным заступнікам, а потым і пасіўным наступнікам, ды пры ўсіх іншых ягоных ходах, я пабачыў і зразумеў, што далей аставацца ў Радзе было б мэтазгодным адно ў выпадку, калі б у ейных радох мантаваць здаровую апазыцыю й рэчовай крытыкай змусіць да належнае дзейнасьці.*

*Вось жа роля гэткага апазыцыянэра для мяне выдалася цалкам немагчымай. Па-першае, не было ў мяне для гэтага ані часу, ані энэргіі, я бо й без таго маю па вушы работы ў сувязі з газэтай. Другое, такая апазыцыя, хай сабе й вельмі тактоўная, ня была б падтрыманая большасьцю сяброў Рады. Рэч у тым, што бальшыні сяброў Рады асабіста падабаецца гэная бязьдзейнасьць, бо бязьдзейнасьць кіраўніцтва дазваляе быць бязьдзейнымі ім самім, а займацца бесклапотна зарабляньнем даляраў. Таму адзіным магчымым для мяне крокам быў выхад з Рады БНР»*[107].

---

[105] Пратакол 14-ай Нечароднай Сэсіі Рады БНР, што адбылася 27 лістапада 1976 г.

[106] Заява С. Станкевіча захоўваецца ў фондзе Раісы Жук-Грышкевіч у Бібліятэцы і архіве Канады (Атава).

[107] Ліст. С. Станкевіча да А. Стагановіча ад 24.09.1972, змешчаны ў адпаведным раздзеле гэтай кнігі.

Пасля выхаду з Рады, які Станіслаў Станкевіч асабліва не афішаваў, ён працягнуў сваю працу на пасадзе рэдактара газеты «Беларус», якая ператварылася пад яго кіраўніцтвам ужо ў 1960-я гг. у найбольш вядомы і запатрабаваны беларускі перыёдык на Захадзе. Пачынаючыся як орган прабэээнэраўскага БАЗА і сутыкаючыся з пастаяннымі фінансавымі праблемамі, выданне паступова пераарыентавалася на шырэйшыя колы. Ад пачатку 1970-х гг. Станіслаў Станкевіч стаў змяшчаць на старонках газеты інфармацыю пра падзеі не толькі ў асяродках прыхільнікаў Рады БНР, сцвярджаць пра неабходнасць аб'яднання вакол «Беларуса» ўсіх суродзічаў «у вольным свеце».

Радныя БНР выказвалі засьцярогі адносна таго, што газета перастае быць выключна бээнэраўскай[108], аднак Станіслаў Станкевіч ужо не быў радным і ўплываць на яго было немагчыма. Са старонак газеты ён наўпрост звяртаўся да сваіх падпісчыкаў і ахвярадаўцаў. На пачатку 1974 г. у «Беларусе» з'явіўся своеасаблівы праграмны артыкул, які заканчваўся словамі:

*«Людзі могуць мець розныя пагляды на палітычныя пытаньні, належаць да розных грамадзкіх арганізацыяў і палітычных кірункаў. Але гэтыя і ім падобныя натуральныя ў дэмакратычных абставінах розьніцы не павінны атручваць грамадзкае атмасфэры й выклікаць узаемнага недаверу, сварак і варожасьці ды стаяць на перашкодзе ўзаемнаму супрацоўніцтву дзеля аднае-адзінае найвышэйшае ідэі — Вольнай і Незалежнай Беларусі.*

*Ня мае прынцыповага значаньня, якія канкрэтныя арганізацыйныя формы можа прыняць нашае сужыцьцё й супрацоўніцтва. Важна, каб гэтае сужыцьцё й супрацоўніцтва сталася фактам, каб усе Беларусы ў Вольным Сьвеце тварылі адну вялікую нацыянальную сям'ю. Гэтай важнай справе будзе непахісна служыць газэта "Беларус"»*[109].

У гэтых развагах не было асаблівай навізны. Ідэі аб'яднання беларусаў па-за палітычнымі перакананнямі перыядычна гучалі ў эміграцыйным грамадстве ад 1950-х гг. Праўда, для радных БНР яны часта заканчваліся выхадам з Рады. Больш за тое, на пачатку 1970-х сам Вінцэнт Жук-Грышкевіч настойваў на неабходнасці ладжання супольных мерапрыемстваў з палітычнымі апанентамі. На адной з сесій ён казаў: *«Намаганьні стварэньня Каардынацыйных камітэтаў, намаганьні сьвяткаваць супольна 25 Сакавіка, якое цяпер адбываецца супольна практычна ва ўсіх асяродках, апрача Нью Ёрку, і ёсьць гэтым асьцярожным, але пэўным крокам у напрамку супольнай мовы, лучнасьці й супрацоўніцтва ўсяе беларускае эміграцыі»*[110]. Аднак вольны ад абавязацельстваў перад Радай БНР Станіслаў Станкевіч вырашыў рэалізаваць уласную аб'яднаўчую ініцыятыву, не абапіраючыся

[108] Гэтыя заўвагі можна ўбачыць у розных пратаколах перыяду старшынёўства Вінцэнта Жук-Грышкевіча.

[109] Пачынаючы Новы Год // Беларус. № 201. Студзень 1974. С. 2.

[110] Пратакол 12-ай Нечароднай Сэсіі Рады БНР, што адбылася 21 красавіка 1973 г.

на арганізацыйны рэсурс, не ствараючы аб'яднаўчыя структуры, а выкарыстоўваючы ўжо даволі папулярную газету.

Відавочна, што Станкевіч перагледзеў уласныя погляды і стаўленне да БЦР, якое ў 1950-я гг., у час рэдагавання прабээнэраўскай газеты «Бацькаўшчына», было даволі жорсткае. У 1974 г. ён наўпрост пісаў да былога апанента — Прэзідэнта БЦР Радаслава Астроўскага:

*«...прыйшоў час, зьмяніліся абставіны, груповыя разыходжаньні між намі пачалі трациць сваю вайстрыню, а сярод усяго грамадзтва пачала высьпяваць здаровая думка, каб шукаць супольнае мовы спачатку хоць-бы ў вонкавых выступленьнях, а тады і ў нутраным нашым жыцьці й дзейнасьці.*

*Улічваючы гэтыя жаданьні, газэта "Беларус", на чале якой маю гонар стаяць, афіцыйна й фактычна ўзяла на сябе ініцыятыву шуканьня зьбліжэньня, паразуменьня й супрацоўніцтва між пасваранымі й падзеленымі групамі нашага грамадзтва»*[111].

Як і ў ранейшыя часы, новыя аб'яднаўчыя памкненні адразу здабылі не толькі прыхільнікаў, але і праціўнікаў, якія шукалі ў тым больш глыбокія прычыны. Прыкладам, чыкагскі радны Вацлаў Пануцэвіч пісаў да Вінцэнта Жук-Грышкевіча ў чэрвені 1974 г.: «*Вы, думаю, атрымалі апошні Нр "Беларуса" за травень 1974. Перад гэтым нумарам Стась езьдзіў у Клійлянд і Чыкага з дакладам пра Кастуся Каліноўскага ды збору грошай на выдавецкі фонд "Беларуса". Пра Каліноўскага ён прачытаў свій рэфэрат, надрукованы ў папярэднім нумары. Пры нагодзе ён сустрэўся з другой групай так зв. "зарубежнікаў" ды здабыў іхнюю некаторую падтрымку, аб чым загаласіў у апошнім нумары. Падтрымка гэтая не выяўляецца ў грашох, але ў камплімэнтах. Ведама, часамі камплімэнты даражэйшыя за грошы. Але ўся справа ня ў гэтым. Ён правёў асобную зборку з бнраўцамі ды пробаваў накінуць погляд, што ён, як рэдактар "Беларуса" выступіў з Рады БНР ды намагаецца накінуць ягоны погляд, зьяднаць усіх беларусаў пад штандарам газэты "Беларус", у якой ён праводзіць дзівосную кастрацыю беларускага вызвольнага руху. Нават супраць савецкіх контравэрсіяў. У яго ўяўленьні адно ён, Стась, пакліканы Богам ды гісторыяй да зьяднаньня эміграцыйнага разьбітага беларускага руху, хоць ён з Адамовічам былі аўтарамі беларускага квісьлінгства з вытыканьнем пальцамі на Астроўскага і ягоных адэптаў. Была створаная іменна імі хваравлівая анармальнасьць у беларускім руху, дагматычная закутасьць і варажнеча. Ці раз прыходзілася цярпець вынікі гэтай дурнаты? Калі я зьвяртаў увагу яму ў гэтай справе, Стась публічна ў Чыкага амаль на галаву станавіўся ды шукаў сабе падтрымшчыкаў ды аргумантаў дзеля сваёй палітычнай авантуры. Між іншага ён закранаў справу 30-х угодкаў так званага Другога Беларускага Кангрэсу, які адбыўся 27 чэрвеня 1944 г. у Менску. Усе мы былі за тое, каб гэтую дату адзначыць так у прэсе, як і ў арганізацыях адпаведнымі дакладамі. Стась, аднак, вы-*

[111] Ліст С. Станкевіча да Р. Астроўскага ад 29.09.1974, змешчаны ў адпаведным раздзеле гэтай кнігі.

*казваўся, што гэты Кангрэс ня быў Кангрэсам, а зборышчам беларусаў ды як быццам адно адхіліў маскоўска-бальшавіцкае права на Беларусь. У запраўднасьці Другі Кангрэс мае вялікае нацыянальна-палітычнае значэньне ў нашай мадэрновай гісторыі змаганьня за сваю дзяржаўную незалежнасьць. Ніякі іншы Масквой паняволены народ у часе Другой сусьветнай вайны ня меў магчымасьці склікаць пастанаўляючага Кангрэсу ды падаць усенародны голас за сваю дзяржаўнасьць ды аддзяленьне ад чырвонай Масквы, адхіляючы накінены рэжым з варожымі законамі ды арганізацыяй. Я ў сваім артыкуле аб сьвяткаваньні 25 Сакавіка спрытна зацытаваў запіс у Кангрэсовым рэкордзе ў прамовы кангр. Дэрвінскага (Іліной) у чэсьць 25 Сакавіка, дзе ён, умела аналізуючы беларускае змаганьне за сваю дзяржаву (БНР) у апошняй вайне (нота бэнэ: Ялта тут паставіла панявольныя вехі для многіх народаў), паказвае, як гераічны беларускі народ адзін запратэставаў на маскоўскі імпэрыялізм і ягонае "права" на Беларусь. Ці-ж гэта ня наш нацыянальны капітал? Трэба быць абмяжаваным тыпу Стася, каб выкінуць з майго артыкулу гэткую інфармацыю! Калі б БЦРаўцы сёньня ня ў сілах займацца старой "ваенкай", час іх да канца раззброіць, уключаючы ў рамы БНР Другую вайну, усе падзеі, установы ды гэты Кангрэс. Ня трэба баяцца складаных праблемаў. Наадварот — трэба ўмець іх інтэрпрэтаваць, разьвязваць. Стась гуляе ў "сальвэйтэра" беларускай справы. У запраўднасьці тут, хутчэй, нейкі паранаізм. Увесь апошні Нр. "Беларуса" шыты ў гэтым сэнсе белымі ніткамі. Усё гэта пішу Вам і для інфармацыі, і для нейкіх пошукаў, як выйсьці з імпасу — Стасявай "дыктатуры"?»*[112].

Невядома, што адказаў Вінцэнт Жук-Грышкевіч на гэты ліст, але заўвагі пра небээнэраўскую скіраванасць «Беларуса» зноў і зноў гучалі на сесіях Рады БНР.

Магчыма, аб'яднаўчыя захады Станіслава Станкевіча былі звязаныя не толькі з пераглядам ім сваіх ранейшых палітычных перакананняў, але і з прыкрымі жыццёвымі рэаліямі: газета «Беларус» цяпер не мела пабочнага фінансавання, як гэта было ў ранейшыя перыяды дзякуючы актыўнасці Міколы Абрамчыка. Сутыкнуўшыся з чарговымі грашовымі праблемамі ў верасні 1976 г., рэдактар звярнуўся да чытачоў і наўпрост прасіў аб грашовай дапамозе на ўтрыманне газеты. І заклік быў пачуты. Суродзічы з розных краін пачалі высылаць значныя сумы на «Выдавецкі фонд "Беларуса"», што дазволіла даволі аператыўна выйсці з фінансавага крызісу. Ужо на пачатку 1977 г. Станіслаў Станкевіч у артыкуле «Давер трэба апраўдаць», даючы справаздачу за атрыманыя грошы і наяўную значна палепшаную сітуацыю, абяцаў: *«Газэта "Беларус" будзе й далей ахвотна абслугоўваць і шукаць супрацоўніцтва з усімі Беларусамі ў Вольным Сьвеце, што, як і мы, стаяць на ідэйных пазыцыях Акту 25 Сакавіка, незалежна ад арганізацыйных формаў*

---

[112] Ліст В. Пануцэвіча да В. Жук-Грышкевіча ад 06.06.1974, захоўваецца ў фондзе БІНіМа ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва.

*іхнага палітычна-грамадзкага жыцьця й дзейнасьці, але пад умоваю, што гэтыя формы нічым не пярэчаць нашай нацыянальна-вызвольнай ідэі»*[113].

Менавіта гэты артыкул і згаданае абяцанне выклікала бурную рэакцыю Старшыні Рады БНР, які ў траўні 1977 г. змясціў у чарговым нумары «Камунікатаў Прэзідыюму і Сакратарыяту Рады БНР» адмысловую зацемку пад назвай «Газэта “Беларус” сыйшла з бээнэраўскіх пазыцый». Дзеля важнасці для наступнай дыскусіі прывядзем тэкст цалкам:

*«Былі галасы пра гэта на 14-ай сэсіі Рады БНР і ніхто ўжо ім не пярэчыў. Сам рэдактар “Беларуса” ў артыкуле “Давер трэба апраўдаць” (гл. № 237 за студзень 1977 г. абзац сёмы) кажа, што газэта яго стаіць на пазыцыях Акту 25 Сакавіка і будзе надалей ахвотна абслугоўваць усіх беларусаў у вольным сьвеце, што стаяць на гэтых пазыцыях і супрацоўнічаць зь імі… “незалежна ад арганізацыйных формаў іхнага палітычна-грамадзкага жыцьця і дзейнасьці” (падкрэсьленьне наша).*

*1. Рада БНР ня толькі стаіць на пазыцыях Акту 25 Сакавіка, але, ад самага пачатку свайго існаваньня вяла й вядзе барацьбу за зьдзяйсьненьне Акту 25 Сакавіка ды была й ёсьць кіраўніком беларускага вызвольнага руху. Гэтага рэдактар “Беларуса” не прызнае ўжо, ён толькі “стаіць на пазыцыях Акту 25 Сакавіка”.*

*2. Газэта “Беларус” будзе абслугоўваць усіх беларусаў у вольным сьвеце і супрацоўнічаць зь імі “незалежна ад арганізацыйных формаў іхняга палітычна-грамадзкага жыцьця й дзейнасьці” (падкрэсьленьне наша) — кажа рэдактар “Беларуса”, гэта знача і з зарубежнікамі ці БЦР, бо, апрача Рады БНР, другой палітычна-грамадзкай арганізацыі ў нас ёсьць толькі БЦР, якая паўстала ня з волі Беларускага Народу, як БНР, а з волі гітлераўскага гэнэрала Готбэрга. І нягледзячы на гэта, рэдактар “Беларуса” ставіць нават самазваную БЦР на раўні з Радай БНР. Для яго няважна, што вайна кончылася 32 гады назад, а зь ёю скончылася й БЦР. 24 верасьня 1945 г. аднагалоснай пастановай свайго пленуму БЦР была разьвязана. Але для рэдактара “Беларуса” гэта ня мае значаньня, для яго існуе далей самазваная БЦР і ён гатоў супрацоўнічаць зь ёю й абслугоўваць яе.*

*А што людзі прысылаюць шмат грошы на “Беларуса”, дык хіба што таму, што, на вялікі жаль, гэта ёсьць адзіная месячная беларуская газэта»*[114].

Гэткі эмацыйны тэкст ад імя Старшыні Рады БНР, напісаны ў рэчышчы дыскусій канца 1940-х гг., скіраваны супраць даволі папулярнай у асяроддзі беларускіх эмігрантаў, у тым ліку і прыхільнікаў Рады БНР, газеты, не мог застацца незаўважаным. Да Вінцэнта Жук-Грышкевіча сталі звяртацца радныя па тлумачэнні, і ў ягоным архіве захавалася некалькі адказаў, якія больш яскрава ілюструюць ягоную пазіцыю да таго, што адбывалася з

[113] Давер трэба апраўдаць // Беларус. № 237. Студзень 1977. С. 2.

[114] Газэта «Беларус» сыйшла з бээнэраўскіх пазыцый // Камунікаты Прэзыдыюму і Сакратарыяту Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. № 8. Травень 1977. С. 2–3.

удзелам Станіслава Станкевіча. Вось, напрыклад, што ён пісаў у лісце да Міколы Ганько 11 траўня 1977 г.

*«Дарагі Мікола,*

*Дзівяць мяне твае закіды супроць “Камунікатаў” № 8; або ты наіўны, або ня думаеш і не разумееш, аб што ходзіць. Па-твоему выходзіць, што Станкевіч за нац. аб’еднаньне Беларусаў, а я супраць. Ты-ж быў сьветкам, як я дбаў ня толькі аб Каард. Камітэт у Канадзе, але й аб цэнтр, што аб’ядноўваў бы ўсю белар. эміграцыю. З гэтага ня вынікае, што ўва ўсіх маюць быць аднолькавыя погляды, скажам, партыйныя. На шчасьце ці няшчасьце, у нас партыяў няма. Але ёсьць нацыянальна-дзяржаўная ідэалёгія — бээнэраўская, абапёртая на трох устаўных граматах, якая забавязвае ўсіх беларусаў незалежнікаў. За зьдзяйсьненьне гэтай ідэялёгіі беларусы змагаюцца блізка 60 год на чале з Радай БНР і пад яе кіраўніцтвам. Калісь у “Бацькаўшчыне” Станкевіч ня толькі стаяў на гэтых пазыцыях, але й высьмейваў тых, што “толькі стаяць на Акце 25 Сакавіка”, а пра змаганьне за яго нават не заікаюцца. Даходзіў нават да нясмачных крайнасьцяў, калі БЦРаўцаў называў “квісьлінгамі”. Пад нямецкай акупацыяй БЦР ня была ані квісьлінкам у адносінах да БНР, ані супернікам яе, бо ня была дзяржаўнай інстытуцыяй, а толькі створанай немцамі адміністрацыйнай установай ці арганізацыяй пад нямецкай акупацыяй, зразумела, бязь ніякіх дзяржаўных прарагатываў і прэтэнсіяў да іх. Пад гітлероўскай акупацыяй інакш і быць не магло. І добра, што тады БЦР была, шмат у чым яна вывязалася з сваіх заданьняў ня блага, безь яе магло б быць горш. І зусім нармальна, што з канцом вайны БЦР перастала істнаваць, выказаўшыся перад гэтым на т. зв. “Другім-Усебеларускім Кангрэсам” што яна прызнае БНР. Бяда пачалася тады, калі ўжо на эміграцыі была створана самазваная БЦР з прэтэнсыямі да беларускай дзяржаўнай установы й ураду, як канкурэнт Рады БНР і ўраду. І цяпер усім нам ведама, што ў вольным сьвеце істнуюць у Беларусаў правамоцная Рада БНР і самазваная БЦР. Іншых палітычных арганізацыяў ці нават груповак няма. І калі Ст. Ст. у артыкуле “Давер трэба апраўдаць” кажа, што “Беларус” будзе адслугоўваць усіх беларусаў і спрацоўнічаць зь імі “незалежна ад арганізацыйных формаў іхнага палітычна-грамадзкага жыцьця й дзейнасьці” — знача супрацоўнічаць і з самазванай БЦР і ейнымі прыхільнікамі. Кажучы так, Ст. Ст. ня толькі сышоў з пазыцыяў БНР, як асьцярожна я адзначыў у “К-х” № 8, ён задэкляраваў нават супрацоўніцтва з БЦР, інакш кажучы паставіў сьвечку і Богу і чорту, не гаворачы ўжо, што гэта абсурд сам па сабе. Бо калі б яму хадзіла толькі аб нацыянальнае зблізжэньне, супрацоўніцтва й грамадзкае аб’яднаньне — ня трэба было яму ўжываць слоў “незалежна ад... палітычна-грамадзкага жыцьця і дзейнасьці”, або хоць бы выкінуў слова палітычнага. Мы ўсе за збліжэньне, супрацоўніцтва й аб’яднаньне беларускага грамадзтва незалежна нават ад палітычна партыйнай розьніцы (як у кожным дэмакратычным грамадзтве), але нацыянальна-дзяржаўная ідэялёгія — у нас толькі адна: БЭЭНЭРАЎСКАЯ. Яе прызнала й БЦР на сваім кангрэсе. І мы*

*ня маем права паступацца ёю, занядбоўваць ці зракацца яе. Гэта было б раўназначна здрадзе»*[115].

У працяг гэтаму Вінцэнт Жук-Грышкевіч пісаў адказ адразу на два лісты з Аўстраліі — ад Аўгінні Каранеўскай і Аляксандра Калодкі. Сутнасць яго тлумачэнняў была вельмі падобная да папярэдніх развазаг:

*«1. Такі падыход нелягічны, бо бээнэраўская газэта ня можа абслугоўваць БНР і БЦР, якія адна другую выключаюць; нельга ж супрацоўнічаць з тым, хто хоча цябе зьнішчыць, ды яшчэ абслугоўваць яго, гэта знача дапамагаць яму зьнішчыць сябе. 2. Калі ставіцца аднолькава да БНР і БЦР — дык гэта знача прызнаваць самазваную эмігранцкую БЦР як роўную з БНР, што ёсьць шкодным для нашай справы. Ужо мы можам бачыць вынікі такой пастаноўкі справы. Па сьмерці Астроўскага БЦР пачала заняпадаць. Але як БЦРаўцы падачылі прыхільнае да іх адношаньне "Беларуса" — адразу пачалі задзіраць насы й зактывізаваліся. Гэта можна пабачыць ува ўсіх нашых асяродках. Рэдактар "Беларуса" зрабіў вялікую памылку, што апублікаваў сваю дэкларацыю, Можна было супрацоўнічаць бязь ніякай дэкларацыі на дэмакратычных прынцыпах дабра для беларускай справы. Такое супрацоўніцтва вядзецца ад даўна ўжо ў каардынацыйных камітэтах і ў Канадзе, і ў Эўропе, і ў Аўстраліі, і ў ЗША ўжо, пры якім ня трэба паступацца БНРаўскай ідэялёгіяй. […]*

*І яшчэ штось. Я маю ўражаньне, што ў Н. Ёрку вядзецца супраць мяне нагонка ня столькі за зацемку пра "Беларуса" (шмат хто з зацемкай пагаджаецца), колькі за зацемку ў "К" № 8 "У справе Фундацыі Крэчэўскага". Перад усім гэта тыя, што ў РБНР бачаць толькі сымбаль. На чале іх праф. Адамовіч»*[116].

Невядома, ці задаволілі тлумачэнні Старшыні Рады аўстралійскіх беларусаў, аднак прыкладна ў гэты час Аляксандр Калодка абвясціў аб сваім выхадзе з шэрагу радных. Не знойдзена доказаў, што гэта было наўпрост звязана з падзеямі вакол газеты «Беларус», аднак дзеяч з Мельбурна стаў другім пасля Станіслава Станкевіча беларусам, што афіцыйна пакінуў Раду БНР за часам Вінцэнта Жук-Грышкевіча. Іншых выпадкаў не было.

Часам узнікае ўражанне, што ў закідах Вінцэнта Жук-Грышкевіча Станіславу Станкевічу было больш асабістага, чым грамадскага. Падтрымоўваючы аб'яднаўчыя памкненні ў беларускіх асяродках у прынцыпе, ён выступаў, хутчэй, супраць таго, што яны адбываліся ў некантраляванай Радай БНР форме, не пад яе (яго) кіраўніцтвам, без выразнага палітычнага кантэксту, не праз прызнанне прыхільнікамі БЦР Рады БНР адзіным дзяржаўным прадстаўніком беларусаў.

---

[115] Ліст В. Жук-Грышкевіча да М. Ганько ад 11.05.1977. Захоўваецца ў фондзе Раісы Жук-Грышкевіч у Бібліятэцы і архіве Канады (Атава).

[116] Ліст да А. Каранеўскай і А. Калодкі ад 22.12.1977. Захоўваецца ў фондзе Раісы Жук-Грышкевіч у Бібліятэцы і архіве Канады (Атава).

Сам Станіслаў Станкевіч звязваў тое, што адбываецца, з асабістымі якасцямі Старшыні Рады БНР.

*«Вось-жа што да д-ра Грышкевіча, дык мая думка такая: узяўся за гуж, хоць і ня дуж, хаця, на жаль, уважае (ня вылучны тут уплыў і ягонай жонкі), што даволі яму адно аднавіць фізычна ды яшчэ страшыць, што, маўляў, адмовіцца ад прэзыдэнцтва, дык ужо гэтага й хопіць. Праўда, у нас ня было іншага лепшага кандыдата, бо кандыдат на ягонае становішча мусіў-бы мець тры наступныя перадумовы: першая — дастаткова вольнага часу, другое — быць матарыяльна незалежным і добра сытуваваным, трэйцяе — быць ідэйным Беларусам. Усе гэтыя перадумовы ён меў. […] Мяне асабліва зразіла да яго тое, што, здабыўшы становішча прэзыдэнта, пачаў вакол сябе тварыць кліку запраўдных ці ўяўных аднадумцаў ды ўцягваць у Раду БНР ня толькі людзей, што ў той час былі на в'етнамскім фронце зусім ня ў беларускіх справах, ды ўцягваць у Раду паслухмяных сабе людзей цэлымі сем'ямі. А каб не астацца ззаду ад Астроўскага, дык пачаў і ён назначаць "генэралаў" зь людзей радавых ня толькі ў вайсковых дачыненьнях, але і ў грамадзкіх беларускіх (прыкладам, ведамы дэтройцкі "генэрал"!). Найгорш тое, што літаральна ніхто з гэнае клікі нат не пашавяліў мазгамі, каб знайсьці нейкі выхад з такой сытуацыі»*[117].

Станіслаў Станкевіч, відаць, пачуваўся даволі ўпэўнена ў правядзенні свае аб'яднаўчае лініі ў газеце «Беларус». І датрымоўваў яе да самай сваёй смерці ў лістападзе 1980 г. Але з ягоным сыходам крыўда Вінцэнта Жук-Грышкевіча на газету «Беларус» не скончылася. На апошняй сваёй сесіі Старшыня Рады БНР скардзіўся ўжо на палітыку новага рэдактара газеты Янкі Запрудніка: *«Калі ходзіць аб беларускую прэсу і асабліва "Беларуса", дык вельмі-ж ужо стараліся, каб ня ўспомніць майго імя як Старшыні Рады БНР, а калі ўжо было неабходна напісаць пра мяне, дык стараліся хаваць зацемку з маім прозьвішчам як найдалей. Так, у Нр. 303–304 "Беларуса" за жнівень-верасень 1982 г. на першай бачыне было зьмешчанае прывітаньне Прэзыдэнта ЗША Рональда Рэйгана 15-й Сустрэчы беларусаў Паўночнае Амэрыкі, а маё прывітаньне гэтай Сустрэчы як Старшыні Рады БНР было зьмешчанае на трэйцяй бачыне. Дык амэрыканскаму Прэзыдэнту чэсьць і пашана на першай бачыне, а свайму беларускаму Прэзыдэнту прыніжэньне й зьнявага — надрукавалі ягонае прывітаньне, але на трэйцяй бачыне — як пад сталом. І каго тут абразілі, Жук-Грышкевіча? Вельмі памыліцца той, хто так падумае, бо ў гэтым выпадку абразілі беларускага Прэзыдэнта, беларускае нацыянальнае імя, беларускі нацыянальны прэстыж. Дык ходзіць аб нацыянальны прэстыж, а не аб асобу»*[118].

---

[117] Ліст С. Станкевіча да А. Стагановіча ад 30.04.1978, змешчаны ў адпаведным раздзеле гэтай кнігі.

[118] Пратакол 17-ай Звычайнай Чароднай Сэсіі Рады БНР, што адбылася 27 лістапада 1982 г.

Такім чынам, праблемы дачыненняў Вінцэнта Жук-Грышкевіча з газетай «Беларус» аказаліся нявырашанымі цягам усяго перыяду яго старшынёўства. І хоць Ст. Станкевіч ужо афіцыйна не быў радным, канфлікт усё ж меў характар нутранага для Рады, бо закрануў найперш і найбольш менавіта яе сябраў.

Агульны характар нутранага жыцця Рады БНР у час Вінцэнта Жук-Грышкевіча заўважна змяніўся ў параўнанні з папярэднім перыядам. Адбылося ажыўленне дзейнасці сектараў, прыбыло больш як два дзясяткі новых сябраў, палепшыўся фінансавы стан. Разам з тым нежаданне большасці радных удзельнічаць у кіраўнічых структурах стварала праблемы для дзейнасці Рады шмат у якіх важных кірунках.

## ВЫДАВЕЦКАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ

Традыцыйна важным і праблемным кірункам актыўнасці Рады БНР была выдавецкая праца. Разумеючы значнасць наяўнасці ўласнага інфармацыйнага выдання для наладжвання сувязяў з раднымі ў рэгіёнах, Вінцэнт Жук-Грышкевіч яшчэ ў 1970 г. пачаў клапаціцца пра адраджэнне бюлетэня Рады. Папярэдняя спроба ў гэтым кірунку скончылася ў 1962 г., калі ўбачыў свет другі і апошні нумар «Бюлетэня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі». Новае выданне мела першапачатковаю назву «Камунікаты Прэзыдыюму і Сакратарыяту Рады Беларускай Народнай Рэспублікі», і першы ягоны нумар выйшаў ужо ў ліпені 1970 г. Змест складаўся з інфармацыі пра пераняцце паўнамоцтваў пасля смерці Міколы Абрамчыка, Фонд яго памяці ды розныя бягучыя моманты. Месцам выдання быў пазначаны Нью-Ёрк, а падрыхтоўкай яго займаўся старшыня Сакратарыята Янка Запруднік.

У снежні 1970 г. ўбачыў свет ужо другі нумар «Камунікатаў», а ў траўні 1971 г. — трэці. На гэтым у выданні атрымаўся амаль двухгадовы перапынак, які быў звязаны з тым, што Янка Запруднік, заняты сваёй доктарскай дысертацыяй, адмовіўся ад пасад у Сакратарыяце. Працягваць падрыхтоўку перыёдыка давялося самому новаму старшыні Рады. Нездарма на № 4, што выйшаў у лютым 1973 г., месцам выдання было пазначана Таронта, а ў саміх «Камунікатах» — змешчана агульнае тлумачэнне затрымкі выхаду:

*«Ад выдавецтва*

*Ад выданьня “Камунікатаў” № 3 прайшло чуць не два гады. Чарговы нумар не магчыма было выдаць з прычын тэхнічных. Як бачыце, гэты № 4 “Камунікатаў” выходзіць не ў Нью-Ёрку, а ў Таронта — таксама з прычын тэхнічных. Гдзе выйдзе наступны нумар — у Нью Ёрку ці ў Таронта, — таксама цяжка сказаць. Ды гэта й ня так важна. Важна тое, што “Камунікаты” выдае Сакратар’ят Інфармацыі Рады БНР. Матар’ялы й інфармацыі прасьба высылаць на канцылярыю Старшыні Рады БНР»*[119].

---

[119] Камунікаты Прэзыдыюму і Сакратарыяту Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. № 4. Люты 1973. С. 2.

З часам Таронта як месца выдання змянілася на Бэры, а Вінцэнт Жук-Грышкевіч да свайго сыходу сам займаўся справамі «Камунікатаў».

Рэакцыя радных на інфармацыйнае выданне адпачатку была станоўчая. У «Камунікатах» можна было знайсці найвайжнейшую інфармацыю пра дзейнасць Рады і асобных сектараў, абвесткі, матэрыялы для дыскусій. Віталь Кажан у 1973 г. заўважаў: *«Выдаваньне “Камунікатаў Рады БНР” — гэта адно з самых галоўных, бо дзякуючы камунікатам сярод сяброў Рады будзе жыць “сямейнае пачуцьцё”, лепшая праца ў сэктарах на мясцох і напэўна багацейшая Галоўная Каса БНР»*[120].

Адпачатку змест «Камунікатаў» абмяркоўваўся на пасяджэннях Прэзідыума. Аднак з часам Вінцэнт Жук-Грышкевіч заняўся перыёдыкам больш самастойна, а пасля публікацыі ў № 8 зацемкі адносна супрацьбээнэраўскай пазіцыі газеты «Беларус» сябры Прэзідыума, нязгодныя з такой пастаноўкай пытання, прапанавалі змяніць назву выдання на «Камунікаты Рады Беларускай Народнай Рэспублікі». Старшыня Рады БНР патлумачыў, што *«выдаваньне “Камунікатаў” не належыць да ягоных абавязкаў, і ўзяўся ён за гэту справу толькі таму, што пасьля першага нумару, які выдаў др. Запруднік як Старшыня Сакратарыяту, і другога й трэцяга, якія апрацаваў Старшыня Рады, а выдаў Др. Запруднік, “Камунікаты” ня выходзілі больш году. Абяцалі ўзяцца за гэтую справу сп-ры Шукелойць і Русак, але дзеля якіхсьці прычын не ўзяліся. А без камунікацыі з сэктарамі й раднымі нельга было вясьці ніякай працы ў Радзе БНР. Таму Старшыня Рады ня меў іншага выхаду, як самому ўзяцца за выдаваньне “Камунікатаў”. Бяручы пад увагу час і адлегласьці, паразумевацца зь сябрамі Прэзыдыюму адносна зьместу й парушаных спраў у “Камунікаце” проста немагчыма: “Ніхто не паразумеваўся са мной пры выданьні “Камунікатаў” Нр. 1, і я ня меў да нікога прэтэнсыяў за гэта, бо разумеў, што справа такога паразумеваньня ў кажным выпадку з усім Прэзыдыюмам Рады ёсьць вельмі скамплікаванай. А з другога боку, па меры патрэбы, “Камунікаты” выходзіць мусяць, таму я ня маю нічога супраць таго, каб выдаваць “Камунікаты” ад імя Канцылярыі Старшыні Рады БНР. У “Камунікатах” вельмі пажадана дыскусія, каб ажывіць наша жыцьцё й выясьніць шмат якія справы. Таму я лічыў, што было-б вельмі пажадана, каб калі хтось не згаджаецца з чымсь у “Камунікатах”, прадставіў там свой погляд пра гэта, чым узбагаціў-бы “Камунікаты” з карысьцяй для справы БНР”. Так выясьніў сваё становішча Старшыня Рады БНР»*[121]. У выніку ад лістапада 1977 г. Прэзыдыум і Сакратарыят афіцыйна больш не гучалі ў назве перыёдыка.

Нягледзячы на поспех у параўнанні з папярэднімі спробамі выдання ўласнага БНРаўскага органа, адных колькістаронкавых, пераважна інфармацыйных, «Камунікатаў» для эфектыўнага пашырэння ідэй БНР было

[120] Дадатак да пратакола 12-й сесіі Рады БНР, змешчаны ў адпаведным раздзеле гэтай кнігі.

[121] Пратакол паседжаньня Прэзыдыюму Рады БНР з дня 23 травеня 1977 году.

недастаткова. Ужо ў 1972 г. Мікола Ганько прапаноўваў: *«выдаваць “Камунікаты” ратататарам, а “Бюлетэнь Рады БНР” — друкам. У “Бюлетэні” парушаліся-б справы ідэалягічнага характару. Тады “Бюлетэнь” меў-бы ўзгадаваўчы характар»*[122]. Праўда, пры браку ахвотных выдаваць і «Камунікаты» на выдаўцоў яшчэ і «Бюлетэня» ніхто не знайшоўся. Надалей на пасяджэннях Прэзідыума і сесіях рэгулярна згадвалася пра неабходнасць «бээнэраўскай прэсы». На нарадзе еўрапейскіх сектараў Рады БНР у 1979 г. абмяркоўвалася нават пытанне адраджэння выдання «Бацькаўшчыны» ў Мюнхене як выразнай прабээнэраўскай газеты[123]. Улічваючы канфлікт з Станіславам Станкевічам і газетай «Беларус», ідэя была актуальная, але ўтапічная, тым больш што рэдактарам «Бацькаўшчыны» некалі быў той самы Станкевіч. У выніку ў 1979 г. Вінцэнт Жук-Грышкевіч мусіў зноў канстатаваць: «*Ня маем мы таксама БНР-аўскага друкаванага воргану, які-б прапагаваў ідэалёгію БНР ды інфармаваў пра дзейнасьць Рады БНР»*[124].

Такім чынам, па-за «Камунікатамі», што працягвалі выходзіць і пасля сыходу Вінцэнта Жук-Грышкевіча, спецыяльных друкаваных органаў Рады цягам 1970–1982 г. не было створана. Што ж дачытыць друку паасобных выданняў, то аснову выдавецкай прадукцыі Рады БНР склалі матэрыялы прагматычнай скіраванасці, патрэбныя для дасылкі ў сектары і іншыя арганізацыі: пратаколы сесій, статуты, рэзалюцыі, пастановы і г. д.

Аднак, як адзначалася вышэй, фінансавае становішча Рады паляпшалася, і на яе пасяджэннях выказваліся прапановы аб неабходнасці падтрымкі іншых выдавецкіх праектаў. Найчасцей гучала прапанова друку матэрыялаў, прысвечаных самой БНР. Прыкладам, ужо ў 1971 г. радныя з Мельбурна сцвярджалі: *«Як найхутчэй трэба апрацаваць і выдаць хаця кароткую гісторыю Рады БНР, абслугоўваючы яе дакумэнтальнымі фактамі»*[125]. У 1976 г. прапанова Аўстралійскага сектара прагучала зноў: *«Трэба выдаць друкам па-беларуску й па-ангельску матар’ялы пра Раду БНР й брашуру аб Беларусі. Кошты выдавецтва пакрыць часткова са Скарбу Рады, а часткова з даходаў з Фундацыі Крэчэўскага»*[126].

Патрэба гэткага выдання была відавочная для радных. І у тым самым 1976 г. пра збіранне матэрыялаў для такой кнігі паведаміў д-р Янка Запруднік:

*«У 1977 годзе, у сьнежні, споўніцца 60 гадоў ад першага Ўсебеларускага Кангрэсу й 30 гадоў ад часу аднаўленьня ў 1947 г. дзейнасьці сучаснае*

---

[122] Пратакол паседжаньня Прэзыдыюму й Сакратарыяту Рады БНР… 15 траўня 1972 г.

[123] Гл.: Канфэрэнцыя эўрапэйскіх сэктараў Рады БНР // Беларус. № 266. Чырвень 1979. С. 2.

[124] Пратакол 16-й Звычайнай Чароднай Сэсіі Рады БНР, што адбылася 24 лістапада 1979 г.

[125] Камунікаты Прэзыдыюму й Сакратарыяту Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. № 3. Травень 1971. С. 7.

[126] Пратакол 14-ай Нечароднай Сэсіі Рады БНР, што адбылася 27 лістапада 1976 г.

*Рады БНР. Да гэтага часу й прапануецца, каб Рада БНР выдала зборнік дакумэнтаў з гісторыі беларускага незалежніцкага руху 1917–1918 гадоў. Зародак гэткага зборніка ўжо ёсьць у форме апублікаваных дакумэнтаў у кнігах "Запісаў" Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Нью Ёрку. У міжчасе набралася й новага матар'ялу.*

*Др. Запруднік запрапанаваў прыняць пастанову, каб Рада БНР выдала матарыялы БНР. Прапанова гэта была прынята аклямацыяй.*

*На прапанову др-а Янкі Запрудніка (праз аклямацыю) у склад рэдакцыйнае камісіі для выданьня зборніка былі абраныя: др. Вінцэнт Жук-Грышкевіч, праф. Антон Адамовіч і др. Янка Запруднік»*[127].

Ідэя выдання зборніка дакументаў з гісторыі Рады БНР была падтрыманая Вінцэнтам Жук-Грышкевічам, і здавалася, што хутка дойдзе да яе рэалізацыі. Прынамсі на пасяджэнні Прэзідыума Рады БНР 29 лістапада 1976 г. *«Др. Запруднік паінфармаваў, якія матарыялы БНР у яго ёсьць сабраныя і, абапіраючыся на пастанову 11-й Сэсіі Рады, запрапанаваў, каб да выданьня друкам гэтых матарыялаў прыступіць як найхутчэй, каб выпусьціць іх да 60-ых угодкаў І-га Ўсебеларускага Кангрэсу»*[128]. Аднак далейшае абмеркаванне чамусьці засяродзілася на праблеме набыцця друкарскай машыны для выдавецкай працы Рады, урэшце так і не набытай.

Тым не менш у сакавіку 1977 г. у «Камунікатах» быў змешчаны адмысловы заклік да радных:

*«Не жалейце ахвяр на выдаваньне матар'ялаў Рады БНР і БНР!*

*14-ая сэсія пастанавіла распачаць выдаваньне матарыялаў БНР, што сабраў сакратар дакумэнтацыі др. Запруднік, на якіх 300 бачын друку. Да гэтага збору напэўна дойдуць матарыялы БНР і з іншых крыніцаў. На выдаваньне матар'ялаў БНР патрэбны паважныя сумы, бо, як ведама, друк дарагі й кошты яго стала ўзрастаюць. Дык далёка ня хопіць нам тых грошаў, што маем у касе Рады БНР. Адзіная надзея на помач — сяброўскі падатак радных (наймен $3.00 у месяц), што залягаюць з аплатай яго і Дар Сакавіка ад усяго грамадзтва. Просьба сяброў радных аплаціць сяброўскі падатак радных і зьбіраць ахвяры на Дар Сакавіка ў часе сьвяткаваньня 25 Сакавіка»*[129].

На пасяджэнні Прэзідыума ў траўні 1977 г. сцвярджалася, што Янка Запруднік рыхтуе публікацыю[130], аднак да юбілею І Усебеларускага кангрэса яна так і не ўбачыла свет, як і да юбілею самой Рады БНР. Так, 19 лютага 1978 г. пратакол зафіксаваў інфармацыю, што *«плянаванае др-м Запрудніком выдаваньне матарыялаў БНР з розных прычын яшчэ не распачата»*[131].

---

[127] Пратакол 14-ай Нечароднай Сэсіі Рады БНР, што адбылася 27 лістапада 1976 г.

[128] Пратакол паседжаньня Прэзыдыюму Рады БНР дня 29 лістапада 1976 г.

[129] Камунікаты Прэзыдыюму і Сакратарыяту Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. № 8. Сакавік 1977. С. 2.

[130] Гл.: Пратакол пасяджэння Прэзыдыюму Рады БНР з дня 23 травеня 1977 году.

[131] Пратакол паседжаньня Прэзыдыюму Рады БНР дня 19 лютага 1978 г.

Замест гэтага ў 1978 г. выйшла кніга ўспамінаў самога Старшыні Рады БНР пад назвай «25-га Сакавіка», прысьвечаная 60-гадовым юбілеям І Усебеларускага кангрэса і абвяшчэння незалежнасці БНР[132]. У 1982 г. на апошняй сесіі Рады БНР Вінцэнта Жук-Грышкевіча Янка Запруднік паведамляў, што *«далей застаецца актуальнай справа выданьня дакумэнтаў да гісторыі БНР 1917–1918 гадоў. Каля палавіны работы ўжо зроблена, не стае часу на ейнае заканчэньне»*[133]. Такім чынам, ці то з фінансавых прычын, ці то праз перагружанасць працай асобных радных чаканае і важнае выданне матэрыялаў да гісторыі Рады БНР так і не было рэалізаванае ў час Вінцэнта Жук-Грышкевіча.

Зрэшты, не была рэалізаваная і большасць іншых выдавецкіх праектаў, агучаных раднымі. Прыкладам, згаданыя ўжо вышэй мельбурнскія беларусы яшчэ ў 1971 г. прапаноўвалі: *«Як найхутчэй апрацаваць і выдаць — ці дапамагчы да гэтага, калі робіцца, “Гісторыю Беларусі” — па-беларуску і па-ангельску»*, а таксама *«сабраць, улажыць і выдаць асобнай кніжкай расьцінутыя ў прэсе адпаведныя артыкулы, трактуючыя аб нашай вызвольнай справе»*[134].

Таксама ў 1976 г. на прапановы Міколы Гарошкі і Антона Адамовіча 14-я сесія Рады БНР пастанавіла: *«выдаць друкам апрача матарыялаў БНР і “Зборнік памяці Крэчэўскага”, у якім зьмясьціць і частку з кнігі Крэчэўскага “Замежная Беларусь”, выданай 50 год таму»*[135]. На наступнай 15-й сесіі *«сп. Ул. Курыла прапанаваў выдаць успаміны Ген. Кушаля, дакумэнты БНР. Сп. А. Шукелайць — выдаць успаміны Юльяны Дубейкаўскай»*[136]. Янка Запруднік у 1982 г. згадваў, што *«ён далей займаўся зьбіраньнем дакумэнтацыі аб іншадумстве на Беларусі. Матар’ялаў ужо набралася на цэлы зборнік»*, а таксама, што ён *«узяўся за складаньне анталёгіі вершаў беларускіх паэтаў, прысьвечаных роднай мове. Ужо налічваецца больш за сто аўтараў для гэткае анталёгіі, і кніга, калі дазволіць час, выйдзе ў сьвет у 1983 годзе»*[137]. Аднак ніводная са згаданых агучаных на сесіях ідэй выданняў так і не рэалізавалася ў бліжэйшае дзесяцігоддзе.

Фактычна, Вінцэнту Жук-Грышкевічу ўдалося ажыццявіць толькі тыя выдавецкія праекты, якія былі ягонай прыватнай ініцыятывай. Так, 10 лютага 1973 г. на 70-я ўгодкі свайго жыцця старшыня заснаваў пры канадскім і нью-ёркскім БІНіМах Фонд беларускіх падручнікаў, які меўся падтрымліваць вы-

[132] Гл.: Жук-Грышкевіч, Вінцэнт. 25-га Сакавіка. Таронта, 1978. С. 2.

[133] Пратакол 17-ай Звычайнай Чароднай Сэсіі Рады БНР, што адбылася 27 лістапада 1982 г.

[134] Камунікаты Прэзыдыюму і Сакратарыяту Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. № 3. Травень 1971. С. 7

[135] Пратакол 14-ай Нечароднай Сэсіі Рады БНР, што адбылася 27 лістапада 1976 г.

[136] Пратакол 15-й Юбілейнай Сэсіі Рады БНР, што адбылася 25 лістапада 1978 г.

[137] Пратакол 17-ай Звычайнай Чароднай Сэсіі Рады БНР, што адбылася 27 лістапада 1982 г.

данне навучальнай літаратуры. Аўтар ідэі пісаў: *«Але, але, падручнікі перш за ўсё, бо без падручнікаў бадай што нічога нельга навучыцца. А што-ж казаць пра вывучэньне беларускай мовы й беларусаведы — жывучы ў чужамоўным акружэньні. З падручніка можна вучыцца ня толькі ў школе, але й самому дома. А беларусаведы трэба вучыцца ня толькі дзецям, а й дарослым, бо рэдка хто з нас вучыўся ў беларускай школе. У першую чаргу трэба вучыць беларускай мовы дзяцей і моладзь...»*[138]. І адразу ж пасля заснавання Фонд пачаў збіранне грошай на выданне першага падручніка беларускай мовы для англамоўных *«Fundamental Byelorussian»*, складзенага сястрой Раісы Жук-Грышкевіч, Валянцінай Пашкевіч. Дзякуючы актыўнай інфармацыйнай кампаніі Фонд беларускіх падручнікаў змог атрымаць субсідыю ад федэральнага ўрада Канады і цягам 1974–1978 гг. забяспечыць выданне двух тамоў згаданага падручніка, кошт якога склаў каля 27 тысяч даляраў[139]. Што праўда, гэта быў адзіны падручнік, які быў выдадзены з дапамогай Фонду.

На іншыя свае ўгодкі, у 1978 г., Вінцэнт Жук-Грышкевіч заснаваў яшчэ адзін фонд — Выдавецкі фонд успамінаў з беларускага жыцця[140]. Першае і адзінае пры жыцці заснавальніка выданне, што ўбачыла свет дзякуючы дзейнасці гэтага Фонду, былі ўспаміны ініцыятара «25-га Сакавіка» з БНРаўскай мапай унутры (Таронта, 1978). Другім выданнем былі ўспаміны Раісы Жук-Грышкевіч пра мужа, выдадзеныя ўжо ў 1993 г.

Адзіным паспяховым выдавецкім праектам, ажыццёўленым пад шыльдай Рады БНР па-за «Камунікатамі» і прыватнымі ініцыятывамі старшыні, з'явілася «Юбілейная пошта БНР». Гэтая ідэя была агучаная ганаровым сябрам Рады БНР брытанцам Гаем Пікардам дзеля адзначэння 60-х угодкаў незалежнасці БНР. Атрымаўшы афіцыйны дазвол ад Вінцэнта Жук-Грышкевіча, энтузіяст выдаў серыю марак з выявай «Пагоні» розных колераў, а таксама з наддрукоўкай *«Беларусь»* і *«Юбілейная Пошта БНР. 1918–1978»*[141].

Безумоўна, Рада БНР выказвала падтрымку выдання розных мемарандумаў, што складаліся, прыкладам, у Камітэце вольнай Беларусі. Аднак фінансаванне выдавецкай дзейнасці іншых структур — гэта ўсё ж не ўласная выдавецкая дзейнасць, у галіне якой у Рады БНР часу Вінцэнта Жук-Грышкевіча заставаліся амаль невырашальныя праблемы. Таму параўнаўча рэгулярнае выданне «Камунікатаў» выглядала сапраўды значным дасягненнем.

---

[138] Камунікаты Прызыдыюму і Сакратарыяту Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. № 4. Люты 1973. С. 10

[139] Гл.: Выдавецкі Камітэт Беларускіх Падручнікаў у Канадзе // Жук-Грышкевіч, Раіса. Жыцьцё Вінцэнта Жук-Грышкевіча. С. 611–613.

[140] Гл.: Жук-Грышкевіч, Раіса. Жыцьцё Вінцэнта Жук-Грышкевіча. С. 669–670.

[141] Юбілейная пошта БНР дзейнічала цягам 1978 г. Гл.: Беларуская Замежная Пошта // Беларус. № 259–260. Лістапад — сьнежань 1978. С. 8.

## ВЕТЭРАНСКІЯ СПРАВЫ

Цягам усяго часу старшынёўства Вінцэнта Жук-Грышкевіча найбольш стабільна працаваў, акрамя скарбніка (ці сакратара фінансаў), толькі адзін сакратар — па ветэранскіх справах. Займаў гэтую пасаду нязменна ад 1971 г. дэтройцкі беларус Язэп Сажыч.

Ён нарадзіўся ў 1917 г у вёсцы Гарадзечна (сёння Навагрудскі раён Гродзенскай вобласці), вучыўся ў польскай пачатковай школе, Наваградскай беларускай гімназіі, а пасля яе закрыцця ў 1934 г. працягнуў навучанне ў польскай гімназіі імя А. Міцкевіча. Быў мабілізаваны ў польскае войска, скончыў афіцэрскую школу. У часе нямецка-польскае вайны трапіў у нямецкі палон, але ўцёк адкуль ва Украіну. У 1939–1941 гг. вучыўся ў Львове, пасля вярнуўся ў Беларусь. Улетку 1942 г. Язэп Сажыч быў прызначаны камендантам падафіцэрскай школы. У лютым 1943 г. у Лідзе арганізаваў і ўзначаліў Беларускі батальён чыгуначнай аховы. Улетку 1944 г. выехаў у Нямеччыну, дзе быў камендантам афіцэрскай школы 30-й (беларускай) дывізіі войск СС у Баварыі. Пасля вайны вучыўся ва ўніверсітэце Філіпа ў Марбургу (Нямеччына), а ў 1950 г. выехаў у ЗША. Язэп Сажыч быў сябрам Беларуска-амерыканскага задзіночання, актывістам Дэтройцкага аддзела арганізацыі і ад 1953 г. — радным БНР.

Як бачым, Язэп Сажыч меў дастатковы вайсковы досвед, каб займацца ветэранскімі справамі ад імя Рады БНР. Аднак сама актывізацыя гэтай дзейнасці была ініцыяваная, як выглядае з дакументаў, не ім самім ці, хутчэй, не толькі ім.

У Радзе БНР ад самага яе аднаўлення вайсковымі справамі займаўся Франц Кушаль. Калі ён вымушаны быў у 1967 г. з'ехаць з Нью-Ёрка ў Рочэстэр, дзейнасць у гэтай галіне, што цягам апошняга дзесяцігоддзя была, хутчэй, намінальная, бадай што спынілася. Аднак у 1968 г. пасля смерці Франца Кушаля, чыё лідарства ў вайсковай галіне вызнавалі нават апаненты, паўстала натуральнае пытанне пераемніка на пасадзе. Віктар Войтанка-Васілеўскі сведчыў, што ў той час з ідэяй прызначэння новага вайсковага кіраўніка і стварэння нават беларускага войска выступаў прыхільнік БЦР Яўхім Кіпель[142]. Але Войтанка вырашыў перахапіць ініцыятыву і ў адмысловым лісце, адрасаваным тагачаснаму віцэ-прэзідэнту Вінцэнту Жук-Грышкевічу ды ўсім сябрам Урада БНР, выклаў свой разгорнуты праект стварэння «Беларускіх збройных сілаў на паперы».

*«Думаю, што варта, каб Урад БНР адзначыў 50-лецьце БНР уладжаньнем Бел. Збройных Сілаў. Толькі ў Амэрыцы маецца колькі соцень былых ахвіцэраў і жаўнераў. Усе няслужыўшыя ў чужацкіх арміях ахвотна паслужаць у роднай зброі з хвілінай нагоды вызваленьня Бацькаўшчыны.*

---

[142] Гл. ліст В. Войтанкі да В. Жук-Грышкевіча ад 10.11.1970. Захоўваецца ў фондзе БІНіМа ў БДАМЛМ.

*Усе служыцьмем лепш, калі загадзя будзе кожны ведаць ступень і напрамак ваеннай дзейнасьці. Шмат хто парупіцца з кнігаў падвучыцца ваеннай справе й будзе лепшым жаўнерам.*

*Пакінутыя без апекі БНР усе мы будзем пакліканыя ў час мабілізацыі й будзем служыць звычайнымі жаўнерамі й гінуць бяскарысна, пакуль Урад БНР патрапіць абдумаць уладжаньне беларускага войска й правядзе яго ў дзейнасьць з саюзьнікамі. Можам папярэдзіць цяпер, калі ўладзім нацыя збройныя сілы, хаця бы на паперы ды з хвілінай мабілізацыі будзем гатовы дзеяць хутчэй за іншых.*

*Памятаеце з гісторыі, наш суродзіч Язэп Пілсудскі распачаў вайну за Рэчпаспалітую з 200 кадравікамі. Генерал Сікорскі выпрасіў у Сталіна толькі тых, хто быў у турмах, але ня дастаў нікога з радоў Савецкага войска.*

*У выкананьні мае думкі Першым трэба паведаміць ад Прэзыдэнта аб павышаньні ступені (рангу) усем вайскавіком з нагоды 50-лецьця БНР. Аб наданьні вайсковай ступені капітана ўсем суродзічам з вышэйшай асьветаю. Ступені лейтэнанта — усім зь сярэдняй асьветаю. Ступені дружыновага ўсем 30-гадовым, звязавага ўсем 35-гадовым ды сьцяжнога — 40-гадовым суродзічам бяз асьветы.*

*Кожны, хто жадае атрымаць пасьветчаньне, мае прыслаць паведамленьне аб калішняй ступені ці вышыні асьветы ды гадоў жыцьця. Адпаведныя пасьветчаньні выдаваныя ад Рады БНР.*

*Другою справаю ёсьць назначаньне Камандаваньня Збройных Сілаў БНР ды забавязаньне камандаваньня праводзіць уладжваньне З. С. Каб дапамагчы Ураду, я зьвярнуўся з апытаньнем да некаторых людзей. Атрымана мною жаданьне й згоду на Галоўнага Сьвятара З. С. БНР ад ЯП Уладыкі Мікалая. Праўнае ўладжаньне трэба зрабіць праз адпаведную заяву да Сьв. Сыноду БАПЦ на рукі сакратара ЯВП Уладыкі Васіля. Ды перасланьня ЯП Уладыку Мікалаю назначаньня ў ступені генерала.*

*Такжа Др. Язэп Сажыч згадзіўся абняць камандаваньне штабам. Ён ёсьць лінейны маёр. Яго ступень палкоўніка атрымаецца ў 50-летнім павышэньні. Генеральскую ступень трэба прызнаць разам з назначаньнем на камандаваньне.*

*Зь лекараў Др. Грабінскі*[143]*, Баляслаў меў ужо ў 1930 гадох ступень капітана-дра. Такжа Др Трусэвіч зь некалькі гадоў будзе на супакоі як палкоўнік-др. ЗГА арміі. Калі бы былі труднасьці з назначэньнем каго зь іх на Галоўнага лекара З. С. БНР, сам я маю скончаную ахвіцэрскую школу, санітарную ў Варшаве 1937–8 г. і на фронце 1939 г. быў у санітарнай частцы. Магу пераняць абавязкі ўладжаньня санітарнай службы, значыць падрыхтовы лекараў і ня-лекараў, жадаючых служыць у санітарнай справе.*

---

[143] **Баляслаў Грабінскі** (1899–1991) ад 1950-х гг. жыў у ЗША. Быў сябрам БАЗА, удзельнікам кіраўніцтва Чыкагскага аддзела арганізацыі.

*Патрэбнае назначэньне Генерала-асьветніка дзеля наладжаньня ўзгадавальнай народнае і палітычнае дзейнасьці З. С. Зь ведамых мне тут у ЗГА Янка Запруднік ужо працуе ў палітычнай дзейнасьці.*

*А такжа трэба пашукаць і назначыць камандаваньне галінаў З. Сілаў як лётніцтва, зброеньня і г. п.*

*Прыпамінаю, што Згуртаваньне Вэтэранаў можа памагчы Ураду БНР, але ня заступіць ўладжваньне Збройных Сілаў БНР.*

*Гэтыя мае прапановы трэба выканаць хутка, каб выкарыстаць уздым 50-леццця. А такжа каб атрымаць міжнароднае значаньне ў сувязі з падзеямі ў Чэхаславаччыне й у іншых мясцох прадваеннае мітусьні. Для Ураду БНР — гэта напісаньне паперак. Для ворагаў БНР гэта азнака жывучасьці й пагроза іхнім пажыральным камерам.*

*Апрача гэтых сучасных важных падзеяў, патрабуючых ад Ураду БНР неадкладнай дзейнасьці, ёсьць і менш важные. Пайменна, сьмерць ген. Кушаля пакідае быццам асярочаны надваенны бок. Доказам разуменьня так справы ёсьць ходаньне БЦР аб назначаньні сп. Буглая генералам Беларускага Войска.*

*Але зноў назначаньне толькі аднаго генерала на месца прадчасна адышоўшага Ф. Кушаля з боку Рады БНР будзе толькі перадражніваньнем сяброў БЦР. Трэба ладзіць усю Збройную Сілу, з усіх наяўных суродзічаў, уключаючы такжа беларускіх жанчын.*

*Калі ласка, прылажэцеся да справы й зрабіце неадкладна. І так ужо змарнавана ў гэтым Вамі асабіста паўгоду часу, а папярэднімі ўрадамі аж 20 гадоў.*

*Кожная вялікая справа мусіць быць пярша зробленая на паперы перад тым, як у сапраўднасьці. Дык калі ласка, рабіце паперавую збройную сілу, каб пры нагодзе не марнаваць часу на гэтую паперу, калі трэба будзе страляць "Каб Жыла Беларусь"»*[144].

Відавочная ўтапічнасць праекта Віктара Войтанкі, тым не менш, выклікала пэўныя захады ў ветэранскай галіне з боку кіраўніцтва БНР. Так, на пасяджэнні Прэзыдыума і Сакратарыята Рады БНР 19 красавіка 1969 г. была агучаная ідэя: у сувязі са смерцю Франца Кушаля стварыць у Радзе камісію па справах ветэранаў у складзе Язэпа Сажыча, Барыса Рагулі і Уладзіміра Русака. Акрамя таго, пастанавілі прасіць прэзідэнта Міколу Абрамчыка *«павысіць у сувязі з 50-мі ўгодкамі БНР заслужаных беларускіх вайскоўцаў, у першую чаргу сяброў Камісіі, у вайсковай ступені на адну рангу»*[145]. Магчыма, прэзідэнт сапраўды ажыццявіў падвышэнне вайсковых рангаў, і Язэп Сажыч атрымаў званне палкоўніка, бо ўжо на 11-й сесіі Рады БНР у траўні 1971 г. Ба-

---

144 Ліст В. Войтанкі да В. Жук-Грышкевіча і ўсіх сябраў Урада БНР ад 02.12.1968. Захоўваецца ў фондзе БІНіМа ў БДАМЛМ.

145 Пратакол № 1 злучанага паседжаньня Прэзыдыюму і Сакратарыяту Рады БНР з дня 19-га красавіка 1969 году // Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР 1947–1970: Падзеі. Дакументы. Асобы. С. 374.

рыс Рагуля абгрунтоўваў неабходнасць надаць дэтройцкаму вайскоўцу рангу генерала[146]. Такім чынам, прынамсі ідэя пра падвышэнне рангаў, агучаная Віктарам Войтанкам-Васілеўскім, спрацавала. Тады ж у 1971 г. Язэп Сажыч заняў пасаду сакратара па справах ветэранаў, і першае, з чаго ён пачаў, было *«павышэнне ў рангах заслужаных беларускіх вайскоўцаў»*[147]. Ужо ў снежні 1971 г. сакратар па ветэранскіх справах прадставіў на зацвярджэнне Прызідыума Рады БНР узоры дыпломаў. Як характарызаваў Язэп Сажыч гэтую справу пазней, у 1974 г., *«павышэньне рангаў праводзіцца без прафанацыі іх, ня так, як гэта нядаўна зрабіла БЦР, якая стала раскідаць высокія рангі направа й налева неадпаведным кандыдатам, чым спрычынілася адно да кампрамітацыі беларускіх вайсковых рангаў наагул»*[148].

Напэўна, улічваючы колькасць былых вайскоўцаў у асяроддзі беларусаў на Захадзе і тое, што Рада БНР адыгрывала ролю дзяржаўнага прадстаўніцтва, а таксама няспынную канкурэнцыю з БЦР, наданне чарговых рангаў успрымалася раднымі як натуральная з'ява. Чарговае іх павышэнне адбылося ў 1978 г. у сувязі з 60-мі ўгодкамі БНР[149].

Здзіўленне з'явілася, калі высокія вайсковыя званні без чаргі сталі даваць за грамадскую працу, і прычыніўся да гэтага сам Вінцэнт Жук-Грышкевіч. Менавіта ён на 14-й пазачарговай сесіі Рады БНР у 1976 г. за доўгагадовую працу на пасадзе галоўнага скарбніка вырашыў надаць маёру Віталю Кажану рангу генерал-маёра, а *«заслужанаму на гэта раднаму сп. Міколу Нікану, які ўжо 3 разы адведваў беларускія асяродкі на трох кантынэнтах, чым узмоцніў лучнасьць і супрацоўніцтва між імі»*, — рангу палкоўніка[150]. Адзначым, што адбылося гэта ў адсутнасць на сесіі Язэпа Сажыча і без згоды прынамсі Віталя Кажана, які напярэдадні прасіў Старшыню Рады БНР, каб не даваў яму ніякіх новых вайсковых званняў[151]. Тым не менш сесія прывітала такія дзеянні Вінцэнта Жук-Грышкевіча.

Складана зразумець, чаму менавіта наданне вайсковых рангаў успрымалася як адзіная магчымасць адзначыць радных за ахвярную грамадскую працу. Можна толькі канстатаваць, што Язэп Сажыч не ўхваляў ініцыятывы Старшыні Рады. Так, на 17-й сесіі Рады БНР у 1982 г. ён адмыслова заўважыў: *«хачу падкрэсьліць адну далікатную справу, якая мяне турбуе, і якую хацеў-бы, каб прынамся радныя БНР добра разумелі: гэта пасьпешлівае й*

---

146 Гл.: Пратакол 11-й Сэсіі Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, што адбылася 29 траўня 1971 г.

147 Пратакол паседжаньня Прэзыдыюму й Сакратарыяту Рады БНР з дня 18 сьнежня 1971 году.

148 Пратакол 13-й Чароднай Сэсіі Рады БНР, што адбылся 30 лістапада 1974 г.

149 Гл.: Пратакол 16-й Звычайнай Чароднай Сэсіі Рады БНР, што адбылася 24 лістапада 1979 г.

150 Пратакол 14-ай Нечароднай Сэсіі Рады БНР, што адбылася 27 лістапада 1976 г.

151 Гл. ліст В. Кажана да В. Жук-Грышкевіча ад 16.11.1976, змешчаны ў адпаведным раздзеле гэтай кнігі.

*непаважнае павышэньне й раздаваньне рангаў ахвіцэрскіх за грамадзкія заслугі — гэта прафануе годнасьць беларускага ахвіцэра»*[152]. Старшыня Рады БНР мусіў апраўдвацца перад раднымі ў сваёй няўзгодненай дзейнасці.

Акрамя надавання рангаў сакратар па ветэранскіх справах займаўся таксама стварэннем адпаведных аддзелаў у беларускіх эміграцыйных асяродках. Яшчэ ў 1971 г. Язэп Сажыч згадваў, што добра ветэранская справа пастаўленая ў Канадзе[153], аднак пазней засяродзіўся найперш на амерыканскіх сектарах БНР, хоць кантактаваў і з беларускімі вайскоўцамі з іншых краін. Найбольш удалай дзейнасць ветэранаў выглядала ў Нью-Джэрсі, дзе рэгулярна ладзіліся адмысловыя мерапрыемствы, сходы, дэманстрацыі ў межах працы Задзіночання беларуска-амерыканскіх ветэранаў. У 1974 г. тут, з удзелам ветэранаў з Нью-Ёрка, урачыста адзначылі 30-я ўгодкі Беларускай краёвай абароны[154].

Удалося таксама арганізаваць аддзел ветэранаў у Кліўлендзе, а ў Мічыгане, дзе колькасць былых вайскоўцаў была не асабліва значная, але дзе жыў сам Язэп Сажыч, быў створаны Галоўны штаб. Так і не арганізаваліся ветэраны ў Чыкага, як і ў пазаамерыканскіх сектарах Рады. Акрамя таго, паўсталі непаразуменні ў дачыненнях з канадыйскімі былымі вайскоўцамі. Ветэранскімі справамі ў Канадзе займаўся пераважна Кастусь Акула, які меў даволі нацягнутыя асабістыя дачыненні з Старшынёй Рады БНР. Апошняе, магчыма, стала прычынаю таго, што пісьменнік-вайсковец ажыццяўляў сваю працу самастойна, не каардынуючы яе з Радаю. Прыкладам, дзеля адзначэння юбілею БКА Кастусь Акула прапанаваў склікаць Першую сусветную сустрэчу беларускіх ветэранаў. Ён запрасіў да ўдзелу ўсіх вайскоўцаў незалежна ад палітычных паглядаў. Аднак Язэп Сажыч, а следам і Рада БНР паставіліся да ініцыятывы скептычна. Тым не менш гэта не спыніла Кастуся Акулу, і ў жніўні 1974 г. у брытанскім Манчэстэры пры падтрымцы, у тым ліку, Згуртавання беларусаў Вялікабрытаніі адбылася Першая сусветная сустрэча ветэранаў, якая, аднак, не мела сярод прысутных сапраўды «сусветнага» ветэранскага прадстаўніцтва[155]. Сакратар па ветэранскіх справах Рады БНР не выступіў з асуджэннем Сустрэчы ветэранаў у Манчэстэры і нават даслаў прывітанне, хоць і адмовіўся прызнаць яе сусветны статус, за што пазней быў скрытыкаваны Старшынёй Рады з фармулёўкаю *«за невыразную пазіцыю»*[156].

---

[152] Пратакол 17-ай Звычайнай чароднай Сэсіі Рады БНР, што адбылася 27 лістапада 1982 г.

[153] Гл.: Пратакол паседжаньня Прэзыдыюму й Сакратарыяту Рады БНР з дня 18 сьнежня 1971 году.

[154] Гл.: На 30-я ўгодкі Беларускай Краёвай Абароны // Беларус. № 206. Чырвень 1974. С. 3.

[155] Гл.: Першая Сусьветная Сустрэча Беларускіх Вэтэранаў (Манчэстар, Англія) // Беларус. № 209. Верасень 1974. С. 1, 3.

[156] Пратакол 17-ай Звычайнай Чароднай Сэсіі Рады БНР, што адбылася 27 лістапада 1982 г.

Важнай ветэранскай ініцыятывай, якая мела паспяховую рэалізацыю, стала ініцыятыва пабудовы помніка беларускім вайскоўцам на могільніку царквы Св. Жыровіцкай Божай Маці ў Іст-Брансвіку (Нью-Джэрсі). Безумоўна, праект з'явіўся ў канкурэнцыі з БЦР, прыхільнікі якой пабудавалі ўласны ветэранскі помнік у суседнім Саўт-Рыверы. Тым не менш кампанія па збіранні сродкаў на манумент *«тым, што змагаліся, каб жыла Беларусь»*, урачыстае адкрыццё яго ў 1975 г. сталі добрымі аб'яднаўчымі момантамі для былых беларускіх вайскоўцаў.

Ветэранская дзейнасць цягам 1970-х гг. у беларускіх эміграцыйных асяродках адзначалася адметнай актыўнасцю, як і грамадска-культурная. Мерапрыемствы з удзелам ветэранаў адбываліся даволі рэгулярна, у тым ліку і ў часе Сустрэч беларусаў Паўночнай Амерыкі. Зразумела, што такой дзейнасцю займалася не толькі Рада БНР. Канкурэнцыю, як ужо было зазначана, складалі і прыхільнікі БЦР, і некаторыя іншыя арганізацыі ці асобы. Акрамя Кастуся Акулы з яго ініцыятывай сусветнай сустрэчы ветэранаў, а потым выдання ветэранскага часопіса «Зважай» быў яшчэ Віктар Войтанка-Васілеўскі з яго ветэранскім часопісам «Змагар», ад якога сакратару па справах ветэранаў Рады БНР давялося таксама адхрышчвацца[157]. Пры гэтым сам Язэп Сажыч казаў пра неабходнасць выдання ўласнага перыёдыка, аднак далей за словы справа так і не пайшла.

Такім чынам, дзейнасць сакратарыята па справах ветэранаў у Радзе БНР часоў кіравання Вінцэнта Жук-Грышкевіча складалася з ажыццяўлення сувязі з ветэранамі ў розных краінах, падрыхтоўкі і павышэння вайсковых рангаў, больш ці менш паспяховых спробаў адраджэння адмысловых структур у рэгіёнах, ладжанні самастойна ці часцей з удзелам грамадскіх арганізацый мерапрыемстваў, пабудовы помніка беларускім жаўнерам. Безумоўна, спецыфіка вонкавых умоў працы, дый нутранае жыццё самой Рады, накладала адбітак на магчымасці рэальнай дзейнасці. Тым не менш на сакратара па справах ветэранаў (па-за непаразуменнямі з наданнем рангаў) наракання цягам цэлага перыяду фактычна не ўзнікала, што ўмацоўвала ягонае становішча ў Радзе.

## СПАДЧЫНА МІКОЛЫ АБРАМЧЫКА: ФУНДАЦЫЯ КРЭЧЭЎСКАГА, РАДЫЁ «СВАБОДА», МЮНХЕНСКІ ІНСТЫТУТ

Мікола Абрамчык пакінуў Вінцэнту Жук-Грышкевічу не толькі занядбаную арганізацыйную працу, але і як мінімум тры найбольш заўважныя дасягненні свайго кіравання: беларускія аддзелы ў Радыё «Свабода» і

[157] Асветчанне ад імя Прэзідыума Рады БНР і Сакратарыята па справах ветэранаў наконт часопіса «Змагар» было апублікаванае ў газеце «Беларус» № 177 (студзень 1972).

Мюнхенскім інстытуце вывучэння СССР ды Фундацыю імя П. Крэчэўскага, у якую Рада БНР уклала значную суму грошай. Пра стварэнне Фундацыі мы ўжо пісалі ў папярэдняй кнізе. Варта толькі нагадаць, што паводле заключанага пагаднення тут меліся быць прадстаўленыя памяшканні пад Архіў Рады і для правядзення грамадскіх мерапрыемстваў. У кіраўніцтва Фундацыі ўваходзілі радныя, што дадавала магчымасцяў своеасаблівага кантролю за тым, што ў ёй адбывалася. У Статуце Рады БНР 1971 г. было нават пазначана, што афіцыйнай сядзібай Рады БНР з'яўляецца адрас Фундацыі імя П. Крэчэўскага на Готык-драйв.

Цягам старшынёўства Вінцэнта Жук-Грышкевіча ў Фундацыі імя П. Крэчэўскага змянілася некалькі кіраўнікоў. Найдаўжэй, да сваёй смерці ў 1979 г., пасаду дырэктара займаў Мікола Гарошка, пасля яго замяніў Вітаўт Тумаш, а ўжо ў 1982 г. гэтае месца заняў Францішак Бартуль.

У першыя гады новага Старшыні Рады БНР справы Фундацыі асабліва не прыцягвалі да сябе ўвагі. Толькі ў 1974 г. на 13-й сесіі ўпершыню ў парадак дня ўключылі пункт, звязаны з гэтай установай. Падставай была найперш згаданая ўжо вышэй справа канфлікту паміж Міколам Гарошкам і Пётрам Манькоўскім. Аднак пасля да разгляду становішча Фундацыі радныя абавязкова звярталіся на кожнай наступнай сесіі. Рада БНР дэманстравала нібыта сваё права кантролю над сітуацыяй, хоць юрыдычна гэты кантроль мог быць, хутчэй, паводле маральных абавязкаў радных, што ўваходзілі ў кіраўніцтва Фундацыі.

Фінансавыя справаздачы дырэктар гэтай установы Радзе не даваў, толькі ў агульных рысах акрэсліваў сітуацыю. Так, у 1978 г. было агучана:

*«У 1964 г. куплены былі два будынкі за 180,000.00 даляраў, на якія было ўнесена гатоўкаю 32,000.00 даляраў. Адзін будынак быў не закончаны. На заканчэньне яго, на сплату галоўнай пазыкі і іншыя выдаткі ўзята была прыватная пазыка на 13 тысяч даляраў. Умовы галоўнай пазыкі (мортгіжу) былі добрыя. Частка аднаго будынку была адступлена на грамадзкія патрэбы, рэшта здаецца ў наймо кватэрантам. Не заўсёды ўсе кватэры здаюцца ў арэнду. Бывалі вялікія клопаты з кватарантамі, якія не плацілі. Даходзіла да суду. На адміністраваньне й дагляд будынкаў Старшыня Дырэкцыі траціць у сярэднім 15 дзён у месяц. Знайсьці чалавека, які рабіў-бы гэту работу, трудна, бо на гэта трэба быць кампэтэнтным адміністратарам і дбайлівым гаспадаром.*

*Фундацыя за 11 год мела 110 тысяч даляраў прыбытку. Дзесяць тысяч даляраў дала на выдавецтва, дванаццаць тысяч выдала на заканчэньне будынку, мортгіжу ў месяц плаціла 1,602.00 даляры. Сяньня ў касе ёсьць 5,124.77. Нясплачанага мортгіжу засталося яшчэ 100,436.28 даляраў.*

*Цяпер будынкі вымагаюць рамонту, на які ідзе ўвесь прыбытак. Улетку пуставала пяць, цяпер дзьве кватэры. Сытуацыя такая, што лепш за ўсё было-б прадаць гэтыя будынкі й купіць болей адпаведны аб'ект для нашых грамадзкіх патрэбаў, зь меншымі клопатамі»*[158].

[158] Пратакол 15-й Юбілейнай Сэсіі Рады БНР, што адбылася 25 лістапада 1978 г.

У выніку абмеркавання сітуацыі было вырашана стварыць спецыяльную камісію ў складзе Міколы Гарошкі, Міколы Войтанкі, Уладзіміра Курылы, Францішa Бартуля і Янкі Запрудніка, што павінны былі разгледзець пытанне продажу старых будынкаў і набыцця новага[159]. Аднак ажыццяўляўся продаж і набыццё ўжо пры новым дырэктары Вітаўту Тумашу.

Цікава, што ў дачыненні да стану Фундацыі ў гэты час было шмат размоў людзей збоку. Свае закіды ў бок нікому невядомых выдаткаў за часам Міколы Гарошкі рабіў Станіслаў Станкевіч. Але яшчэ больш скрытыкаваў пазіцыю Рады ў дачыненні да Фундацыі Кастусь Мерляк. Ва ўспамінах ён пісаў:

*«Гарошку зь вялікім клопатам змусілі прыйсьці на сэсію ды зрабіць справаздачу. Усе былі зьдзіўленыя яго выступленьнем, у якім нічога не казалася пра фінансавы стан фундацыі, на што вельмі спадзяваліся радныя. Усе добра ведалі, што яго адміністрацыйныя здольнасьці вельмі абмежаваныя, а тым больш рабіць направу ў будынках. Таксама ўсім было ведама, што Гарошка ня мог траціць 15 дзён працы ў месяц пры будынках фундацыі, маючы свой "бізнэсе" і аднačасна будуючы свой уласны дом. Каб свабодна рабіць свае махінацыі ён пазбавіўся двух адміністратараў, а сам нічога не рабіў, запусьціў дагляд дамоў так, што кватэранты ўцякалі, а новыя не займалі апушчаных кватэраў у дамох з жахлівым выглядам навонкі.*

*Нягледзячы на гэта ўсе, радныя на сэсіі апрабавалі справаздачу М. Гарошкі. Ніхто не адважыўся нават запытаць у яго, чаго няма фінансавае справаздачы. Толькі К. Мерляк зрабіў заўвагу, што рэпліка, дадзеная яму др. В. Тумашам у 1964 годзе: "І мы ўмеем лічыць грошы", — спраўдзілася, бо лічыць не было чаго.*

*Па сьмерці М. Гарошкі (11 лютага 1979 г.) абняў старшынства фундацыі заступнік др. В. Тумаш і пад яго кіраўніцтвам пачалі шукаць купцоў на дамы. У 1979 і 1980 гг. падчас адміністрацыі Прэзыдэнта ЗША Д. Картэра інфляцыя паднялася высока, а з гэтым працэнты за пазыку падняліся аж да 19 працэнтаў. Людзі не былі ў стане плаціць такі высокі працэнт за пазыку, не куплялі хатаў. Таму цэны на іх пайшлі ўніз. Не зважаючы на гэта, фундацыя прадала тры дамы, адзін пакінулі для грамадзкіх патрэбаў. Прыйшоўшы да ўлады ў студзені 1981 году, Прэзыдэнт ЗША Р. Рэйган зараз-жа спыніў інфляцыю, працэнты пайшлі ўніз, цэны на хаты — угору.*

*Пачакаўшы з паўтара году кіраўніцтва фундацыі, не таргуючыся, магло прадаць па 300000.00 даляраў за кожны дом і такім чынам зрэалізавала-б 900000.00 даляраў. Сто тысяч аддалі-б на сплату даўгоў, а рэшта была-б чысты заробак»*[160].

Безумоўна, у тэксце Кастуся Мерляка вычуваецца шмат асабістага ў адносінах да Міколы Гарошкі і кіраўніцтва Рады БНР наогул. Тым не менш

[159] Гл.: Пратакол 15-й Юбілейнай Сэсіі Рады БНР, што адбылася 25 лістапада 1978 г.

[160] Мерляк, Канстанцін. Дзейнасьць Кастуся Мерляка на эміграцыі. Нью-Ёрк, 1992. С. 412

ён не быў адзіным, хто выступаў з крытыкай дзейнасці Фундацыі, і гэта варта ўлічваць.

Нягледзячы на магчымыя пралікі ва ўтрыманні ці продажы будынкаў, Рада БНР усё ж захоўвала на пэўным узроўні свой кантроль над сітуацыяй, чаго немагчыма сказаць пра справы з Радыё «Свабода».

Напрыканцы прэзідэнцтва Міколы Абрамчыка ў Беларускай рэдакцыі ў дачыненнях Рады БНР з кіраўніцтвам Радыё «Свабода» склалася напружаная сітуацыя. Новы куратар беларускіх і ўкраінскіх праграм, дзеяч украінскага паходжання Мікола Герус запрасіў на старшыню Беларускай рэдакцыі прыхільніка БЦР Масея Сяднёва. Пры гэтым у Рады БНР некалі было заключанае пагадненне з Амерыканскім камітэтам вызвалення, што кіраваў Радыё «Свабода», пра неабходнасць узгаднення кандыдатуры на старшыню нацыянальнай рэдакцыі[161]. У выніку хваробы Міколы Абрамчыка справа высвятлення адносінаў з кіраўніцтвам радыё так і не была даведзеная да канца, Мікалай Герус праз Масея Сяднёва пачаў паступова змяняць рэдакцыйную палітыку, што выклікала канфлікты ўнутры Беларускай рэдакцыі. Мелася быць скліканая Кантактная камісія ад імя ўсяго Парыжскага блока для новага высвятлення дачыненняў з радыё, у якую ад беларусаў меўся ўвайсці а. Аўген Смаршчок[162]. Аднак вынікі працы гэтай камісіі невядомыя.

Паўплываць на сітуацыю звонку ўжо не было каму. Вінцэнт Жук-Грышкевіч не меў тых механізмаў уздзеяння, што Мікола Абрамчык, за якім стаяў і Парыжскі блок, і вялікі досвед асабістых дачыненняў з чынавенствам з Амерыканскага камітэта. Нездарма новы старшыня перадаручаў размовы наконт сітуацыі ў Беларускай рэдакцыі іншым радным — Антону Адамовічу, Янку Запрудніку: *«А. Смаршчок прасіў мяне даць яму інфармацыі пра Кант. Кам. і інструкцыі, што ён мае рабіць. Я напісаў, што паінфармаваць яго аб гэтым можаце лепш Вы ці праф. Адамовіч, бо вы стаіцё бліжэй да гэтых справаў. Было-б добра, каб праф. Адамовіч зь ім пабачыўся й пагутарыў, гэта лягчэй было-б, чымся пісаць аб усім. Будзьце ласкавы, напішыце яму аб гэтым. Я парадзіў яму пабачыцца са сп. Сенькоўскім і сп. Цынцадзэ, але не выпадала мне пісаць, каб у іх ён шукаў інфармацыяў і інструкцыяў»*[163].

Па-за канфліктам у Беларускай рэдакцыі на пачатку 1970-х гг. над Радыё «Свабода», а таксама Радыё «Свабодная Еўропа», што працавала з народамі, якія прадстаўлялі краіны — сатэліты СССР, навісла пагроза закрыцця. У 1972 г. у амерыканскім Кангрэсе была агучаная інфармацыя, што гэтыя дзве радыёстанцыі таемна фінансуюцца ЦРУ (анг. *CIA*). Ва ўмовах распачатай разрадкі сенатар Фулбрайт, як і сенатар Кліфард, ініцыявалі кампанію па закрыцці абедзвюх радыёстанцый, як дзеючых неадпаведна амерыканскай

---

161 Гл.: Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР 1947–1970: Падзеі. Дакументы. Асобы. С. 64–70.

162 Гл. лісты В. Жук-Грышкевіча, змешчаныя ў адпаведным раздзеле гэтай кнігі.

163 Ліст В. Жук-Грышкевіча да Я. Запрудніка ад 23.10. 1970, змешчаны ў адпаведным раздзеле гэтай кнігі.

палітыцы ва ўсходнім кірунку[164]. У сродках масавай інфармацыі паднялася кампанія ў абарону радыёстанцый. У выніку заступніцтва прэзідэнта Ніксана ўрэшце было прынятае рашэнне аб'яднання двух радыё і стварэння адмысловай агульнай і празрыстай кіраўнічай структуры, залежнай ад Кангрэса, што выключала б таемнае фінансаванне. Так паўстала Бюро па міжнародным радыёвяшчанні (*The Board for International Broadcasting*). Працэс рэарганізацыі радыё расцягнуўся на гады і ў пэўным сэнсе адсунуў на другі план для кіраўніцтва бязладдзе ў Беларускай рэдакцыі.

Пры гэтым Рада БНР мела спробу неяк паўплываць на рашэнне амерыканскіх улад адносна лёсу радыё яшчэ на самым пачатку кампаніі. Так, у 1972 г. на пасяджэнні Прэзідыума і Сакратарыята Янка Запруднік прапаноўваў у якасці сродку ўплыву на створаную Ніксанам камісію па разглядзе справы радыёстанцый: *«Нам трэба падумаць над мэмарыялам, які трэба было-б падаць гэтай Прэзыдэнцкай камісіі. Камісію трэба паінфармаваць рачова аб нацыяналістычных фэрмэнтах беларускага народу, выяўленых беларускімі пісьменьнікамі. Паінфармаваць, чаго сяньня беларусы на Беларусі хочуць»*[165]. У выніку было прынятае рашэнне стварыць адмысловую камісію па справах Радыё «Свабода» ў Радзе БНР, на старшыню якой быў пакліканы Янка Запруднік. Аднак пра далейшую дзейнасць гэтай камісіі інфармацыі ў дакументах не знойдзена.

Супрацьстаянне ініцыятыве закрыцця радыёстанцый было даволі сур'ёзнае з боку розных уласна амерыканскіх і нацыянальных сілаў, так што Антон Адамовіч заўважаў: *«Супраць акцыі Фульбэрта, каб закрыць гэтыя радыі, было з розных амэрыканскіх палітычных дзейнікаў столькі водгукаў, што й нашыя амаль непатрэбныя»*[166]. Наогул жа, пасля 1973 г. згадкі пра Радыё «Свабода», у тым ліку і пра Беларускую рэдакцыю, знікаюць з парадка дня пасяджэнняў Рады БНР. Гэтае пытанне больш не падымала ні кіраўніцтва, ні самі радныя. Магчыма, пасля ліквідацыі Амерыканскага камітэта вызвалення ад бальшавізму і рэарганізацыі радыё ў Рады БНР не было больш нават уяўных механізмаў уплыву на сітуацыю. Пазіцыі ў дачыненні да радыё, у стварэнні якога ў пэўнай ступені браў удзел Мікола Абрамчык, у 1970-я гг. былі практычна згубленыя, хоць сама Беларуская рэдакцыя працягвала сваю працу і значная частка яе супрацоўнікаў заставаліся раднымі БНР.

Яшчэ складаней было з Інстытутам вывучэння СССР. У 1972 г. ён быў проста зачынены ў межах правядзення той самай палітыкі разрадкі. Праўда, да гэтага часу беларускага аддзела тут ужо не існавала, былі толькі асобныя беларусы, як Павел Урбан ці Надзея Тэадаровіч-Абрамава, што працавалі

---

[164] Гл.: Сосин, Джин. Искры Свободы. Воспоминания ветерана радио / пер. с англ. 2008. С. 106–107.

[165] Пратакол паседжаньня Прэзыдыюму й Сакратарыяту Рады БНР… 15 травеня 1972 г.

[166] Пратакол паседжаньня Прэзыдыюму й Сакратарыяту Рады БНР… 15 травеня 1972 г.

ў агульных аддзелах. Магчыма, менавіта таму інфармацыя пра закрыццё Інстытута ніякім чынам не была абмеркаваная ў Радзе і не зафіксавалася ні ў адным з яе дакументаў.

Такім чынам, з усёй спадчыны Міколы Абрамчыка Вінцэнт Жук-Грышкевіч пад сваім пэўным кантролем здолеў утрымаць толькі Фундацыю імя П. Крэчэўскага.

## ЗНЕШНЕПАЛІТЫЧНАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ

Спецыфічная міжнародная сітуацыя, што склалася на пачатку 1970-х гг., успрыманая ў Радзе як вельмі неспрыяльная, істотна абмежавала яе знешнепалітычную дзейнасць. Да гэтага дадалося і тое, што новы старшыня меў значна меншы дыпламатычны досвед, чым Мікола Абрамчык, і не імкнуўся адыгрываць у вонкавых дачыненнях такую ж актыўную ролю, як папярэднік. Згадкі пра абмежаваныя магчымасці працы ва ўмовах разрадкі паўтараліся ў прамовах Вінцэнта Жук-Грышкевіча даволі рэгулярна. Так, у 1973 г. Старшыня Рады заўважаў: *«Міжнародная сытуацыя няпрыхільная для нас тым, што заходні сьвет, пераходзячы зь мірнага суіснаваньня з камуністычным блёкам да супрацоўніцтва, перастаў цікавіцца паняволенымі Масквой народамі і іхнымі незалежніцкімі імкненьнямі. Нягледзячы на гэта, мы павінны ўважна сачыць за міжнароднымі падзеямі ды старацца выкарыстоўваць усякія нагоды, каб узьнімаць голас пратэсту супраць гвалту й крыўдаў, чыненых Беларусі і яе народу»*[167].

Улічваючы, што да канца 1970-х гг. у Радзе не было сакратара вонкавых сувязяў, уся знешнепалітычная дзейнасць, як і шмат якая іншая, клалася на плечы самога Вінцэнта Жук-Грышкевіча. Апошні, у сваю чаргу, абмежаваўся дасыланнем рэзалюцый і мемарандумаў урадам розных дзяржаў і кіраўніцтву міжнародных арганізацый. Прыкладам, рэзалюцыя 11-й сесіі Рады БНР супраць генацыду ў Беларусі была разасланая *«сталым місыям пры Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў ды палітычным дзейнікам ЗША»*[168], рэзалюцыя 12-й сесіі Рады БНР была скіраваная кіраўнікам дзяржаў і Генеральнаму сакратару ААН, а таксама *«шматлікім дэлегацыям ЗН і важнейшым парлямэнтарыстам ды палітычным дзеячом у розных краінах»*[169]. І падобная практыка працягвалася надалей.

Чаго патрабавала Рада БНР, дэманструе адна з рэзалюцый:

*«Заклікаць урад Задзіночаных Штатаў Амэрыкі й урады ўсіх дзяржаваў вольнага сьвету, каб асудзілі ўрад Савецкага Саюзу за пагвалчваньне людзкіх правоў у Беларусі й за палітычны, рэлігійны, культурны й эканамічны*

---

[167] Пратакол 12-ай Нечароднай Сэсіі Рады БНР, што адбылася 21 красавіка 1973 г.

[168] Пратакол паседжаньня Прэзідыюму й Сакратарыяту Рады БНР з дня 18 сьнежня 1971 г.

[169] Пратакол паседжаньня Прэзыдыюму й Сакратарыяту Рады БНР дня 8 сьнежня 1973 г.

*ўціск яе насельніцтва, ды каб гэтыя дзяржавы ўзалежнілі адпружаньне ў адносінах з Савецкім Саюзам і эканамічнае супрацоўніцтва зь ім ад прызнаньня Савецкім Саюзам права на свабодныя зносіны з вольным сьветам і на эміграцыю ў Амэрыку й наагул у вольны сьвет — беларусам і іншым падсавецкім народам;*

*Дамагацца ў Генэральнага Сакратара Задзіночаных Нацыяў, каб стварыў адумысловую камісію Задзіночаных Нацыяў, якая-б занялася дасьледаваньнем каляніяльнай палітыкі Савецкага Саюзу ў Беларусі, а менавіта: генацыдам Беларускага Народу й перасьледаваньнем беларускае мовы й культуры; жорсткім рэлігійным уціскам з забаронай утварэньня беларускай праваслаўнай юрыздыкцыі ў Беларусі ды недапушчэньнем беларускага каталіцкага япіскапату для беларусаў каталікоў; фальшывай рэпрэзэнтацыяй Беларусі ў Задзіночаных Нацыях — аднаго з закладчыкаў гэтае арганізацыі — дэлегацыяй гэтак званай БССР, якая рэпрэзэнтуе інтарэсы Масквы, а не Беларусі;*

*Дамагацца далучэньня ў Задзіночаныя Нацыі дэлегацыі Рады Беларускай Народнай Рэспублікі як абсэрватара»*[170].

Такім чынам, асноўны ўхіл у дачыненнях з важнымі вонкавымі чыннікамі быў зроблены на патрабаванне абароны правоў чалавека ў БССР ды магчымасці Рады БНР прадстаўляць інтарэсы беларусаў у ААН.

Часам на дасланыя рэзалюцыі атрымоўваліся адказы. Гэтак, у «Камунікатах», № 5 за красавік 1974 г., былі апублікаваныя адказы з брытанскага Міністэрства замежных спраў, аналагічнай установы ў Нямеччыне, канцылярыі прэм’ер-міністра Канады ды Дэпартамента правоў чалавека ААН. Што праўда, былі тое звычайныя ветлівыя лісты стандартнага зместу.

Акрамя дасылкі рэзалюцый сесій ад імя Рады БНР час ад часу паўставалі ідэі складання мемарыялаў і мемарандумаў у сувязі з правядзеннем міжнародных канферэнцый у Хельсінкі, Белградзе, Мадрыдзе. Аднак гэтыя ідэі не заўсёды рэалізоўваліся, а намеры даслаць на тыя канферэнцыі ўласных прадстаўнікоў у Радзе не абмяркоўваліся, бо апрыёры сыходзілі з недахопу грашовых сродкаў. Відавочны быў брак адмысловага сакратара Рады БНР, адказнага за знешнепалітычную дзейнасць.

У 1976 г., калі Вінцэнт Жук-Грышкевіч быў пераабраны на пасаду Старшыні Рады БНР, ён вызначыў тры найважнейшыя кірункі вонкавай дзейнасці:

*«а. Беларускія перадачы праз радыё “Голас Амэрыкі”;*

*б. Дамаганьне месца абсэрватара пры Аб’еднаных Нацыях для БНР;*

*в. Актывізацыя Парыскага Блёку з прыцягненьнем да яго балтаў і сатэліцкіх дзяржаваў»*[171].

Аднак ні ў адным з іх так і не было ніякіх дасягненняў. Што датычыць згаданага Парыжскага блока (Лігі вызвалення народаў СССР), то пасля

---

[170] Рэзалюцыя 13-й сесіі Рады Беларускай Народнай Рэспублікі на Чужыне, змешчаная ў раздзеле «Пратаколы» гэтай кнігі.

[171] Пратакол паседжаньня Прэзыдыюму Рады БНР з дня 3 студзеня 1976 году.

смерці свайго шматгадовага кіраўніка Міколы Абрамчыка гэтая арганізацыя перажывала не лепшыя часы. Новым старшынёй стаў украінец Мікалай Лівіцкі, а беларусаў першапачаткова прадстаўляў тут Юры Сяњкоўскі з Нямеччыны[172]. На пачатку 1970-х гг. яшчэ час ад часу адбываліся канферэнцыі Блока, аднак іх вага, як і ўсёй арганізацыі, не была вялікая. Парыжскі блок — яшчэ адно дзіця Міколы Абрамчыка — імкліва страчваў сваё значэнне, і Рада БНР тут нічога не магла зрабіць пры сваёй пасіўнай знешней палітыцы.

Фактычна, актыўнасць у вонкавых стасунках паступова перайшла ад Рады БНР да мясцовых беларускіх грамадскіх арганізацый ці сектараў. Цягам 1970-х гг. на старонках эміграцыйнага друку не было недахопу матэрыялаў пра ўдзел беларусаў у спатканнях з амерыканскімі кангрэсменамі і нават прэзідэнтамі, урадавымі чыноўнікамі ў розных краінах, а таксама рэпрэзентацыі беларусаў у разнастайных міжнародных арганізацыях. Аднак Рада ўжо асабліва не намагалася каардынаваць ці скіроўваць гэтыя кантакты, тлумачачы сітуацыю наяўнасцю натуральнага супрацоўніцтва паміж ёй і грамадскімі арганізацыямі.

Так, на 60-я ўгодкі БНР адмысловыя прыняцці адбыліся і ў Кангрэсе ЗША, і ў брытанскім парламенце. Ладзіліся яны БАЗА, ЗБВБ ды Англа-беларускім таварыствам, пра іх пісала не толькі эміграцыйная, але і БССРаўская прэса.

Некаторыя сектары Рады спецыялізаваліся на беларускім прадстаўніцтве ў тых ці іншых міжнародных арганізацыях. Напрыклад, радны з Вялікабрытаніі Павел Асіповіч рэпрэзентаваў беларусаў у Еўрапейскай групе сувязі (*European Liason Group*), а яго калега з Нямеччыны Уладзімір Бортнік быў, пасля Міколы Абрамчыка, беларускім прадстаўніком у Лізе вызвалення народаў СССР (Парыжскі блок), а ад 1978 г. яшчэ і ад імя Блока — у швейцарскай Міжнароднай канферэнцыі па правах чалавека і самавызначэнні, якая даволі рэгулярна збіралася на мяжы 1970–1980-х гг.

Часам радныя далучаліся да кампаній абароны беларускіх правоў у асобных заходніх краінах. Так было, калі ў Францыі паўстала праблема з афіцыйным фіксаваннем у дакументах беларускай нацыянальнасці: *«Вельмі важнай, але й прыкрай, паўстала была ў Францыі справа беларускай нацыянальнасьці, якую французская адміністрацыя не хацела прызнаць і замест беларускай упісвала ў пашпартах беларусаў расейскую нацыянальнасьць. Шмат клопатаў і захадаў мелі нашы сябры з гэтай справай. Ня раз зьвярталіся зь ёю да мясцовых дэпутатаў у парлямэнт. Дабіліся таго, што два дэпутаты інтэрвэніявалі ў самога Прэм'ера ў справе прызнаньня нацыянальнасьці і ў выніку гэтага прышло паведамленьне адміністрацыі, што беларусам будзе ўпісвацца ў пашпарты беларуская нацыянальнасьць, а не расейская»*[173].

---

[172] Гл.: З дзейнасьці Рады БНР па 12-ай сэсіі // Камунікаты Прызыдыюму і Сакратарыяту Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. № 5. Красавік 1974. С. 5.

[173] Пратакол 12-ай Нечароднай Сэсіі Рады БНР, што адбылася 21 красавіка 1973 г.

Падобныя праблемы ўзніклі ў сувязі з перапісам насельніцтва ў Канадзе. Раіса Жук-Грышкевіч згадвала: *«Калі ўлетку 1979 г. дайшоў да ведама радных БНР факт, што ў падручніку для нутранога ўжытку ўраднікаў статыстыкі Канады беларусы й беларуская мова ўлучаны ў расейскую групу, праведзена была акцыя пратэстаў. Перапіска вялася з Галоўным ураднікам статыстыкі Канады, зь міністрам для спраў шматкультуралізму, зь БІНІМ у Нью Ёрку ды Беларускай бібліятэкай імя Францішка Скарыны ў Лёндане, Англія. Зь перапіскі выявілася, што ад 1933 г. у канадзкай статыстыцы беларуская мова фігуравала як дыялект расейскае. У выніку нашых лістоў, падмацаваных фактычнымі навуковымі матарыяламі, сабраць якія дапамог БІНІМ у Нью Ёрку, гэтая недарэчная й дыкскрымінуючая памылка выпраўлена, і беларуская мова лічыцца цяпер як адна з трох усходнеславянскіх апрычоных моваў»*[174].

Звесткі пра ўдзел у такіх кампаніях і міжнародных арганізацыях уключаліся ў справаздачы з месцаў на сесіях Рады БНР, хоць, як аднойчы заўважыў старшыня брытанскіх радных, складана было сказаць, дзе была менавіта дзейнасць сектара, а дзе — грамадскіх арганізацый, бо паўсюль былі тыя самыя асобы.

Асаблівую падтрымку Рады і асабіста яе Старшыні займела справа Канферэнцыі вольных беларусаў на чале з Барысам Рагулем, што паўстала ў 1976 г. дзеля рэпрэзентацыі беларусаў з нагоды падрыхтоўкі прадстаўнікамі розных народаў мемарандума да Генеральнай Асамблеі ААН у справе дэкаланізацыі Савецкага Саюза. У выніку супольнай працы з Эстонскай сусветнай радай, Летувіскай сусветнай грамадой, Сусветным кангрэсам вольных украінцаў і Сусветнай федэрацыяй вольных латышоў быў складзены дакумент ў выглядзе кнігі на 150 старонак, які і быў скіраваны кіраўніцтву ААН. Выданне мемарандума каштавала беларусам 1700 даляраў, якія выдаткавалі асабіста Барыс Рагуля і Вінцэнт Жук-Грышкевіч[175].

Абапіраючыся ў вонкавай дзейнасці найперш на мясцовыя ініцыятывы сектараў і грамадскіх арганізацый, страчваючы ролю каардынацыйнага цэнтра на пачатку 1980-х гг., Рада БНР сутыкнулася з праблемай адсутнасці выразна сфармуляванай канцэпцыі сваёй знешнепалітычнай дзейнасці. Так, за часам Вінцэнта Жук-Грышкевіча Рада БНР не мела ніякіх афіцыйных двухбаковых дачыненняў з прадстаўнікамі ні суседніх народаў, ні партнёраў па Парыжскім блоку. Не было сфармулявана прынцыповых пазіцый у адносінах з украінцамі, літоўцамі, палякамі і г. д. У выніку ў 1982 г., нарэшце распачаўшы дзейнасць у якасці сакратара вонкавых спраў на Амерыку, Расціслаў Гарошка заўважыў: *«Нам трэба ведаць, што мы хочам. Пэўна-ж, дзяржаўную дэмакратычную сувэрэннасьць у форме БНР, але ў дачыненьні*

---

[174] Пратакол 16-й Звычайнай Чароднай Сэсіі Рады БНР, што адбылася 24 лістапада 1979 г.

[175] Гл.: Пратакол 15-й Юбілейнай Сэсіі Рады БНР, што адбылася 25 лістапада 1978 г.

*з нашымі суседзямі нашая канцэпцыя БНР мусіць быць сканкрэтызаваная. Такую канцэпцыю нялёгка сканкрэтызаваць, распрацаваць, бо недастаткова матар'ялаў пра гісторыю Беларусі ды ейныя этнаграфічныя межы. Калі-б заўтра адбылася міжнародная канфэрэнцыя й нас на яе запрасілі, з чым-бы мы на яе пайшлі?»*[176]. Згаданая праблема была наўпрост звязаная з распрацоўкай ідэалогіі БНР, пра якую Вінцэнт Жук-Грышкевіч рэгулярна згадваў.

## СУПРАЦЬСТАЯННЕ З БССР І ІДЭАЛОГІЯ БНР

Важным кірункам дзейнасці Рады БНР стала своеасаблівае ідэалагічнае супрацьстаянне БССР. І гэта была не толькі праца на міжнароднай арэне па давядзенні свету паняволенага стану Савецкай Беларусі, але і змаганне за абгрунтаванне права Рады БНР рэпрэзентаваць інтарэсы ўсяго беларускага народа. У гэты час у БССР ішоў працэс фармулявання і замацавання ў афіцыйнай гістарыяграфіі і грамадскай думцы бачання створанай у 1918 г. БНР як марыянеткавай дзяржавы. Гэта мусіла не толькі пераканаць і сваіх грамадзянаў, і навакольны свет, што БССР з'яўляецца адзінай магчымай формай беларускай дзяржаўнасці, але і дыскрэдытаваць Раду БНР у выгнанні, дый усю беларускую эміграцыю, што прытрымлівалася ідэй 25 Сакавіка і праяўляла сваю выразную актыўнасць у стасунках з заходнімі, асабліва амерыканскімі, палітыкамі. Ігнараваць наяўнасць на Захадзе палітычна актыўнай эміграцыі ў савецкай метраполіі не маглі.

Так, цягам 1960–1970-х гг. у БССР сталі з'яўляцца даследаванні, прысвечаныя нацыянальнаму руху часоў Першай сусветнай вайны, дзе рабіўся акцэнт на стварэнні БНР пад нямецкай акупацыяй, а таксама яе нібыта самароспуску ў 1925 г. Адпаведныя матэрыялы былі змешчаныя і ў Беларускай савецкай энцыклапедыі: *«Беларуская Народная Рэспубліка (БНР), марыянетачная дзяржава, абвешчаная 25.3.1918 беларускімі бурж. нацыяналістамі з удзелам эсэраў, меншавікоў і інш. згоднікаў як бурж. рэспубліка ва ўмовах акупацыі Беларусі ням. войскамі. Урад БНР — Рада і Народны сакратарыят — абвясціў аддзяленне Беларусі ад Расіі, адмену Сав. улады і дэкрэтаў СНК Зах. вобласці і фронту, памагаў акупантам. Кіраўнікі БНР разлічвалі толькі на падтрымку знешніх рэакц. сіл, але па розных прычынах не атрымалі прызнання ні ад Германіі, ні ад Польшчы, ні ад краін Антанты. Пасля грамадз. вайны Рада БНР збегла ў акупаваную бурж. Польшчай Зах. Беларусь і ў 1925 абвясціла БНР ліквідаванай»*[177].

Беларускія дзеячы на Захадзе, у тым ліку і радныя, пільна адсочвалі савецкія публікацыі, у якіх закраналася пытанне БНР, і намагаліся на іх рэагаваць у эміграцыйным друку: рэцэнзіі і публіцыстычныя артыкулы змяшчаліся як на старонках «Запісаў БІНіМ», гэтак і ў газеце «Беларус».

[176] Пратакол 17-ай Звычайнай Чароднай Сэсіі Рады БНР, што адбылася 27 лістапада 1982 г.

[177] Беларуская савецкая энцыклапедыя. Т. II. Мінск, 1970. С. 227.

Адным з найважнейшых пунктаў супрацьстаяння было тлумачэнне падзей 1925 г. Эміграцыйны бок даводзіў, што Берлінская канферэнцыя і гэтак званы самароспуск Урада не маглі пакласці канец існаванню БНР, бо Старшыня Рады Пётра Крэчэўскі рашэнне тое не прымаў і не падтрымаў. Больш за тое, сама ідэя роспуску Урада БНР тлумачылася Вінцэнтам Жук-Грышкевічам як ініцыятыва Масквы і вынік дзеяння савецкай прапаганды. У сваёй прамове на 13-й Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі Старшыня Рады БНР казаў:

*«Тады ж* [на пачатку 1920-х] *пачалася ўзмоцненая кампанія за ліквідацыю Рады й Ураду БНР на эміграцыі. Праводзілася настырная прапаганда, каб сябры Рады й Ураду БНР ды й іншыя беларускія эмігранты, уключна з студэнтамі, ня трацілі на пуста час і энэргію, а зьмянялі палітычныя вехі ды ехалі ў БССР будаваць "Беларускі Дом", які чакае на іх патрэбныя культурныя сілы. Паміж 1923 і 25 годам у Прагу быў высланы Янка Купала, а ў Бэрлін Цішка Гартны, каб намовіць сваіх калішніх сяброў — Крэчэўскага, Захарку, Цьвікевіча й Пракулевіча на ліквідацыю Рады й Ураду БНР і да вавароту іх у Менск.*

*Прапаганда гэта мела нязначныя вынікі. Толькі Цьвікевіч, Пракулевіч і Заяц паехалі з Прагі ў Бэрлін на скліканую там прадстаўнікамі БССР канфэрэнцыю ў кастрычніку 1925 г., склаўшы перад выездам дымісіі з займаных імі становішчаў Прэзыдэнту Крэчэўскаму. Дзеля цікавасьці паехала зь імі й некалькі студэнтаў з Прагі. Там былыя міністры прызналі БССР і паехалі ў Менск.*

*Што сталася зь імі далей — нам ведама: праз пару гадоў яны былі замучаныя ў бальшавіцкіх катоўнях. У міжчасе ж урад БССР абвесьціў на ўвесь сьвет, што Рада й Урад БНР ліквідаваліся й больш ня існуюць. Падае гэта й бальшавіцкая Бел. Сав. Энцыкляпэдыя (т. 2, с. 227).*

*Але гэта была самая бессаромная бальшавіцкая ілжа. Тры сябры ніяк не маглі ліквідаваць Ўрад, ані тым больш Раду БНР (Ластоўскі выехаў з Коўна ў Менск незалежна ад іх на цэлы год пазьней). У Празе засталіся Прэз. Крэчэўскі, заступнік ягоны Захарка, сакратар сельскай гаспадаркі Т. Грыб, прадстаўнік БНР на Чэхаславакію М. Вяршынін, лідары беларускіх эсэраў Я. Мамонька й П. Бадунова, В. Русак, Ермачэнка, Шышкоўскі. Усе яны былі раднымі БНР, як і група старэйшых студэнтаў з Я. Станкевічам і І. Дварчанінам на чале. Дык было кім папоўніць сакратарыят і ён, як і Рада БНР, былі чыннымі, аж пакуль гітлераўцы занялі Прагу»*[178].

Гэткае тлумачэнне рабілася не толькі ў адказ ідэолагам з БССР, але і прыхільнікам БЦР, для якіх тая Берлінская канферэнцыя была таксама сведчаннем спынення дзейнасці БНР і доказам правамоцнасці створанай у часе Другой сусветнай вайны Рады на чале з Радаславам Астроўскім.

Другім важным пунктам у абгрунтаванні правамоцнасці эміграцыйнай БНР, у тым ліку і для магчымасці рэпрэзентацыі беларусаў у ААН замест

---

[178] Прывітаньне 13-ай Сустрэчы Б. П. А. // Камунікаты Прэзыдыюму і Сакратарыяту Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. № 11. Кастрычнік 1978. С. 5–6.

БССР, было яе аднаўленне ў 1947 г. на правах пераемнасці з даваеннай. І тут важны акцэнт традыцыйна рабіўся на тастамент Васіля Захаркі. Аднак з’явілася і новае, што нават першапачаткова было ўнесенае ў Статут: ідэя, што Рада БНР была адноўленая адзінай свабоднай (непаняволенай) часткай беларускага народа, якая апынулася на эміграцыі. Што праўда, гэты аргумент, відаць, больш пацвярджаў менавіта эміграцыйны характар Рады, і таму пры рэдагаванні Статута ад яго адмовіліся, зноў зрабіўшы стаўку менавіта на тастамент Захаркі. Гэта, тым не менш, пакідала пытанні адносна статусу самога Вінцэнта Жук-Грышкевіча, які палітычнага тастамента не меў.

Значным аспектам вонкавай дзейнасці і супрацьстаянні з БССР, як ужо згадвалася раней, было збіранне і агучванне доказаў прыгнёту беларусаў у СССР. Падобная праца была некалі распачатая Міколам Абрамчыкам, які даводзіў пра ажыццяўленне генацыду беларусаў у савецкай дзяржаве. Цяпер, у час міжнароднай разрадкі, калі адным з важных пунктаў Хельсінкскай дэкларацыі 1975 г. стала абарона правоў чалавека, уласна ідэалагічнае супрацьстаянне БНР — БССР у гэтай галіне набывала і міжнародную значнасць. У Рэзалюцыі 13-й сесіі Рады БНР былі выкладзеныя ў канцэнтраванай форме асноўныя закіды, што рабіліся з эміграцыі метраполіі:

*«Праз 56 год у БССР дзяржаўная ўлада ўстанаўляецца фікцыйнымі выбарамі кандыдатаў, вызначаных Масквой, і стала знаходзіцца пад яе выключнай кантроляй.*

*Пад пратэкстам шырока прапагандаванай “дружбы народаў” і злучэньня ўсіх народаў Савецкага Саюзу ў адну гэтак званую “савецкую нацыю” маскоўскі таталітарны рэжым праводзіць русыфікацыю Беларусі. Беларуская мова выцясьняецца з публічнага ўжытку й школьніцтва ды замяняецца расейскай, памяншаецца беларускі друк прэсы й кніжак ды замяняецца расейскім, а беларуская літаратура й мастацтва пазбаўляюцца свайго нацыянальнага зьместу й характару.*

*Савецкі рэжым праводзіць у Беларусі жорсткі ўціск і дыскрымінацыю беларускага рэлігійнага жыцьця: зачыняе сьвятыні, перасьледуе беларускіх сьвятароў і вернікаў. З тых-жа праваслаўных цэркваў, якія ўтрымаліся, — маскоўскія заправілы стварылі яшчэ адну прыладу русыфікацыі: гэтым цэрквам не дазволена свая, беларуская праваслаўная юрысдыкцыя зь беларускім япіскапатам, хоць Беларусь і называецца незалежнай і сувэрэннай рэспублікай. Яны падданы пад юрысдыкцыю расейскай праваслаўнай царквы ў Маскве й зроблены асяродкамі русыфікацыі вернікаў.*

[…]

*Маскоўскія заправілы стала гвалцяць у Беларусі Хартыю Вольнасьцяў Задзіночаных Нацыяў і Ўнівэрсальную Дэклярацыю Людзкіх Правоў. Яны трымаюць у поўнай ізаляцыі ад рэшты сьвету насельніцтва БССР, забараняюць эміграцыю ў Амэрыку і іншыя заходнія дзяржавы і толькі ў рэдкіх выпадках пазваляюць некаторым асобам на часовы выезд заграніцу. Нават ліставаньне й культурная сувязь з вольным сьветам перасьледуецца.*

*Эксплуатацыя Масквой беларускіх натуральных багацьцяў робіцца не на карысьць беларускага народу, а на ўзмацненьне расейскага імпэрыялістычнага патэнцыялу, чым павялічваецца небясьпека для ўсяго вольнага сьвету...»*[179].

Зрэшты, збіранне інфармацыі пра ўціск беларусаў, падтрымка дысідэнтаў ішла не толькі і не столькі па лініі самой Рады БНР, колькі з удзелам найбуйнейшых грамадскіх арганізацый беларусаў на Захадзе. Так, Згуртаванне беларусаў у Вялікабрытаніі, як і Беларуска-Амерыканскае задзіночанне, у супрацы з арганізацыяй «Міжнародная амністыя» ладзілі інфармацыйныя акцыі і дэманстрацыі ў падтрымку беларускіх дысідэнтаў, і найбольш Міхася Кукабакі. Акрамя таго, ЗБВБ ужо ў 1980-я гг. друкавала і распаўсюджвала беларускі самвыдат. Было гэта адметнай з'явай грамадска-палітычнага жыцця эміграцыі, бо стала своеасаблівым доказам наяўнасці хоць нейкіх формаў супраціву савецкай сістэме ўнутры БССР, які намагалася падтрымоўваць эміграцыя ад пачатку 1950-х гг.

Хоць, магчыма, маштабы антысавецкіх настрояў перабольшваліся. Прыкладам, Янка Запруднік яшчэ ў 1971 г. сцвярджаў: *«У беларускім народзе назіраюцца войстрае адчуваньне сацыяльнага й нацыянальнага ўціску з боку расейска-камуністычнага цэнтру й гатовасьць, пры спрыяльнай нагодзе, узьняцца на збройнае змаганьне за сваю нацыянальную свабоду».* І далей: *«Беларусы на Бацькаўшчыне выказваюць вялікае зацікаўленьне да тае ўвагі, зь якою ставяцца да беларускай праблемы палітычныя дзейнікі ў заходніх дзяржавах, у заходнім друку. Дзейнасьць беларускае патрыятычнае эміграцыі становіць паважны маральны фактар у падтрыманьні ў беларускім народзе на Бацькаўшчыне духу супраціву злу маскоўскага паняволеньня»*[180]. Аднак гэткае звышаптымістычнае ўяўленне было сведчаннем жадання бачыць вынікі і ўласнай ідэалагічна-прапагандысцкай працы, у тым ліку і праз Радыё «Свабода». Згадваючы ўсведамленне палітычнай місіі беларускай паваеннай эміграцыі праз садзейнічанне антысавецкаму супраціву, а ў будучыні і вызваленню Беларусі, пашырэнне інфармацыі пра гэткі супраціў заўсёды было важным для самой эміграцыі, і асабліва ў 1970-я, калі такая дзейнасць станавілася яшчэ і часткай вялікай міжнароднай палітыкі.

Ідэалагічнае супрацьстаянне БССР вылівалася на старонкі эміграцыйнага друку, у скіраваныя ў міжнародныя арганізацыі мемарандумы ды рэзалюцыі сесій, а таксама ўрачыстае адзначэнне ўгодкаў беларускай дзяржаўнасці — ад уласна гадавінаў незалежнасці БНР да тысячагоддзя дзяржаўнасці з часоў Полацкага княства, што таксама святкавалася актыўна беларускай эміграцыяй у 1980 г.

---

[179] Рэзалюцыя 13-ай Сэсіі Рады Беларускай Народнай Рэспублікі на Чужыне 30 лістапада 1974 г.

[180] Пратакол 11-й Сэсіі Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, што адбылася 29 траўня 1971 г.

Разам з прапагандысцкім двубоем з БССР ідэалагічная праца Рады БНР была скіраваная і на саму беларускую эміграцыю, якой неабходна было таксама даводзіць важнасць і актуальнасць дзейнасці дзяржаўнага прадстаўніцтва на выгнанні. Складанасці эміграцыйнага існавання выклікалі ў асяроддзі не толькі палітычных апанентаў, але і саміх радных нараканні на бяздзейнасць Рады, а таксама прапановы захаваць яе выключна як сімвалічную інстытуцыю. Гэтаму пытанню было прысвечанае адмысловае абмеркаванне, ініцыяванае ў № 5 «Камунікатаў». У артыкуле з красамоўнай назвай «Шаптаная прапаганда» Вінцэнт Жук-Грышкевіч у адказ на заўвагі пра неактуальнасць Рады БНР і неабходнасць пакінуць яе гісторыі як сімвал, засяродзіўшыся на грамадска-культурнай дзейнасці, пісаў:

*«Незалежна ад таго, скуль гэта прапаганда паходзіць і кім пашыраецца, яна така-ж зласьлівая, фальшывая й варожая да беларускага вызвольнага руху, як і бальшавіцкая прапаганда.*

*Па-першае — яна ўбівае клін паміж Радай БНР і беларускімі грамадскімі й культурнымі ды царкоўнымі арганізацыямі, уносіць замяшаньне й непаразуменьне між грамадзтвам і раднымі, хоць апошнія ёсьць найактыўнейшымі сябрамі грамадзкіх, культурных і царкоўных арганізацыяў.*

*Па-другое, адмаўляючы беларускую актуальную патрэбу дзяржаўна-палітычнай арганізацыі і рэпрэзэнтацыі ў вольным сьвеце — прапаганда гэта сьпіхае нас з ганаровай ступені нацыі на шэры канец этнічных групаў, якія займаюцца сваімі этнічнымі асаблівасьцямі й культурай. Бо толькі народ, які мае сваю дзяржаву або знаходзіцца ў стане змаганьня за вызваленьне сваёй дзяржавы, — уважаецца за нацыю.*

*Па-трэцяе, зводзячы нас са шляху вызвольнага змаганьня за беларускую дзяржаўную незалежнасьць — БНР, на этнічны грунт грамадзкіх арганізацыяў і рэлігійных, — прапаганда гэта, калі б мы яе прынялі, разьвязвае рукі Маскве да канчальнай ліквідацыі ўсяго беларускага на бацькаўшчыне. Бо калі няма палітычнай арганізацыі й рэпрэзэнтацыі ў вольным сьвеце, якая-б запратэставала супраць гэтага насільства, дык няма патрэбы лічыцца зь Беларусамі ў БССР і СССР наагул, як з асобным народам»*[181].

Такім чынам, актыўная дзейная Рада БНР паказвалася як не толькі як важная структура для эміграцыі, але і як неабходны фактар захавання беларусаў у СССР.

Старшыня Рады БНР неаднойчы даводзіў неабходнасць павышэння палітычнай пісьменнасці радных, важнасць ідэалогіі. Так, прыкладам, у «Камунікатах», № 5 за красавік 1974 г., Вінцэнт Жук-Грышкевіч рэкамендаваў радным пазнаёміцца з кнігаю, прысвечанай парламенцкай дзейнасці, — *Alice F. Sturgis «Standard Code of Parliamentary Procedure»*, якая была даволі папулярная на той час на Захадзе[182].

[181] Камунікаты Прызыдыюму і Сакратарыяту Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. № 5. Красавік 1974. С. 8.

[182] Гл.: Камунікаты Прызыдыюму і Сакратарыяту Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. № 5. Красавік 1974. С. 7.

Нягледзячы на шматлікія размовы пра важнасць ідэалогіі і ідэалагічнай працы, у час старшынёўства Вінцэнта Жук-Грышкевіча асноўныя задачы ў гэтым кірунку такі і не былі вырашаныя. Не была сфармуляваная нацыянальная канцэпцыя гісторыі беларускай дзяржаўнасці ў супрацьвагу савецкай канцэпцыі, не была пераканаўча, з апорай на дакументы, абгрунтаваная роля самой Рады ў беларускім руху ў гісторыі і сучаснасці, не былі вызначаныя прыярытэтныя кірункі ці праграма дзяржаўнага будаўніцтва на выпадак дасягнення дзяржаўнай незалежнасці Беларусі і г. д. Зрэшты, гэта ўсё не было зроблена і ў папярэдні перыяд існавання Рады. Цікава, што ў 1970-я гг. радныя не змаглі прыйсці нават да агульнага меркавання адносна таго, ці могуць сябры Рады адведваць Савецкі Саюз, ці не пярэчыць гэта іх афіцыйнаму статусу.

Безумоўна, важна, што Рада БНР пад кіраўніцтвам Вінцэнта Жук-Грышкевіча захавала статус дзейнай арганізацыі. На жаль, за дэкларацыямі і рэзалюцыямі не ішла праца па стварэнні сапраўднай канцэптуальнай асновы беларускай незалежнай дзяржаўнасці. Недарма Янка Запруднік казаў пра тое, што апоры выключна на тры Устаноўчыя граматы, прынятыя ў 1918 г., для 1970-х ужо было недастаткова[183].

## АРХІВЫ РАДЫ БНР

Як згадвалася ўжо ў папярэдняй кнізе, справа атрымання ад ўдавы Міколы Абрамчыка архіваў Рады БНР, у тым ліку вывезеных з Прагі, засталася нерэалізаванай. Адносна яе акалічнасцяў выяўляюцца і публікуюцца новыя дакументы, у тым ліку і ў гэтым выданні, аднак сутнасць застаецца нязменнай — тыя архівы так і не былі атрыманыя Радай БНР.

Станоўчым момантам гэтай сітуацыі было тое, што новы старшыня ад самага пачатку задумаўся пра неабходнасць арганізацыі архіваў ужо новай Рады БНР, іх сістэматычнага збірання і захавання. Нездарма ў прынятым у 1971 г. Статуце з’явіўся адмысловы пункт, прысвечаны Архіву Рады БНР. Сярод іншага тут было адзначана, што *«дакумэнты Рады БНР і ўсіх яе органаў з усіх часоў яе істнаваньня й дзеяньня, як і перапіска яе, што захавалася (дакумэнты й перапіска) у органах Рады БНР і ў розных прыватных асобаў або асобаў, што маюць ці мелі дачыненьне з Радай БНР ці яе органамі, — лічацца нацыянальнымі гістарычнымі матар’яламі і ёсьць выключнай собскасьцяй Рады БНР»* (1971. Пар. 48). Таму ўсе згаданыя паперы меліся быць неадкладна перададзеныя ў Архіў Рады БНР, які меўся знаходзіцца ў Фундацыі імя П. Крэчэўскага, пад апеку яго загадчыка Антона Шукелойця. Для еўрапейскіх архіваў меркавалася знайсці іншае месца, але яно так і не было вызначанае, таму ў выніку ўсё трэба было дасылаць у Нью-Ёрк.

---

[183] Гл.: Пратакол 14-ай Нечароднай Сэсіі Рады БНР, што адбылася 27 лістапада 1976 г.

Структуры Рады БНР маглі захоўваць у сябе толькі неабходныя для працы матэрыялы (пазней было зазначана: толькі копіі матэрыялаў), а ўсе, хто не перадасць архівы Радзе, маглі быць, паводле Статута, нават прыцягнутыя да адказнасці. Праўда, якім меўся быць механізм ажыццяўлення згаданага пакарання, у дакуменце не вызначалася, і ў канчатковай рэдакцыі гэтае патрабаванне было прыбранае, як і дакладны адрас Архіва Рады БНР.

Нягледзячы на замацаванне ў Статуце першапачаткова нават імя адказнага за збіранне архіваў, ужо ў 1972 г. згаданы ў дакуменце Антон Шукелойць адмовіўся ад гэтай працы[184], і пытанне павісла ў паветры. У Фундацыі імя П. Крэчэўскага нібыта было памяшканне для арганізацыі архіва, сектары, прынамсі дакладна Аўстралійскі, ужо ў 1973 г. пачалі перасылаць на пазначаны адрас архівы, але асоба, якая б за іх адказвала, не была знойдзеная. І гэткай сітуацыя заставалася надалей. У ідэальным варыянце функцыянавання Сакратарыята Рады БНР пры сакратарыяце дакументацыі павінен быў быць створаны аддзел архіваў, аднак, улічваючы дзейнасць аднаго сакратара Янкі Запрудніка, што не меў ніякага штату, уся арганізацыя архіва мелася быць у ягоных руках, а займаўся ён адначасова вялікай колькасцю спраў.

У выніку Архіў Рады БНР у Фундацыі імя П. Крэчэўскага да пачатку 1980-х гг. так і не быў заснаваны. Больш за тое, ранейшыя будынкі былі прададзеныя, таму паўстала пытанне новага месца для захавання дакументаў, якія ўсё ж паступова назапашваліся. У 1981 г. Вінцэнт Жук-Грышкевіч прапанаваў, каб Архіў Рады БНР быў па прыкладзе Рады Украінскай Народнай Рэспублікі перададзены ў Федэральны архіў Канады[185]. Аднак гэтая ідэя не выклікала энтузіязму у радных, якія сцвердзілі неабходнасць мець архіў у Нью-Ёрку. Пакуль жа вырашылі, што архіў Рады БНР мае працоўны характар, неабходны для яе дзейнасці і патрэбны ў тым выглядзе, у якім існуе, а фактычна — на руках у дзеячаў.

Гэткай сітуацыя засталася пры сыходзе Вінцэнта Жук-Грышкевіча. Відавочна, што бягучыя дакументы пры ім збіраліся даволі метадычна, і найбольш самім старшынёй і ягонай жонкай Раісай. Апошняя і зрабіла адзін з камплектаў дакументаў з часу кіравання мужам Радай БНР і пераслала ў 1996 г. у Беларускую бібліятэку імя Ф. Скарыны ў Лондане. Акрамя таго, дакументы Рады трапілі ў фонд Раісы ў Бібліятэцы і архіве Канады ды ў Беларускі інстытут навукі і мастацтва. Такім чынам, дзякуючы руплівасці канкрэтных дзеячаў новая дакументацыя Рады БНР 1970–1982 гг. была захаваная, хоць справа арганізацыі сталага архіва на той час так і засталася невырашанай.

---

184 Гл.: Пратакол паседжаньня Прэзыдыюму й Сакратарыяту Рады БНР у Нью Ёрку з дня 8 сьнежня 1972 году.

185 Гл.: Пратакол паседжаньня Прэзыдыюму Рады БНР з дня 20 верасьня 1981 г.

# РАДА БНР І ЦАРКОЎНЫЯ СПРАВЫ

Адной з найважнейшых справаў адноўленай у паваенны час Рады БНР было адраджэнне і падтрымка Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы. Было нават заключанае пагадненне, што высвячэнне новых святароў і іерархаў будзе адбывацца па ўзгадненні з кіраўніцтвам Рады, а яе прадстаўнікі на месцах, у сваю чаргу, будуць падтрымоўваць БАПЦ. Ад таго часу ў эміграцыйным жыцці адбыліся істотныя змены. БАПЦ займела сваю іерархію, Рада БНР царкоўным справам ужо пры Міколу Абрамчыку стала надаваць менш увагі. Дзве інстытуцыі, безумоўна, не парываючы кантактаў, дзейнічалі, хутчэй, самастойна, асабліва пасля смерці ў 1970 г. уладыкі Васіля (Тамашчыка), які адначасова быў і радным БНР. Новыя іерархі БАПЦ — мітрапаліты Андрэй (Крыт) і Мікалай (Мацукевіч) — не былі сябрамі Рады, і магчымасці ўздзейнічаць на іх былі мінімальныя.

Праўда, згаданы ўжо вышэй дзякуючы сваім праектам рэарганізацыі Рады БНР Віктар Войтанка-Васілеўскі ў адным з лістоў прапаноўваў, каб усе беларускія праваслаўныя святары абавязкова былі раднымі. Нават калі б не працавалі, то хоць лічыліся імі дзеля ўласнага прыстыжу[186]. Аднак гэтая ініцыятыва не прайшла, і пасля смерці яе аўтара бадай адзіным святаром БАПЦ, які быў радным БНР, застаўся Васіль Кендыш.

Вінцэнт Жук-Грышкевіч меў прынцыповую пазіцыю адносна таго, што Рада БНР не мае займацца праблемамі царквы, хоць менавіта гэтым ён планаваў займацца ўжо на самым першым пасяджэнні Прэзідыума пасля смерці Міколы Абрамчыка. У дзённіку ён занатаваў пра тое пасяджэнне: *«Затрымаюся яшчэ над выступленьнем сп. Ул. Русака з дамаганьнем, каб паседжаньне пастанавіла не дапусьціць да рукапалажэньня ў сьвятары дыякана Карпа Старавойтава. Сп. Стагановіч і яшчэ пару моцна падтрымалі яго, проці выказаўся А. Адамовіч. Я забраў слова ў справе фармальнай і асьведчыў, што справа высьвячэньня сьвятароў і выбар кандыдатаў на іх не належыць да кампэтэнцыі Рады БНР і таму дыскусія ў гэтай справе спыняецца»*[187].

Такім чынам, старшыня адмовіўся ад падтрымкі дыскусіі, аднак сярод радных было дастаткова людзей, што памяталі пра заключанае паміж Радай і БАПЦ пагадненне і ўсведамлялі нават пэўную адказнасць за беларускую царкву. У выніку царкоўныя сюжэты, хоць і даволі рэдка, з’яўляліся ў дакументах Рады БНР 1970–1982 гг. і асабліва пры самым канцы згаданага перыяду. Як вядома, на пачатку 1980-х гг. у БАПЦ паўстаў канфлікт, які ператварыўся ў раскол, што падзяліў у тым ліку і радных: частка іх падтрымала мітрапаліта Андрэя, іншыя — мітрапаліта Мікалая. Нягледзячы на жорсткі супраціў Старшыні Рады, царкоўнае пытанне было ўсё ж унесенае ў парадак дня ягонай апошняй 17-й сесіі, і радныя прынялі рэзалюцыю, што

---

[186] Гл. ліст В. Войтанкі да мітр. Андрэя, Мікалая і Кендыша ад 03.03.1971. Захоўваецца ў фондзе БІНіМа ў БДАМЛМ.

[187] Жук-Грышкевіч, Раіса. Жыцьцё Вінцэнта Жук-Грышкевіча. С. 543.

заклікала лідараў БАПЦ прыйсці да згоды. Аднак адбывалася гэта ўжо без Вінцэнта Жук-Грышкевіча, які вымушаны быў пакінуць пасяджэнне.

## СЫХОД ВІНЦЭНТА ЖУК-ГРЫШКЕВІЧА

Вінцэнт Жук-Грышкевіч заставаўся на пасадзе Старшыні Рады БНР цягам двух тэрмінаў. Як схарактарызаваў ён сам, цягам першага — займаўся рэарганізацыяй Рады, справай Статута, а потым — *«увесь цяжар працы Рады і Ўраду БНР зваліўся на Старшыню Рады БНР і часткова на Прэзыдыюм Рады БНР, усталяваньне функцыяў сяброў якога працягваецца далей. Гэтым спосабам працы была занятая мая другая кадэнцыя»*[188].

З'яўляючыся надалей фактычна найстарэйшым радным, Вінцэнт Жук-Грышкевіч падыходзіў да 80-гадовага ўзросту, меў праблемы са здароўем і зусім лагічна на 17-й сесіі Рады, што адбывалася 27 лістапада 1982 г., абвясціў пра свой сыход. Гэта была, як мы ўжо згадвалі, не першая ягоная спроба сысці, але канчатковая.

Старшыня заўважыў:

*«Зьявіліся новыя камплікацыі й цяжкасьці ў беларускім жыцьці й працы ў сувязі з царкоўнымі непаладкамі, перамагчы якія ў маім веку пры маіх сілах і здароўі сталася немагчымым.*

*Пара заняць месца Старшыні Рады БНР чалавеку маладзейшаму й здаравейшаму, але, зразумела, дасьведчанаму й выпрактыкаванаму ў працы палітычнай і грамадзкай і ў новых спэцыфічных абставінах»*[189].

Прысутныя на сесіі радныя гэтым разам не запярэчылі і пасля абмеркавання справаздач ды выказвання падзякі сыходзячаму старшыні заняліся выбарамі новага. У пэўным сэнсе, выбары 1982 г. былі першымі сапраўднымі выбарамі кіраўніцтва Рады БНР у паваенны час. Мікола Абрамчык быў «тастаментавым» прэзідэнтам, кандыдатуру Вінцэнта Жук-Грышкевіча папярэднік узгодніў з раднымі яшчэ пры жыцці, а таму ў 1971 г. альтэрнатыва проста не разглядалася — выбары былі, хутчэй, фармальнасцю. А вось у 1982 г. выразных фаварытаў не было, а прапанаваных кандыдатаў назбіралася каля дзясятка. Сам Вінцэнт Жук-Грышкевіч высунуў на старшыню Уладзіміра Бортніка, акрамя яго разглядаліся кандыдатуры Уладзіміра Набагеза, Уладзіміра і Васіля Русакоў, Антона Адамовіча, Янкі Запрудніка, Антона Шукелойця, Янкі Міхалюка, Кастуся Мерляка, Язэпа Сажыча. Аднак ніводны з агучаных радных адразу не пагадзіўся прыняць на сябе гэткі абавязак. Таму вырашылі галасаваць па ўсіх кандыдатурах запар, і найбольшую колькасць галасоў атрымаў Язэп Сажыч. Сыходзячы старшыня быў незадаволены выбарам, аднак змяніць нічога не мог.

---

188 Пратакол 17-ай Звычайнай Чароднай Сэсіі Рады БНР, што адбылася 27 лістапада 1982 г.

189 Пратакол 17-ай Звычайнай Чароднай Сэсіі Рады БНР, што адбылася 27 лістапада 1982 г.

Вінцэнт Жук-Грышкевіч пакінуў свайму пераемніку Раду БНР арганізацыйна ў лепшым стане, чым сам яе атрымаў. Дзейнічалі сектары, Прэзыдыум, нават асобныя сакратары, спраўна збіраліся сяброўскія складкі і таму фінансавы стан быў не такі благі. Аднак па-за арганізацыйнымі структурамі дзяржаўнаму прадстаўніцтву часта не хапала асэнсаванай змястоўнай дзейнасці: знешнепалітычнай, выдавецкай, ідэалагічнай, моладзевай. Агучаныя добрыя ідэі не было каму рэалізоўваць. Нягледзячы на тое што Вінцэнт Жук-Грышкевіч даводзіў, нібыта менавіта дзейнасць у Радзе павінна стаяць для сябра на першым месцы, а ўжо потым пасады ў іншых арганізацыях, рэальна адбывалася, хутчэй, наадварот. Функцыі ў Радзе ўспрымаліся як нешта другаснае ў параўнанні з працай у іншых грамадскіх структурах. Зноў жа, дзейнасць на пасадах у іншых арганізацыях можна было ўключыць у справаздачу для Рады. Дыскусія адносна таго, ці мае быць Рада больш сімвалам, чым рэальнай арганізацыяй, для беларускіх дзеячаў не была канчаткова скончаная. Новаму старшыні трэба было адказваць на гэтае пытанне самастойна.

Язэп Сажыч згадваў: *«Шчыра кажучы, я не зьбіраўся займацца палітыкай. Аднак у 1982 г. мяне нечакана абралі на пасаду старшыні Рады БНР. Хоць былы старшыня Вінцэнт Жук-Грышкевіч мяне не любіў, галасы за мяне падалі 70 % дэлегатаў. Раней Жук-Грышкевіч зрабіў мяне сакратаром па справах вэтэранаў, заўсёды казаў, што палітычна я — няграматны.*

*Граматны, няграматны, але ж кіраваў 15 гадоў. Час майго праўленьня хтосьці ахрысьціў "брэжнеўскім застоем", але, паверце, гэта хлусьня»*[190].

Сам Вінцэнт Жук-Грышкевіч, сышоўшы з пасады, не спыніў цалкам грамадскую дзейнасць, хоць здароўе не дазваляла быць асабліва актыўным. Паранейшаму дзейная жонка Раіса лічыла яго сваёй надзейнай апорай. Апошнім праектам сям'і стала пабудова ў Святыні пакутнікаў у канадскім Мідлэндзе Беларускага крыжа ў гонар тысячагоддзя прыняцця хрысціянства. Неўзабаве пасля высвячэння, 14 лютага 1989 г., Вінцэнт Жук-Грышкевіч памёр.

Перыяд кіравання Радай Вінцэнта Жук-Грышкевіча можна назваць па-свойму пераломным. Рада перайшла ад харызматычнага лідарства да рацыянальнага, ад працы з волі і дзеля патрэб у першую чаргу кіраўніка да дзейнасці ў пэўнай ступені наладжанага механізму, асоба лідара для якога стала менш вызначальнай. Важна і тое, што Вінцэнт Жук-Грышкевіч стварыў прэцэдэнт самастойнага сыходу кіраўніка і альтэрнатыўных выбараў новага. Шмат у чым дзеяч быў ідэалістам, жадаў бачыць Раду зладжана працуючай у розных кірунках, як жывы арганізм, аднак рэальнасць далёка не заўсёды адпавядала марам. Разам з іншымі нявырашанымі да канца пытаннямі канадскі беларус пакінуў калегам на разгляд цверджанне: *«якія радныя, такая і Рада»*. Тэзу гэтую сур'ёзна не абмяркоўвалі, але актуальнасць яе ад гэтага не зменшала. Праўда, гэта ўжо іншая гісторыя.

---

190 Язэп Сажыч: «Справу сваю мы рабілі шчыра, самааддана, самаахвярна» // Адзінец, Аляксандр. Паваенная эміграцыя: скрыжаваньні лёсаў: зборнік успамінаў. Мінск: Медысонт, 2007. С. 353.

# *Раздзел II*
# ПРАТАКОЛЫ

*Пратаколы пасяджэнняў Прэзідыума і Сакратарыята, а таксама сесій Рады БНР часоў Вінцэнта Жук-Грышкевіча захаваліся значна лепш, чым аналагічныя дакументы папярэдняга перыяду. Пратаколы сесій адносна аператыўна адмыслова выдаваліся і распаўсюджваліся ў сектарах і сярод радных. Пра захаванне запісаў пра пасяджэнні Прэзідыума і Сакратарыята паклапацілася найбольш Раіса Жук-Грышкевіч, якая часта выконвала функцыі сакратара пры мужу, а пасля яго смерці копіі дакументаў Рады дасылала ў розныя беларускія эміграцыйныя зборы, у тым ліку ў Беларускі інстытут навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку ды Беларускую бібліятэку імя Ф. Скарыны ў Лондане. З гэтых калекцый і ўзятыя пададзеныя ніжэй тэксты.*

*Пратаколы сесій Рады БНР сабраныя без лакун. Дакументы пасяджэнняў Прэзідыума і Сакратарыята змешчаныя таксама ў максімальна магчымай колькасці. Меркаваць пра гэта дазваляе тое, што дасланыя Раісай Жук-Грышкевіч у Бібліятэку імя Ф. Скарыны копіі пратаколаў перыяду старшынёўства мужа былі адмыслова пранумараваныя і пропускаў у нумарах не было. Сярод сабраных ніжэй пратаколаў дакладна адсутнічае хіба што адзін, прысвечаны другой канферэнцыі еўрапейскіх сектараў Рады БНР, што адбылася ў Лондане ў 1979 г. Яго не ўдалося знайсці ў архіўных зборах, хоць інфармацыя пра падзею была пададзеная ў адмысловай заметцы ў газеце «Беларус» і перадрукаваная ў кнізе Раісы Жук-Грышкевіч.*

*Варта адзначыць, што пратаколы 1970–1982 гг. выразна адрозніваюцца ад аналагічных дакументаў папярэдняга перыяду сваёй адноснай лаканічнасцю. Калі ў 1950-я гг. сакратары фіксавалі даволі падрабязна выказванні радных, то ў 1970-я абмеркаванні сталі падавацца больш схематычна, часам абагульняльна-апісальна. Асабліва гэта датычыць пасяджэнняў Прэзідыума і Сакратарыята Рады БНР.*

*Як і ў папярэднім выданні, правапіс пратаколаў пры публікацыі захаваны. Уніфікаваныя толькі некаторыя разначытанні, якія сустракаліся ў дакументах, складаных рознымі сакратарамі.*

*З увагі на тое, што значная частка асоб, якія згадваюцца ў пратаколах, фігуравала і ў дакументах папярэдняга перыяду, біяграфічныя каментары тут значна скарочаныя і адлюстроўваюць пераважна жыццёвыя абставіны радных ужо 1970-х гг. Цалкам падаюцца біяграмы толькі тых асоб, якія ў папярэднім выданні не фігуравалі.*

*Тэксты некаторых рэзалюцый, прынятых на сесіях, падаюцца адразу пасля пратаколаў гэтых сесій.*

## ПРАТАКОЛ ПАСЕДЖАНЬНЯ ПРЭЗЫДЫЮМУ І САКРАТАРЫЯТУ РАДЫ БНР з дня 9 верасьня 1970 г.

Прысутныя: Старшыня Рады БНР Др. В. Жук-Грышкевіч, Старшыня Сакратарыяту Рады БНР Др. Я. Запруднік[191], спадары: А. Адамовіч[192], А. Шукелайць[193], В. Кажан[194], В. Русак[195].

Парадак дня:

1. Адчытаньне пратаколу папярэдняга паседжаньня Прэзыдыюму Рады БНР.
2. Чарговая Сэсія Рады БНР:
a. Тэрмін скліканьня;
b. Месца Сэсіі;
c. Рэпрэзэнтацыя ў Сэсіі сэктараў;
3. Парадак дня Сэсіі.
4. Бязьдзейнасьць радных.
5. Архіў Рады БНР.
6. Фінансавыя справы.
7. Рознае.

---

[191] **Янка Запруднік** (нар. 1926) у 1969 г. у Калумбійскім універсітэце (Нью-Ёрк) абараніў доктарскую дысертацыю «Палітычная барацьба за Беларусь у царскіх Дзяржаўных думах (1906–1917)». У гэты час ён чытаў курс гісторыі Беларусі ў Куінс-каледжы Нью-ёркскага ўніверсітэта, а таксама ў Калумбійскім універсітэце. Адначасова працаваў у нью-ёркскай рэдакцыі Радыё «Свабода».

[192] **Антон Адамовіч** (1909–1998) у гэты час жыў у Нью-Ёрку, працаваў у мясцовай рэдакцыі Радыё «Свабода», займаўся навуковымі даследаваннямі.

[193] **Антон Шукелойць** (нар. 1915) у той час жыў у Нью-Ёрку, працаваў таваразнаўцам пры Інстытуце тэхналогіі моды, на прыняцці тавараў у вялікім гандлёвым доме «*Orbach*». Быў сябрам Беларуска-амерыканскага задзіночання, уваходзіў у кіраўніцтва нью-ёркскага аддзела арганізацыі, а таксама ў Галоўную ўправу. Пры канцы 1960 — на пачатку 1970-х гг. быў дырэктарам беларускай школы ў Нью-Ёрку.

[194] **Віталь Кажан** (1916–2004) у гэты час жыў у Стамфардзе (Канектыкут), быў сябрам Беларуска-амерыканскага задзіночання, сакратаром Стамфардскага аддзела арганізацыі. У 1970-я гг. — старшыня Беларуска-амерыканскага клуба ў Канектыкуце. Уваходзіў у кіраўніцтва Фундацыі імя П. Крэчэўскага.

[195] **Васіль Русак** (1923–2000) жыў у гэты час у Нью-Джэрсі, уваходзіў у кіраўніцтва Нью-джэрсійскага аддзела Беларуска-амерыканскага задзіночання, быў актывістам БАПЦ.

Да п. 1.

Сп. В. Русак прачытаў пратакол з папярэдняга паседжаньня Прэзыдыюму й Сакратарыяту Рады БНР з дня 15 лістапада 1969 г.[196]. Пратакол быў прыняты без паправак. Пратакол з паседжаньня Рады БНР з дня 20 чэрвеня г. г. ня быў яшчэ гатовы.

Да п. 2.

Старшыня Рады Др. В. Жук-Грышкевіч меў гутарку з раднымі Др. Я. Сажычам[197], М. Гарошкам[198] ды раднымі ў Канадзе. Усе яны радзілі не сьпяшацца са склiканьнем Сэсіі, затое падрыхтаваць яе добра, каб ня было пазьней закідаў у недэмакратычнасьці Сэсіі. Паводля Статуту Сэсія склікаецца кожныя тры гады, а калі патрэбна, дык часьцей.

Др. Я. Запруднік: прапануе склікаць Сэсію на першыя ўгодкі дня сьмерці с. п. Прэзыдэнта М. Абрамчыка.

Пастаноўлена склікаць Сэсію ў канцы травеня наступнага году ў першыя ўгодкі сьмерці Прэзыдэнта М. Абрамчыка. На месца Сэсіі быў выбраны Нью Ёрк (другім месцам прапанаваўся Дэтройт, ЗША). Будуць зроблены захады, каб на Сэсію прыехалі радныя з Эўропы і Аўстраліі.

Да п. 3.

Др. В. Жук-Грышкевіч прадбачыць наступныя пытаньні для парадку дня Сэсіі: Адкрыцьцё, Прачытаньне пратаколу папярэдняй Сэсіі, Справаздачы, Перагляд Статуту Рады, Перавыбары ворганаў Рады, Прапановы да дзейнасьці Рады.

Др. Жук-Грышкевіч прапануе далей зьвярнуцца праз «Бюлетэнь Рады БНР»[199] да радных з інфармацыяй пра Сэсію ды з просьбаю, каб яны выказалі свае думкі й прапановы ў гэтай справе.

Да п. 4.

Др. В. Жук-Грышкевіч паясьніў, што пад бязьдзейнасьцю радных разумеецца іхняе неналежаньне ці неактыўнасьць у жыцьці беларускіх арганізацыяў, нявыконваньне абавязкаў, прадпісаных Статутам. Адным з такіх

---

[196] Пратакол быў змешчаны ў кнізе: Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР (1947–1970): Падзеі. Дакументы. Асобы. С. 375–380.

[197] **Язэп Сажыч** (1917–2007) у гэты час жыў у Дэтройце, быў сябрам Беларуска-амерыканскага задзіночання, актывістам Дэтройцкага аддзела арганізацыі. У Радзе БНР займаўся справамі ветэранаў.

[198] **Мікола Гарошка** (1902–1979) у той час жыў у Нью-Ёрку, у 1964–1979 гг. быў старшынёй Фундацыі імя П. Крэчэўскага. Ад 1970 г. быў сакратаром Беларуска-амерыканскага рэспубліканскага клуба ў Нью-Ёрку.

[199] Магчыма, маецца на ўвазе перыёдык «Камунікаты Прэзідыюму й Сакратарыяту Рады БНР», які пачаў выдавацца ад ліпеня 1970 г., бо апошні вядомы нумар «Бюлетэня Рады БНР» убачыў свет у 1962 г. Гл.: Kipel, Vitaut; Kipel, Zora. Belarusian Publishing in the West: A Bibliography / Published by Belarusian Institute of Arts and Sciences; Institute of Slavic Studies, Polish Academy of Sciences. New York — Warsaw, 2006. — XVI+841 p.

абавязкаў ёсьць сплата складак. Справа актывізацыі радных ёсьць цяжкой справай да разьвязваньня. Просіць выказацца на гэтую тэму.

Др. Я. Запруднік падрыхтоўвае праект звароту да радных у гэтай справе. Лічыць, аднак, што гэты зварот павінен быць высланы пасьля таго, як будзе высланы наступны нумар «Бюлетэню Рады БНР».

Сп. В. Русак апрацуе яшчэ адзін зварот у справе сяброўства радных, ліст будзе накіраваны ў сэктары БНР.

Сп. А. Адамовіч радзіць не спалучаць разам пытаньняў прыналежнасьці да Рады і ўплачваньня сяброўскіх складак. Раней запытаць асобу, адносна якой ёсьць сумніў, ці яна лічыць сябе радным БНР. Калі так, тады пачынаць зь ёй гутарку пра складкі. Радзіць навязаць у звароце пра актывізацыю радных да зьменаў у дзейнасьці Рады пасьля сьмерці Прэзыдэнта БНР М. Абрамчыка.

Др. Я. Запруднік уважае, што сэктары ў Аўстраліі й Нямеччыне ёсьць у парадку.

Сп. В. Русак: У Нью Ёрку яшчэ ня створаны сэктар, няма ў Прэзыдыюму дадзеных аб сэктары ў Чыкага. У Англіі і Кліўлендзе, відаць, асабістыя недаразуменьні перашкодай у працы.

Др. В. Жук-Грышкевіч: У Англіі некаторыя асобы аслабелі маральна (піцьцё), і праз гэта выбылі з Рады. Уважае, што трэба папоўніць Раду да Сэсіі маладым і здаровым элемэнтам. Асобы, што шкодныя беларускай справе, ня могуць быць ні ў якім выпадку раднымі.

Сп. А. Шукелайць: Спадары К. Акула[200] і А. Маркевіч[201], хаця ня ёсьць сяньня раднымі, ёсьць вельмі актыўнымі і стаяць на пазыцыях БНР.

Вырашана зьвярнуцца праз сэктары да сумліўных радных з запытаньнем, ці ўважаюць сябе раднымі БНР.

Да п. 5.

Пытаньне рэфэраваў Др. Я. Запруднік. Атрыманы ліст ад сп-ні Н. Абрамчык[202], у якім яна просіць быць дыскрэтнымі ў справе тэстаманту Прэзыдэнта і архіву. Яна яшчэ да гэтага часу ня мае працы[203]. Цікавым ёсьць тое, што

---

200 **Кастусь Акула** (1925–2008) жыў у Таронта, быў сябрам Згуртавання беларусаў Канады, стваральнікам выдавецкага клуба «Пагоня». Пазней, у 1974–1997 гг., выдаваў часопіс беларускіх вайскоўцаў «Зважай».

201 **Антон Маркевіч** (1925–2009) жыў у Ашаве. Разам з Кастусём Акулам арганізаваў выдавецкі клуб «Пагоня». Уваходзіў у кіраўніцтва Згуртавання беларусаў Канады, быў сябрам рэдкалегіі старонкі «Весткі з Канады» газеты «Беларус». Шматгадовы актывіст царкоўнай рады царквы Св. Кірылы Тураўскага ў Таронта.

202 **Ніна Абрамчык** (1916–2003) жыла ў Вільпенце (прыгарадзе Парыжа).

203 Ніна Абрамчык не працавала пры жыцці мужа і па яго смерці сутыкнулася з неабходнасцю працаўладкавання. У беларускіх колах ішлі размовы пра магчымасць уладкавання яе ў Беларускую рэдакцыю Радыё «Свабода», але з гэтага нічога не атрымалася. Пазней Ніна Абрамчык сама знайшла сабе працу ў *Musée de l'Homme* ў Парыжы.

сп-ня Н. Абрамчык успамінае «тэстамэнт»[204]. Айцец Л. Гарошка[205] пісаў, што архіў яшчэ ня выняты з банку, бо а. А. Смаршчок[206] ня змог прыбыць у Парыж (хаця ён даў тэлефанічна паўнамоцтвы а. Гарошку й сп. Лашуку[207]).

Сп. А. Адамовіч: Зь ліста сп. Лашука выглядае, што могуць быць цяжкасьці зь пераняцьцём архіву ад сп-ні Н. Абрамчык.

Др. В. Жук-Грышкевіч: яму пісаў сп. Лашук, што сп-ня Абрамчык будзе ў Лёндане й будзе старацца там зь ёю дамовіцца. Сп-ня Абрамчык жыве крыху ў сьвеце фантазіі, яна думае, што яе заданьнем ёсьць прадаўжэньне працы мужа. Напамінаю ёй у лісьце аб яе канкрэтным заданьні — узгадаваньні сына. Прасіў перадаць архіў Камісіі.

Др. Я. Запруднік: Сп-ня Абрамчык павінна зразумець, што ёй прыйдзецца ўладзіцца на працу. Мы ёй павінны ў гэтым дапамагчы.

Сп. В. Русак: У прынцыпе Рада павінна-бы прызнаць удаве хаця невялікую дапамогу.

Сп. А. Шукелайць: Лічыць пажаданым, каб усе спрэчкі былі палагоджаны да часу скліканьня Сэсіі.

Да п. 6.

Др. Я. Запруднік прачытаў ліст ад сп. Нікана[208] з Аўстраліі. Сп. М. Нікан цікавіцца «Фондам памяці Прэзыдэнта», коштам паховінаў, памятнікам для Прэзыдэнта М. Абрамчыка. Просіць прыслаць яму копію Статуту Рады БНР.

Сп. В. Кажан: Паховіны Прэзыдэнта каштавалі 13756.00 франкаў. Выдатак гэты быў пакрыты часткава пазыкамі ў вышыні 5440.00 франкаў. Ужо атрыманы ахвяры ў «Фонд памяці Прэзыдэнта» ўсяго ў вышыні каля $1000.00. Прыкладным тут ёсьць беларускі асяродак у Кліўлендзе.

Сп. А. Шукелайць: прапанаваў прасіць сп. Наўмовіча[209] зрабіць праект помніка[210] Прэзыдэнту М. Абрамчыку. Прапанова была прынятая.

---

[204] Мікола Абрамчык афіцыйна не пакінуў тастамента.

[205] **Леў Гарошка** (1911–1977) у 1970 г. перабраўся з Лондана ў Рым, дзе кіраваў Беларускай секцыяй Радыё Ватыкана. Адначасова выконваў абавязкі рэктара Беларускай каталіцкай місіі ў Францыі.

[206] **Аўген Смаршчок** (1914–1984) жыў у Бельгіі, выкладаў рускую мову ў Вышэйшай фламандскай школе перакладчыкаў у Антверпене, як святар кіраваў парафіяй БАПЦ.

[207] **Аляксандр Лашук** (1909–1997) жыў у Лондане, уваходзіў у кіраўніцтва Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі, шмат гадоў быў старшынёй сектара Рады БНР у Вялікабрытаніі.

[208] **Мікола Нікан** (1908–1999) жыў у Мельбурне, быў сакратаром Беларускага цэнтральнага камітэта ў Вікторыі. Выкладаў беларускую мову і геаграфію ў беларускай школе ў Мельбурне. Адведваў Прэзідэнта БНР Міколу Абрамчыка ў 1969 г.

[209] **Міхась Наўмовіч** (1922–2004), скульптар, быў суседам Міколы Абрамчыка ў Вільпенце.

[210] Ніякі адмысловы помнік на магіле Міколы Абрамчыка не быў пастаўлены. Удава паклала на ёй простую пліту, нават без надпісу.

У справе «Бюлетэню Рады БНР». Вырашана даць інфармацыю аб наступным:

a. пра сяньняшнее паседжаньне Прэзыдыюму й Сакратарыяту;

b. удзел Старшыні Рады БНР у 9-й Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі;

c. нападкі на беларускую эміграцыю ў савецкім друку;

d. інфармацыя аб паховінах Прэзыдэнта М. Абрамчыка;

e. «Фонд Памяці Прэзыдэнта», помнік, пакрыцьцё задоўжанасьці за паховіны[211].

На гэтым паседжаньне было закончана.

*Нью Ёрк, дня 17 лістапада 1970 г.*

*Др. В. Жук-Грышкевіч, Старшыня Рады БНР.*

*В. Русак, Сакратар Прэзыдыюму Рады БНР.*

## ПРАТАКОЛ 11-Й СЭСІІ РАДЫ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ, што адбылася 29 траўня 1971 г. у Нью Ёрку

Сэсія пачала сваю працу а 9:30 гадзіне раніцы ў памешканьні Фундацыі ймя Пётры Крэчэўскага, 166-34 Готык Драйв, Джамэйка, Нью Ёрк.

У Сэсіі ўзяло ўдзел 65 радных, прадстаўляючых сэктары Рады ў ЗША, Канадзе, Аўстраліі, Вялікабрытаніі, Зах. Нямеччыне, Бэльгіі, Францыі, Гішпаніі і Італіі. З гэтага ліку 40 радных прыбылі асабіста, а 25 радных прыслалі свае ўпаўнаважаньні паасобным удзельнікам Сэсіі.

Сэсію адчыніў старшыня Рады БНР др. Вінцэнт Жук-Грышкевіч, вітаючы ўдзельнікаў і зычачы плённае працы.

Хвілінаю маўчаньня была ўшанаваная памяць памерлых у міжчасе Міколы Абрамчыка, старшыні Рады БНР, генэрала Францішка Кушэля[212], архіяпіскапа БАПЦ Уладыкі Васіля[213]. Пасьля супольнага адпяваньня «Войча Наш» Сэсія пачала працу.

У Прэзыдыюм Сэсіі былі абраныя: праф. Антон Адамовіч — старшыня, сп. Васіль Плескач[214] — заступнік старшыні, др. Янка Запруднік і Антон

---

[211] Амаль усе прапанаваныя пытанні ўвайшлі ў змест «Камунікатаў Прэзыдыюму й Сакратарыяту Рады БНР» (№ 2, снежань 1970).

[212] Франц Кушаль памёр 25 траўня 1968 г. у Рочэстэры (штат Нью-Ёрк).

[213] Васіль (Уладзімір Тамашчык) быў знойдзены нежывы ў сваёй нью-ёркскай кватэры 9 чэрвеня 1970 г. Сярод эмігрантаў выказваліся думкі і пра гвалтоўную смерць.

[214] **Васіль Пляскач** (16.02.1916, Наваградак, сёння Гродзенская вобл.) — 19.03.2006, Дэтройт, ЗША), грамадскі дзеяч. Закончыў Віленскі ўніверсітэт з дыпломам юрыста. Падчас нямецкай акупацыі працаваў міравым суддзёй у

Шукелойць — сакратары. Ганаровым сябрам прэзыдыюму праз аклямацыю, на прапанову сп. Ул. Русака[215], быў абраны др. В. Жук-Грышкевіч.

Праф. А. Адамовіч схарактарызаваў у кароткай прамове заслугі нябожчыка Прэзыдэнта М. Абрамчыка як выдатнага палітычнага дзеяча, падкрэсьліўшы ягоны дынамізм і прагматызм. У канцы сп. Адамовіч заўважыў, што нябожчык часам пераацэньваў некаторыя дзейнікі (прыкладам, Амэрыканскі Камітэт[216]), занядбоўваючы іншыя.

Перайшоўшы да прапанаванага Прэзыдыюмам радных парадку дня, праф. Адамовіч папрасіў падаваць зьмены або дапаўненьні.

Др. Ст. Станкевіч[217] запрапанаваў перанесьці справу пакліканьня ў Раду новых сяброў пасьля справы Статуту. Пастанову гэтую падтрымаў а. др. В. Войтанка-Васілеўскі[218].

Сп. Ул. Русак уважае, што справа прыняцьця новых сяброў ня будзе займаць шмат часу, і прапануе разгледзіць напачатку. У выніку галасаваньня (за перанос — 2, супраць — бальшыня) пастанавілі пакінуць парадак дня бязь зьмены.

Др. В. Жук-Грышкевіч прапануе разьдзяліцца на тры камісіі: статутовую, рэзалюцыйную й плянавую, ды ў камісіях падрыхтаваць асноўныя прапановы для пленарнага паседжаньня; старшыняў камісіяў выбраць перад абеднім перапынкам, на працу камісіяў прызначыць час пасьля абеду. У выніку галасаваньня (за — 14, супраць — 10) прапанова др. В. Жук-Грышкевіча была прынятая як пункт 7-ы парадку дня ды пункт 8-ы — праца Камісіяў.

---

Наваградку. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Жыў з сям'ёй у Швейцарыі, потым у Нямеччыне. У 1949 г. прыбыў у ЗША. Жыў спачатку ў штаце Масачусэтс, потым перабраўся ў штат Мічыган (Дэтройт). Працаваў на заводах «Джэнэрал Мотарс» у аддзеле дызайну. Браў актыўны ўдзел у беларускім грамадскім жыцці ў ЗША, стварэнні структур Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы (БАПЦ).

[215] **Уладзімір Русак** (1913–2009) жыў у той час у Нью-Ёрку. Браў актыўны ўдзел у дзейнасці Беларуска-амерыканскага задзіночання, кіраваў Нью-ёркскім аддзелам арганізацыі, уваходзіў у рэдкалегію газеты «Беларус».

[216] Маецца на ўвазе **Амерыканскі камітэт вызвалення** (першапачаткова Амерыканскі камітэт вызвалення народаў Расіі), створаны з ініцыятывы Дзярждэпартамента ЗША як прыватная ўстанова ў штаце Дэлавер. Галоўнай задачай яго было стварэнне каардынацыйнага цэнтра змагання народаў Расіі і СССР супраць бальшавікоў. Супрацу з Амерыканскім камітэтам Прэзідэнт БНР Мікола Абрамчык лічыў надзвычай важнай.

[217] **Станіслаў Станкевіч** (1907–1980) у той час жыў у Нью-Ёрку. У 1963–1980 гг. рэдагаваў газету «Беларус».

[218] **Віктар Войтанка-Васілеўскі** (1912–1972) жыў у штаце Нью-Джэрсі (ЗША), быў сябрам Беларуска-амерыканскага задзіночання, яго Нью-джэрсійскага аддзела. Пасля смерці бацькі ў 1968 г. вырашыў стаць святаром і быў высвечаны 15 чэрвеня 1969 г. Служыў у парафіі царквы Жыровіцкай Божай Маці ў Гайленд-Парку (Нью-Джэрсі), заснаванай ягоным бацькам.

Праф. А. Адамовіч прачытаў парадак дня з дапаўненьнямі, які быў прыняты аднагалосна:

1. Адчыненьне Сэсіі й прыняцьцё парадку дня.
2. Прыняцьцё новых сяброў Рады.
3. Прачытаньне й прыняцьцё пратаколу 10-е Сэсіі.
4. Справаздачы Старшыні Рады й Сакратарыяту.
5. Справаздачы сэктараў.
6. Дыскусіі над справаздачамі й прапановы.
7. Абраньне камісіяў.

Перапынак на полудзень.

8. Праца камісіяў.
9. Даклад статутовае камісіі й зьмены Статуту Рады БНР.
10. Плян працы й фінансавыя справы (бюджэт).
11. Перавыбары органаў Рады БНР: Старшыні, Прэзыдыюму й выканальнага органу.
12. Рознае.

Дзеля спраўнейшага вядзеньня Сэсіі былі ўстаноўленыя наступныя тэрміны на выступленьні: справаздачы — 15 хв., прамова — 3 хв., другая прамова — 2 хв., і 3-я — 1 хвіліна.

Да п. 2.

Сэктары Рады БНР, а таксама паасобныя радныя прапанавалі ў Раду наступных асобаў (прапанова др. В. Жук-Грышкевіча):

1. Др. Алу Орса-Рамано[219].
2. Сп-ню Натальлю Орса[220].
3. Сп. Аляксандра Міцкевіча[221].

---

[219] **Ала Орса-Рамана** (14.05.1936, Наваградак, сёння Гродзенская вобл.), грамадская дзяячка, доктар хімічных навук. У 1945–1949 гг. вучылася ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы, удзельнічала ў скаўцкім руху. У 1949 г. разам з бацькамі (Аляксандрам і Наталляй Орсамі) прыехала ў ЗША. У 1957 г. скончыла Нью-ёркскі гарадскі ўніверсітэт. Ад 1970 г. была прафесарам хіміі гэтага ўніверсітэта. У 1950-я гг. заснавала танцавальны гурт «Васілёк».

[220] **Наталля Орса** (дзяв. **Сазановіч**, 19.08.1903, в. Сланеўская Воля, сёння Навагрудскі раён Гродзенскай вобл. — 18.01.1990, Нью-Ёрк, ЗША), грамадская дзяячка, педагог, жонка Аляксандра Орсы. Закончыла наваградскую гімназію, а ў 1927 г. — украінскі педагагічны інстытут у Празе. Працавала выхавацелькай дзявочага інтэрната ў Наваградскай беларускай гімназіі, а таксама выкладала беларускую мову і літаратуру, у тым ліку і ў Наваградскай настаўніцкай семінарыі ў час нямецкай акупацыі. Ад 1944 г. — на эміграцыі. Выкладала ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы ў Нямеччыне. У 1949 г. выехала ў ЗША. Жыла ў Нью-Ёрку. Выкладала ў беларускіх школах. Была сябрам Беларуска-амерыканскага задзіночання, уваходзіла ва ўправу й кіравала жаночай секцыяй Нью-ёркскага аддзела арганізацыі.

[221] **Аляксандр Міцкевіч** (1919, в. Мікалаеўшчына, сёння Стаўбцоўскі раён Мінскай вобл.), грамадскі дзеяч. У 1950-я гг. прыехаў у ЗША. Жыве ў Нью-Ёрку. Сябра Беларуска-амерыканскага задзіночання, уваходзіў у Галоўную управу

4. Др. Расьціслава Гарошку[222] (прапанова Ф. Родзькі[223] ад імя сэктару ў Нью-Брансўіку).
5. Сп. Тамаша Супруна[224].
6. Сп. Міколу Войтанку[225].
7. Сп. Галіну Русак[226].
8. Сп-ню Марыю Войтанка[227] (прапанова сэктару Рады БНР у Чыкага).
9. Сп. Міколу Кучуру.
10. Гэнрыка Макоўскага.

У выніку галасаваньня вышэй пералічаныя асобы былі прынятыя ў лік сяброў Рады БНР. Др. Ст. Станкевіч прапанаваў яшчэ ў Раду сп-ню Клаўдзію

---

арганізацыі, кіраўніцтва Нью-ёркскага аддзела. Ад 1965 г. быў сябрам рэдкалегіі і распаўсюднікам газеты «Беларус».

[222] **Расціслаў Гарошка** (нар. 1938 (?)), грамадскі дзеяч, сын Міколы Гарошкі. У 1948 г. прыехаў з бацькамі ў ЗША. У 1967 г. у Калумбійскім універсітэце ў Нью-Ёрку абараніў дысертацыю і атрымаў ступень доктара фізічных навук. Актыўны ўдзельнік беларускага рэспубліканскага руху. Быў сябрам Беларуска-амерыканскага задзіночання. У 1960-я гг. быў у кіраўніцтве Нью-ёркскага аддзела, а ў 1971–1975 гг. — старшынёй Галоўнай управы БАЗА. Быў сябрам рэдкалегіі газеты «Беларус». У 1975 г. выйшаў з арганізацыі і пачаў выдаваць газету «Беларускі час» (*Byelorussian Time*).

[223] **Філарэт Родзька** (1890–1977) жыў у Сомерсэце (Нью-Джэрсі, ЗША), дзе гуртаваў прыхільнікаў Рады БНР. Быў сябрам Беларуска-амерыканскага задзіночання, старшынёй аддзела арганізацыі ў Нью-Джэрсі. Арганізаваў беларускую суботнюю школу, браў удзел у арганізацыі парафіі Жыровіцкай Божай Маці ў Гайленд-Парку, доўгі час быў рэгентам царкоўнага хору.

[224] **Тамаш Супрун** (20.06.1923–23.05.1996, ЗША), грамадскі дзеяч. Пасля Другой сусветнай вайны апынуўся ў ЗША.

[225] **Мікола Войтанка** (20.03.1915–22.07.1996, ЗША), грамадскі дзеяч. Пасля Другой сусветнай вайны апынуўся ў ЗША.

[226] **Галіна Русак** (дзяв. **Родзька**, 24.05.1928, в. Вераскава, сёння Навагрудскі раён Гродзенскай вобл. — 14.09.2000, Сомерсэт, Нью-Джэрсі, ЗША), грамадская дзяячка, мастачка, дачка Філарэта Родзькі, жонка Васіля Русака. Вучылася ва ўніверсітэце *UNRRA* ў Мюнхене. Пазней пераехала ў ЗША. Працавала дырэктарам Мастацкай бібліятэкі Ратгерскага ўніверсітэта (Нью-Брансвік). Экспанавала свае жывапісныя працы ў прэстыжных мастацкіх галерэях ЗША. Сталая ўдзельніца этнічных выстаў. Была сябрам Беларуска-амерыканскага задзіночання, актывісткай Нью-джэрсійскага аддзела арганізацыі, сябра яе жаночых стуктур.

[227] **Марыя Войтанка** (дзяв. **Хіневіч**, 06.02.1917, Мір, сёння Карэліцкі р-н Гродзенскай вобл.) — 12.05.1991, Дэтройт, ЗША), грамадская дзяячка, жонка Віктара Войтанкі-Васілеўскага. Вучылася на гуманітарным факультэце Віленскага ўніверсітэта. Пасля Другой сусветнай вайны апынулася ў ЗША. Была сябрам Беларуска-амерыканскага задзіночання. Удзельнічала ў кіраўніцтве Нью-джэрсійскага аддзела арганізацыі, у тым ліку яго жаночай секцыі. У 1972 г. пасля смерці мужа разам з дачкой перабралася ў Дэтройт.

Каляду[228], ведамую грамадзкую дзеячку з Кліўленду, аднак у выніку галасаваньня пастанавілі перадаць гэтую справу Кліўлендзкаму сэктару Рады БНР дзеля належнага афармленьня.

Др. Я. Запруднік прачытаў лісту ўдзельнікаў Сэсіі згодна з дасланымі ўпаўнаважаньнямі. Упаўнаважаньні ад сяброў бэльгійскага сэктару Рады БНР пастанавілі разьдзяліць між сяброў Прэзыдыюму Сэсіі.

Сп. П. Манькоўскі[229] прачытаў прывітаньне Сэсіі ад сэктару Рады БНР у Чыкага.

Да п. 3.

Др. Я. Запруднік прачытаў пратакол 10-й Сэсіі Рады БНР[230]. Засьцярогаў ня было. Пратакол быў прыняты аднагалосна.

Праф. А. Адамовіч прывітаў сяброў радных з Канады, якія ў міжчасе прыбылі на Сэсію, і паінфармаваў іх аб ходзе Сэсіі.

Да п. 4.

Др. В. Жук-Грышкевіч прачытаў справаздачу Прэзыдыюму Рады БНР. У сваёй справаздачы ён адзначыў, што на працягу папярэдніх трох гадоў яму давялося быць два гады першым заступнікам Старшыні Рады сьв. пам. Міколы Абрамчыка, а год на становішчы Старшыні Рады. Пэрыяд гэты быў складаным пераходным часам, з пэўным звужэньнем нутраное й вонкавае дзейнасьці. Тым ня менш, Рада БНР не перастала працаваць. На працягу апошняга году была праведзеная рэарганізацыйная работа, абмеркаваныя зьмены статуту ды ўзмоцненая лучнасьць Прэзыдыюмам Рады з паасобнымі сэктарамі й сябрамі праз выдаваньне «Камунікатаў»[231].

Др. Я. Запруднік прачытаў справаздачу зь дзейнасьці Сакратарыяту Рады БНР.

У справаздачы Сакратарыяту Рады БНР, апрача агляду нутрана-арганізацыйнае й вонкава-рэпрэзэнтацыйнае дзейнасьці, была ўзятая ўвага на ход палітычнага разьвіцьця на Беларусі, схарактарызаваная наступным парадкам:

---

[228] **Клаўдзія Каляда** (дзяв. **Жарыч**, у другім шлюбе **Чэрнік**, 24.03.1908 — 17.08.1990, Кліўленд, Агаё, ЗША), грамадская дзяячка. У 1937 г. хутка па нараджэнні дачкі страціла мужа. Трымала краму і сыраварню, якія ў 1939 г. былі канфіскаваныя саветамі. Ад 1944 г. — на эміграцыі. У Нямеччыне працавала на будоўлі тэлефонных ліній. У лагерах *DP* разам з Янінай Каханоўскай і Зінаідай Станкевіч зладзіла першую выставу беларускага народнага мастацтва. Пазней пераехала ў ЗША. Пасялілася ў Кліўлендзе. Была адной з арганізатараў беларускай суботняй школы. Была сяброўкай Беларуска-амерыканскага задзіночання, яго Кліўлендскага аддзела. Стваральніца і шматгадовая старшыня Беларускага жаночага згуртавання.

[229] **Пётра Манькоўскі** (1916–2002) жыў у Нью-Ёрку, ачольваў Беларускую студэнцкую асацыяцыю ў ЗША. У 1980–1990-я гг. быў скарбнікам Кансісторыі БАПЦ, пасля Міхася Міцкевіча рэдагаваў часопіс «Голас царквы».

[230] Пратакол быў апублікаваны ў: Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР (1947–1970)… С. 362–370.

[231] Цягам 1970 г. былі выдадзеныя два нумары «Камунікатаў Прэзідыюму й Сакратарыяту Рады БНР» у ліпені і снежні.

1. Беларусь у сучаснай міжнароднай сытуацыі ўсьцяж займае выключнае геапалітычнае палажэньне, важнае асабліва з гледзішча на заходня-ўсходні ідэалягічны й патэнцыяльны збройны канфлікт.

2. У беларускім народзе назіраюцца войстрае адчуваньне сацыяльнага й нацыянальнага ўціску з боку расейска-камуністычнага цэнтру й гатовасьць, пры спрыяльнай нагодзе, узьняцца на збройнае змаганьне за сваю нацыянальную свабоду.

3. Адчуваньне эканамічнага й культурнага ўціску на Беларусі ўзмацняецца ўсьведамленьнем гістарычнае й культурнае апрычонасьці беларускага народу.

4. Беларускі народ за паваенны пэрыяд узгадаваў паважныя кадры свае нацыянальнае інтэлігенцыі, што становіць найбольшую заруку ў далейшым працэсе абароны нацыянальных інтарэсаў Беларусі.

5. Беларусы на Бацькаўшчыне выказваюць вялікае зацікаўленьне да тае ўвагі, зь якою ставяцца да беларускай праблемы палітычныя дзейнікі ў заходніх дзяржавах, у заходнім друку. Дзейнасьць беларускае патрыятычнае эміграцыі становіць паважны маральны фактар у падтрыманьні ў беларускім народзе на Бацькаўшчыне духу супраціву злу маскоўскага паняволеньня.

У канцы праф. Я. Запруднік прачытаў заяву аб тым, што ня можа далей уваходзіць у Сакратарыят Рады БНР, бо плянуе заняцца вывучэньнем гісторыі Беларусі і наладжаньнем сувязі зь беларускай акадэмічнай моладзяй.

Сп. Віталі Кажан, галоўны скарбнік Рады БНР, здаў справаздачу сакратарыяту фінансаў. Стан касы на дзень 29 траўня 1971 г. — 2.419.84 дал.

Др. Язэп Сажыч зрабіў інфармацыю пра стан арганізацыі беларускіх вэтэранаў на чужыне.

Інж. Васіль Русак як сакратар Прэзыдыюму Рады БНР прачытаў дапаўненьні да справаздачаў Прэзыдыюму і Сакратарыяту Рады БНР.

Да п. 5.

Справаздачы Сэктараў Рады БНР пачаў др. Я. Запруднік інфармацыяй аб Ньюёркаўскім сэктары Рады БНР.

Сп. Ф. Родзька прачытаў справаздачу сэктару Рады БНР у Нью-Брансўіку.

Др. Я. Сажыч паінфармаваў аб дзейнасьці радных у Дэтройце і Кліўлендзе. Гэтыя два асяродкі беларускай эміграцыі твораць адзін сэктар Рады БНР.

Др. Раіса Жук-Грышкевіч прачытала справаздачу зь дзейнасьці Канадыйскага сэктару Рады БНР.

Сп. В. Сенькевіч[232], дэлегат на 11-ю Сэсію Рады БНР з Эўропы, вітаў Сэсію ад сэктараў Рады БНР у краінах Заходняе Эўропы, а пасьля зрабіў інфармацыю пра актыўнасьць радных ды дзейнасьць беларускіх арганізацыяў у Вялікабрытаніі, Францыі, Зах. Нямеччыне, Бэльгіі й Гішпаніі.

Др. Я. Запруднік прачытаў пратакол паседжаньня сэктару Рады БНР у Бэльгіі, скліканага з нагоды 11-й Сэсіі Рады БНР, а таксама пратакол

[232] **Віктар Сянкевіч** (1926–?) у той час яшчэ жыў у Іспаніі, чытаў лекцыі ў Каталіцкім універсітэце г. Памплона. Ад 1992 г. жыў у Сан-Францыска (ЗША).

паседжаньня сэктару Рады БНР у Мальборне[233] (Аўстралія), прысьвечанага справам 11-й Сэсіі Рады БНР, зьвяртаючы асаблівую ўвагу на сугэсты прыгатаваньня Гісторыі Беларусі, Гісторыі Рады БНР дый іншых працаў з гісторыі нашай вызвольнай справы.

На заканчэньне цыклю справаздачаў др. Я. Запруднік прачытаў абшырную справаздачу камісіі пераняцьця ад сп-ні Ніны Абрамчык архіву, прыгатаваную а. др. Аўгенам Смаршчком і старшынём камісіі[234].

Былі таксама прачытаныя прывітаньні 11-й Сэсіі Рады БНР ад сп. М. Наўмовіча з Францыі і а. Л. Гарошкі з Ватыкану.

Праф. А. Адамовіч запрапанаваў адлажыць дыскусію над справаздачамі надалей, а цяпер прыняць прысягу ад чатырох прысутных на Сэсіі новых сяброў Рады БНР. Прапанова была прынятая. Прысягу склалі:

Сп-ня Натальля Орса
Др. А. Орса-Романо
Сп-на Марыя Войтанка
Сп. Аляксандар Міцкевіч.

Да п. 7.

Дамовіліся выбраць старшыняў трох камісіяў, а радным даць магчымасьць прыймаць удзел у працы аднае з гэтых камісіяў.

За старшыню статутовай камісіі быў абраны праф. А. Адамовіч, рэзалюцыйнай — др. Я. Запруднік, плянавай — сп. В. Кажан. Старшыні былі абраныя аднагалосна.

Сп. Ул. Русак запрапанаваў пасьля заканчэньня Сэсіі зладзіць кароткую акадэмію ў гонар сьв. пам. Міколы Абрамчыка. Прапанова была прынятая аднагалосна[235].

А гадз. 1:30 праф. А. Адамовіч абʼявіў перапынак на полудзень.

Да п. 8.

А гадз. 2:30 пачалі працу камісіі. Іхная праца трывала да гадз. 4 п. п.

Да п. 9.

А гадз. 4 п. п. праф А. Адамовіч узнавіў пленарнае паседжаньне Сэсіі. На парадку дня — справа новага Статуту Рады БНР. Нягледзячы на папярэднюю працу статутовай камісіі, дыскусія над Статутам заняла шмат часу. Давялося абмяркоўваць параграф за параграфам і прыймаць бальшынёй галасоў у агульным галасаваньні.

---

233 Маецца на ўвазе Мельбурн.

234 Пра камісію згадваецца ў пратаколе № 3 пасяджэння Рады БНР з дня 20 чэрвеня 1970 г. Гл.: Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР (1947–1970): Падзеі. Дакументы. Асобы. С. 384.

235 Газета «Беларус» паведамляла, што на наступны дзень пасля закрыцця сесіі, 30 траўня, адбылася паніхіда па св. пам. Міколу Абрамчыку ў кафедральным саборы імя Св. Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку. Гл.: Я. З. Адзінаццатая Сэсія Рады БНР // Беларус. № 171. Ліпень 1971. С. 1.

Да п. 10.

Др. Б. Рагуля[236] абгрунтаваў прапанову наданьня рангі генэрала др. Я. Сажычу, каб зрабіць тое, што меўся зрабіць нябошчык Прэзыдэнт Абрамчык.

Др. В. Жук-Грышкевіч запрапанаваў напісаць мэмарыял у Задзіночаныя Нацыі ў справе савецкага генацыду на Беларусі ды пашырыць гэты матар'ял між дэлегацыяў ЗН.

Др. В. Жук-Грышкевіч, зварачаючыся да сп. В. Плескача, сказаў, што спробы паразумецца з апазыцыяй рабіліся. Выказаў меркаваньне, што мо варта было-б стварыць камісію для гэтае справы.

Айцец В. Кендыш[237] паінфармаваў пра рэпрэзэнтацыю беларускае справы рэлігійнымі арганізацыямі БАПЦ. Нябожчык Уладыка Васіль і а. Кендыш езьдзілі ў Кангрэс у Вашынгтон з малітвамі[238]. Рэлігійныя дэлегацыі ў Вашынгтоне прадстаўлялі пры гэтым ня толькі БАПЦ, але і ідэю Беларускае Народнае Рэспублікі.

Др. В. Набагез[239] прыгадаў, што калісьці ў Нью Ёрку падсэктару ня было зусім, а быў адзін сэктар на цэлую Амэрыку. Але як патварыліся сэктары ў паасобных асяродках, дык у Нью Ёрку сэктар ня быў заснаваны. Вось чаму ад Нью Ёрку ня было справаздачы.

Фінансавая справаздача, заўважыў др. Набагез, таксама ня была поўнай, бо шмат хто зь сяброў Рады памагаў прыватна Прэзыдэнту Абрамчыку. Сп. Ул. Русак мусіў-бы паінфармаваць пра гэткую дапамогу.

Др. а. Войтанка сказаў, што ў сакавіку 1969 г. ён гутарыў зь нябожчыкам Яўхімам Кіпелем[240], які паінфармаваў быў а. Войтанку пра тое, што рыхтуюцца збройныя сілы[241]. Пры гэтым Яўхім Кіпель, які прайшоў сваім часам

---

[236] **Барыс Рагуля** (1920–2005) ад 1954 г. жыў у канадскім Лондане (Антарыа), працаваў як медык, быў вядомым у краіне спецыялістам па ракавых захворваннях. Сябра Згуртавання беларусаў Канады. У 1973–1989 гг. быў старшынёй Каардынацыйнага камітэта беларусаў Канады.

[237] **Васіль Кендыш** (1908–2003) жыў у ЗША. 10 студзеня 1968 г. у Гайленд-Парку быў рукапакладзены ў святары. У 1972 г. на Другім саборы БАПЦ быў абраны сакратаром Кансісторыі. Пазней ачольваў парафіі Св. Маці Жыровіцкае ў Гайленд-Парку і Св. Кірылы Тураўскага ў Брукліне, дзе заставаўся да 1981 г. У 1990 г. выйшаў на заслужаны адпачынак.

[238] Традыцыя малітваў за Беларусь у Кангрэсе ЗША пайшла ад пачатку 1960-х гг.

[239] **Уладзімір Набагез** (1919–2011) жыў у ЗША, працаваў у Нью-ёркскім шпіталі, пазней распачаў прыватную практыку ў г. Уолдэн (штат Нью-Ёрк). Быў сябрам Беларуска-амерыканскага задзіночання, уваходзіў у кіраўніцтва яго Нью-ёркскага аддзела.

[240] Яўхім Кіпель памёр 27 ліпеня 1969 г.

[241] Маецца на ўвазе ідэя стварэння беларускага войска на эміграцыі, якое існавала б, хутчэй, на паперы, праз наданне вайсковых рангаў розным дзеячам. Пра гэта згадвае Віктар Войтанка-Васілеўскі ў лістах з 1970–1971 гг., што захоўваюцца ў БІНіМе.

савецкую вайсковую школу, падаў ідэі, як трэба арганізоўваць войска. Тады а. др. Войтанка пачаў справу тварэньня беларускіх збройных сілаў, запрапанаваўшы др. Сажыча на Сакратара вэтэранскіх справаў.

Сп-ня Арсеньнева[242] паясьніла пытаньне вэтэранскіх архіваў: акты да гісторыі беларускага вайсковага руху, сказала яна, здадзеныя ў Беларускі інстытут навукі й мастацтва[243].

Др. Б. Рагуля прызнаў вялікі ўклад у грамадзкую працу ў Канадзе др. Раісы Жук-Грышкевіч і сп. Ганька[244].

Сп. В. Кажан (адказваючы др. Ул. Набагезу) зазначыў, што ў дадзены мамэнт цяжка ўстанавіць, колькі грашовае дапамогі было дадзена Прэз. М. Абрамчыку прыватна, бо гэта асабістая справа тых, хто гэткую дапамогу даваў. Сп. Ант. Адамовіч, прыкладам, сам пакрыў блізу адну траціну коштаў пахаваньня Прэз. Абрамчыка.

Сп. Ул. Русак (адказваючы др. Набагезу) сказаў, што ён рассылаў напамінкі ў справе дапамогі Прэз. Абрамчыку («Фонд Канцылярыі Прэзыдэнта Рады БНР») ды прачытаў лісты асобаў, што забавязаліся былі гэткую дапамогу даваць, зазначаючы, хто колькі забавязаўся плаціць ды хто колькі заплаціў. Усяго было сабрана 1930 даляраў плюс 556 даляраў на лісту ахвяраў удаве нябожчыка.

Др. Я. Сажыч заўважыў, што ў справаздачах ня трэба прыпісваць радным іхнае прыватнае дзейнасьці й высілку.

Сп. В. Кажан дадаў, што калі-б кожны, хто пазычыў грошы Прэзыдэнту Абрамчыку, прыслаў дадзеныя ў Сакратарыят фінансаў, дык тады можна было-б падлічыць, колькі ўсяго было дадзена дапамогі.

Сп. Я. Азарка[245] выказаў думку, што лісты ахвяраў на «Дар Сакавіка» ўжо сталіся неэфэктыўнымі, што ў часе збору кожнаму даводзіцца тлумачыць асабіста, на якую мэту робіцца збор. Трэба было-б вытлумачыць зараз усім, на якую мэту гэтыя грошы йдуць.

Др. В. Жук-Грышкевіч папытаўся, ці сакратар фінансаў мае ўсе паквітаваньні перасланых Прэз. Абрамчыку грошай. (Кажан: Маю).

Др. В. Жук-Грышкевіч заявіў, што калі, ня дай Божа, давядзецца судзіцца із сп-няй Абрамчык за архіў Рады БНР, дык тады важна будзе мець лісты

---

242 **Наталля Арсеннева** (1903–1997) ад 1967 г. жыла ў Рочэстэры (штат Нью-Ёрк), куды пераехала пасля смерці нявесткі, Наталлі Куліковіч-Кушаль, да сына Уладзіміра, каб дапамагаць гадаваць унукаў.

243 Сёння рукапісы Франца Кушаля адносна гісторыі беларускага войска захоўваюцца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва ў Мінску.

244 **Мікола Ганько** (1924–1999) жыў у Таронта (Канада), уваходзіў у кіраўніцтва Згуртавання беларусаў Канады, у тым ліку ў 1960–1961, 1967–1968 гг., і ад 1989 г. цягам колькіх гадоў быў старшынёй Галоўнай управы арганізацыі.

245 **Янка Азарка** (1922–2005) жыў у Нью-Брансвіку (штат Нью-Джэрсі), быў сябрам Беларуска-амерыканскага задзіночання, у тым ліку старшынёй Нью-джэрсійскага аддзела. Удзельнічаў у працы Задзіночання беларуска-амерыканскіх ветэранаў у Нью-Джэрсі.

нябожчыка Прэзыдэнта да сяброў Рады, у якіх ён пісаў пра тое, што ён уважаў архівы за собскасьць Рады БНР.

Сп. Ул. Русак папытаўся, чаму Сэсія ня чула дакладу Рэвізійнай камісіі пра дзейнасьць Сакратарыяту фінансаў.

Сп. В. Кажан паінфармаваў, што ён вядзе касу ад 1947 году, але нельга было дамагчыся ад Рэвізійнае камісіі, каб яна праверыла ягоную дзейнасьць за гэтыя гады.

Да п. 11.

Сп. Ант. Адамовіч як старшыня Сэсіі падаў прапанову Рэвізійнай камісіі, каб Сэсія пацьвердзіла на становішчы Старшыні Рады БНР др. Вінцэнта Жук-Грышкевіча. (Аклямацыя.)

Др. В. Жук-Грышкевіч папрасіў, каб яго звольнілі ад гэтага становішча ды каб за Старшыню быў абраны маладзейшы кандыдат.

Др. Б. Рагуля зьвярнуўся да Др. В. Жук-Грышкевіча з просьбай, каб ён як пасьлядоўны і ахвярны працаўнік узяў на сябе далей функцыі Старшыні Рады БНР. (Аклямацыя, усе ўстаюць.)

Сакратар Сэсіі др. Я. Запруднік прачытаў прозьвішчы кандыдатаў на заступніка: а. др. А. Смаршчка, сп. М. Нікана і др. Б. Рагулю. (Аклямацыя за др. Б. Рагулю як першага заступніка Старшыні Рады БНР.)

Др. В. Жук-Грышкевіч падаў кандыдатуру сп. В. Сянькевіча як заступніка Старшыні Рады БНР у Эўропе.

Сп. В. Сянькевіч заўважыў, што ў яго гэткае палажэньне, як і ў др. Я. Запрудніка (г. зн. жаданьне займацца навуковаю й выдавецкаю працаю), толькі яшчэ горшае, бо ён не закончыў свайго дактарату[246].

Сп. Ул. Русак папытаўся, ці абмяркоўвалі пытаньне кандыдатураў на заступніка Старшыні Рады беспасярэдне з кандыдатамі.

Др. В. Жук-Грышкевіч адказаў, што, прыкладам, а. Смаршчка ня зьдзівіць, калі яго абяруць за аднаго з заступнікаў. (Аклямацыя за а. др. А. Смаршчка й сп. Нікана на заступнікаў Старшыні Рады БНР.)

У Прэзыдыюм Рады, праз аклямацыю, абралі сп. сп. Антона Адамовіча, Антона Шукелойця, Васіля Русака.

Празь аклямацыю абралі за Галоўнага скарбніка сп. Віталя Кажана.

Др. В. Жук-Грышкевіч паставіў пытаньне, каго-ж выбраць у Сакратарыят, з кім працаваць, хто створыць адміністрацыйны апарат. Я ня бачу нікога, сказаў ён, апрача др. Сажыча, хто згодзіцца працаваць. Можа, сп. Паланевіч[247] згодзіцца? (Паланевіч: Не.) Я затым прапаную, каб Сэсія абрала Сакратарыят.

---

[246] Віктар Сянкевіч на той час быў дактарантам Мадрыдскага ўніверсітэта, рыхтаваў дысертацыю на тэму «Пачаткі Вялікага Княства Літоўскага». Гл.: Я. З. Дэлегат з Эўропы // Беларус. № 170. Чэрвень 1971. С. 1.

[247] **Гіпаліт Паланевіч** (1907–1997) жыў у Нью-Ёрку. У 1962 г. атрымаў універсітэцкі дыплом у галіне бібліятэказнаўства. Працаваў па спецыяльнасці. Быў стваральнікам газеты «Беларус» разам з Міколам Кунцэвічам. Сябра Беларуска-амерыканскага задзіночання, уваходзіў ва ўправу Нью-ёркскага аддзела арганізацыі.

Сп. Ант. Адамовіч прыгадаў, што Прэзыдэнты Крэчэўскі й Захарка ня мелі Сакратарыяту, а яны-ж былі ў лепшай сытуацыі. Вось чаму, відаць, давядзецца задаволіцца Прэзыдыюмам, які зь сябе вылучыць Сакратарыят.

Др. В. Жук-Грышкевіч сказаў, што гэта будзе абазначаць пераход на пазыцыю безнадзейнасьці, як было да 10-е Сэсіі. Хто-ж будзе канкрэтна займацца друкаваньнем, рассыланьнем і вонкавымі кантактамі?

Др. Ст. Станкевіч адзначыў, што гэта няправільна казаць гэтак, як сказаў др. В. Жук-Грышкевіч, што Рада ў 1960–1968 гадох нічога не рабіла. У гэных гадох дзейнічала БАЗА, выходзіў «Беларус» — гэта-ж праца БНР-аўцаў[248].

Др. Я. Запруднік сказаў, што выснова пра ўдачу ці няўдачу залежыць ад пастаўленых мэтаў: няма патрэбы ставіць сабе мэты, якіх нельга дасягнуць — ня трэба ўкрыжоўваць сябе на крыжы сваіх нерэальных жаданьняў.

Др. а. Войтанка сказаў, што ў яго паўстала ўражаньне, што некаторыя ўважаюць Раду БНР за непатрэбную. Рада патрэбная, бо ёсьць шмат магчымасьцяў рабіць. Калі-ж гэтае работы не рабіць, дык якая з нас палітычная эміграцыя? *«Скажэце мне, колькі Вам трэба чалавек, сп. Старшыня Рады, і я іх Вам знайду»*, сказаў др. Войтанка.

Др. В. Жук-Грышкевіч: *«Я застануся тут на тыдзень і паспрабую ўсё-ж яшчэ раз знайсьці людзей»*.

Сп. В. Русак просіць прыняць ягоны выхад з Прэзыдыюму.

Сп. Г. Паланевіч сказаў, што яму шкода Др. В. Жук-Грышкевіча, якога абралі за Старшыню, але хочуць, каб ён сам вёў працу. Сп. Паланевіч уважае, што да дыспазыцыі Старшыні трэба мо хоць старшыню Сакратарыяту абраць, каб разам яны дабралі людзей да працы.

Сп. Ул. Русак адзначыў, што Сэсія прайшла на высокім узроўні. Ня трэба, аднак, глядзець на сытуацыю залёгка, як сп. Адамовіч, і затрагічна, як др. В. Жук-Грышкевіч. Трэба, аднак, каб хтосьці памог весьці вонкавую рэпрэзэнтацыю.

Др. Ул. Бакуновіч[249] запрапанаваў ставіць канкрэтныя кандыдатуры, а не займацца філязафаньнем.

Др. Б. Рагуля заўважыў, што сп. В. Русак адмовіўся ад функцыі сакратара Прэзыдыюму, але паколькі сп. Русак яшчэ не абраны за сакратара, дык няма чаго і адмаўляцца, бо, магчыма, ён і ня будзе сакратаром.

Сп. Ант. Адамовіч прапануе, каб Сэсія абрала старшыню Сакратарыяту.

Др. В. Жук-Грышкевіч запрапанаваў у Сакратарыят сп. сп. П. Манькоўскага, Ул. Набагеза і Г. Паланевіча.

---

[248] Беларуска-амерыканскае задзіночанне (БАЗА) і газета «Беларус» як яго орган былі створаныя прыхільнікамі Рады БНР.

[249] **Уладзімір Бакуновіч** (1926–1992) ад 1968 г. жыў у Дэтройце (штат Мічыган), дзе працаваў як спецыяліст па падаткавых справах. Доўгі час быў сакратаром управы Дэтройцкага аддзела Беларуска-амерыканскага задзіночання. У 1980-я гг. — сябра Галоўнай управы БАЗА.

Сп. П. Манькоўскі заявіў, што ён займаецца пільнай навуковай працай, вельмі важнай для нацыянальнай справы, і ня можа дзеля гэтага згадзіца ўвайсьці ў Сакратарыят.

Сп. Ю. Мазура[250] сказаў, што гэта сорам, што ў Нью Ёрку гэткая пасыўная публіка, і запрапанаваў у Сакратарыят сп. В. Плескача.

Сп. В. Плескач сказаў, што ён ня можа прыняць на сябе функцыю ў Радзе.

Сп. Ант. Адамовіч запрапанаваў закончыць Сэсію, што прайшла, сказаў ён, памысна. Выбачыўшыся за магчымыя памылкі й недагляды ды падзякаваўшы ўсім за дапамогу ў вядзеньні Сэсіі, сп. Адамовіч адзначыў ролю Прэз. М. Абрамчыка ў дзейнасьці Рады, ягоную выключную адданасьць справе й вялікія заслугі перад беларускай вызвольнай справай. Запрапанаваў ушанаваць ягоную памяць гімнам «Сьпі пад курганам герояў». Песьня была адсьпяваная.

Адзінаццатая Сэсія Рады БНР закончыла сваю працу а гадз. 8:40 увечары адсьпяваньнем нацыянальнага гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

*Нью Ёрк, чырвень 1971 г.*

*Ант. Адамовіч, старшыня Сэсіі.*

*Антон Шукелойць, сакратар Сэсіі.*

*Янка Запруднік, сакратар Сэсіі.*

## ПРАТАКОЛ ПАСЯДЖЭНЬНЯ ПРЭЗЫДЫЮМУ РАДЫ БНР, што адбылося 1 чырвеня 1971 г. у Нью-Ёрку (на памешканьні сябра Рады БНР Ул. Русака)

Прысутныя: Др. В. Жук-Грышкевіч — Старшыня Рады БНР, Ант. Адамовіч і Ант. Шукелойць — сябры Прэзыдыюму Рады БНР.

Парадак дня:

1. Статут Рады БНР.
2. Матар'ялы 11 Сэсіі Рады БНР.
3. Архіў Рады БНР.
4. Сакратарыят Рады БНР.
5. Канцылярыя Рады БНР.
6. Камунікаты.
7. Рознае.

Да п. 1.

Абмяркоўвалі й прынялі ў прынцыпе паасобныя параграфы Статуту Рады БНР, якія не пасьпелі разгледзіць на 11 Сэсіі Рады БНР.

---

250 **Юрка Мазура** (1916–1990) жыў у Дэтройце, працаваў у аўтамабілебудаўнічай кампаніі. Кіраваў хорам. Быў сябрам Беларуска-амерыканскага задзіночання, першы старшыня Дэтройцкага аддзела арганізацыі.

Пастанавілі ўстанавіць параграф пра Кантрольную Камісію Рады БНР з папярэдніх рэдакцыяў Статуту ды зьвярнуцца да Кантрольнай Камісіі, абранай на 8-ай Сэсіі Рады БНР, у складзе др. В. Тумаша й Ф. Родзькі з просьбай несьці і далей свае абавязкі.

Статут Рады БНР з прынятымі зьменамі й папраўкамі мае быць канчальна зрэдагаваны Статутовай Камісіяй ды перасланы Старшыні Рады БНР для перагляду, а пасьля разасланы ўсім сябром Рады БНР.

Да п. 2.

Разглядалі справу матар’ялаў 11 Сэсіі Рады БНР.

Пастанавілі: пратакол 11 Сэсіі Рады БНР і рэзалюцыі апрацаваныя Рэзалюцыйнай Камісіяй (старшыня др. Я. Запруднік) разаслаць усім сябром Рады БНР.

А таксама апрацаваць па-ангельску мэмарыял да Задзіночаных Нацыяў і разаслаць ўсім дэлегацыям у Задзіночаных Нацыях.

Да п. 3.

Архіў Рады БНР у выніку сьмерці старшыні Рады БНР с. п. Міколы Абрамчыка апыніўся ў руках ягонае жонкі сп-ні Ніны Абрамчык. Пакліканая спэцыяльная камісія ў складзе а. др. А. Смаршчка, а. Л. Гарошкі й сп. А. Лашука, дзеля пераняцьця архіву, спатыкае паважныя перашкоды з боку сп-ні Н. Абрамчык.

Пастанавілі: тымчасам ня ўжываць ніякіх захадаў і чакаць далейшыя інфармацыі ад а. др. А. Смаршчка.

Да п. 4.

Выканальны орган Рады БНР — Сакратарыят — Урад традыцыйна ствараўся асобна ад Прэзыдыюму Рады БНР. З увагі аднак на спэцыфічныя абставіны эміграцыі пастанавілі злучыць Сакратарыят з Прэзыдыюмам пад агульным назовам Прэзыдыюм і Сакратарыят Рады БНР.

Да п. 5.

Абмяркоўвалі справу афіцыйных папераў Рады БНР і памешканьня. Пастанавілі надрукаваць новыя блянкі Рады БНР па-беларуску й па-ангельску, а таксама асобныя блянкі для Сэктараў Рады БНР.

У справе памешканьня для Канцылярыі й архіву Рады БНР сп. В. Жук-Грышкевіч мае гутарыць зь інж. М. Гарошкам — старшынём Фундацыі імя П. Крэчэўскага.

Да п. 6.

Дзеля належнай інфармацыі сяброў Рады БНР пастанавілі далей выдаваць «Камунікаты» Прэзыдыюму й Сакратарыяту Рады БНР.

Да п. 7.

Гаварылі аб сучасным палажэньні Радыя «Свабода» ў сувязі зь зьменай гаспадара гэтай інстытуцыі.

*Др. В. Жук-Грышкевіч*
*Старшыня Рады БНР*
*А. Шукелойць*
*Сакратар*

# ПРАТАКОЛ ПАСЕДЖАНЬНЯ ПРЭЗЫДЫЮМУ Й САКРАТАРЫЯТУ РАДЫ БНР
## з дня 18 сьнежня 1971 году

Паседжаньне адбылося ў памешканьні Фундацыі Крэчэўскага ў Нью Ёрку. Паседжаньне распачалося а гадз. 2:30 папаўдні.

Прысутныя: Др. В. Жук-Грышкевіч — Старшыня Рады БНР, Др. Б. Рагуля, першы заступнік старшыні Рады БНР, сп. сп. А. Адамовіч, А. Шукелойць і В. Русак — Сябры Прэзыдыюму Рады БНР, Др. Я. Сажыч і сп. В. Кажан — сябры Сакратарыяту Рады БНР.

Парадак дня:

1. Адчытаньне пратаколу з папярэдняга паседжаньня.
2. Выкананьне пастановаў 11-ай Сэсіі Рады: пратакол Сэсіі, Статут Рады, рэзалюцыя, Сакратарыят, Наглядная рада.
3. Цэнтар Рады БНР і канцылярыя.
4. Справа архіву.
5. Фінансавыя справы.
6. Вэтэранскія справы.
7. Розныя.

Да п. 1.

Сп. А. Шукелойць прачытаў пратакол паседжаньня Прэзыдыюму Рады БНР з дня 1 чэрвеня 1971 г. Пратакол быў прыняты з папраўкаю Др. В. Жук-Грышкевіча адносна Статуту Рады БНР.

Да п. 2.

Сп. А. Шукелойць паінфармаваў, што ён апрацоўвае пратакол 11-й Сэсіі Рады БНР. Статут Рады БНР ёсьць гатовы да адбіцьця й разсылкі. Сакратаром Прэзыдыюму Рады БНР даручана выслаць да падпісаньня формы прысягі асобам, што былі прынятыя ў сябры Рады БНР на 11-й Сэсіі Рады, але якія ня былі прысутныя на Сэсіі. Асобы гэтыя ёсьць: Др. Р. Гарошка, сп. Т. Супрун, сп-ні М. Войтэнка й Г. Русак, сп. сп. М. Войтэнка, А. Міцкевіч, М. Кучура й Г. Макоўскі.

Рэзалюцыя 11-й Сэсіі Рады БНР супраць гэнацыду на Беларусі ў ангельскай мове была разасланая Др. В. Жук-Грышкевічам пры дапамозе Др. Я. Запрудніка сталым місыям пры Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў ды палітычным дзейнікам ЗША.

Вырашана прасіць Суд Рады БНР у складзе сп. М. Кунцэвіча[251], а. В. Кендыша й сп. В. Стомы[252] ўзяць на сябе абавязак Кантрольнай камісіі Рады

---

[251] **Мікола Кунцэвіч** (1907–1985) жыў у ЗША. У 1957–1959 гг. быў старшынёй Беларуска-амерыканскага задзіночання. Быў ініцыятарам стварэння (разам з Гіпалітам Паланевічам) і сябрам рэдкалегіі газеты «Беларус». Ад 1982 г. — рэдактар бюлетэня «Весткі й паведамленьні Ньюёрскага аддзелу БАЗА».

[252] **Васіль Стома** (1911–1992) жыў у Нью-Джэрсі. Быў сябрам Беларуска-амерыканскага задзіночання, адзін з заснавальнікаў Нью-джэрсійскага аддзела

БНР да наступнай Сэсіі Рады. Калі-б не ўдалося палагодзіць справу ў гэты спосаб, вырашана прасіць сп. Ф. Родзьку, сябру Камісіі, выбранай на 8-й Сэсіі Рады БНР, укамплектаваць склад Кантрольнай камісіі.

Да п. 3.

Др. В. Жук-Грышкевіч заяўляе, што маюцца вялікія тэхнічныя цяжкасьці ў вядзеньні працы Рады БНР. Раней яму шмат дапамагалі сп. А. Адамовіч і Др. Я. Запруднік. Ёсьць патрэбным мець сакратароў для справаў вонкавых, нутраных і інфармацыі.

Сп. В. Русак: Др-у Жук-Грышкевічу трэба весьці самому справы вонкавыя ў сувязі з часовым адыходам ад актыўнай дзейнасьці Др. Ст. Станкевіча й Др. Я. Запрудніка. Др. Станкевіч, будучы рэдактарам газэты «Беларус» і старшынёй Беларускага рэспубліканскага клюбу[253], фактычна, выконвае вялікую частку прадстаўніцтва навонкі і інфармацыі.

Др. Б. Рагуля зьвернецца да Др. Ст. Станкевіча з просьбай прыняць становішча ў Сакратарыяце Рады БНР. Прысутныя пагадзіліся з думкаю Др. Б. Рагулі.

Да п. 3. Была пацьверджаная пастанова папярэдняга паседжаньня з дня 1 чэрвеня 1971 г. лічыць афіцыяльным адрасам Рады БНР адрас Фундацыі імя П. Крэчэўскага ў Нью Ёрку. Справа гэтая мае быць узгодненая са сп. М. Гарошкам — старшынёй Фундацыі.

Да п. 4.

Др. В. Жук-Грышкевіч паінфармаваў, што справа пераняцьця архіву ёсьць дасюль не палагоджана. Выглядае, што сп-ня Н. Абрамчык не намерана зьвярнуць Архіў Рады БНР спэцыяльна пакліканай на гэта камісіі. Яна забрала свайго сына зь Беларускай школы ў Лёндане[254]. Трэба абмеркаваць далейшыя ходы ў гэтай справе. Чакаць з гэтым доўга нельга; архіў можа папасьці ў дрэнныя рукі. Архіў можна дастаць праз суд або прынамсі сэквэставаць яго. Ён як Старшыня Рады БНР і даверany мае права пераняць маёмасьць Рады ад папярэдняга Старшыні й даверанага Рады. Тэхнічнае паўнамоцтва для вядзеньня справы можа быць дадзена камусь у Францыі.

Сп. В. Русак лічыць, што цяперашняя сытуацыя, магчыма, не стварылася-б, калі-б Рада БНР прызнала для ўдавы Прэзыдэнта М. Абрамчыка

арганізацыі, быў сябрам рэдкалегіі газеты «Беларус». Выкладаў у беларускай суботняй школе ў Нью-Джэрсі. Аўтар успамінаў «Маё мястэчка» (Мінск, 2014).

253 Маецца на ўвазе Беларускі рэспубліканскі клуб у Нью-Ёрку. Такія беларускія рэспубліканскія клубы дзейнічалі ў розных штатах, а ў 1972 г. была заснаваная Федэрацыя беларускіх рэспубліканскіх клубаў на чале з Вітаўтам Кіпелем. Гл.: Кіпель, Вітаўт. Беларусы ў ЗША. Менск, 1993. С. 196.

254 Маецца на ўвазе Беларуская школа-інтэрнат імя св. Кірылы Тураўскага, што працавала ў Лондане пад апекай Беларускай каталіцкай місіі ўсходняга абраду ў 1961–1975 гг. Дырэктарам школы ад 1966 г. быў а. Аляксандр Надсан. Навучанне Альгерда Абрамчыка ў школе было ўзгодненае з Міколам Абрамчыкам незадоўга да смерці, аднак хлопец правёў у школе толькі адзін навучальны год.

пэнсыю. Ставіць пытаньне, ці нельга было-б прызнаць стыпэндыю для сына Прэзыдэнта М. Абрамчыка і абумовіць прызнаньне такой стыпэндыі зваротам архіву.

Сп. А. Адамовіч ня ёсьць пэўны, што забраньне архіву праз суд будзе такой простай справай.

Др. Б. Рагуля падтрымлівае ў прынцыпе думку сп. В. Русака; ёсьць згодны пісаць у гэтай справе і асабіста дапамагчы ў забясьпечаньні такой стыпэндыі. Прапануе напісаць ліст у гэтай справе да сп-ні Н. Абрамчык. Калі адказ будзе адмоўны, тады думаць пра суд. Сп. В. Кажан падтрымаў думку Б. Рагулі.

Было вырашана: а. напісаць ліст да сп-ні Н. Абрамчык, што Рада БНР прызнае яе сыну А. Абрамчыку стыпэндыю для навучаньня ў вышэйшых навучальных установах з умовай, што архіў БНР будзе зьвернуты Радзе БНР. Вызначыць час на адказ — прынамсі адзін месяц; б. у выпадку, калі адказ быў-бы адмоўны або зусім ня будзе адказу, распачаць судовую справу. Быў пацьверджаны праэкт паўнамоцтва для вядзеньня справы Др. В. Жук-Грышкевічам.

Да п. 5.

У рэзультаце выказваньняў па фінансавых справах былі пацьверджаны або прыняты наступныя пастановы:

а. затрымаць ранейшую вышыню $2.00 у месяц сяброўскіх складак радных;

b. прадаўжаць збор «Дар Сакавіка»;

c. пераказаць 50 процантаў даходаў сэктароў у Галоўны скарб; у выпадку патрэбы вышыня гэтых пераказваньняў можа быць зьменена.

Сп. Адамовіч прасіў залічыць пазыку на пахавіны Прэзыдэнта М. Абрамчыка на складкі.

Сп. В. Кажан паінфармаваў, што некаторыя сэктары ня толькі не пераказваюць грошай у Галоўны скарб, але й не даюць справаздачаў. Да такіх сэктараў належыць Канада.

Да п. 6.

Др. Я. Сажыч, сакратар для справаў вэтэранаў, зрэфэраваў пытаньне: Праводзіцца падрыхтоўчая работа ў сувязі з плянаваным павышэньнем у рангах заслужаных беларускіх вайскоўцаў. Падрыхтаваны праект вайсковага дыплёму, які й быў прачытаны. Добра наладжаная вэтэранская дзейнасьць у Таронта, Канада. Тамтэйшы аддзел вэтэранаў ёсьць арганізацыяй не палітычнай. Дзеля дабра справы яго трэба такім пакінуць. Разважаецца выданьне вайсковага часапісу.

Праект Вайсковага дыплёму быў прыняты.

Др. В. Жук-Грышкевіч просіць Др. Я. Сажыча зьмясьціць у газэце «Беларус» заяву, што часапіс «Змагар»[255] ня ёсьць ворганам Задзіночаньня беларуска-амэрыканскіх вэтэранаў. Выражае падзяку Др. Я. Сажычу за вядзеньне справы вэтэранаў.

Да п. 7.

Вырашана адбіць лістовыя формы Рады БНР у мовах беларускай, ангельскай і француской.

Сп. А. Шукелойць паведаміў, што сп-ня Н. Кушэль[256] перадала архіў генэрала Ф. Кушэля, які цяпер знаходзіцца ў руках Др. Я. Сажыца[257].

На гэтым паседжаньне было закончана.

*Нью Ёрк, дня 19-га лютага, 1972 г.*

*Др. В. Жук-Грышкевіч, Старшыня Рады БНР.*

*В. Русак, сакратар.*

---

[255] **Часопіс «Змагар»** — перыёдык, што выдаваўся як тыднёвы «часопіс беларускіх змагароў» цягам 1971–1972 гг. Рэдактар — Віктар Войтанка-Васілеўскі. «Асьветчаньне» ад імя Прэзідыума Рады БНР і Сакратарыята па справах ветэранаў наконт часопіса «Змагар» было апублікаванае ў газеце «Беларус» (№ 177, студзень 1972).

[256] Маецца на ўвазе Наталля Арсеннева.

[257] Прозвішча Язэпа Сажыча ў пратаколах пішацца па-рознаму: і праз «ц», і праз «ч».

# ПРАТАКОЛ НАРАДЫ ПРАДСТАЎНІКОЎ ЭЎРАПЭЙСКІХ СЭКТАРАЎ РАДЫ БНР у залі Бібліятэкі Францішка Скарыны ў Лёндане, 37 Голдэн Роуд, Лёндан 15 красавіка 1972 году

Прысутныя: Старшыня Рады БНР Др. Вінцэнт Жук-Грышкевіч, сп. Паўла Навара[258], сп. Паўла Асіповіч[259], сп. Міхась Наўмовіч, сп. Янка Міхалюк[260], Др. Раіса Жук-Грышкевіч.

---

[258] **Павал Навара** (17.09.1927, в. Купіск, сёння Навагрудскі раён Гродзенскай вобл. — 24.05.1983, Лондан, Вялікабрытанія), грамадскі дзеяч. У 1942–1944 гг. вучыўся ў Наваградскай настаўніцкай семінарыі. Ад вясны 1944 г. быў курсантам Менскай афіцэрскай школы БКА, разам з якой быў далучаны да 30-й грэнадзёрскай дывізіі СС. У верасні 1944 г. разам з калегамі здаўся ў палон амерыканцам ля в. Клэрваль (Францыя) і пазней далучыўся да Другога польскага корпуса. Па заканчэнні падафіцэрскай школы ў Сан-Базыліа на поўдні Італіі браў удзел у баявых дзеяннях на поўначы Апенінаў. У жніўні 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію, дзе стаў адным з заснавальнікаў Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі і рэгулярна абіраўся ў Галоўную ўправу арганізацыі. Ад 1948 г. быў сябрам Беларускага хрысціянскага аб’яднання «Жыцьцё», ад 1949 г. — сябрам Згуртавання беларускіх камбатантаў. У 1952 г. закончыў факультэт матэматыкі, хіміі і фізікі Лонданскага ўніверсітэта. Працаваў хімікам у лонданскіх лабараторыях. У 1954 г. быў адным з ініцыятараў стварэння Англа-беларускага таварыства. У Галоўнай управе ЗБВБ часта абіраўся на пасаду старшыні, а таксама доўгі час ў 1970-я гг. быў сакратаром арганізацыі.

[259] **Павал Асіповіч** (19.11.1923, в. Беніца Маладзечанскага пав. Віленскага ваяв., сёння Маладзечанскі раён Мінскай вобл. — 23.01.1997, Лондан, Вялікабрытанія), грамадскі дзеяч. Падчас нямецкай акупацыі вучыўся ў Маладзечанскай гандлёва-адміністрацыйнай школе, Менскай афіцэрскай школе БКА, у складзе якой апынуўся на выгнанні і быў далучаны да 30-й грэнадзёрскай дывізіі СС. Перайшоў на бок саюзнікаў і далучыўся да Другога польскага корпуса. Ад 1946 г. жыў у Вялікабрытаніі, там жа ў 1948 г. дэмабілізаваўся. Закончыў Польскую гандлёвую школу ў Глазга. Працаваў бухгалтарам у Вялікабрытаніі, Гане і Нігерыі. Пазней пасяліўся ў Лондане. Быў адным з найбольш актыўных беларусаў у Вялікабрытаніі. Ад 01.10.1946 г. быў сябрам Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі. Ва ўправе арганізацыі займаў розныя пасады. У 1953 і 1955 гг. быў старшынёй ЗБВБ, а ў 1963–1996 гг. — скарбнікам. Адзін з заснавальнікаў Англа-беларускага таварыства, дзе у 1964–1997 гг. быў скарбнікам, таксама быў скарбнікам Беларускай харытатыўнай секцыі. Ад імя ЗБВБ браў удзел у працы Еўрапейскай групы сувязі (*European Liaison Group*), дзе таксама доўгі час выконваў функцыі скарбніка.

[260] **Янка Міхалюк** (1922–1995) ад 1965 г. жыў у Лондане (Вялікабрытанія). Быў пастаянным сябрам Галоўнай управы Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі, у 1970–1995 гг. — нязменным старшынёй арганізацыі. Належыў да кіраўніцтва Англа-беларускага таварыства, займаўся распаўсюдам часопіса *The Journal of Byelorussian Studies*. Уваходзіў у Раду апекуноў Беларускай бібліятэкі імя Ф. Скарыны.

Парадак дня:
1. Адкрыцьцё.
2. Справа сэктараў Рады БНР, іхнія сувязі й супрацоўніцтва міжсобку.
3. Дыскусіі й выказваньні ў справе сэктараў.
4. Іншыя справы й закрыцьцё.

Да п. 1.

Спадар Старшыня Рады БНР адкрыў нараду а гадзіне 7:15 вечара. Паясьніў, што плянавалася нарада прадстаўнікоў усіх эўрапэйскіх сэктараў Рады БНР: ангельскага, нямецкага, бэльгійскага й радных з Гішпаніі й Францыі. На жаль, з тэхнічных прычынаў не змаглі прыехаць прадстаўнікі з Бэльгіі, Гішпаніі ані зь Нямеччыны. Заступнік Старшыні Рады БНР на Эўропу а. Др. А. Смаршчок пісаў, што ня змог прыехаць на нараду ў сувязі з царкоўнымі справамі. Ад сэктару ў Нямеччыне ня было наагул водгуку на ліст Старшыні Рады. З Гішпаніі сп. Віктар Сянкевіч паведаміў, што ня змог прыехаць у сувязі з працай у радыё. У лісьце, аднак, падае справы, якія ён хацеў-бы, каб былі разгледжаны на нарадзе. І гэтак, з кантынэнту Эўропы маем толькі прадстаўніка з Францыі сп. Міхася Наўмовіча.

Да п. 2.

Спадар Старшыня Рады БНР сказаў, што ягонае спатканьне з эўрапэйскімі раднымі — рэдкая нагода, ды ці наагул здарыцца такая нагода йзноў. Таму ён стараецца выкарыстаць кажную нагоду на вымену думак зь сябрамі гэтых сэктараў. Сытуацыя нашая цяжкая, не па нашай віне, і ня толькі на Бацькаўшчыне, але й тут. Таму тым болей нам трэба камунікавацца і адзін другому памагаць. У Нью Ёрку бываем мы часта, бо й паседжаньні Прэзыдыюму Рады там адбываюцца. З Дэтройтам яшчэ часьцей камунікуемся. Дэтройт часам памагае нам мастацкімі нумарамі — песьняй на сьвяткаваньнях 25 Сакавіка. Гэтаксама ёсьць кантакты з Чыкагам. Былі мы там на акадэміі, прысьвечанай гадавіне Міколы Куліковіча[261]. У Амэрыцы як кантынэнце ёсьць супрацоўніцтва, як аднае цэласьці.

У Аўстраліі толькі адзін сэктар, хоць абшар вельмі вялікі, і сябры Рады параскіданы на вялікія адлегласьці адзін ад другога. Сп. Мікола Нікан, заступнік Старшыні Рады БНР на Аўстралію, стараецца, паміма цяжкасьцяў, трымаць кантакты між раднымі. У Амэрыцы апрача Старшыні Рады БНР, ёсьць заступнік Старшыні — Др. Б. Рагуля і сакратар вайсковых спраў Др. Я. Сажыч, і справа кантактаў найлягчэйшая.

Трэба, каб і ў Эўропе сэктары супрацоўнічалі й былі ў сталым кантакце між сабой, гэтак творачы адну цэласьць. І на такую, прыкладам, урачыстасьць, як заўтрашнюю — адзначэньне 25-ых угодак ЗБВБ[262], — трэба

[261] Мікола Куліковіч памёр 31 сакавіка 1969 г. у Чыкага.

[262] Згуртаванне беларусаў у Вялікабрытаніі фактычна было заснаванае яшчэ ў 1946 г., аднак першы яго з’езд адбыўся ў студзені 1947 г. Пра святкаванне 25-годдзя арганізацыі гл. тут: Д-ка. 25-ыя ўгодкі ЗБВБ // Беларус. № 182. Чырвень 1972. С. 4.

было-б, каб сябры Рады прыехалі і зь Нямеччыны, і з Бэльгіі. Тады гэтаксама была-б нагода падзяліцца думкамі міжсобку і з Старшынём Рады.

Пажаданьнем Старшыні Рады БНР ёсьць, каб перадусім адбываліся зборкі паасобных сэктараў Эўропы і ад часу да часу зборкі прадстаўнікоў усіх эўрапэйскіх сэктараў пад кіраўніцтвам заступніка Старшыні Рады БНР на Эўропу а. Др. Аўгена Смаршчка.

Да п. 3.

Тады адбылася дыскусія.

Сп. Янка Міхалюк: На эўрапэйскім грунце няма супрацоўніцтва між сэктарамі. Няма яго паміж ЗБВБ і Хаўрусам[263], гэтаксама, як і на грунце Рады БНР. На Брытыйскім востраве яшчэ творым нешта аддзельнае. Кансалідацыя й супольны фронт мусіў-бы быць мацнейшы. Нашы рады радзеюць, мы мусім нешта рабіць. У нас у Англіі ў сэктары Рады БНР справы стаяць блага. Пасьля рэзыгнацыі сп. Бутрымовіча[264] няма старшыні сэктару.

Спадар Старшыня Рады дадаў да папярэдняга сказанага, што кіраўнік на Эўропу а. Др. А. Смаршчок, як і на Аўстралію сп. М. Нікам, былі выбраныя на 11-ай Сэсіі Рады БНР, на якой з Эўропы быў сп. В. Сянкевіч. Былі гэтаксама і ўпаўнаважаньні ад эўрапэйскіх радных.

Сп. М. Наўмовіч: У Францыі радным БНР зьяўляецца толькі ён адзін. Ён прапануе ў сябры Рады сп. Лявона Шыманца[265], які згаджаецца быць радным. Трэцяга няма. Каб быў трэці, мог-бы быць у Францыі сэктар Рады. Актыўныя сябры ў Францыі — гэта Вацлаў Дубоўскі, Віктар Жаўняровіч[266],

---

[263] Маецца на ўвазе **Аб’яднанне беларусаў у Францыі «Хаўрус»**, якое афіцыйна было зарэгістраванае ў 1931 г., аднак пасля вайны фактычна не дзейнічала. Толькі ў кастрычніку 1970 г. «Хаўрус» зноў аднавіў сваю працу на чале з старшынёй Міхасём Наўмовічам.

[264] **Уладзімір Бутрымовіч** (31.12.1922 в. Андрушы Нясвіжскага пав., сёння Нясвіжскі раён Мінскай вобл. — 27.06.1987, Лондан, Вялікабрытанія), грамадскі дзеяч. Цягам 3 гадоў служыў у Арміі Андэрса, разам з якой апынуўся ў Вялікабрытаніі. Тут далучыўся да Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі і ў 1949 г. — да Згуртавання беларускіх камбатантаў. На пачатку 1950-х гг. вучыўся ў Лювенскім універсітэце (Бельгія), па заканчэнні якога вярнуўся ў Брытанію. Жыў у Лондане. Уваходзіў у Галоўную ўправу ЗБВБ, а ў 1958, 1960–1965 гг. быў яго старшынёй.

[265] **Лявон Шыманец** (нар. 1937 г., Стоўпцы, сёння Мінская вобл.), грамадскі дзеяч, сын Уладзіміра Шыманца, брат Івонкі Сурвілы. У 1944 г. разам з бацькамі пакінуў Беларусь. Спачатку апынуўся ў Даніі, потым, у 1948 г., прыбыў у Францыю. Пасяліўся ў Сартрувілі (*Sartrouville*) пад Парыжам, працаваў інжынерам у фірме, што выраблялa электроніку для ваенных самалётаў. Быў сябрам «Хаўрусу».

[266] **Віктар Жаўняровіч** (27.08.1913, Чыта, Расія — 27.02.2005, Францыя), мастак, спявак, грамадскі дзеяч. Нарадзіўся ў сям’і чыгуначнага служачага, нараджэнца Друі. У 1922 г. з маці вярнуўся ў Беларусь. Вучыўся ў гімназіі імя Л. Сапегі ў Друі, пазней у Кансерваторыі імя М. Карловіча ў Вільні па класе опернага вакалу. Адначасова займаўся маляваннем, удзельнічаў у выставах Таварыства незалежных мастакоў.

Язэп Данільчук і сп. Шыманец старэйшы[267]. Каб В. Дубоўскі згадзіўся, можна было-б прыняць яго ў Раду БНР. Ён асьветы ня мае, але ў фабрыцы працуе трохі «старэйшым».

Спадар Старшыня Рады: Спадар Трусаў[268] быў капітанам у Беларускай Абароне. Яго ведае др. Я. Сажыч — сакратар ад вайсковых спраў. Ці вы маеце зь ім лучнасьць?

Сп. М. Наўмовіч: Сп. Трусаў быў на сьвяткаваньні 25 Сакавіка ў Парыжы ў гэтым годзе. Старшыня Хаўрусу раіў, каб сп. Трусаў арганізаваў у Крэза[269], дзе ён жыве, беларускіх камбатантаў. Сп. Трусаў згадзіўся. Сп. Наўмовіч падаў думку, каб гэтага лета зрабіць у Нямеччыне зьезд радных эўрапэйскіх сэктараў пад кіраўніцтвам а. Др. А. Смаршчка. Прапанаваць а. Смаршчку абняць сталае старшынства над эўрапэйскімі сэктарамі. Усе пагадзіліся на гэта.

Сп. Старшыня Рады паведаміў, што пастараецца быць хутка ў Бэльгіі і абгутарыць гэтую справу з А. Смаршчком.

Сп. Паўла Навара зазначыў, што ён не сябра Рады БНР, але выказвае думку, што між эўрапэйскімі сэктарамі Рады ня можа быць супрацоўніцтва, бо яны адны ад другіх надта далёка. Спадар Навара зь незалежных ад яго прычын мусіў пакінуць нараду.

Сп. Паўла Асіповіч наракаў на пасыўнасьць беларусаў у Эўропе, але ўважаў, што супрацоўніцтва між эўрапэйскімі сэктарамі магчымае й павінна быць.

Сп. Я. Міхалюк прапанаваў, каб цяпер правесьці прыняцьцё ў сяброўства Рады БНР сп. П. Асіповіча.

Сп. Старшыня Рады БНР сказаў, што гэта справа лякальная, якая вырашыцца на паседжаньні Лёнданскага сэктару, які адбудзецца іншым разам.

---

Другая сусветная вайна перапыніла навучанне. К 1945 г. апынуўся ў Францыі, працаваў на складзе паліва звычайным працаўніком. Паступіў у Парыжскую кансерваторыю, вучыўся пад кіраўніцтвам прафесара Бернаці, аднак немагчымасць атрымаць стыпендыю змусіла адмовіцца ад навучання. Спяваў і маляваў прыватна. З часам стаў удзельнікам найважнейшых мастацкіх выстаў, што ладзіліся ў Парыжы, атрымоўваў шматлікія ўзнагароды.

[267] Маецца на ўвазе **Уладзімір Шыманец** (1911–1977), што раней быў міністрам фінансаў БНР, аднак з часам спыніў дзейнасць у Радзе БНР. Жыў у Сартрувілі (*Sartrouville*) пад Парыжам

[268] **Аўген Трусаў** (на эмігр. **Трузо**, 16.12.1911, Фінляндыя — 20.01.1979, Моншана, Францыя), грамадскі дзеяч. Нарадзіўся ў Фінляндыі, куды бацькі прыехалі перад Першай сусветнай вайной, але ў 1920 г. сям'я вярнулася ў Беларусь. Быў вучнем Віленскай беларускай гімназіі, служыў у польскім войску, дзе атрымаў ступень афіцэра. У часе нямецкай акупацыі служыў у БКА, разам з якой у 1944 г. апынуўся ў Нямеччыне. У 1945 г. пасяліўся ў Францыі, дзе працаваў на металургічным заводзе ў Моншана.

[269] Маецца на ўвазе **Лё Крэзо** (фр. *Le Creusot*) — горад у цэнтральнай частцы Францыі, у дэпартаменце Сона і Луара, у Бургундыі. Аўген Трусаў яшчэ ў 1950-я гг. арганізаваў там аддзел Аб'яднання беларускіх работнікаў у Францыі.

Сп. Паўла Асіповіч: У Англіі мала людзей (беларусаў). Дзейныя адзінкі, перагружаныя функцыямі й грамадзкай працай. Толькі крытыкаў, што нічога ня робяць, шмат, але нешматлікія адзінкі робяць важную працу і ў ЗБВБ, і ў рэпрэзэнтацыі навонкі.

Сп. Я. Міхалюк дадаў, што ЗБВБ фінансуе выдаваньне англамоўнага часапісу «Журнал Беларускіх Студыяў». Апошнімі часамі заўважаецца большае зразуменьне справы, і людзі болей забываюцца на свае амбіцыі. ЗБВБ мае прыбытак з дамоў і клюбаў[270]. Прыбыткі разумна абгаспадараваныя, дзякуючы Старшыням і прафэсыйнай ведзе скарбніка ЗБВБ — сп. Паўлы Асіповіча. Пры ЗБВБ створаны Харытатыўны фонд, які звольнены ад падаткаў. Фінансаваньне «Журналу» каштуе для ЗБВБ у год каля 700 да 1000 фунтаў. Усякія ўрачыстасьці таксама каштуюць шмат. У Англіі не практыкуецца зьбіраньне ахвяр пры ўваходзе ў залю. Ды зь фінансамі справа куды лягчэйшая, як зь людзьмі.

Рэзюмэ Старшыні Рады БНР: Дзеля таго, што ўсе, можа, за выняткам сп. П. Навары, выказаліся за тым, што паміж сэктарамі Рады БНР у Эўропе павінна быць цясьнейшая сувязь і супрацоўніцтва, што а. Др. Смаршчок абойме старшынства над эўрапэйскімі сэктарамі, што сэктары Эўропы павінны рабіць супольныя сходы й нарады, гэтыя выказваньні будзем лічыць пастановамі сяньняшняй нарады.

Просьба да сп. Наўмовіча перадаць сп. Лявону Шыманцу, што Старшыня Рады БНР задаволены, што сп. Л. Шыманец згодны быць сябрам Рады БНР. Трэба толькі, каб Хаўрус падаў афіцыйна ягоную кандыдатуру, і Старшыня Рады БНР яе зацьвердзіць. Адносна капітана Трусава, хай ён зарганізуе камбатантаў. Да сп. П. Асіповіча Спадар Старшыня зьвярнуўся так: Калі нам цяжка, трэба шукаць спосабаў, каб было лягчэй. У нас у Канадзе сэктар Рады БНР ня раз ратуе сытуацыю. Каардынацыйны камітэт беларусаў Канады[271] існуе дзякуючы намаганьням сэктару. Нарады сэктару шукаюць і, як дагэтуль, знаходзілі раду на крызысовыя сытуацыі ў нашым грамадзтве. ККБК, маем надзею, ужо ўсталілася. Моладзь, Саюз беларускай моладзі Канады, пачынае ўжо гуляць ролю. Сэктар Рады ў грамадзкім жыцьці можа толькі памагчы. Ён можа гуляць ролю каардынатара. Сп. Асіповіч гадамі ўжо робіць работу раднага БНР. І калі ён найменна станецца сябрам Рады БНР, то яму ад гэтага зусім ня будзе цяжэй. А Рада БНР мусіць быць рэпрэзэнтаваная навонкі й мусіць мець заплечча дзейных яе сяброў. А Рада БНР патрэбная для эміграцыі й беларускага народу наагул як орган і рэпрэзэнтант незалежнасьці Беларусі. Ідэя БНР культывуецца ўжо 54 гады, і нельга дапусьціць, каб яна заняпала.

---

[270] Маюцца на ўвазе Беларускія дамы ў Лондане, Манчэстэры і Брадфардзе, а таксама клубы ў Манчэстэры і Брадфардзе, якія прыносілі досыць добры прыбытак.

[271] **Каардынацыйны камітэт беларусаў Канады** — структура, заснаваная ў 1966 г. для рэпрэзентацыі ўсіх беларусаў Канады на агульнадзяржаўным узроўні. У яе склад ўваходзілі іншыя беларускія арганізацыі: Згуртаванне беларусаў Канады, БІНіМ у Канадзе, Згуртаванне беларусаў правінцыі Квэбэк.

Да п. 4.

Спадар Старшыня паведаміў, што існаваньне радыя «Лібэрты» і «Фры Юроп» знаходзіцца пад пагрозай[272], што іх могуць закрыць. Калі-б да гэтага запраўды мела дайсьці, трэба, каб з усіх сэктараў пайшлі лісты ў абароне яго.

Сп. Асіповіч выказаўся, што ў Англіі палітыкай на высокім узроўні займацца можа толькі ўладыка Чеслаў Сіповіч[273], што Кансэрватыўная партыя для нас найбольш спрыяльная, і трэба час ад часу мець сувязь зь яе прадстаўнікамі, як МП Росы[274].

Сп. М. Наўмовіч спытаў, ці каталіцкія сьвятары могуць быць сябрамі Рады БНР, бо калі так, дык у Францыі а. Льву Гарошку належалася-б сяброўства ў Радзе БНР.

Сп. Я. Міхалюк сказаў, што яму ведама, што Ватыкан забараніў украінскім каталіцкім сьвятарам быць сябрамі УНРады, гэта самае адносіцца і да Рады БНР.

Сп. М. Наўмовіч расказаў, якія цяжкасьці беларусы ў Францыі маюць з прызнаньнем і запісаньнем у дакумэнтах беларускае нацыянальнасьці[275].

[272] Пытанне закрыцця радыёперадач Радыё «Свабодная Еўропа» і Радыё «Свабода» было пастаўленае ў Кангрэсе ЗША 25 студзеня 1971 г., калі была агучаная інфармацыя пра фінансаванне гэтых радыё з боку ЦРУ.

[273] **Часлаў Сіповіч** (1914–1981) жыў у Лондане. 4 жніўня 1960 г. пасвечаны на біскупа, пазней быў прызначаны апостальскім візітатарам для беларусаў за мяжой. У 1963–1969 гг. быў генералам ордэна марыянаў. Быў заснавальнікам Беларускага рэлігійна-культурнага цэнтра ў Паўночным Лондане, часткай якога стаў інтэрнат св. Кірылы для беларускіх хлапцоў, а таксама Беларуская бібліятэка і музей імя Ф. Скарыны.

[274] Відаць, маецца на ўвазе **сэр Х'ю Алекс Луіс Росі** (*Sir Hugh Alexis Louis Rossi,* нар. 1927), сябра кансерватыўнай партыі, які быў дэпутатам брытанскага парламента ад акругі Хормсбі ў Паўночным Лондане ў 1966–1983 гг.

[275] Наконт праблем з прызнаннем беларусаў у Францыі а. Леў Гарошка пісаў: *«Калі ліквідавалася УНРА (арганізацыя для апекі над уцекачамі) і на яе месца была створана іншая арганізацыя — ІРО, — дык даволі было старшыні Беларускае сэкцыі СФТС і рэктару Беларускага душпастырства пагаварыць са старшынёю ІРО ў Францыі капітанам Донзо, каб беларусам прызналі такія-ж правы, як іншым народам. Але ў чэрвені 1955 г. праўную апеку над уцекачамі ў Францыі пераняў спэцыяльны "офіс" для эмігрантаў і апатрыдаў пры Міністэрстве замежных справаў. І пры гэтым дзеля інтрыгаў некаторых асобаў, варожых да беларусаў, у тым "офісе" адмовіліся выдаваць даведкі ад беларускай нацыянальнасьці. Тады Беларускае душпастырства разам зь іншымі беларускімі арганізацыямі ў Францыі выступіла якнайбольш актыўна супраць тае адмовы і змаглі знайсьці заступніцтва ў асобе віцэ-прэзыдэнта Сэнату Эрнэста Пэзэ. На ягоную энэргічную інтэрвэнцыю 8 лістапада 1955 г. беларускія дамаганьні былі задаволеныя. […] Калі ў 1971 г. францускі "офіс"для эмігрантаў і апатрыдаў зноў быў адмовіўся прызнаваць беларускую нацыянальнасьць, дык рэктар душпастырства разам з старшынямі іншых беларускіх нацыянальных арганізацыяў актыўна ўдзельнічаў у абароне правоў беларускае эміграцыі, і зноў дамаганьне беларусаў было здаволена»*. Гл.: Гарошка,

Сп. Старшыня Рады паведаміў, што сп. Віктар Сянкевіч у сваім лісьце прапанаваў, каб гэткія справы былі парушаныя на нарадзе радных: 1. Актывізацыя сэктараў у Эўропе й большыя кантакты між імі; 2. Пытаньне інфармацыйнае дзейнасьці ў Эўропе; 3. Пытаньне выдаваньня «Бацькаўшчыны», хоць і нерэгулярна; 4. Кантакты з бацькаўшчынай; 5. Справа беларускіх праграмаў у *BBC*.

Большасьць пытаньняў ужо абгаварывалася або самазразумелая. Адносна ўзнаўленьня выдаваньня «Бацькаўшчыны»[276] былі выказваньні, што хоць было-б гэта й добра, але бадай немагчыма з гледзішча фінансавых ды рэдакцыйных цяжкасьцяў.

Сп. М. Наўмовіч прапанаваў, каб спадару Шыманцу старэйшаму грамадзтва дала фінансавую падтрымку, каб ён не патрабаваў зарабляць на хлеб, а заняўся рэдагаваньнем «Бацькаўшчыны».

Большасьць выказалася, што ў нас дагэтуль ані рэдактароў, ані тых, што пішуць у газэту, ані іншых грамадзкіх працаўнікоў не аплачваецца, і калі толькі ахвярамі выдаваць «Беларуса», немагчыма будзе фінансаваць другую газэту і аплачваць ганарар рэдактару.

Справа беларускіх перадачаў у BBC цяжкая. Слова адносна іх мае Міністэрства замежных справаў. МП Росы, магчыма, мог-бы памагчы. Трэба хоць раз у год пісаць да яго лісты; такая была думка сп. П. Асіповіча[277].

Нарада была закончана а гадзіне 9:30 вечара.

Пратакол падпісаў

*Др. Вінцэнт Жук-Грышкевіч, Старшыня Рады БНР.*

Пратакол запісала

*Др. Раіса Жук-Грышкевіч, сябра Рады БНР Канадзкага сэктару.*

---

Леў а. Трыццацігодзьдзе Беларускага душпастырства ў Францыі (1946–1976). Парыж, 1976. 10 с.

[276] Апошні нумар газеты «Бацькаўшчына» ўбачыў свет у Мюнхене ў снежні 1966 г.

[277] Пра намаганні брытанскіх беларусаў адносна перадачаў на радыё *BBC* гл.: Гардзіенка, Наталля. Беларусы ў Вялікабрытаніі. С. 222–225.

# ПРАТАКОЛ ПАСЕДЖАНЬНЯ ПРЭЗЫДЫЮМУ Й САКРАТАРЫЯТУ РАДЫ БНР
## у Беларускім Рэлігійна-Грамадзкім Цэнтры ў Таронта, 15 травеня 1972 г.

Прысутныя: Старшыня Рады БНР Др. Вінцэнт Жук-Грышкевіч, першы заступнік Старшыні Рады БНР Др. Барыс Рагуля, сябра Ураду БНР праф. Антон Адамовіч, сакратар вайсковых справаў Др. Язэп Сажыч, Др. Ян Запруднік, старшыня Канадзкага сэктару Рады БНР сп. М. Ганько, сп. А. Грыцук[278], Др. Раіса Жук-Грышкевіч.

Парадак дня:

1. Справа Радыя «Свабода» — інфармацыя і абмеркаваньне справы.

2. Рэакцыя беларускага грамадзтва на нэгатыўны ход справы Радыя «Свабода»: а. Лісты й рэзалюцыі беларускіх арганізацыяў, прыватных асобаў, групаў; б. Зьмест лістоў; в. На які адрас пісаць.

3. Справаздача Старшыні Рады БНР з паездкі ў Эўропу: а. Англія — беларускае грамадзкае й культурнае жыцьцё, сэктар Рады БНР. б. Бэльгія — с. А. Смаршчок і мясцовы сэктар Рады. в. Гішпанія — магчымасьці ўзнаўленьня беларускіх перадачаў у гішпанскім радыё.

4. Рознае: а. сакратар інфармацыі — кандыдат сп. Янка Сурвіла[279]; б. «Камунікаты» ці камунікат Старшыні Рады БНР; в. сэктар Рады БНР у Нью Ёрку — ажыўленьне яго. г. Абмеркаваць, ці можа радны БНР езьдзіць у адведзіны ў Савецкі Саюз. д. Архіў Рады БНР.

Да п. 1.

Праф. А. Адамовіч паінфармаваў, што сытуацыя радыя «Фры Юроп» і «Свабоды» палепшылася. Супраць акцыі Фульбэрта[280], каб закрыць гэтыя радыі, было з розных амэрыканскіх палітычных дзейнікаў столькі водгукаў, што й нашыя амаль непатрэбныя.

Прэзыдэнт Ніксан падпісаў біл, які запэўнівае на 1972 год 38 мільёнаў даляраў з паловай на ўтрыманьне гэтых двох радыяў. Прэзыдэнт ЗША Ніксан

---

[278] **Алесь Грыцук** (1910–1976) жыў у Кінгстане (Антарыа, Канада), працаваў у мясцовым Квінс-універсітэце. Абараніў доктарскую дысертацыю, прысвечаную творчасці М. Багдановіча. У 1970–1971 гг. быў старшынёй Згуртавання беларусаў Канады.

[279] **Янка Сурвіла** (1925–1997) у 1969 г. разам з жонкай пераехаў з Іспаніі ў Канаду, працаваў у Міністэрстве занятасці і эміграцыі. Быў прадстаўніком ад беларусаў у Канадскай радзе паняволеных еўрапейскіх народаў, быў старшынёй Атаўскага аддзела Згуртавання беларусаў Канады.

[280] Маецца на ўвазе амерыканскі сенатар-дэмакрат **Джэймс Уільям Фулбрайт** (*James William Fulbright,* 1905–1995), які выступіў за ліквідацыю Радыё «Свабодная Еўропа» і Радыё «Свабода» як перажыткаў халоднай вайны, што замінаюць паляпшэнню амерыкана-савецкіх дачыненняў. Гл.: Сосин, Джин. Искры Свободы… С. 106–107.

10 травеня 1972 г. выдаў асьведчаньне, паводля якога ён падае для зацьверджаньня Кангрэсу біл, каб прызнаць грашавыя фонды для ўтрыманьня абодвух радыяў і на 1973 г. У міжчасе ён прапануе стварыць адпаведную Камісію, якая занялася-б студыяваньнем і крытычнай ацэнкай абодвых радыяў ды запрапанавала-бы, магчыма, найлепшую падставу для азначэньня мэтадаў утрыманьня гэтых важных арганізацыяў[281].

У Кангрэсе Фульбрайт[282] троху статкаваўся. Ён змагаўся за закрыцьцё абодвых радыяў, але яго перагаласавалі.

У беларускай сэкцыі радыя «Свабода» справа стаіць блага. Гэрус[283] шмат шкодзіць, вядзе нагонку між іншых і на Др. Я. Запрудніка. Гэтаксама й сп. Сяднёў[284] гуляе «паскудную» ролю.

Др. Я. Запруднік: Акцыя прэзыдэнта Ніксана ў абароне радыяў «ФЮ» і «Свабоды» важная й фундамэнтальная. Ён вызначае Камісію дзеля абмеркаваньня кажнага радыя, кажнае сэкцыі яго з гледзішча замежнае палітыкі.

Нам трэба падумаць над мэмарыялам, які трэба было-б падаць гэтай Прэзыдэнцкай камісіі. Камісію трэба паінфармаваць рачова аб нацыяналістычных фэрмэнтах беларускага народу, выяўленых беларускімі пісьменьнікамі. Паінфармаваць, чаго сяньня беларусы на Беларусі хочуць.

Др. Б. Рагуля — падрыхтаваць матар'ялы для Прэзыдэнцкай камісіі.

Старшыня Рады БНР В. Жук-Грышкевіч прапанаваў стварыць Камісію для справаў радыя «Свабода», якая занялася-б і мэмарыялам і іншымі, магчыма, выкліканымі патрэбай часу, справамі. У Камісію прапанаваў: Праф. А. Адамовіча, Др. Ст. Станкевіча і Др. Я. Запрудніка.

Др. Б. Рагуля прапанаваў выбраць ці вызначыць аднаго адказнага для стварэньня камісіі. Прапанаваў праф. Янку Запрудніка.

Др. Янка Запруднік згадзіўся ўзначаліць камісію й дабраць сабе супрацоўнікаў.

Да п. 3.

Старшыня Рады БНР падзяліўся ўражаньнямі з паездкі ў Эўропу й наведваньня беларускіх там асяродкаў. Вось-жа ўражаньне надзвычайнае.

---

[281] Цягам 1972–1973 гг. працавала камісія, што вывучала дзейнасць Радыё «Свабодная Еўропа» і Радыё «Свабода», адначасова пачаўся працэс зліцця гэтых радыёстанцый. Гл.: Сосин, Джин. Искры Свободы… С. 106–133.

[282] Прозвішча сенатара Фулбрайта ў арыгінале пратакола напісана па-рознаму.

[283] **Мікола Герус** (раней Дончанка), украінец, які працаваў рэпарцёрам у Нью-Ёрку ва Украінскай рэдакцыі Радыё «Свабода» і адначасова быў заступнікам загадчыка аддзела нярускіх рэдакцый. Паводле ўспамінаў Янкі Запрудніка, у першай палове 1960-х гг. Геруса перавялі ў Мюнхен на пасаду дарадчыка Украінскай і Беларускай рэдакцый Радыё «Свабода». *«Там ён выявіў сваю крутую самаволю ў дачыненні падначаленых»*. Гл.: Запруднік, Янка. Маё ліставаньне зь Міколам Абрамчыкам, Старшынём Рады БНР (1953–1969) // Запісы БІНіМ. № 33. Нью-Ёрк — Менск, 2010. С. 316.

[284] Літаратар **Масей Сяднёў** (1913–2001) у 1968–1983 гг. працаваў у Беларускай рэдакцыі Радыё «Свабода» ў Мюнхене, быў яе кіраўніком.

Жыцьцё не аслабла, а ўкаранілася і ўмацавалася. Людзі, што былі сьпярша ў апазыцыі, сталі ўключацца ў ЗБВБ. Гэтак, прыкладам, старшыня Галоўнае ўправы, старшыня Лёнданскага аддзелу[285]. Гэтак шмат іншых. ЗБВБ наогул адна з найбагацейшых беларускіх арганізацыяў за мяжой. Мае тры собскія дамы й два клюбы-бары. Усе даходныя. На пытаньне Др. Я. Сажыча, што яны з грашыма робяць, мо нам памаглі-б у Амэрыцы, Сп. Старшыня даў адказ: яны фінансуюць «Журнал Беларускіх Студыяў», які ў год каштуе ад 700 да 1000 фунтаў. Яны купляюць царкву — БАПЦ — у Манчэстэры[286].

Сэктар Рады БНР там заняпаў, але ажыўляецца. 25-ты Агульны зьезд ЗБВБ выставіў сваіх кандыдатаў на радных БНР: спадара Хведара Лемяшонка[287] ад аддзелу ЗБВБ у Брадфардзе і сп. Хведара Кажаневіча[288] ад аддзелу Манчэстэр. Абодва кандыдаты ўрачыста прынялі прысягу на радных у прысутнасьці сходаў беларускага грамадзтва, адзін у Брадфардзе 21 красавіка, другі ў Манчэстэры 22 красавіка. Як на ўрачыстасьці 25-х угодкаў ЗБВБ у Лёндане, гэтак на сходах у Брадфардзе й Манчэстэры было шмат прадстаўнікоў апазыцыі, як ЗБВБ, гэтак і Рады БНР. Яны задавалі шмат пытаньняў, цікавіліся і шмат выказвалі прыхільнасьць.

---

[285] Маюцца на ўвазе старшыня Галоўнай управы ЗБВБ Янка Міхалюк і старшыня Лонданскага аддзела ЗБВБ Алесь Жданковіч, якія пэўны час былі сябрамі Хрысціянскага аб’яднання беларускіх работнікаў, што было арганізацыяй прыхільнікаў БЦР.

[286] Будынак для царквы Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ у Манчэстэры быў набыты ў 1972 г. Будынак каштаваў больш за 2500 фунтаў. Гл.: Гардзіенка, Наталля. Беларусы ў Вялікабрытаніі. С. 365.

[287] **Хведар (Тодар) Лемяшонак** (13.05.1915, в. Лагезы на Маладзечаншчыне (?) — 30.10.2000, Брадфард, Вялікабрытанія), грамадскі дзеяч. Перад пачаткам Другой сусветнай вайны служыў у польскім войску. У 1939 г. трапіў у палон і быў вывезены ў Нямеччыну. Па сканчэнні вайны апынуўся ў беларускім лагеры *DP*, адкуль у 1947 г. выехаў на працу ў Вялікабрытанію. Першапачаткова працаваў на сельскай гаспадарцы. Потым пасяліўся ў Брадфардзе. Ад 19.10.1947 быў сябрам Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі, актывістам аддзела ў Брадфардзе, у 1976–1991 гг. — старшынёй аддзела. Ад 1949 г. быў сябрам Згуртавання беларускіх камбатантаў. Выконваў абавязкі скарбніка Беларускага грамадскага клуба «Сакавік», а таксама шмат гадоў быў адміністратарам Беларускага дома ў Брадфардзе.

[288] **Хведар (Тодар) Кажаневіч** (14.02.1926, в. Любельполь, сёння Любель-Поле Пінскага раёна Брэсцкай вобл. — 27.02.2007, Манчэстэр, Вялікабрытанія), грамадскі дзеяч. У 1940 г. разам з бацькамі быў дэпартаваны ў раён Архангельска (Расія). Ад 1942 г. служыў у Арміі Андэрса, удзельнік бітвы за Монтэ-Касіна. У 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Ад 19.01.1947 быў сябрам Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі. Першыя гады жыў у Брадфардзе, потым перабраўся ў Манчэстэр. Быў актывістам і доўгагадовым старшынёй аддзела ЗБВБ у Манчэстэры. Ад 1949 г. быў сябрам Згуртавання беларускіх камбатантаў. Адзін з арганізатараў беларускай суботняй школкі ў Манчэстэры, старшыня бацькоўскага камітэта. Адзін з ініцыятараў стварэння Беларускага клуба ў Манчэстэры, выконваў абавязкі яго скарбніка. Быў сябрам Рады БАПЦ у Вялікабрытаніі.

У справе эўрапэйскіх сэктараў Рады БНР, каб яны міжсобку былі ў кантакце й супрацоўнічалі, была ў Лёндане 15 красавіка нарада. Нарада высунула а. Др. А. Смаршчка на старшыню над усімі эўрапэйскімі сэктарамі й запраектавала зьезд прадстаўнікоў ад усіх сэктараў Эўропы гэтага лета ў Нямеччыне. Зьезд адбудзецца пад старшынствам а. Смаршчка.

У Бэльгіі былі ў сям'і Смаршчкоў. Сям'я наскрозь беларуская, дзеці — два сыны — гавораць чыста па-беларуску. У памешканьні сп. Жучкі[289] адбылося паседжаньне Бэльгійскага сэктару. Быў на ім Др. А. Арэшка[290], сп. Жучка і яшчэ адзін беларус-радны. Старшыня сэктару прачытаў пратакол з паседжаньня Прэзыдыюму й Сакратарыяту Рады БНР, якое адбылося ў сьнежні 1971 г. у Нью Ёрку. Пасьля была дыскусія.

У Гішпаніі, таму, што тут такія алярмуючыя справы з радыям «Свабода», хадзілі ў Міністэрства нутраных спраў даведацца, якія магчымасьці ёсьць

---

[289] **Янка Жучка** (15.04.1928, в. Лучыцы, сёння Клецкі раён Мінскай вобл. — 16.11.2010, Бельгія), інжынер, журналіст, грамадскі дзеяч. Вучыўся ў школе ў Сіняўцы, падчас Другой сусветнай вайны — у тэхнічнай школе ў Клецку. Быў сябрам СБМ. Пасля вайны апынуўся ў беларускім лагеры ў Рэгенсбургу, вучыўся ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы. У 1948 г. у складзе «Дванаццаткі» прыбыў як *DP* у Вялікабрытанію. Працаваў на вугальных капальнях. Ад 12.03.1948 быў сябрам Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі. Ад 1949 г. — сябра Згуртавання беларускіх камбатантаў. У 1950 г. выехаў на вучобу ў Бельгію. Закончыў політэхнічны факультэт Лювенскага ўніверсітэта з дыпломам будаўнічага інжынера. Пасяліўся на сталае жыццё ў Бельгіі, працаваў у галіне сталёвых канструкцый, ад 1968 г. — у інфармацыйным цэнтры па выкарыстанні сталі ў будаўніцтве. У 1968–1985 гг. працаваў у рэдакцыі міжнароднага часопіса *«Acier – Stahl – Steel»*. Аўтар мноства артыкулаў у галіне сталёвых канструкцый. Ад 1985 г. займаў пасаду дарадцы па сваёй спецыяльнасці, чытаў лекцыі і праводзіў канферэнцыі для інжынераў і архітэктараў. Браў актыўны ўдзел у беларускім жыцці. У 1954 г. увайшоў у склад управы Беларускага студэнцкага згуртавання, у 1957–1958 гг. — яго старшыня. Стаў сябрам Саюза беларусаў Бельгіі, а праз некаторы час — яго кіраўніком.

[290] **Аляксей Арэшка** (нар. 18.11.1923, в. Жарабковічы, сёння Ляхавіцкі раён Брэсцкай вобл.), навуковец-хімік, грамадскі дзеяч. Вучыўся ва ўніверсітэце *UNRRA* ў Мюнхене, дзе стаў адным з заснавальнікаў Беларускага студэнцкага згуртавання. Удзельнічаў у выданні часопіса «Студэнцкая думка» (пазней перайменаваны ў «Крывіцкі сьветач»). У 1947 г. паступіў ва ўніверсітэт у Марбургу, адтуль перабраўся ў Лювенскі ўніверсітэт (Бельгія), дзе вучыўся на хімічным факультэце. Актыўны сябра Саюза беларусаў Бельгіі. У 1956 г. абараніў дысертацыю і атрымаў ступень доктара хімічных навук. Ад 1957 г. працаваў у фармацэўтычнай фірме *«Labaz»* як кіраўнік групы хімікаў у галіне пошуку сінтэзу лекаў ад сардэчна-сасудзістых захворванняў. Аўтар дзясятка навуковых артыкулаў у спецыялізаваных бельгійскіх і французскіх часопісах. Удзельнік шматлікіх міжнародных навуковых кангрэсаў. Заснаваў Аб'яднанне беларускіх студэнтаў-выпускнікоў Лювенскага ўніверсітэта *«Academicus»*, выпусціў некалькі бюлетэняў з такой назвай. Ад 1983 г. — на пенсіі.

узнавіць беларускія перадачы ў гішпанскім радыі[291]. Заступнік дырэктара гэтага радыя паінфармаваў, што магчымасьці ёсьць, але трэба пачакаць, бо цяпер адбываецца іх рэарганізацыя, ідуць пэртрактацыі з Масквой. Калі-ж ходзіць пра апляту радыёвых працаўнікоў, дык ім будзе аплачаны толькі той час, які яны зужываюць на перадачы, што значыць, у суме пару гадзін на тыдзень. Інакш кажучы, працаўнік толькі з працы ў гішпанскім радыі не пераЖыве.

Да п. 4.

а. Спадар Старшыня паведаміў, што ў Нью Ёрку не ўдалося яму знайсьці кандыдата на сакратара інфармацыі. У Канадзе быць ім згадзіўся сп. Янка Сурвіла. Прэзыдыюм згадзіўся зацьвердзіць кандыдатуру сп. Я. Сурвілы на сакратара інфармацыі.

б. Пакуль старшынёй Сакратарыяту Рады БНР быў Др. Я. Запруднік, справа з «Камунікатамі» стаяла вельмі добра. Ён іх выдаваў. Цяпер у Нью Ёрку няма каму іх выдаваць.

Заступнік Старшыні прапанаваў, каб камунікаты выдаваў Старшыня Рады БНР, і тады камунікаты назваліся-б «Камунікат Старшыні Рады БНР».

Сп. М. Ганько прапанаваў выдаваць «Камунікаты» рататарам, а «Бюлетэнь Рады БНР» — друкам. У «Бюлетэні» парушаліся-б справы ідэалягічнага характару. Тады «Бюлетэнь» меў-бы ўзгадаваўчы характар.

Др. Я. Сажыч хацеў, каб фінансавыя справаздачы Рады БНР былі падаваныя для агульнага ведама, прыкладам, у «Беларусе».

Спадар Старшыня: Фінансавая справаздача падана была скарбнікам на 11-ай Сэсіі Рады БНР. Скарбнік можа высылаць справаздачы ў сэктры.

в. Сэктар Рады БНР у Нью Ёрку, паміма усіх высілак — гутарак з раднымі ў часе побыту ў Нью Ёрку перад Новым годам і лістоў, высланых да ўсіх радных, найлічнейшы сэктар Рады БНР у Нью Ёрку — нячынны. Гэткая сытуацыя блага адбіваецца на мараль іншых сэктараў.

Др. Я. Запруднік заявіў, што ён ня мае часу на паседжаньні сэктараў, што канцэпцыя мусіць быць зьмененая, што каб быць радным, ня трэба быць у сэктары.

Др. Я. Сажыч выразіўся з папрокам: «Нам накінулі сэктар!».

Спадар Старшыня: Ёсьць радныя, як Др. Я. Запруднік, вельмі дзейныя ў грамадзкім, палітычным і навуковым жыцьці, ім сэктар запраўды непатрэбны. Але для большасьці радных сарганізаваныя сэктары патрэбныя, гэта тая элемэнтарная справа, што паясьняць яе няма чаго. У Нью Ёрку многа радных амаль зусім не заангажаваных у беларускім жыцьці, і яны павінны заняцца арганізацыяй і працай у сэктары.

На рэпліку Др. Сажыча быў адказ: Ніхто Вам сэктару не накідаў.

г. Ці можа радны БНР езьдзіць у адведзіны ў Савецкі Саюз? Пытаньне гэтае й засьцярогу паставілі радныя Ангельскага сэктару. Ня было яно вырашаным і цяпер.

---

[291] Сталыя беларускія перадачы на іспанскім радыё існавалі ў 1958–1965 гг.

На гэтым паседжаньне было закрытым Старшынём Рады БНР.

*Др. Вінцэнт Жук-Грышкевіч, Старшыня Рады БНР.*

Пратакол запісала

*Др. Раіса Жук-Грышкевіч, радная Канадзкага сэктару.*

## ПРАТАКОЛ ПАСЕДЖАНЬНЯ ПРЭЗЫДЫЮМУ Й САКРАТАРЫЯТУ РАДЫ БНР у Нью Ёрку з дня 8 сьнежня 1972 году

Прысутныя: Старшыня Рады БНР — Др. В. Жук-Грышкевіч, сябры Прэзыдыюму Рады БНР: сп. А. Адамовіч, А. Шукелойць і сп. В. Русак, сакратар вайсковых справаў — Др. Я. Сажыч.

Парадак дня:

Адчытаньне пратаколу з папярэдняга паседжаньня.

Інфармацыя зь дзейнасьці Рады БНР.

Час і месца скліканьня чарговай звычайнай Сэсіі Рады БНР.

Арганізацыя архіву Рады БНР у Нью Ёрку.

Рознае.

Да п. 1:

Быў прачытаны пратакол паседжаньня Прэзыдыюму й Сакратарыяту Рады БНР, што адбылося дня 15 травеня 1972 году ў Таронта, Канада. Пратакол быў прыняты без паправак.

Да п. 2:

Пункт зрэфэраваў Старшыня Рады БНР Др. В. Жук-Грышкевіч як ніжэй:

Нутраное жыцьцё сэктару Рады БНР за выняткам сэктару Нью Ёрк ажывілася. Адбыліся перавыбары сэктару Рады БНР у Аўстраліі, прыходзяць добрыя весткі з Францыі, што сэктар там павялічыцца ў недалёкай будучыні. сэктар у Англіі налічвае чатырох Радных; ёсьць надзея, што й там дойдуць малодшыя.

«Камунікаты Рады БНР» ня змог выдаць. Падрыхтоўка да Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі ў Таронта[292] ды іншыя тэхнічныя цяжкасьці былі прычынай гэтага. Камунікат выйдзе пасьля Каляд.

Ажывілася таксама справа вэтэранаў, дзякуючы стараньням прысутнага тут сакратара вайсковых справаў Др. Я. Сажыча. Урачыста сьвяткаваліся ўгодкі Слуцкага Паўстаньня ў Таронта й Дэтройце, на вялікую шкалу было наладжана гэта сьвята ў Нью Джэрзі.

[292] 10-я Сустрэча беларусаў Паўночнай Амерыкі адбылася ў Таронта 2–4 верасня 1972 г.

Вытвараецца няпрыемная справа ў Кліўлендзе; стварылася недаразуменьне між Радным А. Стрэчэнем[293] і Мітрапалітам БАПЦ Андрэем[294]. Гэта можа дрэнна адбіцца на беларускім жыцьці ў Кліўлэндзе.

Др. Я. Сажыч быў нядаўна ў Кліўлэндзе з др. У. Бакуновічам. Склад Сэктару там слабы. Сытуацыю трэба разважыць; інакш можа вытварыцца палажэньне, кампрамітуючае Раду БНР.

Прысутныя прасілі др. Я. Сажыча, каб ён спаткаўся з Радным А. Стрэчэнем і перасьцярог яго, каб сваймі паводзінамі ня шкодзіў Радзе БНР.

У сэктары налічваецца 22 радных.

Сп. А. Шукелойць заявіў, што ён будзе старацца аднавіць сэктар Рады БНР у Нью Ёрку. Да яго зьвяртаўся ў гэтай справе др. Набагез. Выглядае, што раней трэба знайсьці адпаведных людзей для Ўраду сэктару.

Была прачытана заява а. А. Смаршчка, старшыні Архіўнай Камісіі аб дымісіі дзеля немагчымасьці выкананьня заданьня Камісіі — пераняцьця Архіву Рады БНР ад сп-ні Н. Абрамчык. Дымісія а. А. Смаршчка была прынятая, і Архіўная Камісія разьвязаная.

Да п. 3:

Старшыня Рады БНР сьцьвердзіў, што Рада не палагодзіла да сяньня некаторых арганізацыйных пытаньняў; яшчэ не скамплектаваны Кантрольная Камісія й Суд Рады, не зацьверджаны пяць пунктаў Статуту, ня ўстаноўлены сяброўскія складкі й не праведзена кантроля дзенасьці Рады. Трэба склікаць Сэсію Рады, каб палагодзіць гэтыя пытаньні.

---

293 **Андрэй Стрэчань** (1916–1999) жыў у Кліўлендзе, быў актыўным будаўніком першай кліўлендскай царквы БАПЦ і Беларускага грамадскага цэнтра «Полацак». Быў сябрам Беларуска-амерыканскага задзіночання, уваходзіў у кіраўніцтва Кліўлендскага аддзела арганізацыі. Шматгадовы прадстаўнік газеты «Беларус» у Кліўлендзе.

294 **Андрэй** (свецк. **Аляксандар Крыт** 03.07.1901, в. Мархачоўшчына, сёння Стаўбцоўскі раён Мінскай вобл. — 21.05.1983, Кліўленд, ЗША), рэлігійны і грамадскі дзеяч, мітрапаліт БАПЦ. У 1924 г. закончыў Нясвіжскую гімназію, у 1927 г. — настаўніцкія курсы ў Радашкавічах. Браў удзел у нацыянальным руху: быў сябрам БСРГ. У 1939 г., як жаўнер польскага войска, трапіў у палон, быў вызвалены і ўключыўся ў грамадскае жыццё беларусаў у Нямеччыне. Увайшоў у склад управы берлінскага аддзела Камітэта самапомачы ў Нямеччыне (ад 1943 г. займаў пасаду скарбніка), супрацоўнічаў з газетай «Раніца». У паваеннай Нямеччыне знаходзіўся ў беларускім лагеры ў Ватэнштэце (Ніжняя Саксонія), а ў 1948 г. прыехаў у Вялікабрытанію на працу. Ад 05.12.1948 быў сябрам Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі, у 1949–1950 гг. абіраўся на пасаду намесніка старшыні арганізацыі. 25.06.1950 быў рукапакладзены ў святары БАПЦ. Жыў у Брадфардзе. Стаў заснавальнікам структур БАПЦ у Вялікабрытаніі. У 1961 г. з’ехаў у ЗША. Жыў у Кліўлендзе. У 1968 г. быў рукапакладзены ў сан епіскапа БАПЦ, а ў 1972 г. стаў першаіерархам БАПЦ. Напрыканцы жыцця прычыніўся да расколу царквы праз канфлікт з епіскапам Мікалаем (Мацукевічам).

Сп. А. Шукелойць заўважыў, што штораз часьцейшыя паездкі радных ды беларусаў наагул у Савецкі Саюз практычна азначаюць спыненьне іх грамадзкай дзейнасьці.

Старшыня Рады БНР: Сэсія Рады павінна будзе выказаць сваё становішча й па гэтаму пытаньню.

Сп. В. Русак лічыць, што калі нойдзем людзей для Кантрольнай Камісіі, дык нойдзем і спосаб узаконеньня Камісіі.

Сп. А. Адамовіч радзіў спалучыць скліканьне Сэсіі зь якойсь гадавінаю, пр. 50-мі ўгодкамі беларусізацыі ў БССР.

Др. Я. Сажыч радзіў спалучыць скліканьне Сэсіі з 70-мі ўгодкамі народжаньня й 50-мі ўгодкамі грамадзка-палітычнай дзейнасьці Старшыні Рады БНР.

Вырашана мець на ўвазе скліканьне Сэсіі Рады БНР на 24 сакавіка 1973 году ў Таронта, Канада.

Да п. 4:

Старшыня Рады БНР сьцьвердзіў, што, паводле заяваў др. В. Тумаша[295] й сп. М. Гарошкі, у памешканьні Фундацыі Крэчэўскага ёсьць месца на Архіў Рады БНР. Патрэбны чалавек, які зарганізуе архіў. Пытае, ці сп. Шукелойць возьмецца за гэтую справу. Іншыя сэктары ёсьць вельмі зацікаўлены стварэньнем архіву.

Сп. Шукелойць заявіў, што цяпер ня зможа ўзяць на сябе гэтага абавязку дзеля недахопу часу.

Старшыня Рады паінфармаваў, што ў Таронта жыве ў вялікай нястачы сп. Мікола Бытынскі[296], украінскі палкоўнік, які ў свой час праектаваў нагробны помнік па пакойнаму Прэзыдэнту Рады БНР Пётры Крэчэўскаму ў Празе. Беларусы паставілі гэты помнік, і ён стаіць там сяньня. Пытае, ці ня можна было-б аказаць сп. Бытынскаму невялічкую дапамогу.

Вырашана аказаць сп. Бытынскаму дапамогу ў вышыні 100.00$ у знак удзячнасьці й прызнаньня за ягоны ўклад для ўшанаваньня памяці Прэзыдэнта БНР П. Крэчэўскага.

Вырашана было асыгнаваць суму ў вышыні да 500.00$ на куплю пішучай машынкі для карыстаньня Старшыні Рады БНР пры выдаваньні «Камунікату Старшыні Рады БНР».

---

[295] **Вітаўт Тумаш** (1910–1998) жыў у Нью-Ёрку, меў лекарскую практыку, а ўвесь вольны час прысвячаў грамадскай і навуковай дзейнасці. Быў сябрам Беларуска-амерыканскага задзіночання, старшынёй Нью-ёркскага аддзела арганізацыі. Адзін з заснавальнікаў БІНіМа і яго кіраўнік ў 1955–1982 гг. У 1979–1982 гг. быў старшынёй Фундацыі імя П. Крэчэўскага. Аўтар шэрагу навуковых прац, найперш скарыназнаўчай тэматыкі.

[296] **Мікола Бытынскі** (укр. *Микола Битинський,* 1893–1972), украінскі фалерыст, літаратар, мастацтвазнаўца, навуковец, удзельнік Украінскай нацыянальнай арміі. У 1920-я гг. ён вучыўся ў Празе. Ад 1951 г. жыў у Канадзе.

Далей было выращана пакрыць выдатак 175.00$ Згуртаваньню Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў у Нью Джэрзі на друк дыплёмаў афіцэраў беларускіх збройных сілаў.

На пытаньне др. Я. Сажыча, як прадстаўляюцца справы Фундацыі Крэчэўскага, сп. А. Шукелойць адказаў, што інтарэсы БНР там ёсьць прадстаўлены Раднымі БНР — Дырэктарамі Фундацыі.

На гэтым паседжаньне Прэзыдыюму й Сакратарыяту Рады БНР было закончана.

*Др. Вінцэнт Жук-Грышкевіч, Старшыня Рады БНР.*

*В. Русак, Сакратар Прэзыдыюму Рады БНР.*

## ПРАТАКОЛ 12-АЙ НЕЧАРОДНАЙ СЭСІІ РАДЫ БНР, што адбылася 21 красавіка 1973 г. у Беларускім Рэлігійна-Грамадзкім Цэнтры на 524 ст. Клярэнс Авэ. Таронта, Онтарыё, Канада

Удзельнікі: У Сэсіі ўзяло ўдзел 34 радных, што прадстаўлялі сэктары Рады ЗША, Канады, Аўстраліі, Зах. Нямеччыны й Францыі. З гэтага ліку 12 радных прыбылі асабіста, а 22 прыслалі свае ўпаўнаважаньні паасобным удзельнікам Сэсіі.

Парадак дня:

1. Адкрыцьцё й выбары Прэзыдыюму Сэсіі.
2. Адчытаньне пратаколу з 11-й Сэсіі.
3. Даклад Старшыні Рады БНР аб дзейнасьці Рады і актуальных справах.
4. Даклад і рэзалюцыя на 55-я ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі.
5. Прыймо 5-х апошніх разьдзелаў Статуту, якіх не пасьпелі прыняць на 11-й Сэсіі.
6. Выбары Кантрольнай камісіі й Суда Рады БНР.
7. Устанаўленьне вышыні складак для радных і дапамога грамадзтва.
8.螺знае.

Да п. 1:

12-ю Сэсію адчыніў Старшыня Рады БНР др. Вінцэнт Жук-Грышкевіч а гадзіне 2:30 п. п. На ягоную просьбу Япіскап БАПЦ Уладыка Мікалай[297] багаславіў малітвай пачыны й працу Сэсіі.

---

[297] **Мікалай** (свецк. **Міхась Мацукевіч**, 21.05.1917, хут. Суяцін Самарскай губерні Расіі — 20.06.2002, Таронта, Канада), рэлігійны дзеяч, мітрапаліт БАПЦ. Нарадзіўся на хутары, дзе сям’я знаходзілася ў бежанстве. У 1921 г. разам з бацькамі вярнуўся ў Моталь (сёння Іванаўскі раён Брэсцкай вобл.). У 1939 г. прызваны ў польскае войска, паранены, вярнуўся да бацькоўскай гаспадаркі, на якой працаваў у час нямецкай акупацыі. У красавіку 1944 г. быў вывезены на прымусовыя працы

Старшыня Рады БНР у сваім уступным слове прывітаў радных, пажадаў Сэсіі плённай працы і ўспомніў тых радных, што ад часу 11-ай Сэсіі адыйшлі ад нас у вечнасьць: сьв. пам. сп. сп. Сымон Кабыш Кандыбовіч[298], шматгадовы старшыня сэктару Рады БНР у Нямеччыне, Аляксей Вініцкі[299], Айцец др. Віктар Войтанка-Васілеўскі[300], які быў яшчэ ўдзельнікам 11-ай Сэсіі, Язэп Гладкі[301], удзельнік Першага Ўсебеларускага Кангрэсу й сябра Рады БНР ад пачатку яе аднаўленьня на эміграцыі. Хвілінай маўчаньня ўдзельнікі Сэсіі ўшанавалі іх сьветлую памяць.

У Прэзыдыюм 12-й Сэсіі Рады БНР былі выбраны: на старшыню — др. Барыс Рагуля, на сакратароў — др. Раіса Жук-Грышкевіч і маг. Васіль Плескач, і як ганаровы сябра быў запрошаны Старшыня Рады др. Вінцэнт Жук-Грышкевіч.

Прэзыдыюм устанавіў, а Старшыня яго абвесьціў лік прысутных радных, лік прысланых упаўнаважаньняў і хто колькі мае галасоў.

На прапанову праф. Антона Адамовіча, які выражаў пажаданьні сяброў Нью Ёркаўскага сэктару, Сэсія пастанавіла назваць 12-ю Сэсію Рады БНР «Нечародная», а не «Надзвычайнаю», як яе называлі ў часе падрыхтоўкі.

Запрапанаваны Парадак Дня 12-й Сэсіі быў прыняты з прапанаваным Старшынёй Рады дапаўненьнем пункту: 1а. Прыняцьцё новых сяброў.

Да 1а:

Старшыня Рады БНР др. В. Жук-Грышкевіч паведаміў, што ад 11-й Сэсіі ў Раду БНР прыбыло двох новых сяброў і падана да прыняцьця ў сябры Рады БНР 5 новых кандыдатаў.

---

ў Нямеччыну (зямля Паўночны Рэйн-Вестфалія). Па вызваленні амерыканскімі войскамі ў сакавіку 1945 г. прыехаў у Шатландыю, працаваў на ферме пад Глазга. Ад 09.04.1947 быў сябрам Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі. У 1949–1951 гг. жыў у Беларускім доме ў Лондане. У жніўні 1951 г. пераехаў у Таронта (Канада), а пазней — у Вініпег, дзе вучыўся ва Украінскай багаслоўскай акадэміі (калегіі). 02.05.1952 рукапакладзены на дыякана, а 06.05.1952 — на святара. 04.10.1954 адслужыў у царкве Св. Кірылы Тураўскага ў Таронта першую літургію. Быў настаяцелем гэтага прыходу, наведваў беларускія асяродкі ў Садбуры, Манрэалі, Лондане, Кітчэнеры, Гвэлфе, Бэры, Брантфардзе, Атаве, Алістане ды інш. Паспрыяў заснаванню парафіі БАПЦ Св. Духа у Дэтройце (ЗША). 10.03.1968 у Адэлаідзе (Паўднёвая Аўстралія) хіратанісаваны галавой БАПЦ Сяргеем у епіскапа Турава-Пінскага і Таронцкага з імем Мікалай. У 1973 г. на Саборы БАПЦ узначаліў Канадска-еўрапейскую епархію БАПЦ. Удзельнік расколу БАПЦ у 1980-я гг., калі на Надзвычайным саборы БАПЦ у Кліўлендзе (Агаё, ЗША) у 1983 г. быў абраны першым іерархам БАПЦ (паўторна абраны таксама ў 1984 г. на ІІІ Саборы БАПЦ). Спрычыніўся да перакладу багаслужбаў і літургічных кніг на беларускую мову.

[298] Сымон Кабыш (Кандыбовіч) памёр 17 верасня 1971 г. у Мюнхене.

[299] Алесь Вініцкі памёр 23 лістапада 1972 г. у Каліфорніі.

[300] Віктар Войтанка-Васілеўскі памёр 25 красавіка 1972 г. у Сомерсэце (штат Нью-Джэрсі).

[301] Язэп Гладкі памёр 28 ліпеня 1972 г. у Нью-Ёрку.

Гэтак, 1. сп. Хведар Лемяшонак, старшыня Беларускага клюбу «Сакавік» у Брадфардзе, Англія, высунуты на кандыдата Рады БНР Агульным зьездам Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі, злажыў прысягу сябры Рады БНР на рукі Старшыні Рады БНР на сходзе беларусаў 21 красавіка 1972 г. у Брадфардзе, Англія і 2. сп. Хведар Кажаневіч, старшыня аддзелу ЗБВБ і Беларускага клюбу ў Манчэстары, высунуты кандыдатам у Раду БНР Агульным зьездам ЗБВБ, злажыў прысягу Сябры Рады БНР на рукі Старшыні Рады БНР на сходзе беларускага грамадзтва Манчэстару 22 красавіка 1972 г.

Сэсія прызнала іх сяброўства ў Радзе БНР ад красавіка 1972 г. — даты злажэньня прысягі на рукі Старшыні Рады БНР.

3. Сп. сп. Павал Наваро, былы шматгадовы старшыня Галоўнае ўправы ЗБВБ, і 4. Павал Асіповіч, шматгадовы скарбнік ЗБВБ і прадстаўнік ад беларусаў у «Юропіен Ліезон Груп» (Група Эўрапэйскай Сувязі) у Лёндане, паданыя як кандыдаты ў сябры Рады БНР ЗБВБ, падпісалі прысягу сябры Рады БНР. Сэсія пастанавіла прыняць іх у сябры Рады БНР ад даты 12-й Сэсіі.

5. Капт. Аўген Трусаў і 6. Інж. Лявон Шыманец, паданыя як кандыдаты ў сябры Рады БНР Хаўрусам беларусаў у Францыі, падпісалі Прысягу сябры Рады БНР. Сэсія пастанавіла прыняць іх абодвух у сябры Рады БНР ад даты 12-ай Сэсіі Рады БНР.

7. Спадарыня Івонка Сурвілла[302], ведамая беларуская мастачка, паданая як кандыдатка ў сябры Рады БНР сябрамі Галоўнай Управы ЗБК і Канадзкім сэктарам Рады, мелася быць на гэтай Сэсіі разам з мужам, радным Янкам Сурвіллам, але непрадбачаны па дарозе ў Таронта выпадак перашкодзіў ім быць прысутнымі на Сэсіі. Сэсія пастанавіла прыняць сп-ню Івонку Сурвіллу ў сябры Рады БНР ад даты 12-ай Сэсіі Рады. Сэсія згадзілася прыняць тэлефанічныя ўпаўнаважаньні Івонкі і Янкі Сурвіллаў, бяручы пад увагу непрадбачаны выпадак, што спаткаў іх па дарозе на Сэсію.

Як бачым, рады Рады БНР папоўніліся малодшымі, актыўнымі ў беларускім жыцьці, вартаснымі асобамі.

Да п. 2:

Сп. Антон Шукелойць прачытаў пратакол з 11-ай Сэсіі Рады БНР, а Старшыня Рады БНР — дапаўненьні да пратаколу, падпісаныя Старшынёй і Сакратаром 11-ай Сэсіі. 12-я Сэсія прыняла гэты пратакол да ведама.

---

302 **Івонка Сурвіла** (11.04.1936, Стоўпцы, сёння Мінская вобл.), грамадская дзяячка, мастачка, дачка Уладзіміра Шыманца, жонка Янкі Сурвілы. Вучылася ў Вышэйшай мастацкай школе ў Парыжы. У 1959 г. закончыла філалагічны факультэт Сарбоны. У 1959–1969 гг. разам з мужам жыла ў Мадрыдзе. Выкладала французскую мову ў Французскім інстытуце ў Мадрыдзе, дапамагала рыхтаваць беларускія перадачы на Нацыянальным іспанскім радыё. У 1969 г. пераехала ў Канаду. Працавала перакладчыцай у Федэральным бюро перакладаў краіны. Узначальвала БІНіМ у Канадзе, управу Каардынацыйнага камітэта беларусаў Канады, Канадскі фонд дапамогі ахвярам Чарнобыля. Ад 1997 г. — старшыня Рады БНР.

Да п. 3:

У сваім дакладзе Старшыня Рады БНР В. Жук-Грышкевіч паказаў, што дзейнасьць Рады БНР у вонкавым і нутраным напрамку мусіць датарноўвацца да абставін жыцьця, якія ўсьцяж зьмяняюцца. Па-першае, міжнародная сытуацыя няпрыхільная для нас тым, што захадні сьвет, пераходзячы зь мірнага суіснаваньня з камуністычным блёкам да супрацоўніцтва, перастаў цікавіцца паняволенымі Масквой народамі і іхнымі незалежніцкімі імкненьнямі. Нягледзячы на гэта, мы павінны ўважна сачыць за міжнароднымі падзеямі ды старацца выкарыстоўваць усякія нагоды, каб узьнімаць голас пратэсту супраць гвалту й крыўдаў, чыненых Беларусі і яе народу. З такім настаўленьнем, прыкладам, мы павінны будзем выйсьці да запраектаванай па ініцыятыве Масквы канфэрэнцыі замірэньня ў Гэльсінках[303], што мае адбыцца ў чэрвені гэтага году.

Другі аспэкт дзейнасьці, на які зьвярнуў увагу сп. Старшыня Рады, гэта нутраное ўзмацненьне самое Рады БНР. Каб быць жывой і працаздольнай, Рада мусіць мець пругкую нутраную арганізацыю, пачынаючы ад сакратароў і канчаючы на Прэзыдыюме й Сакратарыяце Рады.

Трэцяе: Рада БНР, якая ня толькі рэпрэзэнтуе БНР і волю беларускага народу, але ёсьць і адзінай арганізацыяй, што лучыць абсалютную бальшыню беларусаў у вольным сьвеце, — трох кантынэнтах — мусіць дбаць пра беларускае грамадзтва, што ёсьць для Рады БНР заплеччам і грунтам, зь якога яна чэрпае працоўныя сілы. Рада БНР — яе кіраўніцтва й сэктары — павінны дбаць пра актыўнасьць мясцовых беларускіх арганізацыяў, бо дзяржавы, у якіх мы жывем, судзяць нас як народ і лічацца з намі паводле таго, як мы, беларускае грамадзтва, сарганізаваны ды як і куды накіроўваем сваю дзейнасьць.

Чацьвёртае. Наша надзея й будучыня — гэта нашы дзеці й моладзь. Таму мы павінны дбаць пра нашых дзяцей і моладзь, каб яны былі ўзгадованы ў беларускім духу. А дзеля гэтага патрэбны ўзгадавальнікі і ў першую чаргу беларускія падручнікі. Вось чаму мы кінулі кліч «Падручнікі перадусім».

Даклад свой сп. Старшыня Рады закончыў інфармацыяй аб дзейнасьці сэктараў Рады БНР у Нямеччыне, Францыі, Англіі і Аўстраліі.

У Англіі вельмі стары сэктар Рады БНР, але розныя абставіны спрычыніліся да таго, што з гэтага сэктару, калісь лічнага й моцнага, засталіся былі толькі два радныя: сп. сп. А. Лашук і Я. Міхалюк. Адныя выехалі, другія — непрацаздольныя ці бязьдзейныя — адпалі. Прышлося гэты сэктар

---

[303] Маецца на ўваза **«Нарада па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе»**, першы этап якой прайшоў 3–7 ліпеня 1973 г. у Хельсінкі з ініцыятывы СССР і сацыялістычных краін ды удзелам 33 еўрапейскіх дзяржаў, ЗША і Канады. Мэтаю нарады была выпрацоўка мерапрыемстваў па змяншэнні ваеннага супрацьстаяння і гарантаванні бяспекі ў Еўропе. Вынікам трох такіх нарадаў, што адбыліся цягам 1973–1975 гг., стала стварэнне Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе (АБСЕ).

аднаўляць, прыцягваючы новых вартасных і дзейных маладых сяброў. Два сябры былі прыняты летась, а двох мы прынялі сяньня. Такім чынам, сэктар у Англіі мае цяпер шэсьць радных. Яны належаць да беларускага актыву ў Англіі, г. зн. тых, што вядуць работу ў ЗБВБ (якое, між іншага, фінансуе часапіс «Джурналь оф Белорусіен Стадыз») і ў двох беларускіх клюбах.

У Францыі — сэктар Рады БНР быў зусім заняпаўшы, астаўся быў зь яго толькі адзін радны сп. М. Наўмовіч, які аднавіў Хаўрус беларусаў у Францыі, што выставіў двох кандыдатаў у Раду БНР — капт. А. Трусава і інж. Лявона Шыманца, якіх мы сяньня прынялі ў сябры Рады.

Вельмі важнай, але й прыкрай, паўстала была ў Францыі справа беларускай нацыянальнасьці, якую французская адміністрацыя не хацела прызнаць і замест беларускай упісвала ў пашпартах беларусаў расейскую нацыянальнасьць. Шмат клопатаў і захадаў мелі нашы сябры з гэтай справай. Ня раз зьвярталіся зь ёю да мясцовых дэпутатаў у парлямэнт. Дабіліся таго, што два дэпутаты інтэрвэніявалі ў самога Прэм’ера[304] ў справе прызнаньня нацыянальнасьці і ў выніку гэтага прышло паведамленьне адміністрацыі, што беларусам будзе ўпісвацца ў пашпарты беларуская нацыянальнасьць, а не расейская.

У Аўстраліі летась 19 жніўня адбыўся зьезд радных БНР з усяго кантынэнту, які разгледзіў усё беларускае жыцьцё й працу ў Аўстраліі. У Сыднэі чыннае Беларускае аб’еднаньне НПВ[305] і сарганізаваны Беларускі грамадзкі клюб[306] з мэтай набыцьця беларускага дому. У Мэльбурне набылі Беларускі дом[307], існуе беларуская школа, БАПЦарква, супольны для ўсіх беларусаў Цэнтральны камітэт[308]. У сэктары дзевяць радных, у ўправу якога ўваходзяць: сп-ня А. Каранеўская[309] —

---

[304] Магчыма, маецца на ўвазе **П’ер Мэсмэр** (*Pierre-Auguste-Joseph Messmer,* 1916–2007), французскі палітык, што займаў пасаду прэм’ер-міністра ў 1972–1974 гг.

[305] **Беларускае аб’яднанне ў Новай Паўднёвай Валіі** — грамадская арганізацыя прыхільнікаў Рады БНР у Сіднэі, заснаваная ў сакавіку 1951 г.

[306] Афіцыйна **Беларускі культурна-грамадскі клуб** у Сіднэі быў зарэгістраваны ўжо пасля набыцця Беларускага дома 14 снежня 1973 г., аднак рэальна ідэя яго стварэння і праца пачалася ўжо ў 1969 г.

[307] Беларускі дом у Мельбурне быў набыты ў 1972 г.

[308] Маецца на ўвазе **Беларускі цэнтральны камітэт у Вікторыі** — грамадская арганізацыя, створаная ў 1963 г., што аб’яднала прыхільнікаў і Рады БНР, і БЦР у агульную суполку.

[309] **Аўгіння Каранеўская** (дзяв. **Воўк-Левановіч**, 06.01.1919, маёнтак Ясны Лес, сёння вёска ў Бабруйскім раёне Магілёўскай вобл. — 30.03.1983, Сіднэй, Аўстралія), грамадская дзяячка. У 1920 г. разам з бацькамі пераехала ў м. Мядзведзічы (сёння Ляхавіцкі раён Брэсцкай вобл.). У 1937 г. закончыла Віленскую беларускую гімназію, паступіла на хімічны факультэт Віленскага ўніверсітэта. У 1939 г. вярнулася ў Мядзведзічы, дзе пачала працаваць настаўніцай беларускай мовы ў мясцовай школе. Падчас нямецкай акупацыі настаўнічала ў Баранавічах. Дэлегатка ад Баранавіцкае акругі на Другі Усебеларускі кангрэс. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі, у Нямеччыне. У 1946 г. пабралася шлюбам з інжынерам Міколам Каранеўскім. Ад 1949 г. жыла

старшыня, др. Я. Малецкі[310] — сакратар і сп. С. Нарушэвіч[311] — скарбнік. Сэктар мае падсэктары ў Мэльбурне й Сыднэі.

Падсэктар у Мэльбурне прыслаў 4 упаўнаважаньні й ліст, зь якога відна, што ён вельмі пазытыўна ставіцца да 12-й Сэсіі Рады. Уважае вырашэньне спраў, што на парадку дня, за вельмі важныя й вельмі на часе. Выказвае задавальненьне з «Камунікату» нр. 4[312] і дамаганьне, каб яны выходзілі часьцей ды каб урэшце павялічыўся Сакратарыят Рады, здабываючы больш людзей да працы.

У Сэктары Рады БНР у Нямеччыне чатыры сябры. Пяты сябра — сп. Віктар Сянкевіч — знаходзіцца ў Гішпаніі. Дзейнасьць радных сэктару цесна зьвязана зь іхняй працай на радыястанцыі «Свабода». Сэктар складае дэлегацыю Рады БНР у Лізе Вызваленьня Народаў СССР (Парыскі Блёк). На жаль, ад часу 11-й Сэсіі Рады Ліга нічога пазытыўнага не зрабіла. Паважнай прычынай гэтага ёсьць усходняя палітыка ў Нямеччыне[313].

Калі Радыё Свабода знайшлося пад пагрозай ліквідацыі, паўстала думка супрацоўніцтва Лігі з расейцамі. Спатканьні зь імі нічога не далі, наадварот, унесьлі разлад у нутро Лігі паміж прыхільнікамі супрацоўніцтва й праціўнікамі яго. Не змаглі склікаць і канфэрэнцыю Лігі, падрыхтоўка да гэтага

---

ў Сіднэі (Аўстралія). Распаўсюджвала беларускую прэсу, была сталай аўтаркай газеты «Беларус». Сябра Беларускага культурна-грамадскага клуба. Ад 1976 г. — супрацоўніца Беларускага радыё ў Сіднэі.

[310] **Язэп Малецкі** (12.01.1906, в. Якузы, сёння Мёрскі раён Віцебскай вобл. — 06.06.1982, Сіднэй, Аўстралія), грамадскі дзеяч, лекар. Закончыў гімназію ў Друі, а пазней — медыцынскі факультэт Віленскага ўніверсітэта. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у Віленскім беларускім камітэце, дырэктарам Медыцынскай школы ў Баранавічах, быў намеснікам Прэзідэнта БЦР на Вілейскую акругу. Ад 1949 г. жыў у Аўстраліі, займаўся лекарскай практыкай у Сіднэі. Актыўны сябра ўправы Беларускага аб'яднання ў Новай Паўднёвай Валіі, а ў 1960–1961 гг. — яго старшыня. Адзін з дырэктараў Беларускага культурна-грамадскага клуба ў Сіднэі. Адзін з ініцыятараў стварэння і старшыня Федэральнай рады беларускіх арганізацый у Аўстраліі ў 1979–1980 гг. Аўтар аўтабіяграфічнай кнігі «Пад знакам Пагоні» (Таронта, 1976).

[311] **Станіслаў Нарушэвіч** (23.05.1913, Браслаўшчына — 2001, Сіднэй, Аўстралія), грамадскі дзеяч. У 1944 г. працаваў у беларускай секцыі Берлінскага радыё. Пасля Другой сусветнай вайны закончыў горны ўніверсітэт у Боне (Нямеччына) з дыпломам інжынера. У 1947 г. прыехаў у Аўстралію. Працаваў на Снежнагорскай гідраэлектрычнай сістэме. Адзін са стваральнікаў Беларускага аб'яднання ў Новай Паўднёвай Валіі і яго апошні старшыня ў 1972–1980 гг.

[312] № 4 «Камунікатаў Прэзыдыюму й Сакратарыяту Рады БНР» выйшаў пасля больш як гадавога перапынку ў лютым 1973 г. Папярэдні нумар быў у траўні 1971 г.

[313] Маецца на ўвазе палітыка канцлера ФРГ Вілі Бранта (1913–1992), скіраваная на змяншэнне напружання ў дачыненнях Заходняй і Усходняй Еўропы. Вілі Брант займаў пасаду канцлера ў 1969–1974 гг. і ягоны курс атрымаў назву «ўсходняя палітыка» (*Ostpolitik*).

робіцца й цяпер. На парадку дня стаіць і скліканьне супольнай канфэрэнцыі Лігі зь «Юропіен Льезон Груп» у Лёндане. Пакуль што не ўдалося Лізе й рэалізацыя праекту выдаваньня свайго воргану.

Пра нашы справы на гэтым кантынэнце мы больш паінфармаваны, а калі зойдзе патрэба, можам мець дадатковыя інфармацыі ад прысутных дэлегатаў нашых сэктараў.

Шкада, што няма тут радных з сэктару ў Чыкага, які ня прыслаў на Сэсію ані дэлегатаў, ані ўпаўнаважаньняў, ані справаздачы. А якраз пра дзейнасьць сэктару ў Чыкага мы паінфармаваны менш як пра іншыя амэрыканскія сэктары.

Пасьля дакладу вынікла жывая дыскусія, у якой бралі ўдзел амаль усе. Выказваньні выразілі гэткія погляды:

1. Дзеля таго, што сытуацыя зьмяняецца, трэба зьмяніць накіраваньне дзейнасьці й палітыку Рады БНР. Мы ня можам трымацца старых мэтадаў і поглядаў (В. Плескач).

2. Рада зашмат займаецца лякальным арганізацыйным жыцьцём. Трэба, прыкладам, каб яна дала накіраваньне назову Беларусі за мяжой, каб замест «Белораша» называць «Беларусь» (Я. Сажыч).

3. Трэба, каб Рада брала пад увагу й выкарыстоўвала абставіны й палітыку ў паасобных дзяржавах сьвету, прыкладам у Канадзе, дзе цяпер праводзіцца палітыка шматкультурнасьці. Трэба, каб Рада выпрацавала сваю канцэпцыю адносна гэтае палітыкі й дала накіраваньне беларускім арганізацыям, якія павінны на канфэрэнцыях прадстаўляць свае даклады («брыфы») (А. Грыцук).

4. Трэба мець на ўвеце Бацькаўшчыну. Нам трэба вывучаць справу БНР, вырабіць на яе свой погляд і кінуць яго на Бацькаўшчыну. Шляхам камунікацыі з Бацькаўшчынай ёсьць цяпер толькі Радыё Свабода, у якім, на жаль, ня ўсё робіцца так, як мы хацелі-б (праф. А. Адамовіч). На пытаньне, чаму, было выясьненьне, што на ключавыя становішчы папалі такія людзі, як Гэрус і Сяднёў. Першы гне русафільскую лінію, а другі лёгка да яе нагінаецца, ня маючы ані моцнага нацыянальнага хрыбта, ані дастатковай палітычнай граматнасьці.

5. Другім сродкам камунікацыі, праўда, ня з Бацькаўшчынай, зьяўляецца газэта «Беларус», і яна, на погляд некаторых (Я. Сажыч і А. Адамовіч), адхіляецца ад бэнээраўскага напрамку. Іншыя, як В. Русак, гэтага погляду не падзялілі, лічучы газэту «Беларус» бээнэраўскай.

6. Нам патрэбна бэнээраўская прэса (шматлікія).

7. Нам патрэбна палітычная канфэрэнцыя, што згуртавала-б ня толькі радных БНР, але й грамадзтва, ды ўплянавала-б працу паводле першанства й важнасьці справаў на многія годы, а то кажны, хто што робіць, робіць на сваю руку партызанкай (М. Ганько).

8. Трэба сфармуляваць аблічча Рады БНР для Бацькаўшчыны й для эміграцыі, бо нас уважаюць за партыю. Даць фармулёўку, што Рада БНР ёсьць рэпрэзэнтантам беларускага народу (Б. Рагуля).

9. Гістарычны аспэкт. Трэба даць правільную гістарычную пэрспэктыву, нашае становішча, нашую ацэнку значэньня 2-га Усебеларускага Кангрэсу. Гэтым здабылі-б сабе шмат людзей. А палітычныя партыі нам патрэбныя (А. Адамовіч).

У заключэньне дыскусіі слова меў Старшыня Рады БНР. Закід, што Рада БНР займаецца лякальным жыцьцём, ён уважаў няслушным, бо калі мы, беларусы, за мяжой маем якое значэньне, дык дзякуючы нашым арганізацыям, якім якраз і даецца ідэйнае накіраваньне, каб выкарыстаць мясцовую палітыку тае ці іншае дзяржавы. Адкіньце, прыкладам, у Канадзе беларускія арганізацыі і іхнюю нацыянальную дзейнасьць, стымуляваную ня кім іншым, як Радай БНР, і з намі перастануць лічыцца. А ў палітыцы шматкультурнасьці Канады — хто, як не кіраўнікі беларускіх арганізацыяў і асоба Старшыні Рады БНР, атрымоўваюць запрашэньні на канфэрэнцыі? Дык і праводжаньне палітыкі адбываецца праз арганізацыі, бо хто лічыцца з тым, за кім няма заплечча арганізацыяў, людзей?

Сп. М. Ганьку, які ўважае, што патрэбная палітычная канфэрэнцыя ўсіх, ня толькі радных БНР, каб вырабіць плян працы на многія годы: гэта ня так проста, бо калі нялёгка сабраць усіх радных, якіх пагляды міжсобку розьняцца, ды разьвязаць хоць бы самыя актуальныя справы, дык што-ж гаварыць пра канфэрэнцыю ўсіх груповак? На гэта патрэбны час і людзі, якіх нам якраз не хапае.

Калі ход пра правідловае прадстаўленьне аблічча Рады БНР, што яна не адна палітычная партыя, дык над гэтым кіраўніцтва Рады працуе ад гадоў. Апрацаваньне й прыняцьцё новага статуту ёсьць падставовым крокам у гэтым напрамку. Новы статут расчыняе шырака дзьверы ў Раду БНР для ўсіх беларускіх арганізацыяў і розных напрамкаў, за выняткам камуністаў.

А намаганьні стварэньня Каардынацыйных камітэтаў, намаганьні сьвяткаваць супольна 25 Сакавіка, якое цяпер адбываецца супольна практычна ва ўсіх асяродках, апрача Нью Ёрку, і ёсьць гэтым асьцярожным, але пэўным крокам у напрамку супольнай мовы, лучнасьці й супрацоўніцтва ўсяе беларускае эміграцыі.

Дык прапановы некаторых апанэнтаў ня ёсьць нічым новым, а адкрываньнем Амэрыкі. Што нам патрэбна ў першую чаргу, дык гэта людзі да працы й грошы. На жаль, далёка ня ўсе нашы сэктары дбаюць пра гэта. Было выказана пажаданьне, каб сябры Рады ахвярамі падтрымалі «Фонд Беларускіх падручнікаў»[314].

Да п. 4:

Старшыня Рады БНР зрабіў кароткі даклад на тэму 55-ых угодкаў незалежнасьці БНР і падаў праект рэзалюцыі ў ангельскай мове, скіраванай

[314] **Фонд беларускіх падручнікаў** быў заснаваны з ініцыятывы Вінцэнта і Раісы Жукоў-Грышкевічаў у Канадзе ў 1973 г. для збірання сродкаў на выданне складзенага Валянцінай Пашкевіч англамоўнага падручніка «Fundamental Byelorussian».

да Сакратарыяту й Дэлегацыяў Задзіночаных Нацыяў ды ўрадаў розных дзяржаваў сьвету. Праект рэзалюцыі быў аднагалосна прыняты Сэсіяй.

Апрача гэтае рэзалюцыі Сэсія прыняла аднагалосна запрапанаваную праф. А. Адамовічам наступнага зьместу пастанову: *«Зварачаючы ўвагу на факт, што сёлетнія 55-я ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі супадаюць з паўвекавым — 50-гадовым юбілеем уводу беларусізацыі ў БССР, Рада БНР уважае за адпаведнае абвесьціць ідучы 1973 год залатым юбілейным годам дзяржаўнае беларушчыны й заклікае ўсё беларускае грамадзтва прысьвяціць гэты юбілейны год, наколькі магчыма, вывучэньню, усьведамленьню фундамэнтальнага гістарычнага значаньня, усебаковай ацэне і абароне пазытыўнае спадчыны беларусізацыі, выкаранянае русыфікацыйнаю палітыкай камуністычнага савецкага кіраўніцтва»*.

Да п. 5:

12-я Сэсія Рады БНР прыняла пяць апошніх разьдзелаў Статуту, якіх не пасьпела прыняць 11-я Сэсія. Разьдзел 8-ы, Кантроль Рады БНР, быў прыняты бязь зьмен. Разьдзел 9-ы, Суд Рады БНР, быў прыняты з папраўкай артыкулу 36-га, у якім выкінуты словы *«спаміж сяброў Рады»*. Такім чынам, артыкул 36-ы гучыць: *«Кажны сябра Рады, як і кажная асоба, што мае справу ў судзе БНР, мае права браць сабе правазаступніка»*. Разьдзел 10-ы, Архіў Рады БНР, быў прыняты з папраўкай артыкулу 14-га, у якім даданыя словы: *«...а іншыя дакумэнты перадаюць у архіў Рады БНР»*. Зьмест артыкулу 41-га цяпер такі: *«Органы Рады БНР, улучна з еўнымі сэктарамі, могуць затрымваць у сябе толькі копіі матар'ялаў, патрэбныя дзеля іхняй працы, а іншыя дакумэнты перадаюць у архіў Рады БНР»*. Разьдзел 11-ты прыняты без паправак, толькі да апошняга сказу «*Гэты Статут Рады БНР быў прыняты на Адзіннацатай Сэсіі Рады БНР 29 травеня 1971 году ў Нью Ёрку»* дададзеныя словы *«за выняткам пяці апошніх разьдзелаў, якія былі прынятыя на Дваннацатай нечароднай Сэсіі Рады БНР 21 красавіка 1973 году ў Таронце»*.

На прапанову Старшыні Рады БНР, а згодна з 42-м параграфам Статуту, была ўнесеная зьмена ў артыкул 10-ы, дзе пасьля слоў *«...сябры Рады БНР складаюць прысягу на рукі Старшыні Рады БНР»* даданыя былі словы *«або ўпаўнаважанай ім асобы...»*. Артыкул дваццаты быў зьменены й прыняты ў такой рэдакцыі: *«Старшыня Рады БНР паклікае Сакратарыят Рады БНР у патрэбнай колькасьці асобаў»* ды быў перанесены ў 5-ы разьдзел, Старшыня Рады БНР, з нумэрацыяй артыкулу 23-га.

Да п. 6:

У Кантрольную Камісію былі абраны: а. прат. Васіль Кендыш — старшыня, сп. Васіль Стома — сакратар, сп. Мікалай Войтанка — сябра, сп. Браніслаў Даніловіч[315] — заступнік.

---

[315] **Браніслаў Даніловіч** (1908–2003) жыў у Нью-Джэрсі. Адзін з стваральнікаў Нью-джэрсійскага аддзела Беларуска-амерыканскага задзіночання, сябра рэдкалегіі і шматгадовы распаўсюднік газеты «Беларус».

У Суд Рады БНР былі абраны: маг. Васіль Плескач як старшыня і інж. Янка Бруцкі[316] як судзьдзя. Другога судзьдзю дабярэ Старшыня Суду з сэктару ў Дэтройце.

Да п. 7:

12-я сэсыя Рады БНР ня ўнесла ніякіх зьменаў у спосабе зьбіраньня фінансаў на патрэбы Рады БНР, а сьцьвердзіла, што гэтым самым і надалей застаецца ў сіле пастанова Восьмай Сэсіі з 1956 г. і пастанова Прэзыдыюму Рады з 18 сьнежня 1971 г.

Зьмест пастановы 8-ай Сэсіі:

1. Кажны радны мае задэкляраваць на пісьме сталую складку, якую ён будзе плаціць на працягу году ў Касу БНР, з тым, што складка гэтая ня можа быць меншай, чым два амэрыканскія даляры на месяц для радных, што пражываюць на тэрыторыі Задзіночаных Штатаў Амэрыкі й Канады, і з разьліку двух амэрыканскіх даляраў для тых, што пражываюць у іншых краёх, улічваючы мясцовыя абставіны.

2. Ад аплаты сяброўскае складкі звальняюцца радныя: сьвятары ўсіх веравызнаньняў, студэнты й пэнсыянеры. Ад аплаты сяброўскае складкі звальняюцца таксама радныя на час хваробы, безрабоцьця й часовай непрацаздольнасьці й тыя, што атрымліваюць пэнсыю інваліднасьці.

Пастанова Прэзыдыюму Рады: Прэзыдыюм і Сакратарыят Рады БНР на сваім паседжаньні 18 сьнежня 1971 г. пастанавіў:

1. Кажны сэктар Рады БНР перасылае ў Галоўную Касу Рады толькі 50 % сабраных грошаў, а 50 % затрымоўвае ў касе свайго сэктару на пакрыцьцё мясцовых выдаткаў.

2. Грошы, сабраныя на падпісныя лісты «Дару Сакавіка», у 100 % перасылаюцца Галоўнай Касе.

3. Гэта пастанова ўваходзіць у жыцьцё 1 студзеня 1972 году.

Да п. 8:

Былі выказаныя спасьцярогі адносна «Камунікатаў» нр. 4, пажаданьні, каб яны выходзілі часьцей ды каб знайшліся ахвотнікі іх выдаваць. Старшыня Рады БНР выразіў пажаданьне, каб сэктары паважней адносіліся да Сэсіяў Рады. Нармальным было-б, каб кажны сэктар Паўночна-амэрыканскага кантынэнту выслаў на Сэсію штонайменш аднаго прадстаўніка на кажных пяцёх радных.

Старшыня 12-й Сэсіі др. Б. Рагуля падзякаваў Прэзыдыюму Сэсіі і ўдзельнікам Сэсіі за давер і супрацоўніцтва ды закрыў Сэсію а гадзіне 7:20 вечара.

---

[316] **Янка Бруцкі** (пазней уладыка **Ізяслаў**, 1826–2007) у 1969 г. пасяліўся ў Кліўлендзе (штат Агаё), браў актыўны ўдзел у беларускім рэлігійным жыцці, быў сябрам Кіраўнічай Рады БАПЦ. 29 красавіка 1979 г. хіратанісаваны ў сан дыякана мітрапалітам Андрэем, а 26 жніўня 1979 г. — у сан іерэя ўладыкам Мікалаем. 22 студзеня 1981 г. пасвечаны мітрапалітам Андрэем у епіскапа, прыняў імя Ізяслава. У 1984 г. на Саборы ў Манчэстэры (непрызнаным часткаю БАПЦ) прызнаны на мітрапаліта БАПЦ, што замацавала раскол у царкве.

12-я Нечародная Сэсія Рады БНР закончылася адсьпяваньнем Нацыянальнага Гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

*Таронта, красавік, 1973 году*[317].

*Барыс Рагуля, Старшыня Сэсіі.*

*Раіса Жук-Грышкевіч, Сакратар Сэсіі.*

*Васіль Плескач, Сакратар Сэсіі.*

## ДАДАТАК ДА ПРАТАКОЛУ 12-Й СЭСІІ РАДЫ БНР

Залучаем тут дадзеныя — цікавыя для ўсіх радных — што былі атрыманы спозьненай поштай празь дзень (нядзелю) пасьля Сэсіі.

1. Тры ўпаўнаважаньні Ўраду Аўстралійскага сэктару Рады БНР: сп-ні А. Каранеўскай, др. Я. Малецкага й сп. С. Нарушэвіча.

2. Ліст Аўстралійскага сэктару на імя Старшыні Рады наступнага зьместу:

«Урад сэктару Рады БНР у Аўстраліі на паседжаньні пад вышэй пададзенай датай (14 красавіка 1973 г.) разгледзіў парадак дня 12-й Сэсіі Рады БНР і поўнасьцю пацьвярджае яго. У пункце 7-м згаджаецца з падвышкай сяброўскай аплаты і ў пункце 8-м, устрывожаны затрыманымі нашымі гістарычнымі дакумэнтамі, прапануем, каб пасьля аднаго году арыгіналы дакумэнтаў БНР былі перасыланыя ў Беларускі музэй імені Фр. Скарыны ў Лёндане, а самім карыстацца толькі адпісамі.

Далей, у сувязі з напружнымі суадносінамі паміж Сав. Саюзам і Кітаем[318] прапануем пільна сачыць за гэтымі падзеямі, інфармаваць наша грамадства аб гэтых падзеях і эвэнтуальна разгледзіць магчымасьць адносных радыёперадачаў для нашых суродзічаў на бацькаўшчыне.

Аўстралійскі сэктар Рады БНР прапануе стварыць сталую матар'яльную базу дзеля грамадзка-палітычнай дзейнасьці ў будучыні, каб наступныя пакаленьні змаглі далей прадаўжаць працу, якую мы вядзём сёньня, й прапануем прасіць у грамадзянства ахвяраў і тэстамэнтальных запісаў на гэтую справу».

Падпісалі: Старшыня А. Каранеўская й Сакратар др. Я. Малецкі.

2. Упаўнаважаньне сп. В. Кажана, Галоўнага Скарбніка Рады БНР (ня мог прыехаць, бо працаваў) і ягоны ліст, зь якога падаём найважнейшыя выняткі:

*«...Што да новага праекту ападаткаваньня сяброў Рады, я прапанаваў-бы, каб кажны сябра Рады БНР плаціў месячна ня два даляры, а тры даляры. Тры даляры ў месяц гэта мінімум, а ад сяброў Рады, зарабляючых больш, чым сярэдня, прасіць больш, чым тры даляры. Гэтае больш заўсёды*

---

[317] Інфармацыя пра сесію была апублікаваная ў: Беларус. № 193. Травень 1973. С. 2.

[318] Напружанне ў дачыненнях паміж СССР і Кітаем пачалося яшчэ ў 1950-я гг. Найвышэйшы пункт супрацьстаяння прыйшоўся на 1969 г., калі адбываліся памежныя сутыкненні вакол вострава Даманскі на рацэ Усуры. Цягам 1970-х гг. напружанасць захоўвалася.

*будзе залежыць ад добрае волі таго ці іншага сябры. Звольненыя ад падатку павінны быць — так, як падана ў пастанове восьмай Сэсіі.*

*Галоўная каса магла-б мець шмат больш у сваёй касе, калі-б усе скарбнікі сэктараў добра працавалі...».*

*«Выдаваньне “Камунікатаў Рады БНР” — гэта адно з самых галоўных, бо дзякуючы камунікатам сярод сяброў Рады будзе жыць “сямейнае пачуцьцё”, лепшая праца ў сэктарах на мясцох і напэўна багацейшая Галоўная Каса БНР.*

*Жадаю найлепшых посьпехаў у працы Сэсіі».*

Падпісаў:

*Галоўны Скарбнік В. Кажан.*

4. Упаўнаважаньне сп-ні Натальлі Арсеньневай-Кушаль.

*Бэры, Канада, красавік, 1973 год.*

*Раіса Жук-Грышкевіч, Сакратар Сэсіі.*

## ПРАТАКОЛ ПАСЕДЖАНЬНЯ ПРЭЗЫДЫЮМУ Й САКРАТАРЫЯТУ РАДЫ БНР

### дня 8 сьнежня 1973 г. у Фундацыі Крэчэўскага ў Нью Ёрку

Прысутныя: Старшыня Рады БНР Др. В. Жук-Грышкевіч, першы заступнік старшыні Др. Б. Рагуля, праф. А. Адамовіч, сп. А. Шукелойць, сакратар да спраў вэтэранаў Др. Я. Сажыч і сакратар інфармацыі сп. Я. Сурвілла.

Запрапанаваны старшынёй Рады парадак дня:

1. Адчытаньне пратаколу папярэдняга сходу.
2. Справаздачы зь дзейнасьці Рады пасьля 12-ай Сэсіі.
3. Час і месца скліканьня звычайнай 13-ай Сэсіі Рады БНР.
4. Рознае.

Гэты парадак дня быў прыняты бязь зьмен.

Да п. 1:

Адчытаны пратакол папярэдняга паседжаньня Прэзыдыюму й Сакратарыяту Рады БНР — 8 сьнежня 1972 г. — прыняты без папраўак.

Да п. 2:

У сваім дакладзе старшыня Рады БНР сказаў, што ў часе пасьля 12-ай Сэсіі ён мусіў зьвярнуць увагу ў першую чаргу на выкананьне пастановаў гэтай Сэсіі ўключна з тэхнічнай часткай: а. друк і разсылка статуту Рады БНР і пратаколу Сэсіі; б. друк рэзалюцыі 12-ай Сэсіі на ангельскай мове, пераклад яе на француску мову (зрабіла яго сп-ня І. Сурвілла) і друк ды разсылка рэзалюцыі на ангельскай ці францускай мове ў залежнасьці ад адрасатаў з адпаведным лістом старшыні Рады БНР, калі рэзалюцыя высылалася кіраўнікам дзяржаваў і Гэнэральнаму сакратару ЗН; разсылка рэзалюцыі шматлікім дэлегацыям ЗН і важнейшым парлямэнтарыстам ды палітычным дзеячом у розных краінах з суправаджальным лістом сакратара Сэсіі. Дадатковую

разсылку рэзалюцыі правялі ў сваіх краінах некаторыя сэктары. Старшыня прачытаў адказы на свае лісты з рэзалюцыяй ад прэм'ераў Англіі[319], Зах. Нямеччыны[320] й Гэнэральнага сакратара ЗН[321]. в. Утрымліваюцца кантакты Рады БНР з Парыскім Блёкам пры помачы радных у Нямеччыне і зь Юропіен Льезон Груп у Лёндане пры помачы нашых радных у Англіі. г. Зьвернута была таксама ўвага на далейшае ўзмацаваньне арганізацыі й пругкасьці ў кіраўніцтве Рады й сэктарах, але вынікі гэтых намаганьняў нездавальняючыя. У цэнтры — за выняткам фінансаў і вэтэранаў — усе справы звалены на старшыню Рады, уключна з канцылярыяй і выдаваньнем «Камунікатаў». Шмат якія паважныя людзі ўхіляюцца ад працы, дык ня можа быць мовы аб падзеле працы. У сэктарах справа стаіць куды лепш. Удалося аднавіць 9 сэктароў, за выняткам Ньюёркаўскага, які за 5 год не зрабіў ніводнага сходу, ня мае кіраўніцтва й нічога ня робіць. Але ёсьць і ўзорныя сэктары ў сваёй актыўнасьці, напрыклад, сэктары ў Нью Джэрзі і Аўстраліі.

Даклад старшыні выклікаў вельмі жывую дыскусію. Праф. Адамовіч, Др. Рагуля й Др. Сажыч былі тэй думкі, што Рада БНР мае абмежаваную дзейнасьць, яна мусіць быць сымбалем БНР. Старшыня Рады цьвердзіў, што Рада БНР ня можа быць толькі сымбалем, г. зн. бязьдзейнай. Яна як спадкаемца Рады з 1918 г. мусіць быць кіраўніком беларускага вызвольнага змаганьня за БНР, гэта знача, што яна мусіць быць актыўнай і дзейнай ува ўсіх патрэбных напрамках. Пытаньне, якой мае быць Рада БНР, пастанавілі паставіць на вырашэньне 13-й Сэсіі.

Да п. 3.

Час склíканьня звычайнай Сэсіі вызначылі на танксівінг дэй[322] у канцы лістапада 1974 г. у Нью Ёрку, але выказалі пажаданьне, каб дакладна вырашыць час і месца скліканьня 13-й Сэсіі ў паразуменьні зь мясцовымі раднымі. У выніку гэтага паразуменьня Сэсія была вызначана на суботу 30 лістапада 1974 г. у Фундацыі Крэчэўскага. Пачатак а 9-ай гадзіне раніцы.

Да п. 4.

Пасьля вымены думак адносна гэтага пункту пастаноўлена прапанаваць 13-й Сэсіі наступны парадак дня:

---

[319] Адказ на ліст да прэм'ер-міністра Вялікабрытаніі Эдварда Хіта (1916–2005) быў зроблены ад імя Усходнееўрапейскага і савецкага аддзела Міністэрства замежных спраў. Дакумент быў апублікаваны ў «Камунікатах Прэзідыюму і Сакратарыяту Рады БНР», № 5 (красавік 1974, с. 3).

[320] Адказ на ліст да канцлера ФРГ Вілі Бранта быў дадзены ад імя Міністэрства замежных спраў. Дакумент быў апублікаваны ў «Камунікатах Прэзідыюму і Сакратарыяту Рады БНР», № 5 (красавік 1974, с. 3).

[321] Адказ на ліст да Генеральнага сакратара ААН Курта Вальдхайма (1918–2007) быў дадзены ад імя Аддзела правоў чалавека. Дакумент быў апублікаваны ў «Камунікатах Прэзідыюму і Сакратарыяту Рады БНР», № 5 (красавік 1974, с. 4).

[322] Маецца на ўвазе **Дзень удзячнасці** (*Thanksgiving Day*) — дзяржаўнае свята ў ЗША, што адзначаецца ў чацвёрты чацвер лістапада.

1. Адкрыцьцё, выбары Прэзыдыюму Сэсіі і ўстанаўленьне ліку ўдзельнікаў.
2. Адчытаньне пратаколу з 12-ай Сэсіі.
3. Справаздачы: а. Старшыні Рады БНР; б. сакратароў; в. Кантрольнае камісіі.
4. Дыскусія над справаздачамі й высновы.
5. Плян працы: а. у нутраных і арганізацыйных дачыненьнях; б. бюджэт; в. у вонкавых дачыненьнях.
6. Статутовыя зьмены й дадаткі.

Рознае.

Да п. 5.

Старшыня Рады паінфармаваў, што ня купіў машынкі *IBM*, якая хоць і дарагая, але сапраўднага друку не заменіць. Таму купіў звычайную канцылярскую машынку танейшую.

У справе адзначэньня 30-ай гадавіны БКА ўсе выказаліся за тым, каб старацца, па меры магчымасьці, адзначыць гэту гадавіну ўрачыста супольна з б. бэцээраўцамі.

На гэтым паседжаньне было закончана.

*В. Жук-Грышкевіч, Старшыня Рады БНР.*

*Б. Рагуля, Першы Заступнік Старшыні.*

*Сябры Прэзыдыюму Рады й Сакратарыяту.*

## ПРАТАКОЛ 13-Й ЧАРОДНАЙ СЭСІІ РАДЫ БНР, што адбылася 30 лістапада 1974 г. у будынку Фундацыі Крэчэўскага, 166-34 Готык Драйв, Джамэйка, Нью Ёрк, 11432, ЗША

Удзельнікі: У Сэсіі ўзяло ўдзел 65 радных. 29 зь іх былі прысутныя асабіста, а 36 прыслалі свае ўпаўнаважаньні. Удзельнікі Сэсіі рэпрэзэнтавалі сэктары або радных ЗША, Канады, Аўстраліі, Заходняй Нямеччыны, Бэльгіі, Англіі, Францыі й Гішпаніі.

Прапанаваны парадак дня:

1. Адкрыцьцё, выбары Прэзыдыюму Сэсіі, устанаўленьне ліку ўдзельнікаў і парадку дня.
2. Прывітаньні.
3. Прыняцьцё новых сяброў.
4. Прачытаньне пратаколу з папярэдняе Сэсіі.
5. Справаздачы: а. Старшыні Рады БНР; б. сакратароў; в. Кантрольнае камісіі; г. сэктароў.
6. Дыскусіі над справаздачамі й высновы.

7. Плян працы на наступную кадэнцыю: а. нутраныя і арганізацыйныя дачыненьні; б. бюджэт; в. вонкавыя дачыненьні.

8. Зьмены Статуту й дадаткі.

Справа Фундацыі імя Крэчэўскага.

Прыняцьцё рэзалюцыяў.

Выбары Старшыні Рады БНР.

Featured Рознае.

Да п. 1:

А гадзіне 10:00 раніцы Старшыня Рады БНР др. Вінцэнт Жук-Грышкевіч адкрыў 13-ю Чародную Сэсію Рады БНР, прывітаў дзельнікаў яе й пажадаў Сэсіі плённай працы. На ягоную просьбу а. Пратаярэй Васіль Кендыш багаславіў Сэсію малітвай.

На прапанову Старшыні Рады БНР Сэсія ўшанавала хвілінаю маўчаньня сьветлую памяць ведамых беларускіх патрыётаў: раднага Савёнка Лявона[323] й Стагановіча Аляксандра-малодшага[324], што адыйшлі ў вечнасьць пасьля 12-й Сэсіі.

У Прэзыдыюм Сэсіі былі абраны: старшыня — праф. А. Адамовіч, сакратары — др. Раіса Жук-Грышкевіч і др. Я. Запруднік, сябра — сп. В. Русак. Як ганаровы сябра ў Прэзыдыюм запрошаны быў Старшыня Рады БНР др. Вінцэнт Жук-Грышкевіч.

Старшыня Прэзыдыюму паведаміў, што на Сэсіі прысутнічае 29 радных асабіста, а 36 прыслалі свае ўпаўнаважаньні. Два прысутныя радныя атрымалі разам 11 упаўнаважаньняў, а згодна з Статутам яны маглі мець толькі па чатыры ўпаўнаважаньні. Іхныя тры лішнія ўпаўнаважаньні Сэсія пастанавіла перадаць Старшыні Прэзыдыюму. Такім чынам, у Сэсіі брала ўдзел 65 радных.

Канчальна прыняты быў вышэй паданы парадак дня Сэсіі.

Да п. 2:

Старшыня Прэзыдыюму прачытаў прысланыя 13-й Сэсіі Рады БНР пісьмовыя прывітаньні ад: раднага з Гішпаніі сп. Віктара Сянькевіча, ад аддзелу ЗБВБ у Манчэстары, падпісанае сп. М. Яськевічам[325], і ад Старшыні сэктару Рады БНР у Аўстраліі сп-ні Аўгені Каранеўскае.

---

323 Лявон Савёнак памёр 21 лютага 1974 г. у Памоне (Нью-Джэрсі, ЗША).

324 Аляксандр Стагановіч-малодшы памёр 31 ліпеня 1974 г.

325 **Міхась Яскевіч** (17.03.1926, в. Стаўпішча, сёння Нясвіжскі раён Мінскай вобл. — 09.06.2002, Манчэстэр, Вялікабрытанія), грамадскі дзеяч. Падчас нямецкай акупацыі закончыў два курсы настаўніцкай семінарыі. Быў курсантам Менскай афіцэрскай школы БКА, разам з якой быў далучаны да 30-й грэнадзёрскай дывізіі СС, перайшоў на бок саюзнікаў. У 1944–1947 гг. служыў у Другім польскім корпусе, разам з якім у 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Пасяліўся ў Манчэстэры. Быў сябрам Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі, уваходзіў у аддзел у Манчэстэры, у кіраўніцтве якога шмат гадоў займаў пасаду сакратара, а часам абіраўся і на старшыню. Быў актывістам БАПЦ. Уваходзіў у кіраўніцтва Беларускага клуба ў

Да п. 3:

Сэсія прыняла аднагалосна двух новых сяброў Рады БНР з Аўстраліі: сп. Аркадзя Качана[326] й сп. Міхася Лужынскага[327]. Падставай пастановы Сэсіі быў ліст Старшыні Аўстралійскага сэктару сп-ні А. Каранеўскае, асабістыя дадзеныя кандыдатаў ды падпісаныя імі 24 кастрычніка 1974 г. прысягі раднага БНР.

Да п. 4:

Пратакол з 12-й Нечароднай Сэсіі Рады БНР, прачытаны сакратаром яе д-рам Раісай Жык-Грышкевіч, быў прыняты.

Да п. 5:

У сваёй справаздачы Старшыня Рады БНР др. Вінцэнт Жук-Грышкевіч парушыў перадусім ключавое пытаньне, што было прадметам гарачых дэбатаў на паседжаньні Прэзыдыюму й Сакратарыяту 8 сьнежня 1973 г.: чым павінна быць Рада БНР, ці толькі сымбалем Беларускай Народнай Рэспублікі, ці жывой, дзейнай арганізацыяй, кіраўніком беларускага вызвольнага

---

Манчэстэры (сакратар). Доўгія гады быў карэспандэнтам газет «Бацькаўшчына» і «Беларус» у Манчэстэры.

[326] **Аркадзь Качан** (13.05.1921, в. Барсукі, сёння Докшыцкі раён Віцебскай вобл. — 04.12.1982, Сіднэй, Аўстралія), грамадскі дзеяч. Вучыўся ў Дзісенскай польскай гімназіі, у 1941 г. закончыў дзесяцігодку ў Маладзечне. Пазней працаваў сакратаром суда ў Глыбокім. Пасля заканчэння курсаў каманднага складу Беларускае самааховы ў Лебедзеве каля Маладзечна кіраваў ротай у Вілейскай акрузе. Улетку 1944 г. выехаў у Нямеччыну, некалькі гадоў правёў у лагеры *DP* у Розенгайме. Ад 1950 г. жыў у Аўстраліі. Адзін з заснавальнікаў і доўгагадовы сакратар Беларускага аб'яднання ў Новай Паўднёвай Валіі. Сябра Рады БНР, Беларускага культурна-грамадскага клуба і Федэральнай рады беларускіх арганізацый у Аўстраліі. Пры канцы 1970-х гг. — беларускі прадстаўнік у Выканаўчым камітэце Этнічнай рады ў Новай Паўднёвай Валіі. Адзін са стваральнікаў і каардынатар беларускага радыё ў Сіднэі.

[327] **Міхась Лужынскі** (16.01.1926 в. Кабылкі, сёння в. Зоранька Маладзечанскага раёна Мінскай вобл. — 29.07.2011, Санкт-Пецярбург, Расія), грамадскі дзеяч. Вучыўся ў польскай школе ў Гарадку, а ў 1942 г. паступіў у Гандлёвую школу ў Маладзечне. Сябра СБМ. У 1944 г. выехаў у Нямеччыну, дзе па сканчэнні вайны апынуўся ў беларускім лагеры *DP* у Ватэнштэце. Ад 1950 г. выехаў у Аўстралію. Пасяліўся ў Сіднэі, дзе далучыўся да беларускага грамадскага жыцця. У 1952 г. першы старшыня асобнай арганізацыі прыхільнікаў Рады БНР Беларускага аб'яднання ў Новай Паўднёвай Валіі. У 1953–1954 гг. рэдактар крывіцкага варыянта часопіса «Новае жыццё». Пазней — сакратар Беларускага культурна-грамадскага клуба, а ў 1982–1986 і ад 1988 г. да 2011 г.— яго старшыня. Ад 1976 г. быў сябрам Беларускага радыёвага камітэта, а ад 1983 г. на працягу дзесяцігоддзя быў фактычна адзіным стваральнікам беларускіх радыёпраграм у Сіднэі. У 1976–1980 гг. — сакратар Федэральнай рады беларускіх арганізацый у Аўстраліі.

руху? Пытаньне гэтае было падана пад дыскусію ў «Камунікатах» нр. 5[328] для абмеркаваньня яго ў сэктарах, з мэтай выказаньня сваіх поглядаў на гэтай Сэсіі. На думку Старшыні Рады БНР, адказ на гэтае пытаньне ясны сам сабою, калі ўсьведамім сабе мэты й заданьні Рады БНР, выказаныя ў Статуце Рады БНР. Гэткія-ж думкі выказвалі й сэктары Рады ў Аўстраліі, Бэльгіі, Нямеччыны й Канадзе.

*«Цяперашняя Рада БНР — прадаўжальніца першапачатковай Рады БНР, што стварыла Акт 25 Сакавіка й змагалася за зьдзейсьненьне яго ўсімі сваімі сіламі й магчымасьцямі ў самых цяжкіх абставінах»*, казаў Старшыня Рады БНР. *«І мы мусім ісьці ейнымі сьлядамі. Калі-ж мы адступім ад змаганьня і гэтым давядзём Раду да самаліквідацыі, дык будзем здраднікамі беларускае справы»*, як слушна напісаў радны інж. П. Трысмакоў[329] з Аўстраліі.

Далей Старшыня казаў, што, каб праводзіць змаганьне, трэба мець перадусім пругкую арганізацыю, плянавы падзел працы, каб ахапіць усе дзялянкі жыцьця ў змаганьні. Таму мы ня можам адмовіцца ад такіх справаў, як вонкавыя дачыненьні, інфармацыя й прапаганда, дакумэнтацыя (зьбіраньне матар’ялаў пра беларускія культурныя, матар’яльныя й людзкія страты), узгадаваньне дзяцей і моладзі ў беларускім духу, перахоўваньне й культываваньне нашых вайсковых традыцыяў. Хто займаецца гэтымі справамі ў маштабе ўсяе нашае эміграцыі, як ня Рада БНР — адзіная праўная рэпрэзэнтантка беларускай дзяржаўнасьці?

Ад пачатку свае кадэнцыі ў чэрвені 1969 г. да гэтага часу Старшыня Рады БНР, разам з Прэзыдыюмам Рады, стараўся ажывіць Раду, узмоцніць яе арганізацыйна й вывесьці зь бязьдзейнасьці, у якой яна апынулася была на працягу васьмёх гадоў ад 9-ай Сэсіі ў 1960 г. да 10-й Сэсіі ў 1968 г.

І за гэтыя апошнія некалькі гадоў была прароблена вялікая работа. Былі праведзеныя тры Сэсіі Рады, якія перапрацавалі амаль нанава Статут Рады БНР, датарнаваўшы яго да цяперашняга часу й патрэбаў. На аснове гэтага Статуту жывей могуць працаваць усе органы Рады. Некаторыя зь іх, як

---

[328] № 5 «Камунікатаў Прэзідыюму й Сакратарыяту Рады БНР» быў выдадзены ў красавіку 1974 г. Асобны матэрыял «Шаптаная прапаганда» (с. 8–9) быў прысвечаны дыскусіям адносна месца і ролі сучаснай Рады БНР.

[329] **Парфіры Трысмакоў** (17.11.1903, Гомельшчына — 08.01.1985, Адэлаіда, Аўстралія), грамадскі дзеяч. Працаваў выкладчыкам у Машынабудаўнічым інстытуце ў Гомелі, а потым — загадчыкам кафедры тэхнічнай матэматыкі Беларускага політэхнічнага інстытута ў Мінску. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у Мінскай гарадской управе, з’яўляўся сябрам Беларускага навуковага таварыства. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. На працягу 1945–1949 гг. працаваў настаўнікам фізікі і хіміі ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы ў Рэгенсбургу. Эміграваў у Аўстралію, дзе ў Адэлаідзе далучыўся да беларускай грамады. Актыўны ўдзельнік жыцця беларускай парафіі Св. Апосталаў Пятра і Паўла, уваходзіў у царкоўную ўправу. Сябра Беларускага аб’яднання ў Паўднёвай Аўстраліі.

Прэзыдыюм і Сакратарыят, былі адноўленыя, іншыя-ж, як Кантрольная камісія й Суд, створаны нанава. Пачалі выдаваць «Камунікаты» — усіх іх выдана шэсьць нумароў.

Былі ажыўлены ці адноўлены й сэктары Рады БНР ды прыняты 20 новых радных. Лік сэктароў дайшоў да 10-х, а лік радных да 103-х.

Ды, на жаль, арганізацыйная спраўнасьць Рады абмяжоўваецца тым, што няшмат радных згаджаецца ўзяць на сябе тыя ці іншыя функцыі ў Радзе.

Нягледзячы на ўсе высілкі й стараньні, Старшыні не ўдалося стварыць эгзэкутывы Рады. За выняткам сакратароў — вэтэранаў, інфармацыі й дакумэнтацыі — не знайшлося ахвотных людзей ачоліць іншыя ўспомненыя вышэй дзялянкі працы, якія, такім чынам, занядбоўваюцца. Няма ахвотных дапамагчы і ў тэхнічнай працы, як вядзеньне канцылярыі Рады БНР ці выдаваньне «Камунікатаў».

Трывожным робіцца і абыякавае стаўленьне шмат якіх радных да выконваньня сваіх абавязкаў, выказаных у Статуце й пастановах Рады БНР, нягледзячы на зложаную прысягу, ды неаплачваньне складак нацыянальнага падатку — у шмат якіх выпадках цэлымі гадамі.

Не зважаючы на пастанову 10-ай Сэсіі ў 1968 г. аб утварэньні сэктараў Рады ў усіх нашых асяродках, найвялікшы сэктар Рады БНР — у Нью Ёрку — не зрабіў ніводнага сходу, ня мае кіраўніцтва сэктару, ніхто ў ім не зьбірае складак. Гледзячы на Нью Ёрк, і іншыя сэктары адстаюць.

Шмат якія радныя нядбала ставяцца да Сэсіяў. Ня толькі не стараюцца прыехаць самі, але й ня дбаюць, каб выслаць упаўнаважаньні тым, хто бывае на Сэсіях. На паважныя справы, што разглядаюцца ў «Камунікатах», мала хто рэагуе, водгук на іх слабы або й ніякі. Ёсьць радныя, што зусім не чытаюць «Камунікатаў».

Такі стан, такія дачыненьні радных да сваіх абавязкаў дабра не варожаць. Гэта вядзе да аслабленьня Рады, да ейнага паступовага заняпаду. *«Я як Старшыня Рады БНР не магу пагадзіцца з такой сытуацыяй, пры якой зьнікаюць магчымасьці нармальнай працы. Адказнасьць за Раду БНР і яе дзейнасьць ляжыць на ўсіх радных. Я не магу пакрываць сваім імям абыякавасьць радных да выконваньня сваіх абавязкаў, бязьдзейнасьць шмат якіх радных, ухіляньне ад займаньня выканаўчых функцыяў, адступаньне ад прысягі радных. Вось чаму я ўступаю са становішча Старшыні Рады БНР. Мае пажаданьні Радзе БНР на бліжэйшы час зьмешчаны ў "Камунікатах" нр. 6»*[330], — сказаў Старшыня Рады БНР.

У канцы свае справаздачы Старшыня Рады БНР падзякаваў Прэзыдыюму Рады, сакратаром, сэктарам Рады БНР і актыўным радным за супрацоўніцтва й давер.

330 Магчыма, маецца на ўвазе складзены Вінцэнтам Жук-Грышкевічам грунтоўны «Плян працы Рады БНР на наступную кадэнцыю (1974–1977)», апублікаваны ў: Камунікаты Прэзідыюму і Сакратарыяту Рады БНР. № 6. Кастрычнік 1976. С. 1–10.

Справаздача сакратара да спраў вэтэранаў гэн. др. Язэпа Сажыца.

Галоўным плянам Сакратарыяту было заснаваньне аддзелаў беларускіх вэтэранаў ва ўсіх беларускіх асяродках на чужыне і ажыўленьне дзейнасьці існуючых аддзелаў. З гэтай мэтай сакратар наведаў асабіста й правёў зборкі вэтэранаў у Нью Ёрку, Нью Джэрзі, Ільлінос, Огаё-Мічыган і ў Канадзе, ліставаўся з вэтэранамі ў Англіі, Францыі і Аўстраліі. Не ва ўсіх асяродках удалося аформіць вэтэранскія аддзелы, але навязалася лучнасьць і створаны прадстаўніцтвы там, дзе няма асобных аддзелаў.

Шмат часу прысьвяцілася арганізацыі сьвяткаваньня 30-ых угодкаў БКА. Урачыстасьць, якая адбылася 25 і 26 травеня 1974 г.[331], была ўдалай дзякуючы актыўнасьці аддзелу беларускіх вэтэранаў у Нью Джэрзі й вэтэранаў зь Нью Ёрку.

Праводзіцца далей зборка на Фонд пабудовы помніка беларускім героям[332]. Помнік будуецца на беларускім могільніку ў Нью Джэрзі.

*«...Да справы шмат публікаванай г. зв. "Першай Сусьветнай Сустрэчы Беларускіх Вэтэранаў"*[333] *Сакратарыят аднёсься з пэўнаю засьцярогай, высылаючы толькі прывітаньне гэтай Сустрэчы, але не як сусьветнай, таму што яна не выглядала так паважна й сусьветнай ня была, як арганізатары яе прадстаўлялі»,* — сказаў ген. Я. Сажыц.

Згодна з пастановай 11-ай Сэсіі Рады БНР аб павышэньні рангаў заслужаным беларускім вэтэранам, далей праводзіцца ўлік і ўзгодненьне рангаў сярод тых кандыдатаў, якія ня былі ахоплены выданьнем дыплёмаў між 11-ай і 12-ай Сэсіяй Рады БНР.

Павышэньне рангаў праводзіцца без прафанацыі іх, ня так, як гэта нядаўна зрабіла БЦР[334], якая стала раськідаць высокія рангі направа й налева неадпаведным кандыдатам, чым спрычынілася адно да кампрамітацыі беларускіх вайсковых рангаў наагул.

---

[331] Інфармацыя пра мерапрыемства была змешчаная ў газеце «Беларус». Гл.: На 30-я ўгодкі Беларускай Краёвай Абароны // Беларус. № 206. Чырвень 1974. С. 3.

[332] Маецца на ўвазе ініцыятыва пабудовы помніка ў гонар беларускіх змагароў на могілках царквы Жыровіцкай Божай Маці ў Іст-Брансвіку (Нью-Джэрсі). Помнік з надпісам *«Тым, што змагаліся, каб жыла Беларусь»* быў усталяваны і асвячаны ў 1975 г. Годам раней (у 1974 г.) аналагічны помнік быў пастаўлены прыхільнікамі БЦР на могілках царквы Св. Еўфрасінні Полацкай у Саўт-Рыверы (недалёк ад Іст-Брансвіка).

[333] Першая сусветная сустрэча беларускіх ветэранаў адбылася ў Манчэстэры 17–19 жніўня 1974 г. Падрабязней пра гэта гл.: К. А. Першая Сусьветная Сустрэча Беларускіх Вэтэранаў // Беларус. № 209. Верасень 1974. С. 1, 3.

[334] Маецца на ўвазе наданне звання генерала 16 беларускім дзеячам з кола прыхільнікаў БЦР, загад пра якое падпісаў Радаслаў Астроўскі ў 1974 г. Пра гэта згадвае ў лісце ад 13.09.1974 Юрка Віцьбіч, што меўся стаць адным з гэтых «генералаў», але адмовіўся.

У канцы справаздачы гэн. др. Я. Сажыц падзякаваў Старшыні Рады БНР др. В. Жук-Грышкевічу за супрацоўніцтва, парады й зацікаўленьне справамі беларускіх вэтэранаў.

Сакратар інфармацыі сп. Янка Сурвілла сказаў, што ён у сваёй справаздачы нічога ня можа дадаць да таго, што было сказана адносна Сакратарыяту ў «Камунікатах» нр. 6.

Сакратар дакумэнтацыі др. Янка Запруднік сказаў, што жывучы ў Нью Ёрку, даводзіцца часта займацца неадкладнымі нацыянальна-грамадзкімі справамі, якія не заўсёды ўваходзяць у абавязкі сакратара дакумэнтацыі. Гэтак, паміж дзьвюма Сэсіямі Рады давялося займацца наступнымі справамі, апрача выконваньня функцыяў сакратара Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, сакратара Фундацыі Крэчэўскага й заступніка гал. рэд. газэты «Беларус»: напісаць працу пра Беларусаў і Беларусь у рыхтаваны цяпер да друку зборнік Масачусэцкага Інстытуту Тэхналёгіі[335] пра галоўныя нацыянальнасьці Савецкага Саюзу; выдаць дзесяць нумароў бюлетэню «Факты пра Беларусь»[336] (дакумэнтацыя сучаснага стану беларускае справы); даваць даклады пра Беларусь у Гарадзкім каледжы Ньюёркаўскага гарадзкога ўнівэрсытэту[337], а таксама пачаць сэрыю беларусаведных выкладаў на Ратгерскім унівэрсытэце ў Нью-Брансўіку[338]; устанавіць сьпісак рэпрэсіяваных за рэлігійныя перакананьні беларусаў на бацькаўшчыне для ўлучэньня іх у малітву, што чыталася на амэрыканскай урачыстасьці ў гор. Морыстаўн у сувязі з 200-годзьдзем ЗША (дакумэнтацыя)[339]; напісаць праект рэзалюцыі-звароту на 13-ю Сэсію Рады БНР; займацца рэзалюцыямі пры іншых нагодах (сьвяткаваньне БАЗА 25 Сакавіка і інш.); даваць і апрацоўваць матар'ялы ў газ. «Беларус»; даць матар'ял у 12-ю кнігу «Запісаў»[340].

Справаздача Галоўнага скарбніка Рады БНР сп. В. Кажана за пэрыяд ад 1.1.1973 г. да 27 лістапада 1974 г.

---

335 Маецца на ўвазе: Zaprudnik, J. Belorussia and the Belorussians // Attitudes of Major Soviet Nationalities. Vol. I: The Slavs: Russia, the Ukraine, Belorussia. Cambridge (Mass.): Center for International Studies, MIT, 1973. P. 49–74.

336 **«Facts on Byelorussia: News Bulletin»** — англамоўнае выданне, што выходзіла ў Нью-Ёрку ў 1972–1974 гг. пад рэдакцыяй Янкі Запрудніка. Убачылі свет 10 нумароў.

337 Гл.: Беларусаведа ў Гарадзкім Каледжы Нью Ёрку // Беларус. № 205. Травень 1974. С. 5.

338 Гл.: Сэмінар беларусаведы ў Нью-Джэрзі // Беларус. № 212. Сьнежань 1974. С. 4.

339 Размова ідзе пра жалобную ўрачыстасць, ладжаную ў горадзе Морыстаўн (Нью-Джэрсі), дзе ў 1777–1779 гг. быў штаб Джорджа Вашынгтана. Урачыстасць, што была ініцыяваная рознымі этнічнымі арганізацыямі, у тым ліку і беларускімі, адбылася 24 лістапада 1974 г. і ўяўляла з сябе маніфестацыю-малебен за вязняў савецкіх турмаў. Гл.: Удзельнік. Беларускі сьцяг у Морыстаўн // Беларус. № 213. Студзень 1975. С. 6.

340 Гл.: Запруднік, Янка. Савецкая канцэпцыя гісторыі Вялікага Княства Літоўскага // Запісы БІНіМ. № 12. Нью-Ёрк, 1975. С. 22–29.

| *Прыбыткі* | *1973* | *1974* |
|---|---|---|
| Астача з папярэдняга году | $3,338.21 | $4,615.58 |
| Сяброўскія складкі | 326.71 | 377.50 |
| З падпісных лістоў «Дар Сакавіка» | 946.00 | 679.75 |
| Працэнты з банку | 246.64 | 194.75 |
| Розныя (паступіла з Францыі 300 фр.) — | 58.75 | |
| **Усяго прыбыткаў** | **$4,857.56** | **$5,926.34** |
| *Выдаткі* | | |
| Дзяржаўны падатак на банкаўскія працэнты | 33.73 | 41.00 |
| Падарожжа Старшыні Рады БНР | 77.00 | — |
| Друкі дыплёмаў Беларускіх Вэтэранаў | 131.25 | — |
| Паштовыя выдаткі | — | 12.13 |
| Выдаткі Рэвізійнай камісіі | — | 14.00 |
| Разьлік із Старшынём Рады (даплата да выдаткаў) | — | 162.53 |
| На выданьне падручніка беларускай мовы | — | 1,000.00 |
| **Усяго выдаткаў** | **$241.98** | **1,274.81** |
| Стан касы на 27 лістапада 1974 г. $4,651.53. | | |

Справаздача Старшыні Кантрольнае камісіі а. пратаярэя Васіля Кендыша.

Кантрольная камісія ў складзе трох асоб: старшыні — а. прат. В. Кендыша, сакратара — сп. Васіля Стомы й сябры — сп. Мікалая Войтанкі правяла кантроль Галоўнае касы БНР 16 чэрвеня 1974 г. за час ад 21 студзеня 1951 г. да 16 чэрвеня 1974 г. — час кадэнцыі Галоўнага скарбніка Рады БНР сп. В. Кажана — і выявіла наступнае:

Сальдо касы 21 студзеня 1951 г. $26.30.

Сальдо касы на дзень 16 чэрвеня 1974 г. $4,896.53.

Плюс 200.00 ням. марак незапрыходаваных дзеля таго, што нядаўна атрыманыя й курс іх на той дзень ня быў дакладна ведамы. Кантрольная камісія знайшла, што за справаздачны пэрыяд прыходавыя й выдаткаваныя дакумэнты, а таксама касавая кніга знаходзіцца ў поўным парадку.

Бяручы пад увагу доўгагадовую й самаахвярную працу Галоўнага скарбніка Рады БНР, Кантрольная камісія ўважае, што яму належыцца падзяка.

Справаздачы сэктароў.

Сэктар у Нью Джэрзі налічвае 15 сяброў. Старшыня — сп. В. Стома, сакратар — сп-ня Марыя Васілеўская[341], якая нядаўна зраклася свае функцыі, бо пераяжджае жыць у Дэтройт, скарбнік — сп. Янка Азарка.

Ад часу перавыбараў управы сэктару, г. зн. ад 26 лістапада 1972 г. адбылося 12 звычайных і надзвычайных паседжаньняў сэктару. Звычайныя паседжаньні адбываюцца раз у тры месяцы, г. зн. кожную першую суботу кварталу, а надзвычайныя — у меру патрэбы.

У справаздачным пэрыядзе сэктар прыймаў актыўны ўдзел у нацыянальным і грамадзкім жыцьці асяродку, а акрамя гэтага Кантрольная камісія Рады БНР складаецца зь сяброў сэктару.

Фінансы: у справаздачным пэрыядзе сабрана:

Сяброўскіх складак $990.00

На «Дар Сакавіка» $418.00

На выданьне падручніка беларускай мовы передана ў БІНІМ у ЗША $520.00

Разам $1,928.00

Усе радныя сэктару маюць аплочаныя складкі да канца 1974 г.

Сэктар Дэтройт-Кліўленд налічвае 9 сяброў: 5 у Дэтройце й 4 у Кліўлендзе. Старшыня сэктару — др. Я. Сажыч, сакратар — інж. Янка Бруцкі, скарбнік — сп. Андрэй Стрэчань. Ад апошняе Сэсіі сэктар меў дзьве зборкі, адну ў Кліўлендзе, другую ў Дэтройце. Сябры сэктару актыўныя ў мясцовым грамадзкім, палітычным і царкоўным жыцьці.

Сэктар у Чыкага справаздачы зь дзейнасьці ня прыслаў, але прыслаў рэзалюцыю, падпісаную старшынём сэктару сп. В. Пануцэвічам[342], якую Сэсія прыняла да ведама.

Сэктар у Канадзе мае 10 сяброў, раськіданых па правінцыі Антарыё на сотні міль адны ад адных. Двое жывуць у Таронце, двое ў Атаве, двое ў Бэры, двое ў Лёндане, адзін у Кінгстане, адзін у Бэльвіле. Старшыня сэктару — сп. М. Ганько, сакратар-скарбнік — сп. А. Грыцук. Сэктар меў дзьве зборкі. На апошняй, тыдзень да 13-й Сэсіі, сп. А. Грыцук зрокся із становішча сакратара-скарбніка. На сакратара была абраная др. Раіса Жук-Грышкевіч, а функцыю скарбніка сп. А. Грыцук затрымаў да 13-ай Сэсіі Рады БНР, каб магчы разьлічыцца з Галоўным скарбнікам Рады сп. В. Кажаном і прыслаць на Сэсію фінансавую справаздачу сэктару ў Канадзе. Сакратару сэктару ведама, што прынамся частка радных Канады маюць аплочаныя складкі

---

341 Маецца на ўвазе Марыя Войтанка. Пасля смерці мужа Віктара Войтанкі-Васілеўскага яна перабралася ў Дэтройт.

342 **Вацлаў Пануцэвіч** (1910–1991) жыў у Чыкага, быў актывістам мясцовага аддзела Беларуска-амерыканскага задзіночання. Займаўся даследчыцкай дзейнасцю (вывучаў рэлігійную гісторыю Беларусі), браў актыўны ўдзел у арганізацыі грэка-каталіцкай парафіі Св. Хрыста-Збаўцы ў Чыкага. Рэдактар часопісаў «Беларуская царква», «Litva».

грамадзкага падатку да канца 1974 г. На паседжаньні сэктару 24 лістапада 1974 г. было пастаноўлена, што пасьля аплаты належнасьці ў Галоўную касу Рады БНР каса сэктару затрымае $100.00, а рэшту прызначыць на выданьне матарыялаў з 10-е Сустрэчы беларусаў Паўночнае Амэрыкі, што адбылся ў 1972 г. у Таронце[343]. Галоўным заданьнем сэктару ад гадоў ужо было і ёсьць сачыць за тым, каб нацыянальнай беларускай справе ў Канадзе, па меры магчымасьцяў, была дадзеная адпаведная ўвага.

Сэктар у Нямеччыне мае 4-х радных. Старшыня — сп. Юры Сенькоўскі[344], скарбнік — сп. Уладзімер Бортнік[345]. Сп. Ю. Сенькоўскі рэпрэзэнтуе Беларусаў у Парыскім Блёку. У сілу характару штодзённай працы сяброў сэктару радным усьцяж даводзіцца мець практычнае дачыненьне да справаў, якія беспасярэдня датычацца да ажыцьцяўленьня мэтаў, што ставіць перад сабой Рада БНР. Сэктар у Нямеччыне ў прынцыпе падтрымлівае прапановы Старшыні Рады, выказаныя ў «Камунікатах» нр. 6, адносна арганізацыйных меркаваньняў у кіраўнічых органах Рады, а таксама іншых справаў. Старшыня сэктару і іншыя сябры сэктару ўважаюць, што на Старшыню Рады БНР у нас няма кандыдата, які з такой адданасьцяй працаваў-бы для захаваньня і ўмацаваньня Рады БНР, як цяперашні Старшыня, і перакананыя, што ён застанецца й на наступную кадэнцыю.

Сэктар у Бэльгіі складаецца з 5-ёх радных. На паседжаньні сэктару 26 кастрычніка 1974 г. старшынства сэктару, якое належала а. др. Аўгену Смаршчку, пераняў інж. Янка Жучка. Дзейнасьць сэктару абумоўлена лякальнымі абставінамі, а менавіта вельмі маленькай беларускай калёніяй у Бэльгіі ды расьцярушанасьцяй сяброў сэктару. Дзейнасьць сэктару абмяжоўваецца да адзначэньня 25 Сакавіка ў памешканьні аднае ці другое сям'і. Старшыня сэктару ўтрымоўваў сувязь із Старшынём Рады БНР і Галоўным скарбнікам Рады БНР. Усе радныя сэктару ўзялі ўдзел у дыскусіі над пытаньнямі, пастаўленымі ў «Камунікатах» Прэзыдыюму й Сакратарыяту Рады. Уступаючы Старшыня сэктару ўважае, што каб апраўдаць рацыю сяброўства радных, сэктар Рады БНР у Бэльгіі павінен уключаць у плян працы на будучыню: арганізацыю беларусаведы, перадусім на францускай мове, для дзяцей і моладзі беларускіх бацькоў, а ня ведаючых беларускае мовы. У Бруксэлі налічваецца 9 такіх слухачоў, якім належыцца даць лекцыі беларусаведы; удзел радных у жыцьці міжнацыянальных арганізацыяў у Бэльгіі; аднавіць сацыяльную дзейнасьць, перадусім дапамогу адной сям'і; зрабіць пераклад брашуры аб Беларусі на нідэрляндзкую мову дзеля распаўсюджаньня між флямандцамі і галяндцамі, уражлівымі на пытаньне вызвольнай барацьбы

343 Выданне не выяўлена.

344 **Юрка Сянькоўскі** (1926–1995) у той час жыў у Мюнхене і працаваў у Беларускай рэдакцыі Радыё «Свабода», а ад сярэдзіны 1980-х гг. быў яе кіраўніком.

345 **Уладзімір Бортнік** (1910–1988) жыў у Мюнхене, быў старшынёй Беларускага нацыянальнага камітэта ў Заходняй Нямеччыне.

падсавецкіх народаў; навязваньне выдавецкага кантакту з Флямандзкім камітэтам для Ўсходняй Эўропы, Камітэтам абароны правоў чалавека.

Старшыня сэктару а. прат. Аўген Смаршчок просіць прыняць ягоную дымісію з займанай функцыі заступніка Старшыні Рады БНР на Эўропу. Сэсія просьбу гэтую прыняла й пастанавіла зьвярнуцца да старшыні сэктару ў Бэльгіі інж. Янкі Жучкі прыняць гэтую функцыю на сябе.

Прадстаўнік Рады БНР у Гішпаніі сп. В. Сянькевіч сваю дзейнасьць апошнімі двума гадамі абмяжоўваў да асабістых ды пісьмовых кантактаў з раднымі іншых краінаў. Дзеля палітычнае сытуацыі ў Гішпаніі[346] справа беларускіх перадачаў у Гішпанскім нацыянальным радыі стала неактуальнай. У будучыні дзейнасьць будзе накіраваная на: 1. Інфармаваньне гішпанскага грамадзтва пра беларускія справы. 2. Сачэньне й рэагаваньне на інфармацыю пра Беларусь, што зьяўляецца ў гішпанскім друку. 3. Навуковая дзейнасьць (рыхтаваньне працы пра Беларусь у гішпанскай мове).

Да п. 6:

Пасьля справаздачаў завязалася жывая дыскусія. Перш за ўсё падняліся галасы ў абароне Нью Ёрку. Са справаздачаў можа скласьціся няправільнае ўражаньне пра грамадзкую й нацыянальную дзейнасьць у Нью Ёрку. Праўда, сэктар тут нячынны, але грамадзкае, палітычнае, выдавецкае й навуковае працы ў Нью Ёрку робіцца больш, як дзе. Тут актыўныя БАЗА, БІНІМ і іншыя арганізацыі. Добра было-б, каб хто-небудзь арганізаваў сэктар, але проста няма каму, не стае людзей (А. Шукелайць, Я. Запруднік). Выбраць скарбніка і ўсё (А. Шукелайць).

Др. Ул. Набагез: Справаздача Старшыні прадставіла перадусім нэгатыўны бок, амаль нічога ня сказана пра пазытыўную працу.

Сп. В. Русак: У кірунку ажыцьцяўленьня Акту 25 Сакавіка мы робім вельмі шмат. Маем шмат арганізацыяў: БАЗА, Царква, БІНІМ, Фундацыя Крэчэўскага, газэта «Беларус». Калі ўсе арганізацыі будуць выконваць сваю працу, усё будзе добра, бо ўсе галіны дзейнасьці будуць ахоплены, і ўсё гэта ў духу БНР.

Поўнасьцяй згодны, аднак, з Прэзыдэнтам Рады БНР: каб Рада БНР магла добра дзеіць, яна мусіць мець сваю арганізацыю, мусіць мець сэктары і ў сэктарах праводзіць працу (Янка Азарка, Раіса Жук-Грышкевіч).

Сп. Ул. Русак: У справаздачы Старшыні Рады БНР было сказана, што Рада ад 9-ай Сэсіі (1960) да 10-й (1968) была бязьдзейнай. Калі перагледзіць прэсу гэтых гадоў, нельга сказаць, што Рада была зусім бязьдзейнай. Але згадваючы тую бязьдзейнасьць, трэба сказаць, што ў некаторых адносінах Рада й цяпер бязьдзейная.

Далей дыскусія разгарнулася на тэму сяброўства ў Радзе. Некаторыя ўважалі, што трэба перагледзіць сьпіскі радных і зьвярнуць увагу на тых,

[346] Магчыма, маецца на ўвазе напружаная нутраная сітуацыя ў Іспаніі пасля забойства яе прэм’ер-міністра Луіса Карэра Бланка баевікамі з басксакай арганізацыі ЕТА напрыканцы 1973 г.

хто гадамі ня плаціць складак, бо ўсе сябры Рады за выняткам тых сяброў, што, паводле Статуту, звальняюцца ад аплаты нацыянальнага падатку, павінны яго плаціць. Трэба перагледзіць сьпіс радных і ўстанавіць, хто плаціць складкі, а хто не, і на аснове гэтага ўстанавіць запраўднае сяброўства ў Радзе (Б. Даніловіч і Я. Сажыч).

Др. Я. Сажыч выказаўся, што бяз сэктароў можна абыйсьціся.

Сп. В. Кажан падаў, што ў Радзе цяпер налічваецца 103 сябры. У ліку іх тры радныя знаходзяцца па-за сэктарамі: др. Л. Трусэвіч[347], др. Вярбіцкі[348] й сп. Арцюх[349] у Каліфорніі.

Айцец В. Кендыш: Мы жывем у абставінах ненармальных, і нармальная праца Рады немагчымая. І хоць Рада БНР не працуе так, як хацелася-б, я прасіў-бы, каб сп. Прэзыдэнт перадумаў сваю пастанову і застаўся надалей на сваім становішчы ды рабіў тое, што можна. Ён рабіў найбольш.

Інж. М. Гарошка: Пагаджаюся з Прэзыдэнтам Рады БНР: гэта ня добра, што ў Нью Ёрку сэктар бязьдзейны. Прапаную, каб сэктар быў адноўлены. Рада БНР ад самага пачатку на Бацькаўшчыне, пасьля ў Чэхаславакіі, а цяпер у Амэрыцы павінна быць кіраўніком вызвольнага руху.

Сп. М. Тулейка[350]: Справа перагляду радных, як гэта заакцэнтаваў др. Сажыч, павінна быць перагледжана, але з тым, каб не зьмяншаць,

---

[347] **Лявон Трусевіч** (1924–2000) працаваў у мэдыцынскай службе амерыканскага войска (даслужыўся да рангу палкоўніка). Пасля выхаду ў адстаўку жыў у Флорыдзе.

[348] **Аўген Вярбіцкі** (04.01.1922, м. Краснае, сёння Маладзечанскі раён Мінскай вобл. — 29.06.1986, Філадэльфія, Пенсільванія, ЗША), грамадскі дзеяч, навуковец, хімік. Пасля Другой сусветнай вайны вучыўся ва ўніверсітэце *UNRRA* ў Мюнхене. Пазней у ЗША закончыў біялагічны факультэт Ратгерскага ўніверсітэта (Нью-Брансвік, Нью-Джэрсі). Атрымаўшы ступень доктара навук, пераехаў у штат Аёва, дзе спецыялізаваўся ў хіміі мясной прадукцыі. Пазней атрымаў пасаду галоўнага навукоўца ў ваеннай лабараторыі даследаванняў ежы. Дасягнуў поспехаў у галіне кансервавання харчоў шляхам ірадыяцыі, стваральнік «касмічнай ежы», што выкарыстоўвалася ў палётах амерыканскіх астранаўтаў. Быў сябрам Нью-ёркскай Акадэміі навук, Амерыканскага хімічнага таварыства, Амерыканскага інстытута тэхналогіі ежы, Амерыканскага таварыства мясной прамысловасці. Ганаровы сябра Таварыства прагрэсу навукі. Сябра Беларуска-амерыканскага задзіночання, у 1954–1957 гг. быў намеснікам старшыні Галоўнай ўправы арганізацыі.

[349] **Язэп Арцюх** (?–2013), грамадскі дзеяч, інжынер. У 1959 г. заснаваў і стаў старшынёй Лос-анжэлескага аддзела Беларуска-амерыканскага задзіночання. Быў сябрам Рэспубліканскага клуба. У 1981 г. як старшыня Беларускага рэспубліканскага клуба ў Каліфорніі атрымаў ад прэзідэнта ЗША Р. Рэйґана падзяку за заслугі перад партыяй. Ад 1989 г. — адзін з стваральнікаў і выдаўцоў англамоўнага часопіса *«Belarusian Review»*. Жыў у г. Торэнс (Каліфорнія).

[350] **Міхась Тулейка** (1915–1998) жыў у Нью-Ёрку, быў першым старшынёй Згуртавання беларуска-амерыканскай моладзі. Уваходзіў у рэдакцыйную калегію часопіса «Віці». Зарганізаваў першы беларускі скаўтынгавы атрад у Амерыцы. Быў сябрам Беларуска-амерыканскага задзіночання, у тым ліку пэўны час кіраваў

а збольшыць Раду, каб мець як найбольш вартасных людзей. Тое, што др. Ст. Станкевіч[351] і сп. Мярляк выйшлі з Рады, гэта зьявішча не дадатнае. Іншая справа — дзейнасьць Рады БНР. Важна, каб Рада была добра арганізаваная, кажны сэктар мусіць быць дзейным, мусіць часта зьбірацца, абмяркоўваць актуальныя праблемы.

Сп. Я. Сурвілла: Радныя перагружаны працай, таму цяжка арганізаваць выканаўчы орган.

Айцец А. Надсон[352] падзякаваў Старшыні Прэзыдыюму за запросіны на Сэсію й выказаў задавальненьне з таго, што ён меў нагоду быць на нарадах Сэсіі Рады БНР, бачыць і чуць гэтулькі людзей, якім на сэрцы ляжыць беларуская справа. «*А для нас, для грамадзтва,* — казаў ён, — *Рада павінна быць маральным аўтарытэтам, павінна быць нашым сумленьнем»*. Пасьля гэтага а. Надсон пакінуў Сэсію.

Сп. Б. Даніловіч: Сябры, якія ня плацяць складак, самі адпадаюць.

Адказ Старшыні Рады БНР: Старшыня Рады БНР выказаў задавальненьне з таго, што радныя прыехалі на Сэсію й што справаздачы выклікалі такую шырокую дыскусію. Ды з дыскусіі відаць, што не стае нам «палітграматы». Усё ніяк ня можам зразумець розьніцы між грамадзкімі арганізацыямі й Радай БНР. Адно ня можа заступіць другога, бо адное й другое мае іншыя функцыі. Найбольшая й наймацнейшая грамадзкая арганізацыя — тым больш мясцовая — ня можа замяніць Рады БНР, ня можа мець ейных паўнамоцтваў, мэтаў і заданьняў, сфармуляваных у 1-ым разьдзеле Статуту Рады. Але каб магчы выконваць свае паўнамоцтвы, мэты й заданьні, Рада БНР мусіць мець сваю моцную арганізацыю ад найвышэйшых органаў да сэктароў. Каб правільна функцыянаваць, патрэбны падзел працы, патрэбныя людзі, ахвочыя ачоліць усе дзялянкі працы, патрэбныя жывыя сэктары па ўсім сьвеце, каб яны маглі праводзіць на мясцох пастановы Сэсіяў і Прэзыдыюму Рады. Толькі такім чынам Рада БНР ахопіць сваім палітычным кіраўніцтвам усіх Беларусаўнезалежнікаў і будзе лучнікам усяе эміграцыі.

---

Нью-ёркскім і Нью-джэрсійскім аддзеламі арганізацыі. Найбольш часу аддаваў працы на пасадзе старшыні парафіяльнай рады БАПЦ у Брукліне, быў рэгентам хору. Пазней, пераехаўшы ў Нью-Джэрсі, працягваў грамадска-рэлігійную дзейнасць у Гайленд-Парку.

351 Ліст Станіслава Станкевіча адносна яго выхаду з Рады БНР гл. у раздзеле «Лісты» гэтай кнігі.

352 **Аляксандр Надсан** (нар. 1926) жыў у Лондане (Вялікабрытанія). Ад 1971 г. кіраваў Беларускай бібліятэкай-музеем імя Ф. Скарыны. Актыўна ўдзельнічаў у працы ЗБВБ, Харытатыўнай секцыі, Англа-беларускага таварыства. У 1981 г. стаў на чале Беларускай каталіцкай місіі ў Вялікабрытаніі. 30 чэрвеня 1986 г. быў прызначаны на пасаду апостальскага візітатара для беларусаў-каталікоў у замежжы. Стваральнік і кіраўнік Камітэта дапамогі ахвярам радыяцыі. Аўтар шэрагу перакладаў літургічных тэкстаў на беларускую мову, публікацый з гісторыі беларускай царквы і культуры.

Адказ сп. Ул. Русаку: Ад 1960 да 1968 г. ня было Сэсіяў, і Рада як цэласнасьць, дзейнай ня была. Дзейным быў адно Прэзыдэнт у дачыненьні да Парыскага Блёку, Радыё «Свабоды» і Інстытуту ў Мюнхэне.

Д-ру Набагезу: Але, справаздача была нэгатыўнай, наўмысна была нэгатыўнай, каб зьвярнуць увагу радных на небясьпеку, у якой знаходзіцца Рада. БНР. Праўда, зроблены былі вялікія пазытыўныя высілкі й былі асягненьні, пра іх гаварылася ў «Камунікатах».

Д-ру Сажычу: Ліквідацыя сэктараў, гэта першы крок да ліквідацыі БНР. Сэктары — гэта грунт і карэньне Рады БНР, бязь іх Рада БНР павісла-б у паветры, бязь іх ня было-б сродкаў і ня было-б каму выконваць пастановы Рады БНР на мясцох.

Сп. Русаку Васілю: Як-бы добра нашы мясцовыя грамадзкія й культурныя арганізацыі ні працавалі, яны ня могуць замяніць нацыянальна-дзяржаўнай і вызвольнай дзейнасьці Рады БНР і ейнага выканаўчага органу. Акцэнтаваньне-ж мясцовай грамадзкай і культурнай дзейнасьці пры адначасовым замоўчваньні патрэбаў Рады БНР выяўляе небясьпечную тэндэнцыю сьпіхваньня гэтых патрэбаў на самы задні плян. У дакладзе на Сэсіі Рады БНР гаварылася пра справы Рады БНР, а не грамадзкай арганізацыі, наракалася, што радныя ўхіляюцца ад функцыяў у выканаўчым органе, безь якога Рада ня можа існаваць, а актыўнасьць у грамадзкіх арганізацыях выканаўчых функцыяў Рады не заменіць.

Сп. Сурвіллу і іншым радным, што наракаюць на перагружанасьць: далёка ня ўсе радныя перагружаны. Шмат ёсьць такіх, што зусім ня маюць грамадзкай нагрузкі або маюць параўнальна малую нагрузку. Ёсьць каму запоўніць фунцкыі ў Радзе БНР, абы быў толькі Нацыянальны Гонар і Сумленьне ды ахвота да працы.

Але нават калі-б усе радныя былі перагружаны, і тады ня было-б апраўданьня, што няма каму заняць выканаўчыя функцыі ў Радзе БНР. Ясна, што мы мусілі-б тады трактаваць Раду БНР як найважнейшую, як нацыянальна-дзяржаўную ўстанову і ўважаць за вялікі гонар выконваньне тых ці іншых функцыяў у ёй — так, як гэта ёсьць ва ўсіх дзяржаўна й палітычна выпрабленых народаў. Тады-б мы трымаліся прынцыпу «прэарытэты» — важнасьці, і, як наказвае нацыянальнае сумленьне й гонар, у першую чаргу абсаджвалі-б функцыі ў нашай найважнейшай установе — Радзе БНР.

Да п. 7:

Плян працы. Старшыня Прэзыдыюму Сэсіі падаў пад развагу ўдзельнікам Сэсіі запранаваны Старшынём Рады БНР у «Камунікатах» нр. 6 плян працы на наступную кадэнцыю.

Пасьля абмеркаваньня яго Сэсія згадзілася з тым, што ў выпадку недахопу людзей у выканаўчым органе (Сакратарыяце) сябры Прэзыдыюму Рады маглі-б хоць часткова запоўніць гэты недахоп.

Сэсія выказала пажаданьне, каб у меру магчымасьці старацца наладзіць працу сакратароў: вонкавых дачыненьняў, інфармацыі, дакумэнтацыі,

нутраной арганізацыі, асьветы й культуры ды зарганізаваць агульную Канцылярыю Рады БНР.

Хоць назначэньне сакратароў належыць да кампэтэнцыі Старшыні Рады БНР, на ягоную прапанову Старшыня Прэзыдыюму Сэсіі падаў пад развагу пытаньне, ці ёсьць людзі, што ачолілі-б вышэй пададзеныя дзялянкі працы.

Паколькі дагэтуль выканаўчую работу ў Радзе БНР праводзілі: Старшыня Рады, Галоўны скарбнік і сакратар для справаў вэтэранаў, Старшыня Рады БНР выказаў надзею, што абодва сакратары й надалей застануцца на сваіх становішчах. На гэта Галоўны скарбнік Рады БНР сп. В. Кажан адказаў: *«Я застануся на сваім становішчы пры ўмове, што Старшыня Рады БНР застанецца надалей Старшынём Рады»*. Старшыня Прэзыдыюму Сэсіі дадаў, што сп. Прэзыдэнт павінен адкінуць думку пра рэзыгнацыю й павінен застацца на сваім становішчы.

Сакратар для спраў вэтэранаў згадзіўся застацца на сваім пасьце. На пытаньне Старшыні Рады БНР, ці др. Янка Запруднік згаджаецца быць сакратаром дакумэнтацыі, др. Запруднік даў сваю згоду і адначасна свой плян на найбліжэйшую будучыню: апублікаваць найважнейшыя дакумэнты да палітычнае гісторыі Беларусі ад часоў Ф. Скарыны да нашых дзён ды выдаць гэту кніжку ад імя Рады БНР[353]. Прапанова гэта выклікала аклямацыю.

На сакратара вонкавых дачыненьняў прапанавалі першага заступніка Старшыні Рады БНР др. Б. Рагулю (няпрысутны). На іншыя становішчы падаваліся кандыдатуры: др. Ул. Набагеза, інж. М. Гарошкі, др. Р. Гарошкі, др. В. Рамука[354], др. Алы Орса-Романо, сп-ні Івонкі Сурвіллы, сп. М. Тулейкі, сп. М. Кунцэвіча і іншых. Сэсія заклікала радных не адмаўляцца ад прапанаваных ім функцыяў.

Сэктары Рады БНР. Сэсія бальшынёй адкінула паасобныя прапановы, што быццам сэктары непатрэбныя, падкрэсьліла важнасьць добра зарганізаваных і дзейных сэктараў як адну зь перадумоваў працаздольнасьці Рады

---

[353] Наколькі вядома, гэткая кніга не была выдадзеная.

[354] **Вітаўт Рамук** (15.07.1914, Екацярынаслаў, сёння г. Днепрапятроўск, Украіна — 11.03.2010, Чыкага, ЗША), грамадскі дзеяч. У 1922 г. разам з бацькоўскай сям'ёй вярнуўся ў в. Ліпнішкі каля Ліды. У 1926–1930 гг. вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі. Пасля вучыўся ў польскай гімназіі ў Пінску. У 1938 г. паступіў у Віленскі ўніверсітэт на факультэт біялогіі, пазней перайшоў на медыцыну. У 1941–1944 гг. працаваў перакладчыкам у цывільнай адміністрацыі ў Лідзе. У 1944 г. выехаў у Чэхаславаччыну, адкуль у 1945 г. перабраўся ў Рэгенсбург у Нямеччыне, дзе арганізоўваўся беларускі лагер. У 1946 г. паступіў на медыцынскі факультэт універсітэта ў Мюнхене. У 1949–1953 гг. вучыўся ў Лювенскім ўніверсітэце (Бельгія). Выехаў у Вялікабрытанію, жыў у Лондане. Стаў сябрам Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі і ў 1954 г. быў абраны на пасаду намесніка старшыні арганізацыі. Аднак хутка вярнуўся ў Бельгію, адкуль у 1956 г. выехаў у ЗША. Тут пасяліўся ў Чыкага і стаў актыўным удзельнікам беларускага жыцця, сябрам Беларускага каардынацыйнага камітэта ў Чыкага.

БНР, і дыскусія перайшла на пытаньне: як упарадкаваць сэктары, акрэсьліць сяброўства ў іх, а тым самым і ў Радзе.

Сп. Уладзімер Русак заявіў, што ён згаджаецца быць скарбнікам сэктару Рады БНР у Нью Ёрку, выказаўшы пэўнасьць, што няцяжка будзе знайсьці ўправу і аднавіць працу сэктару ў Нью Ёрку.

Да п. 8:

У выніку дыскусіяў і дзеля аблягчэньня ўвядзеньня ў жыцьцё прынятых пастановаў, Сэсія ўнесла наступныя дадаткі й зьмены ў Статут Рады БНР:

У пад. 6 да слоў *«...і незарганізаваныя групы Беларусаў незалежнікаў...»* дадаецца: *«у ліку найменш 5 асобаў»*. Да апошняга сказу гэтага параграфу дадаецца: *«Прапанова аб прыняцьці кандыдата ў сябры Рады БНР высылаецца — разам з рэкамэндацыямі — Старшыні або Прэзыдыюму Рады БНР»*. Разам з дадаткамі пар. 6 цяпер такі:

*«Рада БНР складаецца зь сяброў радных, якіх прапануюць беларускія палітычныя й грамадзкія арганізацыі, верныя Акту 25 Сакавіка, а таксама й незарганізаваныя групы Беларусаў незалежнікаў у ліку найменш пяць асобаў. Кажнага новага сябру павінны рэкамэндаваць найменш двух сяброў Рады БНР. Прапанова аб прыняцьці кандыдата ў сябры Рады БНР высылаецца — разам з рэкамэндацыямі — Старшыні або Прэзыдыюму Рады БНР»*.

За такую рэдакцыю пар. 6 галасавалі ўсе за выняткам аднаго, што ўстрымаўся.

Да пар. 10-га даданы наступны сказ: *«Толькі пасьля злажэньня прысягі пісьмовай і вуснай Прэзыдыюм ці Сэсія Рады БНР прыймаюць кандыдата ў сябры Рады БНР ад даты прысягі»*.

Гэты дадатак да пар. 10 быў прыняты аднагалосна.

Да канца 11-га дадаюцца наступныя словы да апошняга сказу: *«...ды неаплачваньня складак нацыянальнага падатку на працягу аднаго году. У гэтым выпадку даўжніку даецца яшчэ год часу на аплату залегласьцяў пасьля апошняга прыпамненьня ў канцы году. Пра такія парушэньні гэтага Статуту й прысягі радных мусяць паведамляць Старшыню ці Прэзыдыюм Рады БНР кіраўніцтвы сэктароў або Сакратарыят Рады БНР»*. Пасьля гэтых дадаткаў, што былі прынятыя бальшынёй галасоў, пар. 11-ты атрымаў гэткую фармулёўку:

*«Сябры Рады БНР пазбаўляюцца сяброўства ў Радзе БНР у выпадку дзеяньняў, нязгодных з Актам 25 Сакавіка ці супярэчных з пастановамі Рады, зраджаньня тайніцаў Рады ці выяўленьня іншых маральных або нацыянальных заганаў ды неаплачваньня складак нацыянальнага падатку на працягу аднаго году. У гэтым выпадку даўжніку даецца яшчэ год часу на аплату залегласьцяў пасьля апошняга прыпамненьня ў канцы году. Пра такія парушэньні гэтага Статуту й прысягі радных мусяць паведамляць Старшыню ці Прэзыдыюм Рады БНР кіраўніцтвы сэктароў або Сакратарыят Рады БНР»*.

Пар. 12-ты ў ранейшай форме — *«Сябра Рады БНР можа быць пазбаўлены сяброўства ў Радзе толькі на аснове пастановы Суда Рады ці*

*пастановы Сэсіі Рады»* — пастановай большасьці галасоў быў прыняты ў новай фармулёўцы: *«Сябра Рады БНР можа быць пазбаўлены сяброўства пастановай Прэзыдыюму Рады на аснове пар. 11-га гэтага Статуту. У выпадку нязгоды з гэтай пастановай сябра Рады БНР можа адклікацца да Суда Рады БНР або найбліжэйшай Сэсіі Рады»*.

Апрача гэтага 13-ая Сэсія прыняла што да сяброўства ў Радзе БНР наступныя пастановы:

1. Складка нацыянальнага падатку радных ад новага 1975 г. падвышаецца да мінімуму $3.00 на месяц, зь якіх траціна ($1.00) пакідаецца ў сэктары, а рэшту $2.00 сэктар высылае Галоўнаму скарбніку Рады БНР.

2. Усе залегласьці складак радныя павінны аплаціць да 25 сакавіка 1975 г.

3. 13-ая Сэсія абрала дзьве асобы — сп. Ул. Русака, скарбніка сэктару ў Нью Ёрку, і сп. Я. Азарку, скарбніка сэктару ў Нью Джэрзі, якія па Новым (1975) Годзе разам з Галоўным скарбнікам Рады БНР сп. В. Кажаном разгледзяць справу залеглых складак кажнага сябры, зробяць высновы й прапазыкі ды пададуць іх на разгляд Прэзыдыюму Рады.

4. Сэсія даручыла аднаму зь ейных сакратароў, д-ру Раісе Жук-Грышкевіч, паведаміць скарбнікаў усіх сэктараў Рады БНР пра новыя пастановы што да сяброўства ў Радзе ды прасіць сэктары прыслаць у найбліжэйшым часе на рукі Галоўнага скарбніка Рады БНР сп. В. Кажана наступныя дадзеныя: сьпісак радных ды стан аплаты складак нацыянальнага падатку кажнага раднага данага сэктару.

Да п. 9:

Справа Фундацыі Крэчэўскага была ўведзена на парадак дня Сэсіі ў сувязі з канфліктам, што ўзьнік між Дырэкцыяй Фундацыі Крэчэўскага й сп. П. Манькоўскім, былым жыхаром у будынку Фундацыі й часткавым адміністратарам памешканьняў.

Старшыня Фундацыі Крэчэўскага інж. М. Гарошка даў у сувязі з гэтым агульную інфармацыю: Фундацыя Крэчэўскага, на якую дадзена была ў свой час бязыменная грашовая датацыя[355], заснаваная была ў 1958 г. у паразуменьні з тагачасным Старшынём Рады БНР Міколам Абрамчыкам. Каб мець з часам прыбыткі на мэты нацыянальна-беларускія, былі купленыя ў 1963 г. два будынкі вартасьцяй $180.000.00, за якія было заплачана $32,000.00. Частка аднаго будынку была адступлена на патрэбы грамадзкія, рэшта здаецца ў наймо кватарантам. Фармальна Фундацыя Крэчэўскага — прыватная карпарацыя, што кіруецца Дырэкцыяй і падлягае амэрыканскім законам. Дырэкцыя Фундацыі працуе безь ніякай узнагароды. Спачатку Фундацыя мусіла рабіць выдаткі на ўтрыманьне, рамонты, падаткі, сплату даўгоў. Апошнімі гадамі Фундацыя пачала даваць прыбыткі. І на нацыянальна-беларускія патрэбы (галоўна на друк) дала ўжо блізу $10,000.00.

---

[355] Пра стварэнне Фундацыі гл.: Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР (1947–1970): Падзеі. Дакументы. Асобы. С. 88–89.

Др. В. Сянкевіч прыслаў на рукі Старшыні Рады БНР прывітальны для Сэсіі ліст з найлепшымі пажаданьнямі й надзеяй, што 14-я Сэсія дапаможа стварэньню дзяржаўнага Сакратарыяту Рады БНР, які мог-бы абняць дзейнасьць Рады ўва ўсіх кірунках: вонкавае палітыкі, інфармацыі, кантактаў з Бацькаўшчынай і г. д. З свайго боку др. Віктар Сянькевіч заяўляе, што зробіць усё магчымае, каб памагчы зактывізаваць дзейнасьць Рады БНР. Да гэтага часу ён займаўся зьбіраньнем матар’ялаў для навуковае дзейнасьці. Закончыў працу над «Беларускім Нацыянальным Календаром»[386] — свайго роду беларускай нацыянальнай энцыкляпэдыяй. Напісаў артыкул для наступнага нумару «Запісаў»[387] і рыхтуе артыкул у «Журнал Беларускіх Студыяў» аб Вялікім Княстве Літоўскім[388].

Гішпанія цяпер занята сваімі справамі й пра беларускія радыяперадачы праз Гішпанскае нацыянальнае радыё й мовы няма. Нават тыя, што былі ў польскай і расейскіх мовах, зьліквідаваныя.

Сэсія аднагалосна пастанавіла выслаць др-у Віктару Сянькевічу прывітаньні із здабыцьцём дактарату.

Пасьля справаздачаў Старшыня Рады БНР др. Вінцэнт Жук-Грышкевіч пералічыў вайсковыя кваліфікацыі ды заслугі ў працы, якія ня мелі належнага прызнаньня, доўгагадовага Галоўнага скарбніка Рады БНР сп-ра Віталя Кажана ды ўручыў яму дыплём наданьня яму вайсковай рангі генэрал-маёра. Сэсія прывітала генэрал-маёра Віталя Кажана аклямацыяй.

Старшыня Рады БНР паведаміў Сэсію, што дыплём з наданьнем вайсковай рангі палкоўніка будзе высланы й заслужанаму на гэта раднаму сп. Міколу Нікану, які ўжо 3 разы адведваў беларускія асяродкі на трох кантынэнтах, чым узмоцніў лучнасьць і супрацоўніцтва між імі.

Старшыня Сэсіі др. Янка Запруднік паінфармаваў Сэсію, што ў ЗША створана «Дэмакратычная Нацыянальная Рада»[389], у якую ад Беларусаў запрошаны др. Янка Запруднік. Некаторыя сябры гэтае Рады сьцьвярджаюць, між іншага, што ў Амэрыцы дыскрымінацыя супраць славян ня меншая, як супраць чорных. У дачыненьні да дэмакратычнага кандыдата на Прэзыдэнта[390] Амэрыкі Рада прыняла рэзалюцыю, у якой заявіла: *«Democratic National*

[386] У друкаваным выглядзе такі каляндар не выяўлены.

[387] Маецца на ўвазе артыкул: Сянькевіч, Віктар. Да пытаньня польскае мяншыні на Беларусі // Запісы БІНіМ. № 14. Нью-Ёрк, 1976. С. 76–84.

[388] Тэксту Віктара Сянкевіча пра пачаткі Вялікага Княства Літоўскага ў згаданым часопісе так і не з’явілася. Адзіны змешчаны ў ім тэкст аўтара: Sienkievič, V. Lastoŭski the Historian and his Historical Views // The journal of Byelorussian Studies. Vol. V. № 3–4. London, 1984. P. 3–13.

[389] Магчыма, маецца на ўвазе **Дэмакратычная Рада нацыянальнасцяў** пры Нацыянальным камітэце Дэмакратычнай партыі, што паўстала напярэдадні выбараў 1976 г.

[390] Маецца на ўвазе **Джымі Картэр** — 39-ы прэзідэнт ЗША (1977–1981).

*Council strongly endorses Governor's Carter's position that the liberation of the nations of Eastern Europe should be actively sought»*[391].

Пасьля абеднага перапынку Сэсія прыступіла да працы а гадзіне 2-ой папаўдні.

Да п. 7:

Дыскусія.

Сп. Міхась Наўмовіч дадаў да свае справаздачы просьбу да Старшыні Рады БНР, каб згадзіўся яшчэ застацца на сваім становішчы.

Сп. Васіль Стома: Беларускі Фэстываль[392] і Сустрэча Беларусаў Паўночнае Амэрыкі[393], што адбыліся апошнім годам у Нью Брансьвіку, шмат узялі энэрііі й часу, і таму мала засталося сілы, каб болей удзяляцца працы ў сэктары. Адносна помніка пакойнаму Міколу Абрамчыку: ці Ўдава згодзіцца, каб Рада БНР ставіла яго на магіле? Можа было-б болей мэтазгодна паставіць яго на беларускім магільніку ў Нью Брансьвіку[394]?

Сп. Уладзімер Русак: Сьпярша пагаварыць у гэтай справе зь сям'ёй Нябожчыка. І калі сям'я ня згодзіцца, каб Рада БНР паставіла помнік на магіле, тады мы паставім яго на сваім магільніку.

Сп. Уладзімер Курыла: У пратаколе не запісана, што калі на 13-ай сэсіі ён зьвярнуўся да др-а Янкі Запрудніка з запытаньнем, чаму газэта «Беларус» перастала быць бэнээраўскай, др. Запруднік запярэчыў, цьвердзячы, што яна надалей бэнээраўская. Цяпер ён пытаецца: у газэце, якую мы хвалім і падтрымоўваем, чаму мала матар'ялаў пра БНР?

Чаму Старшыня Рады БНР, адкрываючы сэсію, ня ўспомніў гадавіны Слуцкага Паўстаньня, ня прывітаў вайскоўцаў? Сп. Курыла папрасіў усіх устаць і ўшанаваць памяць беларускіх герояў. Што й было зроблена.

*«Заўтра,* — прадаўжаў сп. Курыла, — *адкрыцьцё малюнкаў*[395]*, а адзначэньне гадавіны Слуцкага паўстаньня адбудзецца за тыдзень. Хто гэтым кіруе?»* Адносна архіву *«папрасіць сп. Наўмовіча, каб пагаварыў з суседкай»*.

Сп. Міхась Наўмовіч адказаў сп. Курылу, што ён змог прыехаць на Сэсію дзякуючы таму, што тэрмін Сэсіі і адкрыцьцё выстаўкі былі разумна спалу-

---

[391] Гл.: Канфэрэнцыя Дэмакратычнай Рады Нацыянальнасьцяў // Беларус. № 235. Лістапад 1976. С. 1.

[392] Маецца на ўвазе Першы беларускі фестываль у Цэнтры мастацтваў Нью-Джэрсі, які адбыўся 12 чэрвеня 1976 г.

[393] Маецца на ўвазе 12-я Сустрэча беларусаў Паўночнай Амерыкі, што адбылася 4–6 верасня 1976 г. у Нью-Джэрсі.

[394] Маюцца на ўвазе беларускія могілкі Царквы Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ у Іст-Брансвіку, арганізаваныя прыхільнікамі Рады БНР.

[395] 28 лістапада 1976 г. у зале Беларускага рэлігійна-грамадскага цэнтра ў Брукліне адбылося адкрыццё мастацкай выставы, ладжанай Беларускім інстытутам навукі і мастацтва да 25-х угодкаў сваёй дзейнасці. Сесія Рады БНР спецыяльна была прызначаная напярэдадні адкрыцця выставы, каб прыцягнуць болей удзельнікаў на абодва мерапрыемствы.

чаны. Ён ня бачыць розьніцы ў тым, калі беларускія асяродкі адзначаюць гадавіну Слуцкага паўстаньня. Тыдзень раней ці пазьней ня робіць розьніцы.

Др. Раіса Жук-Грышкевіч выступіла ў абароне значэньня выстаўкі твораў беларускага мастацтва, у абароне мастацтва. Калі народ ня творчы, ня мае сваіх мастакоў, ня дбае пра разьвіцьцё мастацтваў, то ён не жыцьцяздольны. Ня важна, ці Дзень Герояў адзначаецца тыдзень раней ці тыдзень пазьней.

Інж. Мікола Гарошка адзначыў, што Рада БНР на нашыя абставіны вывязалася із сваіх заданьняў вельмі добра. І навонкі выявіла сябе добра.

Што да недахопу Сакратарыяту й Канцылярыі Рады БНР, дык пэўна, было-б добра гэтыя ўстановы мець, але ў нас не хапае людзей. Мы наагул не дынамічныя, а болей пасыўныя. Ды паміма ўсяго ў нас ёсьць і дасягненьні. У нас ёсьць і здольныя адзінкі, якія трэба падтрымоўваць.

Айцец Васіль Кэндыш: Праслухаўшы справаздачы, відаць, што справы ў нас стаяць нядрэнна. Можа, у нас мала адданых людзей, каб абняць усе становішчы ў Радзе БНР, але-ж адданыя людзі ёсьць, і яны работу робяць.

Сп. Васіль Русак: Не пагоджваюся зь філязофіяй дзейнасьці. Старшыня Рады БНР не дацэньвае ролі грамадзкіх арганізацыяў. Я ня проці разбудовы апарату Рады БНР, але гледзячы рэальна — у нас няма людзей. Мне не сакратар адукацыі патрэбны, а настаўнік.

Др. Уладзімер Набагез: Маю засьцярогу да нэгатыўнага падыходу да справаздачы. *«Вышэй пупа не падскочыш»*, што рабілася, рабілася добра. Адносна-ж сэктараў. Нараканьні, што няма сэктару ў Нью Ёрку, а ў Чыкага ёсьць. Чаму-ж з Чыкага нікога няма на Сэсіі, чаму яны складак ня плоцяць, чаму нават ліста на Сэсію не прыслалі?

Сп. Антон Шукелойць: Сп. Нікадэм Жызьнеўскі[396] з Чыкага прыслаў ліст з прывітаньнем 14-ай сэсіі Рады БНР.

Старшыня Рады БНР: У вадказ сп-ру Ўладзімеру Курылу, чаму няма зносінаў зь іншымі нацыянальнасьцямі? А хто іх будзе рабіць? Дзе сакратар вонкавых дачыненьняў? Сам Старшыня ўсяго рабіць ня можа.

А др-у Набагезу й сп-ру Васілю Русаку, што цьвердзяць, што без Сакратарыяту можна абыйсьціся: пакажэце хоць адну дзяржаўную арганізацыю, хоць бы й эміграцкую, якая-б ня мела Ўраду! Але ня толькі дзяржаўная, ніякая арганізацыя ня можа існаваць бяз выканаўчага воргану.

Сп-ру Курылу: Чаму Сэсія не адзначыла Дзень Герояў? Дзень Герояў адзначаюць беларускія асяродкі самі й тады, калі ім лепш выпадае. Гэта

---

[396] **Нікадым Жызнеўскі** (28.09.1926, в. Сабары Глыбоцкага пав. Віленскага ваяв., сёння Докшыцкі раён Віцебскай вобл. — 01.12.2002, Чыкага, ЗША), грамадскі дзеяч. У 1949 г. прыбыў у ЗША. Напачатку жыў у горадзе Пэорыя, дзе заснаваў аддзел Беларуска-амерыканскага задзіночання. Працаваў на трактарным заводзе «Катэрпіляр», браў удзел у Карэйскай вайне. Закончыў універсітэт Брэдлі па спецыяльнасці «інжынер індустрыі». У ліпені 1959 г. пераехаў у Чыкага. У сакавіку заснаваў беларускую радыёпраграму «Радыё Нёман», якую вёў да 2002 г.

справа не належыць да заданьняў Сэсіі, якая мае вельмі абмежаны час, бо на яе людзі зьяжджаюцца здалёк.

Сп. Янка Азарка: Крытыкуюць Раду БНР, што ня робіць! А мы самі, радныя, аслабляем маральна Раду БНР. Мы самі мала ўсьведамляем, што мы радныя, што гэта значыць быць радным. Мала сабе ўсьведамляем, што Рада БНР — гэта найвышэйшы орган, вышэйшы за ўсе грамадзкія арганізацыі. Калі мы беларускія патрыёты, незалежнікі, дык мы-ж павінны разумець і адчуваць веліч значэньня Рады БНР. А мы яе дастаткова прапагуем? Нашы дзеці ведаюць, што гэта Рада БНР? Мы ім тлумачым? Ведаюць яны, чым сяньня іхнія бацькі займаюцца? Пакуль крытыкаваць іншых, мы самі павінны дадумаць, зразумець і рабіць тое, што да нас, радных БНР, належыць! (Падкрэсьліла сакратар Сэсіі Р. Ж-Г.)

Др. Барыс Рагуля крытыкаваў парадак дня Сэсіі й ход дыскусіі. Аб гэтых справах, пра якія вядуць тут гутарку, мы гаворым на сходах грамадзкіх арганізацыяў. Мы павінны займацца такімі справамі, як перагляд нашай сытуацыі ў міжнародным палажэньні, справай дэтанту, адносінамі зь летувісамі і г. д.

Др. Раіса Жук-Грышкевіч — да др-а Барыса Рагулі: Хто ўстанаўляў парадак дня Сэсіі? Хто яго прымаў? Радныя мелі цэлы месяц часу разважыць гэты пункт у парадак дня, зрэфэраваць яго, і мы гаварылі-б аб дэтанце і адносінах зь Летувісамі.

Але пра што-б мы ні гаварылі, мы мусім у першую чаргу ўпарадкаваць нашы нутраныя арганізацыйныя справы, каб было каму, г. зн. адпаведнаму сакратару — займацца парушанымі др-ам Рагулям справамі.

Сп. Алесь Міцкевіч: Чым маюць займацца сэктары? Павінна быць апрацавана праграма дзейнасьці сэктараў.

Сп. Уладзімер Русак спытаў сп. Уладзімера Курылу, ці ён згодзіцца быць старшынём сэктару ў Нью Ёрку?

Сп. Уладзімер Курыла: Калі сп. Русак скліча сход сэктару, тады сэктар выбярэ старшыню.

Сп. Міхась Наўмовіч: Нам ніхто ня мае права рабіць закідаў, што мы нічога ня робім. Мы гаворым, разважаем, каб было ляпей, каб шукаць выхаду зь цяжкіх сытуацыяў, а не нападаць на тых, хто й так шмат робіць і стараецца.

Старшыня Рады БНР: Мы ніяк ня можам разьдзяліць грамадзкага жыцьця й дзейнасьці дзяржаўнай арганізацыі. Ніхто не недаацэньвае грамадзкай дзейнасьці. Але-ж Рада БНР існаваць мусіць! А каб яна існавала, патрэбна ёй і дзяржаўная арганізацыя! Статут-жа мы апрацоўвалі й прынялі на працягу некалькіх Сэсіяў не здарма, дык-жа трэба яго й выконваць!

Да п. 8:

Справу Сакратарыяту Рады БНР зрэфэраваў Старшыня Рады БНР. Мяне дзівіць — ён казаў — чаму стварэньне Сакратарыяту сустракаецца з такім супрацівам. Урад, ці Сакратарыят, у Радзе БНР — зь некаторымі выняткамі — заўсёды існаваў. Першы раз Урад БНР перастаў быў поўным пасьля Бэрлінскай канфэрэнцыі ў 1925 г., калі др. Цьвікевіч, Заяц і Пракулевіч паехалі ў

БССР[397]. Пасьля 1925 г. Прэзыдэнт Крэчэўскі й Захарка не маглі стварыць поўнага Ўраду, а па сьмерці др-а Грыба[398] і выезьдзе сп. Мамонькі[399] — ня было ўжо ў іх больш радных.

Калі ў 1947 г. аднавілася Рада БНР, быў створаны і Ўрад БНР, ці Сакратарыят, які ў тым ці іншым складзе існаваў да гэтага часу. Дзіўна, што такая відавочна патрэбная справа, як утварэньне Сакратарыяту ці Ўраду, не знаходзіць зразуменьня ў шмат якіх радных.

Усе нашы суседзі маюць на эміграцыі свае Ўрады, бо гэта іх дзяржаўныя выканаўчыя ворганы, якія вядуць дзяржаўную работу.

Цяпер мы маем толькі двух сакратароў: дакумэнтацыі й вэтэранаў. Кожны згодзіцца, што гэтага мала. Нам штонайменш патрэбны яшчэ 4 сакратары: вонкавых справаў, нутраных, асьветных і інфармацыі й прэсы.

Канцылярыя Рады БНР таксама патрэбная. Немагчыма, каб усю канцылярыю і перапіску вёў Старшыня Рады.

Сакратарыят, ці выканаўчы ворган, нам проста неабходны, як мы будзем яго мець, тады будзе закончана арганізацыя Рады БНР. Вось канкрэтны прыклад: Др. Янка Запруднік — сакратар дакумэнтацыі зрабіў даклад з свае дзейнасьці, і мы ведаем, што маем рабіць у гэтай галіне: знайсьці магчымасьць выданьня матарыялы БНР, сабраныя сакратаром дакумэнтацыі. Калі-б былі сакратары вонкавых дачыненьняў ці нутраных, і яны зрэфэравалі-б сваю дзейнасьць, мы пабачылі-б, што і ў гэтых напрамках Рада была дзейнай. Як былі-б усе сакратары, дык і ўсе дзялянкі працы былі-б ахоплены. Сам Старшыня Рады БНР ня можа рабіць усёй работы Рады. Да ягоных абавязкаў належыць: рэпрэзэнтаваць Раду БНР, плянаваньне працы разам з Прэзыдыюмам Рады, утварэньне Сакратарыяту, падзел працы між сакратарамі й дагляд, каб заплянаваная праца была выканана. (Шкада, што нашы радныя не зьвяртаюць увагі на Статут, які самі прынялі).

Маю надзею, што наступнаму Старшыні Рады БНР будзе лягчэй стварыць Сакратарыят, што ў радных будзе большае зразуменьне яго патрэбы.

Старшыня Сэсіі зрабіў заклік да Сэсіі, каб кандыдаты на сакратароў не адмаўляліся ад запросінаў Старшыні Рады БНР прыняць прапанаваныя ім функцыі.

Сп. Уладзімір Русак: Я разумею, што нам патрэбны Сакратарыят, але справа ў тым, каб знайшліся людзі, што ня толькі маюць час і ахвоту рабіць, але каб і ўмелі гэта рабіць.

---

[397] **Аляксандр Цвікевіч** (1888–1937) разам з сям'ёй пераехаў у БССР у лістападзе 1925 г. **Лявон (Леанард) Заяц** (1890–1935) таксама вярнуўся ў Мінск у 1925 г. **Уладзімір Пракулевіч** (1887–1938) прыехаў у БССР у 1926 г.

[398] **Тамаш Грыб** памёр у Празе 25 студзеня 1938 г.

[399] **Язэп Мамонька** (1889–1937) жыў у Празе ў 1922–1925 гг. у часе навучання ў камерцыйным інстытуце. Потым ён некаторы час жыў у Коўна, Вільні, Рызе, пакуль у 1928 г. не пераехаў у БССР, дзе і быў арыштаваны.

Праф. Антон Адамовіч: Нам шмат што патрэбна, й трэба глядзець на тое, дзе справа найважнейшая. Вось цяпер стаіць канкрэтнае й практычнае пытаньне: каго даць у Голас Амэрыкі? Каго знайсьці, каб быў менш за 60 год, знаў беларускую і ангельскую мовы, быў грамадзянінам Амэрыкі. Пытаю вас, дайце кандыдатаў!

Др. Раіса Жук-Грышкевіч: Сп. Азарка-малодшы[400], сп-чна Рая Станкевіч[401].

Да п. 9.

Выбары Старшыні Рады БНР.

Сп. Уладзімер Русак, зьвяртаючыся да др-а Вінцэнта Жук-Грышкевіча, сказаў: *«Дай Божа Вам да канца Вашага жыцьця быць Старшынёй Рады БНР»*. Агульная аклямацыя не давала др-у В. Жук-Грышкевічу прыйсьці да слова. Нарэшце ён мог сказаць, што пры супрацоўніцтве й дапамозе ўсіх радных ён згаджаецца застацца Старшынём Рады БНР на наступную кадэнцыю.

Да п. 10.

Старшыня Фундацыі Крэчэўскага інж. Мікола Гарошка даў наступную справаздачу: Фундацыя Крэчэўскага куплена ў 1964 г., прадстаўляе сабой два будынкі, а чатыры дамы, якія цяпер за 12 год вымагаюць шмат догляду, але й даюць пэўны прыбытак. Фундацыя Крэчэўскага дала пад грамадзкае карыстаньне памешканьне на бібліятэку й на грамадзкія сходы; часткова

---

[400] **Юрка Азарка** (нар. 11.06.1951, Нью Джэрсі, ЗША), грамадскі дзеяч, сын Янкі Азаркі. Ад 1972 г. быў сябрам Нью-джэрсійскага аддзела Беларуска-амерыканскага задзіночання. У 1976 г. закончыў Ратгерскі ўніверсітэт з дыпломам інжынера-будаўніка. Быў адным з лідараў Аб'яднання беларуска-амерыканскай моладзі, намеснікам рэдактара часопіса «Беларуская моладзь». Ад 1977 г. быў старшынёй Адміністрацыйнага камітэта Фундацыі імя І. Любачкі пры АБАМ. У 1985 г. збіраў сродкі на адбудову царквы і манастыра ў Супраслі на Беласточчыне. Сябра Беларускага народнага фронту, прадстаўнік БНФ у ЗША. Ад 1994 г. быў старшынёй Нью-джэрсійскага аддзела БАЗА. Ад 2011 г. — сябра Беларуска-амерыканскага задзіночання «Пагоня». Жыве ў г. Сомерсэт (Нью-Джэрсі).

[401] **Раіса Станкевіч** (нар. 23.11.1941, Наваградак, сёння Гродзенская вобл.), грамадская дзяячка, дачка Станіслава і Зінаіды Станкевічаў. Выехала з Беларусі разам з бацькамі ў 1944 г. Жыла ў Мюнхене, дзе вучылася ў нямецкай школе. У 1958 г. пераехала ў ЗША. Была выхавальніцай ў беларускім дзіцячым садку. У 1973 г. закончыла Універсітэт св. Яна ў Нью-Ёрку са ступенню магістра біяхіміі. Шмат гадоў працавала ў даследчай лабараторыі Слоўн-Катэрынскага цэнтра вывучэння раку ў Нью-Ёрку. Ад 1970 г. належала да Беларуска-амерыканскага рэспубліканскага клуба. Была сябрам Беларуска-амерыканскага задзіночання, уваходзіла ў Галоўную ўправу ды кіраўніцтва Нью-ёркскага аддзела арганізацыі, у рэдкалегію газеты «Беларус». Была старшынёй Задзіночання беларуска-амерыканскай моладзі, старшынёй рэдкалегіі часопіса «Беларуская моладзь». У 1987 г. закончыла факультэт русістыкі Гантэрскага каледжа Гарадскога ўніверсітэта Нью-Ёрка, абараніўшы магістарскую працу на тэму, прысвечаную гісторыі Беларусі пачатку XX ст. Сябра Адміністрацыйнага камітэта Фундацыі імя І. Любачкі. Жыве ў Нью-Ёрку.

фінансуе «Запісы», сьфінансавала выданьне «Прыказак з Лагойшчыны»[402] ды дапамагае ў іншых выданьнях. На грамадзкія мэты разам з карыстаньнем гэтага будынку Фундацыя Крэчэўскага дала $10,000.00. Прыватныя даўгі сплачаны.

На пытаньне, колькі можна было-б узяць за кажны будынак, каб яго прадаць, быў адказ: без праводжаньня рамонтаў $90,000.00, з праведзенымі рамонтамі — $100,000.00.

Старшыня Сэсіі сказаў, што аснаўную работу ў даглядзе дамоў робяць інж. Мікола Гарошка і сп. Францішак Бартуль, работа гэтая вельмі вартасная й няўдзячная. Воплескі.

Сп. Уладзімер Курыла: Я сябра Рэвізійнай камісіі, а многа год ня быў пакліканы на гадавыя сходы Фундацыі Крэчэўскага. Мяне як сябру Рэвізійнай камісіі выэлімінавалі. У Рэвізійную камісію ўваходзяць сп. сп. Антон Адамовіч, Віталі Кажан і Ўладзімер Курыла.

Старшыня Сэсіі: Справаздачна-перавыбарчага сходу Фундацыі Крэчэўскага даўно ня было. Неўзабаве ён мае быць скліканы, аб чым усім сябром Фундацыі будзе паведамлена.

Сп. Васіль Стома: Рэвізійная камісія павінна сама без запросінаў рабіць рэвізію, калі гэтага хоча. Сп. Стома прапанаваў, каб усё-ж абавязкова зрабіць у Фундацыі гасьцінны пакой, каб прыежджыя маглі часам у ім затрымацца.

У дыскусіі вынікла пытаньне, якое дачыненьне і які голас мае Рада БНР да Фундацыі Крэчэўскага? Старшыня Сэсіі адказаў, што між Радай і Фундацыяй ёсьць умова. Праўна Рада БНР мае толькі маральны ўплыў на Фундацыю Крэчэўскага (на гэта некаторыя радныя горача запярэчылі), але ў управе Фундацыі Крэчэўскага бальшыня радных.

Старшыня Сэсіі: Фармальна ня была яшчэ прынята запрапанаваная рэзалюцыя 14-й Сэсіі ці яе прымаем? Некаторыя ўважалі, што трэба, каб кажны ўдзельнік Сэсіі прачытаў і прастудыяваў рэзалюцыю. Пастанавілі, што др. Янка Запруднік, аўтар рэзалюцыі, разашле яе ўдзельнікам Сэсіі дзеля магчымых паправак. У прынцыпе-ж рэзалюцыя была Сэсіяй прынята.

На прапановы сп. сп. Міколы Гарошкі і Антона Адамовіча Сэсія пастанавіла выдаць друкам апрача матарыялаў БНР і «Зборнік памяці Крэчэўскага»[403], у якім зьмясьціць і частку з кнігі Крэчэўскага «Замежная Беларусь»[404], выданай 50 год таму.

Справаздачу створанай на 13-ай Сэсіі Камісіі для разгляду канфлікту між. сп. Пётрам Манькоўскім і Фундацыяй Крэчэўскага, зрабіла старшыня Камісіі сп-ня Натальля Орса. Сп-ня Орса прачытала карэспандэнцыю, якую

[402] Маецца на ўвазе: Варлыга, Адам. Прыказкі Лагойшчыны. Нью-Ёрк — Мюнхен: Выданьне Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага, 1966. — 112 с.

[403] Сярод вядомых выданняў такі зборнік не выяўлены.

[404] Маецца на ўвазе выданне: Замежная Беларусь. Зборнік гісторыі, культуры й эканомікі / пад рэд. П. А. Крэчэўскага. Кніжка першая. Прага: Выдавецтва імя Ф. Скарыны, 1926. 152 с.

Камісія праводзіла са сп-ром Манькоўскім і Фундацыяй. Камісія знайшла, што Фундацыя Крэчэўскага запраўды вымушана была звольніць сп. Пётру Манькоўскага з займанага ім становішча толькі дзеля стану ягонага здароўя.

14-я Нечародная Сэсія Рады БНР закончыла працу а гадзіне 5:00 папаўдні адсьпяваньнем Нацыянальнага Гімну.

*Нью Ёрк, ЗША*

*Студзень 1977.*

*Янка Запруднік, Старшыня Сэсіі.*

*Раіса Жук-Грышкевіч, Сакратар Сэсіі.*

*Антон Шукелойць, Сакратар Сэсіі.*

## ПРАТАКОЛ ПАСЕДЖАНЬНЯ ПРЭЗЫДЫЮМУ РАДЫ БНР дня 29 лістапада 1976 г. у памешканьні Радыё «Лібэрты» ў Нью Ёрку

Паседжаньне было зроблена на хуткую руку, каб скарыстаць з нагоды прысутнасьці сяброў Прэзыдыюму Рады й кампэтэнтных у беларускіх справах гасьцей і разгледзіць тры важныя й сьпешныя справы: 1. Выдаваньня друкам матарыялаў БНР; 2. Мэмарыял у ЗН у справе дэкалянізацыі Савецкага Саюзу і 3. Рэакцыя на артыкулы пра беларускія справы ў парыскай «Культуры»[405].

Прысутныя былі: Старшыня Рады БНР Др. В. Жук-Грышкевіч, сябры Рады праф. А. Адамовіч і А. Шукелайць, як госьці: Старшыня БІНІМу Др. В. Тумаш, Старшыня сэктару Рады БНР у Францыі сп. М. Наўмовіч, сакратар дакумэнтацыі Рады БНР Др. Я. Запруднік і сакратар Канадзкага сэктару Рады Др. Р. Жук-Грышкевіч. Быў закароткі час, каб паведаміць сяброў Прэзыдыюму Рады БНР, што жывуць па-за Нью Ёркам.

Да п. 1:

Др. Запруднік паінфармаваў, якія матарыялы БНР у яго ёсьць сабраныя і, абапіраючыся на пастанову 11-й Сэсіі Рады, запрапанаваў, каб да выданьня друкам гэтых матарыялаў прыступіць як найхутчэй, каб выпусьціць іх да 60-ых угодкаў I-га Ўсебеларускага Кангрэсу.

Старшыня Рады Др. Жук-Грышкевіч радзіў разгледзіць эвэнтуальную магчымасьць куплі сваёй машыны «вэрытайпэр»[406] ці «Ай Сі Эн» за грошы Рады, калі-б знайшліся ахвотнікі друкаваць на такой машыне. *«Друкаваць нам трэба шмат што*, — казаў ён, — *і калі мы будзем карыстацца нармальнымі друкарнямі — ня надоўга нам хопіць сродкаў»*.

---

405 **«Культура»** (*Kultura*) — штомесячны польскі часопіс, які выходзіў у Парыжы ў 1947–2000 гг.

406 Маецца на ўвазе папулярная ў той час друкарская машына *«Varityper»*.

Праф. Адамовіч дадаў, што мо лепш было-б купіць новага тыпу нямецкага вырабу машыну, якая, што праўда, каштуе $15.000.00, але друкаваць на ёй лягчэй і хутчэй. Можа купляць нават на супалку зь ім ці кім іншым. Напр., Юрка Станкевіч[407] шукае сабе супальніка на куплю такой машыны.

Др. Запруднік выказаў сумліў, ці знойдзецца ахвотнік на друкаваньне яе і можа быць праблема зь мейсцам для машынкі й працы. У выніку дыскусіі папрасілі Старшыню Рады разгледзіць добра і ўсебакова гэту справу на месцы — у Нью Джэрзі, дзе вырабляюцца друкарскія машыны.

Да п. 2:

Мэмар'ял дэкалянізацыі Расеі ў Задзіночаныя Нацыі супольна з балтамі і ўкраінцамі па лініі цэнтральных нацыянальных грамадзкіх арганізацыяў. Старшыня Рады паінфармаваў, што сп. Паўлюк Пашкевіч[408], які бярэ ўдзел у дыскусіях над гэтай справай з балтамі і ўкраінцамі ад Каардынацыйнага камітэту беларусаў Канады, прасіў, каб беларускія палітычныя дзеячы вырашылі: 1. Як аднесьціся да засьцярогаў украінцаў і балтаў да таго, што ў Акце 25 Сакавіка між іншых пералічаных беларускіх тэрыторыяў успамінаецца Чарнігаўшчына й Вільня (фактычна Віленшчына)?

Пасьля абмену думак прышлі да выснаву, каб выясьніць украінцам, што ў Акце 25 Сакавіка мова толькі пра паўночную Чарнігаўшчыну — частку тагачаснай Чарнігаўскай губэрні, заселенай беларусамі, якую цяпер Савецкі Ўрад прылучыў да РСФСР, да Бранскай вобласьці. Дык у справе гэтай тэрыторыі Беларусы маюць дачыненьне з Расеяй, а не Ўкраінай. А што да Віленшчыны, дык трэба сказаць лятувісам, што ў Акце 25 Сакавіка мова пра тую тэрыторыю Віленскай губэрні, на якой заўсёды была і ёсьць беларуская бальшыня ў насельніцтве.

2. Што сказаць на жаданьне балтаў, каб беларусы і ўкраінцы дамагаліся ў Задзіночаных Нацыяў скасаваньне дэлегацыяў БССР і УССР як выразна фікцыйных? Прышлі да выснаву, што на такое дамаганьне мы згадзіцца ня можам.

Да п. 3:

Старшыня Рады Др. В. Жук-Грышкевіч падняў справу неабходнасьці адказу на артыкул Сукенніцкага[409] пра беларускую дзяржаўнасьць у парыскай «Культуры» Нр. 5 за травень 1976 г. і то ў тэй-жа «Культуры», бо яна ста-

---

[407] **Юры Станкевіч** (18.03.1928, Вільня — 07.08.2014, Прага, Чэхія), грамадскі дзеяч, сын Янкі і Марыі Станкевічаў. Пасля Другой сусветнай вайны вучыўся Беларускай гімназіі імя Я. Купалы ў Рэгенсбургу. У 1949 г. выехаў у ЗША. Паводле адукацыі інжынер-электрык. Быў актывістам шэрагу беларускіх моладзевых арганізацый, сябрам рэдкалегіі часопіса «Беларуская моладзь». Быў сябрам Беларуска-амерыканскага задзіночання. Аўтар падручніка «Кароткі агляд гісторыі Беларусі» (вытрымаў некалькі перавыданняў), выдавец беларускіх кніг і перыёдыкаў, у тым ліку часопіса *«Belarusian Review»*. Ад 1999 г. жыў у Празе (Чэхія)

[408] **Паўлюк Пашкевіч**, сын Валянціны і Міхася Пашкевічаў.

[409] **Віктар Сукенніцкі** (1901–1983) польскі гісторык, саветолаг, юрыст. Ад 1959 г. працаваў у Гувераўскім інстытуце (ЗША), супрацоўнічаў з Літаратурным інстытутам у Парыжы.

лася папулярнай у Эўропе і Амэрыцы. З гэтым згадзіліся ўсе прысутныя, а Др. Запруднік абяцаў напісаць у «Культуру» рачовы артыкул.

На гэтым паседжаньне было закончана.

*Старшыня Рады БНР В. Жук-Грышкевіч.*

*Сябры Прэзыдыюму А. Адамовіч.*

## ПРАТАКОЛ ПАСЕДЖАНЬНЯ ПРЭЗЫДЫЮМУ РАДЫ БНР з дня 23 травеня 1977 году

Паседжаньне гэта склікаў Старшыня Рады БНР др. В. Жук-Грышкевіч зараз-жа пасьля Беларускага фэстывалю ў Нью Джэрзі[410] сьпешна, бо на 7 чэрвеня г. г. меў вызначаны тэрмін пачатку лячэньня ў гошпіталі ў Барріе[411], Онтарыё, і ня ведаў, як і калі гэта скончыцца. Вось чаму лічыў патрэбным выкарыстаць свой побыт у Нью Ёрку, каб вырашыць актуальныя справы Рады БНР. Сябры Прэзыдыюму Рады прынялі да ведама гэтыя тлумачэньні Старшыні й прыбылі на паседжаньне ў Фундацыі Крэчэўскагана 6-ю гадзіну вечара: Старшыня Рады БНР др. В. Жук-Грышкевіч, праф. А. Адамовіч, сп. Шукелойць, сп. В. Кажан, др. Я. Запруднік — сакратар дакумэнтацыі й сп. Васіль Русак, які прыбыў пазьней, дзеля чаго пратакол згадзіўся пісаць сп. А. Шукелойць.

Старшыня Рады БНР запрапанаваў наступны <u>парадак Сэсіі</u>:

I. Адчытаньне пратаколу папярэдняга паседжаньня.

II. 60-я ўгодкі I-га Ўсебеларускага Кангрэсу:

1. Як і дзе зарганізаваць юбілейныя ўрачыстасьці.
2. Апрацаваньне звароту ці дэклярацыі Рады БНР у сувязі зь юбілеем.
3. Выдавецтва матар'ялаў БНР.

III. Што падрыхтаваць на Міжнародную канфэрэнцыю ў Белаградзе[412].

IV. Як адзначыць 60-ыя ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі:

1 і 2 як у пункце I-ым;

3. Узнагароды: грамадзкім дзеячом і вэтэранам.

<u>Праф. А. Адамовіч</u> заявіў, што першым пунктам мусіць быць справа выдаваньня «Камунікатаў» Рады БНР Старшынём Рады без паразуменьня зь сябрамі Прэзыдыюму Рады што да зьместу іх. Ён запрапанаваў, каб Старшыня Рады выдаваў «Камунікаты» ад свайго імя[413].

---

410 Другі беларускі фестываль у Нью-Джэрсі адбыўся 21 чэрвеня 1977 г.

411 Маецца на ўвазе мястэчка **Бэры**, недалёка ад Таронта, дзе жылі Жук-Грышкевічы.

412 Канферэнцыя па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе адбывалася ў Белградзе з 4 кастрычніка 1977 г. да 8 сакавіка 1978 г.

413 Вынікам стала тое, што ад № 9 (за лістапад 1977 г.) выданне стала называцца «Камунікаты Рады БНР», прыналежнасць да Прэзідыума і Сакратарыята з назвы была прыбраная.

Старшыня Рады выясьніў, што выдаваньне «Камунікатаў» не належыць да ягоных абавязкаў, і ўзяўся ён за гэту справу толькі таму, што пасьля першага нумару, які выдаў др. Запруднік як Старшыня Сакратарыяту і другога й трэцяга, якія апрацаваў Старшыня Рады, а выдаў Др. Запруднік, «Камунікаты» ня выходзілі больш году. Абяцалі ўзяцца за гэтую справу сп-ры Шукелойць і Русак, але дзеля якіхсьці прычын не ўзяліся. А без камунікацыі з сэктарамі й раднымі нельга было вясьці ніякай працы ў Радзе БНР. Таму Старшыня Рады ня меў іншага выхаду, як самому ўзяцца за выдаваньне «Камунікатаў». Бяручы пад увагу час і адлегласьці, паразумевацца зь сябрамі Прэзыдыюму адносна зьместу й парушаных спраў у «Камунікаце» проста немагчыма: *«Ніхто не паразумеваўся са мной пры выданьні "«Камунікатаў" Нр. 1, і я ня меў да нікога прэтэнсыяў за гэта, бо разумеў, што справа такога паразумеваньня ў кажным выпадку з усім Прэзыдыюмам Рады ёсьць вельмі скамплікаванай. А з другога боку, па меры патрэбы, "Камунікаты" выходзіць мусяць, таму я ня маю нічога супраць таго, каб выдаваць "Камунікаты" ад імя Канцылярыі Старшыні Рады БНР. У "Камунікатах" вельмі пажадана дыскусія, каб ажывіць наша жыцьцё й выясьніць шмат якія справы. Таму я лічыў, што было-б вельмі пажадана, каб калі хтось не згаджаецца з чымсь у "Камунікатах", прадставіў там свой погляд пра гэта, чым узбагаціў-бы "Камунікаты" з карысьцяй для справы БНР»*. Так выясьніў сваё становішча Старшыня Рады БНР.

Да паданага Старшынёй Парадку дня ня было засьцярогаў.

I. Пратакол папярэдняга паседжаньня быў прыняты без паправак.

II. 60-я ўгодкі I-га Ўсебеларускага Кангрэсу:

да 1-га: Беларускія арганізацыі могуць арганізаваць юбілейныя урачыстасьці, каб адзначыць 60-я ўгодкі I-га Ўсебеларускага Кангрэсу ў часе, які найбольш ім адпавядае — пачынаючы ад верасьня і да канца 1977 году.

да 2-га: Зварот ці дэкларацыю ў справе гэтага юбілею апрацуюць прысутныя тут сябры зь Нью Ёрку.

да 3-га: Выдавецтва матарыялаў БНР падрыхтоўвае Др. Запруднік.

III. У справе канфэрэнцыі ў Белаградзе прышлі да выснаву, што ў гэтым выпадку было-б лепш, каб адпаведныя мэмарыялы былі паданы грамадзкімі арганізацыямі — БАЗа і ЗБК міністэрствам вонкавых дачыненьняў ЗША і Канады з тым, каб яны прадставілі іх на канфэрэнцыю ў Белаградзе[414].

На гэтым паседжаньне Прэзыдыюму Рады БНР было закончана.

*Др. В. Жук-Грышкевіч, Старшыня Рады БНР.*

*А. Шукелойць, за сакратара Прэзыдыюму Рады.*

---

[414] У выніку ад імя БАЗА і БІНіМа быў складзены мемарыял для амерыканскай Камісіі для спраў бяспекі і супрацоўніцтва ў Еўропе, дзе былі пададзеныя факты русіфікацыі ў Беларусі і дыскрымінацыі беларусаў у СССР. Гэты мемарыял быў перададзены ў перыяд падрыхтоўкі да Белградскай канферэнцыі. Гл.: Мэмарыял Амэрыканскай камісіі пра пагвалчэньне правоў на Беларусі // Беларус. № 242. Чырвень 1977. С. 1.

# ПРАТАКОЛ ПАСЕДЖАНЬНЯ ПРЭЗЫДЫЮМУ РАДЫ БНР
## дня 19 лютага 1978 г. у Нью Ёрку ў залі пад царквой

Прысутныя: Старшыня Рады БНР др. В. Жук-Грышкевіч, праф. Антон Адамовіч, сп. Віталі Кажан, інж. Васіль Русак і сп. Антон Шукелойць.

Парадак дня:

1. Адчытаньне пратаколу з папярэдняга паседжаньня.
2. Справа 60-х юбілейных угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі: а. як маюць выглядаць юбілейныя ўрачыстасьці; б. юбілейны зварот ці дэкларацыя да беларускага грамадзтва.
3. Справа распрацоўкі Матарыялаў БНР.
4. Скліканьне 15-й Юбілейнай Сэсіі Рады БНР.
5. Рознае.

Да 1-га: Пратакол з папярэдняга паседжаньня быў прыняты без паправак.

Да 2-га: У адзначаньні юбілею 60-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі даць вольную руку беларускім арганізацыям. Але трэба апрацаваць адумысловы зварот да беларускага грамадзтва прысьвечаны 60-цігадоваму юбілею абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі.

Да 3-га: Плянаванае др-м Запруднікам выдаваньня матарыялаў БНР з розных прычын яшчэ не распачата.

Старшыня Рады БНР Др. В. Жук-Грышкевіч паінфармаваў, што ён выдае брашуру сваіх успамінаў пад назовам «25-га Сакавіка», прысьвечаную 60-цігадовым юбілеям І-га Ўсебеларускага Кангрэсу і абвешчаньня незалежнасьці БНР[415]. Выданьне брашуры будзе каштаваць $1300.00. Палавіну гэтай сумы пакрывае сам аўтар, а другую палавіну — у суме $650.00 — просіць, каб пакрыў Прэзыдыюм Рады БНР з касы Рады БНР, на што сябры Прэзыдыюму Рады БНР згадзіліся.

Да 4-га: Была прынята пастанова склікаць 15-ю Юбілейную Сэсію Рады БНР, прысьвечаную 60-ым угодкам абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі на суботу 25 лістапада 1978 году ў Фундацыі Крэчэўскага. У парадку дня Сэсіі мае быць пункт аб устанаўленьні часу кадэнцыі сяброў Прэзыдыюму Рады БНР, Кантрольнай камісіі й Суду Рады БНР.

Да 5-га: Разглядалі справу падтрыманьня акцыі беларускіх грамадзкіх арганізацыяў разам з арганізацыямі балтаў і ўкраінцаў адносна дэкалянізацыі Савецкага Саюзу[416]. Пастанавілі дапамагаць гэтай акцыі ўсімі магчымымі спосабамі.

На гэтым паседжаньне было закончана.

*Старшыня Рады БНР*

*Сакратар*

---

[415] Маецца на ўвазе: Жук-Грышкевіч, В. 25-га Сакавіка. Успаміны зь Менску, Будслава, Вільні, Прагі, савецкай турмы. Торонто: Выдавецкі фонд Успамінаў зь Беларускага Жыцьця, 1978. 41 с.

[416] Маецца на ўвазе ініцыятыва ўкраінскай і балтыйскіх арганізацый па стварэнні мемарыяла пра дэкаланізацыю СССР, які меўся быць пададзены ў ААН.

# ПРАТАКОЛ 15-Й ЮБІЛЕЙНАЙ СЭСІІ РАДЫ БНР, што адбылася 25 лістапада 1978 г. у будынку Фундацыі Крэчэўскага, 166-34 Готык Драйв, Джамэйка, Нью Ёрку, 11432, ЗША

Удзельнікі: У Сэсіі ўзяло ўдзел 52 радных, зь якіх 25 было прысутных асабіста, а 27 прыслалі свае ўпаўнаважаньні. Удзельнікі Сэсіі рэпрэзэнтавалі сэктары ЗША, Канады, Аўстраліі, Заходняй Нямеччыны й Францыі.

Парадак дня прыняты на Сэсіі:

1. Адкрыцьцё, малітва і адданьне пашаны памёрлым радным і змагарам за БНР.
2. Выбары Прэзыдыюму Сэсіі.
3. Устанаўленьне ліку прысутных радных і ўпаўнаважаньня галасоў.
4. Устанаўленьне парадку дня.
5. Прыняцьцё Пратаколу з 14-ай Сэсіі.
6. Даклад Старшыні Рады БНР.
7. Прывітаньні ад іншых арганізацыяў.
8. Справа Канфэрэнцыі вольных беларусаў.
9. Справа Канфэрэнцыі ў Люцэрне (Швайцарыя).
10. Пажаданьні радных і высновы.
11. Дадаткі да Статуту Рады БНР.
12. Справаздача Фундацыі Крэчэўскага.
13. Рознае.

Да 1.

А гадзіне 10:30 раніцы Старшыня Рады БНР Др. Вінцэнт Жук-Грышкевіч адкрыў 15-ю Юбілейную Сэсію Рады БНР прывітаньнем удзельнікаў і пажаданьнем Сэсіі плённай працы. Пасьля агульна адсьпяванай малітвы «Магутны Божа» ўдзельнікі Сэсіі, устаўшы, хвілінай маўчаньня выказалі пашану памяці Тварцоў БНР і Змагароў за БНР, адышоўшых у вечнасьць радных, а перадусім памяці старшыні Рады БНР Пётры Крэчэўскага, з дня сьмерці якога споўнілася сёлета поўстагодзьдзе[417].

Да 2.

У Прэзыдыюм Сэсіі былі выбраны: Старшыня — Праф. Антон Адамовіч, сакратары — Др. Раіса Жук-Грышкевіч і сп. Васіль Русак, сябра — Др. Ян Запруднік і Старшыня Рады як ганаровы сябра.

Да 3.

Прэзыдыюм устанавіў, што на Сэсіі прысутнічала 25 сяброў радных асабіста, 29 сяброў прыслала свае ўпаўнаважаньні, зь якіх два не маглі быць улічаны, бо яны ўпаўнаважвалі няпрысутных на Сэсіі сяброў. Такім чынам у 15-й Сэсіі ўдзельнічалі 52 сябры радныя.

[417] Пётра Крэчэўскі памёр у Празе 8 сакавіка 1928 г.

Сп. Уладзімер Русак падняў пытаньне прысутнасьці на Сэсіі сп. К. Мерляка. Ён асабіста рады быў бачыць сп-ра Мерляка, але хацеў пачуць выясьненьні, чаму сп. К. Мерляк прыбыў на гэтую Сэсію пасьля доўгай адсутнасьці.

Выясьненьні даў Др. Барыс Рагуля: Ад доўгага часу зь некаторых прычынаў сп. К. Мерляк перастаў быць дзейным сябрам, і на Сэсіі ня быў запрошаны. На гэтую-ж Сэсію, на жаданьне некаторых сяброў радных, ён быў запрошаны. Сп. К. Мерляк ніколі ня быў пазбаўлены сяброўства ў Радзе БНР, і таму няма прычыны, чаму гэтае сяброўства мае быць квэстыянаваным.

Сэсія без засьцярог прыняла выясьненьні да ведама.

Да 4.

Запрапанаваны ў «Камунікатах» Нр. 11[418] парадак дня Сэсіі быў зьменены да пададзенай вышэй формы праз даданьне пунктаў: *«Прывітаньні ад іншых арганізацыяў»* — прапанова сп. Антона Шукелойця; *«Справа Канфэрэнцыі вольных беларусаў»* — прапанова Др-а Барыса Рагулі; *«Справа Канфэрэнцыі ў Люцэрне»* — прапанова сп. Уладзімера Бортніка ды зьняцьцё з парадку дня пункту *«Выбары Старшыні Рады БНР»* — прапанова Др-а Янкі Запрудніка, які сваю прапанову абаснаваў на лісьце, атрыманым ім ад сп-ра А. Стагановіча[419].

Пададзены на 1-ай бачыне парадак дня быў прыняты аднагалосна.

Да 5.

Як гэта было запрапанавана ў «Камунікатах» Нр. 11, пратакол з 14-ай Сэсіі ня быў чытаны. Са зьместам яго радныя пазнаёміліся перад Сэсіяй. Старшыня Прэзыдыюму Праф. Антон Адамовіч падаў пратакол пад дыскусію. На прапанову Др-а Б. Рагулі й сп. М. Ганька Сэсія прыняла пратакол без засьцярог.

Да 6.

У сваім дакладзе зь дзейнасьці Рады БНР на працягу 60 год ды асабліва ў пэрыядзе між двума апошнімі войнамі Старшыня Рады БНР Др. В. Жук-Грышкевіч паказаў хвальшывасьць бальшавіцкай прапаганды быццам бы БНР пасьля І-ай Сусьветнай вайны зьліквідавалася. Прапаганда гэта пранікае ў беларускае грамадзтва за мяжой і выкарыстоўваецца БЦР-аўцамі, якія, фаварызаваныя газэтай «Беларус», паўтараюць: раз БНР зьліквідавалася, застаецца толькі створаная гітлераўцамі БЦР. І хоць так казаць могуць толькі людзі палітычна няграматныя, усё-ж такое прапаганды ігнараваць нельга.

Ды ня гледзячы на ўсякага роду шкодніцтва, дзякуючы дзейнасьці Рады БНР і БНР-аўцаў, беларуская вызвольная справа здабывае ў сьвеце ўсё мацнейшыя пазыцыі.

---

[418] № 11 «Камунікатаў Рады Беларускай Народнай Рэспублікі» ўбачыў свет у кастрычніку 1978 г.

[419] **Аляксандр Стагановіч** (1890–1988) жыў у ЗША, быў сябрам Беларуска-амерыканскага задзіночання, Згуртавання беларускіх ветэранаў і епархіяльнай Рады БАПЦ.

Сёлета ўгодкі аднаўленьня незалежнасьці былі адзначаны юбілейным прыняцьцём у Вашынгтоне з прысутнасьцю амэрыканскіх сэнатараў і кангрэсмэнаў, прадстаўнікоў уладаў ды іншых народаў[420].

У Англіі 60-я ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі былі адзначаны ўрачыстым прыняцьцём у Палаце Лёрдаў у Вэстмінстэр Палацы ў Лёндане[421] ды сарганізаваньнем ганаровым грамадзянінам БНР сп-ом Гай дэ Пікардэ[422], у паразуменьні з Старшынёю Рады БНР, Юбілейнай пошты БНР у Англіі з галоўнымі яе Паштовымі канторамі ў Лёндане (Англія), Парыжы (Францыя) і Дубліне (Ірляндыя). Беларуская Замежная Пошта выдала юбілейныя маркі чатырох дэнамінацыяў. Матывам марак ёсьць Пагоня, напіс «Беларусь» ды адна зь лічбаў — 5, 10, 25 або 50. Колеры марак — чырвоны, сіні, жоўты й зялёны. Частка марак кажнай дэнамінацыі мае напіс: *«Юбілейная Пошта БНР. 1918–1978»*. Беларуская Замежная Пошта афіцыйна зарэгістравана ў Лёндане, Англіі пад нумарам РБН 2305515[423].

Заснаваны ў гэтым годзе ў Канадзе «Выдавецкі Фонд Успамінаў зь Беларускага Жыцьця»[424], апрача брашуры «25 Сакавіка», перавыдаў выданую ў 1919 г. у Бэрліне карту Беларускай Народнай Рэспублікі[425].

Да 7.

Ад Галоўнай Управы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня вітаў Сэсію старшыня яе сп. Антон Шукелайць. Ён падзякаваў Прэзыдыюму Рады БНР за субсыдыю, дзякуючы якой БАЗА адзначыла 60-я ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці БНР імпрэзай у Вашынгтоне з удзелам кангрэсмэнаў і сэна-

---

420 Урачыстасць адбывалася 20–21 сакавіка 1978 г. Пра гэта гл.: Сэнатар Робэрт Дол — гасьцём на сакавіковым сьвяце ў Вашынгтоне // Беларус. № 252. Красавік 1978. С. 3.

421 Прыняцце ў Палаце Лордаў адбылося 6 красавіка 1978 г. намаганнямі лорда Макса Эграмона, кіраўніка Англа-беларускага таварыства. Гл.: П. Н. Прыняцьце ў Палаце Лёрдаў Брытанскага парляманту // Беларус. № 253. Травень 1978. С. 1.

422 **Гай Пікарда** (1931–2007), даследчык-беларусіст, юрыст. Жыў у Лондане, быў актыўным сябрам і доўгагадовым сакратаром Англа-беларускага таварыства, дапамагаў у арганізацыі на працягу 30 гадоў беларусаведных лекцый, выданні *«The Journal of Byelorussian Studies»*, стварэнні Беларускага музея ў Лондане і пашырэнні фондаў Бібліятэкі.

423 Юбілейная пошта БНР дзейнічала цягам 1978 г. Гл.: Беларуская Замежная Пошта // Беларус. № 259–260. Лістапад — сьнежань 1978. С. 8.

424 «Фонд выдання ўспамінаў з беларускага жыцця» быў заснаваны з мэтай збірання сродкаў на выданне найперш успамінаў Вінцэнта Жук-Грышкевіча. Гл.: Фонд Выданьня Успамінаў зь Беларускага Жыцьця // Беларус. № 249. Студзень 1978. С. 5.

425 Згаданая карта была дадаткам да брашуры В. Жук-Грышкевіча «25-га Сакавіка» (Таронта, 1978).

тараў. Пра гэту імпрэзу сяньня піша «Зьвязда»[426]. БАЗА бярэ ўдзел у працы Канфэрэнцыі вольных беларусаў. Аддзелы БАЗА з асаблівай стараннасьцю адзначылі юбілей БНР.

Ад Галоўнай Управы Згуртаваньня беларусаў Канады вітаў Сэсію заступнік старшыні ЗБК Др. Барыс Рагуля.

Др. Янка Запруднік, вітаючы Сэсію ад Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Нью Ёрку, зазначыў, што Рада БНР стаіць на моцнай гістарычнай базе. Ён дзякаваў Радзе БНР за фінансавую дапамогу БІНіМ для выданьня прац з гісторыі БНР. Зазначыў таксама, што ў БССР ажывае вывучэньне гісторыі беларускага руху ў часе Першае сусьветнае вайны.

Да 8.

Справу Канфэрэнцыі вольных беларусаў прадставіў старшыня яе Др. Барыс Рагуля. Два гады таму назад прадстаўнікі балцкіх і ўкраінскае сусьветных арганізацыяў запрасілі беларусаў Канады далучыцца да іх, каб узяць у апрацаваньні мэмарандуму да Галоўнае Асамблеі Задзіночаных Нацыяў у справе дэкалянізацыі Савецкага Саюзу.

У нарадах і працах прадстаўнікі вышэй названых арганізацыяў, што адбываліся ў Таронта, Канада, ад беларусаў браў удзел сп. Паўлюк Пашкевіч, заступнік старшыні Каардынацыйнага камітэту беларусаў Канады, які ў гэтай справе быў у сталым кантакце з Старшынём Рады БНР.

Ды дзеля сапраўднага ўдзелу беларусаў у гэтай справе патрэбна была нейкага роду сусьветная арганізацыя, стварэньне якое сталася сьпешнай неабходнасьцю. Пасьля паразумленьня зь беларускімі арганізацыямі ў ЗША, Нямеччыне і Аўстраліі створана была Канфэрэнцыя вольных беларусаў, у якой Канаду рэпрэзэнтуе ККБК. У Ўправу «Канфэрэнцыі» ўвайшоў як сакратар сп. Паўлюк Пашкевіч, а на старшыню плянавалася некага з ЗША. Але таму, што ў ЗША такой асобы не знайшлі, функцыю прыняў другі беларус з Канады — Др. Барыс Рагуля.

У выніку двухгадовай працы прадстаўнікі 5-ёх сусьветных арганізацыяў[427] апрацавалі й выдалі ў Таронта, Канада мэмарандум у справе дэкалянізацыі Савецкага Саюзу ў форме кнігі на 150 бачын з далучанымі дакумэнтамі, скіраваны да Галоўнай Асамблеі Задзіночаных Нацыяў.

---

[426] Відавочна, маецца на ўвазе артыкул Якава Качана «Хвальш і прытворства, або Як буржуазныя нацыяналісты трактуюць беларускую гісторыю» (Звязда. 25.10.1978). Ёсць таксама інфармацыя, што з нагоды імпрэзы ў Вашынгтоне быў апублікаваны фельетон Уладзіміра Бегуна «Камедыянты» ў газеце «Голас Радзімы». Гл.: Станкевіч, Ст. Бальшавікі пра ўгодкі БНР у Кангрэсе // Беларус. № 252. Красавік 1978. С. 4.

[427] У падрыхтоўцы мемарыяла акрамя Камітэта вольных беларусаў бралі ўдзел Эстонская сусветная рада, Летувіская сусветная грамада, Сусветны кангрэс вольных украінцаў і Сусветная федэрацыя вольных латышоў. Гл.: Дэкалянізацыя СССР // Беларус. № 259–260. Лістапад — сьнежань 1978. С. 7.

20 лістапада 1978 г. адбылася ў Нью Ёрку ў гэтай справе прэсавая канфэрэнцыя, а 22 лістапада — передача Мэмарандуму адпаведнай Камісіі Задзіночаных Нацыяў. Сябра Канадзкага Парлямэнту сп. У. Шымко[428] пры гэтай нагодзе зазначыў, што гэта справа вялікай вагі, і раней ці пазьней справа гэтага Мэмарандуму будзе пастаўлена на парадку дня Галоўнай Асамблеі.

Др. Барыс Рагуля запрапанаваў, каб Сэсія выказала прызнаньне за ўложаную працу сп. Паўлюку Пашкевічу. Прапанова прынята была воплескамі.

Старшыня Рады БНР падкрэсьліў значэньне такой сусьветнага характару арганізацыі, якой ёсьць Канфэрэнцыя вольных беларусаў, і выказаў надзею, што беларускае грамадзтва яе падтрымае.

Др. Раіса Жук-Грышкевіч кранула справу фінансавых забавязаньняў Канфэрэнцыі вольных беларусаў. Выданьне кнігі-мэмарандуму ў Задзіночаныя Нацыі каштавала беларусам ужо 1,700.00 даляраў (тысяча семсот даляраў). Дзеля таго, што Канфэрэнцыя вольных беларусаў фінансавых сродкаў ня мае, гэты вялікі выдатак пакрылі прыватныя асобы: сп-ства Б. Рагулі — 1,000.00 даляраў і сп-ва В. Жук-Грышкевіча — 700.00 даляраў. Апрача гэтага, ад КВБ вымагаецца далейшых выдаткаў. Яна ўважыла, што беларускія арганізацыі, прадстаўнікі якіх уваходзяць у Канфэрэнцыю вольных беларусаў, павінны пакрыць гэтыя ды іншыя, зьвязаныя з Мэмарандумам, выдаткі.

Сп. Васіль Стома прапанаваў адпусьціць сродкі для КВБ са Скарбу Рады БНР.

Сп. М. Ганько спытаў, ці сяньня падаецца толькі інфармацыя пра дзейнасьць КВБ ці разглядаем адносіны Рады БНР да яе.

Сп. А. Шукелайць паясьніў, што КВБ — гэта арганізацыя грамадзкіх, а не палітычных арганізацыяў, і выразіў пажаданьне, каб КВБ ператварылася ў сталую ўстанову.

Стварэньне КВБ вітаў сп. К. Мерляк і лічыў патрэбным яе падтрымліваць.

Сп. Ф. Бартуль уважаў, што арганізацыі, якія ўваходзяць у КВБ, павінны ападаткавацца, каб КВБ мела сродкі для вядзеньня свае працы.

Праф. Антон Адамовіч выразіў думку, што БНР мае моцную гістарычную аснову — «За БНР гісторыя!» — і гэтага няма патрэбы нікому даказваць.

Др. Р. Жук-Грышкевіч уважала, што якраз хвальшывай прапаганды ігнараваць нельга. Ёй трэба супрацьдзеіць, бо яна дэзар'ентуе ды затручвае беларускае грамадзтва, якое ў сваёй масе гістарычных асноваў БНР не заўсёды разумее. Яго трэба ўзгадоўваць — галоўна праз прэсу. Газэта-ж «Беларус» у гэтым падтрымку нам не дае. У ёй няма мейсца на папулярызаваньне БНР-аўскай ідэалёгіі, гістарычных асноваў БНР.

Сп. Уладзімер Курыла выказаў згоду з поглядам Р. Жук-Грышкевіч. Расея й Польшча адстойваюць свае старыя пазыцыі й прэтэнсіі ў адносінах да Беларусі, і нашым абавязкам ёсьць бараніць нашыя праўныя й гістарычныя пазыцыі й супрацьдзеіць шкоднай прапагандзе.

---

[428] Маецца на ўвазе **Юры Раман Шымко** (*Yuri Roman Shymko*, нар. 06.09.1940), канадскі палітык, сябра прагрэсіўнай кансерватыўнай партыі ў Антарыа, дэпутат Палаты прадстаўнікаў Парламента Канады ў 1974–1985 гг.

Старшыня Рады БНР: *«Кажны нацыянальны рух мае сваю ідэалёгію, якую прапагуе. Мы свае ідэалёгіі не прапагуем. Калі так будзе далей, дабра не чакаць».* Старшыня Рады БНР зачытаў прывітальныя лісты й пратаколы: Ліст ад старшыні сэктару Рады БНР у Аўстраліі Др-а Язэпа Малецкага, пратакол паседжаньня Аўстралійскага сэктару Рады БНР, падпісаны старшынём Др. Я. Малецкім і сакратаром сп-няй Аўгеняй Каранеўскай, пратакол падсэктару Рады БНР у Мэльбурне, падпісаны старшынём сп. А. Калодкам і сп. М. Ніканам, выняткі зь ліста заступніка Старшыні Рады БНР на Аўстралію сп. Міколы Нікана ды ліст старшыні сэктара Рады БНР у Чыкага сп. Вацлава Пануцэвіча.

Старшыня Рады БНР паінфармаваў, што ў Францыі былі прыняты ў Раду БНР два новыя сябры: сп. Мікола Булыга[429] й сп. Браніслаў Нагорны[430]. Яны прыслалі ўжо на рукі Старшыні Рады БНР падпісаную імі пісьмовую прысягу, а вусную прысягу даручана ўзяць ад іх старшыні сэктару Рады БНР у Францыі праф. Міхасю Наўмовічу.

Да 9.

Сп. Уладзімір Бортнік, радны сэктару ў Нямеччыне, даў гістарычны нарыс швайцарскай арганізацыі «Канфэрэнцыя людзкіх правоў і самавызначэньня». Статут «Канфэрэнцыі» быў прыняты яшчэ ў 1962 г., хоць канфэрэнцыі-зьезды пачаліся ў 1974 г. У «Канфэрэнцыі» бяруць удзел кансэрватыўныя прадстаўнікі Нямеччыны і Англіі. Апошняя канфэрэнцыя, што адбылася ў днях ад 13 да 15 студзеня 1978 г. у Люцэрне, Швайцарыі, была прысьвечана нерасейскім народам Савецкага Саюзу. У гэтай канфэрэнцыі прымаў удзел сп. Уладзімір Бортнік як прадстаўнік ад Парыскага блёку. У дадатку да ўпаўнаважваючага ліста ад Старшыні Рады БНР Парыскі блёк злажыў у «Канфэрэнцыю» заяву з просьбай, каб сп. Ул. Борнік быў ягоным дэлегатам. Цяпер сп. Ул. Борнік зьяўляецца паўнапраўным сябрам «Канфэрэнцыі людзкіх правоў і самавызначэньня»[431].

Рэфэрат, які сп. Ул. Борнік прачытаў на канфэрэнцыі ў Люцэрне, надрукаваны ў выданьні канфэрэнцыі «Фэлькэр ін Кэтэн» — «Народы ў Ланцугох» — Нерасейскія Народы Савецкага Саюзу, Соі Бэрн, 1978, Швайцарыя[432]. Матар’ялы з канфэрэнцыі ў Люцэрне былі выкарыстаныя ў «Радыё

---

[429] **Мікола Булыга** (06.11.1923, Баранавічы, сёння Брэсцкая вобл. — 28.07.1991, Францыя), грамадскі дзеяч. У 1945 г. прыбыў у Францыю. Жыў у мястэчку Ля Крэзо. Быў сябрам мясцовага аддзела Аб’яднання беларускіх работнікаў у Францыі

[430] **Браніслаў Нагорны** (20.04.1924, в. Дурневічы, сёння в. Лугавая Баранавіцкага раёна Брэсцкай вобл. — ?, Францыя), грамадскі дзеяч. У 1945 г. прыбыў у Францыю. Жыў у мястэчку Ля Крэзо. Быў сябрам мясцовага аддзела Аб’яднання беларускіх работнікаў у Францыі.

[431] Інфармацыя пра канферэнцыю была апублікаваная ў: Залескі, А. Міжнародная Канфэрэнцыя ў Люцэрне // Беларус. № 251. Сакавік 1978. С. 2, 4.

[432] Маецца на ўвазе: Völker in Ketten: Nichtrussen in der Sowjetunion : Vorträge, gehalten an der Konferenz vom 13. bis 15. Januar 1978 in Luzern. SOI, Schweizerisches Ostinstitut, 1978. 139 s.

Лібэрты». Радыё «Менск» моцна зарэагавала на канфэрэнцыю. Сяброўства ў «Канфэрэнцыі людзкіх правоў і самавызначэньня» вымагае аплаты сяброўскіх складак ды й накладае такія абавязкі, як пашырэньне выданьняў «Канфэрэнцыі».

Пасьля пэрыяду запытаньняў і адказаў адносна канфэрэнцыі, на прапанову Старшыні Рады БНР Др. В. Жук-Грышкевіча, Сэсія зацьвердзіла сп. Уладзіміра Бортніка як заступніка Старшыні Рады БНР на Эўропу.

Да 10.

Справаздачу зь дзейнасьці Фундацыі Крэчэўскага зрабіў Старшыня Дырэкцыі Фундацыі інж. Мікола Гарошка. Фундацыя Крэчэўскага заснавана была ў 1964 г. з мэтай сарганізаваньня бібліятэкі й музэю. У 1964 г. куплены былі два будынкі за 180,000.00 даляраў, на якія было ўнесена гатоўкаю 32,000.00 даляраў. Адзін будынак быў не закончаны. На заканчэньне яго, на сплату галоўнай пазыкі і іншыя выдаткі ўзята была прыватная пазыка на 13 тысяч даляраў. Умовы галоўнай пазыкі (мортгіжу[433]) былі добрыя. Частка аднаго будынку была адступлена на грамадзкія патрэбы, рэшта здаецца ў наймо кватэрантам. Не заўсёды ўсе кватэры здаюцца ў арэнду. Бывалі вялікія клопаты з кватарантамі, якія не плацілі. Даходзіла да суду. На адміністраваньне й дагляд будынкаў Старшыня Дырэкцыі траціць у сярэднім 15 дзён у месяц. Знайсьці чалавека, які рабіў-бы гэту работу, трудна, бо на гэта трэба быць кампэтэнтным адміністратарам і дбайлівым гаспадаром.

Фундацыя за 11 год мела 110 тысяч даляраў прыбытку. Дзесяць тысяч даляраў дала на выдавецтва, дванаццаць тысяч выдала на заканчэньне будынку, мортгіжу ў месяц плаціла 1,602.00 даляры. Сяньня ў касе ёсьць 5,124.77. Нясплачанага мортгіжу засталося яшчэ 100,436.28 даляраў.

Цяпер будынкі вымагаюць рамонту, на які ідзе ўвесь прыбытак. Улетку пуставала пяць, цяпер дзьве кватэры. Сытуацыя такая, што лепш за ўсё было-б прадаць гэтыя будынкі й купіць болей адпаведны аб’ект для нашых грамадзкіх патрэбаў, зь меншымі клопатамі.

Справаздачу Рэвізійнае камісіі прачытаў ейны сябра праф. А. Адамовіч. Апрача яго ў Рэвізійную камісію ўваходзяць старшыня — сп. Віталі Кажан і а. Прат. В. Кендыш. З прычыны хваробы сп. В. Кажана рэвізію праводзілі а. Прат. Васіль Кендыш, праф. Антон Адамовіч пры ўдзеле Старшыні Рады Дырэктароў і заступніка Старшыні: інж. Міколы Гарошкі й Др. Вітаўта Тумаша.

Рэвізійная камісія знайшла кнігі руховасьці й дакумэнтацыі ў належным парадку. У заключэньні справаздачы РК прапануе выказаць падзяку Старшыні Ўправы Дырэкцыі Фундацыі сп. Міколу Гарошку, які найбольш улажыў працы, ды іншым сябром за ахвярную працу для Фундацыі, якая зьяўляецца важнай нацыянальнай установай для ўсяго беларускага грамадзтва.

У выніку ўсебаковай дыскусіі Сэсія выбрала Камісію ў складзе сп. сп.: М. Гарошкі, М. Войтанкі, Ул. Курылы, Ф. Бартуля і Я. Запрудніка й даручы-

---

[433] **Мортгідж** (анг. *mortgage*) — іпатэка.

ла ёй у магчыма хуткім часе разгледзіць справу продажы дамоў Фундацыі Крэчэўскага й куплі болей адпаведнага аб'екту.

Да 11.

Сп. Васіль Стома прапанаваў паставіць на беларускім могільніку ў Нью Джэрзі помнік вечнай памяці Старшыні Рады БНР Міколу Абрамчыку й стварыць дзеля гэтай мэты спэцыяльны фонд.

Сп. Гутырчык[434] уважаў, што ляпей было-б на помніку вэтэранаў, які дарэчы, яшчэ, дзеля нястачы сродкаў, не закончаны, выбіць імя й прозьвішча сьв. пам. Старшыні Рады БНР Міколы Абрамчыка. Іншыя ўважалі, што лепш было-б выбіць памятнікавую дошку. Апошняя прапанова прайшла большасьцю галасоў. Дзеля выкананьня гэтай пастановы выбрана была камісія ў складзе сп. сп. Ген. Я. Сажыца, Я. Азаркі й В. Стомы. Камісія падрыхтуе перш за ўсё праект.

Старшыня Рады БНР прасіў удзельнікаў Сэсіі даць прапановы ў сэнсе адзначэньня заслугаў вэтэранаў ды іншых беларускіх дзеячоў.

Др. Янка Запруднік прапанаваў ушанаваць памяць Старшыні Рады БНР В. Захаркі 17 сьнежня[435]. Сп. Ул. Курыла прапанаваў выдаць успаміны Ген. Кушаля, дакумэнты БНР. Сп. А. Шукелайць — выдаць успаміны Юльянны Дубейкаўскай[436]. Што да адзначэньня заслуг некаторых дзеячоў, Сэсія ўважала, што гэту справу разгледзіць і вырашыць Прэзыдыюм Рады БНР. Сп. М. Ганько ўважаў, што трэба праверыць склад Рады ды старацца прыдбаць малодшых радных.

Старшыня Рады БНР прыпомніў, што гэта заданьне сэктараў знайсьці адпаведных малодшых людзей і прапанаваць іх у сябры Рады БНР. Ліста радных правяраецца стала.

---

[434] **Сяргей Гутырчык** (03.03.1923 — 03.02.1993, Нью-Джэрсі, ЗША), грамадскі і вайсковы дзеяч. У час нямецкай акупацыі служыў жаўнерам 13-га Беларускага батальёна. Пасля Другой сусветнай вайны апынуўся ў ЗША. Жыў у Нью-Джэрсі. Ад 1958 г. быў сябрам Беларуска-амерыканскага задзіночання, доўгі час кіраваў Нью-джэрсійскім аддзелам арганізацыі. Шматгадовы камандзір Нью-джэрсійскага аддзела Задзіночання беларуска-амерыканскіх ветэранаў. Браў удзел у пабудове Помніка беларускім героям у Іст-Брансвіку. У 1980 г. быў пазбаўлены амерыканскага грамадзянства праз абвінавачанне ў службе ў Калдычаўскім лагеры. Абвінавачанні абвяргаў.

[435] Відавочна, памылка ў пратаколе. 17 снежня 1978 г. у БІНіМе і Фундацыі П. Крэчэўскага пры удзеле Вінцэнта Жук-Грышкевіча адбылося ўшанаванне 50-х угодкаў смерці Пётры Крэчэўскага. Гл.: Памяці Пётры Крэчэўскага // Беларус. № 262. Люты 1979. С. 4.

[436] **Юльяна Дубейкаўская** (1886–1969) напісала мемуары пад назвай «Мае ўспаміны», прысвечаныя Івану Луцкевічу. Рукапіс быў перададзены Яніне Каханоўскай у ЗША. Успаміны былі выдадзеныя толькі ў 1994 г. у Вільні. Рукапіс цяпер захоўваецца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва.

Да 12.

Старшыня Рады БНР зьвярнуў увагу на факт, што ў Статуце Рады БНР ня сказана, на колькі год выбіраецца Прэзыдыюм і Суд Рады БНР, а Кантрольная камісія, паводля Статуту, выбіраецца на кажнай Сэсіі, што ёсьць непрактычна й нерацыянальна. Ён запрапанаваў адзначыць у Статуце, што ўсе гэтыя органы выбіраюцца, гэтаксама як і Старшыня Рады БНР, на тэрмін шасьці гадоў. Прапанова была прынятая аднагалосна.

Да 13.

На прапанову сп. А. Шукелойца Сэсія выказала пажаданьні папраўы здароўя няприсутнаму з прычыны хваробы сакратару фінансаў Рады БНР сп. Віталю Кажану.

15-я Юбілейная Сэсія Рады БНР закончылася адсьпяваньнем Беларускага Нацыянальнага Гімну а гадз. 6-й вечара.

*Нью Ёрк, ЗША*

*Сьнежань, 1978 г.*[437].

*Антон Адамовіч, Старшыня Сэсіі.*

*Раіса Жук-Грышкевіч, сакратар Сэсіі.*

*Васіль Русак, сакратар Сэсіі.*

## ПРАМОВА СТАРШЫНІ РАДЫ БНР НА 15-Й ЮБІЛЕЙНАЙ СЭСІІ РАДЫ БНР

*(у скароце*[438]*)*

Высокая Сэсія Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, паважаныя сябры радныя! Вітаю Вас з 60-мі ўгодкамі абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі, з узнаўленьнем Беларускай Дзяржавы!

На вялікі жаль, не зважаючы на волю Беларускага Народу жыць у сваёй вольнай дзяржаве й на тое, што шэсьць існуючых ужо дзяржаваў прызналі Беларускую Народную Рэспубліку «дэ юрэ» і некалькі дзяржаваў прызналі яе «дэ факто» — ворагі з Усходу й Захаду напалі на яе й паняволілі.

Аднак Беларускі Народ ніколі не пагадзіўся з паняволеньнем і на працягу 60-ці год дзе толькі можа і як толькі можа вядзе змаганьне за вызваленьне Беларускай Народнай Рэспублікі. На працягу 60-ці год Рада і Ўрад БНР кіруюць гэтым змаганьнем.

Рада і Ўрад БНР былі дзейнымі на выгнаньні ў Коўне і ў Празе ў часе між Першай і Другой сусьветнымі войнамі і ўвесь час дзейныя пасьля Другой сусьветнай вайны — у вольным сьвеце — на эміграцыі. Дзякуючы гэтаму

[437] Інфармацыя пра сесію была апублікаваная ў: Беларус. № 261. Студзень 1979. С. 2.

[438] Так пазначана ў арыгінале.

беларусы могуць пахваліцца паважнымі здабыткамі ў сваім палітычным, грамадзкім і культурным жыцьці ў краінах вольнага сьвету.

На вялікі жаль, на працягу некалькіх апошніх гадоў некаторыя актыўныя БНР-аўцы пачалі цацкацца з самазванай БЦР і палітычна нявырабленымі ейнымі прыхільнікамі. Насуперак гістарычным фактам гэтыя БЦР-аўцы цьвердзяць, што БНР зьліквідавалася ў 1925 годзе і што ў 1944 г. 2-гі Ўсебеларускі Кангрэс у Менску прызнаў БЦР і гэтым самым БЦР заняла месца БНР.

І дагэтуль нячутна было, каб хтось з БНР-аўцаў, якія супрацоўнічаюць з прыхільнікамі БЦР, сказаў гэтым наіўным людзям, што калі хтось прызнае нацыянальны дзяржаўны аўтарытэт, дык ні ў якім выпадку не вынікае з гэтага, што можа заняць месца гэтага аўтарытэту. Наадварот, ён мусіць падпарадкоўвацца яму! Дык БЦР ні ў якім выпадку ня можа заняць месца БНР, нават калі-б БЦР і не ліквідавалася пасьля вайны! І гэта трэба казаць адкрыта прыхільнікам БЦР, а ня цацкацца зь імі.

Газэта «Беларус» — замест фаварызаваць БЦР-аўцаў павінна пісаць праўду пра БНР і БЦР і не заводзіць у блуд нявырабленых палітычна людзей. Тым часам газэта ўдзяляе шмат месца БЦР-аўскім заправілам, але не зьмяшчае прывітаньня Старшыні Рады БНР 13-ай Сустрэчы БПА[439], у якім паданы факты пра Бэрлінскую канфэрэнцыю ў 1925 г. ды пра дзейнасьць Рады і Ўраду БНР у Коўне і ў Празе. Гэта ўжо выразнае таптаньне права на свабоду слова й друку з 2-ой Устаўной Граматы БНР.

Пры такім цацканьні з БЦР-аўцамі можа дайсьці да перавагі іх у беларускім жыцьці, і тады палітычныя дзейнікі вольнага сьвету перастануць лічыцца зь беларусамі. Бо хто захоча лічыцца з такім грамадзтвам, на чале якога стаіць кіраўніцтва, створанае гітлераўцамі? І Маскве гэта было-б вельмі-ж на руку.

Як бачыце, сытуацыя ня ёсьць пацяшаючай, і яе трэба папраўляць. Заклікаю ўсіх радных БНР да актыўнасьці й паважнага адношаньня да сваіх абавязкаў ды ўтрыманьня чысьціні БНР-аўскай ідэялёгіі.

*В. Жук-Грышкевіч, Старшыня Рады БНР.*

П. С. Ня маючы магчымасьці надрукаваць гэтага ў прэсе — разсылаю свой машынапіс, карыстаючы з даступных мне спосабаў.

439 Маецца на ўвазе 13-я Сустрэча беларусаў Паўночнай Амерыкі, што адбывалася 2–4 верасня 1978 г. у Таронта.

# ПРАТАКОЛ 16-Й ЗВЫЧАЙНАЙ ЧАРОДНАЙ СЭСІІ РАДЫ БНР,

## што адбылася 24 лістапада 1979 г. у будынку Фундацыі Крэчэўскага, 166-34 Готык Драйв, Джамэйка, Нью Ёрку, 11432, ЗША

Удзельнікі: У Сэсіі ўзяло ўдзел 58 радных, зь іх 22 было прысутных асабіста, а 36 прыслалі свае ўпаўнаважаньні. Удзельнікі Сэсіі рэпрэзэнтавалі сэктары Рады БНР ЗША, Канады, Аўстраліі, Францыі, Бэльгіі, Заходняй Нямеччыны й Гішпаніі.

Парадак дня:

1. Адкрыцьцё Сэсіі, малітва і адданьне пашаны памёрлым радным і змагаром за БНР.
2. Выбары Прэзыдыюму Сэсіі.
3. Устанаўленьне ліку прысутных радных і ўпаўнаважаных галасоў.
4. Устанаўленьне парадку дня.
5. Прыняцьцё пратаколу 15-й Сэсіі.
6. Даклад Старшыні Рады БНР.
7. Даклады Сакратарыятаў: сакратара скарбу, сакратара вэтэранаў і сакратара дакумэнтацыі.
8. Справаздачы сэктараў Рады БНР.
9. Дыскусія над справаздачамі.
10. Перавыбары сяброў Прэзыдыюму РБНР, Кантролі РБНР і Суда РБНР, тэрмін якіх ужо скончыўся.
11. Плян працы РБНР.

Рознае: Справаздача з Фундацыі Крэчэўскага.

Да 1.

Старшыня Рады БНР Др. Вінцэнт Жук-Грышкевіч адкрыў 16-ю Звычайную Сэсію Рады БНР а гадзіне 10:20 раніцы. Пасьля агульна адсьпяванай малітвы «Магутны Божа» ўдзельнікі Сэсіі хвілінай маўчаньня выказалі пашану памяці памёрлых ад апошняе Сэсіі радных — інж. Міколы Гарошкі[440] зь Нью Ёрку, палкоўніка Аўгена Трусава[441] з Францыі ды памяці ўсіх змагароў за БНР.

Да 2.

У Прэзыдыюм Сэсіі былі выбраны: Старшыня — Праф. Антон Адамовіч, заступнік — Др. Уладзімер Набагез, сакратары: Др. Раіса Жук-Грышкевіч і Др. Янка Запруднік.

Да 3.

Прэзыдыюм устанавіў, што на Сэсіі прысутнічала 22-ох сяброў радных асабіста, 38 радных прыслалі свае ўпаўнаважаньні, зь якіх два былі ня

---

440 Мікола Гарошка памёр у Нью-Ёрку 11 лютага 1979 г.

441 Аўген Трусаў памёр 20 студзеня 1979 г. у Моншана (Францыя).

ўлічаны з тае прычыны, што адно ўпаўнаважавала няпрысутнага на Сэсіі раднага, а другое-ж было ад раднага, што зь незалежных ад яго прычынаў мусіў прыбыць на Сэсію са спазьненьнем. Такім чынам на Сэсіі брала ўдзел 58 сяброў радных.

Да 4.

Сэсія прыняла запрапанаваны ў «Камунікатах» Нр. 12 парадак дня.

Да 5.

Пратакол зь Юбілейнай 15-ай Сэсіі РБНР быў прыняты з даданьнем запрапанаванага сп. Уладзімерам Курылам паясьненьня: У пункце 3-ім, на 3-й бачыне, замест выражэньня *«некаторых сяброў радных»* падаць прозьвішчы тых сяброў. Такім чынам папраўлены сказ гучыць: *«На гэтую-ж Сэсію, на жаданьне сяброў радных: Др. Барыса Рагулі, Др. Язэпа Сажыча й Др. Уладзімера Набагеза ён (сп. К. Мерляк) быў запрошаны»*.

Да 6.

Старшыня Рады БНР Др. Вінцэнт Жук-Грышкевіч:

*«Высокі Сход Рады Беларускай Народнай Рэспублікі!*

*Я чуюся вельмі шчасьлівым, што мы змаглі сабрацца на 16-ю Звычайную чародную Сэсію Рады, каб узмоцніць нашу арганізацыю і вырашыць найважнейшыя пытаньні, якія высунула наша палітычная сытуацыя й дзейнасьць Рады БНР.*

*Жывём мы й працуем у вельмі няспрыятлівай міжнароднай атмасфэры. Пераўжылі мы час суіснаваньня паміж вольным дэмакратычным Захадам і камуністычнай дыктатурай Усходу ды трапілі ў яшчэ горшую міжнародную сытуацыю гэтак званага дэтанту. У часе няспрыятлівай сытуацыі для паняволеных бальшавікамі народаў нельга лічыць ня толькі на падтрымку вольных дэмакратычных дзяржаваў, але нават на зацікаўленьне імі.*

*У такой няспрыятлівай для нас сытуацыі цяжка было лічыць на ўдачы ў нашай вонкавай палітыцы. Прышлося абмежыцца да высылкі мэмарыялаў і лістоў ад Рады БНР у Задзіночаныя Нацыі ды да ўрадаў дэмакратычных дзяржаваў. Пэўную актыўнасьць праявілі нашы прадстаўнікі: заступнік Старшыні Рады БНР на Эўропу сп. Ул. Бортнік у “Эўрапэйскай канфэрэнцыі правоў чалавека й самавызначэньня” ў Люцэрне і сп. сп. П. Асіповіч і Я. Міхалюк у “Юропіен Льезон Груп” у Лёндане ў Англіі (больш пра іх будзе мова пазьней).*

*Найбольш рацыянальным для Рады БНР было зьвярнуць увагу на падрыхтоўку да лепшых часоў, на рэарганізацыю нашай дзейнасьці, на ўзмацненьне й палепшаньне нашай арганізацыі, на ўзмацненьне нашай палітычнай сьведамасьці й выrabленасьці.*

*Што-ж нам удалося зрабіць у гэтым напрамку? Мы ажывілі Раду БНР, рэарганізавалі яе, паставілі яе на моцных праўна-статутовых асновах і вызначылі рацыянальны падзел працы між органамі Рады БНР — ды ўзмоцнілі склад яе новымі маладзейшымі сіламі.*

*На вялікі жаль, ня ўсе органы Рады БНР поўнасьцю працаздольныя й некаторыя галіны нашай дзейнасьці зусім занядбаныя. Нам не ўдалося*

*стварыць поўнага выканаўчга воргану — Сакратарыяту Рады БНР. Мы маем толькі трох сакратароў: фінансаў, вэтэранаў і дакумэнтацыі, а на іншых сакратароў, як вонкавых дачыненьняў, інфармацыі й прапаганды, нутраных дачыненьняў і асьветы, у нас не знайшлося ахвотнікаў. І таму такія важныя дзялянкі нашай дзейнасьці, як вонкавая палітыка, інфармацыя й прапаганда ды нутраныя суадносіны — занядбаныя. Ня маем мы таксама БНР-аўскага друкаванага воргану, які-б прапагаваў ідэалёгію БНР ды інфармаваў пра дзейнасьць Рады БНР. Няма ў нас таксама палітычных арганізацыяў ці партыяў.*

*Добра, што ў нашым грамадзтве ажывілася этнічна-мастацкая дзейнасьць у форме фэстываляў, і хоць яна шырокая, прыгожая і ўзьнёслая, аднак ніколі ня зможа замяніць палітычнай дзейнасьці.*

*У кажным вызвольным руху і ягоным змаганьні лічацца толькі зь сілай, гэта знача зь сілай палітычнага арганізаванага жыцьця й змаганьня. На вялікі жаль, наша да справы палітычных арганізацыяў ці партыяў ставіцца абыякава. Нават нашы радныя, калі натыкаюцца на шкодныя для Рады БНР факты ці шаптаную проціБНР-аўскую прапаганду, не праяўляюць ніякай рэакцыі, так як быццам бы іх гэта не датычыла.*

*А тымчасам міжнародная сытуацыя мяняецца на нашых вачох. Дэтэнт паміж дэмакратычнымі дзяржавамі й Савецкім Саюзам ператвараецца ў замаскаваную барацьбу, якая можа зьмяніцца ў сьцюдзёную ці нават гарачую вайну, да чаго мы зусім не падрыхтаваны.*

*Зразумелая рэч, што мы ня маем права й надалей заставацца “апалітычнымі”, незарганізаванымі палітычна і абыякавымі ў адносінах да зьменаў у міжнароднай сытуацыі.*

*Дык што-ж нам рабіць? Гэта пытаньне нам трэба добра прадумаць і прадыскутаваць. Але ўжо цяпер можна праводзіць некаторыя мерапрыемствы. Нам трэба правясьці да канца рэарганізацыю ў Радзе БНР і палітычную арганізацыю ў грамадзтве. Калі ня будзе магчымасьці арганізаваць поўнага Сакратарыяту, трэба будзе пашырыць Прэзыдыюм Рады БНР і перадаць яму абавязкі Сакратарыяту. Гэта ўжо мы можам зрабіць. Тады і іншыя справы лягчэй будзе правесьці. Толькі ня можна быць абыякавым да гэтых справаў і ня можна апускаць рук».*

Да 7.

Справаздача сакратара скарбу — Галоўнага скарбніка Рады БНР — сп. Віталя Кажана:

| Паступленьні ў Галоўную касу Рады БНР ад паасобных сэктараў і зь іншых крыніц у 1979 годзе да 24 лістапада 1979 г. | | | | |
|---|---|---|---|---|
| | *Дар Сакавіка* | *Нацыян. падатак* | *Іншыя крыніцы* | *Усяго* |
| Англія | 334.66 | 67.34 | 402.00 | |
| Аўстралія | 340.70 | 154.29 | 494.99 | |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Бэльгія | 106.00 | 62.48 | 168.48 | |
| Канада | 188.01 | 188.01 | | |
| Нямеччына | – | – | – | |
| Францыя | 161.57 | 161.57 | | |
| Чыкага | 140.00 | 140.00 | | |
| Кліўленд | 185.00 | 185.00 | | |
| Дэтройт | – | – | – | |
| Нью Джэрзі | – | – | – | |
| Нью Ёрк | 155.00 | 155.00 | | |
| Др. Б. Грабінскі | 50.00 | 50.00 | | |
| Др. Л. Трусэвіч | 50.00 | 50.00 | | |
| Я. Арцюх | 10.00 | 10.00 | | |
| Др. Я. Малецкі | 112.40 | 112.40 | | |
| Працэнты з банку | 371.30 | 371.30 | | |
| Розныя | 4.00 | 4.00 | | |
| **Усяго** | **1,620.94** | **384.11** | **487.70** | **2,492.75** |
| Паступленьні ў Касу ў апошнія чатыры гады: | | | | |
| 1976 — 2,471.19 | | | | |
| 1977 — 1,914.25 | | | | |
| 1978 — 2,914.70 | | | | |
| 1979 — 2,492.75 | | | | |

Заўвагі:

1. У Нямеччыне сабрана на Дар Сакавіка 350.00 нямецкіх марак, якія касе яшчэ не пераказаныя.

2. Др. Я. Малецкі пераслаў 112.40 на Фонд Крэчэўскага.

Фінансавая справаздача Галоўнай касы Рады БНР за час ад 1 студзеня 1979 г. да 24 лістапада 1979 г.

| *Паступленьні ў Касу:* | |
|---|---|
| Сяброўскія складкі нацыянальнага падатку | 384.11 |
| Ахвяры на фонд БНР — Дар Сакавіка | 1,620.94 |
| Працэнты з банку | 371.30 |
| Розныя | 116.40 |

| | |
|---|---|
| **Усяго паступленьняў у 1979 годзе** | **2,492.75** |
| *Выдаткі:* | |
| Выдаткі Старшыні Рады БНР (ліст. 78 — травень 79) | 392.00 |
| Паштовыя выдаткі Галоўнага скарбніка | 20.82 |
| Друкаваньне й разсылка пратаколу 15-й Сэсіі | 215.00 |
| Дапамога ў выданьні кнігі паэзіі Н. Арсеньневай (маецца на ўвазе кніга: Арсеньнева, Натальля. Між берагамі: выбар паэзіі. Нью Ёрк — Таронта, 1979. — XXXIX+350 с. — *Н. Г.*) | 100.00 |
| Вянок на магілу Сьв. пам. раднага М. Гарошкі | 77.76 |
| Дзяржаўны падатак на банкаўскія працэнты (1977–78) | 225.00 |
| Дапамога Беларускай бібліятэцы й музэю ў Лёндане | 500.00 |
| **Усяго выдаткаў у 1979 г.** | **1,530.58** |
| Усяго паступленьняў у 1979 г. | 2,492.75 |
| Астача з папярэдняга 1978 году | 8,268.61 |
| Усяго паступленьняў у касу | 10,761.36 |
| Усяго выдаткаў у 1979 г. | 1,530.58 |
| Стан Касы на дзень 24 лістапада 1979 г. | 9,230.78 |
| Усяго | 10,761.36 |

Сакратар вэтэранаў гэнэрал Язэп Сажыч зрабіў справаздачу вусна. Дзейнасьць Сакратарыяту ўзнавілася пасьля 11-й Сэсіі РБНР. Сакратар стараўся арганізаваць новыя ды ажывіць ужо існуючыя аддзелы вэтэранаў. З гэтым былі цяжкасьці ў Канадзе. На 50-я і 60-я ўгодкі БНР былі наданыя або павышаныя вайсковыя рангі некаторым сябрам радным. Надаваньне ці павышэньне вайсковых рангаў праводзілася вельмі абярэжна, каб не надужываць ды не абніжаць іх значэньня. Праца сакратара палягала таксама на рэпрэзэнтацыі БНР на розных міжнародных імпрэзах, што мае вялікае прапагандовае значэньне.

Сакратар дакумэнтацыі Др. Янка Запруднік сказаў, што ў сувязі зь сёлетняй Мадрыдзкай канфэрэнцыяй[442] у справе ўжыцьцяўленьня Гэльсынскага пагадненьня аб людзкіх правох трэба выдаць асноўныя матар’ялы пра інша-

442 Відаць, маецца на ўвазе Канферэнцыя па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе, якая праходзіла з 11 лістапада 1980 г. да 9 верасня 1983 г.

моўства[443] на Беларусі (пад арыштам сядзяць Кукабака[444], Бузіньнікаў[445]; пра двох іншых беларусаў нядаўна расказаў адзін армянін; падаць таксама пра А. Круцька[446], які памёр, не дачакаўшыся дазволу выехаць да дачкі ў ЗША, ды іншыя нядаўныя выявы іншадумства на Беларусі).

Тымчасам мае выйсьці з друку палітычная паштоўка, прысьвечаная Кукабаку[447]. У ўкраінскім часопісе «Сучасність»[448] (Нр. 7–8 за 79 год) апублікаваны агляд іншадумства на Беларусі, напісаны Запруднікам. Можна было-б зрабіць пераклад (скарочаны) гэтага артыкулу ў ангельскую мову ды даць як уступ да зборніка матарыялаў (асабліва перакладу нарысаў і выступленьняў М. Кукабакі). Пасланы быў таксама матарыял пра іншадумства на Беларусі ў Лёндан сп. П. Асіповічу для ўлучэньня ў выдаваную там брашуру па-ангельску (таксама да Мадрыдзкае канфэрэнцыі). Трэ было-б, апрача гэтага, дапамагчы матарыяльна Віктару Някіпелаву[449] (арыштаваны цяпер у СССР), які вельмі шмат зрабіў, каб прыцягнуць увагу вонкавага сьвету да М. Кукабакі.

Да 8.

Нью Ёрк. Сп. Уладзімер Русак, які ад колькіх гадоў поўніць функцыю скарбніка, паведаміў, што ў Нью Ёрку сэктару няма. Ён зьбірае толькі ахвяры на Дар Сакавіка.

---

443 Відавочная памылка ў арыгінале, мае быць «іншадумства».

444 **Міхась Кукабака** (нар. 1936), беларускі праваабаронца, аўтар публіцыстычных матэрыялаў, што ў 1970–1980-я гг. распаўсюджваліся праз самвыдат і замежныя радыёстанцыі. Быў арыштаваны ў кастрычніку 1978 г. і асуджаны на тры гады зняволення, пазней быў асуджаны зноў.

445 **Аўген Бузіннікаў** (1938–2010), жыхар Светлагорска, які быў у 1978 г. арыштаваны за антысавецкую дзейнасць, якая выяўлялася ў кантактах з іншадумцамі, слуханні замежных радыёстанцый, распаўсюджанні звестак, што хлусліва праказваюць савецкі лад. Дагэтуль ён быў двойчы асуджаны, меў кантакты з Андрэем Сахаравым, Аляксандрам Гінзбургам, Віктарам Некіпелавым. Гл.: «Справа Аўгена Будзіньнікава» (яшчэ адзін беларускі іншадумец) // Беларус. № 259–260. Ліспапад — сьнежань 1978. С. 2.

446 **Аляксандр Круцька** (1907–?), жыхар вёскі Цынкавічы Вілейскага раёна, які правёў 18 гадоў у турмах, а ў 1978 г. вырашыў перабрацца да дачкі ў Саўт-Рывер (Нью-Джэрсі, ЗША), за што стаў атрымоўваць пагрозы ад савецкіх уладаў. Выехаць не змог. Гл.: Памагчы А. Круцьку пераехаць у ЗША // Беларус. № 259–260. Ліспапад — сьнежань 1978. С. 2.

447 Паштоўкі, прысвечаныя Міхасю Кукабаку, выдаваліся газетай «Беларус».

448 **«Сучасність»** — украінскі штомесячны літаратурна-грамадскі часопіс, заснаваны ў 1961 г. Выходзіў у Нямеччыне, потым у ЗША, а ад 1992 г. выдаецца ў Кіеве.

449 **Віктар Некіпелаў** (1928–1989), паэт, праваабаронца, удзельнік дысідэнцкага руху. Сябра Маскоўскай Хельсінкскай групы. У 1979 г. быў другі раз арыштаваны і асуджаны да 7 гадоў пазбаўлення волі.

Нью Джэрзі. Сп. Янка Азарка, скарбнік сэктару ў Нью Джэрзі, паведаміў, што старшыня сэктару сп. Васіль Стома, які быў вельмі дзейным, ад даўжэйшага часу цяжка хварэе. Гэта адбілася адʼемна на ўсім сэктары. Цяжка сабраць сход сэктару, часткова таму, што сябры радныя актыўна заангажаваныя ў іншых беларускіх арганізацыях. Скарбнік зьбірае складкі нацыянальнага падатку.

Канада. Справаздачу зь дзейнасьці Канадзкага сэктару зрабіў старшыня яго сп. М. Ганько. Сэктар налічвае восем сяброў. Некаторыя сябры на пэнсыі, і складкі нацыянальнага падатку плацяць толькі тры сябры. За 1978 і 1979 гг. сабрана нацыянальнага падатку 204.00 даляры, з чаго 50 % перадана сакратару скарбніку сяньня перад Сэсіяй. На Дар Сакавіка ад 1977 г. сабрана 380.00, і ўсё перадана ў Галоўную касу РБНР. Сяньня на Сэсію з Канады прыехала 50 % сяброў сэктару.

Сакратар сэктару Др. Раіса Жук-Грышкевіч дадала да справаздачы старшыні наступнае: сябры сэктару актыўныя ў нутраным беларускім жыцьці ды сочаць за тым, каб беларуская прысутнасьць, беларускі голас былі чутны на агульнаканадзкай арэне. Дбаюць пра гэта, а калі трэба, і змагаюцца за правы й мейсца беларусаў у канадзкім жыцьці. Прыкладам ёсьць змаганьне за ўдзел і беларускага прадстаўніка моладзі на Ўсеканадзкай канфэрэнцыі для шматкультуралізму, што адбылася ў Атаве вясной 1979 г. Другі прыклад, гэта змаганьне з дыскрымінацыяй беларускай мовы й беларусаў у статыстыцы Канады. Калі ўлетку 1979 г. дайшоў да ведама радных БНР факт, што ў падручніку для нутранога ўжытку ўраднікаў статыстыкі Канады беларусы й беларуская мова ўлучаны ў расейскую групу, праведзена была акцыя пратэстаў. Перапіска вялася з Галоўным урадніка́м статыстыкі Канады, зь міністрам для справаў шматкультуралізму, зь БІНІМ у Нью Ёрку ды Беларускай бібліятэкай імя Францішка Скарыны ў Лёндане, Англія. Зь перапіскі выявілася, што ад 1933 г. у канадзкай статыстыцы беларуская мова фігуравала як дыялект расейскае. У выніку нашых лістоў, падмацаваных фактычнымі навуковымі матарыяламі, сабраць якія дапамог БІНІМ у Нью Ёрку, гэтая недарэчная й дыскрымінуючая памылка выпраўлена, і беларуская мова лічыцца цяпер як адна з трох усходнеславянскіх апрычоных моваў.

Сочыцца за тым, каб для дзяржаўных выданьняў, дзе пішацца пра розныя этнічныя групы Канады, былі своечасова паданы матарыялы пра беларусаў і беларускае жыцьцё ў Канадзе. Прыклады гэткіх выданьняў гэта: «Дрэва Канадзкай Сямʼі» (Кэнэдыен Фэмілі Тры)[450], «Дні, пра якія трэба памятаць»[451],

[450] The Canadian family tree / Prepared by Canadian Citizenship Branch, Department of the Secretary of State. Notes on the Canadian family tree. Ottawa: Queen's Printer, 1967. 354 p.

[451] Days to Remember. Observances of significance in our multicultural society. Toronto: Ontario Ministry of Culture and Recreation, 1977. — 78 p. На с. 11–12 інфармацыя пра беларусаў.

«Ліста крыніц для шматкультурнай грамадзкасьці»[452]. Ува ўсіх гэтых кнігах ёсьць мейсца, прысьвечанае беларусам.

Сябры Канадзкага сэктару працуюць ды фінансуюць сусьветную «Канфэрэнцыю вольных беларусаў» (выдалі 1,750.00 даляраў). Праца заключалася ў удзеле ў рэдагаваньні Рэзалюцыі, скіраванай да Галоўнай Асамблеі Задзіночаных Нацыяў у справе дэкалянізацыі СССР.

Стараньнямі й працай радных, што жывуць у Атаве, беларусы на поўную скалю бралі ўдзел у «Фэстывалі Бацькаўшчынаў»[453].

Аўстралія. Справаздачу зь дзейнасьці Аўстралійскага сэктару прыслаў старшыня яго Др. Я. Малецкі. У сэктары 11 сяброў. Усе плацяць складкі нацыянальнага падатку. 9 сяброў прыслала ўпаўнаважаньні на 16-ю Сэсію РБНР. Усе сябры радныя бяруць чынны ўдзел у беларускім жыцьці. Апрача таго яны: 1. Сочаць за савецкай прапагандай і даюць ёй адпор. 2. Др. Я. Малецкі зрабіў два даклады на тэму «Што дзеецца ў Саветах і на нашай Бацькаўшчыне». 3. У Сыднэі пры Этнік Радыё працуе на трох станцыях Беларускі аддзел. Кіраўнік яго — сп. А. Качан, а лектары — сп-ня Аўгеня Каранеўская і сп. М. Лужынскі. Перадачы перадаюцца раз у тыдзень адну гадзіну. Радыё робіць вялікую інфармацыйную працу.

Нямеччына. Сп. Уладзімер Бортнік, заступнік Старшыні РБНР на Эўропу й старшыня сэктару ў Нямеччыне, пераслаў на рукі Старшыні Рады БНР др. Вінцэнта Жук-Грышкевіча справаздачу, якую Старшыня Рады БНР прачытаў на Сэсіі. У справаздачы падаецца наступнае: 1. 20 лютага 1979 г. адбылося ў Люцэрне, Швайцарыі паседжаньне сталых удзельнікаў «Эўрапэйскае Канфэрэнцыі Правоў Чалавека й Самавызначэньня» (ЭКПС), на якім галоўна абмяркоўвалася пытаньне наладжаньня канфэрэнцыі для народаў краін-сатэлітаў. Гэтая канфэрэнцыя адбылася 24–26 жніўня 1979 г. у Люцэрне. 2. Для абмеркаваньня далейшай працы склікаецца паседжаньне сталых прадстаўнікоў ЭКПС на 15 студзеня 1980 г. у Люцэрне. На парадку дня стаяць справы: фінансаў, алімпіяды ў Маскве 1980 г. і справа Мадрыдзкага Трыбуналу[454]. Гэты Трыбунал мае складацца з фаховых юрыстых і ягоным заданьнем у першую чаргу было-б знайсьці шляхі й спосабы сачыць за працай удзельнікаў Канфэрэнцыі бясьпекі й супрацоўніцтва ў Эўропе, якая пасьля Гэльсінак і Бэльграду будзе працягваць сваю працу ў лістападзе 1980 г. у Мадрыдзе (Гішпаніі).

Сп. Старшыня Рады БНР прачытаў прывітальны ліст Сэсіі ад старшыні Чыкагскага сэктару сп. В. Пануцэвіча.

---

[452] Resource List for a Multicultural Society. An Experience 1976. Project. Toronto, 1976. 626 p. На с. 71–76 змешчаная бібліяграфія, прысвечаная беларусам Канады.

[453] Першы «Фестываль Бацькаўшчынаў» адбыўся ў Атаве 21 траўня 1979 г. Беларусы бралі ў ім актыўны ўдзел. Гл.: Вішневіч, Язэп. Беларусы ў Атаўскім фэстывалі // Беларус. № 267. Ліпень 1979. С. 3.

[454] Маецца на ўвазе Мадрыдская канферэнцыя АБСЕ, што адбывалася ў 1980–1983 гг.

Прывітаньне 16-й Сэсіі РБНР прыслаў радны сп. Пётра Барысік з Бэльгіі і радны Др. Віктар Сянкевіч з Гішпаніі.

Да 9.

Сп. М. Ганько меў заўвагу да справаздачы сакратара фінансаў сп. В. Кажана, які ў справаздачы падае сумы толькі ў амэрыканскай валюце. Канадыйскія радныя зарабляюць і плацяць складкі нацыянальнага падатку ці даюць на Дар 25 Сакавіка канадыйскімі далярамі. І агульная сума, унесеная Канадыйскім сэктарам у Касу БНР, павінна быць паказана ў справаздачы сакратара фінансаў гэтаксама і ў канадыйскіх далярах. Прыкладам, у справаздачы Галоўнага скарбніка падана сума з Канады 188.01 даляры, у сутнасьці Канадзкі сэктар даў 220.00 даляраў.

Сп. В. Кажан, сакратар скарбу, згадзіўся з сп. М. Ганьком, што трэба было-б у справаздачы падаваць сумы ў падвойнай валюце, але гэта справа скамплікавана, бо ёсьць розныя краіны й розныя валюты, зь якімі ён мае дачыненьне.

Др. Уладзімер Набагез у вадказ на закіды, чаму ён як старшыня Нью Ёрскага Сэктару дагэтуль ня склікаў сходу ды не сарганізаваў належнага сэктару, адказаў, што ён ніколі ня быў старшынём сэктару ў Нью Ёрку. Ён быў старшынём Амэрыканскага сэктару, і пасьля разьбіцьця гэтага сэктару на чатыры паасобныя ён перастаў быць старшынёй.

Старшыня Рады БНР да Др. Набагеза: *«Дык Вам як старшыні Амэрыканскага сэктару тым больш павінна балець, што ў Нью Ёрку, дзе найбольш радных, няма сэктару»*.

Др. Набагез: На апошняй Сэсіі сп. Ул. Курыла згадзіўся склікаць сход радных Нью Ёрку.

Сп. Ул. Курыла запярэчыў, кажучы, што ён згадзіўся-б быць старшынём сэктару ў Нью Ёрку, калі-б яго сябры выбралі. Сакратар папярэдняй Сэсіі пацьвердзіла праўдзівасьць слоў сп. Курылы.

Др. Раіса Жук-Грышкевіч прапанавала, каб Сэсія выбрала ці назначыла канкрэтную асобу, якая-б склікала сход радных Нью Ёрку ды занялася арганізацыяй сэктару.

Др. Ул. Набагез заявіў: *«Я склічу сход радных Нью Ёрку»*.

Др. Язэп Сажыч ды іншыя сябры прапанавалі, каб са скарбу БНР палажыць 10,000.00 даляраў на «сэртыфікат», які даваў-бы значны даход. Сакратар фінансаў сп. В. Кажан ды іншыя радныя ўважалі, што, па-першае, у касе РБНР няма дзесяці тысяч даляраў, а па-другое, грошы патрэбныя на праводжаньне працы, а не на тое, каб яны зараблялі працэнты; калі-б быў запас, справа іншая, але яго няма.

Др. Я. Сажыч спытаўся, якія адносіны Рада БНР мае ці павінна мець да АБН[455]?

---

[455] **Антыбальшавіцкі блок народаў (АБН)** (укр. *Антибільшовицький блок народів*, англ. *Anti-Bolshevik Bloc of Nations*) — створаная ўкраінскімі нацыяналістамі ў 1943 г. і структурна афармленая ў Мюнхене ў 1946 г. арганізацыя, што стала

Старшыня Сэсіі Праф. Антон Адамовіч у падсумаваньні адказаў, што як прадстаўніку ад Рады БНР у АБН нельга браць удзелу, але асабіста можна й трэба. Старшыня Сэсіі заклікаў усіх займацца палітыкай, хто можа й хоча. Ён падкрэсьліў значэньне Радыя «Лібэрты», перадачы якога на Бацькаўшчыне слухаюць. Прыкладам, нядаўна паявіўся верш Броўкі «Салоўка й варона»[456], ён відавочна адносіцца да нядаўна памерлага Алеся Салаўя[457]. Сп. Старшыня заклікаў даваць ахвяры на выданьне зборніка твораў Алеся Салаўя[458].

Тут быў перарыў на полудзень, прыгатаваны сябрамі раднымі Нью Ёрку.

Да 10.

Дзеля таго, што трудна знайсьці ахвотнікаў прыняць функцыі Сакратарыяту, Старшыня Рады БНР др. В. Жук-Грышкевіч прапанаваў, каб функцыі Сакратарыяту пераняў Прэзыдыюм Рады БНР. Старшыня Рады БНР прапанаваў таксама, каб былыя сябры Прэзыдыюму Рады БНР былі пераабраныя ды дагэтулішнія сакратары былі ўключаныя ў Прэзыдыюм Рады БНР, а каб Сэсія яшчэ давыбрала сакратара вонкавых дачыненьняў, які быў-бы з ЗША.

Прапанову Старшыні Рады БНР Сэсія прыняла. У Прэзыдыюм Рады БНР былі перавыбраны (апрача Старшыні Рады БНР, якога кадэнцыя канчаецца за тры гады) заступнік Старшыні Рады БНР Др. Барыс Рагуля, Праф. Антон Адамовіч, сп. Васіль Русак, сп. Антон Шукелойць, сп. Віталі Кажан як сакратар фінансаў, Др. Янка Запруднік — сакратар дакумэнтацыі, гэнэрал Язэп Сажыч — сакратар вэтэранаў і выбраны Др. Расьціслаў Гарошка.

Такім чынам, у Прэзыдыюм Рады БНР цяпер уваходзяць: Старшыня Рады — Др. Вінцэнт Жук-Грышкевіч, заступнікі Старшыні Рады БНР — Др. Барыс Рагуля, сп. Мікола Нікан на Аўстралію, сп. Уладзімер Бортнік на Эўропу, Праф. Антон Адамовіч, сп. Васіль Русак, сп. Віталі Кажан, сп. Антон Шукелойць, Др. Ян Запруднік, Др. Язэп Сажыч, Др. Расьціслаў Гарошка.

У Кантроль Рады БНР былі выбраны: Старшыня — айцец пратаярэй Васіль Кендыш, сакратар — сп. Васіль Стома, сп. Мікола Войтанка і адзін заступнік сп. Уладзімер Курыла.

У Суд Рады БНР абраны: сп. Васіль Плескач — старшыня, сп. М. Кунцэвіч і сп. Уладзімер Русак.

Да 11.

Старшыня Рады БНР прыпомніў прысутным, што ён гаварыў у заключэньні свайго дакладу пра галоўныя вытычныя пляну працы, калі ён паставіў

---

каардынацыйным цэнтрам антыкамуністычнай дзейнасці эмігрантаў на Захадзе. Аднак у Рады БНР ад канца 1940-х гг. дачыненні з АБН не склаліся.

456 Выглядае, што верш Петруся Броўкі «Салоўка і варона» насамрэч ніяк не звязаны з асобай Алеся Салаўя і эміграцыяй наогул. Гл.: Броўка, Пятрусь. Вершы, паэмы, апавяданні, аповесці, раман «Калі зліваюцца рэкі». Мінск, 2008. С. 515.

457 Алесь Салавей памёр у Мельбурне 22 студзеня 1978 г.

458 Маецца на ўвазе кніга: Салавей, Алесь. Нятускная краса: збор твораў. Нью Ёрк — Мэльбурн, 1982. — XVI+373 с.

пытаньне, што рабіць далей, дагэтуль немагчыма было стварыць поўнага Сакратарыяту — выканаўчага воргану, дзеля таго ня можна было плянаваць і разгарнуць патрэбнай працы. Цяпер, калі абавязкі Сакратарыяту пераняў пашыраны Прэзыдыюм Рады БНР, нам трэба прадумаць і апрацаваць плян далейшай працы. У выніку дыскусіі пастанавілі даручыць абранаму Прэзыдыюму абмеркаваньне і апрацоўку пляну працы на будучае.

Да 12.

Старшыня Сэсіі Праф. Антон Адамовіч паведаміў, што тымчасова поўнячы абавязкі старшыні Дырэкцыі Фундацыі Крэчэўскага Др. Вітаўт Тумаш не зьявіўся на Сэсію й нікому справу справаздачы зь цяперашняга стану Фундацыі Крэчэўскага не перадаў. Дзеля таго гэта пытаньне не разглядалася.

На рукі «Старшыні 16-ай Сэсіі Рады БНРэспублікі» быў прысланы спадаром А. Стагановічам ліст у справе сяброўства сп. К. Мерляка ў Радзе БНР. Прэзыдыюм Сэсіі пастанавіў перадаць гэты ліст Суду Рады БНР.

16 Чародная звычайная Сэсія Рады БНР закончылася а гадзіне 5-ай папаўдні адсьпяваньнем нацыянальнага гімну.

*Нью Ёрк, ЗША*

*Сакавік, 1980*

*Антон Адамовіч, Старшыня Сэсіі.*

*Раіса Жук-Грышкевіч, сакратар Сэсіі.*

*Янка Запруднік, сакратар Сэсіі.*

## ПРАТАКОЛ ПАСЕДЖАНЬНЯ ПРЭЗЫДЫЮМУ РАДЫ БНР з дня 20 верасьня 1981 г.

Месца паседжаньня: Канцылярыя Фундацыі Крэчэўскага, Нью Ёрк, НЁ.

Прысутныя: Старшыня Рады БНР др. В. Жук-Грышкевіч, др. Б. Рагуля, сп. У. Бортнік, др. Я. Запруднік, сп. А. Шукелайць, сп. В. Кажан, др. Р. Жук-Грышкевіч, сп. В. Русак; сп. А. Адамовіч і сп. Р. Гарошка прыбылі пазьней.

Парадак дня паседжаньня Прэзыдыюму Рады БНР:

1а. Адкрыцьцё й паясьненьні.

1б. Адчытаньне пратаколу з папярэдняга паседжаньня (19 кастр. 1980 г.).

2. Устанаўленьне пляну працы з усіх дзялянак дзейнасьці Рады БНР на рэшту гэтага году й на наступны год:

а. дзейнасьць заступнікаў Старшыні Рады БНР на Амэрыку, на Эўропу і Аўстралію.

б. дзейнасьць Галоўнага скарбніка Рады БНР.

в. дзейнасьць сакратара Прэзыдыюму Рады БНР.

г. дзейнасьць сакратара дакумэнтацыі.

д. дзейнасьць сакратара да спраў беларускай асьветы й навукі.

е. дзейнасьць сакратара да спраў вэтэранаў.

ж. дзейнасьць сакратароў вонкавых дачыненьняў на Эўропу і на Амэрыку.

з. дзейнасьць сакратара інфармацыі ў справах нутранога жыцьця й дачыненьняў з нашымі суседзямі.

3. Рознае:

а. Архіў Рады БНР.

б. Міжнародная сытуацыя.

в. Суадносіны з нашымі суседзямі.

Да п. 1а.

Старшыня Рады БНР адчыніў паседжаньне й заўважыў, што на апошнім паседжаньні Прэзыдыюму былі распадзелены функцыі, але ня была ўложана праграма дзейнасьці. Гэта трэба зрабіць на сяньняшнім паседжаньні. Др. В. Жук-Грышкевіч запрапанаваў вышэй пададзены парадак дня.

Др. Я. Запруднік і др. Б. Рагуля прапанавалі прыняць парадак дня. Засьцярогаў іншых ня было, парадак дня быў прыняты.

Да п. 1б.

Сп. В. Русак прачытаў пратакол папярэдняга паседжаньня Прэзыдыюму Рады БНР. Сп. А. Шукелайць заўважыў, што ў пратаколе была прапушчана заўвага, што сп. Лявіцкі[459] ёсьць адзіным сябрам УНРады. Пратакол быў прыняты з вышэйшай папраўкай.

Да п. 2.

Старшыня Рады БНР др. В. Жук-Грышкевіч прасіў сяброў Прэзыдыюму, што будуць даваць справаздачы зь дзейнасьці, каб выказаліся аб плянах на будучыню.

а. Др. Б. Рагуля, заступнік Старшыні Рады БНР на Амэрыку, думаў шмат пра сваю ролю ў Прэзыдыюме; лічыць сваім абавязкам трымаць кантакт зь беларускімі арганізацыямі й групамі й сачыць за саліднасьцю беларускіх выдавецтваў. Апошнім часам у сувязі з царкоўнымі спорамі, паявіліся публікацыі, за якія робіцца сорамна. «Беларускі Час»[460] стаў з добрай газэты пашквілем. Др. Рагуля радзіць, не ўваходзячы ў дэталі, зьвярнуцца да царкоўных дзейнікаў, каб палагодзілі споры бяз цывільных судоў, і зьвярнуцца да прэсы, каб трымал высокі ўзровень рэпартажаў.

Др. В. Жук-Грышкевіч: Лічыць, што Рада БНР ня можа ўмешвацца ані ў царкоўныя справы, ані ў справы прэсы.

Сп. В. Русак і др. Я. Запруднік сьцьвердзілі, што справа не ў мяшаньні ў прэсу, а каб асоба, што занімае становішча ў Радзе БНР, не кампрамітавала гэтае-ж Рады праз безадказнае пісаньне.

Сп. В. Кажан напомніў, што др. Б. Рагуля прапанаваў Радзе заняць становішча ў справах царквы й прэсы, ня ўмешваючыся ў іх справы.

---

459 **Мікалай Лівіцкі** (1907–1989), украінскі палітычны дзеяч, журналіст. У 1967–1989 гг. — Прэзідэнт УНР у выгнанні.

460 **«Беларускі час»** (*Byelorussian Times*) — двухмоўны беларускі часопіс, што выдаваўся ў Нью-Ёрку ў 1975–1987 гг. Галоўны рэдактар — Расціслаў Гарошка.

Сп. У. Бортнік: Умешвацца ў справы царквы й прэсы нельга, але зварот да прыватных крыніцаў магчыма быў-бы пажаданы.

Др. Раіса Жук-Грышкевіч выказалася супраць умешваньня ў справы царквы й прэсы.

Др. Я. Запруднік: Інтэнцыя прапановы др. Б. Рагулі ёсьць добрая; ёсьць, аднак, небясьпека, што яна можа ўвесьці дысананс і выклікаць больш недарэчнасьцяў.

Сп. А. Шукелайць прыпомніў, што яшчэ на папярэднім паседжаньні перасьцерагаў Раду БНР ад умешваньня ў царкоўныя справы. Калі маем штось рабіць, мусім упэўніцца, што гэта прынясе карысьць, а ня шкоду для справы. Ужо сёлета сьвятары ня служылі малебен перад урачыстасьцю 25-га Сакавіка й ня былі на сьвяткаваньні, а безадказныя асобы пачалі называць нас камуністамі.

Др. Я. Запруднік прапануе вярнуцца да парадку дня.

Др. В. Жук-Грышкевіч перадаў слова сп. Ул. Бортніку для справаздачы.

Сп. Ул. Бортнік падаў справаздачу за час апошняга паседжаньня Прэзыдыюму Рады БНР. Ён ёсьць у экзэкутыве Эўрапэйскай канфэрэнцыі правоў чалавека (ЭКПЧ), якая даволі актыўна праводзіць дзейнасьць. ЭКПЧ яшчэ ня поўнасьцю скамплектаванае: некаторыя краіны ня маюць прадстаўнікоў у арганізацыі. Стала адбываюцца канфэрэнцыі. На канфэрэнцыі 18.XI.1980 ангельскі прадстаўнік г. Стуварт Сміт уключыў у сваю справаздачу дамаганьне ад Мадрыдзкай Канфэрэнцыі, каб заўсёды паклікацца на правы чалавека. 24–25 сакавіка[461] пастаноўлена склікаць канфэрэнцыю, прысьвечаную Польшчы. 7–9 ліпеня 1981 г. нямецкі дакладчык паказаў у сваім дакладзе, што немцы больш ведаюць пра Польшчу, чым палякі. Высновак ёсьць, што немцы не забываюць пра мінулае. Ёсьць праэкт канфэрэнцыі ў Люцэрне падсавецкіх народаў у справе русыфікацыі.

Парыскі Блёк існуе; рады яго парадзелі. На чале стаіць Лявіцкі; ён пераяжджае ў Філядэльфію, ЗША. Гэта трэба мець на ўвазе.

Сп. А. Шукелайць запытаў, што будзе, калі сп. Лявіцкі пераедзе ў ЗША?

Сп. У. Бортнік: Магчыма, ён стане заступнікам старшыні Блёку на Эўропу.

Др. В. Жук-Грышкевіч радзіў сп. Бортніку пашырыць кантакты па-за Люцэрну й заснаваць прадстаўніцтвы ў іншых краінах, нп. Англіі. Да дапамогі можна запрасіць сп. сп. П. Наўмовіча й В. Сянкевіча.

Ад заступніка Старшыні Рады БНР на Аўстралію справаздача не паступіла.

Сп. А. Адамовіч паінфармаваў, што ў Аўстраліі памёр радны Пётра Мікуліч[462]. Вырашана запрапанаваць сп. М. Нікану, каб запрасіў у Раду сп-ню А. Каранеўскую[463].

---

[461] У арыгінале замест году пазначана — «1,_1 г.» Напэўна, маецца на ўвазе 1981 г.

[462] Пётра Мікуліч памёр 23 жніўня 1981 г. у Мельбурне (Аўстралія).

[463] Не зусім зразумела, што маецца на ўвазе, бо Аўгіння Каранеўская даўно была раднай БНР і нават кіраўніцай Аўстралійскага сектара.

б. Скарбнік Рады БНР сп. В. Кажан падаў грашовую справаздачу Рады. Ёсьць выдаткі. Пасьля разьліку ў касе Рады будзе каля 9000.00 дал. Сп. Кажан падаў грашовыя паступленьні з кожнага сэктару Рады БНР. Частка праблемы ў тым, што цяпер ёсьць шмат пэнсіянэраў, а пэнсіянэры звольнены ад складак.

Сп. А. Шукелайць інфармуе, што БАЗА як галоўная беларуская грамадзкая арганізацыя ў ЗША бярэ ўдзел ў некаторых падзеях, як, нп., Мадрыдзкая канфэрэнцыя, што па-сутнасьці маюць палітычны характар. Гэта дзейнасьць зьвязана з выдаткамі; лічыць, што Рада БНР павінна памагчы пакрыць гэтыя выдаткі.

Др. В. Жук-Грышкевіч: У прынцыпе так, аднак гэта можа стварыць прэцэдэнт для іншых арганізацыяў і выклікаць незадавальненьне.

Др. Р. Жук-Грышкевіч: Выданьне «Мэмарандум» у сувязі з Мадрыдзкай канфэрэнцыяй ня было работай БНР.

Др. Б. Рагуля будзе лічыць свае ўклады ахвяраю.

Сп. Шукелайць далей інфармуе, што іншыя нацыянальныя групы мелі сваіх прадстаўнікоў у Мадрыдзе. Мы прадстаўніка не змаглі выслаць дзеля недахопу сродкаў.

Было прынята рашэньне, што БНР павінна ў меру магчымасьцяў фінансаваць беларускую палітычную акцыю.

в. Сп. В. Русак, сакратар Прэзыдыюму Рады БНР, можа ў сяньняшніх абставінах рабіць тое, што рабіў да гэтага часу: быць сакратаром паседжаньняў Прэзыдыюму Рады БНР.

г. Др. Я. Запруднік: Важнай справай ёсьць рэдагаваньне газэты «Беларус». Некаторыя актуальныя тэмы: дакумантацыя гісторыі БНР, Кукабака — сымбаль супраціву, «Лысая гара»[464], кантакты на выдавецкай ніве зь беларусамі Польшчы; у газэце ўведзена ангельская балонка. Працуе ў Радыё «Свабода», распрацоўвае новыя падыходы да перадачаў: самадумства, паэты — абаронцы мовы ды іншыя. Працуе над зборнікам падзеяў 1917–1918 гадоў, над дакумэнтацыяй гісторыі 1902–1919 гадоў у ангельскай мове. Рыхтуецца да 100-годзьдзя Купалы й Коласа.

д. Сп. А. Адамовіч: сакратар для справаў асьветы й навукі, падае наступныя галіны дзейнасьці: ёсьць даведнікам для др. Я. Запрудніка, «Купала-Коласаўскае стагодзьдзе»[465], гісторыя літаратуры, рэдагаваньне зборніка Алеся Салаўя, камэнтары да літаратуры у БССР; едзе на сьвяткаваньне 10-ці годзьдзя Бібліятэкі Ф. Скарыны ў Лёндане[466], рэфэраты, успаміны Дубейкаўскай. Закладае грошы, каб купіць ратзлатар для беларусаў у Польшчы, які там ёсьць вельмі патрэбны.

---

[464] Маецца на ўвазе паэма Францішка Ведзьмака-Лысагорскага (Ніла Гілевіча) «Сказ пра Лысую гару».

[465] Маюцца на ўвазе мерапрыемствы па адзначэнні стагоддзя ад нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа, што ладзіліся беларусамі на Захадзе.

[466] Святкаванне 10-годдзя Беларускай бібліятэкі імя Ф. Скарыны ў Лондане адбывалася 4 кастрычніка 1981 г.

е. Справаздачы ня было[467].

ж. Др. Р. Гарошка: сакратар вонкавых дачыненьняў на Амэрыку: магчымасьці дзейнасьці ёсьць абмежаваныя, Амэрыка нацыянальнымі праблемамі ня вельмі цікавіцца, амэрыканская палітыка ў дачыненьні Ўсходняй Эўропы ёсьць у аснаўным прарасейская; ёсьць сябрам Рэзалюцыйнай камісіі Рэспубліканскай Партыі па этнічных справах; выдае газэту «Час»[468] у ангельскай мове, якая робіць сваю работу.

Др. Б. Рагуля: ізноў сказаў, што газэта была добрай, а цяпер стала пашквілем; папытаў др. Гарошку, ці ён ёсьць выдаўцом газэты; атрымаўшы адказ, што «так», зьвярнуўся да яго, каб пастараўся падняць яе ўзровень.

Др. Гарошка з аргумантам др. Рагуле не пагадзіўся, лічыць газэту добрай, патрабуе больш супрацоўніцтва.

Др. В. Жук-Грышкевіч запытаў др. Гарошку, якія ёсьць сувязі з суседскімі народамі.

Др. Р. Гарошка: Ёсьць сувязі з армянамі і ўкраінцамі, пераважна па лініі Рэспубліканскай партыі. Адносіны гэтыя прыязныя. Адносін з палякамі няма. Пра нас іншыя наагул мала ведаюць.

з. Справаздачы не паступіла[469].

Да п. 3.

Др. В. Жук-Грышкевіч, Старшыня Рады БНР, крануў пытаньне забясьпекі архіваў Рады БНР. У Канадзе ёсьць месца, Кэнэдыен Фэдэрал Аркайус[470], дзе можна злажыць архівы. Там зложаны архівы УНРады. Раней спадзяваўся, што архіў будзе заснаваны пры Фундацыі Крэчэўскага. Просіць разважыць пытаньне архіву Рады БНР.

Сп. А. Адамовіч заявіў, што арганізацыя пакуль жыве, не аддае справаводзтва ў архіў.

Сп. А. Адамовіч і др. Я. Запруднік думаюць, што ў Нью Ёрку будзе архіў; людзкія рэсурсы ёсьць. Гэтую думку падтрымаў сп. А. Шукелайць; будзе архіў, музэй, бібліятэка; ён перахоўвае цэнныя рэчы.

Сп. У. Бортнік: Архіў трэба мець блізка да карыстаньня, павінна быць завяшчаньне на выпадак сьмерці.

Др. Р. Жук-Грышкевіч: У іх можа быць праблема ў сувязі са зьменаю памешканьня.

Сп. А. Шукелайць: Старэйшы архіў БНР быў часткава ў Вільні й часткава ў Празе, цяпер гэта ўсё ў Маскве. Трэба быць асьцярожным, каму аддаваць архіў. Ёсьць таксама архівы пры ўнівэрсытэтах. Пакуль-што трэба трымаць, архіў патрэбны ў працы. Яму было цяжка працаваць бяз архіву БАЗА.

---

[467] Алоўкам дапісана: Сажыч.

[468] Маецца на ўвазе ўжо згаданая вышэй газета «Беларускі час».

[469] Алоўкам дапісана: Шукелойць.

[470] Маюцца на ўвазе сучасныя Бібліятэка і архіў Канады (*Library and Archives Canada*) у Атаве, дзе захоўваюцца і беларускія фонды, у тым ліку фонд Раісы Жук-Грышкевіч. Гл.: http://www.bac-lac.gc.ca.

Др. В. Жук-Грышкевіч: Трэба разрозьніваць навейшы працоўны архіў і гістарычны архіў. Гістарычны архіў павінен быць даступны для ўсіх.

Др. Р. Гарошка прапанаваў зрабіць мікрафільмы з дакумантаў з арыгіналаў і перадаць на перахаваньне.

Др. Б. Рагуля падтрымаў думку мікрафільмаў.

Др. Р. Жук-Грышкевіч і сп. А. Адамовіч згадзіліся, што перадача архіву да адбору.

Сп. У. Бортнік: Трэба лічыцца з рэальнасьцю.

Вырашана аставіць архіў часова так, як ёсьць бязь зьмены.

б. і в. Пытаньні дыскутаваліся ў папярэдніх пунктах парадку дня.

Др. В. Жук-Грышкевіч, Старшыня Рады БНР, падзякаваў прысутным за ўдзел і працу ў паседжаньні Прэзыдыюму Рады БНР і зачыніў нараду.

*Нью Ёрк, Н. Ё.*

*10 лістапада 1982 г.*

*Др. В. Жук-Грышкевіч, Старшыня Рады БНР.*

*В. Русак, сакратар Прэзыдыюму Рады БНР.*

## ПРАТАКОЛ 17-АЙ ЗВЫЧАЙНАЙ ЧАРОДНАЙ СЭСІІ РАДЫ БНР,

## што адбылася 27 лістапада 1982 г. у будынку Фундацыі імя П. Крэчэўскага, 166-34 Готык Драйв, Джамэйка, Нью Ёрк, 11423, ЗША

Удзельнікі: У Сэсіі ўзяло ўдзел 58 радных, зь іх 23 былі прысутныя асабіста, а 35 прыслалі свае ўпаўнаважаньні. Удзельнікі Сэсіі рэпрэзэнтавалі сэктары Рады БНР ЗША, Канады, Аўстраліі, Францыі, Бэльгіі, Заходняй Нямеччыны й Вялікабрытаніі.

Парадак дня:

1. Адкрыцьцё Сэсіі, малітва і адданьне пашаны памёрлым радным і змагаром за БНР.
2. Выбары Прэзыдыюму Сэсіі.
3. Устанаўленьне ліку прысутных радных і ўпаўнаважаных галасоў. Прыняцьцё новых радных.
4. Устанаўленьне парадку дня..
5. Прыняцьцё пратаколу 16-й Сэсіі.
6. Даклад Старшыні Рады БНР.
7. Даклады: Галоўнага скарбніка, сакратароў: вонкавых дачыненьняў на Эўропу і Амэрыку, інфармацыі й дакумэнтацыі, вэтэранаў.
8. Справаздачы сэктараў Рады БНР.

9. Дыскусіі над справаздачамі.
10. Выбары Старшыні Рады БНР.
11. Плян працы на наступныя тры гады (прапануюць сябры Прэзыдыюму — сакратары сваіх аддзелаў).
12. Markdown: Рознае: справаздача Фундацыі імя П. Крэчэўскага.
Да п. 1.
Старшыня Рады БНР др. Вінцэнт Жук-Грышкевіч адкрыў 17-ю Сэсію Рады БНР а гадзіне 10:10 ураньні. На ягоную прапанову ўдзельнікі Сэсіі пасьля супольна адсьпяванай малітвы «Магутны Божа» хвілінай маўчаньня выказалі пашану памёрлых ад часу апошняе Сэсіі сяброў радных і змагароў за БНР: др. Станіслава Станкевіча — рэдактара і публіцыста, др. Язэпа Малецкага — старшыні Аўстралійскага сэктару і раднага Пётры Мікуліча з падсэктару ў Мэльбурне ў Аўстраліі.
Да п. 2.
У Прэзыдыюм Сэсіі былі выбраныя: Старшыня — др. Янка Запруднік, сакратары — др. Раіса Жук-Грышкевіч і сп. Антон Шукелойць.
Да п. 3.
Прэзыдыюм устанавіў, што на Сэсіі прысутнічала 23 сябры радных асабіста, а 35 радных прыслалі свае ўпаўнаважаньні. Такім парадкам у Сэсіі ўзяло ўдзел 58 радных.
Да п. 4.
Па адчытаньні парадку дня 17-ай Сэсіі, прапанаванага «Камунікатамі» Нр. 13 Рады БНР, Старшыня Сэсіі др. Запруднік запрапанаваў дадаць пункт аб разглядзе справы БАПЦ. На гэтую прапанову выказаў гарачы пратэст Старшыня Рады БНР др. В. Жук-Грышкевіч, які заявіў, што паводля канстытуцыйных асноваў БНР — так, як і ў дэмакратычных дзяржавах — царква незалежная ад дзяржавы. Дык разгляданьне царкоўных справаў на Сэсіі Рады БНР было-б антыдэмакратычным і нелегальным ды гвалціла-б правы неправаслаўных радных і тых, хто не практыкуе рэлігіі. У гісторыі БНР такога чыну яшчэ ня было.
Сп. Ул. Русак запрапанаваў справу царквы дадаць як падпункт да апошняга пункту «Рознае». За гэта выказаліся сп. сп. Я. Азарка, К. Мерляк, М. Ганько, В. Русак.
Старшыня Рады БНР ізноў запратэставаў, кажучы, што гэта была-б нелегальшчына.
Старшыня Сэсіі паставіў прапанову на галасаваньне: Хто за тое, каб да п. Рознае дадаць падпункт «Справа царкоўная»?
Прапанова прайшла бальшынёй галасоў. Восем галасоў было супраць, адзін устрымаўся.
Да п. «Рознае» быў дададзены яшчэ адзін падпункт: «Хто радны, а хто не?».
Да п. 5.
Пратакол з 16-й Сэсіі Рады БНР быў прыняты без паправак.

Да п. 6.

Даклад Старшыні Рады БНР:

*«Дзьве кадэнцыі майго старшынства — па 6 гадоў кожная — вымагалі шмат высілкаў і працы і далі пазытыўныя вынікі, хоць і не такія, як хацелася-б.*

*У часе першай кадэнцыі найбольшая ўвага была зьвернута на рэарганізацыю Рады БНР згодна з вымогамі ўсталенага ўжо паваеннага жыцьця, а ў сувязі з гэтым трэба было апрацаваць і новы, актуальны Статут Рады БНР, які адпавядаў-бы вымогам часу і абставінаў, вымогам эканамічнага й грамадзкага жыцьця й палітычнай каньюктуры. Статут Рады БНР быў прыняты на 11-ай Сэсіі ў 1971 г. і на 12-й у 1973 г. ды папраўкі да Статуту Рады БНР былі ўнесеныя на 13-й Сэсіі ў 1974 г. і 15-й — 1978 годзе.*

*Нармальны парадак арганізацыі Рады БНР, пры якім поруч з Прэзыдыюмам Рады БНР існуе Ўрад БНР як выканальны орган, праіснаваў вельмі коратка. Прэм'ер Ураду сп. Я. Запруднік хутка падаўся ў дымісію, бо заняўся сваім дактаратам. Устанавіць-жа сталы ўрад БНР не ўдалося з прычыны нэгатыўных адносінаў да гэтага, здавалася-б, працаздольных і выробленых палітычна радных. Сярод іх знайшліся нават такія, якія ня толькі самі адмаўляліся заняць тыя ці іншыя рэсорты ў Урадзе, але й стараліся рознымі спосабамі ўплынуць на іншых, якія згаджаліся заняць прапанаваныя ім становішчы, каб яны зракліся свае згоды. Не ўдалося з тых-жа прычынаў устанавіць і сталай канцылярыі Рады і Ўраду із сталым адказным кіраўніком яе.*

*Дзеля гэтых прычынаў увесь цяжар працы Рады і Ўраду БНР зваліўся на Старшыню Рады БНР і часткова на Прэзыдыюм Рады БНР, усталяваньне функцыяў сяброў якога працягваецца далей. Гэтым спосабам працы была занятая мая другая кадэнцыя.*

*Між іншага, 21 красавіка 1979 г. была праведзеная мною ў Лёндане ў Ангельшчыне Канфэрэнцыя эўрапейскіх сэктараў Рады БНР. Праводзіліся неабходныя крокі і ў вонкавых дачыненьнях, як кантакты з радамі розных дзяржаваў і зь іхнімі дэлегацыямі ў Задзіночаных Нацыях. Спрыяла гэтаму тая акалічнасьць, што знайшліся ў Нью Ёрку людзі, якія гасьцілі мяне ў сябе па некалькі дзён, як сп-ва Ганна*[471] *й Валодзя Русакі, сп-ні Натальля й Галіна*

[471] **Ганна Русак** (*дзяв.* **Лукашэвіч**, 18.07.1919, Баранавічы, сёння Брэсцкая вобл. — 27.11.2004, Нью-Ёрк, ЗША), грамадская дзяячка, жонка Уладзіміра Русака. У 1939 г. закончыла польскую гімназію ў Баранавічах і паступіла на фізіка-матэматычны факультэт Віленскага ўніверсітэта, аднак навучанню зашкодзіла Другая сусветная вайна. Да чэрвеня 1944 г. жыла разам з мужам у Баранавічах, пасля чаго выехала на эміграцыю. У 1946 г. паступіла ва ўніверсітэт *UNRRA* ў Мюнхене, але навучацца не змагла. У 1949 г. прыбыла ў ЗША. Працавала на швейнай фабрыцы. Была сябрам Беларуска-амерыканскага задзіночання, актывісткай Нью-ёркскага аддзела арганізацыі, а таксама жаночай секцыі.

*Орса*[472]*, сп-ва Люба й Віталі Кажаны ды сп-ва Вера й Францішк Бартулі. Усім ім складаю тут шчырую падзяку.*

*Зьявіліся новыя камплікацыі й цяжкасьці ў беларускім жыцьці й працы ў сувязі з царкоўнымі непаладкамі, перамагчы якія ў маім веку пры маіх сілах і здароўі сталася немагчымым.*

*Пара заняць месца Старшыні Рады БНР чалавеку маладзейшаму й здаравейшаму, але, зразумела, дасьведчанаму й выпрактыкаванаму ў працы палітычнай і грамадзкай і ў новых спэцыфічных абставінах».*

Старшыня Рады БНР паведаміў, што ад апошняе Сэсіі былі прынятыя ў Раду БНР два новыя сябры: сп-ня Ларыса Урбан[473] зь Мюнхэну ды сп-ня Лёля Міхалюк[474] зь Лёндану (Ангельшчына), а сп. А. Калодка з Аўстралійскага сэктару выступіў з Рады БНР.

На жаданьне прысутных і Прэзыдыюму Сэсіі Старшыня Рады БНР прачытаў лісту сяброў-радных.

Да п. 7.

Справаздача Галоўнага скарбніка сп. Віталя Кажана[475].

Справаздача Кантрольнай камісіі.

Сп. Уладзімер Бортнік, сакратар вонкавых дачыненьняў на Эўропу, у сваёй справаздачы сказаў, што ягоная дзейнасьць заключалася перш-наперш у ягоным удзеле ў канфэрэнцыях: Эўрапейскай канфэрэнцыі ў пытаньнях правоў чалавека й самавызначэньня ды ў нарадах Парыскага блёку.

На канфэрэнцыі аб правох чалавека й самавызначэньні 1978 г., прысьвечанай нерасейскім народам СССР, сп. Бортнік браў удзел і зрабіў даклад

---

[472] **Галіна Орса** (15.02.1930, в. Нягневічы, сёння Навагрудскі раён Гродзенскай вобл. — 06.04.1984, Нью-Ёрк, ЗША), грамадская дзяячка, дачка Наталлі і Аляксандра Орсаў. Ад лета 1944 г. разам з бацькоўскай сям'ёй на эміграцыі. У 1949 г. закончыла Беларускую гімназію імя Я. Купалы ў Віндышбергердорфе. Пазней прыехала ў ЗША. Была сябрам Беларуска-амерыканскага задзіночання і Жаночага згуртавання. Актыўная парафіянка прыходу БАПЦ Св. Кірылы Тураўскага ў Брукліне.

[473] **Ларыса Урбан** была жонкай гісторыка Паўлы Урбана.

[474] **Лёля (Алена) Міхалюк** (дзяв. **Марцінкевіч**, нар. 15.05.1930, в. Лонскія Браслаўскага пав. Віленскага ваяв., сёння Шаркаўшчынскі раён Віцебскай вобл.), грамадская дзяячка, жонка Янкі Міхалюка. Вучылася ў польскай і беларускай школах. У часе Другой сусветнай вайны разам з маці апынулася на працах у Нямеччыне. Пазней трапіла ў беларускі лагер *DP* у Ватэнштэце; вучылася ў Беларускай гімназіі, брала ўдзел у скаўтынгу. У 1947 г. прыехала на працу ў Вялікабрытанію. Працавала на тэкстыльнай фабрыцы. Пасялілася ў Брадфардзе. Ад 1947 г. была сябрам Згрутавання беларусаў у Вялікабрытаніі. У 1960-я гг. аддала трох сыноў у Беларускую школу-інтэрнат імя св. Кірылы Тураўскага ў Лондане і следам за імі разам з мужам пераехала ў брытанскую сталіцу. У 1965–1970 гг. працавала гаспадыняй у гэтай школе-інтэрнаце. Актыўна падтрымоўвала БАПЦ у Вялікабрытаніі. Сябра Англа-беларускага таварыства. Пасля смерці мужа ў 1995 г. пераехала з Лондана ў Манчэстэр. У 1997–2013 гг. займала пасаду старшыні ЗБВБ.

[475] Напэўна, справаздачы былі на асобных аркушах. У пратаколе іх няма.

аб беларускай сытуацыі як прадстаўнік Старшыні Рады БНР і прадстаўнік Парыскага блёку.

На Эўрапейскай канфэрэнцыі ў пытаньнях правоў чалавека й самавызначэньня ў кастрычніку 1982 г. у сувязі з падзеямі ў Польшчы ўсе дзяржаўныя народы выказалі польскай «Салідарнасьці» сваё маральнае падтрыманьне. Прыхільна паставіўся да польскай «Салідарнасьці» й Парыскі блёк. У гэтай справе ён выдаў прэсавы камунікат ды выслаў эгзыльнаму польскаму ўраду спрыяльны ліст.

Др. Расьціслаў Гарошка, сакратар вонкавых дачыненьняў на Амэрыку, гаварыў аб неабходнасьці апрацаваньня нашай вонкавай палітыкі. Нам трэба ведаць, што мы хочам. Пэўна-ж, дзяржаўную дэмакратычную сувэрэннасьць у форме БНР, але ў дачыненьні з нашымі суседзямі нашая канцэпцыя БНР мусіць быць сканкрэтызаваная. Такую канцэпцыю нялёгка сканкрэтызаваць, распрацаваць, бо недастаткова матар'ялаў пра гісторыю Беларусі ды ейныя этнаграфічныя межы. Калі-б заўтра адбылася міжнародная канфэрэнцыя й нас на яе запрасілі, з чым-бы мы на яе пайшлі?

Др. Янка Запруднік, сакратар інфармацыі й дакумэнтацыі, сказаў, што на працягу справаздачнага пэрыяду ён далей займаўся зьбіраньнем дакумэнтацыі аб іншадумстве на Беларусі. Матар'ялаў ужо набралася на цэлы зборнік. Апошнім часам важныя дакумэнты былі атрыманыя з Польшчы. Частка дакумэнтацыі пра беларускіх іншадумцаў друкуецца ў газэце «Беларус», якую па сьмерці с.п. др. Ст. Станкевіча[476] др. Запруднік рэдагуе й выконвае шмат тэхнічнае работы, зьвязанае з выхадам газэты.

Паколькі справа беларускае мовы ў «Голасе Амэрыкі» вымагае дадатковых аргумэнтаў, сакратар інфармацыі й дакумэнтацыі ўзяўся за складаньне анталёгіі вершаў беларускіх паэтаў, прысьвечаных роднай мове. Ужо налічваецца больш за сто аўтараў для гэткае анталёгіі, і кніга, калі дазволіць час, выйдзе ў сьвет у 1983 годзе.

Далей застаецца актуальнай справа выданьня дакумэнтаў да гісторыі БНР 1917–1918 гадоў. Каля палавіны работы ўжо зроблена, не стае часу на ейнае заканчэньне.

Жывучы ў Нью Ёрку, даводзіцца часта займацца непрадбачанымі безадкладнымі справамі — гэткімі, прыкладам, як мэмарыялы аб дэкалянізацыі СССР; дэманстрацыя ў вабарону Міхала Кукабакі; удзел у навуковых сэмінарах і канфэрэнцыях і да гэтага падобнае. Апошнім часам наладзілася лучнасьць зь беларусамі на Беласточчыне, на што таксама патрэбен час.

Апрача ўсяго іншага, др. Запруднік сказаў, што ён выконвае функцыі сакратара Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, сябры Галоўнай управы Беларуска-амэрыканскага задзіночаньня, сакратара Фундацыі імя П. Крэчэўскага, сябры Камітэту абароны вязьняў сумленьня на Беларусі.

Ген. Язэп Сажыч, сакратар да справаў вэтэранаў, сказаў, што аднаўленая беларуская традыцыя й дзейнасьць беларускіх вэтэранаў праводзіцца. Ад-

[476] Station Станіслаў Станкевіч памёр 6 лістапада 1980 г. у Нью-Ёрку.

дзел Згуртаваньня беларускіх вэтэранаў у Нью Джэрзі надалей застаецца ініцыятыўны й дзейны. Вялікім дасягненьнем за апошнія гады было зактывізаваньне і афармленьне Аддзелу ЗБАВ у Кліўлендзе. У штаце Мічыган малая колькасьць вэтэранаў, дык поўнага аддзелу няма, але там ёсьць «Галоўны Штаб». У штаце Іліной (Чыкага) дастаткова былых беларускіх вайскоўцаў, і яны добра памагаюць і падтрымваюць дзейнасьць беларускіх вэтэранаў, аднак фармальна дагэтуль аддзелу не арганізавалі.

Найбольшым нашым недахопам — няўдача з афармленьнем аддзелу беларускіх вэтэранаў у Кліўлендзе.

Характарызуючы агульна дзейнасьць беларускіх вэтэранаў за апошнія гады, трэба сказаць, што маем пэўныя дасягненьні. Закончылася, асабліва дзякуючы ініцыятыве й працы беларускіх вэтэранаў у Нью Джэрзы, пабудова помніка Беларускім героям на могільніку ў Іст-Брансьвіку. Гэта — наш агульны манумэнт і цэнтар для ўшанаваньня тых, што *«памерлі, каб жыла Беларусь»*.

Апошняя Сустрэча беларусаў Паўночнае Амэрыкі пачалася вэтэранскімі імпрэзамі. Сакратар да справаў вэтэранаў годна рэпрэзэнтуе нашых вайскоўцаў на ўсіх міжнародных імпрэзах. Удалося наведаць асабіста беларускіх вэтэранаў у Нямеччыне і Аўстраліі, дзе выступаў з прывітаньнямі на беларускай радыяпраграме.

Далей др. Я. Сажыч гаварыў пра патрэбу стварэньня часапісу ці выданьня зборніка аб беларускіх вайсковых падзеях, каб больш пісалася й засталося ў гісторыі пра беларускі вайсковы ўдзел і збройнае змаганьне, асабліва з часоў 2-ой сусьветнай вайны.

*«На закончэньне хачу падкрэсьліць*, — сказаў сакратар да справаў вэтэранаў, — *адну далікатную справу, якая мяне турбуе, і якую хацеў-бы, каб прынамся радныя БНР добра разумелі: гэта пасьпешлівае й непаважнае павышэньне й раздаваньне рангаў ахвіцэрскіх за грамадзкія заслугі — гэта прафануе годнасьць беларускага ахвіцэра»*.

Да п. 8.

Справаздачы сэктараў Рады БНР.

Сэктар у Вялікабрытаніі. Сп. Янка Міхалюк прывітаў Сэсію ад імя беларусаў Вялікабрытаніі, якіх, сказаў ён, заўсёды цікавіць праца беларусаў у Амэрыцы, ды пажадаў Сэсіі ўдачы.

У сваёй справаздачы зь дзейнасьці сэктару сп. Міхалюк падкрэсьліў актыўнасьць сяброў Рады БНР у Вялікабрытаніі, хоць цяжка сказаць, дзе праца сэктару, а дзе праца іншых арганізацыяў, як Згуртаваньне беларусаў у Вялікабрытаніі, Англа-беларускае таварыства ці Бібліятэка ім. Ф. Скарыны.

Сп. Міхалюк зьвярнуў увагу на супрацоўніцтва з ангельскім грамадзтвам, у выніку чаго, хоць гэта і нялёгка далося, сяньня дасягнутыя паважныя вынікі, у тым ліку наладжаная сувязь з Бацькаўшчынай. З канкрэтных захадаў сп. Міхалюк назваў Мэмарыял аб палажэньні беларусаў у Польшчы

на міжнародную канфэрэнцыю[477], удзел у дэманстрацыях абароны М. Кукабакі[478], мэмарыял у Амнэсты Інтэрнэшэнал[479], дэманстрацыю перад савецкім пасольствам у Лёндане, лекцыі беларусаведы[480] ды розныя бягучыя імпрэзы, што прыпадаюць на кажны месяц.

Нашая праца павінна быць канкрэтнай — толькі тады яна будзе дапамогай беларусам на Бацькаўшчыне.

Сэктар у Нью Джэрзы. Старшыня Сэктару Рады БНР сп. Васіль Стома прыслаў на рукі Старшыні Рады БНР ліст, у якім прадставіў сытуацыю, што вытварылася ад некалькіх гадоў з прычыны закалотаў у царкоўным жыцьці, якія давялі да варажнечы між сяброў Рады БНР ды наагул аддзелу БАЗА. Гэта адбілася адмоўна на дзейнасьці сэктару ды наагул грамадзкім жыцьці асяродку. Да гэтага сам старшыня сэктару прайшоў цяжкую хваробу (ампутацыя нагі), якая прыбіла яго ня толькі фізычна, але й духова. Ён прабыў 128 дзён у шпіталі й гэтулькі-ж дома ў ложку. Сп. В. Стома просіць Старшыню Рады БНР звольніць яго ад абавязкаў старшынства ў сэктары Рады БНР.

Сп. Васіль Русак, сябра сэктару, сказаў, што сэктар заняпаў, але не грамадзкае жыцьцё па лініі БАЗА. Гэтак, адбыліся два фэстывалі БАЗА, ладжаныя ў вапошнім годзе ў Лібэрта Парку й Мідлсэкс Каўнты каледжы[481], тры рэфэраты, чатыры выстаўкі, сымпозіюм пра беларускую культуру. Трымалася лучнасьць зь іншымі нацыянальнасьцямі.

Сэктар у Канадзе. Старшыня сэктару сп. М. Ганько сказаў, што хоць апошнімі часамі зборак сэктару ня было, але праца ў галіне вонкавых дачыненьняў на канадзкім грунце праводзілася. У сталіцы Канады, Атаве, у гэтым напрамку дзейнічалі сп-ва Івонка і Янка Сурвілы, у Бэры й Таронце — Старшыня Рады БНР др. В. Жук-Грышкевіч і др. Раіса Жук-Грышкевіч.

---

[477] Маецца на ўвазе падрыхтаваная Згуртаваннем беларусаў у Вялікабрытаніі для міжнароднай канфэрэнцыі ў Мадрыдзе (1980) інфармацыя пра дыскрымінацыю беларускага школьніцтва на Беласточчыне. Агучванне гэтых матэрыялаў выклікала нэгатыўную рэакцыю з польскага боку, у тым ліку і ў польскіх эміграцкіх арганізацыях.

[478] Пра гэта падрабязней гл.: Гардзіенка, Наталля. Беларусы ў Вялікабрытаніі. С. 225–227.

[479] **«Міжнародная амністыя»** (англ. *Amnesty International*) — міжнародная арганізацыя, створаная ў 1961 г. і маючая на мэце барацьбу за абарону правоў чалавека ў сьвеце. Сёньня арганізацыя мае больш за 2,2 мільёна сябраў у 150 краінах свету.

[480] Лекцыі беларусаведы ладзіліся ў Лондане з ініцыятывы Англа-беларускага таварыства ад 1966 г. Падрабязней гл.: Гардзіенка, Наталля. Беларусы ў Вялікабрытаніі. С. 479–482.

[481] Падрабязней пра фестывалі гл.: Zaprudnik, Jan. Belarusian Festivals and Exhibitions in New Jersey: Political Information Through the Language of Art (1948–2011) = Беларускія фэстывалі й выстаўкі ў Нью Джэрзі: Палітычная інфармацыя моваю мастацтва (1948–2011). New York: Belarusian Institute of Arts and Sciences, 2013. 198 p.

Др. Раіса Жук-Грышкевіч сканкрэтызавала ўспомненую сп. Ганьком дзейнасьць. Стараньнямі Старшыні Рады БНР у 1981 г. была праведзеная ўжо другі раз напярэдадні перапісу жыхарства Канады кампанія сярод беларусаў. Былі выдадзеныя й шырока распаўсюджаныя па Канадзе двумоўныя лістоўкі, што выясьнялі й заклікалі канадыйцаў беларускага паходжаньня падаваць у апытальніку перапісу правільна сваё беларускае паходжаньне.

Урачыста й з размахам было адзначана 1000-годзьдзе Беларусі[482]. Пасьпяхова праведзенае змаганьне за статус беларускае мовы ў канадзкіх статыстыках, у якіх дагэтуль беларуская мова фігуравала як дыялект расейскае, а не апрычоная ўсходнеславянская мова.

Пасьля нападу й паклёпаў з боку Лёфтуса[483] на беларускую нацыю праведзеная была кампанія пратэстаў, скіраваных да СБС[484] і міністра шматкультуралізму. Сп-ва Сурвілы пісалі лісты ў французскай мове ад аддзелу ЗБК у Аттаве; у Таронце — сп. Паўлюк Пашкевіч ад Каардынацыйнага камітэту беларусаў Канады, др. Раіса Жук-Грышкевіч ад ЗБК.

У Таронце ў 1977 г. была заснаваная Канфэрэнцыя вольных беларусаў, прадстаўнік якое сп. П. Пашкевіч з прадстаўнікамі балцкіх і ўкраінскае сусьветных арганізацыяў прыгатавалі й выдалі Мэмарандум да Гэнэральнае Асамблеі Задзіночаных Нацыяў у справе дэкалянізацыі Савецкага Саюзу. У гэтай працы беларускі прадстаўнік быў у сталым і цесным кантакце з Старшынём Рады БНР др. В. Жук-Грышкевічам. На гэтую справу сябры Канадзкага сэктару др. Б. Рагуля й др. Р. Жук-Грышкевіч далі звыш 1700 даляраў.

Сэктар у Аўстраліі. Справаздачу зь дзейнасьці сэктару прыслала на рукі Старшыні рады БНР сп-ня А. Каранеўская.

1. Аўстралійскі сэктар налічвае 7 радных з ранейшага ліку адзінаццацёх. Сп. А. Калодка выступіў з Рады. Памерлі: сп. П. Мікуліч і др. Я. Малецкі, старшыня сэктару ад 29.12.1977 году. Чарговае паседжаньне, на якім адбудуцца выбары новае ўправы, вызначана на 30 сьнежня 1982 году.

2. Зь дзейнасьці сэктару: старшыня др. Я. Малецкі меў гутаркі ў Сыднэі, Мэльбурне і Адэляйдзе аб міжнародным палажэньні і абставінах на Беларусі.

Зь ініцыятывы радных былі высланыя лісты да прадстаўнікоў урадаў і палітычных дзеячоў у справе дапамогі М. Кукабаку, а таксама ў Рым з просьбай назначыць біскупа-беларуса для каталікоў-беларусаў, што жывуць у вольным сьвеце.

---

[482] Маюцца на ўвазе ўрачыстасці, што мелі месца 28–29 лістапада 1981 г. у Беларускім рэлігійна-грамадскім цэнтры Таронта. Гл.: Жук-Грышкевіч, Раіса. Жыцьцё Вінцэнта Жук-Грышкевіча. С. 691–695.

[483] Маецца на ўвазе кніга амерыканскага аўтара Джона Лофтуса «Беларускі сакрэт» (Loftus, John. The Belarus Secret. New York: Alfred A. Knopf, 1982. 196 p.), дзе аўтар сцвярджае, што пасля Другой сусветнай вайны ў ЗША прыехала шмат былых супрацоўнікаў нямецкіх спецслужбаў і вайскоўцаў з Беларусі. Пазней па кнізе быў зняты фільм. Гл.: Беларус. № 323. 1984.

[484] Маецца на ўвазе ***CBS Broadcasting Inc.*** — амерыканская тэлерадыёкампанія, адна з найвялікшых у ЗША.

Вядзецца праца над папулярызацыяй імя й справы беларускае. Радныя актыўныя ў грамадзкім жыцьці нашае эміграцыі, стараюцца падтрымваць нацыянальны дух сваіх асяродкаў.

Скарбнік сэктару сп. С. Нарушэвіч выслаў фінансавую справаздачу за 1981–82 гг. на рукі Галоўнага скарбніка Рады БНР сп. В. Кажана.

Радныя сэктару жадаюць Сэсіі посьпехаў у працы.

Да п. 11.

Дыскусіі.

Старшыня Рады БНР: *«У справе надаваньня вайсковых рангаў беларускім вэтэранам: справу гэтую меўся правесьці Прэзыд. М. Абрамчык на 50-я ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці БНР, але не пасьпеў гэтага зрабіць, бо прадчасна памёр. Справу гэтую правесьці мусіў я як ягоны наступнік. Каму і якія чыны надаваць, я ня быў зарыентаваны, бо ня быў на Беларусі ў часе вайны і ня ведаў, хто што рабіў і ў якім быў чыне. Таму кіраваўся рэкамэндацыямі двух найвышэйшых чынам вайскоўцаў — палкоўнікаў Б. Рагулі і Я. Сажыча, якіх павысіў у рангу генэралаў і ўважаў іх за сваіх дараднікаў у вайсковых справах. Толькі сп. Віталю Кажану — Галоўнаму скарбніку Рады БНР — я надаў рангу генэрала бязь нічые рэкамэндацыі, бо меў дадзеныя, што ён скончыў польскую ахвіцэрскую школу, быў ахвіцэрам пад нямецкай акупацыяй і паказаў сябе як адданага беларускай справе й вартаснага працаўніка на Бацькаўшчыне і на становішчы Галоўнага скарбніка Рады БНР.*

*Другая справа — гэтак званы "Сусьветны зьезд вэтэранаў", скліканы прыватнай асобай, К. Акулам*[485]*. Гэты "Сусьветны" зьезд ахапіў жменьку людзей і быў кампрамітацыяй сваім гучным назовам як для арганізаваных беларускіх вэтэранаў, гэтак і для беларускага руху. Сакратар да справаў вэтэранаў павінен быў заняць становішча, а не абыйсьці гэта нездэцыдаваным маўчаньнем — тут быццам яго апрабуючы, там быццам выступаючы супраць яго»*.

Сп. Я. Міхалюк сказаў, што ў Англіі людзі зусім ня былі паінфармаваныя й прынялі гэты «Сусьветны» зьезд вэтэранаў за добрую манэту.

Сп. В. Русак папытаўся ў сп. В. Кажана, ці вернутая сп. А. Шукелойцю з касы Рады БНР сума грошай, якую сп. Шукелойць залажыў за Канфэрэнцыю вольных беларусаў? Сп. Кажан адказаў, што так.

Сп. Шукелойць, старшыня БАЗА, прывітаў ад імя БАЗА Сэсію й пажадаў ёй плённае працы. Ён падкрэсьліў, што апошняя Сустрэча беларусаў Паўночнае Амэрыкі, што адбылася ў Нью Джэрзы, была выдатнай, аднэй з найлепшых, і што гэта няпраўда, што ў Нью Джэрзы замірае грамадзкае жыцьцё.

Далей дыскусія вялася пра сэктары Рады БНР. Дзеля таго, што сп. В. Стома падаецца ў дымісію, сэктар у Нью Джэрзы павінен выбраць сабе новага старшыню, сказаў сп. Я. Азарка. Сп. М. Тулейка закрануў справу сэктару ў

---

485 Кастусь Акула быў галоўным ініцыятарам і арганізатарам Сусветнага з’езда беларускіх ветэранаў.

Нью Ёрку. Сябры гэтага сэктару выказалі думку, што дзеля перагружанасьці ньюёркаўскіх радных рознымі грамадзкімі функцыямі й працай фармальнае існаваньне сэктару было-б дадатковай лішняй нагрузкай. Ёсьць скарбнік сэктару — сп. Ул. Русак — і гэтага даволі.

Сп. К. Мерляк падаў прапанову, каб Сэсія выказала ўступаючаму Старшыні Рады БНР др. Вінцэнту Жук-Грышкевічу прызнаньне й падзяку за ягоную 12-гадовую працу на такім адказным становішчы Старшынства Рады БНР. На гэтую прапанову прысутныя зарэагавалі стаячай авацыяй. Старшыня Рады БНР яшчэ раз падзякаваў усім тым, хто яго гасьціў ды памагаў яму ў працы.

Да п. 10.

Выбары Старшыні Рады БНР.

Уступаючы Старшыня Рады БНР падаў кандыдатуру на Старшыню Рады БНР сп. Уладзімера Бортніка, заступніка Старшыні Рады БНР на Эўропу і адначасна сакратара вонкавых дачыненьняў на Эўропу. Сп. Ул. Бортнік падзякаваў за давер, але сказаў, што кандыдатуры прыняць ня можа.

Сп. Ул. Русак запрапанаваў кандыдатуру ген. Язэпа Сажыча.

Сп. Г. Паланевіч запрапанаваў др. Уладзімера Набагеза.

Др. Ул. Набагез падтрымаў прапанову сп. Ул. Русака.

Др. Я. Сажыч выставіў кандыдатуру інж. Васіля Русака.

Др. Р. Жук-Грышкевіч папрасіла праф. Антона Адамовіча, каб згадзіўся на ягоную кандыдатуру.

Сп. Ул. Бортнік, нагадаўшы, што Прэз. М. Абрамчык высака цаніў др. Ул. Набагеза, папрасіў Набагеза згадзіцца кандыдаваць.

Сп. Я. Азарка запрапанаваў сп. Антона Шукелойця.

Сп. П. Кажура[486] падтрымаў прапанову др. Я. Сажыча.

Др. Р. Жук-Грышкевіч запрапанавала сп. Янку Міхалюка.

Сп. Я. Міхалюк прапанаваў сп. Кастуся Мерляка.

Сп. М. Тулейка запрапанаваў др. Янку Запрудніка.

Усе кандыдаты, падаючы розныя прычыны, адмовіліся кандыдаваць. На прапанову сп. Ул. Русака пастанавілі правесьці выбары пры ўсіх кандыдатурах. У выніку галасаваньня др. Я. Сажыч атрымаў 34 галасы, др. У. Набагез — 14, сп. А. Шукелойць — 3, сп. Ул. Бортнік — 2, сп. В. Русак — 2, др. Я. Запруднік — 1. За Старшыню Рады БНР быў выбраны др. Язэп Сажыч.

Сакратар Прэзыдыюму др. Р. Жук-Грышкевіч выказала недаўменьне: як гэта ёсьць — адзіная кандыдатура др. Я. Запрудніка была сустрэта агульнымі воплескамі, а ў часе галасаваньня ён атрымаў адзін голас! *«Такіх выбараў, як жыў, ня бачыў!»* — заўважыў уступаючы Старшыня Рады БНР, а пражыў ён 80 гадоў.

Да п. 11.

Плян працы на наступную кадэнцыю.

---

486 **Пётра Кажура** (1913–1992) жыў у Гайлэнд-Парку. Удзельнічаў у набыцці будынка для мясцовай царквы (Беларускага грамадскага цэнтра) і царкоўнага дома.

Др. Я. Запруднік запрапанаваў, каб 17-я Сэсія Рады БНР прыняла заяву аб тым, што Палітбюро кампартыі Савецкага Саэзу й Міністэрства абароны СССР трымаюць на тэрыторыі Беларусі ракетна-ядзерную зброю й гэтым гвалтуюць імі-ж прызнаную фармальную сувэрэннасьць Беларусі ды выстаўляюць на сьмяротную небясьпеку ўсё беларускае жыхарства ў выпадку збройнага канфлікту паміж Захадам і Ўсходам, і дзеля гэтага Сэсія Рады БНР зварачаецца з просьбай да ААН, у якую Беларусь фармальна ўваходзіць як паўнапраўны член гэтае арганізацыі і дэлегаты якое выступаюць у ААН як прадстаўнікі дзяржавы, што ня мае ракетна-ядзернае зброі, каб справа незаконнага трыманьня Расеяй сваіх ракетаў на тэрыторыі Беларусі была разгледжаная на Генэральнай Асамблеі ААН.

Прапанова была аднагалосна прынятая. Зрэдагуе ліст да ААН Прэзыдыюм Сэсіі.

Сп. П. Кажура ўзьняў пытаньне пабудовы помніка с. п. Міколу Абрамчыку, былому Старшыні Рады БНР. Былі выказваньні за тое, каб пабудаваць гэты помнік на могільніку ў Іст-Брансьвіку, іншыя — каб на магіле Нябожчыка ў Парыжы. Пастанавілі зьвярнуцца лістоўна да сп-ні Ніны Абрамчык з запытаньнем, ці яна жадала-б, каб Рада БНР паставіла помнік на магіле мужа.

Сп. А. Міцкевіч прапанаваў папулярызаваць беларускую справу ў амэрыканскіх газэтах.

Уступаючы Старшыня Рады БНР: *«Калі ходзіць аб беларускую прэсу і асабліва "Беларуса", дык вельмі-ж ужо стараліся, каб ня ўспомніць майго імя як Старшыні Рады БНР, а калі ўжо было неабходна напісаць пра мяне, дык стараліся хаваць зацемку з маім прозьвішчам як найдалей. Так, у Нр. 303–304 "Беларуса" за жнівень-верасень 1982 г. на першай бачыне было зьмешчанае прывітаньне Прэзыдэнта ЗША Рональда Рэйгана 15-й Сустрэчы беларусаў Паўночнае Амэрыкі, а маё прывітаньне гэтай Сустрэчы як Старшыні Рады БНР было зьмешчанае на трэйцяй бачыне. Дык амэрыканскаму Прэзыдэнту чэсьць і пашана на першай бачыне, а свайму беларускаму Прэзыдэнту прыніжэньне й зьнявага — надрукавалі ягонае прывітаньне, але на трэйцяй бачыне — як пад сталом. І каго тут абразілі, Жук-Грышкевіча? Вельмі памыліцца той, хто так падумае, бо ў гэтым выпадку абразілі беларускага Прэзыдэнта, беларускае нацыянальнае імя, беларускі нацыянальны прэстыж. Дык ходзіць аб нацыянальны прэстыж, а не аб асобу».*

Сп. А. Шукелойць выказаў думку, што мы павінны дбаць пра тое, каб у нашых асяродках не замірала нацыянальная актыўнасьць, як прыкладам, у беларускім асяродку ў Нямеччыне — Мюнхэне, дзе цяпер не сьвяткуюць ужо нават 25 Сакавіка.

Сп. Ул. Бортнік зарэагаваў: *«Сьвяткуюць, толькі гэта не публікуюць».* Сп. Бортнік уважаў абвінавачваньне сп. Шукелойця несправядлівым, бо якраз сябры гэтага малога мюнхэнскага асяродку дзейныя ў галіне вонкавых дачыненьняў сваім удзелам у Парыскім блёку ды ў Эўрапейскай канфэрэнцыі правоў чалавека й самавызначэньня.

(На гэтым месцы сакратар Прэзыдыюму др. Раіса Жук-Грышкевіч мусіла пакінуць Сэсію, бо ейны муж занямог, і яго амбулянсам забралі ў шпіталь. На прапанову сп. Я. Міхалюка абмеркаваньне пляну працы было спыненае.)

*Падпісваю пратакол на гэтым мейсцы таму, што пасьля ня была прысутнай на Сэсіі й не магла заняць становішча ў надта кантравэрсыйнай справе, парушанай у другім падпункце 12-га пункту «Featureознае».*

*Наагул уважаю, што царкоўныя справы не павінны разглядацца на Сэсіі-парлямэнце Рады БНР. Трэцяя Ўстаўная Грамата БНР забясьпечвае сваім грамадзянам свабоду сумленьня. Кажны можа верыць або ня верыць, належыць да тае царквы ці іншае, так, як яму дыктуе ягонае собскае сумленьне. У БНР, як у большасьці заходніх дзяржаваў, царква аддзелена ад дзяржавы.*

*Раіса Жук-Грышкевіч.*

Да п. 12.

Featureознае.

1. Справаздача зь дзейнасьці Фундацыі ім. Пётры Крэчэўскага.

Др. Я. Запруднік паінфармаваў аб перавыбарах Рады Дырэктароў Управы Фундацыі ды прачытаў справаздачу зь яе апошніх год дзейнасьці.

2. Царкоўныя справы.

Др. Расьціслаў Гарошка запрапанаваў прыняць пастанову, якую ён прачытаў. Праект пастановы, што датычыла да актуальных канфліктаў БАПЦ[487], выклікаў жывую дыскусію.

Др. Я. Запруднік прачытаў вынятак ліста сп. П. Трысмакова з Аўстраліі, у якім выказвалася хваляваньне за лёс БАПЦ ды заклікаў прысутных да спакойнага абмяркоўваньня гэтае справы.

Сп. К. Мерляк сказаў, што абавязак гіерархаў БАПЦ — спыніць канфлікт, забраць справы із сьвецкіх судоў і не марнаваць больш грамадзкіх грошай, бо грошай гэтых людзі не давалі на суды.

Сп. Я. Міхалюк падтрымаў выказваньне сп. Мерляка і сказаў, што трэба змусіць кіраўнікоў БАПЦ да перамоваў.

Др. Я. Сажыч абмеркаваў прапанову Р. Гарошкі; уважае, што калі яе прыняць, дык гэта зруйнуе яшчэ больш царкоўнае жыцьцё.

Сп. М. Тулейка ўважае, што нейкая пастанова ў справе царкоўнага канфлікту патрэбная, але прыняць прапанову Гарошкі немагчыма — справа ня была належна прадстаўленая.

Сп. К. Мерляк уважае, што трэба радных, якія бяруць актыўны ўдзел у развальваньні Царквы, завесіць у сяброўстве й пакараць.

Сп. Ул. Курыла падтрымоўвае пазыцыю др. В. Жук-Грышкевіча — *«справа вельмі далікатная, мы не павінны ўмешвацца ў царкоўныя справы»*. Прапануе Старшыні Рады БНР, каб ён спрабаваў прыватна паразумецца з абодвума бакамі ды скончыць суды й сваркі.

---

[487] Маецца на ўвазе канфлікт паміж уладыкам Андрэем (Крытам) і епіскапам Мікалаем (Мацукевічам).

Сп. В. Русак — *«За лёс інстытуцыі адказны галава інстытуцыі. Хто ворагі ў дадзеным выпадку? Тыя, што будавалі цэрквы, ці тыя, што завялі ў суды? Прыкладам, я нічога нікому дрэннага не зрабіў, а мяне завялі ў суд»*.

Сп. М. Ганько — *«На працягу 25 год С. Хмара выдае "Беларускі Голас"*[488] *і атакуе Раду БНР і БАПЦ. Іншая асоба ў Канадзе — нейкі Шышка — у судзе заявіў, што людзі з БАПЦ — гэта група нацыстага Ст. Станкевіча. І тут трэба падумаць, з кім мы маем справу ў судзе, з кім прыхільнікі мітрапаліта Андрэя супрацоўнічаюць. Ім на БАПЦ не залежыць. Мітрапаліт стары; паводля яго, Царква хай прападае»*.

Сп. Ул. Курыла кажа, што па людзях ходзіць ліст, у якім кажацца, што Ўладыка Мітрапаліт у часе Другое сусьветнае вайны працаваў у Бэрліне ў Гестапа. Дык другі бок таксама не бязь віны.

Сп. А. Міцкевіч *«Канфлікты — рэч ня новая. Іх можна заўсёды пазбыцца, калі ёсьць ахвота. Цывільныя суды канфліктаў не зьліквідуюць»*. Прапануе перш-наперш спыніць суды.

Др. Р. Гарошка ўважае за здрадніка таго, хто хоча разваліць Царкву, аснову нашага жыцьця на эміграцыі.

Сп. Ул. Русак прапануе даручыць Прэзыдыюму Сэсіі зьвярнуцца да Ўладыкі Мітрапаліта з просьбай прыпыніць суды ды пачаць ліквідаваць канфлікт у сваім асяродзьдзі.

Сп. Я. Міхалюк выказвае зьдзіўленьне, чаму на пачатку канфлікту справа ня была скіраваная ў суд Кансысторыі БАПЦ.

Сп. П. Кажура: *«Вялікая роля ў паглыбленьні канфлікту прыпадае а. Янку Бруцкаму. Яго царква мала цікавіць, ён судзіцца за маёмасьць, за грошы»*.

Сп. Г. Паланевіч зазначыў, што сябры Рады БНР бяруць удзел у канфлікце з абодвых бакоў. Прапануе даручыць Прэзыдыюму Рады склікаць радных, што асабліва актыўныя ў канфлікце, і дагаварыцца.

Сп. М. Тулейка: *«Рада БНР павінна цікавіцца ўсімі дзялянкамі нацыянальнага жыцьця, а гэта значыць, і царкоўнай»*. Прапануе зрабіць усе захады дзеля ліквідацыі канфлікту.

Др. Я. Запруднік, старшыня Сэсіі, просіць прыпыніць дыскусію, якая зацягваецца і нічога новага ня ўносіць ды абмежыцца да канкрэтных прапановаў.

Яшчэ выступалі ў дыскусіі сп. сп. Ул. Русак, К. Мерляк, В. Русак і А. Міцкевіч з падтрыманьнем прапановы Ўл. Русака: зьвярнуцца з просьбай да Мітрапаліта Андрэя, каб ён забраў справы з судоў ды пачаў ліквідаваць канфлікт нутраным спосабам.

Др. Запруднік спыняе дыскусію й ставіць на галасаваньне паасобныя прапановы.

1. Прапанова сп. Ул. Русака: зьвярнуцца да мітрапаліта з просьбай спыніць суды й ліквідаваць канфлікт нутраным парадкам.

---

[488] **Сяргей Хмара** (1905–1992) у 1952–1992 гг. у Таронта выдаваў газету «Беларускі голас», скіраваную супраць і БНР, і БЦР.

Прапанова прайшла бальшынёй галасоў. Супраць ніхто не галасаваў, устрымалася пяцёх.

2. Прапанова др. Р. Гарошкі. За — 2 галасы. Супраць — рэшта. Устрымалася — 8.

Праф. Ант. Адамовіч паінфармаваў радных аб ягоным удзеле ў тэлевізійнай праграме «60 хвілінаў»[489].

Сп. Я. Міхалюк пажадаў ад імя Брытанскага сэктару плённай дзейнасьці і падзякаваў амэрыканскім беларусам за фінансавую ахвярнасьць у разбудове Бібліятэкі ім. Скарыны ў Лёндане.

Др. Язэп Сажыч, новаабраны Старшыня Рады БНР, падзякаваў за давер, выказаны яму раднымі, і сказаў, што давер гэты ён будзе старацца апраўдаць.

Па супольным адсьпяваньні беларускага нацыянальнага гімну др. Я. Запруднік зачыніў (а 6:30 увечары) 17-ю Звычайную чародную Сэсію Рады БНР.

*Янка Запруднік, Старшыня 17-й Сэсіі.*

*Раіса Жук-Грышкевіч, сакратар Сэсіі.*

*Антон Шукелойць, сакратар Сэсіі.*

## ПРАПАНОВА ПАСТАНОВЫ 17-Й СЭСІІ РАДЫ БНР

*27.11.82*

У 1946 годзе царква наша апынулася без герархіі[490]. Бачачы гэта, Рада і Ўрад БНР прынялі актыўны ўдзел у адраджэньні БАПЦ, і гэта сталася не таму, што тадышняя Рада імкнулася ўцягнуць Царкву ў палітыку, а таму, што Беларускай Царкве тады патрэбная была дапамога. Са свайго боку наша Царква заўсёды была ляяльнай да Рады БНР, верна служачы Богу й свайму Народу, яго ідэалам.

Як ведаем, за апошнія два гады гэта ідыльля зусім папсавалася: пад ударамі бязьлітаснага ворага Царква ізноў апынулася ў бядзе і вялікай патрэбе, але, на жаль, шмат хто з радных БНР ня толькі не пасьпяшаў Ёй з дапамогай, але наадварот, адкрыта стаў памагаць ворагам разбураць дарагую нам усім Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву. Такога абсурдальнага становішча яшчэ ў нас ня было, і яно ня можа далей працягвацца, бо шкодніцтва ў адносінах да свае роднае Царквы ёсьць ня чым іншым, як

---

[489] Маецца на ўвазе праграма на канале CBS, у якой Антон Адамовіч адказваў на пытанні ў сувязі з кнігай Джона Лофтуса «Беларускі сакрэт» і сваёй дзейнасцю ў час Другой сусветнай вайны. Пра вынікі гэтай праграмы гл.: Юрэвіч, Лявон. Сакрэт Антона Адамовіча // ARCHE. № 9. 2000. http://arche.bymedia.net/9-2000/jurev900.html.

[490] Маецца на ўвазе пераход у 1946 г. першаіерархаў Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы ў юрысдыкцыю Расійскай праваслаўнай царквы за мяжой.

аднэй з формаў здрады Беларускаму Народу, і ня можа далей пакрывацца маўчаньнем. Дзеля гэтага прапануецца Сэсіі прыняць наступную пастанову:

1. Рада БНР выражае глыбокае прызнаньне для БАПЦ як праўдзівай і галоўнай апоры рэлігійнага і грамадзкага жыцьця беларусаў на эміграцыі і дэкляруе Ёй поўную падтрымку ў Яе сучасным цяжкім змаганьні за існаваньне.

2. Рада БНР заклікае і загадвае ўсім радным БНР захаваць у сучасным канфлікце поўную ляяльнасьць да легітымных уладаў БАПЦ і ў меру сваіх магчымасьцяў памагаць Яе легітымным герархам і сьвятарству ды спыніць усякую помач бунтаўшчыкам і адшэпнікам.

3. Рада БНР уважае ўсякае шкодніцтва ў БАПЦ, бунт супраць кіраўніцтва БАПЦ і адшчэпніцтва ад БАПЦ як здраду Беларускаму Народу. Радныя БНР, якія прынялі актыўны ўдзел у такіх забурэньнях, падлягаюць завешаньню ў правох на год часу, а калі ня спыняць свае разбуральнае дзейнасьці, аўтаматычна губляюць правы раднага БНР.

*Пётра Манькоўскі.*

# *Раздзел III*
# ДАКУМЕНТЫ

*Значных дакументаў у дзейнасці Рады БНР 1970–1982 гг. было не так шмат, як у папярэдні перыяд. Прадстаўленая тут невялікая выбарка рэпрэзентуе тыя, што былі найбольш важнымі для дзейнасці самой Рады, адлюстроўвалі ідэалагічныя і арганізацыйныя асновы яе дзейнасці.*

*Прынцыпы публікацыі дакументаў аналагічныя прынцыпам публікацыі пратаколаў.*

## КАМУНІКАТ ПРЭЗЫДЫЮМУ РАДЫ БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ ПРА ПЕРАНЯЦЬЦЁ СТАРШЫНСТВА РАДЫ БНР

Гэтым падаецца да агульнага ведама, што ізь сьмерцяй сьв. пам. Старшыні Рады Беларускае Народнае Рэспублікі інж. Міколы Абрамчыка (29 травеня 1970 г.) старшынства Рады БНР перайшло на др. Вінцэнта Жук-Грышкевіча на аснове 9-га параграфу Статуту Рады БНР, а таксама пастановы 10-е Сэсіі Рады БНР, праведзенае ў Нью Ёрку ў красавіку 1968 г., ды на аснове асабістага перададньня паўнамоцтваў інж. Міколам Абрамчыкам свайму першаму заступніку др. Вінцэнту Жук-Грышкевічу.

20 чырвеня 1970 г. у Нью Ёрку адбылося пашыранае паседжаньне Прэзыдыюму й Сакратарыяту Рады БНР з удзелам Старшыні Рады др. В. Жук-Грышкевіча, на якім былі разгледжаныя пытаньні далейшае арганізацыйнае й палітычнае дзейнасьці Рады БНР ды прыняты адпаведныя пастановы: між імі — пастанова склікаць у найбліжэйшым часе чарговую Сэсію Рады, а таксама перагледзіць рэгулямін Рады БНР.

Рада БНР аднадушна заяўляе пра сваю непахісную наважанасьць весьці далей палітычную працу й вызвольнае змаганьне, самахвярна й няўтомна праводжанае сьв. пам. інж. Міколам Абрамчыкам, пад новым старшынствам др. Вінцэнта Жук-Грышкевіча. Рада БНР заклікае ўсё беларускае грамадзтва весьці далей і пашыраць нацыянальна-вызвольную працу на карысьць дэмакратычных свабодаў ды эканамічнага й духовага роськвіту ўсяго жыхарства будучае незалежнае й непадзельнае Беларускае Народнае Рэспублікі.

*20 чырвеня 1970 году*
*Прэзыдыюм Рады БНР*
*30.4.1971 г.*

## ДА СЭКТАРАЎ І СЯБРОЎ РАДЫ БНР

Дарагія сябры Радныя,

Зьвяртаюся да Вас з просьбай прачытаць і абмеркаваць залучаны праект Статуту Рады БНР разам з уступам і прыслаць на мой адрас па магчымасьці хутчэй свае заўвагі, засьцярогі й прапазыкі — калектыўныя ці асабістыя. Ходзіць аб тое, каб перад Сэсіяй яшчэ паддаць шырокай крытыцы праект гэты, каб ня траціць лішняга часу на Сэсіі, да дыспазыцыі якой мы маем толькі адзін дзень (10–12 гадзін).

Да Статутовай Камісіі Рады БНР у Нью Ёрку такая просьба: абмеркаваць гэты праект Статуту на сваім паседжаньні й прыслаць мне высновы абмеркаваньня. Я хацеў бы мець час, каб унесьці вашы слушныя папраўкі ў праект яшчэ перад Сэсіяй.

Дзякую!

*В. Жук-Грышкевіч, Старшыня Рады БНР*

## ПРАЎНЫЯ І ІДЭАЛЯГІЧНЫЯ АСНОВЫ РАДЫ БНР

### І. Праўныя падставы Рады БНР

Рада БНР паўстала з волі народу, была выбрана І-м Усебеларускім Кангрэсам у сьнежні 1917 году. Яна й называлася спачатку Радай Кангрэсу. Але І-ы Ўсебеларускі Кангрэс, ня могучы выканаць сваіх заданьняў з прычыны брутальнага націску расейскага бальшавіцкага войска, перадаў усе свае паўнамоцтвы Радзе Кангрэсу да часу скліканьня Ўстаноўчага Сойму ў вольнай і незалежнай Беларусі.

У змаганьні за гэту вольную й незалежную Беларусь Рада Кангрэсу ператварылася ў Раду Беларускае Народнае Рэспублікі — незалежнасьць і непадзельнасьць якой абвесьціла 25 сакавіка 1918 году.

Пасьля акупацыі Беларускай Народнай Рэспублікі чужымі варожымі сіламі Рада БНР мусіла выехаць на эміграцыю, дзе была дзейнай у далейшым змаганьні за незалежнасьць Беларусі. Дзейнасьць гэту перарвала ІІ-я Сусьветная Вайна.

У выніку заканчэньня ІІ-ой Сусьветнай Вайны зноў Беларусь, цяпер ужо ўся, была паняволена расейскай бальшавіцкай уладай. Вольнай засталася толькі тая частка беларускага народу, што апынулася на эміграцыі. Бяручы пад увагу, што дзяржаўны лад Беларускае Народнае Рэспублікі быў зьнішчаны чужымі варожымі сіламі Савецкай Расеі, ня гледзячы на пратэсты й супраціў беларускага народу; што Савецкая Расея акупавала ўсю тэрыторыю Беларускае Народнае Рэспублікі й паняволіла народ яе; што народ гэты пазбаўлены акупантам свабоды і ўсякіх магчымасьцяў свабоднага выяўленьня сваёй волі і голасу — беларуская эміграцыя як адзіная вольная частка

сувэрэннага беларускага народу мае ня толькі права, але і абавязак змагацца ўсімі магчымымі спосабамі за вызваленьне Беларускае Народнае Рэспублікі і, зразумела, мае права і абавязак тварыць дзеля гэтай мэты патрэбныя арганізацыі й палітычны ворган, што кіруе гэтым змаганьнем ды рэпрэзэнтуе Беларускую Народную Рэспубліку ў міжнародным палітычным жыцьці да часу вызваленьня яе й здабыцьця незалежнасьці й сувэрэннасьці[491].

Ворганам гэтым ёсьць аднаўленая ў сьнежні 1947 году Рада Беларускае Народнае Рэспублікі (БНР), якая зьяўляецца ня толькі кіруючым цэнтрам і рэпрэзэнтантам палітычным беларускае эміграцыі, але й натуральным спадкаемцам тэй Рады БНР, што мела паўнамоцтвы І-га Ўсебеларускага Кангрэсу, бо: апрача таго факту, што аднавіла Раду БНР вольная частка беларускага народу, пераканаўная ў слушнасьці й правамоцнасьці Акту 25 Сакавіка, спадкаемасьць гэта вынікае й з тастаманту апошняга Старшыні арыгінальнай Рады БНР Васіля Захаркі, данага першаму Старшыні аднаўленай Рады БНР Міколу Абрамчыку, які стаўся першым Старшынёй аднаўленай Рады БНР. Дзякуючы гэтаму тастаманту аднаўленая Рада БНР набыла ідэёвую й праўную сувязь і цягласьць з Радай БНР, выбранай на І-м Усебеларускім Кангрэсе.

## II. Народны, дэмакратычны характар Рады БНР

Беларускі нацыянальна-адраджэнскі й вызвольны рух ад самага пачатку меў народны, дэмакратычны характар. Вышэйшыя клясы, дыктатура, таталітарызм — чужыя яму. Гэтым народным, дэмакратычным духам быў прасякнуты і І-ы Ўсебеларускі Кангрэс, і Рада БНР, і Акт 25 Сакавіка дый 1-я і 2-я ўстаўныя граматы. Народны, дэмакратычны характар мусіць мець і аднаўленая Рада БНР. Ужо сам назоў «Рада Беларускае Народнае Рэспублікі» прамаўляе за гэтым.

Народны, дэмакратычны дух мусіць панаваць і ў Статуце Рады БНР. Гэта знача, што ў ім мусяць быць захаваны прынцыпы ўшанаваньня волі грамадзтва, прынцыпы волі бальшыні на ўсіх сходах і паседжаньнях, прынцыпы дэмакратычных выбараў усіх ворганаў ды ўсе ўпаўнаважаньні ці паўнамоцтвы выканаўчага характару мусяць паходзіць з волі бальшыні сходаў Рады ці паседжаньняў ейных ворганаў.

## III. Эміграцыйная спэцыфіка

Мы знаходзімся на эміграцыі. Дзеля гэтага Рада БНР ня можа абмежыцца да канцэпцыі парлямэнту і ўраду, як гэта было ў Беларусі, а мусіць займацца й справамі беларускае эміграцыі, на якой апіраецца. Рада БНР мусіць браць пад увагу спэцыфічныя абставіны й ня толькі выконваць свае абавязкі адносна Беларусі, але й дбаць пра ўтрыманьне беларускага нацыянальнага жыцьця ў беларускай эміграцыі.

[491] Тут і далей захаванае вылучэнне, зробленае ў арыгінальным тэксце.

Наша грамадзтва параскідана па вялікіх прасторах розных краінаў і толькі часткова зарганізавана. Нам цяжка сабрацца разам у паасобных краінах і яшчэ цяжэй сабрацца хоць бы толькі прадстаўнікам нашых асяродкаў з усіх краінаў, каб хоць раз параіцца пра нашы найважнейшыя справы. На нашы асяродкі націскаюць мясцовыя асыміляцыйныя дзейнікі, а актыўнасьць нашых людзей у нацыянальна-грамадзкай працы зьмяншаецца. Усё гэта трэба браць пад увагу ў дзейнасьці Рады БНР і асабліва старацца захаваць працаздольным і зьвязаным з Радай БНР наш нацыянальны актыў. Толькі Рада БНР можа лучыць беларускую эміграцыю, раскіданую па ўсім сьвеце, лучыць нацыянальна і ідэёва.

Мы мусім лічыцца з нашымі мэтамі й заданьнямі ў адносінах да Беларусі, але каб лягчэй асягнуць іх, мусім лічыцца таксама з агульнай і мясцовай палітычнай сытуацыяй ды з духам часу.

З увагі на ўсё сказанае вышэй і праведзена значная зьмена Статуту Рады БНР. Гэта трэцяя рэдакцыя яго. Першая рэдакцыя была апрацавана пры аднаўленьні Рады БНР у сьнежні 1947 году. Другая рэдакцыя была праведзеная дзякуючы зьменам на 10-й Сэсіі Рады БНР у 1968 годзе, а вось гэта — трэцяя, якая ўзяла пад увагу папраўкі статутовай камісіі Рады БНР з дня 21 сакавіка 1971 году ды заўвагі некаторых радных — прапануецца на разгляд 11-ай Сэсіі Рады БНР.

*Бары, красавік 1971 г.*

*В. Жук-Грышкевіч, Старшыня Рады БНР.*

## СТАТУТ РАДЫ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ

### I. Паўнамоцтвы, мэты й заданьні

Пар. 1. Рада Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР) зьяўляецца адзіным праўным прадстаўніцтвам сувэрэнных правоў беларускага народу, выяўленых у праватворчым Акце 25 Сакавіка 1918 г.

Пар. 2. Рада БНР выводзіць свае правы зь неабмежаваных паўнамоцтваў, дадзеных ей Першым Усебеларускім Кангрэсам 31 сьнежня 1917 г. Паўнамоцтвы гэтыя перайшлі на адноўленую Раду БНР на эміграцыі ў сьнежні 1947 г., бо: 1. аднаўленьне Рады БНР адбылося з волі адзінай незалежнай часткі беларускага народу, вольнай ад расейскага бальшавіцкага паняволеньня й вернай Акту 25 Сакавіка; 2. адноўленай Радзе БНР на эміграцыі былі переданы паўнамоцтвы Рады БНР, выбранай Усебеларускім Кангрэсам тастамэнтам апошняга Старшыні яе Васіля Захаркі за пасярэдніцтвам першага Старшыні адноўленай Рады БНР на эміграцыі Міколы Абрамчыка.

Пар. 3. Паўнамоцтвы гэтыя трываюць, згодна з пастановай Першага Ўсебеларускага Кангрэсу, да часу вольных выбараў устаноўчага сойму ў незалежнай БНР.

Пар. 4. Аснаўной мэтай Рады БНР зьяўляецца зьдзяйсьненьне волі беларускага народу, выказанай у Акце 25 Сакавіка 1918 г., а гэта адбудова незалежнай беларускай дзяржаўнасьці на ўсіх землях, якія ў 1917–1918 гг. належылі да беларускага этнаграфічнага абшару.

Пар. 5. Дзеля асягненьня гэтай мэты Рада БНР ужывае ўсе магчымыя й даступныя ёй сродкі, а перадусім арганізуе беларускі вызвольны рух і ім кіруе.

## II. Рада Беларускай Народнай Рэспублікі

Пар. 6. Рада БНР зьяўляецца найвышэйшай установай БНР, яна ёсьць адзіным праўным прадстаўніцтвам сувэрэнных правоў беларускага народу.

Пар. 7. Рада БНР складаецца зь сяброў радных — лікам да 120. 2/3 сяброў Рады БНР выбіраюць беларускія палітычныя й грамадзкія арганізацыі бяз розьніцы палітычных перакананьняў, але верныя Акту 25 Сакавіка, а таксама й незарганізаваныя групы беларусаў незалежнікаў, згодна з выбарчай інструкцыяй. 1/3 сяброў паклікае як спэцыялістаў Старшыня Рады БНР на прапанову беларускіх арганізацыяў ці сэктараў Рады БНР.

Пар. 8. Часовай сядзібай Рады БНР ёсьць Фундацыя Пётры Крэчэўскага ў Нью Ёрку, 166-34 Готык Драйв, Джамэйка, Нью Ёрк 11432. Месца сядзібы можа быць зьменена на пастанову Сэсіі ці Прэзыдыюму Рады.

Пар. 9. Да кампэтэнцыі Рады БНР належыць:

а. Прыйманьне й зьменіваньне Статуту Рады БНР;

б. Ратыфікаваньне дагавораў;

в. Выпрацоўваньне палітычнай лініі й тактыкі дзеяньня ў вонкавых зносінах і беларускім вызвольным руху;

г. Прыйманьне законаў, загадаў і інструкцыяў;

д. Выключэньне сяброў Рады БНР у выпадках, прадбачаных у параграфах 38, 39, 40.

ж. Іншыя справы, што не належаць да кампэтэнцыі Старшыні Рады БНР ці іншых ворганаў яе.

Пар. 10. Ворганамі Рады БНР ёсьць: 1. Сэсія Рады БНР. 2. Прэзыдэнт Рады БНР. 3. Старшыня Рады БНР. 4. Сакратарыят з сваімі аддзеламі. 5. Кантрольная Камісія і 6. Суд Рады БНР.

## III. Сэсія Рады БНР

Пар. 11. Сэсія Рады БНР ёсьць найвышэйшай інстанцыяй у працы Рады БНР. Да кампэтэнцыі яе належаць усе пункты, пералічаныя ў параграфе 9-м.

Пар. 12. Звычайныя Сэсіі Рады БНР склікаюцца што тры гады Старшынёй Рады БНР, а ў выпадку ягонае адсутнасьці заступнікам Старшыні.

Пар 13. Надзвычайныя Сэсіі Рады БНР склікае Старшыня Рады БНР, а ў выпадку ягонае адсутнасьці Прэзыдыюм Рады БНР із собскае ініцыятывы або на пісьмовае жаданьне Прэзыдыюму Рады ці 1/5 сяброў Рады.

Пар. 14. Сэсія Рады правамоцная, калі яна праўна склікана, і сябры Рады павядомлены аб тэрміне, месцы й парадку дня Сэсіі найменш за месяц часу перад датай Сэсіі.

Пар. 15. Сэсію вядзе Прэзыдыюм, які выбіраецца на Сэсіі ў складзе: старшыні Сэсіі, 2-х сакратароў і 1-го сябры. Пастановы Сэсіі прыймаюцца звычайнай бальшынёй галасоў. У выпадку роўнасьці галасоў справу вырашае другі голас старшыні Сэсіі.

Пар. 16. Галасаваньне на Сэсіі мае быць тайным: 1. пры выбарах Старшыні Рады БНР і Прэзыдыюму Рады. 2. калі хтось зь сяброў зажадае тайнага галасаваньня пры вырашэньні якойсь справы.

## IV. Прэзыдыюм Рады БНР

Пар. 17. Прэзыдыюм Рады БНР складаецца з: Старшыні Рады БНР, першага й другога заступнікаў Старшыні (для Амэрыкі і Эўропы), сакратара Рады БНР, скарбніка й 5 сяброў. Выбірае іх Сэсія Рады БНР. Разам яны твораць ПОЎНЫ ПРЭЗЫДЫЮМ Рады БНР і выдзяляюць зь яго САКРАТАРЫЯТ (выканаўчы ворган).

Пар. 18. Сябры Прэзыдыюму Рады БНР без Сакратарыяту твораць Кіраўнічы Прэзыдыюм Рады, у які ўваходзяць: Старшыня Рады БНР, два заступнікі яго, сакратар і скарбнік. Паседжаньні кіраўнічага ці поўнага Прэзыдыюму Рады — у залежнасьці ад патрэбы — склікае Старшыня Рады або, зь ягонага даручэньня, першы ці другі ягоныя заступнікі.

Пар. 19. Да Прэзыдыюму Рады БНР належыць: а. вядзеньне справаў Рады БНР у часе паміж ейнымі Сэсіямі; б. дапільноўваньне выкананьня пастановаў Сэсіі органамі Рады; в. праводжаньне рэфэрэндумаў сэктарамі Рады на выпадак патрэбы прысьпешанага прыняцьця пастанова, што належаць да кампэтэнцыі Сэсіяў Рады БНР; г. рэпрэзэнтацыя Рады БНР навонак; д. скліканьне Сэсіяў Рады БНР згодна з параграфамі 12 і 13.

## V. Старшыня Рады БНР

Пар. 20. На чале Рады БНР стаіць Старшыня Рады БНР. Гэта ягоны фармальны тытул. Для прэстыжу, аднак, калі гэта патрэбна — асабліва ў вонкавых дачыненьнях, ён можа быць тытулаваны Прэзыдэнтам Рады БНР.

Пар. 21. Старшыня Рады БНР зьяўляецца найвышэйшым прадстаўнікам Рады БНР і беларускага народу. Яго выбірае Рада БНР на Сэсіі на шэсьць гадоў часу.

Пар. 22. Да кампэтэнцыі Старшыні Рады БНР належыць:

а. рэпрэзэнтаваньне БНР перад урадамі й нацыянальнымі прадстаўніцтвамі іншых народаў;

б. пакліканьне 1/3 сяброў Рады БНР;

в. прызначэньне прадстаўнікоў БНР пры ўрадах і прадстаўніцтвах іншых народаў;

г. іншыя правы, вынікаючыя з займанага становішча, а ня вызначаныя іншым органам.

Пар. 23. У выпадку вакансіі становішча Старшыні Рады БНР — ягоным наступнікам зьяўляецца першы заступнік Старшыні Рады БНР.

## VI. Сакратарыят Рады БНР

Пар. 24. Сакратарыят як выканаўчы ворган Рады БНР выдзяляецца са складу Прэзыдыюму Рады БНР і зьяўляецца часткай поўнага Прэзыдыюму.

Пар. 25. Да Сакратарыяту належаць: 1. старшыня Сакратарыяту. 2. сакратар арганізацыйны і інфармацыі. 3. сакратар вонкавых дачыненьняў і рэпрэзэнтацыі. 4. сакратар асьветы. 5. сакратар фінансаў і 6. сакратар вэтэранаў. Адначасна сакратары зьяўляюцца кіраўнікамі сваіх аддзелаў.

Пар. 26. Праца Рады БНР агульнабеларуская, яна праводзіцца па ўсіх краінах і асяродках разсяленьня беларусаў. Вынік працы Рады БНР залежыць і ад высілкаў Прэзыдыюму Рады БНР, і ад мясцовых сэктараў. Каб лепш арганізаваць і ўспраўніць гэту працу на ўсім абшары дзеяньня Рады БНР, творацца наступныя аддзелы: 1. арганізацыйны і інфармацыі. 2. вонкавых дачыненьняў і рэпрэзэнтацыі. 3. асьветы. 4. фінансаў і 5. вэтэранаў. Кожны радны ў сэктары належыць да аднаго з гэтых аддзелаў, а сакратары Сакратарыяту ёсьць кіраўнікамі гэтых адпаведных ім аддзелаў.

Пар. 27. У разе патрэбы ў Сакратарыяце могуць быць створаны і іншыя дзялянкі працы з адпаведнымі ім аддзеламі.

Пар. 28. Сакратарыят як цэласьць і паасобныя сакратары яго ў сваіх дзялянках-аддзелах маюць поўную аўтаномію сваёй працы і ёсьць адказнымі перад Радай БНР. Яны павінны дбаць аб тое, каб праца іхніх дзялянак праводзілася ня толькі ў цэнтры Рады БНР, але й ува ўсіх асяродзьдзях, дзе ёсьць сэктары.

## VII. Сэктары Рады БНР

Пар. 29. Сябры Рады БНР параскіданы па розных асяродках у розных краінах разсяленьня беларусаў. Там, дзе зьбярэцца трох сяброў Рады ці больш, — творыцца сэктар Рады БНР. Дзеля ўтварэньня сэктару могуць злучацца разам сябры радныя з двух ці трох асяродкаў, калі гэта карысна для іх і для справы. Некалькі сэктараў аднэй краіны могуць тварыць акруговы аддзел Рады БНР у гэтай краіне.

Пар. 30. Да заданьняў сэктару належыць:

а. сачыць за разьвіцьцём палітычных падзеяў у сваім асяродку і ў данай краіне, сачыць за прэсай у справах Беларусі і ў выпадках важных неадкладна інфармаваць Прэзыдыюм Рады БНР або рэагаваць адпаведна сытуацыі самім на месцы;

б. прымаць пастановы ў справах рэфэрэндуму Рады БНР;

в. дбаць пра разьвіцьцё грамадзкага й палітычнага жыцьця ў сваім асяродку беларускай эміграцыі й краіне.

Пар. 31. Сэктар мае сваю ўправу — старшыню, сакратара й скарбніка. Старшыня ёсьць прадстаўніком Рады БНР у сваім асяродку й краіне. Там, дзе ёсьць некалькі сэктараў, прадстаўніка вызначае Старшыня Рады БНР.

Пар. 32. Сябры сэктару дзеляць працу між сабой, выбіраючы адносныя аддзелы, згодна з параграфам 26 гэтага статуту.

## VIII. Сябры Рады БНР

Пар. 33. Рада БНР складаецца зь сяброў радных, якія належаць да перадавікоў беларускага вызвольнага руху. Яны мусяць быць прыкладам для іншых беларусаў у патрыятызьме, адданасьці беларускай справе, ахвярнасьці і актыўнасьці ў беларускім жыцьці. Яны плацяць сяброўскія складкі ў Раду БНР, вышыню якіх акрэсьлівае каждаразовая Сэсія Рады.

Пар. 34. Непаразуменьні паміж сябрамі Рады БНР, якія вынікаюць з прычыны іхняга ўдзелу ў Радзе, належаць да вылучнага разгляду й вырашэньня Судом БНР. Да Суда БНР належаць і канфлікты, што паўсталі паміж Радай ці раднымі з аднаго боку й сябрамі беларускага грамадзтва з другога, калі канфлікты гэтыя адносяцца да справаў Рады БНР.

Пар. 35. Усіх сяброў Рады забавязвае поўная тайніца што да спраў абмяркоўваных на паседжаньнях ворганаў Рады БНР або аб якіх сябра Рады даведаўся, дзякуючы займанаму ім становішчу. Параграф гэты ня траціць важнасьці й тады, калі сябры перасталі быць раднымі.

Пар. 36. За здраду тайніцы БНР накладаецца адказнасьць, як за здраду дзяржаўнай тайніцы перад судовымі ўладамі БНР.

Пар. 37. Перад пачаткам сваёй дзейнасьці сябры Рады БНР складаюць прысягу на рукі старшыні Рады БНР наступнага зьместу: *«Я, сябра Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, урачыста прысягаю перад Богам і Беларускім Народам, што буду непахісна стаяць на прынцыпах Акту 25 Сакавіка, дзеіць у кірунку ажыцьцяўленьня яго, падпарадкавацца ўсім пастановам, прынятым Радай БНР і яе Прэзыдыюмам, сьвята захоўваць усе тайніцы Рады БНР. У выпадку парушэньня мною гэтае прысягі прыймаю на сябе ўсе санкцыі, вынікаючыя з пастановаў судовых органаў БНР або з пастановаў Рады БНР»*.

Пар. 38. Сябры Рады БНР пазбаўляюцца сяброўства ў Радзе ў выпадку грамадзкай бязьдзейнасьці, дзеяньня нязгодна з Актам 25 Сакавіка ці супярэчна з пастановамі Рады, выяўленьня тайніцаў Рады ці праяўленьня іншых маральных або нацыянальных заганаў.

Пар. 39. Сябра Рады БНР можа быць пазбаўлены сяброўства Рады толькі на падставе пастановы Суда Рады ці пастановай самое Рады.

Пар. 40. Ад пастановы Суда Рады БНР можна адклікацца да Сэсіі Рады БНР як вышэйшае й канчатковае інстанцыі.

Пар. 41. На аснове пар. 38 гэтага Статуту Старшыня Рады БНР ці Прэзыдыюм яе можа завесіць у сяброўстве Рады кожнага раднага, а таксама кожнага сябру ворганаў Рады БНР да часу суда ці Сэсіі Рады БНР.

Пар. 42. У нашых эміграцыйных абставінах вельмі патрэбныя Радзе БНР дасьведчаныя і адданыя беларускай справе працаўнікі. Нам няма сэнсу пазбывацца нашых добрых радных, што ўлажылі шмат працы й грошы ў Раду БНР і хочуць заставацца сябрамі яе пасьля заканчэньня сваёй кадэнцыі. Рада БНР выказвае ім сваё прызнаньне й падзяку за іх адданую і ахвярную працу й надае ім тытулы ЗАСЛУЖАНЫХ СЯБРОЎ РАДЫ БНР адмысловымі гра-

матамі. Сябры, што адыходзяць з Рады БНР пасьля ахвярнай і адданай працы, па заканчэньні сваёй кадэнцыі атрымліваюць грамату Рады БНР з падзякай.

Пар. 43. Бяручы пад увагу пар. 42 гэтага статуту — Сябры Рады БНР дзеляцца на актуальных і заслужаных сяброў. Актуальнымі сябрамі лічацца сябры Рады БНР на працягу першых двух кадэнцыяў, г. зн. 12 год. Тыя-ж сябры, што маюць за сабой 12 год сяброўства ў Радзе БНР і надалей ёсьць чыннымі сябрамі і акуратна плацяць сяброўскія складкі, — атрымліваюць тытул заслужаных сяброў Рады БНР.

## IX. Скарб Рады БНР

Пар. 44. На сваю шырокую і адказную дзейнасьць Рада БНР мусіць мець адпаведныя фінансавыя сродкі. Яны зьбіраюцца ў Скарбе Рады БНР і паходзяць з:

а. сяброўскіх складак радных;

б. ахвяраў грамадзтва;

в. асыгнаваньня беларускіх арганізацыяў;

г. зь іншых непрадбачаных прыходаў.

Пар. 45. Грошы ў Скарб зьбірае сакратар фінансаў Рады БНР з дапамогай аддзелу фінансаў. Ён-жа зьяўляецца загадчыкам Скарбу Рады БНР, перад якой ёсьць адказны як фінансава, так і зь дзейнасьці, і робіць прынамся раз у год фінансавыя справаздачы.

## X. Кантрольная камісія

Пар. 46. Кантрольная камісія Рады БНР выбіраецца на Сэсіі Рады БНР на 6 год у складзе старшыні, сакратара й сябры ды аднаго заступніка, які мае заступіць выбыўшага сябру камісіі.

Пар. 47. Да Кантрольнае камісіі належыць:

а. рэвізія касы, рахунковасьці скарбніка ці сакратара фінансаў Рады БНР і яе грашовае гаспадаркі раз у год;

б. у разе патрэбы пакліканьне фаховых аўдытараў для рэвізіі грашовай гаспадаркі Рады БНР і яе ворганаў;

в. здаваньне справаздачаў з сваіх рэвізіяў і прапанаваньне абсалютoрыюмаў Прэзыдыюму Рады на Сэсіях Рады БНР.

## XI. Архіў Рады БНР

Пар. 48. Дакумэнты Рады БНР і ўсіх яе ворганаў з усіх часоў яе істнаваньня й дзеяньня, як і перапіска яе, што захавалася (дакумэнты й перапіска) у ворганах Рады БНР і ў розных прыватных асобаў або асобаў, што маюць ці мелі дачыненьне з Радай БНР ці яе ворганамі, — лічацца нацыянальнымі гістарычнымі матар'яламі і ёсьць выключнай собскасьцяй Рады БНР.

Пар. 49. Усе гэтыя дакумэнты й перапіска мусяць быць неадкладна зданы або перасланы ў Архіў Рады БНР, што знаходзіцца ў Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага, 166-34 Готык Драйв, Джаэйка, Нью Ёрк 11432 на рукі загадчыка Архіву Рады БНР сп. Антона Шукелойця.

У Эўропе архіўныя дакумэнты Рады БНР трэба здаць неадкладна старшыні Архіўнай камісіі Айцу Др-у Аўгену Смаршчку у Бэльгіі (адрас……).

Пар. 50. Асобы, якія пасьля апублікаваньня артыкулаў 48 і 49 гэтага статуту, надалей будуць трымаць у сваёй дыспазыцыі дакумэнты і архіўныя матар'ялы Рады БНР, будуць трактаваны як зласьлівыя шкоднікі беларускай справы. Рада БНР скіруе супраць іх усе магчымыя легальныя сродкі й спосабы, каб забраць ад іх трыманыя бясправўна беларускія нацыянальныя вартасьці — уласнасьць Рады БНР і пацягнуць іх да адказнасьці.

Пар. 51. Ворганы Рады БНР уключна з сэктарамі затрымліваюць да сваёй дыспазыцыі толькі матар'ялы, патрэбныя для іхнай працы. Дакумэнты-ж, што маюць архіўную вартасьць, перасылаюць у Архіў Рады БНР.

## XII. Суд

Пар. 52. Для вырашэньня справаў азначаных у пар. 34 і 39 ды ў канфліктах Рады БНР з рознымі адзінкамі ўстанаўляецца Суд БНР.

Пар. 53. У склад Суда ўваходзяць: старшыня Суда й два судзьдзі, выбраныя на Сэсіі Рады БНР.

Пар. 54. Ад вырашэньня Суда можна адклікацца ў месячным тэрміне да Рады БНР. Справы перадаюцца ў Суд абвінавальнікам, зацікаўленымі бакамі ў справе або пастановаю Рады БНР.

Пар. 55. З мэтаю абароны інтарэсаў сяброў Рады БНР і ворганаў БНР Старшыня Рады БНР вызначае абвінавальніка, які праводзіць сьледзтва і абвінавачвае на паседжаньнях Суда, у выпадках, калі справа скіравана ў Суд зь ягонае ініцыятывы або пастановаю Рады БНР.

Пар. 56. Суд разглядае справы на аснове зацьверджанага Радаю Статуту.

Пар. 57. Кожны сябра Рады, як і кожная асоба, што мае справу ў Судзе БНР, мае права абраць сабе абаронцаў паміж сяброў Рады.

Пар. 58. На вонак Суд Рады БНР мае характар грамадзкага (палюбоўнага) суда.

## XIII. Праўная абарона Рады БНР

Пар. 59. Рада БНР ёсьць паважнай інстытуцыяй, мае сваю маёмасьць ды правы і абавязкі ў адносінах да сваіх сяброў і беларускага грамадзтва ў розных краінах, але ня мае свайго чартару, які забясьпечываў бы ейныя правы. Дзеля гэтага Рада БНР устанаўлівае юрысконсульства — амэрыканскага праўніка, які даваў бы ёй праўныя парады й выступаў дзе трэба ў абароне Рады БНР і яе інтарэсаў з праўнага боку.

## XIV. Зьмена Статуту

Пар 60. Гэты Статут можа быць зьменены або папраўлены на кожнай Сэсіі Рады БНР бальшынёй ¾ галасоў прысутных, калі пункт аб зьмене Статуту ўнесены ў парадак дня Сэсіі ў вымаганым тэрміне перад скліканьнем Сэсіі.

### XV. Уваход у сілу Статуту

Пар. 61. Гэты Статут уваходзіць у сілу адразу пасьля прыняцьця яго адзінаццатай Сэсіяй Рады БНР, касуючы адначасна дагэтуль дзейныя прадпісаньні.

Гэты Статут быў прыняты на 11-й Сэсіі Рады БНР дня 29 травеня 1971 году, у Нью Ёрку.

## ПЛЯН ПРАЦЫ РАДЫ БНР НА КАДЭНЦЫЮ (1974–1977)

### I. Асновы пляну працы

1. Ідэалягічныя падставы

Рада Беларускае Народнае Рэспублікі (БНР) — найвышэйшая ўстанова й адзінае праўнае прадстаўніцтва сувэрэнных правоў беларускага народу, выяўленых у праватворчым Акце 25 Сакавіка 1918 г., зафіксаваным 3-ай Устаўной Граматай БНР. Правы Рады БНР вынікаюць зь неабмежаваных паўнамоцтваў, дадзеных ёй Усебеларускім Зьездам (Кангрэсам) як свайму найважнейшаму органу — Радзе Зьезду 31 сьнежня 1917 г. і перададзеных апошнім вышэйшым пэрсанальным носьбітам гэтых паўнамоцтваў, Старшынём Рады БНР Васілём Захаркам, тэстамэнтальна Міколу Абрамчыку, зь ініцыятывы якога на грунце гэтага аднавілася дзейнасьць Рады БНР у экзылі ў сьнежні 1947 г.

Паўнамоцтвы гэтыя трываюць, згодна з пастановай Усебеларускага Зьезду (Кангрэсу) 1917 г., да часу вольных выбараў Устаноўчага сойму ў незалежнай БНР.

Аснаўная мэта й заданьне Рады БНР — перахаваньне й выкананьне волі беларускага народу, вызначанай у Акце 25 Сакавіка 1918 г., а гэта — адбудова незалежнай беларускай дзяржаўнасьці на ўсіх беларускіх землях усімі магчымымі й даступнымі спосабамі й дарогамі. (Статут Рады БНР, пар. 1, 2, 3, 4.)

З гэтага вынікае, што:

а) Рада БНР ня можа быць толькі сымбалем БНР, яна мусіць быць жывой, дзейнай арганізацыяй і праводзіць змаганьне за незалежнасьць Беларусі.

б) Стаяць на пазыцыях Акту 25 Сакавіка — гэта ніякая ласка, кожны чэсны чалавек, нават небеларус — па справядлівасьці — павінен прызнаваць незалежнасьць Беларусі, а сапраўдныя незалежнікі, бээнэраўцы, мусяць змагацца за зьдзейсьняньне Акту 25 Сакавіка, а не збываць яго пустымі дэклярацыйнымі сказамі.

2. Роля Рады БНР

Роля Рады БНР вынікае з наступнага:

а) Рада БНР — гэта найвышэйшая беларуская ўстанова й адзіны праўны рэпрэзэнтант сувэрэнных правоў беларускага народу;

б) гэта кіраўнік беларускага вызвольнага руху;

в) гэта адзіная беларуская арганізацыя, што аб’еднывае ўсё ідэйнае незалежніцкае беларускае грамадзтва ў вольным сьвеце.

3. Роля сяброў Рады БНР

Роля сяброў Рады БНР вынікае з таго, што: а) радныя БНР — гэта найбольш сьведамы нацыянальна, ідэйны і ахвярны актыў беларускага грамадзтва, маральная й матар’яльная падстава Рады БНР. б) Радныя, як паслы ў парлямэнце, вырашаюць, якой мае быць Рада БНР у сэнсе арганізацыйным і што й як яна мае рабіць, а з другога боку, выконваць пастановы Рады БНР і Сакратарыяту. Гэтыя абавязкі яны бяруць на сябе ўжо тым фактам, што згаджаюцца быць раднымі й складаюць прысягу радных. Калі-б радныя ня выконвалі сваіх абавязкаў — тады-б Рада аказалася бяздарнай і бязчыннай і фактычна не магла-б існаваць. Гэта прывяло-б нас да страшэннай нацыянальнай катастрофы, якую-б не даравалі нам ні народ наш, ні гісторыя.

Каб не дапусьціць да гэтага, радныя мусяць помніць, што яны ня могуць адмаўляцца ад выконваньня сваіх абавязкаў, згодна са зложанай імі прысягай, як ня могуць адмаўляцца і ад ускладзеных на іх функцыяў — у цэнтры, ці на мясцох. У праціўным выпадку яны будуць пустымі ганарліўцамі, а не сапраўднымі беларускімі патрыётамі — незалежнікамі. Толькі ў вынятковых выпадках яны могуць быць звольнены ад сваіх абавязкаў.

І няма тут нічога дзіўнага. Паслы ў парлямэнце ня могуць адмаўляцца ад сваіх абавязкаў, а прапанаваныя імі функцыі прыймаюць з гонарам. Звычайна-ж кожны пасол належыць да тэй ці іншай парлямэнтарнай камісіі, якія твораць парлямэнт. Такім чынам робіцца падзел працы, пры якім усе дзялянкі чынныя й усе паслы чынныя, а на пленуме канчальна вырашаюць падрыхтаваныя камісіямі справы да разгляду ўсе паслы калегіяльна.

4. Фінансавае забясьпечаньне

Ня можа быць мовы пра выконваньне працы, а тым больш плянавай працы, калі няма сталага, рэгулярнага даплыву фінансавых сродкаў на гэта. Крыніцай гэтых сродкаў ёсьць складкі нацыянальнага падатку радных па 2.00 дал. у месяц, зь якіх палавіна застаецца ў сэктарах, і толькі другая палавіна мае трапляць у касу Рады БНР. Да гэтага даходзяць зборы ахвяр, як Дар Сакавіка, сярод беларускага грамадзтва. Бяручы пад увагу інфляцыю, нават тэарэтычна сродкі гэтыя мінімальныя. Фактычна-ж яны яшчэ меншыя, бо дзе якія радныя ня плацяць складак або плацяць нерэгулярна. Гэтым страшэнна падрываюцца магчымасьці вядзеньня плянавай нармальнай працы. Як паправіць нашы фінансавыя магчымасьці, будзе мова далей.

5. Падзел працы

Без падзелу працы паміж раднымі ў ворганах Рады БНР і сэктарах ня можа быць мовы пра плянавую працу. Немагчыма, каб адна ці толькі пара асобаў рабіла ўсё і немагчыма, каб усе рабілі ўсё. Падзел працы павінен ісьці па ўзроўневай лініі — паміж ворганамі Рады БНР у цэнтры і сябрамі Рады БНР у сэктарах — і па старчмавой лініі: розныя сэктары й аддзелы Рады БНР у цэнтры маюць сваіх супрацоўнікаў у сэктарах, напрыклад, сакратар вонкавых дачыненьняў мае прадстаўнікоў да вонкавых справаў у сэктарах на мясцох;

скарбнік Рады БНР мае сваіх супрацоўнікаў на мясцох у асобах скарбнікаў сэктараў, зь якімі ўтрымлівае кантакт і супрацоўніцтва і г. д. Зразумелая рэч, што пры такім падзеле працы ня трэба забываць мясцовай ініцыятывы, але трэба дагледзіць, каб гэта ініцыятыва была плянавай і мэтазгоднай, ды ня была шкоднай для цэласьці.

Такім чынам, асновай плянавай працы Рады БНР ёсьць: 1. ідэалягічныя падставы, 2. роля Рады БНР, 3. роля сяброў радных, 4. фінансавае забясьпечаньне і 5. падзел працы. Бяз гэтай асновы ў Радзе БНР ня можа быць нармальнай плянавай працы.

## II. Плян працы Рады БНР

Каб мець магчымасьць выконваць свае заданьні, мы ў першую чаргу мусім заняцца далейшай разбудовай кіраўніцтва, а асабліва-ж выканаўчага апарату Рады БНР. Параграф 23 Статуту Рады БНР кажа: *«Старшыня Рады БНР паклікае Сакратарыят Рады БНР у патрэбнай колькасьці асобаў»*.

1. Прэзыдыюм Рады БНР

Прэзыдыюм Рады БНР, як пастанаўляючы орган паміж Сэсіямі, спраўляецца з сваімі заданьнямі добра і, у выпадку недахопу людзей у выканаўчым воргане (Сакратарыяце), мог бы, хоць часткова, запоўніць гэты недахоп. Гэта пажаданьне варта ўзяць пад увагу ў пляне працы.

2. Выканаўчы орган Рады БНР (Сакратарыят)

Цяпер у выканаўчым воргане Рады БНР выканаўчую работу праводзяць Старшыня Рады БНР, скарбнік Рады БНР сп. В. Кажан і сакратар вэтэранаў гэнерал др. Я. Сажыч. Ёсьць яшчэ два сакратары: дакумэнтацыі БНР — др. Я. Запруднік і інфармацыі — маг. Я. Сурвіла. Не хапае нам яшчэ старшыні Сакратарыяту й трох сакратароў: вонкавых дачыненьняў, культуры й асьветы ды нутраной арганізацыі.

Некаторым сакратаром неабходна мець у сваіх рэсортах аддзелы: сакратар інфармацыі творыць аддзел прапаганды й прэсы, які зьбірае весткі, што піша пра БНР і беларусаў рознамоўная заходняя й савецкая прэса ды выдае свой інфармацыйны бюлетэнь.

Сакратар дакумэнтацыі БНР мае архіўны аддзел, які зьбірае матар'ял БНР і пра БНР ды матар'ялы пра страты беларускай культуры й людзкія страты ў Беларусі. Сакратар нутраной арганізацыі дбае пра сэктары Рады БНР, мае аддзел пэрсанальны й кадраў актыву, зьбірае матар'ялы пра ўсе беларускія арганізацыі й іхнюю дзейнасьць ды выдае «Камунікаты».

Сакратар асьветы й культуры дбае пра беларускія школы й беларускае ўзгадаваньне моладзі ў беларускіх асяродках вольнага сьвету й утрымлівае сувязь з вучыцелямі й беларускімі асьветнымі арганізацыямі.

Калі-б не знайшлося кандыдата на старшыню Сакратарыяту, яго мейсца можа спалучыць са сваім адзін зь дзеючых сакратароў.

Усе сакратары маюць сваіх супрацоўнікаў у сэктарах Рады БНР, пры помачы якіх праводзяць сваю працу на мясцох.

Нам неабходна арганізаваць і агульную канцылярыю Рады БНР, якая падлягала-б старшыні Сакратарыяту, а арганізатарам і кіраўніком яе быў бы шэф канцылярыі БНР.

Таксама неабходна арганізаваць і выдавецтва Рады БНР, што падлягала-б старшыні Сакратарыяту, і хоць маленькую друкарню пры ім, пачынаючы ад машынкі «Вэрытайпэр».

3. Сэктары Рады БНР

Маем 10 сэктараў Рады БНР: 4 у ЗША, 1 у Канадзе, 1 у Аўстраліі й 4 у Эўропе. Актыўнасьць іх і ўдзел у працы Рады БНР няроўная — незалежна ад колькасьці сяброў і адлегласьці ад кіраўніцтва цэнтру Рады БНР. Слабейшыя зь іх гэта тыя два, што дагэтуль ня выбралі свайго кіраўніцтва, і тыя, што ня зьбіраюць сяброўскіх складак нацыянальнага падатку. Гэтыя недахопы сэктараў трэба выраўняць у першую чаргу. Наагул жа дзейнасьць сэктараў павінна мець два напрамкі: мясцовы (па лініі ўзроўневай) і агульнабээнэраўскі (па лініі старчмовай).

У мясцовым напрамку — сэктары, як арганізаваны актыў, стымулююць і каардынуюць беларускую работу на сваім абшары. У выпадку непаразумленьняў ці супярэчнасьцяў у грамадзе і мясцовых грамадзкіх арганізацыях яны стараюцца заладзіць ці залагодзіць непаразумленьні й супярэчнасьці. Сама мясцовая дзейнасьць пакажа радным, які мае быць падзел працы між імі.

У агульнабээнэраўскім напрамку сэктары ўключаюцца ў мясцовую работу згодна зь дзейнасьцяй і інструкцыямі сакратароў выканаўчага воргану Рады БНР. У гэтым выпадку самі сэктары ў паразумленьні са сваімі сябрамі ўстанаўляюць падзел працы, хто зь якім рэсортам мае супрацоўнічаць, нпр.: са скарбнікам Рады БНР, сакратарамі вонкавых дачыненьняў, інфармацыі ці іншымі. Некаторыя рэсорты ўжо маюць устаноўленае супрацоўніцтва з раднымі на мясцох. Так, усе скарбнікі сэктараў супрацоўнічаюць са скарбнікам Рады БНР, рэпрэзэнтанты у Парыскім блёку й Льезон груп у Лёндане супрацоўнічаюць з сакратаром вонкавых дачыненьняў (пакуль яго няма — са Старшынём Рады БНР). Пажадана, каб у большых сэктарах знайшліся супрацоўнікі з усімі рэсортамі, а ў меншых — прынамся са скарбнікам Рады БНР, сакратарамі вонкавых дачыненьняў і да спраў вэтэранаў.

У далейшым само жыцьцё й праца пакажуць, што й як рабіць. Магчыма, трэба будзе апрацаваць адумысловую інструкцыю ў гэтай справе, як і ў справе працы ўсіх ворганаў Рады БНР. Але ўжо цяпер відаць, што без разбудовы выканаўчага апарату мы ня зможам выконваць заданьняў Рады БНР, і таму трэба адразу прыступіць да рэалізацыі прапанаванага тут пляну працы.

*В. Жук-Грышкевіч, Старшыня Рады БНР*

# *Раздзел IV*
# ЛІСТАВАННЕ

*Ад 1970-х гг. у беларускіх архіўных збораў засталося даволі багатае ліставанне. Аднак у дачыненні да спраў Рады БНР найбольш цікавыя лісты датычаць менавіта першых гадоў старшынёўства Вінцэнта Жук-Грышкевіча, калі хвалюючымі тэмамі былі Архівы Рады БНР ды ініцыяваная новым старшынёй рэарганізацыя. Надалей у лістах радных сталі пераважаць агульнаграмадскія праблемы, а не палітычныя. Таму прадстаўленая тут выбарка эпісталярыяў найбольш актыўных дзеячаў Рады БНР даволі нераўнамерная храналагічна. Разам з тым яна прадстаўляе шырокі спектр поглядаў на дзейнасць і ўсяго дзяржаўнага прадстаўніцтва, і асобных яго сябраў, а таксама адлюстроўвае самыя актуальныя праблемы грамадска-палітычнага жыцця беларускай эміграцыі 1970-х гг.*

*Арыгіналы публікаваных тут лістоў захоўваюцца пераважна ў зборах БІНіМа, а таксама ў прыватных калекцыях Янкі Запрудніка ды Тамары Стагановіч. Аўтарскі правапіс у лістах захаваны.*

## ЛІСТ РАІСЫ ЖУК-ГРЫШКЕВІЧ

*На Атаве Рацэ*
*31 ліпеня 1970 г.*

Даражэнькая Натка![492]

Перад самым ад'ездам атрымалі Твой ліст. Ня раз мне хацелася пазваніць, бо гэта-ж хутчэй, як пісаць, але на свае «званеньні» мы мусілі палажыць «рэстрыкшын». Пасьля сьвяткаваньня 25 Сакавіка месячны тэлефонны рахунак прыйшоў болей як $50.00, таму агранічылі тэлефоны на далёкую адлегласьць да абсалютна неабходных, а так як мы жывем не ў Таронта, іх усяроўна шмат.

На вакацыях мы ад прошлае суботы, заўтра будзе тыдзень. Будзем тут да 15 жніўня — тры тыдні ўсяго разам. Пагода была вельмі добрай — горача, а сяньня цэлы дзень падаў страшэнны дождж, але цяпер выясьнілася, і Вінцук з суседам паехаў на рыбы — лодкай на раку.

Чуемся мы зь Вінцуком няблага са здароўем. Перад самым ад'ездам трымалі ліст з хаты, што тата хворы, яму 75 год. Гэтым я вельмі перайmаюся, але

---

[492] Ліст адрасаваны Наталлі Арсенневай.

стараюся неяк мірыцца, бо й так нічога гэтым не памагу, а неяк трэба троху адпачыць, каб ізноў набраць зараду да працы, а яе з усіх бакоў на галаву й так шмат валіцца, але гэта добра.

Вельмі цешуся, што Ты сабрала свае вершы й падрыхтавала зборнік да друку. Трэба яго друкаваць як мага хутчэй. Яшчэ-ж мусіць і др. Тумаш мусіць яго прачытаць, напісаць уступ і гэтак далей, што займе час. Калі трэба будуць грошы, дайце знаць, будзем старацца й памагаць іх здабыць.

Перад ад'ездам на вакацыі атрымала два лісты ад Ларысы Геніюш[493] як адказ на мой — прывітаньні з 60-мі ўгодкамі яе жыцьця. Яшчэ перад сьмерцю сп. Прэзыдэнта выслала ёй урадзіновую пачку, а пасьля паховінаў пісала ліст. І яна хацела-б болей ведаць аб сьмерці «Міколы»[494], бо як-жа яна будзе пісаць.

Аб сьмерці й падзеях у Парыжы праз тыдзень пасьля сьмерці сп. Прэзыдэнта я расказвала на абедзе пасьля паніхідаў у Дэтройце, а пасьля напісаўшы даволі дакладна — у Таронта на памінкавым абедзе на 40-ы дзень пасьля сьмерці. Тое, што напісала, вырашылі паслаць апрача справаздачы з жалобнае ўрачыстасьці ў «Беларус», але ня ведама, ці др. Ст. Станкевіч надрукуе, бо там трохі ёсьць паўтарэньня, што пісаў вельмі афіцыйна Я. Запруднік. Цяпер бачу, што няблага было-б, каб надрукаваў, бо людзі хочуць ведаць болей дэталяў жыцьця, а ня толькі афіцыйшчыну, але з др-ам Станкевічам ведаеш, як ёсьць: скажа — задоўга й зробіць «зацемку», зь якой ізноў ніхто нічога не даведаецца. Ды зь ім ужо болей не спрачаюся. Паслала яму 4 рэчы, пабачым, што надрукуе, мо' нічога.

Што сталася з архівам, падана ў Камунікаце Прэзыдыюму й Сакратар'яту Рады БНР. Пакуль што архіў у сп-ні Ніны Абрамчык. Наагул у Парыжы апрача таго, што было сумна, было й цікава. Аб гэтым найляпей было-б пагутарыць пры спатканьні. Сп. Прэзыдэнт перад сьмерцяй шмат цярпеў боляў, давалі яму ўколы, відаць, ад боляў, а Ён гаварыў, што імі лечаць «гастрыт», і настойліва чакаў паправы, чакаў, як Ніна гаворыць, кажны дзень почты, да апошняга дня хадзіў патросе. У адным зь лістоў прасіў Барыса Рагулю, каб прыехаў. Той на канец тыдня й паляцеў і быў вельмі задаволены, што гэта зрабіў — як гуманны ўчынак. Параіў Хвораму, незалежна ад усяго, узяць «лёера»[495] і ўпарадкаваць гаспадарчыя справы — хадзіла пра тэстамэнт для сям'і. Барыс бачыў недакончаную хату[496] і асэнсаваў яе пазытыўна. Сказаў, што на заканчэньне яе прышлем $1000.00, што болей меней ёсьць патрэбна, за гэта Ёй сказаў наняць майстроў закончыць і прадаць. Грошы выслалі, але

---

[493] Як згадвала Раіса Жук-Грышкевіч, знаёмства з **Ларысай Геніюш** (1910–1983) паходзіла яшчэ з часоў Другой сусветнай вайны, але ліставанне з ёю Жук-Грышкевічы наладзілі толькі да 60-х угодкаў яе жыцця.

[494] Маецца на ўвазе Мікола Абрамчык.

[495] Маецца на ўвазе анг. ***lawer*** — адвакат, праўнік.

[496] Маецца на ўвазе хата, якую Мікола Абрамчык будаваў на продаж у якасці ўласнага бізнесу.

як я была, праца непачатая, і ня дзіва, дзе там было Ніне да працы тады. Ніна гаварыла, што яна нічога ня ведае, ці Нябожчык пакінуў тэстамэнт (адносна грамадзкіх спраў ці іншых), ці не, але мне, бязь пытаньня, ейны лёер казаў, што ён зьяўляецца Нініным адвакатам — сп. г. Пікарда[497]. Тое, што гаварыў Барысу сп. Прэзыдэнт адносна архіваў, не згаджаецца з тым, што пасьля ён гаварыў Уладыку Чаславу[498], прынамсі, што Ўладыка Часлаў гаворыць.

Хацела-б, каб Ты змагла паехаць на 9-ю Сустрэчу ў Нью Ёрку[499]. Мы бязумоўна плянуем ехаць, а гэта ўжо толькі за месяц. Пабачыліся-б. Пагутарылі-б.

Паводле Анны і Ўладзімера Русакоў, перад Калядамі д-ру Тумашу спаўняецца 60 год. Валодзя кажа: *«Я й сам займуся арганізацыяй сьвяткаваньня»*, і ён рыхтуецца. Я яму не казала, але др-у Тумашу прыямней было-б, каб Інстытут[500] ладзіў, а не прыватная асоба. Ці ня будзеш Ты ведаць дакладнае даты? Ад ЗБК трэба будзе выслаць хаця прывітаньні. Цяпер я чытаю другі ці трэці раз ягоныя працы аб Скарыне, усё-ж ён вельмі вартасны ў нас чалавек.

Дык вось якія справы ў нас. Спадзяюся, што мы за месяц усё-ж пачуемся.

Прывітаньні ад нас абоіх Табе, Владку й дзецям[501]. Трымайся, Натка.

Цалую моцна,

*Твая Раіса.*

## ЛІСТЫ МІКОЛЫ НІКАНА

*

*Мэльбурн, 14.5.1970*

В. Паважаны й Дарагі Доктар! [502]

Найшчырэй дзякую за ліст з сумнай весткай адносна здароўя Прэз. Абрамчыка. Вестку гэтую я адразу выкарыстаў, што ад імя нашага Прэзыдыюму Рады БНР мы выслалі адпаведныя лісты да ўсіх нашых радных і па атрыманьні іхных заўвагаў, пераказаў Вам у Цэнтр Сакратарыяту Рады.

Адносна фармальнасьцяў — выбару-пераказаньня абавязкаў Прэзыдэнта-Старшыні Рады БНР — мы дасюль ня ведаем. Згодна пратаколаў апошняй Сэсіі Рады афіналізаваньне ў Статуце адпаведнага пункту мела стацца зараз пасьля Сэсіі, пасьля атрыманьня апініяў у гэтай справе ад сэктараў Рады

---

[497] Гай Пікарда першым часам пасля смерці Міколы Абрамчыка даваў Ніне парады як адвакат.

[498] Маецца на ўвазе Часлаў Сіповіч.

[499] 9-я Сустрэча беларусаў Паўночнай Амерыкі адбывалася 5–7 верасня 1970 г. у Нью-Ёрку.

[500] Маецца на ўвазе Беларускі інстытут навукі і мастацтва.

[501] Маюцца на ўвазе сын Наталлі Арсенневай Уладзімір Кушаль ды ягоныя дзеці Ната і Пётр, якіх даглядала паэтка.

[502] Тут і далей лісты да Запрудніка.

ў В. Брытаніі, Нямеччыны і Аўстраліі. Мы сваю апінію адразу выказалі, высылаючы перад Сэсіяй адпаведны пратакол. На жаль, дагэтуль не атрымалі адказу. Мне здаецца, што выбары наступніка-заступніка Прэзыдэнта Старшыні Рады БНР на Сэсыі ўзмоцнілася-б тастамэнтам адыходзячага Прэзыдэнта-Старшыні. І на нашую думку, добра было-б парабіць адносна гэтага адпаведныя захады, пакуль ёсьць яшчэ час.

Мы зусім згодныя, што з адыходам Абрамчыка скончыцца эпоха нашае палітычнае дзейнасьці і пачнецца новая. Якая? І згодныя, што наш Цэнтр павінен гэта добра разважыць і выдаць адпаведную Заяву-Маніфэст, высоўваючы канкрэтныя мэты на будучыню. Мэты і абавязкі.

Другога дня па Вашым лісьце, учора, атрымаў я ліст ад Ж. Грышкевіча, які таксама паведамляе мяне аб апініі др. Рагулі адносна здароўя Прэзыдэнта і аб захадах, зробленых раднымі (магчыма і іншымі) адносна фінансавай дапамогі Абрамчыкам на выканчэньне дому. Паведамляе таксама і аб др. Маркоўскім, які і нам разаслаў свае «бюлетэні»[503] з крытыкай «асяродка Менск»[504]. Думаем, з крытыкай рачовай. І ў сувязі з гэтым мы вельмі прасілі-б, каб можна было даведацца больш канкрэтных і праўдзівых фактаў адносна «Менску», а пры гэтым і дзейнасьці нейкіх асобаў, каб прынамся ведаць і не паддавацца паніцы.

Дзякую за прысланыя залучнікі. Вельмі цікавыя. З Л. Геніюш утрымліваю даволі жывую карэспандэнцыю. Раней шмат пісала і прасіла пісаць. І даволі адважна выказвалася. У апошняй картцы паведамляе, што пэўна хутка зусім ня зможа пісаць *«на дамаганьні ня толькі мужа»*. Відаць, Яе прыцiскаюць. Таксама сястра мая, якая зь ёю мае даволі блізкі кантакт, давала да пазнаньня, каб быць вельмі абярэжным у карэспандэнцыі зь Ёю.

Але ў нас стаўся даволі цікавы факт. Калі прыехаў, шмат гаварыў пра Л. Геніюш, і пачалі мы на сваіх імпрэзах дэклямаваць Ейныя вершы. І на просьбу аднаго зь беларусаў, «прасавецкага», прыслалі з «Голасу Радзімы» 8 кніжак Л. Геніюш, якія пайшлі «паміж людзі». Таму, высылаючы Геніюш картку з пажаданьнямі на 60 гадавіну нараджэньня з подпісамі жанчын, зазначылі на асобнай картцы аб гэтых кнігах, атрыманых зь Менску афіцыяльна. Зрабілі гэта дзеля цэнзуры і нейкай «асэкурацыі»[505] для паэтэсы. Высланую раней пачку ад нас пэўна ўжо атрымала.

На гэтым тымчасам канчаю. Жадаючы Вам усім усяго найлепшага, аднач часна просім памятаць і пра нас. Нашыя вочы цяпер можа болей як калісь скіроўваюцца на Амэрыку. Дык шчасьці Вам Божа. Прывітаньні ўсім.

Шчыра адданы

*М. Нікан.*

---

[503] Відаць, маецца на ўвазе часопіс «Веча», які цягам 1970–1973 г. выдаваўся ў Нью-Брансвіку. Рэдактар П. Маркоўскі. Пазней назва часопіса змянілася на «Вялітва».

[504] Магчыма, маецца на ўвазе адпачынкавы асяродак «Белэр-Менск».

[505] **Асэкурацыя** — тут, відаць: страхоўка, страхаванне.

*

*Мэльбурн, 21.6.70*

В. Паважаны й Дарагі Доктар!

У апошніх тыднях здарыліся вельмі важныя ў нашым беларускім жыцьці факты. Памёр Прэзыдэнт с. п. Абрамчык, памёр і Арх. Васіль. Мы ў Аўстраліі даведаліся аб гэтым прыпадкова й позна. Аб сьмерці с. п. М. Абрамчыка напісаў мне Ўладыка Васіль і — дагэтуль — ніхто болей.

Сяньня ў нашай Царкве а. Кулакоўскі[506] адслужыў па Ўл. Васілю Паніхіду — і на нашую просьбу (маю) крыху памаліліся і за с. п. М. Абрамчыка. Афіцыйную Паніхіду думаем адслужыць у 40 дзён пасьля сьмерці.

Сяньня на Паніхідзе былі мэльбурнскія радныя БНР, і ўсе з жалем сьцьвярджалі, што наш Цэнтр у Амэрыцы камплетна ігнаруе нас у Аўстраліі. Бо ці-ж запраўды ўжо не знайшлося кагось, каб прынамся колькі слоў напісаў-паведаміў аб так важнай падзеі, як сьмерць Старшыні Рады БНР ці Арх. Васіля? Нават і тэлеграму нехта мог-бы даць, выслаць.

Пішу аб гэтым да Вас, Сп-ру Доктар, перадусім даведама, хаця аб гэтым столькі разоў ужо афіцыяльна наш сэктар выражаўся, пісаў. Я добра разумею, што Вы моцна заняты і якраз у гэты час. Але такіх, як Аўстралія, ёсьць, магчыма, яшчэ толькі адзін ці два асяродкі, якіх трэба паведаміць — коратка, толькі паведаміць, каб нам, радным, ня быць на ласцы «прыпадковых» і вельмі спозьненых вестак. І нам здаецца, што на гэта патрэба крышку арганізацыі й добрае волі, і што гэта мог-бы зрабіць нехта з Вашых супрацоўнікаў, бо Вы маеце больш важныя справы да выкананьня.

У сваім папярэднім лісьце, у якім пераслаў пратакол з нашага паседжаньня падсэктару Рады БНР у Мэльбурне, прасіў паведаміць нас аб апошніх падзеях у Вас, таму цяпер аб гэтым паўтараць ня буду. Але пры нагодзе ветліва хацеў-бы пераказаць просьбу Алеся Салаўя — А. Кадняка, які свайго часу пераслаў праф. Адамовічу свае вершы[507] і дагэтуль ня ведае, што зь імі зроблена. Паколькі цяпер А. Кадняк (А. Салавей) мог-бы выдаць гэтыя

---

[506] **Аляксандр Кулакоўскі** (25.03.1925, в. Тулічава, сёння Навагрудскі раён Гродзенскай вобл. — 18.03.2010, Мельбурн, Аўстралія), рэлігійны дзеяч, праваслаўны святар. У часе Другой сусветнай вайны апынуўся ў Нямеччыне, адкуль у 1949 г. эміграваў у Аўстралію. Пасяліўся ў Мельбурне, дзе браў удзел у арганізацыі Парафіі Трох віленскіх пакутнікаў БАПЦ у 1958 г., дзе адпачатку працаваў рэгентам. На пачатку 1963 г. узведзены ў дыяканы, а напрыканцы таго ж года высвячаны на святарства і стаў на чале беларускай парафіі ў Мельбурне. На гэтай пасадзе заставаўся нязменным да самай смерці. Ініцыятар набыцця беларускай дзялянкі на мельбурнскім могільніку *Fawkner Memorial Park*, пабудовы на ёй помніка «*На вечны ўспамін спачылых усіх ведамых і няведамых Беларусаў*», а таксама набыцця ўласнага будынка для царквы. Ад 1964 да 1992 (?) г. працягнуў выданне «Беларускага праваслаўнага календара» для вернікаў парафіі.

[507] Маецца на ўвазе даволі доўгая справа выдання зборніка твораў Алеся Салаўя «Нятускная краса» (1982).

вершы на свой кошт, просіць праф Адамовіча вярнуць гэтыя вершы. Прашу ня гневацца, што ў гэтай справе зьвяртаюся да Вас, а не безпасярэдня да праф. Адамовіча. Выкарыстоўваю нагоду гэтага ліста і тое, што ведаю, што Вы маеце блізкі кантакт з праф. Адамовічам і гэтую просьбу зможаце яму пераказаць. Пры нагодзе і ад мяне прашу дадаць найшчырэйшыя прывітаньні Яму і ўсім Вашым спрацоўнікам. Найлепшыя пажаданьні Вам і Вашай Сям'і.

Шчыра Вам адданы,

*М. Нікан.*

*

*Мэльбурн, 12.6.71*

В. Паважаны й Дарагі Доктар,

Перад хвілінай атрымаў ад Вас ліст — з 8.6. — і адразу на горача, пакуль выбіраюся на працу (еду на вячэрнюю зьмену), крыху Вам адкажу.

Вестка, што выбралі мяне на заступніка старшыні Рады БНР на Аўстралію поўнасьцю заскочыла. Ды й прыбіла. Будзе ў сувязі з гэтым даволі турботаў, і ня ведаю, ці ў карысьць Рады БНР. Галоўнае, што ў нас (як, думаю, і ў Вас) ад пачатку замацаваўся дэмакратычны спосаб пакліканьня людзей — у гэтым выпадку і ў Радзе ці сэктару Рады БНР — на становішчы тыя ці іншыя. У нас у Аўстраліі старшынёй сэктару ёсьць сп. М. Скабей[508]. Я быў сакратаром. Мы плянавалі якраз на пасьля 11-й Сэсыі Рады БНР склікаць зьезд радных Аўстраліі й выбраць новую Ўправу. Паколькі Прэзыдыюм сэктару амаль ад пачатку існаваньня сэктару быў у Мэльбурне, дзеля заахвочваньня ды й дзеля часу, хацелі перадаць Прэзыдыюм сэктару Сыднейскім радным у Сыднэі. І гэта было-б на нашую думку добра. Выбары мяне на як-бы прадстаўніка Рады ў Аўстраліі крыжуе адно й другое, пазбаўляе радных Аўстраліі выбраць самым сабе старшыню (а будзе накінуты згары) і ня будзе магчымасьці пераказаць абавязкаў Прэзыдыюму з Мэльбурну ў Сыднэй.

Дык гэта галоўная засьцярога супраць майго выбару Сэсыяй на заступніка Старшыні Рады БНР на Аўстралію. Мне дастаткова й сакратар, тым больш, што і яго хацеў пазбыцца, калі ў нас пачала жыць школка[509], якой фармальна зьяўляюся кіраўніком; калі мяне да гэтага выбралі ў Управу Беларускага камітэту ў Мэльбурне[510] на культ-асьветнага рэфэрэнта. Калі ў нас зарганізавалася ўрэшце моладзь і ў сувязі з тым, што мая дачка й сын былі выбраныя да Ўправы СБМ і трэба будзе і мне ім дапамагаць, хапіла-б работы, маючы і ўсе ранейшыя абавязкі.

---

[508] **Скабей Мікола** (1905–1992), грамадскі дзеяч. Жыў у Мельбурне, уваходзіў у кіраўніцтва Беларускага цэнтральнага камітэта ў Вікторыі.

[509] На пачатку 1970-х гг. у Мельбурне была зноў арганізаваная нядзельная школка для беларускіх дзяцей, якая праіснавала цягам некалькіх гадоў.

[510] Маецца на ўвазе Беларускі цэнтральны камітэт у Вікторыі.

Калі я прыехаў да Аўстраліі, хаця адразу зрабіў асьведчаньне, што на жадныя становішчы не прэтэндую і не хачу іх мець, а працаваць буду й так, вытварылася супраць мяне спэцыяльная апазыцыя (аб тым, здаецца, гаварыў крыху, будучы ў Вас), якая трывала даволі доўга й была балючай. Яна ўзрасла да максымуму, калі мы адаптавалі дзяцей, фармальна палякаў, а фактычна беларуса і ўкраінку, а якія сяньня (дзеці) большыя беларусы, як дзеці «беларусоў». Апошнія гады «зьмяніліся» ў нашу карысьць, апазыцыя супраць мяне «разьвеялася», і пазыцыя ўстабілязавалася. Але вельмі не хацеў-бы быць «старшым» у сэктары Рады БНР у Аўстраліі. Гэта зусім шчыра. Прашу мяне зразумець і выясьніць і др. Ж. Грышкевічу.

Галоўная фармальнасьць — што бяз выбараў буду накінуты аўстралійскім радным. Хіба знойдзецца іншы выхад: пакідаючы выбранага старшыню сэктару Рады БНР і як-бы прадстаўніка Рады, але, што на маю думку, ня было-б выхадам з палажэньня.

А цяпер другая засьцярога. Паколькі маю на Бацькаўшчыне сваякоў і не хацеў-бы ім шкодзіць (а маглі-б сволачы выкарыстаць), калі-б дайшло да нечага, прашу не падаваць афіцыяльна прозьвішча, і не М. Н., бо гэта ўжо ведамы, але псэўданім. Але які? Калісь падаўся на першага прадстаўніка да «Бацькаўшчыны» — М. Паляшук. Празь некалькі год такім фігураваў. Потым самыя зьмянілі на Нікана. На гэтага М. Паляшука да сяньня атрымліваю другі нумар «Голасу Радзімы». І ўжо больш за 12 год. Дык можа падаць гэты псэўданім? Ведамы і няведамы.

Але раней ветліва прасіў-бы «разьвязаць» першае, бо другое ўжо менш важнае, а толькі фармальнае.

Дзякую за дасланыя весткі. Цікава, што В. Сянкевіч (быў маім вучнем у Карпацкай польскай вясковай школе) быў у Амэрыцы, удзельнічаў у Сэсіі і што робіць дактарат. Маладзец. Дай Божа яму шчасьця. Калісь пісаў да мяне. Ад некалькі год ня было ў нас сувязі. Але было прыемна даведацца, што чалавек «прагрэсуе».

Дзякую за абяцаньне прыслаць бюлетэні для моладзі. Мы якраз патрабуем. Маем цяжкія пачаткі. І Ваш бюлетэнь можа нам вельмі дапамагчы. Што сталася, што даўно перастаў выходзіць часапіс моладзі[511]? Калі паядналіся два напрамкі, мест узмацавацца, выглядае, што абодва «замерлі». Можа, цяпер Вы «адродзіце»? Шчасьці і Вам Божа!

Перад некалькімі днямі атрымаў «Змагара» ад няведамай асобы. Цікава, хто рэдактарам? Прачытаў раз. (Сяньня на працы прачытаю ўважней другі раз.) Уражаньне — «гарох з капустаю». Да гэтага жадаюць 10 даляраў у год за часапіс. Ці змогуць вытрымаць тыднёвікам? Тымчасам адзін аб ім выказаўся, які ўжо прачытаў. І выказаўся нэгатыўна. А якая Вашая апінія? (Думаю, атрымалі і Вы і напэўна шмат раней.)

---

[511] Маецца на ўвазе часопіс **«Беларуская моладзь»**, выданне якога перапынілася ў 1967 г. і аднавілася ў 1972 г.

Вельмі цешуся, што, як Вы інфармуеце, 11 Сэсія прайшла памысна. Чакаем на пратакол і інфармацыю аб ёй. Можа, нешта ў карэспандэнцыі і дойдзе да нас. Добра, што выбралі др. Б. Рагулю на заступніка. Цікава, хто ў выканаўчым воргане? Старшынёй Сакратарыяту?

Калі заўтра буду мець час — напішу кароткі ліст да Ж. Грышкевіча. А можа, ён ужо і нешта нам напісаў. Дык хутка атрымаем. Тры «Камунікаты Рады БНР» (апошнія) былі цікавыя і добрыя.

Ці мелі магчымасьць чытаць «друкаваныя запіскі» — «выказы» «Роднага Краю»[512]? У мінулым тыдні я атрымаў. Прачытаў і даў чытаць Скабею. Пачаткова крыху абураўся. Потым зьмяніў думку. Што людзі маюць магчымасьць «выказацца», нават у памылках і дурніцах, гэта някепска. Трэба дазволіць людзям «выказацца». Да нейкай праўды хутчэй дайсьці. Толькі патрэбныя і адпаведныя «насьвятленьні» да падаванага матар'ялу, лістоў, бо іначай можна зайсьці ў лес і згубіцца. Дык — карысьць і небясьпека. Так мне здаецца. Я тымчасам атрымаў нумары 2, 3, 4, 5, 6, 7 і 8. Апошнія — паважнейшыя і спакайнейшыя. Магчыма, заўтра, калі змагу, адкажу. Толькі каму? Хто выдаўцом?

13.6. 16:25. Вярнуўся з працы, зьеў ранейшую вячэру і бяруся за пісаньне. Ня шмат ужо дадам. Галоўнае ўчора напісаў. Шкадую, што ў міжчасе ня змог зь некім параіцца. Ды і ня маю з кім. На гэтую тэму ўчора крыху пагутарыў з сынам, якога памаленьку ўцягваю ў грамадзкую працу. Быў-бы вельмі задаволены, каб мог цягнуць далей.

З дачкой «ваюю». Мае сымпатыю расейца, які прыехаў некалькі год таму зь Нямеччыны. І падпала пад ягоны ўплыў. Ён стаўся важнейшы за бацькоў. Мае 20 скончаных год, і ёй здаецца, што можа сабе пазваляць рабіць, як сама ўважае. Вучыцца ў Інстытуце, за 1,5 года мае скончыць і тады выйсьці замуж. Выглядае, што ўсё нармальна. Але ня ёсьць нармальна. Дык — турботы.

Так, жыцьцё часамі ўскладняецца, і трэба перамагчы не адну перашкоду.

На гэтым канчаю гэты ліст і жадаю Вам, Спадару Доктар, як і ўсёй Вашай сямейцы, а пры нагодзе й найбліжэйшым супрацоўнікам, усяго найлепшага.

Шчыра Ваш

*М. Нікан.*

---

[512] Магчыма, маецца на ўвазе **«Літаратурна-мастацкі зборнік»**, што выходзіў у Трэнтане (ЗША) нібыта ў выдавецтве «Родны край» пад рэдакцыяй Кастуся Якуба (Птаха) ад 1970 г.

# ЛІСТ ВАСІЛЯ РУСАКА

*12 сьнежня 1970 г.*
*Др. Я. Запрудніку*
*Старшыні Сакратарыяту Рады БНР*
*Нью Ёрк*

Ніжэй падаю выпіску з пратаколу паседжаньня Прэзыдыюму й Сакратарыяту Рады БНР, што адбылося дня 9-га верасьня г. г. для зьмяшчэньня ў «Бюлетэні Рады БНР».

Паседжаньне Прэзыдыюму й Сакратарыяту Рады БНР.

Дня 9-га верасьня 1970 г. адбылося ў Нью Ёрку паседжаньне Прэзыдыюму й Сакратарыяту Рады БНР. На паседжаньні прысутнічаў Старшыня Рады БНР Др. В. Жук-Грышкевіч. З галоўных пытаньняў, што разглядаліся на паседжаньні, былі наступныя:

Чарговая 11-я Сэсія Рады БНР.

Старшыня Рады БНР Др. В. Жук-Грышкевіч лічыць скліканьне чарговай Сэсіі Рады БНР вельмі важным пытаньнем. Сэсія патрэбная для запэўненьня цягласьці дзейнасьці Рады, перавыбараў кіруючых ворганаў Рады і актывізацыі яе дзейнасьці. У гэтай справе ён радзіўся са шматлікімі раднымі з розных сэктараў. Пастаноўлена: Старацца склікаць Сэсію ў канцы травеня 1971-га году, прыблізна ў першыя ўгодкі сьмерці с. п. Прэзыдэнта М. Абрамчыка. месцам Сэсіі быў выбраны Нью Ёрк. Зрабіць захады, каб на Сэсію прыбыло як найбольш радных, уключна з прадстаўнікамі ад Сэктараў з Эўропы і Аўстраліі. Намячаецца такі парадак дня:

Адкрыцьцё Сэсіі.

Прачытаньне пратаколу з папярэдняй Сэсіі БНР.

Справаздачы зь дзейнасьці.

Перагляд Статуту Рады БНР.

Выбары кіруючых ворганаў Рады БНР.

Прапановы для дзейнасьці Рады БНР.

Зьвярнуцца праз «Бюлетэнь Рады БНР» да радных, каб яны выказалі свае думкі ды далі прапановы адносна правядзеньня Сэсіі.

Аслабленьне дзейнасьці радных. Быў сьцьверджаны факт аслабленьня дзейнасьці паасобных радных як сяброў Рады дык як удзельнікаў беларускага арганізаванага жыцьця наагул. Ёсьць радныя, што нат не пачуваюцца да абавязку ўплаты складак. У гэтак справе будуць высланы адпаведныя звароты радным.

Архіў Рады БНР. У час, калі адбывалася паседжаньне, Архіў Рады БНР ня быў яшчэ пераняты Камісіяй у складзе а. А. Смаршчка, а. Л. Гарошкі і сп. А. Лашука ад сп-ні Н. Абрамчык. Робяцца захады, каб прысьпешыць пераняцьцё Архіву, як з боку Прэзыдыюму Рады, так і з боку Камісіі.

Фонд Памяці Прэзыдэнта. Фонд быў створаны на паседжаньні радных і ўдзельнікаў паховін Прэзыдэнта ў Парыжы. Мэтай Фонду ёсьць паставіць помнік с. п. Прэзыдэнту М. Абрамчыку, зьвярнуць задоўжанасьць за паховіны ды памагаць у меру магчымасьцяў сям'і Прэзыдэнта. Паховіны Прэзыдэнта каштавалі $2100.00, з чаго $1600.00 былі прыватнымі пазыкамі. Сакратар фінансаў сп. В. Кажан паінфармаваў, што ў Фонд ужо паступіла больш за $1000.00 ды збор ахвяраў праводзіцца ў розных беларускіх асяродках. Адным зь першых у правядзеньні збору ахвяраў быў сэктар Мічыган-Агаё ў ЗША.

Прашу, калі патрэбна, зрабіць адпаведныя праўкі ў выпісцы. Я ўставіў у пункце аб Фондзе Памяці Прэзыдэнта *«ды памагаць у меру магчымасьці сям'і Прэзыдэнта»*. На маю думку, такая рэч павінна была-б быць успомнена ў «Бюлетэні Рады БНР». Я ня зусім ёсьць пэўны адносна коштаў паховінаў. Я падаў Вам сумы, пададзеныя на паседжаньні Рады дня 20-га чэрвеня г. г. Сп. В. Кажан падаў на паседжаньні 9-га верасьня іншыя сумы ў франках: кошт паховінаў — 13756.00 франкаў, прыватныя пазыкі — здаецца, 5440.00 франкаў. Гэтыя сумы з сабою не згаджаюцца. Прашу высьсніць гэтыя рэчы.

Залучаю таксама копіі пратаколаў паседжаньня Прэзыдыюму і Сакратарыяту Рады з дня 9-га верасьня г. г. для перагляду.

З глыбокай пашанай да Вас,

*В. Русак, сакратар Прэзыдыюму Рады БНР.*

## ЛІСТ ЯНКІ ЗАПРУДНІКА

*Нью Ёрк, 25.III.1971*

*Др. В. Жук-Грышкевічу*
*Старшыні Рады БНР,*
*Бэры, Антарыё, Канада*

Вельмінаважаны Спадару Старшыня,

Цяпер, калі Вы прадумваеце і абмяркоўваеце пытаньні 11-е Сэсіі Рады БНР, што адбудзецца ў канцы травеня сёлета, ды ўзважаеце будучыню нацыянальна-вызвольнага руху наагул, я хачу падзяліцца з Вамі некаторымі сваймі паглядамі на нашыя заданьні ды паведаміць Вам пра сваю пастанову.

Апошнімі гадамі, выконваючы розныя абавязкі й даручэньні ў Радзе БНР, БАЗА, ЗБМА (цяпер ЗБАМ), Фундацыі Крэчэўскага, у выдавецкай галіне, а таксама будучы ў кантакце з амэрыканскім акадэмічным сьветам, у мяне паступова наростала ды ўмацавалася канчальна перакананьне, што беларускі нацыянальна-вызвольны высілак на эміграцыі — асабліва пры аглядзе яго з сучаснае 25-гадовае рэтраспэктывы — у пэўным сэнсе аднабокі, несуразьмерны й нерацыянальны.

Дасюль нашыя асноўныя сілы скіроўваліся на арганізацыйнае самазахаваньне. Галоўным заданьнем і завяршэньнем грамадзка-нацыянальнага

высілку сталася ў нас арганізацыйная самадзейнасьць, жыцьцё зачынілася ў цыклі: статут — управа — гадавы сход — пытаньні пабольшаньня сяброў… Пры гэтым, праўда, арганізацыі нашыя ў меру сваіх магчымасьцяў праводзілі й праводзяць рэпрэзэнтатыўную дзейнасьць: пасылаюць дэлегатаў да мясцовых уладаў, бяруць удзел у міжнацыянальных выстаўках ці канцэртах, пішуць мэмарыялы з тае ці іншае нагоды ў тую ці іншую ўстанову і да гэтага падобнае. І ўсё гэта, бясспрэчна, у найвышэйшай меры патрэбнае, карыснае й нязвычайна важнае. Заданьні нашае палітычнае эміграцыі, аднак, далёка ня вычэрпваюцца самазахаваньнем сябе арганізацыйна ды пасільным удзелам у больш або менш важных міжнацыянальных перапрыемствах. Рух наш мусіць разьвівацца й кансалідавацца ідэйна, расьці ўглыбкі тэарэтычна, мусіць стала сачыць і асэнсоўваць рэчаіснасьць на Беларусі, у цесным кантакце зь якой мы можам адно захаваць сябе як актыўную палітычную сілу.

Нам ня можа тымчасам ня трывожыць факт, што Беларуская Палітычная Эміграцыя за 25 год свае дзейнасьці не сфармулявала грунтоўным парадкам ані сабе, ані зацісьненым у палітычна-ідэалягічнай затхлі суродзічам на бацькаўшчыне, ані вонкаваму сьвету гістарычных асноваў і палітычных мэтаў Беларускага Вызвольнага Руху. За ўсю сваю гісторыю наагул Беларускі Нацыяналізм не сфармуляваў сябе ў сыстэматычна ўнятай гісторыі й палітычнай плятформе. Увесь наш ідэйна-тэарэтычны набытак вымяраецца вершамі Купалы (паэзіяй наагул), трыма ўстаўнымі граматамі ды раскіданымі па газэтах і часапісах фрагмэнтарнымі артыкуламі. Нястача гістарычна-палітычнае літаратуры пры наяўнасьці фальсыфікатараў пра нас у працах бальшыні заходніх гісторыкаў адгарадзіла наш рух поўнасьцяй ад вонкавага сьвету, зачыніла яго ў арганізацыйна-бытавым завулку ды спрычыніла тое, што вонкавы сьвет, у якім мы перш-наперш павінны былі-б апраўдваць сваю ролю палітычнае эміграцыі, ролю інфарматара, не рэагуе навет на тыя нацыянальныя асьпірацыі ў сучаснай Беларусі, што ўвесь час выяўляюць сябе ў самых розных дзялянках жыцьця. *«Папка з матар’яламі пра Беларусь была пустая»*, сказаў мне нядаўна адзін працаўнік Дзяржаўнага Дэпартамэнту ЗША, што *«сочыць»* ход беларускіх падзеяў.

Мы ня можам не праймацца таксама вельмі важнай праблемай спадкаёмасьці ў спэцыфічных эміграцыйных умовах. Бо калі мы сябе самых трымаем пры беларускасьці на грунце эмацыянальнае прывязанасьці да Беларусі — на культурных і духовых элемэнтах, што становяць неадлучную частку нашае псыхалёгіі й псыхікі — дык мы з болем пераконваемся, як мала гэтага духовага сьвету, гэтае эмацыянальнасьці (псыхалягічная заканамернасьць!) перайшло на нашую моладзь. Шляхоў да ейнае сьведамасьці, значыцца, трэба шукаць зь іншага боку, з боку азнаямленьня яе з нашай гісторыяй і з самой палітычнай рэчаіснасьцяй. Наіўным тым больш было-б спадзявацца, што сваёй эмацыянальнасьцяй, перажываньнем па здушванай савецкім рэжымам беларускай нацыянальнай культуры, мы забясьпечым беларускай справе актыўнае падтрыманьне ці навет належнае разуменьне з боку палітычных дзейнікаў вонкавага сьвету. Этнаграфізм і мастацкая самадзейнасьць,

калярытнасьць нацыянальнае вопраткі й жвавасьць «Крыжачка» выклікаюць добразычлівую сымпатыю да нас, і гэта ўсё. Актыўнае-ж падтрыманьне беларускіх вызвольных асьпірацыяў з боку вонкавага палітычнага сьвету — сьвету халодных разьлікаў — мы праб'ём доступ гістарычнымі й палітычнымі аргумэнтамі, калі мы яму пакажам грунтоўным парадкам, навукова, гістарычныя вытокі й сучасны стан Беларускага Нацыяналізму ўва ўсіх ягоных выявах.

Наш вызвольны рух, нашае разуменьне міжнароднае рэчаіснасьці й рэлятыўнае важнасьці сваіх заданьняў ішло дасюль у рэчышчы катэгорыяў «халоднае вайны», трымалася на спадзяваньні, што міжнароднае разьвіцьцё прастуе ў кірунку збройнага сутыку Амэрыкі з Савецкім Саюзам ды што ў выніку гэтага настане гэнае *«вызваленьне паняволеных народаў»*. Гэткага разуменьня людзі трымаліся й трымаюцца, бо гэта ня толькі іхныя жаданьні, але й лінія найменшага супраціву: лягчэй бо супакоіць сябе спадзяваньнем, што *«некалі-ж нешта павінна здарыцца»*, чымся рыхтавацца да цяжэйшага — да 25-50-75 гадоў эміграцыйнага існаваньня. Гэткая пэрспэктыва палохае… А час на месцы не стаіць. Дваццаць пяць гадоў, мы бачым цяпер, мінулі ўжо. Настроі «халоднае вайны» ў заходніх сталіцах падменьваюцца штораз больш тэорыямі суіснаваньня, канвэргенцыі, ідэалягічнае эрозіі камунізму. І калі на аснове ўсяе папярэдняе гісторыі чалавецтва можна рабіць прыпушчэньні, што бяз войнаў, бач, ня бывае, раней ці пазьней дойдзе й да зудару паміж Усходам і Захадам, дык усяроўна гэта ня здымае з нас адказнасьці рыхтавацца да цяжэйшага, да другое альтэрнатывы: а што калі нашаму руху давязецца йшчэ два разы па дваццаць пяць гадоў трываць у ўмовах эміграцыі?

Сьцьвердзіць суворую рэчаіснасьць нашых нястачаў у галіне гістарычнае й тэарэтычнае літаратуры ня значыць шукаць вінаватых за тое, чаго няма. Мы ўсе адказныя аднак за як мага рэальнае бачаньне сьвету, каб у вадпаведнасьці з гэтым разумець абсяг сваіх заданьняў і рабіць адпаведны высілак. Я згаджаюся, што ў кожнага з нас у поўнай меры сваё (суб'ектыўнае?) разуменьне рэлятыўнае вартасьці тых ці іншых патрэбаў. Тым ня менш, я не магу пазбыцца перакананьня — чым далей, тым мацнейшага, — што беларуская справа, як цэласьць, з гледзішча на ўмовы й характар разьвіцьця на Беларусі і ўмовы нашага эміграцыйнага быту вымагае куды большае ўвагі да тэарэтычных пытаньняў нашага руху й нашае палітычнае гісторыі, да сачэньня і асэнсоўваньня асноўных фактаў у жыцьці <u>сучаснае</u> Беларусі. Пакуль гэтыя пытаньні ня будуць хоць у вагульным сфармуляваныя, мы ня тое, што не пераканаем вонкавага сьвету ў рацыі свае справы, а не замацуем, як належыцца, за беларускім нацыянальным рухам тых маладзейшых сяброў, якімі гэты рух мае ўсе магчымасьці папаўняцца ў будучыні (як на эміграцыі, гэтак і на бацькаўшчыне).

Пашто я кажу ўсё гэта? Кажу патое, каб абгрунтаваць сваю пастанову заняцца ў далейшым вылучна нашай палітычнай гісторыяй і тэарэтычнымі пытаньнямі беларускага нацыянальна-вызвольнага руху. У сувязі з маімі ўнівэрсытэцкімі выкладамі цяпер я меў лішнюю нагоду пераканацца, да

якое ступені нашая гістарычная спадчына й палітычныя асьпірацыі нашага народу выкрыўленыя (або прамоўчаныя) у падручніках, зь якіх акадэмічная моладзь Амэрыкі (дый іншых краёў) пазнае гісторыю царскае Расеі й палітыку Савецкага Саюзу; як гэтыя фальсыфікаты ў карані перасякаюць разуменьне нас вонкавым сьветам, тымі, хто адказны (ці будзе адказны заўтра) за палітыку ў дачыненьні да нас; якая канечная патрэба рабіць высілак у гэтым кірунку, чаго ў нас дасюль практычна не рабілася. Прыкладам, навет найбольш фундамэнтальныя савецкія беларусаведныя публікацыі не знаходзяць ніякіх водгукаў з нашага боку ў заходняй навуковай пэрыёдыцы. Будучы цяпер глыбей у акадэмічным сьвеце, маючы лягчэйшы доступ да яго, я тым больш чуюся маральна забавязаным заняцца тым, што, на маю думку, становіць адну з найпершых і найбольш занядбаных патрэбаў беларускага руху — пытаньнямі палітычнае гісторыі.

Затым я змушаны адмовіцца ад усялякіх арганізацыйных ці адміністрацыйных функцыяў у Радзе БНР, гэтак і ў іншых грамадзкіх арганізацыях, беспасярэдня не зьвязаных з маім намерам.

Я спадзяюся на Вашае падтрыманьне гэтага майго намеру ды на Вашую дапамогу ў ягоным ажыцьцяўленьні.

З глыбокай пашанай,

*Янка Запруднік.*

## ЛІСТ АЛЯКСАНДРА СТАГАНОВІЧА

*16 чэрвеня 1971 г.*

*Спадару Старшыні Рады БНР*

*Доктару Вінцэнту Жук-Грышкевічу*

Вельміпаважаны Спадар Старшыня!

Пасьля 2-ое сусьветнае вайны, пад кіраўніцтвам сьв. пам. Прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка, Рада БНР узнавіла дзейнасьць, скіраваную на вызваленьне Беларускага Народу з-пад акупацыі маскоўскага імпэрыялізму. У той час першым заданьнем было інфармаваць і пераконваць урады заходняга-вольнага сьвету аб апрычонасьці Беларускага Народу, аб Ягоных дзяржаўных традыцыях, аб культуры, мове і г. д. Далей трэба было інфармаваць дыпляматаў заходніх дзяржаваў аб Радзе БНР як такой, каб прынамсі гэтыя дыпляматы ведалі, з кім маюць дачыненьні.

У далейшым вялася праца інфармаваньня заходняга сьвету аб страшэнным прымусе, паняволеньні, русыфікацыі і папросту народазабойстве — якое тарнуе да нашага Народу чырвоная Масква.

Праца праводзілася празь шмат год, і калі на Сэсіях Рады БНР Прэз. Абрамчык інфармаваў аб сваіх дасягненьнях у сталіцах вольнага сьвету, радныя былі захопленыя, і ў гэтым няма дзіва, бо тады здавалася, што зудар

з чырвоным імпэрыялізмам няўнікнёны, і ён зьяўляецца квэстыяй пару год, а мо нават і месяцаў.

Нашая дзяржаўная недасьведчанасьць і наіўнасьць давала нам надзею, што калі гэты зудар наступіць і камунізм будзе пераможаны, то нас усіх павязуць у вызвалены Менск, і дзеля гэтага ў часе хваробы і ўжо пасьля сьмерці Прэз. Абрамчыка мы нічагусенькі не рабілі і ня робім, каб прадаўжаць распачатую ім справу, а шкада, бо хутка можа быць запозна!

Ужо сёньня ў БССР беларуская мова выкінутая з урадаў, школаў і тэатраў. Пройдзе яшчэ дзясятак год, і напэўна аб ёй застануцца толькі ўспаміны, а насельніцтва пяройдзе на *«другую родную мову»* — расейскую.

Пакуль ня позна, мы павінны пратэставаць. У верасьні сёлета пачынаецца асамблея ААН. Да гэтага часу трэба падгатаваць інфармацыйныя лістоўкі, інфармуючыя аб русыфікацыі Беларусі, і пастарацца распаўсюдзіць іх сярод дэлегатаў. У гэтых лістоўках дамагацца вярнуць беларускую мову ўва ўрады, школы і ў штодзённае жыцьцё Беларускага Народу. Гэтыя-ж лістоўкі разаслаць прынамсі больш уплывовым сэнатарам і кангрэсмэнам ЗША. Лістоўкі павінны быць падпісаныя чыньнікамі БНР, БАЗА, БІНІМ, ЗБК, ЗБАВ і наагул усімі незалежніцкімі арганізацыямі, а таксама б. пасламі Польскага Сойму. Мэмарыял падобнага зьместу выслаць Гэнэральнаму Сакратару ААН У Тану[513], Старшыні Асамблеі ААН і ўсім акрэдытаваным дэлегатам ААН. Падобныя мэмарыялы пастарацца разаслаць прынамсі прэм’ерам урадаў ува ўсіх краінах разьселеньня беларусаў.

Гэтую справу мы павінны зрабіць і то неадкладна, бо гісторыя асудзіць нас за нашую бязьдзейнасьць.

З пашанай

*А. Стагановіч.*

## ЛІСТЫ СТАНІСЛАВА СТАНКЕВІЧА

*

*Нью Ёрк, 24 верасьня 1972*

Вельмі Паважаны й Дарагі Спадар А. Стагановіч,

Вельмі дзякую за Ваш ліст з 21 верасьня сёлета, які атрымаў сёньня й сёньня ж, пад сьвежым уражаньнем, адказваю на яго. Перш-наперш што да майго выхаду зь цяперашняй Рады БНР пад цяперашнім ейным кіраўніцтвам. Тут раблю вынятак і перасылаю Вам копію майго ліста пра выхад мой з Рады БНР, але толькі для Вашага вылучна ведама, бо я прыабяцаў д-ру В. Грышкевічу, на ягоную просьбу, не пашыраць пра мой выхад з Рады.

---

[513] **У Тан** (1909–1974), бірманскі дыпламат, у 1962–1971 гг. — Генеральны сакратар ААН.

Калі сьв. пам. Прэзыдэнт Абрамчык падчас свайго апошняга побыту ў ЗША мяне пытаўся, што я думаю, калі сваім заступнікам і эвэнтуальна наступнікам зробіць ён д-ра В. Грышкевіча, я адказаў, што іншай кандыдатуры ня бачу таксама. Значыцца, я ня быў тады ўпярэджаны да кандыдатуры д-ра В. Грышкевіча, а ўважаў, што спасярод нас тут усіх ён мае найбольшыя дадзеныя стаяць на чале БНР: першае — гэта ідэйнасьць, якой ад яго адняць нельга; другое, вольны ад усяго іншага час, трэйцяе — матар'яльныя магчымасьці дзейнасьці, бо, як я пераканаўся й на сваёй скуры, разьлічваць на дапамогу нашых багацейшых як рэкампэнсату таго, што яны нічагусенькі ў беларускай справе ня робяць, нельга. Абяцанка звычайна застаецца абяцанкай. З гэтае прычыны я паступова ўжо адыходжу ад маёй актыўнасьці па лініі рэспубліканскай партыі й, здаецца, пасьля прэзыдэнцкіх выбараў[514] адыйду цалкам. Думалася тады, што д-р В. Грышкевіч, будучы чалавекам бясспрэчна ідэйным ды маючы аб'ектыўныя ўмовы для дзейнасьці, хоць і не дараўняе Абрамчыка, але прынамся будзе больш-менш на месцы. Тым часам па сьмерці Прэз. Абрамчыка, калі ён да апошняй Сэсіі Рады быў спачатку ягоным пасіўным заступнікам, а потым і пасіўным наступнікам, ды пры ўсіх іншых ягоных ходах, я пабачыў і зразумеў, што далей аставацца ў Радзе было б мэтазгодным адно ў выпадку, калі б у ейных радох мантаваць здаровую апазыцыю й рэчовай крытыкай змусіць да належнае дзейнасьці.

Вось жа роля гэткага апазыцыянэра для мяне выдалася цалкам немагчымай. Па-першае, не было ў мяне для гэтага ані часу, ані энэргіі, я бо й без таго маю па вушы работы ў сувязі з газэтай[515]. Другое, такая апазыцыя, хай сабе й вельмі тактоўная, ня была б падтрыманая большасьцю сяброў Рады. Рэч у тым, што бальшыні сяброў Рады асабіста падабаецца гэная бязьдзейнасьць, бо бязьдзейнасьць кіраўніцтва дазваляе быць бязьдзейнымі ім самім, а займацца бесклапотна зарабляньнем даляраў. Таму адзіным магчымым для мяне крокам быў выхад з Рады БНР, даволі вымоўна, на маю думку, уматываваны гэнай маёй заявай, копія якой для Вашага асабістага ведама тут залучаецца[516]. Да ўсіх згаданых бедаў далучаецца яшчэ адна, даволі загадкавая, бяда, якая, аднак, ня мела ўплыву на мой выхад з Рады, але якая заіснавала й пра якую нам усім таксама нельга публічна гаварыць, каб ня даць козыраў у рукі нашым ворагам. Ведама Вам гэта ці не, але із сьмерцяй Прэзыдэнта Абрамчыка Рада БНР перастала быць легітымным дзяржаўным органам БНР і законным прадаўжальнікам традыцыяў слаўнае БНР і носьбітам сувэрэнных правоў беларускага народу. Усе гэтыя прэрагатывы меў Прэзыдэнт Абрамчык, бо меў у руках тэстамэнт Прэзыдэнта В. Захаркі. Хоць

[514] Маюцца на ўвазе прэзідэнцкія выбары ў ЗША 1972 г., на якіх другі раз перамог рэспубліканец Рычард Ніксан.

[515] Маецца на ўвазе газета «Беларус».

[516] Разам з лістом залучніка не было, аднак змест ліста да Вінцэнта Жук-Грышкевіча, дзе Станіслаў Станкевіч абвяшчае пра выхад з Рады, цытуецца намі ў гістарычным нарысе паводле арыгінала з фонду Раісы Жук-Грышкевіч.

на тастамантавую перадачу паўнамоцтваў некаторыя глядзелі скептычна, а ворагі з кпінамі, але ў вабставінах эміграцыі гэта (тастамэнтам) адзіны спосаб перадачы паўнамоцтваў Прэзыдэнта Рады БНР. Абрамчык гэты тэстамэнт запраўды меў, а я асабіста сваім часам трымаў яго ў руках, зь яго ж рабіў клішэ для «Бацькаўшчыны» й на жаданьне Абрамчыка публікаваў яго ў «Бацькаўшчыне». Вось жа гэткага тастамэнту Прэз. Абрамчык не перадаў д-ру В. Грышкевічу, хоць лёгка мог зрабіць гэта, бо ўміраў паступова пры поўнай сьведамасьці і перад сьмерцяй быў у яго ў Парыжы д-р Барыс Рагуля, празь якога мог гэты тастамэнт перадаць, ясна, разам із сваім тастамэнтам. Чаму Прэз. Абрамчык гэтага не зрабіў, застаецца загадкай і для мяне. Факт, аднак, застаецца фактам, што калі ходзіць пра юрыдычнае пераняцьцё функцыяў Прэзыдэнта, дык цяперашняя Рада ня што іншае, як звычайная эмігранцкая арганізацыя, Прэзыдэнт якой не ўпаўнамочаны апошнім выбраным народам на Бацькаўшчыне Прэзыдэнтам (Васілём Захаркам), а выбраны пару дзясяткамі людзей падчас апошняе Сэсіі Рады БНР.

Цяпер што да Вашых дакораў пад адрысам «Беларуса», што трэба звузіць у ім усё іншае, у тым ліку разгорнутую хроніку эміграцыйнага жыцьця, а галоўна засяродзіцца на асабліва балючых для нас зьявах нацыянальнага гэнасыду ў БССР. Правільна! Але зразумейце і іншае. Чытачы газэты навет з катэгорыі «беларускіх дзеячоў» і так вечна абураюцца, што «Беларус» зашмат дае ўвагі савецкім пытаньням. Яны аргумэнтуюць, што ім і так добра ведама, што ў БССР кепска, а што канкрэтна кепска, чаму кепска, як гэтаму кепска супрацьдзеіць, як супраць яго змагаюцца нашыя патрыёты ў БССР, гэта, маўляў, іх мала цікавіць. Давай ім пабольш і пашырэй хронікі з нашага эміграцыйнага жыцьця. А каб здабыць дадзеныя для гэтай хронікі, дык даводзіцца па колькі разоў і ў кажным паасобным выпадку званіць і ў Чыкага, і ў Кліўленд, і ў Канаду, і навет у Нью Брансьвік, каб гэтыя матар'ялы дастаць.

У сувязі з усім гэтым, што й мая сытуацыя гэткая, што часамі проста хочацца ўсё кінуць, бо цяжка вытрымаць гэткую абыякавасьць і ляноту людзей, здавалася-б, наагул сьведамых справы і навет ідэйных.

У гэтым даўжэзным лісьце і так сказаў Вам яшчэ далёка ня ўсё, што трэба было-б сказаць. Пры асабістай сустрэчы можна будзе пагутарыць шырэй. Наагул-жа я цалкам разумею Вашае абурэньне й поўнасьцяй яго падзяляю.

Яшчэ раз дзякую за ліст і ўсяго Вам найлепшага. Прывітаньні Вашай паважанай Спадарыні!

З пашанаю да Вас

*Ст. Станкевіч*

*

*Нью Ёрк, 29 верасьня 1974*

*Яго Міласьці*

*Спадару Радаславу Астроўскаму*[517].

Вельмі Паважаны Спадар Астроўскі!

Вельмі дзякую за Ваш ліст з 14 верасьня 1974. Чытаючы гэты ліст, прыемна было мне прыгадаць тыя гады, *«калі мы згодна працавалі для аднэй і тэй-жа мэты»*. Гэныя «чорныя рукі», што, як Вы пішаце, *«папсавалі наш згодны высілак»*, паводле майго перакананьня, былі перацягнутыя варожымі нам чужымі сіламі звонку. І таму нашае нутраное змаганьне ў сувязі з умяшаньнем у нашае нацыянальнае жыцьцё гэных чужых сілаў было цалкам зразумелае. Бяда ўся была ў тым, што, заміж змагацца аб'ектыўнымі аргумэнтамі, фактамі й довадамі, загаварылі эмоцыі не найлепшага гатунку. Ніяк нельга апраўдаць тае формы гэнага змаганьня, што вылілася была ў грызьню, лаянку й навет асабістую варожасьць падзеленых і пасвараных гэнымі «чорнымі рукамі» групаў.

Але прыйшоў час, зьмяніліся абставіны, груповыя разыходжаньні між намі пачалі траціць сваю вайстрыню, а сярод усяго грамадзтва пачала высьпяваць здаровая думка, каб шукаць супольнае мовы спачатку хоць-бы ў вонкавых выступленьнях, а тады і ў нутраным нашым жыцьці й дзейнасьці.

Улічваючы гэтыя жаданьні, газэта «Беларус», на чале якой маю гонар стаяць, афіцыйна й фактычна ўзяла на сябе ініцыятыву шуканьня зьбліжэньня, паразуменьня й супрацоўніцтва між пасваранымі й падзеленымі групамі нашага грамадзтва. У сёлетнім навагоднім газэта «Беларус» у сваёй перадавіцы пісала:

*«Людзі могуць мець розныя пагляды на палітычныя пытаньні, належаць да розных грамадзкіх арганізацыяў і палітычных кірункаў. Але гэтыя і ім падобныя натуральныя ў дэмакратычных абставінах розьніцы не павінны атручваць грамадзкае атмасфэры й выклікаць узаемнага недаверу, сварак і варожасьці ды стаяць на перашкодзе ўзаемнаму супрацоўніцтву дзеля аднае-адзінае найвышэйшае ідэі — Вольнай і Незалежнай Беларусі.*

*Ня мае прынцыповага значаньня, якія канкрэтныя арганізацыйныя формы можа прыняць нашае сужыцьцё й супрацоўніцтва. Важна, каб гэтае сужыцьцё й супрацоўніцтва сталася фактам, каб усе Беларусы ў Вольным Сьвеце тварылі адну вялікую нацыянальную сям'ю. Гэтай важнай справе будзе непахісна служыць газэта "Беларус"»*[518].

Гэты наш крок прыняло з энтузыязмам і апрабавала бадай што аднагодна грамадзтва бэнээраўскага кірунку. Прыхільна паставіліся да гэтага нашага

---

[517] **Радаслаў Астроўскі** (1887–1976) ад 1962 г. з прычыны хваробы жыў у дачкі і зяця Галіны і Мікалая Мінкевічаў у Бентан-Харбар (штат Мічыган).

[518] Пачынаючы Новы Год // Беларус. № 201. Студзень 1974. С. 2.

кроку й Беларусы, калі яго гэтак назваць, «нэўтральнага» кірунку. Інакш кажучы, гэты наш крок быў прадыктаваны няўхільнымі патрэбамі часу.

Наш пагляд на дзейнасьць Беларускай Цэнтральнай Рады ў часе акупацыі й на Другі Ўсебеларускі Кангрэс мы выказалі ў артыкуле «На 30-я ўгодкі Другога Ўсебеларускага Кангрэсу» ў чырвенскім нумары «Беларуса» сёлетняга году[519]. Гэты пагляд і ацэна пазытыўныя. Я пераканаsuccesны, што дзейнасьць БЦР і ў Нямеччыне напрыканцы вайны была пазытыўная таксама. Аднэй з найбольшых ейных заслугаў у гэным часе было тое, што яна не дапусьціла да фарсаваньня Немцамі падпарадкаваньня беларускіх вайсковых адзінак арміі генэрала Ўласава[520].

У новай палітычнай сытуацыі пасьля заканчэньня вайны й перамогі заходніх хаўрусьнікаў БЦР выявіла свой палітычны розум, калі на сваім пленуме ўвосень 1945 году ў баварскай вёсцы Вюрцбюргам у Заходняй Нямеччыне на Вашую прапанову аднагалосна пастанавіла спыніць сваю дзейнасьць[521]. Цяперашнія спробы аднаўленьня Беларускай Цэнтральнай Рады[522] ці ў енай ранейшай форме й пад ейным спачатным назовам ці ў якім-небудзь іншым варыянце ў сяньняшняй палітычнай сытуацыі я ўважаю штонайменш за нямэтазгоднае.

На Вашыя 87-ыя ўгодкі, што спаўняюцца 25 кастрычніка[523] сёлета, шчыра Вам жадаю як найдаўжэйшага жыцьця, здароўя й памысласьці ў Вашым жыцьці.

Прымеце, Спадар Астроўскі, словы запраўднае пашаны.

*Ст. Станкевіч.*

*

*Нью Ёрк, 30 красавіка 1978.*

Вельмі Паважаны й Дарагі Спадар Стагановіч!

Моцна перапрашаю, што ня змог адпісаць на Ваш ліст адразу. Але быў па вушы заняты газэтнай работай, а ў мяне дурная прывычка, што калі канцэнтруюся вакол нейкай канкрэтнай сьпешнай справы, тады ўсё іншае адкладаю на бок. Ды, апрача гэтага, Вы ў сваім лісьце закранулі гэтак важныя пытаньні, што нямэтазгодна было-б адказваць, не абдумаўшы й не перадумаўшы ўсяго,

---

519 Маецца на ўвазе тэкст: Станкевіч, Ст. 30-я ўгодкі 2-га Ўсебеларускага Кангрэсу // Беларус. № 206. Чырвень 1974. С. 1.

520 Маецца на ўвазе дыстанцыяванне Беларускай Цэнтральнай Рады ад вайсковай ініцыятывы генерала Андрэя Уласава (1901–1946) — Расійскай вызваленчай арміі на службе ў немцаў.

521 Гэтыя словы ў машынапісе ліста выкрасленыя.

522 У 1962 г. Радаслаў Астроўскі прыпыніў дзейнасць БЦР і аднавіў яе якраз у 1974 г.

523 25 кастрычніка — дата нараджэння Радаслава Астроўскага паводле старога стылю. Паводле новага — 6 лістапада.

як сьлед. З усім, што Вы пішаце, я поўнасьцю згодны, найвышэй да Вашых сумных спасьцярогаў магу дадаць і яшчэ некаторыя іншыя.

Вось-жа што да д-ра Грышкевіча, дык мая думка такая: узяўся за гуж, хоць і ня дуж, хаця, на жаль, уважае (ня вылучны тут уплыў і ягонай жонкі), што даволі яму адно аднавіць фізычна ды яшчэ страшыць, што, маўляў, адмовіцца ад прэзыдэнцтва, дык ужо гэтага й хопіць. Праўда, у нас ня было іншага лепшага кандыдата, бо кандыдат на ягонае становішча мусіў-бы мець тры наступныя перадумовы: першая — дастаткова вольнага часу, другое — быць матарыяльна незалежным і добра сытуваваным, трэйцяе — быць ідэйным Беларусам. Усе гэтыя перадумовы ён меў. І калі сваім часам Прэз. Абрамчык радзіўся і ў мяне, каго найлепш было-б зрабіць ягоным наступнікам, я, хоць і ня высокай пра Жука быў думкі з гледзішча на абмежаны ягоны інтэлект, але думаў, што без дапамогі іншых ня будзе прадпрыймаць ніякіх адказных крокаў ды будзе рабіць усё патрэбнае, што выплывала-б зь яго становішча. На жаль, гэтак ня выйшла. Свой вольны час ён выкарыстоўваў на лаўленьне рыбы, сваю матарыяльную незалежнасьць, на жаль, узалежніў ад капрысаў жонкі, як «першай дамы» сярод Беларусаў, што-ж да ідэйнасьці, дык ідэйным то застаўся, але што з таго, калі гэтая ідэйнасьць не падпёртая работай і ляяльнасьцяй да супрацоўнікаў. Мяне асабліва зразіла да яго тое, што, здабыўшы становішча прэзыдэнта, пачаў вакол сябе тварыць кліку запраўдных ці ўяўных аднадумцаў ды ўцягваць у Раду БНР ня толькі людзей, што ў той час былі на в’етнамскім фронце[524] зусім ня ў беларускіх справах, ды ўцягваць у Раду паслухмяных сабе людзей цэлымі сем’ямі. А каб не астацца ззаду ад Астроўскага, дык пачаў і ён назначаць «генэралаў» зь людзей радавых ня толькі ў вайсковых дачыненьнях, але і ў грамадзкіх беларускіх (прыкладам, ведамы дэтройцкі «генэрал»[525]!). Найгорш тое, што літаральна ніхто з гэнае клікі нат не пашавяліў мазгамі, каб знайсьці нейкі выхад з такой сытуацыі. А выхад, на маю думку, ёсьць: трэба групай найбольш аўтарытэтных людзей і, зразумела, людзей актыўных і ідэйных, зусім не такіх, як ягоны першы заступнік у Канадзе[526], спакойна, але станоўча й наважна адкрыць яму вочы на ўсё тое зло, да якога ён сьвядома ці несьвядома давёў, і цьвёрда патрабаваць зьмяніць ягоную стратэгію й тактыку. Некаторыя баяцца, што ану-ж ён абідзецца і адмовіцца ад прэзыдэнцтва, а што-ж тады?.. Наколькі я яго ведаю, не адмовіцца. Адно трэба гэта рабіць вельмі тактоўна.

Але, апрача гэтага, ёсьць у нас і іншая прыкрая балячка. Гэта газэціна «Час», якая паўстала ня без інсьпірацыі прэзыдэнта, ды «дзейнасьць» ейнага фактычнага рэдактара[527] (рэдактар афіцыйны — ягоны сын — гэта бяздумны рупар свайго бацькі). Лінія гэтай газэціны супраць БАЗА, газэты «Беларус»

[524] У В’етнаме быў Расціслаў Гарошка.

[525] Маецца на ўвазе Язэп Сажыч.

[526] Відаць, маецца на ўвазе Барыс Рагуля.

[527] Маецца на ўвазе Мікола Гарошка, з якім у Станіслава Станкевіча ад самага ягонага прыезду ў ЗША былі вельмі напружаныя адносіны.

ды выстаўляньня сябе як адзінага абароньніка праваслаўя й манаполь на царкоўныя справы — тыпова дэструкцыйная й разьбівацкая. Шмат адкуль чуюцца галасы, што выдаецца яна за кошт Фундацыі Крэчэўскага… Я гэтага ня цьверджу, аднак пераканаiы, што із сваёй собскай кішэні ейны фактычны рэдактар яе ня фінансуе. Гэта не ў ягоных перакананьнях. Апошнім часам з колаў Рады Дырэктароў Фундацыі выходзіць праэкт, каб прадаць Фундацыю. Яны адказваюць, што грошы пойдуць Фундацыі, за якія купіцца нейкі іншы аб'ект, магчыма, на Мангатэне й пад. Але навет дасюлешні афіцыйны скарбнік Фундацыі сп. Ф. Бартуль ня мае зялёнага паняцьця, колькі мае грошай Фундацыя. На апошняй Сэсіі Рады ці сэктару БНР сп. Уладзімер Русак быў задаў Гарошку пытаньне, колькі ёсьць у касе Фундацыі грошай. Гарошка быццам адказаў, што 10 тысячаў. А колькі было даходу летась, пазалетась і т. д., дык Гарошка меў адказаць, што таксама па 10 тысячаў. А дзе яны, у каго або куды й кім былі выдаткаваныя. Гарошка на гэтае пытаньне не адказаў нічога. Дык заміж таго, каб справу гэтую давесьці да канца і ўнесьці поўную яснасьць, дык д-р Я. Запруднік, які вёў паседжаньне, пытаньне гэтае згамтаў, быццам яно не адносіцца да гэтае Сэсіі, а ніхто з прысутных не патрабаваў яго выясьніць. Тут усе баяцца, а ну-ж Гарошка адмовіцца ад старшынства Фундацыі й што тады? Па-першае, ён ніколі не адмовіцца, па-другое, калі-б і адмовіўся, дык адно разьвязаў-бы рукі іншым. Ня хочаць гэтыя людзі зразумець, што за Фундацыю якраз яны нясуць адказнасьць, або проста, як страўсь, хаваюць галаву ў пясок, каб ня бачыць небясьпекі.

Асабліва апошнім часам бальшавіком вельмі не па душы, калі органы БНР прабіваюцца да амэрыканскіх дзяржаўных дзейнікаў і знаходзяць там падтрыманьне. Каб пра гэта пераканацца, даволі прачытаць уважна мой артыкул «Бальшавікі пра ўгодкі БНР у Кангрэсе ЗША», надрукаваны ў красавіковым нумары «Беларуса». Дык заміж таго, каб гэтую дзейнасьць працягваць і ўзмацняць, д-р Грышкевіч сваймі «камунікатамі» адно дыскваліфікуе Раду БНР, а Гарошка ў сваім «Часе» намагаецца дыскваліфікаваць БАЗА й газэту «Беларус», на якіх Рада БНР мусіла-б абапірацца.

Апрача ўсяго тут выказанага, маю і іншы яшчэ клопат. У сувязі з маім здароўем я ня пэўны, ці і як доўга змагу весьці газэту, якая як ніяк заваявала прызнаньне й вялікае матэрыяльнае падтрыманьне найлепшай часткі нашага грамадзтва. Ёсьць у нас колькі чалавек, якія змаглі-б весьці далей газэту, магчыма, і лепш за мяне. Але, наколькі я пераканаўся, ня знойдзецца нікога, каб ёй аддаваў гэтулькі часу, энэргіі, нэрваў і навет здароўя. Гэта маё не самахвальства, а сьцьверджаньне аб'ектыўных абставінаў.

Але я гэтак разгарнуўся, што ўжо трэба канчаць гэтую маю пісаніну. Буду Вам моцна ўдзячны, калі Вы яе ўважна прачытаеце й глыбака передумаеце.

Дык усяго Вам найлепшага!

З пашанаю й прывітаньнем

*Ваш Ст. Станкевіч.*

# ЛІСТ ВІТАЛЯ КАЖАНА

*16.XI.76*

*Вельмі Паважанаму Старшыні Рады БНР*

*Др. В. Жук-Грышкевічу.*

Тры Камунікаты, высланыя на мой адрыс, атрымаў. Сп. сп. Я. Арцюху й Др. А. Вярбіцкаму камунікаты пераслаў.

Увечары 10-га лістапада Вы званілі да мяне, а я ўжо быў у ложку, бо чуўся вельмі дрэнна з прычыны нейкай прастуды. Я й мая жонка яшчэ й цяпер ня чуемся як трэба.

Вашыя ўсе пытаньні мая дачка перадала мне, здаецца, вельмі дакладна. Што да пытаньня прошлай вайсковай кар'еры, дык здаецца, што мы, беларускія вайскоўцы, ня мелі запраўднай нагоды яе рабіць, калі браць пад увагу — збройнае змаганьне за Незалежную Беларусь.

Гісторыя маёй вайсковасьці даволі кароткая: у 1937 г. пасьля заканчэньня гмназіі быў пакліканы ў *«подхоронжуўку рэзэрвы»* ў горад Быдгошч[528] пры 16 дывізіі пяхоты. Вымагалася быць адзін год, які я і адбыў. Рашыў паспрабаваць пайсьці на завадовую афіцэрскую школу пяхоты, якая была недалёка Варшавы ў Коморове каля Оструў Мазовецкі[529]. Пасьля розных праверак, ня гледзя, што я праваслаўны, я быў прыняты. Напэўна, шмат дапамагло, што подхоронжуўку рэзэрвы ў Быгошчы я закончыў вельмі добра. На завадовай на мяне быў вялікі нажым, каб я зьмяніў рэлігію, чаго я ніколі не зрабіў. На завадовай адбыў год, а трэба было два. У першыя дні 1939 года вайны я быў высланы са школы ў Лідчыну вясьці перашкаленьне змабілізаваных падафіцэраў рэзэрвы, ясна, пад камандай вышэйшых афіцэраў польскай арміі.

За часоў нямецкіх быў удзельнікам першых курсаў перашкаленьня беларускіх афіцэраў у Менску, якія ачольваў Гэн. Кушаль па лініі вайсковай, а патрыятычна ўзгадаваўчую работу вёў Сп. А. Адамовіч. На гэтых курсах былі: Сп. сп. Ф. Родзька, Б. Рагуля, Я. Сажыч і іншыя. Пасьля гэтых курсаў пачалася падрыхтоўка на мясцох падафіцэрскіх кадраў для будучай Беларускай Самаахoвы. Я быў накіраваны ў Браслаў. З другім сябрам Менскага курсу мы сарганізавалі й правялі ў Браслаўі падафіцэрскія курсы вельмі ўдачна. З Браслаўя ў мяне засталіся вельмі прыемныя ўспаміны. У тыя часы нялёгка было штосьці падобнае арганізаваць, але мы там мелі запраўды цудоўны матарыял — маладых беларускіх патрыётаў, а асабліва з-пад Друі. Пакінуўшы Бацькаўшчыну ў 1944, хутка навязаў сувязь з Бэрлінам, куды й параехаў. Сп. Гэнэрал Кушаль назначыў мяне сваім ад'ютантам у чыне надлейтэнанта, якім я й быў да заканчэньня вайны.

---

[528] **Быдгашч** (польск. *Bydgoszcz*) — горад у Польшчы, цэнтр Куяўска-Паморскага ваяводства.

[529] **Острув Мазовецка** (польск. *Ostrów Mazowiecka)* — горад і цэнтр гміны ў Мазавецкім ваяводстве Польшчы.

Апошняе — дня 25 Сакавіка 1972 году атрымаў рангу маёра, а дыплём падпісаны Вамі, Спадар Прэзыдэнт.

На заканчэньне ў мяне да Вас адна просьба — Вы далі мне рангу маёра, і няхай гэтая ранга будзе за мной. Вышэйшай рангі я не хачу мець.

З глыбокай пашанай да Вас

*В. Кажан.*

## ЛІСТЫ ВІНЦЭНТА ЖУК-ГРЫШКЕВІЧА

*

*29.6.68.*

Даражэнькі Спадар Запруднік,

Прэз. Абрамчык настойвае, каб мой артыкул у «Беларусе» «Як паўстаў Акт 25 Сакавіка»[530] быў надрукаваны асобнай адбіткай і разасланы, па меры магчымасьці, на Беларусь і ў Польшчу (Беласточчына), а таксама па беларускіх асяродках на эміграцыі для пашырэньня сярод старой эміграцыі й тых, што чытаюць «Голас Радзімы».

Я ўжо дамовіўся з Д-рам Станкевічам у справе друку. Адбітка будзе надрукавана маленькай брашуркай на 9 бачын плюс вокладка з назовам: «БНР ці БССР?»[531], кошт $70.00 разам з брашуроўкай. Застаюцца нявырашыны 2 справы: пакрыцьцё кошту і разсылка. Я спадзяюся, што сп. Кажан зможа пакрыць кошты друку й разсылкі брашуры з касы Рады БНР. А што да разсылкі, дык прыдзецца зьвярнуцца з просьбай аб правядзеньні яе да сп. Шукелойця. Др. Станкевіч кажа, ніхто з адміністрацыі «Беларуса» ня можа заняцца гэтай справай, бо перагружаны работай і далёка ад друкарні жывуць.

Я вельмі прашу Вас правесьці гэту справу і са сп. Кажаном і сп. Шукелойцем. Урэшце да Вас належыць гэта *«зь веку ужэнду»*[532].

Які ключ для разсылкі? Усе 1000 эгзэмпляраў трэба будзе разаслаць па ўсіх сэктарах з інструкцыяй старацца пашырыць сярод старых эмігрантаў, тых, што чытаюць «Голас Радзімы» і зарубежнікаў. Што ня ўдасцца разапхнуць тым катэгорыям — можна будзе разаслаць і сваім людзям для сваго ведама і інфармацыі іншым. Ясна, што ў першую чаргу трэба будзе выкарыстаць тыя невялікія магчымасьці, што ёсьць для высылкі на Беларусь і ў Беласточчыну. Па колькі высылаць на паасобныя сэктары? Хай вырашае сп. Шукелойць, які, думаю, добра арыентуецца ў мэтазгоднасьці кальпартажу й магчымасьцях кожнага сэктару.

---

530 Жук, В. Як паўстаў Акт 25 Сакавіка (Адказ на бальшавіцкія напады) // Беларус. 1968. № 133, 134.

531 Жук, В. БНР ці БССР. Нью-Ёрк, 1968. 12 с.

532 Не зусім ясны сэнс. Магчыма, Вінцэнт Жук-Грышкевіч мае на ўвазе, што гэта ўваходзіць у абавязкі Антона Шукелойца ў Радзе.

Про домо суо[533]: Прышоў адказ з Вашынгтону ў справе нашых перадачаў у «Голас Амэрыкі» — адмоўны. Матывы: няспрыятлівая палітычная каньюктура і фінансавыя цяжкасьці. Адзіная сатысфакцыя, што ў прынцыпе выказана згода на нашу просьбу. Трэба чакаць лепшых часоў.

Атрымаў учора ліст ад Прэзыдэнта зь Мюнхэну. Ваююць разам з Парыскім блёкам за нашы пастуляты[534]. Відаць, сытуацыя паважная, у гэтых днях меў адбыцца рашаючы бой. Магчыма, што Вы больш у курсе справы, як я.

Прывітаньні Вам, Олі й дзяўчатам[535] ад нас абаіх.

*Ваш В. Жук-Грышкевіч.*

*

*11.6.69*

Старшыні Сакратарыяту Рады БНР сп. Я. Запрудніку й Сакратару Рады БНР сп. Васілю Русаку.

Вельмі Паважаныя Спадары,

З залучанай да гэтага копіі ліста Прэз. Абрамчыка відаць, што ён цяжка хворы й ніякімі справамі займацца ня можа, што найменш 2 месяцы, калі ўсё пойдзе добра. Прашу прыняць гэта да ведама й паведаміць сяброў прэзыдыюму Рады БНР і Сакратарыяту. Прашу таксама праводзіць працу па лініі Рады БНР і Сакратарыяту ды Лігі БНР (сп. Шукелойць, сп. Бартуль і прадстаўнік зь Нью Брансьвік) згодна з пастановай 9-ай Сэсіі Рады БНР, красавіковага паседжаньня Прэзыдыюму Рады БНР ды ўва ўсіх справах, узгодненых у нашых гутарках.

На наш Эйд Мэмуар[536] да Саржанта[537] я атрымаў ветлівы адказ, у якім сп. Саржант паведамляе, што летам будзе ў НЁ мр. Скот[538], зь якім ён думае разгледзіць справы, парушаныя ў нашым эйд мэмуар. Пра вынікі перамоваў прэз. А. з Пэчам[539] нічога мне ня ведама.

---

533 **Pro doma sua** (лац.) — пра сябе, пра свой інтарэс.

534 Маюцца на ўвазе перамовы прадстаўнікоў Парыжскага блока з кіраўніцтвам Амерыканскага камітэта вызвалення наконт прынцыпаў фарміравання нацыянальных рэдакцый у Радыё «Свабода», што адбываліся ў той час. Пра гэта мы згадвалі ў папярэдняй кнізе.

535 Маюцца на ўвазе жонка Янкі Запрудніка Вольга (1928–1987) і дочкі: Вера і Ніна.

536 **Эйд мэмуар** (ад франц. *aide memoire*) — памятная нататка.

537 Маецца на ўвазе **Хоўланд Сарджант** (*Howland H. Sargeant,* 1911–?), амерыканскі палітычны дзеяч, які ў 1954 г. быў прызначаны на пасаду старшыні Амерыканскага камітэта вызвалення ад бальшавізму.

538 Маецца на ўвазе **Уолтэр Скот** (*Walter K. Scott*) — выканаўчы дырэктар Радыё «Свабода».

539 **Айзек Пэтч** (*Isaac Patch*), амерыканскі дыпламат, які быў палітычным каардынатарам Амерыканскага камітэта вызвалення ад бальшавізму.

Др. Сажыч згадзіўся абняць кіраўніцтва справамі вэтэранаў у Сакратарыяце Рады БНР. Бяручы пад увагу ліст прэз. Абрамчыка, ён з сваёй функцыяй уваходзіць у Сакратарыят Рады БНР.

Наша грамадзтва, а перадусім вайскоўцы, мусілі-б выказаць сваю пашану с. п. Гэн. Кушалю. Я гаварыў на гэту тэму са сп-няй Н. Кушаль. Дзеля таго, што помнік на магілцы Нябожчыка паставіла ўжо сям'я, сп-ня Н. Кушаль выказала сугэстыю, каб грамадзтва ўфундавала сьціплую мармуровую плітку з адпаведным напісам, якая была-б пастаўлена ў нагах магілкі. Плітка такая ня будзе дарагой, яе можна было-б выканаць у Рочэстэры й паставіць на магілцы Нябожчыка ды зрабіць урачыстае адкрыцьцё помніка й мармуровай пліткі з удзелам грамадзтва й вайскавікоў. Я гаварыў аб гэтым з Др-амі Сажычам, Набагезам і Рагуляй, яны поўнасьцю згодны з гэтым праектам. Спадзяюся, што й Рада й Сакратарыят з гэтым пагодзяцца. Др. Сажыч згадзіўся таксама паехаць (можа, праз месяц) да сп-ні Кушаль, каб дамовіцца зь ёй і эвэнтуальна на месцы замовіць надмагільную плітку. Сп-ня Кушаль выказала толькі засьцярогу, каб грошы не зьбіраліся так назойліва, як на помнік сьв. п. А. Орсы[540], калі ў шырэйшых масах былі прыкрыя рэакцыі й папрокі. На меншую суму можа й непатрэбна будзе лезьці ў гэтыя масы, а зьвяртацца да людзей, якія ахвотна згодзяцца спрычыніцца да ўшанаваньня памяці Гэн. Кушаля, прапаную, каб у Камітэт гэты ўвайшлі, апрача Сажыча, якога ўжо можна лічыць у Камітэце, прадстаўнікі ад Прэз. Рады БНР і Сакратарыяту. Можна было-б запрасіць на гэту справу сп. Валодзю Русака. А ў Канадзе мы таксама кагось вызначым. Вызначаныя ад вас прадстаўнікі хай паразумеюцца адразу з Др-ам Сажычам, які хіба што быў-бы старшынёй Камітэту. Справы гэтай няможна зацягваць, пажадана, каб адкрыцьцё помніка адбылося гэтай восеньню.

У гэту суботу ў Таронта пачынаецца Канфэрэнцыя Канадыйскіх Славянаў[541], у якой бярэ ўдзел і наш БІНІМ. Будуць 2 нашы даклады: Др-а Скурата[542] й Мгр. Грыцука[543].

З глыбокай пашанай

*В. Жук-Грышкевіч.*

---

[540] Аляксандр Орса памёр 2 лістапада 1959 г.

[541] Маецца на ўвазе 3-я Канферэнцыя канадскіх славянаў, што адбывалася 14–17 чэрвеня 1969 г. у Таронта, якую ладзіла Міжуніверсітэцкае таварыства канадскіх славянаў. На канферэнцыі былі агучаныя 26 дакладаў, у тым ліку 2 беларускія. Падрабязней гл.: В. Славянскія канфэрэнцыі ў Таронта // Беларус. № 147–148. Ліпень — жнівень 1969. С. 5.

[542] **Яўхім Скурат** (1906–1992), грамадскі дзеяч, ад канца 1940-х гг. жыў у Канадзе. Яго даклад на канферэнцыі быў зроблены па-французску і меў тэму «Культурна-асветная дзейнасць беларусаў у Канадзе».

[543] Даклад Алеся Грыцука на канферэнцыі меў назву «Беларускія друкі ў Канадзе».

*

*Копія.*

*Вільпэнт, 4.6.69.*

Дарагі Вінцук,

Каб у вас ня склалася ўражаньне, што так сабатую тваю раду і сугэстыю адносна прынятых вамі пастановаў у НЁ — хачу цябе прасіць перадаць усім сябром Прэзыдыюму (Рады БНР), Сакратарыяту й вайскоўцам — што зьбярэцэся ў Др-а Сажыча — што я поўнасьцю згодны з вашай прапазыкай; 1. Зацьвердзіць Др-а Сажыча кіраўніком вайсковага аддзелу Сакратарыяту Рады БНР; 2. За яго ахвярную й патрыятычную дзейнасьць — надаць яму (Я. Сажычу) рангу палкоўніка запасу беларускіх збройных сіл (палкоўніка запасу збройных сіл БНР).

Належныя афармленьні, эвэнтуальнае выстаўленьне адпаведнага дыплёму будзе праведзена ў найбліжэйшым часе. Сардэчнае прывітаньне ад мяне ўсім вам. Гуляйце — весяліцеся. Жыве БНР!

*Ваш М. Абрамчык.*

Згоднасьць з арыгіналам сьцьвярджаю.

*В. Жук-Грышкевіч, заступнік Старшыні Рады БНР*

*Бары, 11 чэрвеня 1969 г.*

П. С. У асабістай дапісцы да мяне Прэз. Абрамчык піша, што раптам пачуўся такім слабым, што ня можа нават сядзець. А ў лісьце яго жонкі да мяне з 5 чэрвеня паведамляецца, што дактары знайшлі пры аналізе ягонай крыві, што яму не хапае тры мільёны чырвоных целак і забралі ў гошпіталь на трансфузію крыві. Сп-ня Абрамчык просіць, каб на працягу двух месяцаў ніхто хворага ня трывожыў ні лістамі, ні якімсь справамі. Калі-б зайшла якаясь наглая справа, то просьба пісаць да яе на Вільпэнт.

З глыбокай пашанай

*В. Жук-Грышкевіч.*

Копія гэта высылаецца: сп. сп. Я. Запрудніку, Васілю Русаку й Др-у Сажычу.

*

*26.6.69*

Даражэнькі Спадар Запруднік,

Дні са тры таму я атрымаў ад Пр. А[брамчыка] ліст, пісаны 17.6.69 у шпіталі. Піша, што чуецца добра, хоць наступнага дня й мае ісьці на апэрацыю, але згаджаецца на гэта толькі таму, што настойваюць дактары. Ліст цьвярозы й рачовы. Крытыкуе наш айд-мэмуар да С[аржант]а. Закідае, што мы зусім непатрэбна б’ём адразу па дваіх: па Г[ерусу] і С[яднёву]. Кажа, што С[яднёв]а трэба зусім не чапаць, а біць толькі па Г[ерусу], бо: С[яднёў] пры-

стасаванец і ідзе за тым, хто мае сілу; ён папаў на сваё становішча з нашага ведама й згодай, і выступаньне супраць яго толькі аслабляе нашы пазыцыі. Лічыць, што націсканьне на факты, што Г[ерус] з С[яднёв]ым стараюцца абсадзіць нашу рэдакцыю зарубежнікамі, на амэрыканцаў ня зробіць ніякага ўражаньня, нават калі яны й супраціўнікі Ам. Кам.[544] ці нашага супрацоўніцтва зь ім. Сваіх праціўнікаў яны стараюцца прылабуніць або й падкупіць. Падае прыклад з адным украінскім публіцыстам, страшэнным праціўнікам супрацоўніцтва з Ам. Кам. Яны заангажавалі яго ў укр. рэд., і ён гадамі быў добрым працаўнікам, пакуль не пайшоў на эмэрытуру. Уважаю за патрэбнае Вас і праф. А[дамовіча] аб гэтым паінфармаваць.

У сваім адказе Прэз. А[брамчыку] я ўнікаў дыскусіі зь ім, каб не раздражняць і непакоіць яго. Чалавек цяжка хворы, і яму патрэбны супакоў. Непакоюся толькі, што ўжо тыдзень прайшоў, як мела адбыцца апэрацыя, а я ня маю ніякіх вестак, ці адбылася апэрацыя, і калі так, дык зь якімі вынікамі.

Прэз. А[брамчык] прыслаў мне ўпаўнаважаньне, каб я пераняў яго абавязкі на час хваробы і паведаміў аб гэтым у «Б[еларусе]». Абавязкі гэтыя паводля маіх сілаў я буду выконваць, але ня віджу ніякай патрэбы паведамляць аб гэтым у газэце.

З прывітаньнямі

*В. Жук-Грышкевіч.*

*

*4.7.69*

Дарагі Янка,

Дзякую за ліст. Добра было-б, каб Вы пагутарылі з Войтэнкам, бо ён прыслаў мне другі ліст, зь якога відаць, што ня хоча сходзіць са сваіх пазыцыяў і атакуе Лігу БНР. Гэтым ён адраджае сваю палітычную бязграматнасьць.

Я думаю, што якімсь чынам варта было-б пабачыцца зь Сяднёвым хоць-бы дзеля таго, каб даведацца, чым ён дыхае. Цікава, хто яго заступае ў рэдакцыі радыя? Пры эвэнтуальнай гутарцы зь ім варта было-б паспрабаваць пераканаць яго, што ягоная лінія адносна БНР в[ельмі] шкодная для ўсёй нашай вызв[ольнай] справы. Можна сказаць, што ўся наша эміграцыя супраць такой лініі.

Учора атрымаў ліст ад Нінкі. Апэрацыя Прэз. А[брамчыка] адбылася 19.6 і прайшла нармальна. Ужо кормяць яго глюкозай. Лекары думаюць скіраваць яго на месяц у рэканвалесц. дом. Кажуць, што ён слабы, і далейшы лёс яго будзе залежыць ад яго сілы й вытрымаласьці. Выглядае — калі й вернецца да сябе, дык гэта будзе няскора. Пра архіў БНР я ёй напішу, але каб зрабіць мікрафільмы, нехта мусіў-бы паехаць да іх, я думаю, хіба што Вы, бо ніхто іншы гэтага ня зробіць, а ёй самой не да гэтага, жаліцца на навал розных

---

[544] Маецца на ўвазе Амерыканскі камітэт вызвалення.

справаў і фармалістыкі, і што няма каму ёй памагчы. Я баюся яшчэ аднэй рэчы: каб крэдытары ня ўлезьлі на маёмасьць разам з архівамі.

Цешуся, што дысэртацыя Вам удалася й што хутка закончыцца афармленьне дактарату. Я вельмі чакаю на гэта, каб Вы маглі папхнуць шмат якія справы. У першую чаргу «Інфармацыйны лісток». Шкада, што ён да гэтага часу ня выйшаў. У сэктарах наракаюць, што Рада БНР зноў нічога ня робіць, бо ня бачаць ніякіх наглядных вынікаў. Таму радныя ня хочуць плаціць сяброўскія складкі, а некаторыя дамагаюцца нават справаздачаў. Трэба, каб «лісток» выйшаў як найхутчэй. Тады, як я быў у НЁ, у Вас быў матар'ял, да яго яшчэ можна было-б дадаць актуальныя весткі: аб наданьні Прэз. А-кам чыну палкоўніка Др-у Сажычу й прызначэньне яго на кіраўніка Аддзелу да Спраў Вэтэранаў у Сакратарыяце Рады БНР. Аб праэкце ўстанаўленьня вайскавікамі (быўшымі) і бел. грамадзтвам памятнай пліты на магіле сьв. п. Гэнэрала Францішка Кушаля і эвэнтуальным адкрыцьці яе й помніка ў кастрычніку г. г. Магчыма, і Вы маеце штось новае дадаць. Калі Вы ня маеце магчымасьці заняцца гэтым «лістком», даручыце заняцца ім камусь іншаму.

У нас гасьцілі Арцюхі[545] з Дэтройту і былі адзін дзень Валодзя Русак з жонкай. Сп. Русак зноў прасіў мяне прыпомніць Вам аб адбіцьці звароту да грамадзтва, каб падтрымалі матар'яльна Прэз. А[брамчык]а ў сувязі зь яго зацяжной хваробай і цяжкім матар'яльным станам сям'і. Вы-ж абяцалі яму зрабіць гэта. А як будзе зварот — ён гатоў узяцца за зьбіраньне грошы.

У мяне свая бяда: у мінулую нядзелю на высьвячэньні «Слуцка»[546] Раіса прастудзілася й цэлы тыдзень ня можа працаваць, хоць і ўстае пакрысе. Прашу Бога, каб хутчэй перабарола сваю немач. Мы выяжджаем на вакацыі на 3 тыдні 19 г. м. Наш вакацыйны адрас на ўсякі выпадак я вам прышлю.

Цяпер, здаецца, усё. Жадаем усяго найлепшага Вам і сям'і.

З прывітаньнямі

*Ваш В. Жук-Грышкевіч.*

П. С. Можа, варта было-б напісаць а. Смаршчку, каб ён меў вока на архіў БНР? Я яму напісаць не магу, бо ня знаю яго.

*

*18.10.70*

Дарагі Янка,

Вельмі добра склалася, што Вы прыслалі мне копію ліста а. Смаршчка. Яна дапаўняе ягоны ліст да мяне, адказ на які быў якраз на машынцы. Я залучаю да гэтага копію майго ліста да вашага ведама, але таксама прашу Вас вярнуць яе мне.

---

545 Маецца на ўвазе Язэп Арцюх з жонкай.

546 Маецца на ўвазе размешчаны на поўнач ад Таронта **адпачынкавы цэнтр «Слуцк»**, што быў набыты канадскімі беларусамі напрыканцы 1960-х гг. і афіцыйна высвячаны 29 чэрвеня 1969 г.

Я прышоў да выснаву, што зь перавозкай архіву ў НЁ няма чаго цацкацца. Гэта нармальны й лягічны крок зь якога хочаце пункту гледжаньня. На нашу (прэзыдыюму Рады БНР) рашучую паставу Прэз. А[брамчык] ня зможа ўхіліцца. Гэта з праўнага пункту гледжаньня. А з фактычнага ён тым больш ня зможа нам супярэчыць, мы ўтрымоўваем яго й сям'ю, й далей у яго надзея толькі на нас. Што ён можа рабіць бяз нас? Прыпушчаньне, што ён думае аддаць архіў у Мар'ян Гаўз, на маю думку, ня мае ніякіх падстаў. Ды ўрэшце на якой падставе й зь якой рацыі ён мог-бы гэта зрабіць? Справу гэту трэба паставіць ясна і адкрыта й не адкладаць яе. У нас ёсьць пастанова, зробленая пасьля Сэсіі Рады, каб архіў перавязьці ў НЁ. А калі штось нявыразна — дык можна зрабіць яшчэ адну пастанову. Абдумайце толькі й разважце з нашымі сябрамі, як і калі правясьці гэту справу й хто й калі паедзе па архіў у Парыж. Там-жа на месцы можна будзе зрабіць і мікрафільмы, як і магнэтафонныя стужкі, аб якіх гаворыць а. Смаршчок. Найлепш было-б, каб Вы паехалі, дамовіўшыся мо' з а. Смаршчком, каб і ён там быў на ўсякі выпадак, а можа й сп. Урбан[547].

У нас старая песьня. Адбылі дзьве навагоднія вечарыны і ялінку. У суботу 10.1 другую вечарыну (ладзілі жанчыны), а ў нядзелю 11.1 ялінку. Дамоў прыехалі перамучаныя. Раіса зьлягла. Здаецца, флю мае. Горш, што грудзі заложаны. Але ня падаем духам. Мусім быць гатовы на зьезд ЗБК 31 студзеня.

Я ўжо думаў, што калі да Новага году інфармацыйныя лісткі ня выйдуць, самому заняцца гэтай справай. Але, падумаўшы, прышоў да выснаву, што такая разьвязка ня была-б шчасьлівай з шмат якіх меркаваньняў. Ваша разьвязка шчасьлівейшая. Мейма надзею, што абяцанкі сп. Шукелойця стануцца целам. Толькі зноў матар'ял трэба перагледзіць і аднавіць.

З прывітаньнямі Вам і Сям'і

*ваш В. Жук-Грышкевіч.*

*

*17.7.70*

Дарагі Доктару,

Атрымаў «Камунікаты», вельмі Вам удзячны. Выглядаюць паважна й прыгожа. У далейшым мусіць усё-ж прыдзецца ўставіць заўвагу *«Да ўжытку сяброў Рады БНР»*[548], бо будуць рэчы, якія ня варта будзе пускаць шырэй.

Да гэтага залучаю чарнавік звароту да радных і копію ліста да Ніны А[брамчык], якую можаце пакінуць сабе. Што яна хацела асягнуць, пасылаючы мне фотаадбітку тастаманту нібы М[ікола] А[брамчык], але падпісанага ёю — цяжка сказаць. Ніякай дакумэнтальнай вартасьці гэты «тастамэнт» ня мае, дык я Вам яго й не паслаў на скапіяваньне. Кінулася мне ў вочы толькі,

---

[547] **Паўла Урбан** (1924–2011), гісторык, грамадскі дзеяч. Працаваў у Інстытуце вывучэння СССР у Мюнхене, а пасля яго закрыцця — на Радыё «Свабода».

[548] Такая пазнака на «Камунікатах» не ставілася і надалей.

што 1-м заст[упнікам] вызначаны Др. Набагез, а 2-м а. Смаршчок. Першы й па Статуту ёсьць заступнікам, а другога я прапанаваў яшчэ мінулага лета, каб сьв. п. М[ікола] А[брамчык] вызначыў на свайго заступніка на Эўропу.

Чарнавік, калі зь ім згодны, можаце размножыць і разаслаць. У ЗША хіба што асабіста выслаць тым радным, якія няведама ці чынныя, бо Вы і Русак знаеце іх. А ў іншых краінах прыдзецца выслаць на сэктары, у якіх старшыні даручаць нявыразным радным, а адказы прышлюць Вам ці Русаку. Хто гэтым зоймецца? Калі ня Вы, дык сп. Русак, толькі зь ім трэба паразумецца.

Спэцыяльна заахвочваючага закліку я не пісаў, бо ходзіць тут аб радных, а ня нешта масавае, аб людзей, якія хочуць і будуць выконваць абавязкі радных. Дату высылкі адказу можна перасунуць, як хочаце, але я думаў, добра было-б мець адказы на Сустрэчу БПА[549], дзе можна будзе абмяркаваць супольна.

Я ня ведаю, ці а. Смаршчок дастаў «тастамант», ці патрактаваў яго паважна і ці прыняў назначэньне. Я ведаю толькі, што, як пісаў летась нябожчык М[ікола] А[брамчык], ён нізашто не згаджаўся ні на якую функцыю. Вы зь ім перапісваецеся, дык пашчупайце гэту справу.

За копіі, што мне прысылаеце, вельмі ўдзячны й прашу помніць пра мяне й надалей. Гэтым разам і я Вам высылаю копіі, атрыманыя з Англіі. Мусіць, Вам іх ня выслалі, а трэба Вам іх мець. Просьба па скапіяваньні вярнуць мне. Два лісты, падпісаныя Акакі Рамішвілі[550], скіраваны да мяне асабіста й трэба мне на іх адказаць. Адна бяда, што ніяк «ангельскае натхненьне» ня прыходзіць. Мажа-б, Вы мне дапамаглі? Я ведаю, што Вы вельмі заняты й ня зьдзіўлюся, калі адмовіцеся. Але прышліце тады мне іх назад хутчэй.

Супрацоўніцтва з намі й дапамогу сп-ні Каханоўскай[551] я даўна заўважыў. Нешта нам трэба будзе прыдумаць для яе. А пакуль што дык я напішу ёй ліст з падзякай у гэтых днях.

У нас былі 3 дні Плескачы, Раіса ладзіла ім зубы. Я меў нагоду пагаварыць зь ім шмат аб чым і аб Радзе БНР. Ён заявіў, што лічыць сябе чынным сябрам Рады. Я ня ведаў, што казаць пра іхні сэктар, але выказаў задавальненьне зь яго station становішча. Напішу да Сажыча, каб яго не абмінаў. Плескач цьвер-

---

549 **Сустрэча БПА** — Сустрэча беларусаў Паўночнай Амерыкі. У дадзеным выпадку маецца на ўвазе 9-я Сустрэча, што адбывалася 5–7 верасня ў Нью-Ёрку.

550 **Акакі Рамішвілі** (1916–1999), грузінскі дзеяч, сын першага прэм’ер-міністра Грузінскай Дэмакратычнай Рэспублікі (1918).

551 Маецца на ўвазе **Яніна Каханоўская** (дзяв. **Шабуня**, 26.11.1905, Мінск — 16.07.2005, Нью-Ёрк, ЗША), грамадская дзеячка, пляменніца Івана і Антона Луцкевічаў, першая жонка Аўгена Каханоўскага. Закончыла Менскую польскую гімназію і агульнаадукацыйныя курсы, працавала медычнай лаборанткай. Ад 1944 г. — на эміграцыі, спачатку ў Нямеччыне, потым у ЗША. Пасялілася ў Нью-Ёрку. Брала ўдзел у дзейнасці Беларуска-амерыканскага задзіночання, была сакратаром Галоўнай управы, уваходзіла ў кіраўніцтва жаночых структур арганізацыі, а таксама ва ўправы Нью-ёркскага і Манхэтанскага аддзелаў. Сябра рэдкалегіі газеты «Беларус» і БІНіМа.

дзіў, што й Мазура[552] ёсьць аформленым радным. І тут мушу зьвярнуцца да Сажыча, бо нічога пра гэта ня ведаю.

Здаецца, усё. З прывітаньнямі

*ваш В. Жук-Грышкевіч.*

*

*Копія*

*13.7.70*

Даражэнькая Нінка,

У мінулую сераду кончылася 40 дзён ад сьмерці Міколы. У сувязі з гэтым ЗБК зладзіла ўчора ў Бел. Рэліг-Грам. Цэнтры ў Таронта Памінкі. У нашай царкве адбылася сьв. літургія, якую вельмі прыгожа адслужыў уладыка Мікалай у саслужэньні а. Міхала[553]. На чале вернікаў стаялі ў царкве радныя зь бел-чырвона-белым, перакрэсьленым крэпай. Усе вернікі мелі сьвечкі ў руках і прышпіленыя белар. сьцяжкі з крэпай. Быў выняткова добры хор, бо пад’ехалі з Дэтройту Пляскачы і Арцюхі. Стаяла цудоўная цёплая пагода, і нягледзячы на гэта, прышло нямала людзей (каля 40 асобаў). З БНА[554] ня было нікога, апрача Паўлюка (19 г.) і Эвы (16 г.) Пашкевічаў — дзяцей Валі.

Вельмі паважна, прыгожа і ўрачыста прайшоў памінальны абед. Хоць заняў каля 3-х гадзін — прамовы былі выслуханы вельмі ўважна. Відаць было, што ўдзельнікі глыбака перажываюць страту свайго Павадыра, хочуць пачуць аб ім як найбольш. Прамаўляў я, Раіса добра расказала пра паховіны, Грыцук, Пляскач, Ганько і іншыя падзяліліся сваімі ўспамінамі пра Нябожчыка. Закончылі адсьпяваньнем «Сьпі пад курганам гэрояў». Падобныя памінкі адбудуцца ў наступную нядзелю (19.7) у Нью Ёрку і Кліўляндзе. Хіба што не адстануць і іншыя асяродкі.

Прайшло 40 дзён ад сьмерці Міколы. Я маю надзею, што й ты ўжо агоўталася ад гэтага страшнога ўдару й вярнулася да штодзённага жыцьця. Ня пісаў раней, не хацеў трывожыць твайго супакою. Я лічу, што духовыя раны лягчэй гояцца, калі іх ніхто ня трывожыць. Як тваё здароўе? Як чуецца Алік? Як ты думаеш жыць? Што думаеш рабіць? Што з домам на продаж? Чуў я, што ты падумвала ўладзіцца ў радыё «Свабода». Гэта была-б найлепшая разьвязка, і ўсе мы паможам табе ў гэтым, хто чым можа. Баюся толькі, што для гэтага радыя можа настаць няспрыятлівая кан’юктура ў сувязі з «усходняй»

---

[552] Маецца на ўвазе Юрка Мазура.

[553] **Міхась Мігай** (23.09.1904 — 28.01.1978, Таронта, Канада), рэлігійны дзеяч, праваслаўны святар. У 1950 г. арганізаваў у Таронта прыход Беларускай праваслаўнай царквы Св. Еўфрасінні Полацкай у юрысдыкцыі экзарха канстанцінопальскага патрыярха. У 1954 г. прыняты ў БАПЦ і прызначаны ў дапамогу ўладыку Мікалаю на парафію Св. Кірылы Тураўскага ў Таронта.

[554] Маецца на ўвазе **Беларускае нацыянальнае аб’яднанне** — арганізацыя-канкурэнт Згуртавання беларусаў Канады, што аб’ядноўвала прыхільнікаў БЦР.

палітыкай Вілі Бранта. Здаецца, ён ужо выступіў з дамаганьнем, каб гэта радыё й «Фрі Юроп» вынясьліся зь Нямеччыны. Добра, што аб закрыцьці гэтых р-станцыяў няма мовы.

Толькі што атрымаў ад цябе тастамант. Відаць, тваёй інтэнцыяй было падаць яго да шырокага ведама, але ўжо той факт, што там гаворыцца аб Л. Геніюш як сакратары Рады выключае правядзеньне гэтага пашырэньня. Гэтым мы спрычыніліся-б да яе зьнішчэньня. Ты чула хіба што ад сп. Н[ікан]а, як яна жыве. Добра, што йшчэ ў леташнім чэрвені перад апэрацыяй Мікола напісаў мне фармальнае ўпаўнаважаньне заняць яго месца на 6 месяцаў дзеля ягонае хваробы, а ў разе прадоўжаньня ягонага вакансу, і надалей. Гэтага ўпаўнаважаньня й 9 параграфа Статуту зусім хапае, каб абгрунтаваць легальнасьць заняцьця мною старшынства Рады БНР. Незалежна ад гэтага на пашыраным паседжаньні Прэзыдыюму Рады й Сакратарыяту 20.6 у Н. Ёрку было пастаноўлена склікаць чарговую Сэсію Рады ў канцы г. г. Дата будзе ўсталена на спатканьні БПА ў Н. Ёрку ў пачатку верасьня. На Сэсіі будзе разгледжана справа старшынства Рады.

Няпрыемна, што не пасьпелі мы зь Міколам дамовіцца канчальна ў справе архіву БНР, і цяпер, замест таго, каб дамовіцца нам з табой у гэтай справе — справа пашла на фармальную дарогу, хоць і беларускую, і зацягваецца. А мне й Прэзыдыюму Рады вельмі патрэбны ў нашай працы пячатка, блянкі, некаторыя бліжэйшыя паперы, а старэйшыя дзеля скапіяваньня. Добра, што выбралі камісію, дык-жа трэба не затрымліваць, а ўдаступніць выкананьне яе абавязкаў. Памятай, Нінка, што ўсякая затрымка з разьвязваньнем справы архіву зацямняе сьветлае імя Міколы і тваё.

Цалуем моцна цябе і Аліка —

*вашы Раіса й Вінцук.*

*

*15 верасьня 1970*

*Я. М. Др-у Я. Запрудніку.*

Дарагі Доктару,

Дзякую за копію ліста Прэз. Лівіцкага й Рэзалюцыі. Я вярнуўся дамоў шчасьліва, адпачыў і бяруся за свае заняткі. Дома застаў ліст Ніны, іншы па духу. Яна капітулюе на ўсіх франтах. Няма больш прэтэнсыяў да лідарства ці якіхсь місыяў, сьціпласьць «цішэй вады, ніжэй травы». *«Я адно прашу й прасіла звольніць мяне ад архіваў як найхутчэй, хопіць, я за іх надрыжэлася й нацягалася»*. Хтось казаў ёй, што ў Лёндане йшчэ не гатова месца для архіву, што Ўл. Сіповіч свае важнейшыя рэчы трымае пад сваім ложкам. Таму яны яшчэ там, дзе палажыў іх Мікола. Пячатку БНР хацела пераслаць мне й радзілася а. Смаршчка, як гэта зрабіць. Просіць, каб я кагось упаўнаважыў, дык яна перашле праз яго пячатку.

А. Смаршчку буду пісаць хутка, каб згадзіўся быць у Кантактнай камісіі ад Рады БНР, бо: паважная асоба й праваслаўны сьвятар, на яго асобу як

заступніка Старшыні Рады БНР на Эўропу ўжо летась згаджаліся набожчык М. Абрамчык і я, але ён адмовіўся дзеля перагружанасьці працай, ён ёсьць старым радным БНР. Гэта ўсё можна сказаць і Ўл. Сіповічу, калі-б зайшла зь ім гутарка на гэту тэму. А а. Смаршчку трэба йшчэ дадаць: Кантактная камісія зьбіраецца толькі 2 разы на год, дык шмат часу не забярэ; працаўнікі радыя і Інстытуту[555] ня могуць належыць да КК, дык усе нашы ў Мюнхэне тут адпадаюць; болей-жа нікога паважнейшага, хто мог бы рэпрэзэнтаваць Рады БНР у КК у Эўропе няма; праўда, Ул. Сіповіч ня проціў, каб абняць гэта паважнае прадстаўніцтва, але з розных прычынаў гэта было-б непалітычна, і Рада БНР выкарыстаць гэту кандыдатуру тут ня можа. Гэтыя аргумэнты й Вы можаце выкарыстаць у лісьце да а. Смаршчка.

Прэз. Лівіцкі, між іншага, успамінае, што Ўл. Сіповіч мае бачыцца з кіраўніцтвам Рады БНР у гэтым месяцы. Мы ведаем, што ён у Чыкага, адкуль можа прыехаць да вас ці да нас. Умовімся, што калі прыедзе да вас, скажыце яму, што абавязкова мусіць пабачыцца са мной, а калі прыедзе да нас — я скажу, каб пабачыўся з Вамі. Была-б аказія выясьніць зь ім шмат якіх справаў, а між іншым і лёкату архіву. Нам у гэтым выпадку й наагул трэба займаць выразнае становішча: архіў уласнасьць Рады БНР, і Рада БНР можа дыспанаваць ім, а ніхто іншы. Архіў можа быць улякаваны ў Бел. Музэі ў Лёндане толькі часова. Але паўстае сапраўды іншая сытуацыя, калі гэты музэй ня мае адпаведнага памяшчэньня для архіва, як кажа Ніна. Гэта трэба выясьніць, ці там ёсьць адпаведнае месца на архіў — націснуць на Камісію, каб яна хутчэй перабрала архіў ад Ніны і ўлякавала ў музэй.

Мы мусім папрасіць праф. Адамовіча, каб ён, як хутка будзе ў Эўропе, адведаў Ніну. Ня толькі таму, што выпадае, каб нехта з Рады яе адведаў і пагутарыў аб яе самапачуцьці, плянах і архіве, але й таму, што трэба забраць пячатку Рады БНР. Калі прафэсар А.[556] згодзіцца — я напішу яму ўпаўнаважаньне забраць пячатку.

Будова помніка М. Абрамчыку ня можа йсьці самацёкам. Дзеля гэтага мы мусім стварыць камісію, якая мусіць дамовіцца зь Нінай, і толькі праз Камісію гэту могуць ісьці грошы на помнік, праект і выкананьне яго. Паведаміце аб гэтым сп. Кажана.

Зварот у «Камунікаты» абдумваю.

З прывітаньнямі

*ваш В. Жук-Грышкевіч.*

---

555 Маецца на ўвазе Інстытут вывучэння СССР у Мюнхене.

556 Маецца на ўвазе Антон Адамовіч.

*

*8 кастрычніка 1970.*

*Др-у Я. Запрудніку, Старшыні Сакратарыяту Рады БНР*

Дарагі Доктару,

Сяньня атрымаў ліст ад а. Др-а Смаршчка. Ён згаджаецца быць прадстаўніком ад Рады БНР у Кантактнай камісіі пры Радыё «Свабода». Просіць аб фармальнае ўпаўнаважаньне, інфармацыі аб сытуацыі ў радыё і інструкцыі. Будзьце ласкавы напішыце ўпаўнаважаньне яму па-ангельску (на блянку Рады БНР), хай падпіша сакратар Рады сп. Ул. Русак і тады прышліце мне. Я падпішу й вышлю. Мусіць, трэба будзе й пячатку прылажыць? Як Вы думаеце? Пячатку я ўжо маю. Маглі-б і Вы падпісаць і выслаць — як старшыня выконнага органу, але-ж Вы працаўнік радыя. Затое вельмі Вас прашу паінфармаваць Др-а Смаршчка аб сытуацыі ў радыё й пазнаёміць яго зь ягонымі абавязкамі. Калі-б мог зь ім пабачыцца праф. Адамовіч — быў-бы яму вельмі ўдзячны. Вы ведаеце, што я магу яму даць вельмі агульніковую інфармацыю і інструкцыю. Ён спадзяецца, што паседжаньні КК будуць адбывацца ў часе вікэндаў ці ў панядзелак, бо ў іншыя дні ён заняты ў школах. Але я маю ўражаньне, што ён знойдзе выхад, калі-б паседжаньні былі і ў іншыя дні, тым больш, што яны будуць рэдкія.

З Улад. Чаславам мы вельмі лёгка дамовіліся аб усім. Як я яму вытлумачыў сытуацыю, дык ён зразумеў добра, што яго бытнасьць у КК ня была-б на карысьць ні яму, ні Радзе. Нам лепш супрацоўнічаць безь яго фармальнага ангажаваньня на тую ці іншую БНРаўскую функцыю. А нашы гутаркі пераканалі нас абаіх аб неабходнасьці гэтага супрацоўніцтва ў шмат якіх дзялянках. Я вельмі цешуся, што Ўладыка прыехаў і што мы знайшлі супольнае зразуменьне й паразуменьне. У справе архіву Рады мы маем аднолькавыя погляды, ён сказаў, што яму і ягоным супрацоўнікам не залежыць на тым, каб гэты архіў быў абавязкова ў іх музэі, а залежыць на тым, каб архіў ўратаваць з прыватных рук да дыспазыцыі Рады БНР. Усе крокі ў гэтым напрамку будуць узгоднены з намі. У часе паховін сьв. п. М[іколы] А[брамчыка] Нінка нарабіла панікі, што Вы з Раісай прыехалі забраць архіў і ўсе паперы й званіла ў Лёндан, каб прыехалі бараніць яе. Цяпер ужо яна нікога не скаптуе для сваіх выскакаў. А. Смаршчок таксама піша аб гэтым, дык ёсьць магчымасьць дзеяньня ўсіх у адну руку. Бяда толькі, што ў Нінкі зьявілася новая ўява: архіў БНР можа папасьці ў Брытыш Мюзэум!? А. Смаршчок дамаўляецца з а. Гарошкам, як і калі яны зьвернуцца разам да Ніны ў гэтай справе. Ужо добра тое, што Алік у Лёндане й вучыцца.

Вельмі ўдзячны сп-ні КахаНоўскай за копію ліста Пяцюкевіча[557]. Сумная й цяжкая справа, але што-ж мы зробім?

Ці не запрапанаваць нам сп-ні Каханоўскай сяброўства ў Радзе БНР? Што Вы на гэта?

---

[557] **Марыян Пецюкевіч** (1904–1983), этнограф, грамадскі дзеяч, публіцыст. Жыў у Торуні, дзе быў ініцыятарам стварэння Музея этнаграфіі.

Чуў ад Уладыкі Часлава, як званіў з Альбаны, што Вы ў ложку. Маю надзею нічога паважнага й жадаю Вам хуткага выздараўленьня. Газэту атрымаў, нумар мне падабаецца, вялікі Вам дзякуй.

Прывітаньні Вам і Олі ад нас абаіх.

*Ваш В. Жук-Грышкевіч.*

*

*23 кастрычніка 1970.*

*Д-ру Я. Запрудніку.*

Дарагі Доктару,

Дзякую за 2 вашы лісты й копіі. Нінцы я ўжо даўно не пісаў, хачу стрымацца, пакуль «архіўная камісія» ня зьвернецца да яе ў справе архіву. Паглядзім, што з гэтага выйдзе.

Паколькі Кантактная камісія ад Парыскага блёку (чаго я ня ведаў), дык пэўне-ж няма патрэбы паведамляць Скота, хто нас рэпрэзэнтуе, але трэба тады паведаміць аб гэтым таго, хто склікае Кант. Кам., хіба што Прэз. Ліўіцкага як старшыню Блёку[558] з паданьнем адрасу а. Смаршчка. Да мяне Прэз. Ліўіцкі яшчэ не зьвяртаўся, дык мне хіба не выпадае пісаць да яго першаму. Вы зь ім у перапісцы, дык Вам выпадае паведамляць.

А. Смаршчок прасіў мяне даць яму інфармацыі пра Кант. Кам. і інструкцыі, што ён мае рабіць. Я напісаў, што паінфармаваць яго аб гэтым можаце лепш Вы ці праф. Адамовіч, бо вы стаіцё бліжэй да гэтых справаў. Было-б добра, каб праф. Адамовіч зь ім пабачыўся й пагутарыў, гэта лягчэй было-б, чымся пісаць аб усім. Будзьце ласкавы, напішыце яму аб гэтым. Я парадзіў яму пабачыцца са сп. Сенькоўскім і сп. Цынцадзэ[559], але не выпадала мне пісаць, каб у іх ён шукаў інфармацыяў і інструкцыяў.

Вельмі Вам удзячны за адбітку пра жыдоў. Яна дае аргумэнты супраць тых, якія цьвердзяць, што жыды маналіт, які імкнецца кіраваць сьветам. Па-моему, аналіз настрояў амэрыканскіх жыдоў занадта пэсымістычны. Я разглядаю гэтыя настроі як звычайную дыфэрэнцыяцыю ў жыдоўскім грамадзтве, якое ёсьць багацейшае, актыўнейшае й больш «софістыкэйтэт»[560], чымся іншыя нацыянальныя групы. Але паглядзіце, якія мільёны яны зьбіраюць для Ізраіля! Ліха іх ня возьме.

Ніяк не магу ўзяцца за матар'ял у «Камунікаты», закіданы карэспандэнцыяй.

З прывітаньнямі

*В. Жук-Грышкевіч.*

---

[558] Маецца на ўвазе Парыжскі блок.

[559] Маецца на ўвазе грузінскі палітычны дзеяч **Ной Цынцадзэ**, паплечнік Міколы Абрамчыка па Парыжскім блоку.

[560] Ад анг. *sophisticated* — складаны, вытанчаны.

П. С. 1. Нам трэба было-б папоўніць Раду нашымі актыўнымі жанчынамі. Паколькі мне ведама, дык дагэтуль у Радзе ёсьць толькі дзьве жанчыны: Арсеньнева й Раіса. Першыя кандыдаткі, якія я ўжо магу запрапанаваць, гэта сп-ня Кахаnоўская і Ала Орса-Рамано. Яны заслужылі, каб запрасіць іх у Раду (спадзяюся, яны не адмовяцца). Напэўна, ёсьць яшчэ іншыя вартасныя кандыдаткі, аб дзейнасьці якіх я ня знаю, але Вы і іншыя сябры Прэзыдыюму Рады знаюць. Трэба, каб вы парадзіліся між сабой і запрасілі ў Раду тых вартасных жанчын.

2. Згодна з зацемкай «Беларуса», Япархіяльная Ўправа БАПЦ мае падаць у суд на Хмару. Вельмі добра, нарэшце ёсьць аказія, каб прыціснуць гэту вужаку, бо маюцца довады чорна па белым афіцыйныя. Судзячы, аднак, па тым, як і хто гэтай важнай справай займецца, баюся, што зь яе нічога ня выйдзе. Здаецца, што вядзеньне гэтай справы сьпіхаюць абы збыць на Ўладыку Мікалая. Ён мае знайсьці адваката й заняцца наагул усім, чым трэба. На гэта ён зусім не надаецца ані па натуры, ані па кампэтэнтнасьці. Тут патрэбна галава праўніка й патрэбная сума грошы. Па-моему, гэтай справай мусіць заняцца праўнік Гарошка з дапамогай сваёй кампаніі. Хай сабе гэта каштуе даражэй, але будзе пэўнасьць, што Хмара атрымае належную кару. Трэба ведаць, што ў Таронта няма чалавека, які-б мог заняцца гэтай справай, а што да грошы, дык ніхто не пажалее ахвяраваць на такую справу й нагоду. Гэта датычыць усіх, а таксама й Раду. Пагаварыцця Вы з Гарошкамі на гэту тэму з бацькам і сынам.

*

*3.12.1970.*

*Я. М. Др-у Я. Запрудніку.*

Дарагі Доктару,

У Чыкага мы былі ў суботу п. п.[561] і вечарам на канцэрце, у нядзелю (29.11) і выехалі позьняй раніцай у панядзелак у Дэтройт, адкуль у аўторак (1.12) вярнуліся дамоў. Адпачылі й вярнуліся да працы.

Канцэрт быў неблагі, але зарганізаваны на скорую руку й крыху хаатычна. Вяла канцэрт сп-ня Рамук[562] ня надта ўдачна, адчувалася сыраватасьць. Людзей было каля сотні, і з прыежджых: мы з Раісай і Акула зь Лішчон-

---

561 Маецца на ўвазе «па палудні».

562 **Вера Рамук** (дзяв. **Жызнеўская**, 06.09.1931, Сабары, сёння Докшыцкі раён Віцебскай вобл. — 05.05.2010, Чыкага, ЗША), грамадская дзяячка, жонка Вітаўта Рамука. Вучылася ў польскай і савецкай школах. Ад 1944 г. — разам з бацькамі на эміграцыі. У 1949 г. прыехала ў ЗША. Пасля нядоўгага побыту ў Нью-Ёрку перабралася ў горад Пеорыя (штат Ілінойс). Закончыла мясцовы ўніверсітэт. У 1956 г. пабралася шлюбам з В. Рамуком. Ад 1963 г. жыла ў Чыкага. Была актыўнай дзяячкай мясцовай беларускай грамады.

кам[563] з Канады, Сажачы, Вера А., Мазура й Прускі[564] з Дэтройту, ды Бруцкі, Калоша[565], Станкевіч і Дунец[566]. Кліўлянд, які столькі ўдзячны Куліковічу, падкачаў, ня даў ніводнага нумару. Была Арсеньнева й прачытала свой адмысловы верш. Рэшта — гэта мясцовыя (4 з другой акр.) беларусы й крыху чужынцаў, сяброў Куліковіча. Сьпявалі: Рамучыха, Градэ[567], Вера А. солё й дуэт з Сажычыхай[568] і Віцік солё адзін і дуэт з Градэ — арыю з опэры

---

[563] **Баляслаў Лішчонак** (10.07.1919, в. Недаль, сёння Барысаўскі раён Мінскай вобл. — 12.07.1990, Ашава, Антарыа, Канада), грамадскі дзеяч, музыка. У 1944 г. разам з бацькамі пакінуў Беларусь. Некаторы час жыў у Вялікабрытаніі, адкуль на пачатку 1950-х гг. перабраўся ў Канаду. Працаваў у прадстаўніцтве кампаніі «Джэнэрал Мотарс». Жыў у Ашаве. Браў актыўны ўдзел у працы Згуртавання беларусаў Канады, парафіі Св. Кірылы Тураўскага.

[564] **Мікола Прускі** (01.01.1927, в. Мікалаеўшчына, сёння Стаўбцоўскі раён Мінскай вобл. — 22.01.2014, Дэтройт, ЗША), грамадскі дзеяч, выдавец, сын стрыечнай сястры Якуба Коласа. Пасля Другой сусветнай вайны прыехаў у ЗША. Пасяліўся ў Дэтройце. Быў сябрам Беларуска-амерыканскага задзіночання, уваходзіў у кіраўніцтва Дэтройцкага аддзела арганізацыі. У 1960–1970-я гг. — актывіст Беларуска-амерыканскага рэспубліканскага клуба ў Дэтройце. Выдаў дзясяткі беларускіх кніг. Рэдактар і выдавец перыёдыкаў «Беларускі свет» (1971–1989), «Беларускі дайджэст» (ад 1993 г.)

[565] **Кастусь Калоша** (25.02.1924, в. Нагорная, сёння Баранавіцкі раён Брэсцкай вобл. — 2004, ЗША), грамадскі дзеяч. У 1944 г. закончыў Баранавіцкую гандлёвую школу. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Спачатку жыў у Нямеччыне — у беларускіх лагерах *DP* у Рэгенсбургу і Розенгайме. Вучыўся ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы ў Міхельсфорфе і Віндышбергердорфе. У 1950 г. выехаў у ЗША. Па заканчэнні ўніверсітэта штата Мічыган у Ленсінгу пераехаў у Кліўленд. Быў актывістам мясцовай суполкі Беларуска-амерыканскага задзіночання, парафіі Жыровіцкай Божай Маці.

[566] **Уладзімір Дунец** (03.01.1930–01.01.1998, Кліўленд, ЗША), грамадскі дзеяч. Вучыўся ў Беларускай гімназіі ў Віндышбергердорфе. У 1950-я гг. прыбыў у ЗША. Шмат працаваў з моладдзю, быў старшынёй Згуртавання беларускай моладзі, сакратаром беларускай суботняй школы, кіраваў танцавальнымі калектывамі, спяваў у хоры. Быў прадстаўніком газеты «Бацькаўшчына» ў Кліўлендзе. Быў сябрам Беларуска-амерыканскага задзіночання, уваходзіў у кіраўніцтва арганізацыі і яе Кліўлендскага аддзела.

[567] **Надзея Градэ** (?–19.03.1984, Чыкага, ЗША), оперная спявачка, другая жонка Міколы Куліковіча. У паваенны час жыла ў Чыкага, займалася актыўнай канцэртнай дзейнасцю.

[568] Маецца на ўвазе **Барбара Сажыч** (дзяв. **Мазура**, 17.12.1919, Укмэргe, Літва — 21.07.1978, Дэтройт, ЗША), грамадская дзяячка, жонка Язэпа Сажыча, сястра Юркі Мазуры. У 1928 г. разам з бацькамі пераехала на Наваградчыну. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У 1946–1949 гг. вучылася ва ўніверсітэце Філіпа ў Марбургу (Нямеччына). У 1949 г. прыехала ў ЗША. Была сябрам Беларуска-амерыканскага задзіночання, брала ўдзел у працы Дэтройцкага аддзела арганізацыі.

Усяслаў Чарадзей[569]. Закончыў Лішчонак з сваімі барабаншчыкамі[570] акулавай рэклямай. Казалі людзі, што такое заканчэньне папсула ўражаньне з канцэрту.

У нядзелю пасьля службы была кава і як бы сход, на якім усім гасьцём прышлося прамовіць, пачынаючы ад мяне, аб памінкавым канцэрце. Мне вельмі хацелася зрабіць паседжаньне сэктару, але ўдалося гэта толькі часткова: калі госьці разышліся, на залі засталіся толькі Бяленіс[571], Махначы[572], Рамукі[573] й Сянкевіч[574] — якраз палова сэктару. Пануцэвіч ня прыйшоў наўмысьля, і добра зрабіў, бо, прынамся, усе гаварылі адкрыта, з чаго выявілася, што ніхто зь іх ня ведае, чаму няма кіраўніцтва сэктару — старшыні, сакратара й скарбніка. Апрача тых з маім удзелам — ня было ніякіх зборак сэктару й ніхто не зьбіраў ніякіх складак. Горш: некалькі асоб заявілі, што ня ведаюць, ці яны радныя, бо іх афармілі бязь іх згоды аўтаматычна: у часе побыту сьв. п. Абрамчыка ў 1968 г. іх запрасілі на сход і сямём сказалі скласьці прысягу (Пануцэвіч), што яны й зрабілі аўтаматычна, ня хочучы рабіць ніякіх прыкрасьцяў нікому. Калі я спытаў, ці хтось зь іх сапраўды ня хоча быць радным, ніхто не адмовіўся, але сытуацыя была прыкрая. Я папрасіў, каб у найбліжэйшы час адбылі сход сэктару й выбралі кіраўніцтва й сказаў, што й з Пануцэвічам пагавару на гэту тэму. І сапраўды пагаварыў. Ён цьвердзіў, што сьвядома не рабіў сходаў сэктару й не праводзіў выбараў кіраўніцтва, бо ўважае гэта за непатрэбную бюракрацыю. Мы з Сажычам прыціснулі яго да сьцяны, і яму ня было чаго казаць. У канцы згадзіўся ў найбліжэйшым часе аформіць сэктар. Я напішу яшчэ фармальны ліст у гэтай справе да яго й Др-а Рамука.

Прыкра таксама, што ўсё высылалася для сэктару ў Чыкаго на Пануцэвіча, клалася пад сукно, і ніхто з радных (з малымі выняткамі) нічога не атрымліваў. Такім чынам, з тых, што са мной былі на сходцы ў нядзелю, ніхто ня відзіў Статуту Рады, пратаколу 10-ай Сэсіі, праекту рэарганізацыі,

---

[569] **«Усяслаў Чарадзей»** — опера Міколы Куліковіча, лібрэта Наталлі Арсенневай.

[570] Маецца на ўвазе заснаваны Баляславам Лішчонкам аркестр ***«Oshawa Melody»***, які ўдзельнічаў у розных, у тым ліку беларускіх мерапрыемствах.

[571] **Антон Бяленіс** (1906–1994), грамадскі дзеяч. Ад канца 1940-х гг. жыў у Чыкага.

[572] Маюцца на ўвазе Ванда і Міхась Махначы.

[573] Маюцца на ўвазе Вера і Вітаўт Рамукі.

[574] **Генрык Сянкевіч** (09.05.1923, Ляхавічы Баранавіцкага пав., сёння Ляхавіцкі раён Брэсцкай вобл. — ?), грамадскі дзеяч. У час нямецкай акупацыі быў у Менскай афіцэрскай школе БКА, адкуль летам 1944 г. быў далучаны да 30-й грэнадзёрскай дывізіі СС. Перайшоў на бок саюзнікаў, служыў у Другім польскім корпусе. У 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Жыў у Ковентры. Быў сябрам Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі, на першым з’ездзе быў абраны ў сябры Наглядной рады арганізацыі. Таксама быў сябрам Згуртавання беларускіх камбатантаў. Каля 1954 г. выехаў у ЗША. Жыў у Чыкага

а «Камунікаты» нр. 1 бачыў толькі Др. Рамук. Маю ўражаньне, што гэта ня была злая воля Пануцэвіча, а проста недагляд. За сваёй пісанінай ён сьвету Боскага ня бачыць, тым больш, што сам хварэў, а жонка й цяпер у гошпіталі. Таму трэба абавязкова выслаць на нова пару эгз. Статуту, пратаколу 10-ай Сэсіі, некалькі эгз. «Камунікаты» нр. 1, а «Камунікаты» нр. 2 для ўсіх радных сэктару Чыкаго. Калі ёсьць адрасы, дык высылаць паіменна, а калі няма ўсіх адрасоў, дык папрасіць Веру Рамук, каб яна раздала ці пераслала іншым. Я вельмі прашу Вас зааранжаваць гэту перасылку — ці то праз сп. Васіля Русака, ці то з дапамогай сп-ні Каханоўскай, бо баюся, што бяз гэтага сэктар у Чыкаго можа разьвеяцца.

Сябры з Чыкаго ўсе супраць таго, каб Сэсія была ў Н. Ёрку, бо ім трэба было-б ехаць каля 1000 міль, а на самалёт маглі-б пазволіць толькі мо' 2 ці 3 асобы. На Дэтройт ці Кліўлянд (нават Таронта) яны згодны. Пануцэвіч выказаў думку, каб калі ў Н. Ёрку і Н. Брансьвіку ўспомненыя пункты не адпавядаюць, зрабіць Сэсію дзьвюма часткамі: для адных у Н. Ёрку, а для другіх у Дэтройце.

Я быў пэўны, што будзе магчыма зрабіць Сэсію ў канцы травеня, як мы думалі, але, удумаўшыся глыбей, зразумеў, што ніяк нельга рабіць у тым самым часе ці блізка адно ад другога Сэсію Рады й кангрэс БАЗА, хоць ёсьць сябры, якія-б хацелі ўпхнуць гэтыя дзьве падзеі ў два чарговыя дні ў часе вялікага вікэнду ў канцы травеня. У выніку быў-бы пшык і з адным і з другім. Таму, калі адно было-б у травені, дык другое мусіла-б быць на Лейбор дэй[575]. Нам трэба добра гэта прадумаць і прадыскутаваць. магчыма, каля каляд мы з Раісай будзем у Н. Ёрку, дык тады-б супольна заняліся-б гэтымі справамі і іншымі.

А пакуль што жадаю Вам усяго найлепшага. З прывітаньнямі ад нас абаіх

*Ваш В. Жук-Грышкевіч.*

*

*14.1.71.*

Дарагі Доктару,

10 дзён прайшло ад нашага павароту з Н. Ё. Бальшыню гэтага часу мы прахварэлі на флю. Я то хоць у Таронта зьезьдзіў у мінулую нядзелю, а Раіса йшчэ пару дзён прахварэла. Але ад учора працуе і чуецца ўжо добра. Нам трэба рухацца, бо 23 г. м. зьезд ЗБК і вечарам таго-ж дня сход нашага сэктару. Вельмі важна, каб нашы радныя атрымалі да гэтага дня «Камунікаты». Вось што піша Нікан пра «Камунікаты»: *«...Шкада, што ня можам дачакацца гэтага Камунікату нр. 2. Запраўды — адзін Камунікат на 2 гады — гэта амаль нічога. А без камунікатаў-канкрэтных распараджэньняў, сугэстыяў,*

575 **Labor Day** — дзяржаўнае свята ў ЗША, якое адзначаецца ў першы панядзелак верасня.

*думак — ці можа быць сувязь з раднымі ці сэктарамі? Таму ўсё “разьлезлася”. Таму на сходку сабралася палавіна радных, таму нават складак ня плацяць. Пэўна, найбольш залежыць ад мясцовага актыву..».* А я дадам: актыву неабходна мець сувязь з сваім цэнтрам і зь іншымі асяродкамі. У нас у Канадзе вельмі гэта адчуваецца, а ў радных настроі падобны да нікчэмных. Рыхтуемся да зьезду ЗБК і сходу сэктару, а ў мазгах бесьперапынна сьвідруе думка: як стварыць і дзе хоць маленькі адміністрацыйны апарацік, які-б утрымліваў рэгулярную сувязь з сэктарамі і асяродкамі? Бяз гэтага Рада разваліцца. Цэнтрам Рады быў Н. Ёрк. Ці хопіць яму сілаў, каб і далей ім застацца? Калі не, дык што-ж тады рабіць? Ня крыўдуйце, што да Вас зьвяртаюся з гэтым. Мусім абдумаць гэта загадзя.

З прывітаньнямі

*Ваш В. Жук-Грышкевіч.*

*

*3.3.71*

Дарагі Доктару,

Вы, напэўна, атрымалі абежнік Др-а Войтанкі[576] ў справе рэарганізацыі Рады БНР. Гэта нешта хаатычнае, што цяжка нат зарыентавацца, што гэты чалавек хоча. Я ня думаю, што варта падаць гэты зварот у «Камунікатах». Але ёсьць людзі, у якіх зварот Войтанкі выклікаюць рэакцыю. Вось Вам ліст Пануцэвіча з больш канкрэтнымі прапановамі. Мне хацелася-б ведаць, як Вы й праф. Адамовіч глядзіцё на гэтыя прапановы.

З прывітаньнямі

*Ваш В. Жук-Грышкевіч.*

*

*Чыкага, 1 сакавіка 71.*

Дарагі Спадару Прэзыдэнце!

Дзякую за Ваш ліст, які нядаўна атрымаў. На яго цяпер яшчэ не адказваю, як непрыгатоўлены. Затое пішу ў зьвязку з атрыманым мною абежнікам В. Войтэнкі. Ён датычыць рэарганізацыі Рады ды мае некаторыя даволі фантастычныя прапановы. На мой погляд, думка пашырэньня Рады «іншадумнікамі» — неблагая. Якраз ёсьць нагода, калі Вам выпаў абавязак быць на чале. Трэба, па-мойму, спрабаваць, даволі асьцярожна, правесьці рэарганізацыю, але не ў стылю збору агульнанароднага, бо будзе самаліквідацыя наагул БНР, ані таксама пад «нейкім» Хрысьціянскім Аб’еднаньнем да Незалежнасьці,

[576] Відаць, маецца на ўвазе ліст Віктара Войтанкі-Васілеўскага, адрасаваны да «В. Грышкевіча і Правадыства Рады БНР» ад 22 лютага 1971 г., дзе аўтар прапануе пашырыць склад радных БНР за кошт не толькі этнічных беларусаў, а таксама стварыць палітычныя партыі. Ліст захоўваецца ў архіве БІНіМа.

што рэкамэндуе Войтэнка і іншыя. Трэба на Зьезд Рады БНР запрасіць выбраных ці вызначаных дэлегатаў ад усіх існуючых дзейных арганізацыяў, што прызнаюць Акт 25 Сакавіка за аснову нашага нацыянальнага змаганьня да дзяржаўнасьці ды незалежнасьці незалежна ад розных разыходжаньняў тыпу рэлігійнага (асабліва на фоне БАЎтакефаліі), мясцовага ці іншага (пэрсанальнага). Такім чынам, трэба зрабіць заклік да ўсіх арганізацыяў (беларускіх) на эміграцыі незалежніцкага тыпу, каб яны абмеркавалі праблему нашага беларускага дзяржаўнага прадстаўніцтва, пакінуўшы ўсякія мясцовыя сваркі, ды каб выбралі ад кожнай дзейнай арганізацыі адпаведных дэлегатаў у Раду БНР паводля адпаведніка: 3 дэлегаты ад 100 сяброў, якія-б маглі ўвайсьці ў пашыраны круг Прэзыдыі БНР. Такія дэлегаты з аддаленых краінаў маглі-б мець сваіх юрыдычных прадстаўнікоў, адпаведна ўпоўнамоцненых, скажам, у раёне Нью Ёрку. Гэткія юрысконсулі самі не ўваходзілі-б у склад Рады (як парляманту БНР), але мелі-б права рэпрэзэнтаваць сваіх моцадаўцаў ды выказваць погляды запраўдных сяброў-радных ды іхніх арганізацый. Так зарганізаваны Зьезд БНР ужо сам выказаў-быся[577] ў шкілеце новага Статуту БНР ды іншых пастановаў, якія ўжо былі-б абавязковыя для ўсіх. Вывадам з маіх разважаньняў ёсьць патрэба Вам абмеркаваць маю прапанову ў цяперашнім ЦК Рады ды эвэнтуальна выпрацаваць талковы абежнік да ўсіх незалежніцкіх арганізацыяў абедзьвіх цяпер існуючых групаў, а таксама да асобненых, увагі годных, Беларусаў, што з тых ці іншых прычынаў адышлі ў цень. Апрацоўка такога абежніка, ягоны тэкст павінен быць узгоднены зь цяперашнімі сябрамі Рады БНР так у Нью Ёрку, як і пасьля ў пісьмовай перапісцы зь іншымі. Зойме гэта, ведама, некаторы час. Таму праект скліканьня Рады БНР на травень 1971 я лічу захуткі, яго трэба перасунуць на ліпень — жнівень. Ня трэба баяцца апазыцыі ў Радзе БНР. З усяго вынікае, што мы будзем мець бальшыню, ды й іншымі валёрамі будзем дамінаваць. Але, дай Божа, зможам разьвязаць найбольш балючую дасэлешнюю справу нашай эміграцыі і нашага нацыянальнага прадстаўніцтва. Памятаць трэба, што ўсюды цяперашнія арганізацыі ў сваёй дзейнасьці памалу тухнуць, а калі так, дык адзіны выхад яднаньне й кааліцыя.

З глыбокай пашанай

*Ваш В. Пануцэвіч.*

*

*24 лютага 71.*

*Др-у Я. Запрудніку, Старшыні Сакратарыяту Рады БНР.*

Дарагі Доктару,

Залучаю копіі лістоў а. Смаршчка да мяне й да сп-ні Ніны. Слушна, можа й ня варта йшчэ паліць мастоў за Нінай. Найгорш што маецца дачыненьне зь непачытальнай асобай. Але што-ж далей, калі захады Камісіі не дадуць

[577] Так у арыгінале.

вынікаў? На Сэсіі пытаньне архіву напэўна вылезе, і трэба будзе заняць выразнае становішча. Справа гэта агульнанацыянальная, дык затушаваць яе ніяк нельга. Яна станецца публічнай, і ня наша віна, што апякуны архіву будуць абвінавачаны ў прысваеньні нацыянальна-грамадзкіх вартасьцяў, і іх заслугі будуць затаптаны ў балота. Хто пасьля гэтага схоча даць на помнік М[ іколу] А[брамчыку]? Аб гэтым мусіць сказаць Камісія сп-ні Н[іне] А[брамчык]. А пакуль што, як і дагэтуль, справу архіву няможна рабіць публічнай.

Варочаючыся да арганізацыі Сэсіі: На апошнім паседжаньні Прэз. Рады й Сакратарыяту мы гаварылі, што загадзя перад Сэсіяй мусіла-б быць складзена ліста кандыдатаў на старшыню Рады, 2 заступнікаў (адзін на Эўропу), сакратара й сяброў Прэз., ды сяброў выконнага воргану (Сакратарыяту), калі апошні будзе выбіральны. Найвышэйшы час, каб заняцца гэтай справай. Трэба вызначыць выбарчую камісію, якая-б ужо пачала падбіраць кандыдатаў, што згодзяцца быць такімі, збольшага сабраць аб іх апінію радных і прадставіць іх на выбары ў часе Сэсіі. Без такой падрыхтоўкі траціцца страшэнна многа часу на выбары, на што мы ня можам сабе пазволіць, маючы толькі 1 дзень для ўсіх справаў. У такую камісію хопіць 3 чалавек зь Н. Ёрку ці ваколіц, якія могуць мець тэлефанічны кантакт зь людзьмі. Зразумела, кандыдаты ў органы Рады БНР у бальшыні мусяць паходзіць зь Н. Ё. і ваколіцаў, каб ворганы гэтыя ня былі занадта распарушаныя й былі працаздольныя.

Падаю на ўсякі выпадак кандыдатаў у выбарчую камісію: сп. сп. Паланевіч, Бартуль, Курыла, Валодзя Русак, Стагановіч (старэйшы). Нічога ня буду мець супраць, калі ў выбарчую камісію ўвойдуць іншыя людзі, абы камісія рабіла сваю работу.

Вам як старшыні выконнага воргану выпадае вызначыць такую камісію, Вы ў Н. Ё., і з усімі можаце паразумецца тэлефанічна. Ведаю, што ня маеце часу, можаце даручыць камусь іншаму гэтым заняцца. Абы была выбарчая камісія й зрабіла сваю работу.

У мяне флю. Упіраюся, каб ня йсьці ў ложак, але мусіць прыдзецца.

Жадаю Вам усяго найлепшага.

З прывітаньнямі,

*В. Жук-Грышкевіч, старшыня Рады БНР.*

*

*Копія.*

*Бэльгія, 19 лютага 1971 г.*

*Яго Міласьці Др. Вінцуку Жук-Грышкевічу, Старшыні Рады БНР*

*Канада.*

Высокапаважаны Доктар,

Шчыра дзякую за Вашы лісты й за добрые жаданьні. Прашу выбачэньня за доўгі перарыў у карэспандэнцыі, які стаўся ня бяз прычынаў усялякага сорту, не мінаючы й здароўя.

Ад Усіх Сьвятых[578] ня маю ніякага кантакту са сп. Нінай А[брамчык]. Яна мне званіла, каб выліць свае скаргі й напады на Лёндан, спэцыяльна на а. Надсона[579], а я яе не падтрымваў ды яшчэ зьвярнуў увагу на бязглузнасьць аскаржэньняў. Зазлавалася.

Мы спэцыяльна цікавіліся, як маецца Алік, і весткі са ўсіх бакоў самые пазытыўные. Перад Калядамі наведаў нас праездам а. Робэрт Тамушанскі[580]. Ад яго мы даведаліся ўсё зь першай рукі. Мы баяліся паважна, што сп. Ніна хоча ўвосяні, карыстаючы з канікулаў Усіх Сьвятых, Аліка забраць назад. Дзякаваць Богу, так ня сталася, і гэта добры знак. Алік быў удома і ўвосяні, і на Каляды.

Адносна архіву я пакладаў усю надзею на а. Льва, бо такія справы ладзіць трэба асабіста, на месцы, ня лістом. Таму я пісаў усё Айцу Архімандрыту, але на Каляды адказаў ён мне даволі пэсымістычна, што сп. Ніна шукае ўсё новых прэтэкстаў, каб архіў затрымаць Аліку ў

---

[578] **Дзень Усіх святых** у праваслаўнай традыцыі святкуецца ў восьмую нядзелю пасля Вялікадня, у каталіцкай — 1 лістапада.

[579] Айцец Аляксандр Надсан быў у той час кіраўніком Школы-інтэрната св. Кірылы Тураўскага ў Лондане.

[580] **Роберт Тамушанскі** (03.07.1940, Нью-Ёрк, ЗША — 10.12.1996, Рым, Італія), рэлігійны дзеяч. Нарадзіўся ў сям'і нашчадкаў беларускіх эмігрантаў з Беласточчыны. У 1958 г. пасля заканчэння школы ўступіў у закон базыльянаў у Глен-Коў каля Нью-Ёрка. У 1960 г. паступіў ва ўніверсітэт у Атаве (Канада). З дапамогай а. Ф. Чарняўскага і біскупа Ч. Сіповіча паступіў у духоўную семінарыю ў Кенігштайне (Нямеччына). У кастрычніку 1965 г. атрымаў свячэнні дыякана, а 03.12.1966 — святара. Пасля гэтага перабраўся ў Лондан, дзе займаўся пастырскай дзейнасцю, а таксама дапамагаў у працы Школы-інтэрната св. Кірылы Тураўскага і Беларускай бібліятэкі імя Ф. Скарыны. Адначасова ў 1968–1971 гг. вучыўся ў Лонданскім універсітэце, дзе абараніў дысертацыю на тэму «Нямецкія запазычанні ў беларускай мове» і атрымаў ступень доктара філалогіі. У 1971 г. выехаў у Рым для працы ў беларускай праграме Ватыканскага радыё, ад 1977 г. кіраваў гэтай праграмай. Адначасова вучыўся ў Папскім інстытуце арабскіх і мусульманскіх даследаванняў і атрымаў дыплом у галіне сучаснай арабскай літаратурнай мовы.

спадку. Сам-жа Айцец выехаў працаваць у радыё ў Рым[581], а толькі час да часу будзя наведваць Парыж.

У маём лісьце да сп. Н. знойдзеце пасаж адносна Аліка.

Перад і пасьля Вашага апошняга ліста я перадумваў, як узяцца за справу, і здэцыдаваў не паліць мастоў, а зрабіць спробу, і апошнюю, пераконваньнем, і мірна зьвярнуцца да сп. Ніны. Пасылаю Вам копію свайго ліста. Можа, гэта надзея наіўная, але ў выпадку нэгатыўнага адказу або неадказаньня на ліст са спакойным сумленьнем буду дзеіць. Тымчасам астаюся пры сваім аптымізьме й веру ў адказ, хаця прадбачваю выкруткі й прэтэксты. Ня выключаю атрымаць і пісемцо, падобнае Вашаму ці напісанага др. Запрудніку.

Пры маіх абавязках нялёгка мне адарвацца, каб паехаць у Парыж, але пры наяўнай канкрэтнай патрэбе зраблю гэта бязумоўна.

Атрымаўшы адрыс сп. Цэнцадзэ, навяжу зь ім лучнасьць. Нядаўна быў тут сп. Сенькоўскі. Ён мне апісаў крызыс, які прайшлі радыё і Інстытут, ды павольную стабілізацыю «статус кво». Гэтым пэўня паясьняецца брак паседжаньня Кантактнае Камісіі. Паседжаньняў прадстаўнікоў Блёку таксама ўжо даўно ня было. Сп. С[енькоўскі] прыпушчае існаваньне канфліктаў у радох Блёку. Гэта было-б нічога новага, яны заўсёды былі, толькі Прэз. Абрамчык зь ведамым майстэрствам іх ліквідаваў ці прыцішаў дзеля дабра агульнае справы.

Пасьля атрыманьня адказу ці эвэнт. тэлефону з Парыжу зараз-жа Вас паведамлю аб рэзультатах інтэрвэнцыі ў справе архіву. Я абсалютна згодны з Вамі адносна патрэбы якнайхутчэйшага паладжаньня гэтага пытаньня.

Прашу прывітаць ад нас Сп. Раісу й прыняць ад нас шчырые жаданьні добрага здароўя і ўсялякай памыснасьці.

З глыбокай пашанай,

*а. Аўген Смаршчок.*

*

*Копія.*

*Бэльгія, Віллебрук, 16.2.71 г.*

Вельміпаважаная Спадарыня Ніна,

Шчыра Вас вітаем і выбачаемся, што прапусьцілі шмат часу, у якім належалася даведацца аб Вашым жыцьці й справах клапатлівых, бо апрача іх мала ў Вас радасьці.

Мы ўсьцешыліся, калі даведаліся, што Алік быў у Вас ужо два разы. Добрыя весткі аб Аліку атрымалі мы ад Марка Саўкі[582], які быў тутака на

---

[581] Маецца на ўвазе **Беларуская рэдакцыя Радыё Ватыкана**, куды а. Леў Гарошка выехаў улетку 1970 г. з Лондана, каб заняць пасаду кіраўніка замест а. Пётры Татарыновіча, што меў ужо пенсійны ўзрост.

[582] **Марк Саўка-Міхальскі**, сын беларускага дзеяча ў Бельгіі Міхася Саўкі-Міхальскага, у той час вучыўся ў Беларускім інтэрнаце імя св. Кірылы Тураўскага ў Лондане.

канікулы, а перадусім атрымалі добрыя весткі зь першае рукі, ад а. Робэрта Тамушанскага зь Лёндану, які наведаў нас на Каляды праездам праз Бэльгію. Спадзяемся, Вы прывыклі ўжо ляпей да адсутнасьці Аліка. Дэцызыя Сьв. Пам. Сп. Прэзыдэнта была ўсебакова абдумана й правідловая. Алік у добрым асяродзьдзі, разаўецца на саліднага хлапца.

Як Вашы юрыдычныя справы? Памагае Вам той адвакат з мэрыі ці маеце кантакт са сп. Пікардой?

Нядаўна быў тутака сп. Юрка Сенькоўскі зь Мюнхэну. Ён казаў, што Вы карэспандуеце з Галінай[583] і выпаўнялі ці меліся выпаўніць апытальнікі адносна працы ў радыё. Як з гэтай справай?

У канцы траўня, у Першую Гадаўшчыну Сьмерці Сп. Прэзыдэнта адбудзецца чарговая, 11-я Сэсыя Рады БНР. Як сябра Камісіі пераняцьця архіву БНР ад Вас, пачынаю паважна хвалявацца з гэтай прычыны. Я Вас заўсёды падтрымоўваў адносна месца перахоўваньня архіву, як і часу пераняцьця, але цяпер, паклікаючыся на нашы гутаркі з Вамі ў памятны й сьвяты дзень паховінаў, як і пры пазьнейшым спатканьні, прашу Вас паставіць пытаньне гэтае як вельмі нясьпелае, ды прашу Вас шчыра выявіць Вашы ўсе засьцярогі й клопаты перада мною.

Я гатоў прыняць архіў з а. Львом толькі і ў прысутнасьці Ўладыкі Часлава. У мяне паўстала ідэя ўключыць Аліка ў круг зацікаўленьня пры разборы, кансэрвацыі й доглядзе архіву, калі ён будзе адчыняны на загад Прэзыдыюму Рады. Такім чынам, Алік уключыцца памаленьку ў тэхніку працы гістарыёграфа і ў працу над успамінамі, якія мусяць быць напісаныя. Побыт Аліка ў Лёндане дзеля гэтага ідэальны. Я гэтую ідэю абараню, знайду падтрымку ўсім на карысьць і дзеля Вашага супакою.

Цяпер, як кажуць, за 5 мінут 12, і ня можна болей чакаць, ніяк ня можна дапусьціць, каб дыскусіі за архіў БНР зацямнілі Сьветлую Памяць Гадаўшчыны Сьмерці Прэзыдэнта Міколы Абрамчыка.

Прэзыдыюм Рады ўжо ставіць пытаньне ўвекавечаньня памяці Прэзыдэнта. Ня можна гэтай акцыі перабіць і памяшаць сваркай за лёс архіву. Было пытаньне тыдняў пасьля сьмерці, і я сам за гэта галасаваў, але вось чакаем году, а справа не заладжана.

Як сябра Камісіі прыняцьця архіву і як праваслаўны сьвятар я прыняў на сябе адказнасьць перад Япіскапатам БАПЦ і ўсімі супрацоўнікамі перавозу архіву ў Лёндан. Рабіў я гэта й раблю згодна з воляй Нябожчыка Прэзыдэнта, з Вашай, у глыбокім перакананьні асабістым у правідловасьці выбару месца.

Моцна спадзяюся пазытыўнага адказу ад Вас, каб мне дагаварыцца адносна прыезду на тэрмін усім магчымы.

На просьбу Прэзыдыюму Рады прыняў я прадстаўніцтва Рады ў Кантактнай Камісіі з радыям. За мае кадэнцыі сходу яшчэ ня было. Мне трэба

[583] **Галіна Ганчарэнка** (Грыбава, Руднік; нар. 1931, Бабруйск), грамадска-культурная дзячка, журналістка, перакладчыца. Працавала на Радыё «Вызваленне» / «Свабода» ў Мюнхене.

паразумецца са сп. Цэнцадзэ. Будзьце ласка паслаць мне ягоны адрыс і тэлефон, а таксама, калі маеце, адрыс прэз. Левіцкага УН-Рады.

Сп. Зосю Ладу паведаміў я аб Вашым няшчасьці. Ці яна Вам пісала?

З огляду на зьмест ліста й дзеля пэўнасьці атрыманьня яго Вамі пасылаю заказным.

Лучу жаданьні добрага здароўя й добрых людзей на Вашых дарогах клопатаў й барацьбы.

Шчыра Ваш

*а. Аўген Смаршчок.*

*

*27.11.71.*

*Др-у Запрудніку, у Н. Ёрку.*

Дарагі Доктару,

Тэкст упаўнаважаньня для а. Смаршчка атрымаў, дзякую. З афармленьнем яго трэба пачакаць, што скажуць праўнікі ў Эўропе. Я зрабіў адбітку з гэтага тэксту і выслаў у Лёндан. У міжчасе трэба знайсьці, хто падпіша як сакратар у натарыюса. Я дзіўлюся, чаму Васіль[584] ухіляецца і ад гэтага подпісу. Гэта ўпаўнаважаньне ў саветы ці на міжнародны грунт ня пойдзе, яно прызначана для мясцовага францускага адваката. Але Бог зь ім, маю надзею, нехта на яго месца знойдзецца, інакш быў-бы вялікі сорам.

Бяручы пад увагу гэты тэкст, трэба будзе дапільнаваць, каб у пратаколе 11 Сэсіі быў адпаведна зрэдагаваны пункт аб архіве Рады БНР. Наколькі я памятаю, дык было сказана, што Архіў ёсьць вылучна собскасьцяй Рады БНР, што сп-ня Н[іна] А[брамчык] мусіць аддаць архіў Радзе БНР на рукі ўпаўнаважанай дзеля перабраньня архіву камісіі пад старшынствам а. Аўгена Смаршчка. Ходзіць аб тое, каб пратакол Сэсіі быў, між іншага, і падставай для ўпаўнаважаньня, аб якім мова вышэй. Аб форме ўпаўнаважаньня й складзе камісіі я ўжо пісаў у Лёндан раней (паводля Гарошкавага тэксту ўпаўнаважаньня пастанова Парыскага сходу і ўсталены там склад камісіі не бярэцца пад увагу), як і эвэнтуальных цяжкасьцях з тэй прычыны, што старшыня камісіі ў Бэльгіі, а сябры адзін у Англіі, а другі ў Рыме. Мясцовы адвакат можа сказаць, як і каго ўпаўнаважыць пры такой сытуацыі. Як толькі атрымаю весткі з Эўропы, зараз-жа скамунікуюся з Вамі.

З падзякай і прывітаньнямі

*Ваш В. Жук-Грышкевіч.*

*

*26.1.72*

---

[584] Відаць, маецца на ўвазе Васіль Русак.

*Др-у Запрудніку, у Нью Ёрку.*

Дарагі Доктару,

Дзякую за перасланьне ліста ад кангрэсмэна Дэрвінскага[585]. На тарантоўскі адрас я атрымаў ліст ад Кангрэсмана Заблоцкага[586].

Я ня ведаў пра ўгодкі сп. Стагановіча[587], прывітаю яго хоць па часе. Жалею, што не спаткаўся зь ім, як быў у Н. Брансьвіку, ня было часу. Чуў я, што ён нібы падтрымлівае Ніну А[брамчык], і ці ён, ці Войтэнка атрымлівае лісты ад Ніны. Добра было-б зь ім пагаварыць пры нагодзе й даць патрэбныя факты й насьвятленьне. Я гаварыў з Васілём Русаком, які таксама менш цікавіцца архівам Рады БНР, як дабрабытам Ніны. Я спытаў яго, ці ёсьць зарука, што архіў ня трапіць у варожыя рукі? Як гэта адаб’ецца тады на нашай справе, нас усіх і нават нашых блізкіх у Саветах? Ён здэтанаваўся. Ці ён знае яе бліжэй — як чалавека, жонку, матку? Ён прызадумаўся. Гэтыя безадказныя *«гнілыя лібэралы»* сапраўды могуць нарабіць нам шмат шкоды, тым больш што варацца ў сваім собскім саку. Хацелася-б пачуць Вашу думку пра артыкул супроць паклёпу на Раду БНР, аб якім я Вам пісаў у сваім лісьце. Можа зазвоніце да мяне? Усе мы чакаем на Статут Рады й пратакол Сэсіі.

Усе лётнішчы ў Канадзе нячынныя дзеля страйку ўжо 10 дзён. Ніхто ня ведае, калі самалёты пойдуць у рух. Ужо й дзеля гэтага я не магу ляцець у Італію. Напісаў лісты М. Пецюкевічу і а. Татарыновічу[588].

Жадаю Вам усяго найлепшага. З прывітаньнямі

*В. Жук-Грышкевіч.*

---

[585] **Эдвард Дэрвінскі** (*Edward Joseph Derwinski*, 1926–2012), амерыканскі палітычны дзеяч, сябра Рэспубліканскай партыі, дэпутат Палаты прадстаўнікоў Кангрэса ад штата Ілінойс у 1959–1982 гг.

[586] **Клемент Заблоцкі** (*Clement J. Zablocky*, 1912–1983), амерыканскі палітычны дзеяч, сябра Дэмакратычнай партыі, дэпутат Палаты прадстаўнікоў Кангрэса ад штата Вісконсін у 1948–1983 гг. Быў ініцыятарам прыняцця Кангрэсам ЗША рэзалюцыі пра ўсталяванне непасрэдных дыпламатычных дачыненняў паміж ЗША, УССР і БССР. Гл.: Пытанне БССР у Кангрэсе ЗША // Беларус. № 178. Люты 1972. С. 1.

[587] Дзень народзінаў Аляксандра Стагановіча — 25 студзеня 1890 г.

[588] **Пётра Татарыновіч** (1896–1978), рэлігійны дзеяч, каталіцкі святар, педагог, перакладчык, публіцыст. Жыў у Рыме. У 1950 г. заснаваў беларускі каталіцкі часопіс «Źnič», які і рэдагаваў цягам 1950–1975 гг. Заснаваў Беларускую рэдакцыю Радыё Ватыкана і быў галоўным яе супрацоўнікам.

*

*15.6.74.*

Дарагі Сябру,

Залучаю пры гэтым адбітку ліста сп. Пануцэвіча, які раскрывае сутнасьць дзейнасьці Др-а Ст. Станкевіча[589]. Дазволю сабе падаць сваю інтэпрэтацыю. Супрацоўніцтва паміж бэнээраўцамі й б. бэцээраўцамі пачалося ў 65 г. у Англіі й Канадзе, пазьней у Аўстраліі й Чыкаго й далей пашыраецца й паглыбляецца ціха, бяз крыку. Толькі Др. Станкевіч падняў крык у «Беларусе» аб злучэньні розных напрамкаў пад ідэйна-палітычным кірункам «Беларуса». Мы ведаем, што гэта робіцца без паразуменьня з Радай БНР. А раз так, лёгічным ёсьць думаць, што пад прыкрыцьцём газэты Др. Станкевіч творыць новую палітычную арганізацыю, канкурэнцыйную Радзе БНР. Інакш кажучы — пад пакрывай нашай газэты й за грошы радных (яны даюць найбольш ахвяраў) ад даўжэйшага часу з дапамогай жонкі й дачкі ды Акулы з Маркевічам Др. Станкевіч арганізуе дывэрсію супраць Рады БНР. Ужо іх паездка мінулага лета ў Эўропу[590] была зьвязана з гэтым. Тады-ж яны зьнюхаліся з Касмовічам[591]. Цяжка цяпер сказаць, хто пры іх застанецца, як усё скрыванае цяпер станецца ясным і выразным. Але нават калі зь імі (Ак[улам] і Станк[евічам]) пойдзе малавартасны элемэнт, дывэрсія будзе куды большая, як мярлякоўшчына[592]. Трэба да гэтай справы падыйсьці паважна, неадкладна абмеркаваць яе й знайсьці спосабы процідзеяньня.

---

[589] Згаданы ліст цытуецца намі ў гістарычным нарысе.

[590] Паездка Станіслава Станкевіча ў Еўропу адбылася ў верасні — кастрычніку 1973 г., і ён апублікаваў справаздачу з яе ў газеце «Беларус». Гл.: Станкевіч, Ст. Сярод суродзічаў у Эўропе // Беларус. № 199. Лістапад 1973. С. 2–3.

[591] **Дзмітры Касмовіч** (21.09.1909, Нясвіж, сёння Мінская вобл. — 23.04.1991, Штутгарт, Нямеччына), вайсковы і грамадскі дзеяч. Закончыў гімназію ў Радашкавічах, вучыўся ў Бельгіі, Польшчы і Югаславіі. Браў удзел у студэнцкім руху. Служыў у польскім войску. У 1940–1941 гг. вучыўся ў мінскім Політэхнічным інстытуце. З пачаткам нямецкай акупацыі кіраваў аддзелам забеспячэньня Мінскай управы і мінскай паліцыяй. У 1941–1943 гг. выконваў абавязкі інспектара дапаможнай паліцыі прыфронтавай зоны групы армій «Цэнтр». Браў актыўны ўдзел у беларускім руху, удзельнічаў у паседжанні, на якім было абвешчана аб утварэнні аўтакефаліі Беларускай праваслаўнай царквы, Царкоўным саборы, Другім Усебеларускім кангрэсе. Быў адным з лідараў Беларускай незалежніцкай партыі. Ва Усходняй Прусіі служыў у дэсантным батальёне «Дальвіц», які займаўся падрыхтоўкай дыверсійных сілаў для барацьбы з савецкай уладай. Ад кастрычніка 1954 г. прызначаны прадстаўніком БЦР у ЦК Антыбальшавіцкага блока народаў (АБН). У 1954 г. узначаліў Беларускі вызвольны фронт. Жыў у Штутгарце. Пакінуў кнігу ўспамінаў «За вольную і сувэрэнную Беларусь» (Вільня, 2006).

[592] Маецца на ўвазе ініцыятыва Кастуся Мерляка 1960-х гг. па супрацоўніцтве прыхільнікаў Рады БНР і БЦР, якая скончылася выхадам дзеяча з БАЗА і заснаваннем уласнай арганізацыі.

Нам абавязкова трэба як найхутчэй зрабіць паседжаньне Прэз. Рады й Сакратарыяту, каб заняць адпаведнае становішча й запабегчы якімсь памылкам ці блытаніне. Ёсьць добрая нагода: 23 чэрв. у першую нядзелю каравану ў «Менску»[593] (Таронце) а 10 г. раніцы мае адбыцца сход нашага БІНІМу[594]. Прыедуць Рагуля й Сурвілы. Калі-б да нас далучыліся праф. Адамовіч, Вы й Шукелойць, а мо' й Васіль Русак, або хоць адзін праф. Адамовіч — мы маглі-б зрабіць экстранае пас. Прэз. і Сакрат. Рады БНР. Дык запрашаем вас усіх на Караван, на пас. нашага БІНІМу, а пасьля гэтых прыемнасьцяў зробім в. паважную справу — разгледзім найбольш актуальную й пякучую справу на пас. Прэз. Рады.

Гэты ліст і залучнік прызначаны для Вас, Др. Запруднік, і праф. Адамовіча. Вельмі Вас прашу, абмяркуйце ўсё, аб чым тут мова, і запрапануйце іншым сябрам Прэз. і Сакр. прыехаць разам з Вамі. Дарога (самалёт) можа быць аплачана, грошы на так важную справу знойдуцца. Вельмі прашу таксама, пасьля абмеркаваньня, аб чым мова, паведаміць мяне як найхутчэй, найлепш тэлефанічна, што вы вырашылі.

Дзякуй Вам за адбітку з «Камуніста»[595]. Выбачце за маё маўчаньне, мяне было зваліла люмбаго[596], і я больш тыдня праляжаў у ложку, але цяпер ужо, дзякуй Богу, пакрысе расходжваюся. Цяжка мне ўсё-ж сядзець, а г. зн. і пісаць.

Прывітаньні ад нас абаіх.

*Ваш В. Жук-Грышкевіч.*

---

593 Маецца на ўвазе беларускі павільён «Менск» на шматкультурным фестывалі «Караван» у Таронта (Канада).

594 Маецца на ўвазе Беларускі інстытут навукі і мастацтва ў Канадзе, што быў самастойнай арганізацыяй у параўнанні з нью-ёркскім інстытутам.

595 Відаць, маецца на ўвазе часопіс «Коммунист Белоруссии», які выдаваўся ад 1927 г. (ад 1963 г. толькі па-руску).

596 **Люмбага** — востры боль у ніжняй частцы спіны.

# *Раздзел V*
# БІБЛІЯГРАФІЯ

*Пададзеная тут бібліяграфія адлюстроўвае паасобныя выданні Рады БНР і прысвечаныя ёй артыкулы на старонках газеты «Беларус» у 1971–1982 гг., бо 1970 г. прысутнічаў у бібліяграфіі папярэдняй нашай кнігі.*

*Выдавецкая дзейнасць Рады БНР у згаданы час не была асабліва актыўная, што можна прасачыць па прыведзеным спісе выданняў. Перыёдык ад імя Рады БНР выдаваўся толькі адзін. У бібліяграфіі Вітаўта і Зоры Кіпеляў «Беларускі друк на Захадзе» ён прадстаўлены як:*

*«Камунікаты Прэзыдыюму і Сакратарыяту Рады Беларускае Народнае Рэспублікі.*
*Jamaica, N. Y.*
*№ 1, ліп. 1970 —*
*Ад № 4, лют. 1973 — Toronto, Ont.*
*Ад № 8, сак. 1977 — Barrie, Ont.*
*Ад № 9, ліст. 1977 — Камунікаты Рады Беларускае Народнае Рэспублікі.*
*Ад № 1/14, сак. 1984 — Jamaica, N.Y. Камунікаты Рады БНР.*
*Ад № 2/15, жнів. 1985 — Detroit, Mich.*
*Ад № 1(26), 1998 — New York.*
*Выданьне прадаўжаецца»*[597]*.*

*Прыведзены спіс паасобных выданняў зроблены таксама паводле згаданай бібліяграфіі «Беларускі друк на Захадзе».*

## ПААСОБНЫЯ ВЫДАННІ

### 1971

**1. Запруднік, Янка. «Старшыні БНР...».** [Нью Ёрк], 25.03.1971. — 5 с.
Справы БНР і беларускія арганізацыі.

**2. Праўныя і ідэялягічныя асновы Рады БНР.** Бэры, красавік 1971. — 2 с.
Подпіс: Старшыня Рады БНР В. Жук-Грышкевіч.
Некаторыя асобнікі сшытыя разам з Статутам Рады БНР, 1971.

---

[597] Kipel, Vitaut, Kipel, Zora. Belarusian Publishing in the West: A Bibliography / Published by Belarusian Institute of Arts and Sciences; Institute of Slavic Studies, Polish Academy of Sciences. New York — Warsaw, 2006. P. 614.

**3. Рада Беларускае Народнае Рэспублікі. Пратакол 11-е Сэсіі, што адбылася 29 траўня 1971 г . у Нью Ёрку.** Нью Ёрк, чырвень 1971. — 12 с.

Подпісы: Ант. Адамовіч, старшыня Сесіі; Ант. Шукелойць, сакратар Сесіі; Янка Запруднік, сакратар Сесіі.

**4. Рада Беларускае Народнае Рэспублікі. Прэзыдыюм. Прысяга.** Нью Ёрк, 29 травеня 1971. — 1 с.

Тэкст прысягі БНР.

**5. Стагановіч, А. «Спадару Старшыні Рады БНР».** Нью Брансуік, Н. Дж., 16 чэрвеня 1971. — 2 с.

Справы, якія турбуюць Раду БНР.

**6. Статут Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.** Нью Ёрк, 11-я сэсія Рады БНР. — 6 с.

Гэты статут быў прыняты дня 29 травеня 1971 г. у Нью Ёрку на 11-й сэсіі Рады БНР.

Подпісы: старшыня Сэсіі Антон Адамовіч; сакратар Антон Шукелойць.

У іншай версіі (8 с.) апошні параграф мае наступны выгляд: *«Гэты Статут Рады БНР быў прыняты на Адзінаццатай Сэсіі Рады БНР 29 травеня 1971 году ў Нью Ёрку за выняткам пяці апошніх разьдзелаў, якія былі прынятыя на 12-й Нечароднай Сэсіі Рады БНР 21 красавіка 1973 году ў Таронце».*

Подпісы: старшыня 12-й Сэсіі Барыс Рагуля, сакратар Раіса Жук-Грышкевіч.

**7. Resolution of the 11 Session of the Council (Rada) of the BDR held in New York City on May 29, 1971.** New York, 1971. — 2 p.

## 1972

**1. Жук-Грышкевіч, Вінцэнт, Старшыня Рады БНР. Да сяброў радных ньюёркаўскага сэктару.** Бэры, Канада, 10 красавіка 1972. — 2 с.

Развагі пра важнасць БНР, пра патрэбу аднаўлення дзейнасці.

**2. Рада Беларускае Народнае Рэспублікі. Дыплём: згодна з пастановай Адзінаццатай Сэсіі Рады БНР ад 29-га травеня 1971 году пра наданьне або павышэньне рангаў беларускім вайскавіком у сувязі зь 50-і ўгодкамі Абвешчаньня Незалежнасьці БНР... Ад 25 сакавіка 1972 году.** [ЗША], 1972.

Дыпломы, якія Рада БНР давала вайскоўцам.

## 1973

**1. Пратакол 12-й Нечароднай Сэсіі Рады БНР, што адбылася 21 красавіка 1973 г.** Торонто, [Бэры], красавік 1973. — 13 с.

Дадатак да пратакола 12-й Сесіі: Бэры, 1973. — 2 с.

**2. Рада БНР. Матар’ялы для прэсы.** Таронта, сакавік 1973. — 5 с.

**3. Статут Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.** Таронта, 1973. — 8 с.

*«Гэты статут Рады БНР быў прыняты на 11-й [адзінаццатай] Сэсіі Рады БНР 29 травеня 1971 г . у Нью Ёрку за выняткам 5-і апошніх*

*разьдзелаў, якія былі прынятыя на 12-й нечароднай Сэсіі Рады БНР 21 красавіка 1973 г . у Таронце».*

Подпісы: Б. Рагуля, Старшыня 12-й Сэсіі; Р. Жук-Грышкевіч, сакратар.

## 1974

**1. Да сяброў Рады БНР. 13-я звычайная чарговая сэсія Рады БНР адбудзецца 30.11.1974. Парадак дня...** Бэры (Канада), 2 лістапада 1974. — 3 с.

Подпіс: Канцылярыя Старшыні Рады БНР.

**2. Пратакол 13-й чароднай Сэсіі Рады БНР, што адбылася 30 лістапада 1974 г. у будынку Фундацыі Крэчэўскага...** Нью Ёрк. New York, 1974. — 8 с.

Выдрукаваны: студзень 1975 г. Друк гэтае пазіцыі ўлучае спіс радных і мемарыял Рады БНР беларуска-амерыканскім арганізацыям.

**3. Rada of the Byelorussian Democratic Republic (in Exile). Resolution submitted by the 13th session of the Rada (Council)... of the BNR on November 30, 1974.** New York, 1974. — 2 p.

Подпіс: Anthony Adamovich, Chairman of the Session.

## 1975

**1. Рада БНР. 13-я чародная Сэсія Рады БНР, 30 лістапада 1974. Пратакол.** Нью Ёрк, студзень 1975. — 25 с.

Подпісы: Антон Адамовіч, старшыня Сэсіі; Раіса Жук-Грышкевіч, сакратар Сэсіі; Янка Запруднік, сакратар Сэсіі.

**2. Рада БНР. Рэзалюцыя 13-й Сэсіі Рады БНР на Чужыне 30 ліст. 1974 г. у Нью Ёрку, ЗША.** Нью Ёрк, сакавік 1975. — 2 с.

## 1976

**1. Пратакол 14-й нечароднай Сэсіі Рады БНР, што адбылася 26 лістапада 1976 г. у будынку Фундацыі Крэчэўскага, Нью Ёрк.** Машынапіс з англамоўнымі камэнтарамі. 20 с.

Выдрукаваны ў 1977 г .

**2. Рада БНР, 14-я сэсія, 27 лістапада 1976. Рэзалюцыя.** Нью Ёрк, 27 лістапада 1976. — 2 с.

## 1977

**1. Пратакол 14-й Нечароднай Сэсіі Рады БНР, што адбылася 27 лістапада 1976 у будынку Фундацыі Крэчэўскага ў Нью Ёрку.** Нью Ёрк: Сакратарыят БНР, студзень 1977. — 23 с.

Подпісы: Янка Запруднік, старшыня Сэсіі; Раіса Жук-Грышкевіч, сакратар Сэсіі; Антон Шукелайць, сакратар Сэсіі.

## 1978

**1. Жук-Грышкевіч, В. 25-га Сакавіка. Успаміны зь Менску, Будслава, Вільні, Прагі, савецкай турмы.** Торонто (Канада): Выдавецкі фонд Успамінаў зь Беларускага Жыцьця, 1978. — 41 с.

У дадатку каляровая карта БНР.

**2. Жук-Грышкевіч, В., Старшыня Рады БНР. Прамова на 15-й юбілейнай Сэсіі Рады БНР** (у скароце). Нью Ёрк, 1978. —2 с. (+ два суправаджальныя лісты).

*«БЦР ня можа заняць месца БНР. Яна мусіць падпарадкавацца БНР».*

**3. Прамова Старшыні Рады БНР на 15-й юбілейнай Сэсіі Рады БНР** (у скароце). New York, 1978. — 4 с.

Заўвагі ў ангельскай мове.

**4. Рада БНР. Пратакол 15-й Сэсіі Рады БНР, што адбылася 25-га лістапада 1978...** Нью Ёрк, сьнежань 1978. — 13 с.

Подпісы: Антон Адамовіч, старшыня; Раіса Жук-Грышкевіч, сакратар Сэсіі; Васіль Русак, сакратар Сэсіі.

**5. Byelorussian Democratic Republic, 60th Anniversary: 1918–1978.** New York: Byelorussian American Assn., Byelorussian American Youth Organization, 1978. — 3 p.

Cover design by Irene Rahalevich.

Брашура, прысвечаная 60-годдзю БНР.

**6. Byelorussian Republican Clubs. 60th Anniversary of the BNR.** Washington, D.C., March 25, 1978. — 10 p.

Брашура з запросінамі на адзначэнне ўгодкаў БНР на Капіталійскім узгорку. Гл.: Беларус. № 252. Нью Ёрк, 1978.

## 1979

**1. Статут Рады Беларускае Народнае Рэспублікі.** Бэррыйэ (Онт., Канада): Рада Беларускае Народнае Рэспублікі, 1979. — 10 с.

Подпіс: Б. Рагуля, старшыня 12-й Сэсіі РБНР; Раіса Жук-Грышкевіч, сакратар.

Заўвагі: Вінцэнт Жук-Грышкевіч, Старшыня Рады БНР. С. 10: *«Гэта апошняя рэдакцыя Статуту БНР. У ёй зьмешчаны папраўкі, прынятыя на 13-й Чароднай Сэсіі Рады БНР 30 лістапада 1974 году і на 15-й Юбілейнай Сэсіі Рады БНР 25 лістапада 1978 году».*

Іншая версія Статута на с. 9: *«Статут прыняты 29 травеня 1971 году ў Нью Ёрку за выняткам 5-х апошніх разьдзелаў, якія былі прынятыя на 12 Нечароднай Сэсіі Рады БНР 21 красавіка 1973 году ў Торонто, Канада».*

## 1980

**1. Пратакол 16-й Звычайнай чароднай Сэсіі Рады БНР, што адбылася 24 лістапада 1979 г. у будынку Фундацыі Крэчэўскага... Нью Ёрк.** Нью Ёрк: Сэкратарыят Рады, сакавік 1980. — 13 с.

